АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# СКАРЫНА
# І ЯГО ЭПОХА



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1990

ББК 87.3(2)
С 42

Работа является первой попыткой комплексного изучения эпохи Скорины на основании новейших достижений советского славяноведения. На богатом фактическом материале освещаются сложный процесс формирования белорусской народности, важнейшие особенности белорусского языка, литературы, искусства, общественно-политической и философской мысли Белоруссии на рубеже средневековья и Возрождения.

Рассчитана на филологов, историков, обществоведов, всех интересующихся богатым культурным наследием белорусского народа.

Аўтары: В. А. Чамярыцкі, В. І. Мялешка, З. Ю. Капыскі, П. А. Лойка, І. У. Чаквін, А. М. Булыка, С. А. Падокшын, У. М. Конан, Т. В. Габрусь, В. В. Церашчатава, Ю. А. Піскун, А. Ю. Хадыка, А. К. Лявонава, М. М. Яніцкая, В. Ф. Шматаў, А. А. Мельнікаў

Рэдактар
канд. філал. навук В. А. Чамярыцкі

Рэцэнзенты:
канд. гістар. навук Г. Я. Галенчанка,
канд. філал. навук В. І. Дарашкевіч

Скарына і яго эпоха / В. А. Чамярыцкі, В. І. Мялешка,
С 42 З. Ю. Капыскі і інш.; Рэд. В. А. Чамярыцкі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1990.— 482 с., [22] л. іл.
ISBN 5-343-00439-3.

Скорина и его эпоха.

Праца з'яўляецца першай спробай комплекснага вывучэння эпохі Скарыны на аснове найноўшых дасягненняў савецкага славяназнаўства. На багатым фактычным матэрыяле асвятляюцца складаны працэс фарміравання беларускай народнасці, важнейшыя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры, мастацтва, грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі на мяжы сярэдневякоўя і Адраджэння.

Разлічана на філолагаў, гісторыкаў, грамадазнаўцаў, усіх, хто цікавіцца багатай культурнай спадчынай беларускага народа.

С $\frac{0202000000-128}{М316(03)-90}$ 137—90 ББК 87.3(2)+76.11+83.3

ISBN 5-343-00439-3



## ПРАДМОВА

Гэта кніга была задумана каля дзесяці гадоў таму назад. Пад час складання рэспубліканскай праграмы «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры» ўзнікла ідэя напісаць калектыўную манаграфію, прысвечаную комплекснай характарыстыцы Беларусі, беларусаў і беларускай культуры эпохі Скарыны. Меркавалася, што такая праца, заснаваная на найноўшых навуковых даследаваннях, дапаможа больш грунтоўна раскрыць час і культурна-гістарычныя ўмовы, у якіх жыў беларускі першадрукар, лепш зразумець яго самога і яго неўміручы подзвіг.

Тэма «Скарына і яго эпоха» ўвайшла ў Скарынаўскую праграму, якую на пачатку 1981 г. зацвердзіў прэзідыум Акадэміі навук БССР. Да яе выканання была прыцягнута вялікая група беларускіх вучоных-гуманітарыяў, кваліфікаваных спецыялістаў у пэўных галінах беларускай гісторыі і культуры. Такім чынам, першапачатковая задума, набыўшы законную сілу і забяспечаная зацікаўленымі выканаўцамі, хоць і не без цяжкасцей, была ажыццёўлена і выносіцца на высокі суд чытачоў.

Эпоха Скарыны ахоплівае значны прамежак часу, з канца XV і да сярэдзіны XVI ст.— перыяд, калі жыў, фарміраваўся як асоба і працаваў вялікі беларускі асветнік-гуманіст. Зразумела, што вытокі шмат якіх сацыяльных, грамадска-палітычных і культурных з'яў таго часу храналагічна ляжаць глыбей. Лепшае са спадчыны ранейшай пары актыўна ўдзельнічала ў культурна-гістарычным працэсе XVI ст., захоўваючы пераемнасць у развіцці беларускай культуры. Больш таго, унутрыпалітычную сітуацыю ў краіне, асаблівасці нацыяльна-рэлігійнага жыцця ў Беларусі і міжнародныя ўзаемаадносіны ва Усходняй Еўропе часоў Скарыны нельга правільна вытлумачыць без гістарычнага кантэксту не толькі XV, але нават і другой палавіны XIV ст.

З другога боку, беларуская гісторыя, развіццё культуры Беларусі больш позняга часу былі цесна звязаны з эпохай Скарыны, з яе традыцыямі, здабыткамі і спецыфічнымі асаблівасцямі. Усё гэта дае магчымасць лепш зразумець тых даследчыкаў, якія

не заўсёды строга прытрымліваліся храналагічных рамак першай палавіны XVI ст. Выходзіць за дакладныя межы гэтага перыяду іх часам вымагаў і недахоп патрэбнага фактычнага матэрыялу, і таму аднаўляць агульны малюнак Скарынаўскай эпохі нярэдка даводзілася, выкарыстоўваючы даныя сумежных перыядаў — другой палавіны XV і другой палавіны XVI ст.

Трэба адзначыць, што першыя сур'ёзныя спробы комплексна даследаваць эпоху Скарыны належаць вучоным 20-х гадоў. З нагоды 400-годдзя з часу выхаду ў свет у Вільні першай друкаванай кнігі быў падрыхтаваны і ў 1926 г. выдадзены ў Мінску юбілейны Скарынаўскі зборнік «Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925» [1]. Сам змест гэтай кнігі сведчыць аб шырыні задумы і грунтоўнасці падыходу да тэмы аўтарскага калектыву. «Гуманізм у Італіі» (У. Перцаў), «Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецця» (М. Любаўскі), «Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецця» (У. Пічэта), «Беларускае адраджэнне ў XVI сталецці» (У. Пічэта), «Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталеццях» (У. Пічэта) — вось назвы некаторых раздзелаў зборніка. Рад яго артыкулаў прысвечан даследаванню спадчыны Скарыны, а таксама характарыстыцы тых краін і гарадоў часоў Адраджэння, дзе давялося жыць і працаваць беларускаму асветніку.

Гэта была першая грунтоўная праца пра Скарыну і яго эпоху, напісаная па-беларуску і апублікаваная на яго Радзіме. Высокі навуковы ўзровень, багацце выкарыстанага фактычнага матэрыялу, навізна падыходаў і каштоўнасць вывадаў, удалае спалучэнне канкрэтнага факта і тэарэтычнага абагульнення зрабілі яе этапнай у скарыназнаўстве. Прынцыпова новым і выключна важным у першым Скарынаўскім зборніку было і тое, што ў ім беларуская культура XVI ст. і творчасць Скарыны даследаваны, навукова ацэнены і прадстаўлены з беларускіх нацыянальных пазіцый і ў агульнаеўрапейскім кантэксце як з'явы самабытныя і непаўторныя, як прадукты высокаразвітага нацыянальнага Адраджэння еўрапейскага ўзроўню. Фактычна ў гэтай працы ўпершыню глыбока, па-навуковаму пастаўлены пытанні пра беларускі гуманізм і беларускае Адраджэнне XVI ст.

Зборнік «Чатырохсотлецце беларускага друку» паводле зместу і навуковага ўзроўню і праз шэсцьдзесят гадоў у цэлым працягвае захоўваць сваю каштоўнасць і цікавасць. Тым больш не ўстарэлі, засталіся актуальнымі патрыятычная пазіцыя і агульная гістарычная канцэпцыя яго аўтараў.

Юбілейны Скарынаўскі зборнік 1926 г. пры спрыяльных умовах мог бы пакласці пачатак цэламу этапу ў гісторыі скарыназнаўства і беларусазнаўства, стымуляваць далейшае вывучэнне творчай спадчыны Скарыны і беларускай культуры яго эпохі,

[1] Паводле найноўшых удакладненых звестак, першай кнігай Скарыны, што выйшла ў Вільні, быў не Апостал (1525), а «Малая падарожная кніжка» (1522).

выклікаць з'яўленне новых, яшчэ больш грунтоўных навуковых прац. На жаль, чвэрцьвяковая сталінская тыранія, якая парушыла нармальны ход грамадска-палітычнага і культурнага развіцця ў нашай краіне, масавыя рэпрэсіі, шматгадовы духоўны прыгнёт, немагчымасць аб'ектыўнага навуковага даследавання нацыянальнай гісторыі і культуры надоўга пахавалі самыя высокія задумы і планы навукоўцаў 20-х гадоў. Толькі самаахвярная праца такіх вучоных, як У. Пічэта[2] ды за межамі СССР А. Флароўскі, не дазволіла ў 30—40-я гады поўнасцю перарвацца скарыназнаўству як навуцы. Папулярныя артыкулы першых пасляваенных гадоў далі мала новага ў навуковым плане, аднак яны мелі тое станоўчае значэнне, што падтрымлівалі цікавасць і захоўвалі памяць народа пра свайго вялікага сына далёкага мінулага як выдатнага дзеяча славянскай культуры, першадрукара, пісьменніка, перакладчыка і гуманіста-асветніка эпохі Адраджэння.

Сапраўднае ўзнаўленне скарыназнаўства пачалося з другой палавіны 50-х гадоў XX ст. Яго першым плёнам была манаграфія М. Алексютовіча[3]. Значна актывізаваліся скарыназнаўчыя даследаванні ў сувязі з падрыхтоўкай да 450-гадовага юбілею беларускага кнігадруку (1967), у выніку чаго з'явіўся рад каштоўных публікацый. Найбольшае значэнне сярод іх мелі новы Скарынаўскі зборнік[4] і выданне прадмоў і пасляслоўяў Скарыны, падрыхтаванае А. Коршунавым[5]. Важкім укладам у скарыназнаўства сталі тры грунтоўныя публікацыі, што выйшлі ў Маскве: складзеная Я. Неміроўскім бібліяграфія па Скарыніяне[6], зборнік матэрыялаў чарговых Фёдараўскіх чытанняў, спецыяльна прысвечаныя нашаму першадрукару[7], і манаграфія С. Падокшына[8].

Новым крокам наперад ва ўзбагачэнні нашых уяўленняў пра беларускую культуру XV—XVI стст. стала вяртанне беларускай літаратуры такіх важных, але амаль зусім забытых у нас жанраў і відаў старажытнага пісьменства, як летапісы і лацінамоўная паэзія. З'явіліся першыя, напісаныя беларускімі вучонымі спецыяльныя манаграфіі пра беларускае летапісанне[9], было ажыццёўлена новае двухтомнае навуковае выданне асноўных

---

[2] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.
[3] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958.
[4] 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968.
[5] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969.
[6] Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы. М., 1978.
[7] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.
[8] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981.
[9] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

летапісаў і хронік [10], упершыню перакладзена з лацінскай на рускую і беларускую мовы выдатная паэма «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага [11], а таксама даследавана яго жыццё і творчасць [12]. Гэта дало магчымасць распрацаваць новую канцэпцыю станаўлення ўласнабеларускай літаратуры ў XIV — першай палавіне XVI ст.[13]

Нельга пераацаніць значэнне даследаванняў выдатнага савецкага вучонага У. Пічэты ў стварэнні аб'ектыўнай карціны беларускай культуры эпохі Скарыны і яе навуковай канцэпцыі. Лепшыя яго працы па гісторыі Беларусі і беларускай культуры, напісаныя ў 20—40-я гады, што сабраны і выдадзены асобнай кнігай пасля смерці вучонага (памёр у 1947 г.), не ўстарэлі і сёння [14]. Некаторыя ж яго выказванні яшчэ нядаўна шмат каму здаваліся ерэтычнымі: «З пачатку XVI ст. феадальная культура Беларусі ўступае ў бліскучы перыяд свайго ўздыму. Беларускае Адраджэнне XVI ст.— «залаты век» у развіцці беларускага пісьменства» [15]. А гэта ж упершыню надрукавана яшчэ ў 1946 г. [16]

Вельмі каштоўнай і своечасовай была і праца вядомага рускага славіста І. Галянішчава-Кутузава [17], у якой маладыя беларускія вучоныя знайшлі сур'ёзную падтрымку сваім нясмелым яшчэ меркаванням пра існаванне ў XVI ст. беларускага гуманізму рэнесансавага характару. Яго ж аўтарытэтнае і абгрунтаванае выказванне пра тое, што «трэба вярнуцца да правільнай ацэнкі значэння Украіны і Беларусі як перадатчыц заходняй літаратуры і адукаванасці Маскоўскай Русі» [18], актуальна і сёння. Гэты вывад дае магчымасць больш глыбока і смела ставіць пытанне аб важнай культурна-гістарычнай ролі Беларусі ў Еўропе ў XVI—XVII стст.

Узбагачэнне фактлагічнай асновы даследавання, паглыбленне навуковага аналізу, больш грунтоўная распрацоўка асобных тэм, праблем і галін беларускай культуры XVI ст., нарэшце, спробы выпрацаваць яе агульную навуковую канцэпцыю падрыхтавалі глебу для наступнага этапу — для тэарэтычна-філасофскага асэнсавання эпохі Скарыны і асаблівасцей беларускай культуры часоў Адраджэння, для стварэння цэласнай комплекснай канцэпцыі яе развіцця ў агульнаеўрапейскім кантэксце.

---

[10] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975; Т. 35. 1980.

[11] Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мн., 1980.

[12] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979.

[13] Чемерицкий В. А. Становление белорусской литературы // История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 40—53; Яго ж. Летописи // Там жа. С. 53—72; Яго ж. Предпосылки гуманизма в Белоруссии // Там жа. С. 74—93.

[14] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.

[15] Там жа. С. 626—627.

[16] Вопр. ист. 1946. № 5—6.

[17] Голенищев-Кутузов И. Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). М., 1963.

[18] Голенищев-Кутузов И. Славянские литературы. М., 1973. С. 215.

Адной з першых сур'ёзных спроб такога характару была праца У. Конана[19], каштоўная новымі назіраннямі і вывадамі, імкненнем глыбей раскрыць спецыфічныя асаблівасці беларускага Адраджэння, яго вытокі і традыцыі. Дадаткова абгрунтоўваючы канцэпцыю аб еўрапейскім тыпе беларускай культуры XVI ст., даследчык прыходзіць да вываду аб існаванні двух самастойных перыядаў у яго гісторыі на Беларусі: раннім і познім Адраджэнні. Праўда, назіранні і вывады даследчыка былі б яшчэ больш пераканаўчымі і мелі б значна шырэйшы, агульнакультурны характар, каб абапіраліся не толькі на пэўнае кола помнікаў пісьменства, але і на даныя розных відаў і жанраў беларускага мастацтва эпохі Скарыны.

Паглыбленая распрацоўка канкрэтных пытанняў і тэм па розных напрамках і перыядах гісторыі беларускай культуры, ажыццёўленая даследчыкамі ў апошнія гады, падрыхтоўка абагульняючых прац па гісторыі беларускай мовы, літаратуры, філасофскай думкі і мастацтва[20], выданне энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» (1988), думаецца, паслужаць добрым грунтам для стварэння больш панарамнай, больш багатай і аб'ектыўнай карціны беларускай культуры эпохі Адраджэння. Гэтыя даследаванні разам са шматлікімі скарыназнаўчымі працамі, якія выйшлі і выйдуць да 500-годдзя з дня нараджэння Скарыны, дапамогуць лепш зразумець час, жыццё і дзейнасць выдатнага ўсходнеславянскага першадрукара. Задачу больш грунтоўна і featурознабакова раскрыць эпоху Скарыны, асаблівасці сацыяльнага, палітычнага і духоўнага жыцця беларусаў таго часу, іх багатую культурную спадчыну, а праз іх больш глыбока спазнаць змест, характар і веліч культурнагістарычнага подзвігу вялікага сына зямлі Беларускай і ставілі перад сабой аўтары гэтай працы.

---

[19] Конон В. М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978.

[20] Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1963; 2-е выд. 1984; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т. 1. Мн., 1987; Т. 2. Мн., 1988.





## БЕЛАРУСЬ У КАНЦЫ XV — СЯРЭДЗІНЕ XVI ст.

Шэсць стагоддзяў да нараджэння слаўнага сына зямлі беларускай Францыска Скарыны стаяў на высокім беразе Заходняй Дзвіны адзін са старэйшых славянскіх гарадоў — Полацк. Будаваўся, гандляваў, ваяваў, даваў свету дойлідаў, майстроўумельцаў, купцоў, воінаў, уладароў. Кім бы стаў Францыск, калі б нарадзіўся ён на 100, 200 год раней «свайго» тэрміну? Перапісчыкам кніг, манахам-кнігачэем, спрытным купцом-ліхвяром? Цяжка меркаваць. Але ж нарадзіўся Скарына ў той час, калі да Полацка данесла свае павевы эпоха Адраджэння, эпоха гуманізму, эпоха, «якая мела патрэбу ў тытанах і якая спарадзіла тытанаў па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці» [1]. Другая палавіна XV—першая палавіна XVI ст. слаўная ў Еўропе імёнамі Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Томаса Мора, Эразма Ратэрдамскага, Франсуа Рабле, Мікалая Каперніка, Томаса Мюнцара. Ёсць дастаткова падстаў паставіць у гэты рад і сына беларускага народа — Францыска Скарыну. Бо вядома, што фарміраванне Скарыны як выдатнага дзеяча ўсходнеславянскай культуры эпохі Адраджэння праходзіла ў рэнесансавай Еўропе.

Чаму ж на гэты адрэзак чалавечай гісторыі прыйшлося стольскі слаўных яе прадстаўнікоў? Бо час гэты быў незвычайны — бурлівы час рэвалюцыйнага пераходу ад адной сацыяльна-эканамічнай фармацыі да другой. Хай гэта рэвалюцыя была не імклівай, расцягнутай на стагоддзі, але ж была яна рэвалюцыяй. І ў першую чаргу рэвалюцыяй у вытворчасці. Параўнальна высокага ўзроўню дасягнула ў гэты час вытворчая тэхніка, асабліва ў тэкстыльнай, горнай справе, металургіі. 1440 год лічыцца годам адкрыцця кнігадрукавання.

Новыя формы вытворчасці сталі ўзнікаць у гарадах — месцах канцэнтрацыі рамеснай прамысловасці і гандлю. Гараджане ў значнай ступені вызваліліся ад феадальных сувязей, дамогшыся права на самакіраванне, рада гандлёвых прывілеяў, што

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 20. С. 346.

садзейнічала з'яўленню ў іх асяроддзі новых адносін да жыцця, існуючага ладу, рэлігіі. Гэтаму ж спрыяла паглыбленне грамадскага падзелу працы. Як ні ў якую іншую папярэднюю эпоху ў канцы XV—першай палавіне XVI ст. актывізавалася купецкая дзейнасць. Для купцоў былі адкрыты ўсе дзяржаўныя граніцы, нярэдка нават праблемы канфесійныя адыходзілі ў іх на другі план у параўнанні з гандлёвымі прыбыткамі. Сваёй дзейнасцю яны звязвалі народы, перадавалі з рук у рукі апошнія дасягненні чалавечай практыкі і думкі. Мабільнасць купецтва садзейнічала не толькі развіццю таварна-грашовых адносін, пашырэнню ўнутранага і знешняга рынкаў, але і развіццю новага светапогляду, новай ідэалогіі. У гандлёвых і звязаных з імі палітычных справах купцы дзейнічалі на свой страх і рызыку, вынікам чаго станавілася распаўсюджанне сярод іх індывідуалістычнага светаўспрымання. Нездарма ж асяроддзе полацкіх купцоў, якое мела рынкі збыту ў Расіі, на Украіне, Польшчы, у Германіі, Рызе, якое актыўна ўдзельнічала ў палітычным жыцці Полацка, дало велічную фігуру першага беларускага кнігавыдаўца, гуманіста, вучонага — Францыска Скарыну.

Паводле класічнага вызначэння Ф. Энгельса: «Яшчэ задоўга да таго, як сцены рыцарскіх замкаў былі прабіты ядрамі новай зброі, іх фундамент быў падарваны грашыма»[2]. Грашовы ідал у гэты час падымаецца на ўвесь рост. Галоўным прынцыпам эканамічнай палітыкі еўрапейскіх дзяржаў у XV—XVI стст. становіцца меркантылізм, сутнасць якога зводзілася да як мага большага назапашвання каштоўных металаў у краіне і ў дзяржаўнай казне. «Залатая ліхаманка» ахапіла ўсе вышэйшыя колы тагачаснага еўрапейскага грамадства: феадалаў, духавенства, багатых гараджан. Усе імкнуліся да багацця і раскошы. Прадстаўнікам маладой буржуазіі, якія дамагліся багацця ўласнымі сіламі, а не па «праву нараджэння», быў глыбока чужы царкоўны аскетызм, адлучанасць ад радасцей зямных у імя «тагасветнага вечнага шчасця». Прамысловую, гандлёвую буржуазію цікавілі не толькі рэлігійныя пошукі, а і развіццё дакладных навук, прыродазнаўства. Для практычнай дзейнасці ім былі неабходны натарыусы, урачы, настаўнікі, карацей — людзі разумовай працы. Гэтыя патрэбы абумовілі з'яўленне вялікай арміі службовай інтэлігенцыі.

Адрыў ад сярэдневяковая вытворчай сферы, змена сацыяльнай структуры грамадства спарадзілі новае светаадчуванне, а значыць, і садзейнічалі складванню новай культуры — культуры Адраджэння, якая дала свету інтэлігенцыю творчую. Небывалага росквіту дасягнулі літаратура, архітэктура, жывапіс. Мастацкія шэдэўры, створаныя прадстаўнікамі культуры Адраджэння, ляглі ў залаты фонд агульначалавечай цывілізацыі. І не толькі шэдэўры мастацкія, але і шэдэўры сацыяльнай думкі,

[2] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 21. С. 408.

якія далі нам прадстаўнікі рэнесансавага гуманізму — філасофіі Адраджэння. Для гуманістаў цэнтрам светабудовы быў не чалавек — «раб божы», а чалавек-творца, які валодаў усебаковымі ведамі ў розных галінах навукі і мастацтва, чалавек, прыгожы маральна і фізічна. Тым самым царкоўнаму аскетызму супрацьпастаўлялася чалавечая асоба, якая дамагалася поспехаў у жыцці сілай свайго розуму, цвёрдасцю духу, актыўнасцю, рэальнай дзейнасцю. «Чалавек нараджаецца не дзеля таго, каб марнець у бяздзеянні, а каб працаваць над вялікай і грандыёзнай справай»,— так сфармуляваў адну з самых галоўных высноў гуманістычнай этыкі Ляон Бацiста Альберці (1404—1472 гг.) [3].

Такім чынам, афіцыйная царкоўная ідэалогія прыйшла ў супярэчнасць з ідэалогіяй новага грамадства, якое толькі нараджалася. Гэта не магло не адбіцца на стане такой важнейшай, неад'емнай часткі феадальнай сістэмы, як царква. Ідэалагічнае наступленне новага класа — буржуазіі на феадальныя парадкі, асвечаныя каталіцкай царквой, прыняло форму рэфармацыйнага руху, які ў розных краінах набыў розную форму. Ідэолагі Рэфармацыі адмаўлялі царкву як буйнога землеўладальніка, выступаючы за секулярызацыю царкоўных і манастырскіх зямель, не прызнавалі пышных каталіцкіх культаў, не прымалі індульгенцый. Рэфарматары касцёла хацелі ўзнавіць у першаснай чысціні хрысціянскую рэлігійнасць. Рэфармацыйны рух знайшоў водгук амаль ва ўсіх тагачасных еўрапейскіх краінах.

Глыбокія зрухі ў эканамічным, сацыяльным, культурным, ідэалагічным развіцці еўрапейскіх народаў у XV—XVI стст. прывялі да змены форм феадальнай дзяржаўнасці. З канца XV ст. пачаўся працэс складання абсалютызму — найбольш закончанай формы палітычнай цэнтралізацыі феадальных дзяржаў. Сацыяльнай базай абсалютнай манархіі было дваранства, інтарэсы якога яна абараняла. Разам з тым феадальная знаць і прадстаўнікі дваранскага саслоўя не хацелі неабмежаванага ўмацавання каралеўскай улады, баючыся страціць свае эканамічныя і палітычныя прывілеі. Каб паралізаваць гэта супраціўленне, манархія шукала апоры ў апазіцыйнай феадалам палітычнай сіле — буржуазіі, што толькі з'яўлялася на свет. «Абсалютная манархія,— пісаў К. Маркс,— узнікае ў пераходныя перыяды, калі старыя феадальныя саслоўі прыходзяць у заняпад, а з сярэдневяковага саслоўя гараджан складваецца сучасны клас буржуазіі і калі ніводзін з бакоў, якія змагаюцца, не ўзяў яшчэ верх над другім» [4]. Буржуазія пастаўляла абсалютнай манархіі кадры чыноўніцкай бюракратыі, фінансавыя сродкі, атрымлівала ж узамен выгады ад пратэкцыяніcцкай і меркантыліcцкай палітыкі абсалютызму. Падобны саюз да пэўнага часу задавальняў абодва бакі. Як адзначаў Ф. Энгельс: «Усе рэвалю-

---

[3] Горфункель А. Х. Философия эпохи Возрождения. М., 1980. С. 50.
[4] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 4. С. 306.

цыйныя элементы, якія ўтварыліся пад паверхняй феадалізму, цягнуліся да каралеўскай улады, роўна як каралеўская ўлада цягнулася да іх»[5].

Гулкая эпоха пераўтварэнняў XV—першай палавіны XVI ст. адзначана і небывалым уздымам антыфеадальнага сялянскага і плебейскага руху. Гусіцкія войны ў Чэхіі, паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Д. Дожы (1514 г.), нарэшце, Вялікая сялянская вайна ў Германіі ўскалыхнулі тагачаснае грамадства і аказалі сур'ёзны ўплыў на погляды перадавых дзеячаў эпохі Адраджэння. Невыпадкова мэты і патрабаванні паўстаўшых венгерскіх сялян: устанаўленне роўнасці паміж людзьмі працы, неабходнасць адкрыцця доступу плебеям да ўсіх пасад у дзяржаве пераклікаюцца з поглядамі, думкамі Скарыны аб тым, што «ровная свобода всем, общее имение всех», аб справядлівых судах, у якіх бы суддзі вырашалі лёсы чалавечыя не «яко цари или властели вышнии, силу имеюще над ними, но яко ровнии и товарищи, раду им даючи и справедливость межи ними чинячи»[6].

Аднак было б яўным перабольшваннем бачыць у творчасці Ф. Скарыны толькі ўплывы эпохі Адраджэння. Рашаючае значэнне ў фарміраванні яго поглядаў мелі тыя рысы сацыяльнага, эканамічнага, палітычнага і духоўнага жыцця, якія склаліся на яго радзіме — у Вялікім княстве Літоўскім, часткай якога быў тады Скарынаў родны Полацк і ўвесь Беларускі край. А ў кожнай з названых сфер жыцця гэтай дзяржавы ў канцы XV—сярэдзіне XVI ст. хоць і давалі аб сабе знаць водгаласы эпохі Адраджэння, але вядучую ролю яшчэ захоўвалі феадальныя нормы і прынцыпы.

У гэты час у Вялікім княстве Літоўскім выразна выступаюць такія важныя з'явы феадальнага грамадства, як умацаванне эканамічных і сацыяльных пазіцый вярхоў пануючага класа; рост таварна-грашовых адносін, які ахапіў не толькі гарады, але і феадальнае памесце; кансалідацыя класа феадалаў і гарадскога саслоўя; фарміраванне беларускай народнасці, развіццё яе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Для ўсяго гэтага перыяду характэрна ўзмацненне паншчынна-прыгонніцкіх адносін, класавых і міжсаслоўных супярэчнасцей феадальнага грамадства і дзяржавы, нарастанне класавай барацьбы сялянскіх мас і гарадскіх нізоў. Узмацненне сацыяльных пазіцый феадалаў у грамадстве і дзяржаве забяспечвалася перш за ўсё пашырэннем іх манапольнай уласнасці на асноўны сродак вытворчасці — зямлю і пазаэканамічнай залежнасцю селяніна.

У разглядаемы перыяд назіраецца значны рост феадальнага землеўладання. Ён ажыццяўляўся рознымі шляхамі: веліка-

[5] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 21. С. 411.

[6] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 96, 115; Голенищев-Кутузов И. Н. Итальянское возрождение и славянские литературы XV—XVI веков. М., 1963. С. 18.

княжацкімі падараваннямі, дарэннямі свецкіх феадалаў, купляй-продажам, залогам (заставай) і інш. Найбольш важнае значэнне ў пашырэнні зямельнай уласнасці феадалаў усіх груп — ад князя да баярына — мелі вялікакняжацкія падараванні. Ужо на рубяжы XIV—XV стст. упамінаецца падараванне вялікім князем Вітаўтам двум полацкім баярам уладання, якое раней належала іх прадзеду. Аб гэтым жа сведчыць рад грамат XV ст., напрыклад, ад 26 кастрычніка 1494 г. полацкаму баярыну Глебу Корсаку [7]. Паводле дадзеных грамат можна выявіць два асноўныя віды падараванняў: часовае — «да волі», «да поўнай волі», «да сваёй волі», «да волі гаспадарскай», «да жывота», «да двух жыватоў» і г. д. (г. зн. на тэрмін жыцця аднаго ці некалькіх пакаленняў), а таксама на «вечнасць» з правам ці без права продажу [8]. Так, у часовае падараванне вялікі князь літоўскі Казімір даў слонімскаму намесніку Солтану «пруд на реце Лене под Берестем» [9]. Часова вялікі князь Аляксандр падараваў полацкаму двараніну Корсаку «люди в Полоцком повете со всеми их землями, а к тому тры пустовщины» [10]. На «вечнасць» з правам «отдати и продати» атрымаў ад Аляксандра ў 1492 г. дваранін Яцка Капачовіч маёнтак Дзярэчын [11]. Рад вялікакняжацкіх падараванняў на «вечнасць» не мае агаворак аб праве ці забароне адчужаць атрыманае землеўладанне. Так, у грамаце Аляксандра 1506 г. дваранінy Пятру Эпімахавічу на дзве вёскі Цяліцінічы і Таболчынічы ў Полацкім павеце ўказваецца толькі, што «дали вечно» [12].

Выразным прыкладам вялікакняжацкіх падараванняў на пажыццёвае («да жывота») валоданне зямельнай уласнасцю з'яўляецца грамата Жыгімонта I 1522 г. князю Канстанціну Астрожскаму і яго сыну Ілью на маёнтак Смальняны ў Аршанскім павеце. У ёй гаворыцца, што гэта ўладанне «дали есмо до дву животов, его милости [князю] до живота и сыну его до живота» [13].

З тэкстаў вялікакняжацкіх даравальных грамат відаць, што ва ўладанне феадалам з правам ці без права продажу даваліся як цэлыя воласці, маёнткі, вёскі з іх насельніцтвам і павіннасцямі, так і ворныя землі, сенажаці, лугі, лясы, рэкі, азёры, ста-

---

[7] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. (далей ПГ). Вып. 1. М., 1977. С 64—132, 143, 195—196; Вып. 2. М., 1978. С. 49—50, 127—128 і інш.

[8] Пичета В. И. Феодальное поместье в XV—XVI вв. в Великом княжестве Литовском // Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 194—196.

[9] Акты Литовской метрики (далей АЛМ). Варшава, 1896. Т. 1, вып. 1. С. 19.

[10] ПГ. М., 1980. Вып. 3. № 284. С. 23—24.

[11] АЛМ. Т. 1, вып. 1. С. 32.

[12] ПГ. Вып. 2. № 268. С. 216—217.

[13] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей АЗР). Т. 1. Спб., 1846. № 118. С. 146—147

вы, млыны, паляўнічыя ўгоддзі, бабровыя гоны, перавозы праз рэкі, сялянскія сем'і і нават паасобныя сяляне.

Як прыклад «комплекснага» велікакняжацкага падаравання можна прывесці грамату вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра князю Васілю Глінскаму на маёнтак Ласосіна Слонімскага павета ад 13 снежня 1505 г., у якой адзначаецца: «мы ... за его верную службу пожаловали есмо его, дали ему двор наш в Слонимском повете на имя Лососиную со всими того двора слугами путными и людми тяглыми, и со слободичи, што на воли седят, и с куничники, и с лейти, и с конокормцы, и со всими того двора тых людей землями пашными и бортными, и сеножатны, и с бобровыми гоны, и с бобры, и лесы и с дубровами, и гаи, и хворостники, и с ляды и с лядищы, и с ставы и ставишки и рыбники, и с потоки и колодезы, и з даньми грошовыми и медовыми, и бобровыми и куничными, и со всякими иными поплатки и службами; и доходы, которым кольвек именем могут názваны або менены быти, и з ловы звериными и пташными, и со всем правом и панством» [14].

Прынцып часовага ўладання ні ў якім разе не мог задаволіць феадалаў. Яны імкнуліся пераўтварыць яго ў вечнае [15]. У сістэме велікакняжацкіх падараванняў можна ўбачыць пэўную эвалюцыю. Пад канец XV ст. скарачаецца ўдзельная вага часовых падараванняў і павялічваецца колькасць падараванняў на «вечнасць». А ў першай палавіне XVI ст. другі з названых відаў падараванняў становіцца найбольш распаўсюджаным [16]. Так, з даных Полацкай рэвізіі 1552 г. вынікае, што ў межах Полацкай зямлі ў згаданы час пераважалі «извечныя» ўладанні: са 116 уладанняў полацкай шляхты, якія былі ўлічаны ў рэвізіі, такіх было 81, у той час як падараваных налічвалася 14, купленых — 19, застаўных — толькі 2 [17].

Пры ўсёй разнастайнасці аб'ектаў велікакняжацкіх падараванняў выразна выступае наступнае адрозненне: калі буйныя феадалы з часоў Вітаўта атрымлівалі вялізныя маёнткі «со всем тым, что к ним прислухаеть», то на долю дробных і сярэдніх феадалаў прыходзіліся невялікія падараванні [18]. Так, у 1501 г. вялікі князь Аляксандр па просьбе полацкага баярына Грынька Лавейкавіча падараваў яму адну сялянскую сям'ю і тры пусткі [19]. Князю ж Міхаілу Заслаўскаму той жа Аляксандр у 1499 г. даў на «вечнасць» з правам адчужэння г. Мсціслаў і яго акругу з дварамі ў Красным, Расне і іншых сёлах [20], а князю Чарта-

---

[14] АЗР. Т. 2. Спб., 1848. С. 146—147.

[15] Пичета В. И. Белоруссия и Литва... С. 196.

[16] Wawrzyńczyk A. Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI wieku. Wrocław, 1951. S. 173.

[17] Полоцкая ревизия 1552 г. С. 73—163.

[18] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 431.

[19] ПГ. Т. 2. № 246. С. 184—185.

[20] АЗР. Т. 1. № 172. С. 196—197.

рыскаму ў 1518 г. Жыгімонтам Старым былі аддадзены дзве вялікія воласці — Прапойская і Чачэрская [21].

Велікакняжацкія падараванні сталі асноўнай крыніцай фарміравання землеўладання каталіцкай царквы ў Беларусі. Найбольш яскрава прасачыць гэту з'яву дазваляюць матэрыялы Віленскага епіскапства. Пачатак існавання епіскапства звязаны з прывілеем Ягайлы 17 лютага 1387 г., па якому каталіцкі касцёл у Вільні атрымаў ва ўласнасць некалькі ўладанняў [22]. Праз 4 гады той жа Ягайла аддаў епіскапству Стрэшынскую воласць і іншыя землі ў межах Беларусі [23]. Пераемнік Ягайлы Вітаўт актыўна працягваў палітыку пашырэння зямельнай уласнасці Віленскага епіскапства на тэрыторыі Беларусі. За гады свайго княжання ён падараваў капітуле 50 вёсак, у якіх налічвалася каля 600 дамоў. Найбольш буйныя фундушы — Ігуменская, Камянецкая, Убарцкая воласці [24]. На 1539 г. епіскапства валодала 29 валасцямі, прычым у межах Беларусі знаходзілася 20 з іх, і гэтыя 20 валасцей складаліся з 2641 дыма (69% ад агульнай лічбы дымоў, што належалі капітуле). Астатнія 9 валасцей з 1205 дымамі (31%) прыходзіліся на тэрыторыю Літвы [25]. Такая накіраванасць зямельных велікакняжацкіх падараванняў епіскапству была разлічана на забеспячэнне капітуле ажыццяўлення палітыкі насаджэння каталіцызму ў Беларусі. Значнай дапамогай для дзяржавы ў правядзенні гэтай палітыкі была актыўная яе падтрымка з боку свецкіх феадалаў. Яна перш за ўсё выражалася ў зямельных падараваннях, большая частка якіх прыпадае на канец XV — 30-я гады XVI ст.— на час найбольш прыкметнага росту буйнога прыватнага землеўладання [26].

Захаваўся рад дакументаў, у якіх зафіксаваны зямельныя падараванні праваслаўнымі феадаламі цэрквам і манастырам [27]. Аднак іх памеры і колькасць былі такімі нязначнымі, што не ідуць ні ў якае параўнанне з тымі дарэннямі, якія атрымлівала ад вярхоўнай улады і феадалаў каталіцкая царква.

Дзейснымі прынцыпамі ў пераразмеркаванні феадальнага землеўладання з канца XV ст. стала практыка падараванняў, куплі-продажу, закладу (заставы) і іншыя здзелкі. Яны таксама з'яўляліся сродкам пашырэння ўласнасці буйных феадалаў, прычым у немалой ступені за кошт разарэння дробных землеўласнікаў [28]. Статут 1529 г. заканадаўча санкцыяніраваў права

---

[21] Белоруссия в эпоху феодализма (далей БЭФ). Мн., 1959. Т. 1. № 57. С. 135.

[22] Ochmański J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego (1387—1550). Poznań, 1963. S. 14—17.

[23] Там жа. С. 42, 44—45.

[24] Там жа. С. 53.

[25] Там жа. С. 95, 148—149.

[26] Ochmański J. Powstanie ... S. 97.

[27] АЗР. Т. 1. № 43. С. 57—58; № 82. С. 102—104; № 86. С. 105—106. Т. 2. № 21. С. 24.

[28] АЛМ. Т. 1, вып. 1. № 93. С. 41; Пичета В. И. Белоруссия и Литва...

куплі-продажу, заставы, але абмежаваў продаж 1/3 часткай уладання і заставу — 2/3 [29].

У канцы XV—першай палавіне XVI ст., па меры пашырэння велікакняжацкіх падараванняў, скарачаўся фонд дзяржаўных зямель і павялічвалася прыватнае землеўладанне і ў першую чаргу буйное.

Паводле даных «попісу войска Вялікага княства Літоўскага» 1528 г., дробныя феадалы, якія валодалі не больш чым 18 валокамі, складалі ў Беларусі 81% усіх землеўладальнікаў. У іх руках знаходзілася 53,6% усяго зямельнага фонду Беларусі. Аднак 41,7% гэтай катэгорыі зямельных уласнікаў не мелі сялян. У той жа час буйныя феадалы, якія складалі 19% агульнай колькасці землеўласнікаў Беларусі, валодалі 46,4% зямельных угоддзяў. Сярод іх вылучалася невялікая група латыфундыстаў, найперш Кезгайлы, Радзівілы, Гаштольды. Вялікія зямельныя плошчы належалі ім у Беларусі, заходняя і цэнтральная частка якой сталі асноўнымі раёнамі велікакняжацкіх падараванняў [30].

Нарастаючае развіццё таварна-грашовых адносін вызначала не толькі інтарэс да пашырэння землеўладання, але і да арганізацыі панскай гаспадаркі, якая была накіравана ўжо не толькі на задавальненне асабістых патрэб, але і на павелічэнне даходнасці. На працягу XV ст. спярша спарадычна, а з другой палавіны гэтага стагоддзя ўстойліва набываюць вядучае значэнне двары з панскай ворнай зямлёй. Аднак працэс праходзіў складана і па-рознаму на ўсходзе і захадзе Беларусі. Панямонне і Падзвінне як рэгіён сплаўных рэк з развітымі знешнімі рыначнымі сувязямі стаў раёнам, дзе ўпершыню з'явілася на Беларусі панская гаспадарка — фальварак [31]. Ужо ў 1450 г. называецца так гаспадарка ў маёнтку Менедыкаўскім у Навагрудскай зямлі [32]. Фальварак упамінаецца ў запісах Браслаўскага земскага суда за 1481 г. у маёнтку Відзы, а ў 1498 г.— «подле реки Дисны», у 1499 г.— у маёнтках Нясвіж, Хохла Мінскага павета [33]. Рад згадак аб фальварках утрымліваюць дакументы першай палавіны XVI ст.— за 1507, 1524, 1528, 1529, 1548 гг. [34]

---

С. 198, 200, 202—204; Kasperszak St. Rozwój gospodarki folwarcznej na Litwe i Białorusi do połowy XVI wieku. Poznań, 1965. S. 61—64; Wawrzyńczyk A Rozwój ... S. 129, 169—173.

[29] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. (далей СВКЛ 1529 г.). Мн., 1961. Разд. 1, арт. 15, 16.

[30] Łowmiański H. Studia... S. 431; Менжинский В. С. Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском (По материалам переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3. С. 169—170.

[31] Łowmiański H. Studia... S. 441—442.

[32] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1273.

[33] Там жа. Ф. 1747. Воп. 1. Спр. 36. Л. 44—46.

[34] Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вып. III. Вильно, 1898. № 5; ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5763. Л. 47 адв.; Копысский З. Ю. Новые документы об аграрном строе Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. // Сов. славяноведение. М., 1980. № 1. С. 60, 61.

Фальварак прыйшоў на змену ранейшаму панскаму двару, гаспадарка якога забяспечвала толькі ўнутраныя патрэбнасці ўладальніка. Фальварак жа арыентаваўся на рынак. Вытворчасць у гэтай гаспадарцы была заснавана не на працы чэлядзі нявольнай, а на працы селяніна-паншчынніка.

Фальварак у эпоху Скарыны спазнаў пэўную эвалюцыю. Першыя такога тыпу гаспадаркі мелі нязначную па памерах плошчу панскай ворнай зямлі, абмежаваную колькасць гаспадарчай жывёлы. На працягу першай палавіны XVI ст. фальварак стаў вядучай формай (асабліва ў буйных замлеўласнікаў) арганізаванай гаспадаркі, якая грунтавалася на паншчыннай працы прыгоннага селяніна. Пастаянным гаспадарчым элементам фальварка сталі промыслы [35].

Інакш праходзіў працэс развіцця панскай гаспадаркі на ўсходзе Беларусі. Там фальварак быў з'явай рэдкай, прычым ён ствараўся толькі дзеля задавальнення патрэб феадальнай адміністрацыі [36]. Панская гаспадарка на ўсходзе мела не земляробчы, а пераважна прамысловы характар (вытворчасць лесаматэрыялаў, попелу, дзёгцю, смалы і інш.). Асноўным вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўсходняй Беларусі з'яўлялася сялянская гаспадарка, якая яшчэ не ведала паншчыны.

Эканамічная эвалюцыя панскай гаспадаркі выклікала істотныя змены ў становішчы сялянскіх мас. У канцы XV—першай палавіне XVI ст. ішоў актыўны працэс запрыгоньвання сялянства. Ранейшыя катэгоры сялян (чэлядзь нявольная, людзі непахожыя, пахожыя) пастунова пераўтвараліся ў адзін класслоўе — прыгоннае сялянства [37]. На захадзе Беларусі ў сувязі з развіццём фальварка адной з галоўных павіннасцей сялян станавілася паншчына. Так, паводле дадзеных інвентара уладанняў Ю. М. Радзівіла 1528 г., на Літве і Беларусі з 1422 сялянскіх служб 1229 былі цяглымі, тады як даннікі складалі ўсяго 193 службы [38]. Ва ўладаннях Віленскага епіскапства на сярэдзіну XVI ст. каля 2/3 вясковага насельніцтва складалі цяглыя сяляне [39]. Тэксты грамат з Полацкай зямлі ўжо называюць «прыгон» у якасці павіннасці. У адной з полацкіх грамат, датаванай 26 снежня 1502 г., сказана, што царкоўныя сяляне вёсак Далча-

---

[35] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. Приложение. V. № 5; Пичета В. И. Юридическое положение сельского населения на частновладельческих землях ко времени издания Литовского статута 1529 г. // Белоруссия и Литва... С. 283—413; Яго ж. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии (до конца XVI в.). Мн., 1927; Łowmiański H. Studia... S. 44, 442.

[36] Ochmański J. Powstanie... S. 140.

[37] Пичета В. И. Белоруссия и Литва... С. 61, 65, 174, 175, 182.

[38] Pietkiewicz K. Najstarszy inwentarz dobr Radziwiłowskich z 1528 roku // Lituano—Slavica Posnaniensia. Studia historica. Poznań, 1985. Nr 1. S. 179—186.

[39] Ochmański J. Powstanie... S. 132.

ны, Веснічы і Пуцілкаўляны «в пригон на двор владычин (архіепіскапа полацкага і віцебскага. — *З. К.*) хоживали» [40].

Грамата, якая адносіцца да 1506—1509 гг., узгадвае сярод жыхароў стана Бяздзераўскага ў Полацкім ваяводстве людзей цяглых. Гэту ж катэгорыю сялян называе сярод насельніцтва воласці Галамышскай Полацкага павета грамата, што датуецца 1506—1513 гг. Акрамя даніны, патрабуе ад падданых «работы» грамата 1507 г. на падараванне маёнтка Плісы Полацкага павета. Прыгоннымі называе сялян другая грамата 1507 г. уладання Гарчаны.

У дзвюх граматах за 1508 г. названы тры катэгорыі сялян: путныя, даннікі і цяглыя. Восем «служб тяглых» у маёнтку Славані падараваў вялікі князь у 1510 г. князю Палубенскаму. Практычны сэнс паняцця «прыгон» для таго часу выразна тлумачыць даравальная грамата полацкаму баярыну Яцку Сінковічу ад 19 жніўня 1511 г., дзе ўказваецца, што прыгонныя людзі ў панскім двары «пашню пашуць и вси потягли тягнуть...» [41]

На пачатку XVI ст. устанавілася паншчына памерам адзін дзень на тыдзень, у сярэдзіне гэтага стагоддзя яна дасягнула ў сярэднім дзвюх дзён на тыдзень [42].

Акрамя паншчыны сяляне давалі дзякло, якое складалася са збожжа, прадуктаў жывёлагадоўлі, промыслаў і інш., грашовы чынш. Ва ўсходняй Беларусі галоўнай павіннасцю заставалася даніна, прычым большай часткай дарагім футрам, мёдам. У дадзены перыяд у гэтым рэгіёне назіраецца тэндэнцыя да змены натуральнай дані грашовым эквівалентам [43].

Селянін у канцы XV — пачатку XVI ст. стаў аб'ектам куплі-продажу як з зямлёй, так і без яе. Сярод спраў па маёнтку Усялюбы захаваўся запіс аб продажу 1 сакавіка 1491 г. віленскаму ваяводзе М. Радзівілу «сем хлопов»; у маі 1518 г. ён жа выкупіў з маёнтка Смаргонь трох «господаров». Пад 1541 г. знаходзім звесткі аб куплі «чоловека Андрейца Омельяновича с женой» [44] і г. д.

Вынікам усіх гэтых змен з'явілася рэзкае пагаршэнне становішча сялянскіх мас. З глыбокім абурэннем Сымон Будны пісаў: «А кто таков теперичи есть до подданных, абы не драл... Вси на тое ся удали, абы великие доходы мели; а потом на убогих вымучивши, на непотребные речи утраты безмерные несуть. А тое от поту, або раденем от крови убогих людей мусить господарь або силою або хитростию вылупити» [45].

У адказ на ўзмацненне феадальнага прыгнёту і свавольствы

[40] ПГ. Вып. 2. С. 195.

[41] ПГ. Вып. 3. С. 3, 7, 8, 11, 13, 22, 25, 26, 66, 98.

[42] Lowmiański H. Studia... S. 439, 442; Спиридонов М. Ф. Закрепощение крестьянства Белоруссии: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1981. С. 12.

[43] Wawrzyńczyk A. Powstanie... S. 198—199.

[44] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 4958. Л. 389, 776; Воп. 4. Спр. 5704. Л. 10.

[45] Будный С. Катехизис. Несвиж, 1562. Л. 62—63.

феадальнай адміністрацыі сяляне вялі ўпартую барацьбу супраць эксплуататтараў, якая праяўлялася ў розных формах. Найбольш распаўсюджанай формай была падача скаргаў вярхоўнай уладзе. У пачатку XVI ст. са скаргамі на празмернае павелічэнне пабораў і просьбамі пакінуць «пры старыне» звярталіся да вялікага князя падданыя валасцей Прапойскай, Чачэрскай, Горвальскай, Рэчыцкай, Свіслацкай, Любанскай, Усвятскай, Азярыцкай і інш.[46] У скарзе сялян Браслаўскай воласці 1524 г. паведамлялася, што дзяржаўца «кривды и тяжести великие делал», «новины уводил и брал на них осадных пенязей по две копе грошей, а по бочце жита... по три поборы на год — по двадцати яловиц, а по дватцати вепров, а по дватцати баранов, а по три гроше»[47]. У тым жа годзе валашчане кобрынскія скардзіліся на «державцу», который им «новины уводит... к своим двором на работу ходити» прымушае, «без вин вины береть» і іншыя злоўжыванні чыніць[48]. Аднак рабаўніцтва феадалаў, якое даводзіла да галечы сялянскія гаспадаркі, не спынялася, аб чым сведчаць скаргі сялян у наступныя гады. Можна прыгадаць хоць бы допісы караля падданых Крычаўскай, Абалецкай, Усвяцкай, Азярыцкай, Гомельскай, Бабруйскай, Свіслацкай валасцей з 1532—1535, 1537, 1540, 1544 гг. Усе гэтыя і іншыя скаргі сялян нічога не змянялі ў іх становішчы. І тады прыгнечаныя адважваліся на больш актыўныя дзеянні супраць сваіх прыгнятальнікаў. Так, сяляне Абалецкай воласці ў 1532 г. рашуча адмовіліся выконваць павіннасці, якія былі павялічаны «державцей». Як даносіў віцебскі ваявода каралю: «...волость вся стала мовити нам з великим криком: бы дей нам не только статки наши, але жены и дети были побраны, тогды мы не будем служити так, одно як з веков предки и отцы наши, и мы перед тым служивали, так и теперь служить хочем»[49].

Горкі асабісты вопыт нараджаў у сялян разуменне таго, што ў барацьбе за свае правы нельга абмяжоўвацца толькі скаргамі, што неабходна шукаць іншыя формы. Актыўнай і шырока распаўсюджанай формай процідзеяння ўзмацненаму феадальнаму прыгнёту сталі ўцёкі прыгонных ад сваіх паноў. У 1492 г. сялян вёскі Свіла вялікі князь літоўскі падараваў новаму ўладальніку, які замест традыцыйнай дані «толькі по три куницы» увёў больш цяжкія павіннасці. Адказамі сялян сталі ўцёкі: «тыи люди,— гаворыцца ў грамаце,— от них отнимаются и не ходять им служити и иные ся розно от них проч розышли»[50]. Аб тым, што ўцёкі сялян сталі масавымі, відаць з тэксту граматы 1492 г. У ёй вялікі князь звяртаўся да горада Пскова: «Многии наши

---

[46] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. С. 17.
[47] Акты Русско-Литовского государства. Вып. 1. М., 1899. С. 196—198.
[48] Там жа.
[49] Беларускі архіў (БА). Мн., 1928. Т. II. № 124. С. 95—96.
[50] ПГ. Т. II. № 206. С. 127—128.

люди в земли наше Полоцкое збегли и зашли у вашу во Псковскую землю и вы их зася к нам не хочете выдати». І далей ён патрабаваў, каб «наши люди и бояр наших выдали их зася к нам в нашу землю со всими их статкы о будуть зашли» [51].

Уцёкі сялян былі шырока распаўсюджанай з'явай і ў XVI ст. Каб спыніць іх, віцебскі ваявода ў 1530 г. прадпісаў свайму намесніку і валасному старцу, «жебы бегляцов тых, которыи за рубеж бегают, не пропускали...» [52] Праз год феадалы Віцебскага павета заключылі пагадненне, якое абавязвала кожнага зямельнага ўласніка ўстанаўліваць толькі вызначаныя гэтым пагадненнем нормы павіннасцей і прытрымлівацца адзінага парадку прыёму ў свае ўладанні прышлых сялян. Тым самым феадалы віцебскай зямлі разлічвалі папярэдзіць пераходы людзей з аднаго ўладання ў другое [53].

Але ніякія меры, што прымаліся пануючым класам, пры захаванні і ўзмацненні феадальнага прыгнёту, не маглі спыніць самавольныя адыходы сялян ад сваіх паноў. Яны, наадварот, набіралі ўсё большы размах. «Паспрабуйце звыш пэўнай меры,— пісаў К. Маркс,— адбіраць у сялян прадукт іх сельскагаспадарчай працы, і, нягледзячы на вашу жандармерыю і вашу армію, вы не здолееце прыкаваць іх да іх палетка!» [54]

Разгледжаныя асаблівасці аграрных адносін, што склаліся на Беларусі ў другой палавіне XV—першай палавіне XVI ст., дазваляюць заключыць, што час гэты быў часам глыбокіх сацыяльна-эканамічных зрухаў, якія ўзламвалі векавыя традыцыі феадальных асноў. Яны стваралі спрыяльную глебу для развіцця гарадоў Беларусі.

Гуманістычная накіраванасць поглядаў Ф. Скарыны фарміравалася пад уздзеяннем гарадскога жыцця, якое склалася тады ў Беларусі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Вядома, што ўжо ва ўмовах раннефеадальнага грамадства гарады Старажытнай Русі выконвалі ўласцівыя ім у тую эпоху функцыі цэнтраў рамяства і гандлю. Праўда, большасць феадальных гарадоў уяўлялі сабою невялікія паселішчы. Гарады Беларусі таго часу не былі выключэннем з гэтага правіла. Ускосным сведчаннем таму могуць служыць памеры падаткаў, што спаганяліся ў 1551 г. з гарадоў Беларусі, велічыня якіх залежала ад колькасці насельніцтва. Самую вялікую стаўку, якая перавышала 100 коп грошаў, сплачвалі толькі 6 гарадоў: Брэст, Віцебск, Мінск, Магілёў, Пінск, Полацк. Невыпадкова менавіта ў гэтых гарадах крыніцы пералічваюць найбольшую колькасць рамесных прафесій у канцы XV—першай палавіне XVI ст. У гэтай групе гарадоў ужо на пачатку XVI ст. вядомы арганізацыі рамесні-

---

[51] АЗР. Т. І. С. 113.
[52] БА. Т. II. № 28. С. 23.
[53] Там жа. № 72. С. 47.
[54] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 19. С. 408.

каў — цэхі. Аб цэху гарбароў упамінаюць крыніцы па Слуцку, у Брэсце згадваюцца цэхі кушняроў, ювеліраў, у Віцебску — кавалёў[55]. Такіх сведчанняў не маюць дакументы гарадоў, якія сплачвалі падаткі ад 60 да 30 коп грошай,— Оршы, Барысава, Бабруйска, Гродна, Кобрына, Слоніма, Камянца, Клецка, Наваградка, Мазыра. Меней 30 коп грошай плацілі 263 гарадскіх паселішчаў — гэта былі ў асноўным мястэчкі.

Ва ўсіх гарадах Беларусі выразна выступала вядучая роля рамяства і гандлю. Маштабы рамеснай і гандлёвай дзейнасці ў кожнай з пералічаных груп гарадоў не былі аднолькавымі. У буйных гарадах пераважнае значэнне меў знешні гандаль. Ён ажыццяўляўся купецкай часткай гарадскога насельніцтва з дапамогай сувязей з рынкамі некаторых гарадоў Прыбалтыкі, Заходняй Еўропы, Польшчы. Сярэднія, малыя гарады, мястэчкі былі цэнтрамі пераважна мясцовага гандлю. Гэта, праўда, не выключала таго, што купецтва буйных і іншаземных гарадоў гандлявала і на рынках гарадскіх паселішчаў, асабліва тых, што размяшчаліся на магістральных гандлёвых шляхах-гасцінцах. Але ж усё-такі галоўнай мэтай прыезджых купцоў былі рынкі буйных гарадоў, асабліва Полацка, Віцебска, Мінска, Магілёва, Брэста і інш. Нават дайшоўшыя да нашых дзён кароткія звесткі даюць магчымасць зрабіць вывад, што пастаяннымі і шырокімі былі гандлёвыя сувязі Полацка і Віцебска з Рыгай, Смаленскам, Ноўгарадам, Псковам, Масквой. Вялікі гандаль з рускімі, украінскімі, польскімі гарадамі мелі купцы Гродна, Брэста, Пінска, Мінска, Наваградка, Слуцка, Слоніма, Оршы і рада іншых гарадоў і мястэчак[56].

Яскравым падцверджаннем вядучай ролі ў горадзе рамяства і гандлю з'яўляецца грамата трокскага ваяводы М. Ю. Радзівіла ад 13 мая 1557 г., якая змяшчае заяву мяшчан горада Мазыра. У ёй мазыране адмаўляліся выконваць павіннасці, што раней адраблялі з жыхарамі воласці. Сваю адмову яны тлумачылі тым, што «мы теперь в земли волостные и входы их в бобровые гоны и звериные ловы ни увошто уступатися не хочем; нехай волощане того всего уживают и всю тягль и повиноватство с тых земль полнять, а мы яко люди, меские, жывучы при месте, торгом, ремеслом, а рекой живитися будем...»[57] Адметнай рысай гараджа-

---

[55] Jakubowski J. Atlas historyczny Polski. Kraków, 1928; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 77, 86, 89, 118; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. С. 59, 89; Сапунов А. П. Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883. С. 24; ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5763. Л. 85 адв.

[56] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938. С. XVI; Русско-Ливонские акты. № 154, 160, 279 і наст.; Хорошкевич А. Л. Полоцкие грамоты. Вып. 1. М., 1977; Смоленские грамоты XIII—XIV вв. М., 1963. С. 10, 45; АЗР. Т. 1. № 33, 38, 39; Wawrzyńczyk A. Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim księstwem Litewskim i Rosią w XVI w. Poznań, 1958.

[57] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 4871. Л. 22.

ніна тут дакладна названы заняткі гандлем і рамяством. З такой жа заявай крыху пазней выступілі таксама жыхары Магілёва.

Пераважная большасць рамёстваў у гарадах Беларусі абслугоўвала вытворчыя, гаспадарчыя, асабістыя патрэбы насельніцтва. Гэта ўжо само па сабе характарызавала рамяство як таварную вытворчасць, што фарміравала ўнутраны рынак. Аднак яго развіццё не дасягнула ўзроўню адзінага рынка, таму што ні ў XV—XVI стст., ні пазней у Беларусі не склалася тэрытарыяльнага падзелу працы. Тым не менш з цягам часу складваліся межгарадскія сувязі. З дайшоўшых да нашага часу дакументаў мы даведваемся аб продажу ў Кобрыне тавараў, якія купляліся ў Магілёве, або гандлі ў Брэсце саф'янам, вырабленым у Слуцку; у Магілёве прадаваліся панчохі, шкарпэткі «слуцкай работы», у Полацку — вырабы слуцкіх майстроў-ювеліраў і г. д.[58]

Кожны рамеснік вырабляў значную колькасць самых розных тавараў. Але разам з тым на працягу XVI ст. праходзіў працэс дыферэнцыяцыі рамяства, выдзялення ў самастойны рамесны занятак вытворчасці асобных вырабаў. Гродзенскі пушкар Раман Мікіціч так засведчыў гэту з'яву ў 1540 г.: «Я службу пушкарскую добре умем... и гаковницы роблю и вси потребы, которые прислушают на службу пушкарскую умем добре»[59]. Археалагічныя даследаванні дазволілі прасачыць на матэрыялах Віцебска прыкметнае ўдасканальванне апрацоўкі сыравіны і вырабу тавараў гарадскімі рамеснікамі[60].

Рамесная дзейнасць беларускага гараджаніна накладвала выразны адбітак на погляды выдатнага прадстаўніка гуманістычнай думкі і рэфармацыйнага руху на Беларусі — Сымона Буднага. Тлумачачы бацькам, з чаго складаюцца іх абавязкі ў справе выхавання дзяцей, ён побач з рэлігійным навучаннем ставіў і навучанне рамеснае, для чаго «...повинни родители научати сынов своих мастерству, або ремества якого побожного, абы от него слушное выживене на потом мели». Ён ставіў майстра ў адзін рад з настаўнікамі, пастырамі і ўладамі, якім належыць падначальвацца як бацькам[61].

Выказванні Буднага пераконваюць у тым, што ўжо ў першай палавіне XVI ст. рамяство заняло вядучае месца ў эканоміцы беларускіх гарадоў. Разам з тым горад як цэнтр рамеснай вытворчасці, гандлёвай дзейнасці і культуры жывіў пошукі перадавымі мысліцелямі таго часу ўяўленняў аб каштоўнасцях чала-

---

[58] Копысский З. Ю. Магдебургское право в городах Белоруссии // Сов. славяноведение. М., 1972. № 5. С. 28.

[59] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII вв. С. 86.

[60] Левко О. Н. Витебск XIV—XVIII вв. Мн., 1984. С. 92—100.

[61] Будный С. Катихисис то есть наука стародавняя хрестианьская от светого писма для простых людей языка руского в пытаниа и отказех собрана. Несвиж, 1562. С. 51, 61.

вечага жыцця за межамі вузкага свету феадальнага маёнтка, сялянскага побыту.

Пад уздзеяннем рамяства фарміраваўся і гарадскі гандаль. Гандлёвая дзейнасць садзейнічала складванню сеткі дарог, што звязвалі гарады. У канцы XV—першай палавіне XVI ст. ажыўленымі дарогамі-гасцінцамі былі звязаны Полацк, Смаленск і Віцебск, праз усю Беларусь з усходу на захад праходзіў гасцінец з Оршы праз Мінск, Слонім, Брэст. Па гэтай дарозе, «яко гостинцем великим, на каждый час многие ездят»,— паведамлялася ў адным дакуменце за 1541 г. Ажыўленымі былі дарогі, якія звязвалі Пінск з Мазыром, Кобрынам, Клецкам, Слуцкам, Брэстам і г. д.[62] Яшчэ ў пачатку XV ст. крыніцы згадваюць «вялікі шлях Лагойскі»[63].

Развітая эканоміка гарадоў Беларусі і ўсяго Вялікага княства Літоўскага часоў Ф. Скарыны не толькі аказала істотны ўплыў на развіццё ў краіне таварна-грашовых адносін. Яна надала гарадам Беларусі значэнне важнай сферы ўсяго грамадскага жыцця дзяржавы. Сведчаннем таму служыць з'яўленне з XV ст. заканадаўчых актаў, якія спрыялі развіццю рамеснай і гандлёвай дзейнасці гарадскога насельніцтва. Другім важным вынікам вялікакняжацкай палітыкі ў адносінах да гарадоў з'явілася пашырэнне практыкі надання ім вярхоўнай уладай права самакіравання. У ім правамерна бачыць заканадаўчае прызнанне саслоўнай самастойнасці гарадскога насельніцтва. У выніку ўзрастала не толькі эканамічнае значэнне гарадоў, але і іх сацыяльнае значэнне. Выяўлялася яно і ў развіцці такіх функцый гарадоў, як адміністрацыйна-палітычная і ваенная. Апошняя заяўляла аб сабе праз пераўтварэнне гарадоў у ваенныя апорныя пункты. Адміністрацыйную ж ролю гарадам надавала канцэнтрацыя ў іх эканомаў феадальных маёнткаў, чыноўнікаў, што спаганялі падаткі, чынілі суд над насельніцтвам тых тэрыторый, адміністрацыйным цэнтрам якіх з'яўляўся горад.

Інтарэсы казны, ваенна-палітычныя меркаванні дыктавалі вярхоўнай уладзе пазіцыю заступніцтва гарадоў нават тады, калі падтрымка таго ці іншага горада наносіла страты феадалам. Такую пазіцыю вялікакняжацкага ўрада можна яскрава ўбачыць на прыкладзе Полацка. У тэксце граматы ад 14 кастрычніка 1498 г., якая даравала Полацку магдэбургскае права, улады прадугледжвалі перавод пад юрысдыкцыю гарадской рады не толькі ўсіх жыхароў Полацка, але таксама тых, хто пражываў «около места в селах мещанских и слуги путныи...»[64] Тым самым атрымлівала асабістую свабоду і саслоўна-юрыдычную самастойнасць тая частка насельніцтва горада і прад-

[62] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии. С. 15, 171—180.

[63] ЦДГА СССР. Ф. 823. Воп. 3. Спр. 1. С. 1.

[64] АЗР. Т. 1. С. 180.

месцяў, якая да выдання названай граматы належала феадалам і мяшчанам-землеўладальнікам, што, канешне, ушчамляла фіскальныя інтарэсы апошніх. Не меншую шкоду феадалам наносіла прадугледжанае ў згаданай грамаце вызваленне полацкіх мяшчан ад выплаты гандлёвай пошліны на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Такая льгота з'яўлялася саслоўным прывілеем мяшчанства ўсіх гарадоў Беларусі, якія карысталіся магдэбургскім правам. Яна не дазваляла феадалам спаганяць з купцоў грошы за праезд па дарогах, якія праходзілі па іх уладаннях. Вельмі рашуча гэта забарона выкладалася ў 21 артыкуле Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г., які меў загаловак «Хто бы новые мыта уставлял»: «Тэж приказуем, — гаворыцца ў ім,— абы жаден чоловек в панстве нашом Великом князьстве Литовском не смел новых мыт вымышляти ани вставляти ни на дорогах, ани на местех, ани на мостех и на греблех, и на водах, ани на торгах в именях своих, кром которые были в стародавна вставленные, а мели бы на то месты продков наших великих князей або наши. А хто бы колве смел вставляти новые мыта, тое имене, в котором вставил, тратить и спадывасть на нас, господара»[65]. Нельга не адзначыць, што пры ўсёй катэгарычнасці забароны з ёй мала лічыліся феадалы, і ў сваіх уладаннях устанаўлівалі пошлінныя падаткі, якія спаганялі з купцоў, што везлі тавар праз той ці іншы прыватны маёнтак. На гэтай глебе шырылася незадавальненне гарадскога купецтва феадальным самавольствам, якое стала з цягам часу сацыяльнай пазіцыяй мяшчанскага саслоўя.

Развіццё гарадскога жыцця на Беларусі праходзіла ў цеснай сувязі і пад пастаянным уплывам сталіцы Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і «іных зямель» горада Вільні. На тое былі свае прычыны. Па-першае, свайму ўзвышэнню сталіца Вільня была абавязана насельніцтву і Літвы і Полацкай Русі. Тут трэба згадаць, што дзяржаўная ўлада полацкіх князёў з XI ст. пашыралася на Падзвінне і за яго межы[66]. Так, летапісы пад 1129 г. маюць запіс-напамін аб тым, што «Литва... дань даяше князем Полотцким. Вилняне взяша собе князя Полотцкого Ростислава Рогволодовича детей Давила князя... и той на Вилне первый князь Давил...»[67] Магчыма, тая роля Полацкага княства, што вынікае з прыведзенага сведчання, у нейкай ступені набліжае нас да тлумачэння таго факта, што яшчэ ў XVI ст. вялікія князі літоўскія мірыліся з асаблівым становішчам у дзяржаве Полацкай зямлі, улічваючы нейкія ранейшыя прывілеі, якія атрымалі яе князі ў якасці ўмовы ўваходжання Полацкай Русі ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Яшчэ трэба мець на ўвазе, што «рускі» эле-

---

[65] СВКЛ 1529 г. С. 39.
[66] Алексеев Л. В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 66—82.
[67] ПСРЛ. Т. 7. Спб., 1856. С. 253; Т. 26. М.; Л., 1959. С. 45; Т. 28. М.; Л., 1963. С. 20, 22.

мент быў заўсёды моцным у Вільні. На гэта прама ўказвалася ў граматах гораду на магдэбургскае права, у якіх падкрэслівалася, што права гэта дадзена «всим местичом виленским ... веры римское и руским, што суть руское веры...» [68]

Пасля таго як у 1323 г. Гедымін зацвердзіў Вільню сталіцай сваёй дзяржавы, эканамічнае значэнне горада павышалася дзякуючы яго гандлёвым сувязям з беларускімі, украінскімі і рускімі гарадамі. Аб гэтым вельмі яскрава сведчыць грамата Жыгімонта ад 23 верасня 1432 г., якая ў мэтах заахвочвання гандлю вызваляла «виленских местичов ляхов (г. зн. католікаў.— *З. К.*) и руси» ад выплаты гандлёвай пошліны «в Луцку, в Киеве и по Подольской земли, Смоленску и у Берести, в Новегородку, у Менску, в Ковне и по иным пак местом» [69]. Ды і тыя купецкія тракты-гасцінцы, што ішлі ў розных кірунках ад Вільні у бок беларускіх зямель, гавораць аб шырокіх гандлёвых сувязях сталіцы з беларускімі гарадамі. З XIV ст. упамінаецца шлях, які злучаў Гародню з Вільняй. А ў канцы XV ст. усе буйныя гарады Беларусі Бярэсце, Гародня, Віцебск, Магілёў, Пінск, Полацк, Слуцк і шматлікія мястэчкі і вёскі, што знаходзіліся паміж імі, былі звязаны гасцінцамі з Вільняй. У дакументах XV—XVI стст. гэтыя дарогі часта абазначаліся тэрмінамі: «вялікая дарога», «гасцінец вялікі, па якому на кожны час многія едуць» ці «купцы з цяжкімі таварамі часцяком праязджаюць». Для віленскага купецтва, якое, мяркуючы па пераліку прозвішч у крыніцы, складалася ў асноўным з беларусаў — жыхароў вялікакняжацкай сталіцы, гасцінцы Беларусі адкрывалі шляхі да рынкаў гандлёвых цэнтраў Украіны, Рускай дзяржавы [70]. З развіццём гандлю сувязь беларускага купецтва з купцамі Вільні пашыралася і за кошт крэдытных аперацый [71].

У цеснай сувязі з Вільняй развівалася і рамесная вытворчасць ў беларускіх гарадах, асабліва буйных. Арганізацыя ў іх рамяства на прынцыпах, што ўласцівы феадальнай эпосе, складалася пад непасрэдным уплывам вопыту цэхавых аб'яднанняў віленскіх рамеснікаў. Статуты цэхаў Вільні сталі асноўнай крыніцай утварэння цэхавых статутаў у гарадах Беларусі [72]. Як і ў Вільні, цэхі ў радзе беларускіх гарадоў першапачаткова называліся «брацтвамі», «староствамі». Ідэнтычнасць нарматыўнай і арганізацыйнай структуры беларускіх цэхаў з віленскімі тлумачыцца не толькі агульнасцю ўмоў, якія спарадзілі цэхавую сістэму арганізацыі гарадскога рамяства ў феадальную эпоху,

---

[68] Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Ч. 1. Вильна, 1843. № 2. С. 5.

[69] Собрание древних грамот и актов... Ч. 1. № 2. С. 2.

[70] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии. С. 152—154.

[71] Там жа. С. 123.

[72] Там жа. С. 95.

але і тым, што ўставы цэхаў канца XV—XVI ст. напісаны былі на беларускай мове. Нават назвы некаторых цэхаў вызначалі не толькі іх прафесійнае прызначэнне, але і рэлігійна-этнічную прыналежнасць. Так, цэх віленскіх гарбароў ва ўставе 1538 г. названы «рускім гарбарным брацтвам». «Рускімі» ў Вільні былі шматлікія рамесніцкія і купецкія цэхі [73]. Гэтым тлумачыцца вядучая роля Вільні ва ўдасканаленні майстэрства беларускіх рамеснікаў. Справа ў тым, што вучні, выконваючы патрабаванні цэхавых статутаў павінны былі зрабіць вандроўку, г. зн. адпрацаваць у іншым горадзе ў мясцовых майстроў на працягу вызначанага тэрміну [74]. Часцей за ўсё для цэхаў беларускіх гарадоў гэта была Вільня.

Даволі адчувальнай была блізкасць асноў гарадскога жыцця Вільні і беларускіх гарадоў у сацыяльна-палітычнай вобласці. Сталіца Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якая дамаглася ў 1387 г. прывілею на магдэбургскае права, стварыла той прэцэдэнт, што з'арыентаваў гараджан Беларусі ў іх пошуках прававых гарантый унутрыгарадскога жыцця ад свавольстваў феадалаў. Ужо праз тры гады (у 1390 г.) прывілей на магдэбургскае права атрымала Бярэсце, а ў XV — першай палавіне XVI ст. па яго нормах будавалася гарадское жыццё Полацка, Віцебска, Менска, Гародні, Слуцка, Ваўкавыска, Наваградка і іншых гарадоў [75]. Статут праваслаўнага брацтва магілёўскіх гарбароў амаль цалкам паўтараў статут такога ж брацтва ў Вільні [76].

Гарады Беларусі XV—XVI стст. былі важнымі цэнтрамі эканамічнага, сацыяльна-палітычнага жыцця як Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, так і Усходняй Еўропы. У прыватнасці, палачане цалкам разумелі вялікае значэнне свайго горада, калі ў 1464 г. пад час перагавораў з магістратам г. Рыгі заяўлялі: «А Полтеск тежи есть, хвалячи бога, место славутное, как и которое, а не есть нижшое во чести и во всем ни Вилни, а ни Мариборка, а ни Кданьска» [77]. Праз сто гадоў Полацк захаваў сваё вядучае становішча. Пераканаўчым таму сведчаннем служыць апісанне штурму Полацка войскамі Івана Грознага ў 1563 г., якое было азаглаўлена такім чынам: «Апісанне, як быў узяты і заняты ў 1563 г. маскавітамі Полацк — галоўны горад у Літве» [78].

Выключнае становішча Полацка ў немалой ступені вызначалася яго велічным мінулым: дзяржаўнай роллю гэтага горада ў якасці сталіцы буйнога і старажытнага княства часоў Кіеўскай

[73] АВАК. Т. 10. Вильна, 1879. Введение. V. С. 12, 243—245.
[74] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии. С. 103, 105.
[75] Там жа. С. 80.
[76] Там жа. С. 128, 161.
[77] ПГ. Вып. 1. С. 220.
[78] Василевская М. А. Белоруссия в печати XVI столетия // Библиогр. указ. на иностр. яз. Мн., 1985. № 4. С. 6.

Русі, а пазней як аднаго з самых буйных і вядучых на Русі гарадоў-рэспублік. Аб гэтым перыядзе ў гісторыі Полацка гаворыць цікавы гістарыяграфічны твор першай палавіны XVII ст.— «Летапісец. Кароткі збор хронік літоўскіх і польскіх». У раздзеле «О Полоцкой Венеции, або свободности» згадваецца час, калі палачане «волно пановали себе и жадной зверхности над собою не мели, толко 30 мужов старцов с посродку Речи посполитое своей на поточные справы, суд и яко сенаторов прекладали, а наболшей за знаком звону великого, который впосеред места был завешоный, где все збиралися там и по справах своих и о потребах Речи посполитой и держав своих, бо держали на тот час землю Рускую сами мещане полоцкие и на колкодесят миль справуючи. То ж волности уживал на тот час Псков и Новгород Велики... места можнейшие руские. Яко Новгород Великий, Псков и Полоцк без княжат почали волно собе жити» [79].

Такі ж час сярэдневяковай рэспублікі ў палітычным жыцці Віцебска адзначае грамата 1503 г., выдадзеная гораду вялікім князем. Яна сведчыць, што яшчэ ў пачатку XVI ст. Віцебскам, як некалі Полацкам, кіравалі «мужы» [80]. Праўда, на працягу XV ст. вярхоўная ўлада дамагалася аслаблення феадальнай раздробленасці ў маштабах Вялікага княства Літоўскага. Яна замацавала свае пазіцыі ў дзяржаве, увёўшы рэжым намесніцтва, які пакончыў з палітычнай незалежнасцю ўдзельных княстваў.

Гандлёвая палітыка вярхоўнай улады служыла сродкам папаўнення казны і аказання матэрыяльнай дапамогі феадалам. Яскравым таму прыкладам з'яўляецца выдача з казны вялікім князем Казімірам у 1486—1490 гг. 563 грашовых субсідый «князем, паном и дворяном и земяном» на вялікую ў той час суму 3859 коп грошаў. Менавіта столькі атрымлівала казна з пошлінных збораў у 15 гарадах Беларусі. У пачатку XVI ст. адзін Полацк даваў дзяржаве толькі пошліннага збору ад гандлю воскам і соллю штогод 3936 коп грошаў, ці 20% збора па гэтай крыніцы даходу з усіх гарадоў Вялікага княства Літоўскага, якіх налічвалася не адна сотня [81].

У цэлым, калі весці гаворку аб гарадской палітыцы вярхоўнай улады Вялікага княства, то трэба адзначыць, што, з аднаго боку, яна абараняла інтарэсы гарадоў, а з другога — інтарэсы феадалаў. Гарадскія інтарэсы землеўладальнікаў заключаліся не толькі ў магчымасці набыць на рынку неабходныя прадметы, але і ў імкненні выкарыстаць горад у якасці крыніцы даходаў шляхам спагнання з гараджан падаткаў і пабораў. Буйныя феадалы дасягалі гэтай мэты двума шляхамі: засноўвалі гарадскія паселішчы ў сваіх уладаннях і набывалі ў велікакняжацкіх га-

[79] БЭФ. Т. 2. Мн., 1960. С. 440.
[80] ЦДАМІ БССР. Ф. 796. Воп. 1. Спр. 8763. Л. 39.
[81] Русская историческая библиотека. Т. VII. Спб., 1856. Падлік наш. Там жа. Т. XXVII. Спб., 1910. Падлік наш.

радах зямельныя пляцы, на якіх рассялялі сваіх падданых-рамеснікаў. Так узнікалі ў гарадах прыватнаўласніцкія юрыдыкі. Іх жыхары называліся юрысдычане. Яны не падлягалі юрысдыкцыі гарадской рады.

Рост юрыдык меў два супрацьлеглыя вынікі: ён, па-першае, садзейнічаў павелічэнню гарадскога насельніцтва за кошт сельскага; па-другое, і гэта было больш істотным, у гарадах павялічвалася колькасць жыхароў, на якіх не поўнасцю накладваўся саслоўны статус мешчаніна. Тым самым падрывалася саслоўная аднароднасць гарадскога насельніцтва. Паколькі гэта закранала інтарэсы казны, таму што юрысдычанін не ўваходзіў у аб'ект падаткаабкладання, вярхоўная ўлада аказвалася перад неабходнасцю вызначыць свае адносіны да «размывання» гарадскога саслоўя юрыдыкамі. Выйсце са становішча вярхоўныя ўлады шукалі па-рознаму ў розных гарадах. У Полацку, як адзначалася вышэй, яны займалі рашучую пазіцыю, выступаючы супраць уладальнікаў юрыдык. Праз два гады пасля падаравання магдэбургскага права горад ізноў запаланілі юрыдыкі духоўных і свецкіх феадалаў. Вярхоўная ўлада, якая не жадала мірыцца з гэтым, выдала Полацку ў снежні 1500 г. грамату, дзе ўдакладняла сваю ранейшую пазіцыю: «которыи будут ремесники в месте Полоцком мешкати», абавязаны магдэбургскаму праву быць падуладнымі. А што датычыць адносін да юрыдык, то ў грамаце прама нагадвалася баярам і духавенству, каб яны сваіх юрысдычан «тых всих людей привернули к магдебурскому праву подлуг первого нашего привилья» [82]. А калі ж выявілася, што сярод мяшчан узніклі настроі перайсці пад прыватную юрысдыкцыю і тым самым аблегчыць для сябе падатковы цяжар, вярхоўная ўлада ў асобнай грамаце ад 30 снежня 1502 г. загадала караць кожнага, хто адважыцца на такі крок [83].

Прайшла чвэрць стагоддзя. 24 сакавіка 1525 г. палачане звярнуліся да вялікага князя з просьбай засяліць новымі жыхарамі пустыя хаты, што засталіся пасля пакінуўшых горад мяшчан. Урад адразу зрэагаваў граматай, дзе не толькі задавальнялася гэта просьба, але яшчэ прадпісвалася, каб «тым, которыи до тых часов до места нашого Полоцка приходили, дали есмо им на десят лет воли... и в тую десят лет не мают они нам никоторое службы служити и дачок давати... [84].

Наколькі чула адносілася ўлада Вялікага княства Літоўскага да спраў полацкіх гараджан, можна меркаваць і па такім факце: дастаткова было скаргі пяцёх братоў, мяшчан Полацка, на парушэнне ваяводай іх правоў, як выйшаў загад вялікакняжацкай канцылярыі ад 26 сакавіка 1525 г., па якому сам вялікі князь «вызвалил их от стану земского и от подвод» [85]. У маі

---

[82] АЗР. Т. 1. С. 215.
[83] ПГ. Вып. 2. С. 198.
[84] ЦДАСА. Ф. 389. Спр. 14. Л. 231.
[85] Там жа. Л. 41.

1526 г. вялікі князь літоўскі зноў патрабаваў ад ваяводы перадаць усіх юрысдычан у Полацку «...к праву магдебурскому». І ў гэтым выпадку «гаспадар» прыняў рашэнне не на карысць феадалаў. Духавенству і баярам, якія, як сказана ў грамаце, «...себе домы местские поимали и... людей духовныи и бояре за собою на их местских землях посажали», было загадана «...всих достаточне доведати и их привлащати к месту нашому и к праву маитборскому»[86]. Настолькі ж рашуча супрацьстаяла вярхоўная ўлада феадальным юрыдыкам Гародні. Так, грамата ад 1541 г. настойвала на тым, каб гараджане, якія жылі ў дамах, што належалі «князям, баронам, шляхце», былі «под городским правом». Надалей феадалам вызначалася «дамоў у горадзе не набываць». Нягледзячы на тое што ўцёкі сялян у гарады вялі да выдаткаў у гаспадарцы феадалаў, вялікі князь граматай 1540 г. забараняў выганяць з Гародні «тых новых жыхароў, якія, пакінуўшы зямлю, заняліся ў горадзе гандлем»[87].

Вельмі шанавала вярхоўная ўлада і горад Віцебск. Аб гэтым мы можам меркаваць хаця б па яе адносінах да скаргі віцяблян на самавольства ваяводы — магната Івана Сапегі. У грамаце вялікага князя ад 5 верасня 1528 г. узноўлена скарга гараджан на ваяводу, што чыніў ім «тяжкости и кривды». Далей у грамаце прыводзіцца пярэчанне Сапегі, які спасылаўся на тое, што «множество старших бояр и мещан, лепшых людей, о том ничего не ведают...» У канцы тэкста паведамлялася, што скаржнікі «били чолом господару, королю его милости не хотечи того воеводы собе мети». Нягледзячы на ваяводскія апраўданні, вялікі князь загадаў правесці следства па скарзе і паабяцаў, што калі ўсе жыхары Віцебска пацвердзяць выкладзеныя ў допісе факты, тады ён «мает иншого воеводу им дати»[88]. Абараняла інтарэсы гараджан Віцебска і грамата вялікага князя ад 8 верасня 1540 г. У ёй выкладзена скарга на ваяводу за тое, што ён спаганяе з віцяблян незаконныя пошліны з гандлю, нязнаныя раней паборы. «Гаспадар» катэгарычна забараніў, пад пагрозай кампенсацыі з ваяводскай кішэні нанесенага гораду ўрону, усялякія самавольствы і загадаў захоўваць для Віцебска ўсе ранейшыя і цяперашнія прывілеі[89].

Настолькі ж рашуча загадвалася ў грамаце 25 лютага 1516 г. старасце гродзенскаму князю Юрыю Радзівілу не адбіраць у мяшчан Гродна пошліну за перавоз тавараў цераз рэчачку Мету. У другім прывілеі ад 26 лютага 1531 г. вялікі князь забараняў таму ж Радзівілу прыцягваць да работы на замак рамеснікаў магістрацкай юрысдыкцыі, перасуджваць мяшчан з баярамі, паколькі тыя павінны былі паўторна сплачваць судовую пошліну. У 1540 г. асобнай граматай каралева Бона вызваліла гродзен-

[86] ЦДАСА. Ф. 389. Спр. 14. Л. 231.
[87] ЛАІГ АН СССР. Ф. 114. III. Спр. 246. № 10, 16.
[88] ЦДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Спр. 15. Л. 63 адв. — 64.
[89] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 4960. Т. II. Л. 512.

скіх мяшчан ад выплаты пошлін за перавоз тавараў у Коўна і Прусію па рэках Нёман і Мерач [90].

Інакш рэагаваў вялікі князь на пранікненне ў горад самавольнай улады феадала, калі акалічнасці прымушалі да пошукаў кампрамісных рашэнняў. Прыкладам таму можа служыць горад Брэст. Тут у пачатку XVI ст. распаўсюдзіліся феадальныя юрыдыкі. У пацвярджальнай грамаце на магдэбургскае права ад 20 верасня 1511 г. вялікі князь не выказаў пярэчанняў таму, што сярод гараджан ёсць «люди вси духовные и светские и князские и панские». Ён абмежаваўся толькі фіскальнай мерай: загадаў усім юрысдычанам, «которые в месте Брестском живуть и торгом ся обыходять або ремеслом», сплачваць у казну дзяржаўны падатак — сярэбшчыну [91]. Але аб вяртанні гэтай часткі гараджан пад юрысдыкцыю гарадской рады, як гэта было ў Полацку ці Гародні, у грамаце нічога не сказана. Відавочна, у дадзеным выпадку вярхоўная ўлада пайшла па шляху дамоўленасці з уладарамі юрыдык.

На адносіны ўлад да прыватных юрыдык аказвалі ўплыў і інтарэсы самога вялікага князя як землеўладальніка. Так, «гаспадар» не звярнуў увагі на саслоўныя прывілеі гараджан Ваўкавыска, якія мелі магдэбургскае права, і загадаў усім яго жыхарам выходзіць на талаку ў велікакняжацкім маёнтку («два дни мают орати и два дни жати») [92]. Разам з тым грамата напамінала гараджанам і аб іх саслоўным абавязку: «...на войну ходити водле уставы, как и з иных мест» [93].

Аднак вядучае значэнне ўсё ж мела палітыка апекі гарадоў. У тым жа Ваўкавыску, калі вялікі князь сумесна з велікакняжацкай радай разглядаў скаргу магістрата горада на баярскую сям'ю Нямчынавічаў, то прыняў рашэнне на карысць горада. Паводле велікакняжацкай пастановы ад 27 снежня 1551 г., нямчынавіцкія юрыдыкі ліквідаваліся, а гараджане, якія жылі ў дамах гэтых баяр «и яким ремеством або кузнецтвом, або теж шынком обыходятся, тыи вси мают быти под правом и под присудом и под послушенством вряду меского» [94]. Больш таго, самім баярам загадвалася: «Естли теж Немчиновичи в тых домех своих будут мети шинк медовый або теж которого кольвек много пития, або естли же в тых домех своих куплями ся обыходити будуть, тогды повинни от шынку капщизну и от торговли от клеток повинни также тыи платы платити, которые иные мещане волковыские шынком и торговлями обыходечися платят» [95].

---

[90] Курдюмов М. Г. Описание актов, хранящихся в архиве императорской археографической комиссии. Спб., 1907. С. 424—425; ЛАІГ АН СССР. Ф. 114. III. Спр. 24. № 9.

[91] АЗР. Т. 2. № 73. С. 93—95.

[92] Там жа. С. 10—11.

[93] Там жа. С. 13.

[94] ЦДАСА. Ф. 389. Спр. 239. Л. 133.

[95] Там жа.

Палітыка спрыяння развіццю гарадскіх паселішчаў вызначыла і адносіны вярхоўнай улады да той ролі, якую пачалі адыгрываць ва урбанізацыйным працэсе буйныя феадалы, што засноўвалі ў сваіх уладаннях гарады і мястэчкі ў якасці рамесна-гандлёвых цэнтраў. Велікакняжацкая рада, сам «гаспадар» надалі гэтай ініцыятыве пануючага класа, асабліва яго вярхам, законны характар. Але рост гарадскога насельніцтва ў такім кірунку меў для саслоўнага развіцця гараджан свае адмоўныя вынікі. Перш за ўсё ён вельмі ўскладняў саслоўныя пазіцыі гараджан у грамадстве і дзяржаве, таму што феадалы, калі закладвалі гарады, то імкнуліся пераўтварыць іх у частку сваіх уладанняў, а гараджан, відавочна, у сваіх падданых. Гэту акалічнасць ігнаравала вярхоўная ўлада і шырока раздавала феадалам прывілеі на заснаванне гарадоў.

Адзін з такіх прывілеяў 1511 г. дазваляў магнату Сапегу ў яго маёнтку Невяты «над рекою Двиною замок строить и местечко садить и торги устраивать в Полоцком повете» [96]. У 1526 г. уладальніку маёнтка Жупраны было дазволена заснаваць у Біюцішках торгі, дзякуючы чаму вёска пераўтварылася ў мястэчка [97]. Граматай ад 20 снежня 1522 г. вялікі князь дазваляў князю Ю. І. Дубравецкаму, які пабудаваў замак Глуск, пры гэтым замку «у выйменю... место садити и торг и корчмы мети» [98]. У 1530 г. ваявода полацкі атрымаў дазвол у сваім маёнтку Асвея «место осадити и торг ку пожитку своему встановити» [99]. У 1551 г. буйному феадалу Івану Нямірычу было дазволена ва ўладанні Гарадзішча будаваць замак, закладваць горад, мець торг і корчмы [100]. Такі ж дазвол атрымаў магнат Ян Зяновіч «при именью его Мосары над рекою Дисною местечко посадить, торг и корчмы вольные ку пожитку его мети» [101]. У 1561 г. князю Аляксандру Чартарыйскаму быў выдадзены прывілей, па якому яму дазвалялася арганізоўваць «торги в Стволовичах».

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што сам працэс урбанізацыі ва ўмовах феадальнага спосабу вытворчасці спараджаў супярэчнасць паміж гарадскім саслоўем і пануючым класам як на эканамічнай, так і на саслоўнай глебе. Вярхоўная ўлада спрыяла абвастрэнню гэтых супярэчнасцей тым, што ў сваёй унутранай палітыцы сумяшчала меры па ахове інтарэсаў гарадоў з дзеяннямі, якія пераўтваралі нават развіты горад у вотчыну феадала. Адным з мноства таму прыкладаў — падараванне ў 1501 г. князю Фёдару Яраславічу горада Пінска. Першым вынікам гэтага акта вярхоўнай улады для гараджан стаў рост падаткаў і павіннас-

---

[96] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5791. Л. 21.
[97] Там жа. Спр. 5724. Л. 106.
[98] Там жа. Воп. 1. Спр. 131. Л. 5.
[99] ЦДАСА. Ф. 389. Спр. 17. Л. 134.
[100] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5791. Л. 26.
[101] АВАК. Т. VIII. С. 252—253; ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 385. Л. 83.

цей. Калі пінскія мяшчане падалі скаргу на свавольствы князя, у адказ была выдадзена грамата ад 10 чэрвеня 1501 г., у якой «гаспадар» тлумачыў гараджанам, што Пінск падараваны князю «у вотчину» і таму «мает его держати... прибавляючи и расширываючи, как то сам налепей разумеючи»[102]. Нават тады, калі вярхоўная ўлада адстойвала ў горадзе свае пазіцыі, яна ішла на ўступкі феадалам. Так, полацкі прывілей 1511 г. дазваляў баярам захоўваць дворышчы, якія былі набыты іх продкамі, і «на тых двориштчах слуг и люди за собою садити и их судити потому ж». Праўда, пры гэтым, як і ў выпадку з Брэстам, агаворваліся абавязкі тых прыватных падданых, якія збіраліся займацца купецтвам і рамяством. Яны павінны былі плаціць, як і мяшчане, «серебщизну и ордынщчину и иные слушные податки ку пожытку нашому и земскому»[103]. Як далёка заходзіла ўлада феадала над горадам, можна ўжо меркаваць па тым факце, што ўладальнік мог прадаць, «заставіць свой» горад. Так, у 1529 г. магнат Ільініч прадаў трэцюю частку мястэчка Дакудава. Праз 14 гадоў астатняя частка мястэчка была аддадзена ў заставу[104].

Актыўная роля феадалаў ва урбанізацыйным працэсе мела для гарадоў і гараджан дваякае значэнне: у вядомай меры яна спрыяла развіццю таварна-грашовых адносін, росту колькасці гарадскога насельніцтва, яго саслоўнай кансалідацыі. Разам з тым гэта роля асуджала многія гарады на залежнасць ад вузкамясцовых інтарэсаў феадала, садзейнічала росту феадальнага свавольства, перашкаджала складванню адзінага ўнутранага рынка. Такое супярэчлівае ўздзеянне феадалаў на развіццё гарадоў сказвалася ўсё мацней па меры росту іх колькасці. З'яўленне прыватнаўласніцкіх гарадоў абумоўлена было тым, што, як адзначаў Ф. Энгельс, «...патрэбнасці самога дваранства настолькі выраслі і змяніліся, што нават яму сталі неабходны гарады...»[105] Даныя больш позняга часу даюць магчымасць адзначыць значны рост гарадскога насельніцтва ў іх. Так, у 10 невялікіх гарадах — Дзераўна, Грэск, Іўе, Ішкальдзь, Клецк, Койданава, Магільнае, Рубяжэвічы, Сіняўка, Смалявічы — крыніцы за 80—90-я гады XVI ст. пералічваюць 843 дымы, а ў 20—40-я гады XVII ст.— 1417 дымоў[106].

Зацікаўленасць пануючага класа ў развіцці гарадоў, узрастанні іх эканамічнага значэння дыктавала вярхоўнай уладзе неабходнасць адвесці належнае месца гарадскому саслоўю ў заканадаўчых актах. Пачатак такой накіраванасці яе ўнутранай палітыкі дае аб сабе знаць, як адзначалася вышэй, ужо

[102] АЗР. Т. 1. С. 227.
[103] ПГ. Вып. 3. С. 89.
[104] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5724. Л. 194.
[105] Энгельс Ф. О разложении феодализма и возникновении национальных государств // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 21. С. 407.
[106] Alexandrowicz S. Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. T. XXVII. Poznań, 1965.

ў другой палавіне XV ст. У пачатку XVI ст. Статут1529 г. разглядаў гарадское насельніцтва як саслоўнае ў дзяржаве. Гэта вывынікае з першага артыкула радзела I, які вызначаў, што ў далейшым «княжат и панов хоруговных, шляхты и *мещан* карати не хочем, ани винити которого виною пенежною кривавою, нятством, або именья отнятьем, нижли бы первей в суде явным врадом права хрестьянского... были покараны» [107]. У гэтым артыкуле атрымала заканадаўчае замацаванне на агульнадзяржаўным узроўні практыка юрыдычнага вызначэння і забеспячэння вярхоўнай уладай саслоўнай супольнасці гарадского насельніцтва. Яе пачатковым этапам паслужыла падараванне гарадам магдэбургскага права. У даравальных граматах на гэта права прызнавалася саслоўная самастойнасць і вызначалася агульнасць абавязкаў гараджан як саслоўя.

Статут 1529 г., як ужо адзначалася, узяў пад абарону дзяржаўнага заканадаўства гарадскі гандаль [108]. Артыкул, які забараняў феадалам спаганяць паборы з купецтва, павінен быў ліквідаваць самую вострую прычыну пастаяннага незадавальнення гараджан феадальным свавольствам. Аднак землеўласнікі ўвесь час парушалі закон, аб чым неаднаразова пісала ў сваіх скаргах вялікаму князю гарадское купецтва. Для выказвання свайго пратэсту гараджане мелі заканадаўчыя асновы. Сёмы артыкул III раздзела Статута 1529 г. гарантаваў мяшчанам «...заховати при слободах и вольностях, от продков наших и теж от нас даных им» [109]. Артыкул жа дзевяты таго ж раздзела ў вядомай ступені нават ураўноўваў мяшчанскае саслоўе з іншымі саслоўямі феадальнага грамадства, прызнаючы за ім «яко княжата и панове хоруговные, шляхта» права спадчыннасці маёмасці бацькоў [110].

Разам з тым заканадаўства ўжо адрознівала ўнутры гарадского саслоўя кіруючую вярхушку і радавую масу. На гэта, напрыклад, звяртае ўвагу артыкул 14 раздзела III Статута 1529 г. Ён прадугледжваў за збіццё мешчанінам шляхціца два пакаранні: у тым выпадку, калі вінаваты «был радою», г. зн. **з'яўляўся** членам магістрата, ён павінен быў выплаціць вялікі, як на той час, штраф — 12 рублёў; а калі мешчанін, што збіў шляхціца, «не был радою», тады караўся «руки втятьем», г. зн. адсячэннем рукі [111].

Палітыка спрыяння гарадам, асабліва гандлёвай дзейнасці гарадского купецтва, садзейнічала пашырэнню знешніх міжгарадскіх сувязей. Ужо прыводзілася заява палачан аб тым, што іх Полацк не саступаў таму ж Гданьску. Такое параўнанне невыпадковае, таму што яно выяўляла вялікую гандлёвую ролю

---

[107] СВКЛ 1529 г. С. 32.
[108] Там жа. С. 39.
[109] Там жа. С. 49.
[110] Там жа. С. 50.
[111] Там жа. С. 52.

Полацка на канец XV ст., якая была роўная гораду, што меў гадлёвыя сувязі з гарадамі «амаль палавіны еўрапейскага кантынента» [112], — Гданьску. Праз Полацк праходзіў шлях купцоў з Масквы і Цверы ў Царград. Да Полацка сыходзіліся гандлёвыя шляхі з Ноўгарада, Пскова, Вялікіх Лук [113]. Купцы іншых беларускіх гарадоў, у прыватнасці Гродна, Брэста, вялі актыўны гандаль з Варшавай, Познанню, Гнезнам, Гданьскам, Торунем і іншымі гарадамі Польшчы [114].

Аднак сацыяльна-палітычнае становішча, якое склалася ў Вялікім княстве Літоўскім на рубяжы XV—XVI стст. і ў першай палавіне XVI ст., выклікала рэзкае незадавальненне гараджан. Працэс саслоўнай кансалідацыі гарадскога насельніцтва ў маштабе ўсёй дзяржавы заставаўся незавершаным з-за таго, што большая частка гарадскіх паселішчаў належала феадалам і была абмежавана вузкімі інтарэсамі ўладальнікаў [115]. Насельніцтва прыватнаўласніцкіх гарадоў, якое атрымлівала магдэбургскае права, заставалася падданым феадалу і складала як бы саслоўе у саслоўі. Гэта вельмі ўскладняла ўсю эканамічную дзейнасць гараджан, якая пазбаўлялася адзіных норм яе арганізацыі і гарантыі, паколькі вярхоўная ўлада давала феадальнаму ўладальніку права поўнага, бескантрольнага распараджэння сваімі гарадамі. Прычынай незадаволенасці гараджан была і гандлёвая актыўнасць феадалаў, таму што яна пазбаўляла прадпрымальных мяшчан магчымасці гандляваць шматлікімі прадуктамі сельскай гаспадаркі. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, вострыя канфлікты паміж баярамі і мяшчанамі ў Полацку ў канцы XV ст., якія былі выкліканы вывазам баярамі «до Риги жита, круп, попелу и смолы» [116].

Падставай для незадаволенасці гараджан была таксама юрыдычная цераспалосіца ў гарадах (у ёй растваралася саслоўная самастойнасць гарадскога насельніцтва), яе не магла пераадолець вярхоўная ўлада нават у падначаленых ёй гарадах — Полацку, Віцебску, Брэсце, Гродне, Пінску, Мінску і інш. З гэтай прычыны саюз гарадоў з вярхоўнай уладай не стаў ні трывалай, ні дзейснай асновай для сацыяльна-эканамічнай дзейнасці гарадскога насельніцтва. Гэта нараджала шырокую незадаволенасць у гарадскім асяроддзі. Яна ўзмацнялася, набывала самыя розныя праявы па меры таго, як горад станавіўся не толькі цэнтрам рамяства і гандлю, але і галоўным асяродкам у развіцці культуры, асветы, ачагом зараджэння новых поглядаў на жыццё чалавека, грамадства, дзяржавы.

---

[112] Historia Gdańska. T. II. Gdańsk, 1982. S. 94.

[113] Хорошкевич А. Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV — начала XVI в. М., 1980. С. 48—50.

[114] Там жа.

[115] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI - XVIII вв. Мн., 1978.

[116] АЗР. Т. 1. С. 199—200.

Імкненне вярхоўнай улады спалучыць палітыку апекі гарадоў з палітыкай абароны манапольных правоў і прывілеяў пануючага класа абуджала пратэст гараджан супраць канкрэтных праяў феадальнага свавольства. Такія настроі гарадскіх мас найбольш яскрава выказаў у адным са сваіх лістоў 1574 г. аршанскі стараста Ф. Кміта-Чарнабыльскі. Ён рэзка асуджаў тагачаснае грамадства, у якім «богатому так, а убогому сяк... Все кламство, все лож, нет бога! Бий, забий, дери, лупи — то найлепший пан и то рыцар...» [117]

Адной з форм супраціўлення гараджан феадальнаму свавольству служылі ў разглядаемы час скаргі гарадоў, а дакладней органаў іх самакіравання — рады, вялікаму князю літоўскаму. У гэтых чалабітных пералічваліся супрацьзаконныя дзеянні феадалаў, адміністрацыйных асоб, падкрэслівалася шкода, нанесеная гораду свавольствамі. Крыніцы паведамляюць аб вялікай колькасці падобнага роду допісаў. Вярхоўная ўлада выдавала па гэтых скаргах вярдыкты, у якіх асуджала і забараняла беззаконнасць. Але ўсё заставалася па-ранейшаму. З гэтымі вялікакняжацкімі пастановамі ніхто не лічыўся, а больш рашучыя меры ўрад не ўжываў. Да таго ж пратэсты гараджан былі разрозненымі, кожны горад абмяжоўваўся скаргамі толькі на тыя дзеянні феадалаў, што наносілі ўрон толькі яму. Аб салідарным выступленні гарадоў ніхто са скаржнікаў і не думаў. Застаючыся, так сказаць, у рамках законнасці, скаргі гарадскіх улад калі-нікалі мелі поспех. У асобных выпадках пасля вялікакняжацкіх грамат свавольствы феадалаў на час спыняліся. Але ж у цэлым гарады Вялікага княства заставаліся пастаянным аб'ектам рабавання, насілля, свавольства феадалаў.

Наколькі вялікімі былі страты гараджан, якія станавіліся ахвярамі такога становішча ў дзяржаве, можна меркаваць па грамаце вялікага князя літоўскага ад 8 верасня 1540 г. Тэкст яе пачынаецца са звароту да ваяводы: «Жаловались на тебя войт и все мещане места Витебского на то, что им от тебя кривды и тяжкости великие деются, новины им вводишь... когда в Ригу они едут, берешь с них мыто с каждого струга... А кто из них поедет вверх стругом или челном, приказываеш на них мыто брать в Лужосне, Усвятах; и теж, когда рыбу с Верху привозять в город, велишь от той рыбы с них мыто брать». Далей згадваецца рад іншых пабораў і забарон, што ўводзіў ваявода, аб якіх раней віцябляне і не чулі. Грамата заканчваецца загадам спыніць свавольствы пад пагрозай спагнання з ваяводы грошай, на якія ён абрабаваў мяшчан [118]. Падобны змест мелі вялікакняжацкія граматы 1516, 1540, 1557 гг., што выйшлі з дзяржаўнай канцылярыі ў адказ на скаргі жыхароў Гродна, Мазыра і іншых

---

[117] Коршунаў А. Ф. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975. С. 86.

[118] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 4960. Т. 2. Л. 512.

гарадоў[119]. Аднак далёка не заўсёды вярхоўная ўлада падтрымлівала гараджан, асабліва калі справа тычылася пабораў і падаткаў, якія самачынна накладалі феадалы-ўладальнікі горада.

Пастаянным прадметам скаргаў былі феадальныя юрыдыкі. Галоўнай мэтай, якой дамагаліся скаржнікі, было прымусіць юрысдычан падзяліць з мяшчанамі падатковы цяжар. Па гэтым пытанні вярхоўная ўлада займала бок гараджан і задавальняла прэтэнзіі «месцкай» рады. Практычна амаль паўсюдна дзейнічаў прынцып, па якім гараджанін-рамеснік ці гандляр незалежна ад юрыдычнай падначаленасці выплачваў дзяржаўныя падаткі. Такое становішча, безумоўна, змяншала даходы ўладальнікаў прыватных юрыдык у гарадах.

Адчувальны ўрон феадалам прычыняў горад тым, што хаваў за сваімі сценамі сялян, якія ўцякалі з вёсак ад прыгоннай няволі. З'ява гэта стала значнай ужо на пачатку XVI ст. Так, захавалася сведчанне, датаванае 1526 г., у якім паведамлялася, што «место Могилев засели люди прихожие: селяне с Княжич, Головчина, з сел многих»[120]. Пад гэтым жа годам у іншым дакуменце ёсць запіс, што «люди с волости ушли в Гродно и торгом занялись, а земли отчизны свои не держат и не пашут»[121]. У 1530 г. у велікакняжацкай грамаце адзначаецца, што з Магілёўскай воласці «многии люди... с отчизн своих разышлися и мешкают по местам»[122]. У тым жа годзе многія феадалы Полацкага ваяводства заручыліся велікакняжацкімі граматамі, якія дазвалялі пошук і вяртанне сваіх прыгонных, што ўцякалі ў Полацк. Гарадскія ўлады насуперак спробам феадалаў вярнуць сялян-уцекачоў перахоўвалі іх і не выдавалі землеўласніку. Яшчэ ў 1499 г. полацкія баяры скардзіліся вялікаму князю, што «хлопье их недовольное и робы и иные люди, в пенезях будучи, втекают до войта и мещан и они их не выдают»[123]. Значныя страты, што ўзнікалі ад сялянскіх уцёкаў, падштурхоўвалі феадалаў на прыняцце заканадаўчых актаў, якія б спынілі гэту з'яву. У выніку сейм 1447 г. прыняў пастанову аб 10-гадовым тэрміне пошуку ўцекачоў, а таксама загадаў мясцовым уладам, у тым ліку і гарадскім, садзейнічаць вяртанню прыгонных сялян «сваім» панам[124]. Але гарады працягвалі аказваць дапамогу ўцекачам і ўсяляк перашкаджалі выдачы іх ранейшым уладальнікам. Уцёкі як пастаянную рысу сацыяльнага жыцця Вялікага княства Літоўскага засведчылі заканадаўчыя акты гэтай дзяржавы. Так, калі Статут 1529 г. прадугледжваў толькі адну

---

[119] ЛАІГ АН СССР. Ф. 114. III. Спр. 24; ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 4871. Л. 22.

[120] Коршунаў А. Ф. Помнікі... С. 114.

[121] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. Вильно, 1881. С. 69.

[122] ЦДАСА. Ф. 389. Спр. 17. Л. 90 адв.

[123] ПГ. Вып. 1. № 235.

[124] Działyński W. Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841. S. 429—430.

сітуацыю — перасяленне ў горад чалядніка, які быў бы выгнаны гаспадаром у галодны год, то Статут 1566 г. вылучаў тры групы ўцекачоў у гарады: слуг шляхецкіх, людзей адчызных, г. зн. прыгонных, і чэлядзь нявольную[125]. Наколькі масавымі былі ўцёкі ў гарады, сведчыць рашэнне вальнага сейма 1641 г., у якім адзначалася, што ў Вялікім княстве Літоўскім «шляхецкае саслоўе мае вялікі ўрон з-за таго, што гарады магдэбургскага права не выдаюць сялян-уцекачоў»[126]. Аднак канфлікты паміж гарадамі і феадаламі на гэтай глебе заставаліся паасобнымі, ізаляванымі эпізодамі, якія не дасягнулі ўзроўню грамадскага руху як у маштабе ўсяго Вялікага княства, так і ў асобных рэгіёнах — Беларусі, Літве, Украіне.

Частымі былі выпадкі, калі вярхоўная ўлада ўмешвалася ў канфлікты паміж гараджанамі і феадаламі з тым, каб не дапусціць іх абвастрэння. Так было, напрыклад, у Полацку ў 1456 г., калі вялікі князь загадаў гораду, «абы бояре и мещане и дворане городские и все поспольство в згоде межи собою были, а дела бы наши городские вси згодою посполу справляли по давному». Але прывесці палачан да пакорнасці было справай не простай: гараджане стварылі свой орган самакіравання, аб чым сведчыць тая ж грамата, дзе вялікі князь адзначаў: «А без бояр мещаном и дворяном городским и черни соймов не надо бе чинити»[127].

Гарады, якія атрымалі магдэбургскае права, ужо ў першай палавіне XVI ст. настойвалі перад вярхоўнай уладай, каб пад гарадскую юрысдыкцыю было перададзена ўсё насельніцтва горада. Але, як вызначалася вышэй, урад абмежаваўся паўмерамі. Ён устанавіў прынцып, па якому юрысдычане-рамеснікі і гандляры павінны былі толькі плаціць падаткі ў казну разам з мяшчанамі магістрацкай юрысдыкцыі, але гарадской радзе не падначальваліся.

Важна мець на ўвазе тое, што гарады Беларусі выказвалі свае прэтэнзіі на падначаленне юрыдык, як імкненне аднавіць нормы гарадскога права, што былі парушаны феадаламі. Такога ўзроўню саслоўнай свядомасці дасягнулі гараджане не толькі буйных, але і невялікіх гарадоў. Аб гэтым сведчыць аргументацыя рады горада Ваўкавыска ў прыведзенай вышэй скарзе на баяр Нямчынавічаў.

Сацыяльна-палітычнае становішча ў гарадах Беларусі рэзка абвастрылася ў сувязі з насаджэннем пры актыўнай падтрымцы вярхоўнай улады каталіцызму. У 1505 г. вялікі князь літоўскі дазволіў каталіцкім манахам бернардзінцам судзіць і караць у Полацку і іншых гарадах адступнікаў ад каталіцкай веры. Гра-

---

[125] СВКЛ 1529 г. С. 118; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. // Временник имп. Моск. об-ва истории и древностей российских. Вып. III. М., 1852. С. 29.
[126] Volumina legum. F. IV. Petersburg, 1859. S. 14.
[127] АЗР. Т. 1. С. 73.

маты на магдэбургскае права ў XVI ст. прадугледжвалі, каб у складзе гарадской рады не менш палавіны агульнай колькасці бурмістраў, радцаў, лаўнікаў было з католікаў. Рэлігійная барацьба ўзмацняла размежаванне ўнутры гарадскога саслоўя, па меры таго як сярод заможнай часткі гараджан павялічвалася колькасць прыняўшых каталіцтва.

Сведчаннем новых павеваў з'явілася распаўсюджанне ў Беларусі рэфармацыйных ідэй. Наглядны ўплыў рэфармацыі назіраецца ў Полацку. Тут лютэранства займела нямала прыхільнікаў, бо калі ў горад увайшлі ў лютым 1563 г. рускія войскі, «...софейскии протопоп и со священницы з братией и все градские и посадцкие священницы благодарственне испущающие гласы, избавльшеся и свободившеся от Люторского насилования, что те Люторы отпали святые православные веры, церкви разорили и иконам не поклонялися и поругание чинили великое»[128]. Як адзначаў летапісец, у ліку прыхільнікаў рэфармацыі былі «не токмо мирстии люди, но и игумены и чернцы и попы и диаконы Греческого закона...»[129] Іншая крыніца, што датычыцца горада Віцебска, пад 1562 годам паведамляе аб абшчыне кальвіністаў, у якую ўвайшлі «бурмистры, радцы и мещане тамошние», а сярод плебейскай часткі гараджан стварыліся абшчыны, блізкія да анабаптызму[130]. Такім чынам, у часы Скарыны склалася апазіцыя гараджан, якая праявіла сябе як у эканамічным, так і сацыяльным, духоўным жыцці тагачаснага грамадства. Хоць яна и не перарасла ў шырокі рух, яе ўплыў жывіў перадавую грамадскую думку, садзейнічаў яе станаўленню і развіццю, яскравым сведчаннем чаго з'яўляюцца погляды выдатнага сына беларускага народа Ф. Скарыны.

У канцы XV — першай палавіне XVI ст. беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Дзяржава гэта з'явілася на карце Еўропы ў другой палавіне XIV ст. Стваралася ж яна на працягу больш ста гадоў — недзе з сярэдзіны XIII па 60-я гады XIV ст.

Што ўяўляла сабой гэта дзяржаўнае ўтварэнне?

Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — адна з дзяржаў унітарнага тыпу, якія спараджаліся гістарычнымі ўмовамі сярэдневякоўя. Калі ў дафеадальны перыяд палітыка захопаў была адзінай у вырашэнні міждзяржаўных, міжэтнічных супярэчнасцей, то феадалізм нарадзіў і дагаворныя формы вырашэння палітычных праблем. Так, 1397 год стаў годам заключэння Кальмарскай уніі, што аб'яднала ў адзіным дзяржаўным арганізме для вырашэння ўнутраных праблем і прадухілення знешняй пагрозы тры скандынаўскія краіны — Данію, Швецыю,

---

[128] ПСРЛ. Т. 29. М., 1965. С. 319.
[129] Там жа. С. 302.
[130] Русская историческая библиотека. Т. 7. С. 117—118.

Нарвегію [131]. Між іншым, і Кіеўская Русь XII ст. была не чым іншым, як, калі карыстацца вызначэннем В. Ключэўскага, «земскай генеалагічнай федэрацыяй» [132]. Федэрацыяй, якая, па назіраннях Л. Чарапніна, уяўляла сабой феадальна-іерархічную палітычную структуру, што была аформлена радам дагаворных адносін паміж князямі на пачатках сюзерэнітэту-васалітэту [133].

У XIII ст. на тэрыторыі Беларусі існавала каля 20 удзельных княстваў [134]. То былі асколкі некалі дастаткова моцных княстваў-дзяржаў, верхаводзіла сярод якіх Полацкая зямля [135], якая першай вылучылася са складу Кіеўскай Русі і для сцвярджэння сваёй незалежнасці паставіла, следам за Кіевам і Ноўгарадам Вялікім, трэці на Русі храм Сафіі. На думку аўтарытэтнага даследчыка гісторыі старажытнарускай дзяржавы Б. Рыбакова, феадальныя княствы, якія ўтвараліся ў выніку распаду Кіеўскай Русі, былі самастойнымі дзяржавамі. Князі, што стаялі на іх чале, валодалі ўсімі правамі суверэнных валадароў: распараджаліся ўнутранымі справамі, мелі права даваць землі сваім васалам, аб'яўляць войны і падпісваць пагадненні, заключаць любыя саюзы [136].

Маючы вопыт федэратыўнага існавання ў рамках буйных дзяржаўных утварэнняў, якой была Кіеўская Русь, кіруючыя вярхі беларускіх зямель, у прыватнасці найбольш буйных — Полацкай і Віцебскай, самастойнасці якіх пагражала агрэсія крыжакоў, і пайшлі на пагадненне, саюз з літоўскімі князямі. Аб існаванні дагавора («рада») паміж названымі бакамі гаворыць тэксталагічны аналіз земскіх прывілеяў Полацкай (1511 г.) і Віцебскай (1503 г.) землям [137]. Вызначана, што гэтыя прывілеі ў сваёй старажытнай частцы ўзыходзяць да даравальных грамат Вітаўта 90-х гадоў XIV ст., якія ў сваю чаргу генетычна звязаны з першымі дагаворамі мясцовага баярства з літоўскімі князямі [138].

Як вядома, феадальныя княствы-дзяржавы, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, менавіта наяўнай у іх з часоў Кіеўскай Русі

---

[131] Кан А. С. История Скандинавских стран (Дания, Норвегия, Швеция). М., 1980. С. 43—45.

[132] Ключевский В. О. Курс русской истории. Ч. 1. М., 1987. С. 210.

[133] Черепнин Л. В. Пути и формы политического развития русских земель XII — начала XIII в. // Польша и Русь. М., 1974. С. 30.

[134] Леонтович Ф. И. Очерки истории литовско-русского права. Вып. 1. Образование территории Литовского государства. Спб., 1893.

[135] Тэрмін «Полацкая зямля» належыць летапісцам. У разуменні летапісцаў «зямля» ўяўляла сабой сукупнасць удзелаў, якія былі score эканамічна, палітычна і культурна звязаны з Полацкам і адміністрацыйна яму падпарадкаваны // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975. С. 203.

[136] Рыбаков Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982. С. 475.

[137] АЗР. Т. 1. № 70, 204.

[138] Якубовский И. В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // ЖМНП. 1903. № 6; Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 320.

развітой эканомікай, прававой сістэмай і сістэмай улады, культуры ўдыхвалі свае багатыя традыцыі і новай дзяржаве, робячы яе Вялікім княствам. У той жа час, страчваючы часткова ў выніку аб'яднання свой суверэнітэт, беларускія землі тым не менш атрымалі права і на далейшае самаразвіццё і самасцвярджэнне, а таксама пэўную аўтаномію.

Магутная «руская» аснова Вялікага княства (амаль дзевяць дзесятых яго тэрыторыі) [139] прадвызначала славянскі характар і накіраванасць палітыкі гэтай дзяржавы. Невыпадкова ў XIV ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае выступала на гістарычнай арэне з праграмай збірання рускіх зямель, аб'яднаных у свой час у Старажытнарускай дзяржаве. Пачынальнікам правядзення гэтай праграмы і яе паслядоўным праваднікам быў літоўскі князь Альгерд. Паказальна ўжо тое, што першую палавіну жыцця Альгерд пражыў у Полацку (да 1345 г. ён быў жанаты на віцебскай княгіні Марыі Яраслаўне), дзе прыняў праваслаўе (аб'яднальнік праваслаўных рускіх зямель павінен быў быць праваслаўным!) і спрабаваў падпарадкаваць сваёй уладзе Пскоў [140]. Калі ж Альгерд стаў вялікім князем літоўскім, ён з поспехам працягваў ажыццяўляць сваю «агульнарускую» праграму. Пры ім робяцца спробы авалодаць Ноўгарадам Вялікім, далучаюцца да Вялікага княства Валынь (1352 г.), Бранск і Смаленск (1357 г.), Кіеў (1362 г.), Падолле (1363—1364 гг.), Чарнігава-Северская зямля (канец 60-х — пачатак 70-х гадоў XIV ст.) [141].

Аднак у асобе Ягайлы, свайго пераемніка на княжацкім стале, Альгерд не знайшоў пераемніка ў ажыццяўленні праграмы збірання ўсіх усходнеславянскіх земляў вакол Вільні. Сваю ролю, на наш погляд, тут адыграла палітыка Рыма, які баяўся стварэння магутнага праваслаўнага бастыёна на ўсходзе Еўропы. Актывізацыя захопніцкай палітыкі Ордэна падштурхоўвала Вялікае княства да саюза з Польшчай. Да таго ж у паслякулікоўскі перыяд набіраючы моцы маскоўскі князь робіць спробу вярнуць у склад сваёй дзяржавы рад былых зямель Старажытнай Русі, якія на той час знаходзіліся ў межах Вялікага княства. Аб гэтым сведчыць «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»: «...Дмитрий, великий князь московский... умыслил под Литвою Киевское, Витебское и Полоцкое князство войною доходити, обецуючи... Литву всю огнём и мечем звоевати...» [142] Гэта акалічнасць, безумоўна, таксама прымушала Ягайлу кінуць свой позірк на захад — у бок Польшчы. І калі ў сярэдзіне 80-х гадоў XIV ст. вызначыліся два варыянты жаніцьбы Ягайлы — на поль-

---

139 Papee F. Polska i Litwa na przełomie wieków średnich. T. 1. Kraków, 1904. S. 23.

140 Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963. С. 39—40.

141 Там жа.

142 ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 60.

скай каралеве Ядвізе ці дачцы Дзмітрыя Данскога, вялікі князь прыняў першы варыянт. Такім чынам, Польшча дала згоду аддаць каралеўскі трон літоўскаму князю ў абмен на каталіцкую Літву з далейшым прыцэлам на падпарадкаванне польскім феадалам і акаталічванне беларускіх, украінскіх і рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

1387 год, у які Ягайла стаў Уладзіславам, можна лічыць годам змянення сацыяльна-прававога становішча беларускіх зямель у Вялікім княстве. Грамата «караля польскага, вялікага князя літоўскага і спадкаемца Русі» (так Уладзіслава-Ягайлу велічалі афіцыйныя дакументы) ад 20 лютага 1387 г. аб прывілеях феадалам за пераход у каталіцкую веру нараджала «рускую» праблему ў Вялікім княстве Літоўскім. Паводле вышэйназванай граматы, феадальная знаць каталіцкага веравызнання, якая была ў большасці літоўскага паходжання, атрымлівала неабмежаваныя правы валодання і распараджэння сваімі вотчынамі, а таксама вызвалялася ад выканання рада дзяржаўных павіннасцей. На праваслаўных феадалаў, што вялі сваю радаслоўную з беларускіх, украінскіх, рускіх зямель, гэты прывілей не распаўсюджваўся [143]. Натуральна, гэтакі дыскрымінацыйны для знаці ўсходнеславянскага паходжання акт выклікаў у іх асяроддзі рэзкае незадавальненне палітыкай вярхоўнай улады Вялікага княства і спарадзіў сепаратысцкія «антылітоўскія» настроі.

З гэтага часу (з канца XIV ст.) т. зв. рускае пытанне не аднойчы ўздымалася і выкарыстоўвалася рознымі палітычнымі дзеячамі і групоўкамі. Першым скарыстаў яго стрыечны брат Ягайлы Вітаўт Кейстутавіч, які ў 90-х гадах XIV ст. выступіў з праграмай стварэння самастойнага Руска-Літоўскага каралеўства, якое б супрацьстаяла, з аднаго боку, Польшчы, а з другога — Маскве [144]. Унутры дзяржавы для ажыццяўлення сваёй праграмы Вітаўт узяў у саюзнікі апазіцыйную каталіцкай экспансіі Польшчы праваслаўную знаць, за межамі Вялікага княства — Ордэн, якому было выгадна пагаршэнне адносін паміж княствам і Польскай дзяржавай, а таксама татарскага эмігранта, ранейшага залатаардынскага хана Тахтамыша. З Ордэнам вясной 1398 г. на востраве Салін было заключана пагадненне, па якому Вітаўт абвяшчаўся «каралём Літвы і Русі» [145]. Аб сувязях жа Вітаўта з Тахтамышам, які выдаў літоўскаму князю ярлык на кіраванне ўсімі рускімі землямі, чытаем у «Хранографе»: «Витовт рече: Я тебя [Тахтамыша] посажю на Орде и на Сараи, и на Болгарех, и на Азтархан, и на Озове, и на Заяицьской Орде, а ты мене посади на Московском великом княжении... и на Новго-

---

[143] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 101—102.
[144] Греков И. Б. Очерки... С. 94.
[145] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 47.

роде Великом, и на Пскове, а Тферь и Рязань моа и есть, а Немцы и сам возму» [146].

Аднак гэтым далёкасяжным задумам вялікага князя літоўскага здзейсніцца не ўдалося. 12 жніўня 1399 г. на рацэ Ворксла адбылася рашаючая бітва паміж кааліцыяй Вітаўт—Тахтамыш і залатаардынскім войскам на чале з Цімурам-Кутлуем і Эдыгеем, у якой «попусти бог татаром». Армія Вітаўта была амаль цалкам знішчана, сам жа вялікі князь «побеже в мале дружине» [147].

Паражэнне на Ворксле мела сваім вынікам дагавор паміж Вялікім княствам і Польшчай 1401 г., які пацвярджаў «польска-літоўскую» унію, што была заключана 16 гадоў перад гэтым у Крэве.

Акрамя таго, у працяг прывілея 1387 г. дагавор 1401 г. зноў жа супрацьпастаўляў феадалаў каталіцкага веравызнання, выхадцаў галоўным чынам з літоўскіх зямель, «рускім» праваслаўным. Клін, што быў забіты ва ўнутранае адзінства унітарнага Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага прывілеем 1387 г., яшчэ глыбей замацоўваўся актам 1401 г.

Названыя дакументы падрыхтавалі прыняцце пастановы Гарадзельскага сейма 1413 г. аб уніі паміж Вялікім княствам і Польшчай, паводле якой праваслаўная знаць княства ставілася практычна ў дыскрымінацыйнае становішча ў гэтай этнічна неаднароднай дзяржаве. Параграф трэці Гарадзельскай пастановы, працягваючы прывілеі 1387 і 1401 гг., устанаўліваў, што толькі «каталікі, Рымскай царкве падуладныя», валодаюць і карыстаюцца эканамічнымі і палітычнымі прывілеямі і падараваннямі пануючаму класу з боку вярхоўнай улады. У § 6 пацвярджалася забарона на шлюбы паміж каталікамі і праваслаўнымі. Асаблівае значэнне ў далейшай унутрыпалітычнай барацьбе ў Вялікім княстве меў § 9 Гарадзельскага прывілею, па якім на «дастоінства, месцы і пасады» назначаліся «толькі каталіцкай веры прыхільнікі і падуладныя святой Рымскай царкве. Таксама і ўсе пастаянныя ўрады земскія... надаюцца толькі спавядальнікам хрысціянскай каталіцкай веры і да савета нашага (велікакняжацкай рады) — допускаюцца і ў ім прысутнічаюць, калі абмякоўваюцца пытанні аб дзяржаўным дабрабыце, таму што часта розніца ў веравызнаннях прыводзіць да розніцы ў пазіцыях і аказваюцца цераз гэта вядомымі такія рашэнні, якія неабходна ў тайне захоўваць». Параграфы 11 і 12 пазбаўлялі праваслаўных феадалаў права выбрання вялікага князя, якім зноў жа карысталіся толькі «паны і шляхціцы зямлі літоўскай, прыхільнікі хрысціянскай рэлігіі, рымскай царкве падуладныя, не схізматыкі ці іншыя паганыя» [148].

---

[146] ПСРЛ. Т. 22, ч. 1. Спб., 1911. С. 423.
[147] Там жа. Т. 35. М., 1980. С. 31.
[148] БЭФ. Т. 1. С. 115—118.

Тым самым Гарадзельскі прывілей быў ужо далёка не клінам, укалочаным паміж дзвюма часткамі Вялікага княства, а пагрозлівым дынамітам, закладзеным пад унітарнае адзінства гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Узарвалася бомба ў 30-я гады XV ст.— пад час барацьбы за велікакняжацкі стол, які застаўся пасля смерці Вітаўта свабодным.

У 1430 г. вялікім князем літоўскім становіцца малодшы брат Ягайлы Свідрыгайла Альгердавіч, які ў свой час выступаў супернікам Вітаўта. Прычым, што цікава, барацьбу супраць колішняга «гаспадара» Вялікага княства ён вёў, выкарыстоўваючы праграму Вітаўта 90-х гадоў XIV ст. — 20-х гадоў XV ст. — праграму стварэння Літоўска-Рускай дзяржавы з апорай на праваслаўныя элементы Вялікага княства. Як заўважаў гісторык XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі, Свідрыгайла змагаўся супраць Вітаўта, «абапіраючыся на Русь, што яму спачувала» [149].

Свідрыгайла і на вялікае княжанне ўзышоў пры падтрымцы князёў і баяр беларускіх, украінскіх, рускіх зямель Вялікага княства. Таму няма нічога дзіўнага, што новапасаджаны «гаспадар» пачаў абапірацца на гэтыя сілы ў кіраванні дзяржавай. Пры ім праваслаўная арыстакратыя «рускіх» абласцей княства займае вышэйшыя пасады, засядае ў «вернай» велікакняжацкай радзе (князі Друцкія-Красныя, Баба-Карсаковічы, Хадкевічы, Палазовічы і інш.) [150]. Яны ж прымаюць удзел у вырашэнні самых адказных дзяржаўных пытанняў, такіх, як, напрыклад, заключэнне абаронча-наступальнага саюза з Ордэнам супраць Польшчы [151]. І гэта нягледзячы на папярэджанні Гарадзельскай пастановы, што розніца ў веравызнаннях вядзе да палітычных супярэчнасцей. На самай жа справе не розніца ў веры вяла да супярэчнасцей у палітыцы. Гэтыя супярэчнасці нараджала імкненне да манапольнага валодання найвышэйшымі дзяржаўнымі пасадамі, якія давалі толькі аднаму крылу феадальнай знаці Вялікага княства Літоўскага права на ўладу і багацце.

Узрастанне палітычнай ролі феадалаў беларускага, украінскага, рускага паходжання, выпаданне з рук літоўскай арыстакратыі неабмежаванай улады прывяло да змовы апошняй супраць Свідрыгайлы Альгердавіча. У ноч на 1 верасня 1432 г. адбыўся замах на вялікага князя. Змоўшчыкі пасадзілі на велікакняжацкі стол брата Вітаўта Жыгімонта, а Свідрыгайла ратаваўся ўцёкамі ў Полацк. Горад гэты, які ўвесь час знаходзіўся

[149] Греков И. Б. Очерки ... С. 84.

[150] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 66—69; Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. II. Рада Великого княжества Литовского (1492—1569). Томск, 1912. С. 59.

[151] Любавский М. К. Очерк... С. 63. Тут жа М. К. Любаўскі прыводзіць вытрымку з ліста кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага кардыналу Юліяну Цэзарыні, які датаваны студзенем 1432 г., аб тым, што Свідрыгайла ва ўсім слухаецца рускіх схізматыкаў і параздаваў ім усе галоўныя замкі і пасады, чаго не было пры нябожчыку Вітаўту.

ў гушчы палітычных падзей, становіцца сталіцай Вялікага княства Рускага. Існаванне менавіта такога дзяржаўнага ўтварэння адзначае летапісец: «Литва же посадиша великого князя Жигимонта Кесьтутевичь на великое княжение на Вилни и на Троцех месяца сентября 1 день. И приде Швитригайло на Полотескь и на Смоленскь, и князи руськыи и бояре посадиша князя Швитрыгайла на великое княжение на Руское»[152]. Княства гэта на аснове дзяржаўнай аўтаноміі Полацкай, Віцебскай, Смаленскай зямель у складзе Вялікага княства існавала 4 гады. Намінальна яно заняпала ў выніку ваеннага паражэння войск Свідрыгайлы ў бітве пад Вількамірам летам 1436 г., але фактычна Вялікае княства Рускае спыніла сваё існаванне ў выніку авантурных, неабачлівых дзеянняў «князя рускага», які не ў моцы быў адолець тонкай дыпламатыі «вялікага князя на Вільні і Троках», скаардынаванай з польскім каралём. Для таго каб выбіць у Свідрыгайлы апору на праваслаўных феадалаў «рускіх» зямель, 15 кастрычніка 1432 г. каралём Польшчы Уладзіславам-Ягайлам быў выдадзены са згоды Жыгімонта Кейстутавіча прывілей, па якім прадстаўнікі знакамітых родаў беларускага, украінскага і рускага паходжання праваслаўнага веравызнання ўраўноўваліся ў некаторых правах з феадаламі-католікамі[153]. Праз год і сем месяцаў, 6 мая 1434 г., быў абнародаваны аналагічны прывілей, які ўжо паходзіў толькі ад аднаго вялікага князя Жыгімонта. Неабходнасць яго выдання тлумачыцца ў прэамбуле тым, што «гаспадар» жадае «нашы землі Літоўскія і Рускія прывесці ў парадак і справы іх давесці да найлепшага стану... каб паміж народамі гэтых зямель не было ніякага разладу ці непатрэбнага ўрону... каб яны карысталіся роўнымі міласцямі і тым больш горача і настойліва імкнуліся заўсёды да адзінства душ і дапамагалі захаванню найшчаслівейшага стану гэтых зямель»[154]. Восем пунктаў, што ішлі ўслед за гэтай прэамбулай, даравалі «рускім» князям і баярам права свабоднага распараджэння спадчыннымі маёнткамі па прыкладу «іншых месц хрысціянскіх»; права атрымання ў спадчыну зямельных валоданняў жонкамі і дзецьмі; вызвалялі княскіх і баярскіх падданых ад асобных дзяржаўных падаткаў і павіннасцей; дазвалялі мець ва ўжытку праваслаўнай шляхце нароўні з феадаламі-католікамі гербы і знакі шляхецтва[155].

Прывілей 1434 г., па якім «руская» знаць дамаглася саслоўнай роўнасці з літоўскай арыстакратыяй,— безумоўная перамога феадалаў беларускіх зямель у барацьбе за раўнапраўе ў Вялікім княстве. Але то была перамога не канчатковая. Адно з галоўных пытанняў — удзел праваслаўных беларускіх, украінскіх і рускіх феадалаў у кіраванні дзяржавай — гэтай граматай Жы-

[152] ПСРЛ. Т. 35. С. 57.
[153] Любавский М. К. Очерк... С. 64.
[154] БЭФ. Т. 1. С. 119—120.
[155] Там жа. С. 119—121.

гімонта Кейстутавіча не вырашалася. Параграф 9 Гарадзельскай пастановы, паводле якога праваслаўныя феадалы не мелі права займаць найвышэйшыя дзяржаўныя пасады і засядаць у гаспадарскай радзе, не быў адменены. Менавіта ў сувязі з гэтым і працягвалася барацьба феадалаў «рускіх», усходнеславянскіх зямель Вялікага княства Літоўскага і Рускага за палітычнае раўнапраўе ў дзяржаве.

Гаспадарская рада — найвышэйшы ўрадавы орган Вялікага княства Літоўскага на першых парах свайго існавання выступала ў якасці велікакняжацкага савета, які не меў пэўнага складу і дакладна акрэсленых функцый [156]. Аднак па меры ўзмацнення феадальнай знаці ў княстве значэнне рады ў справе кіравання дзяржавай павялічвалася. Яе адасабленне ў самастойны, асобны ад вялікага князя орган улады адбылося ў гады праўлення Казіміра. Паны-рада практычна кіравала дзяржавай, калі ў 1440 г. віленскі стол заняў 13-гадовы князь. Рада выступала таксама як вышэйшы ўрадавы орган і на час працяглых адлучак Казіміра ў Вялікім княстве пасля таго, як ён у 1447 г. атрымаў польскую карону. Рабіць вывад аб значна ўзмацнеўшым значэнні рады ў гэты час можна ўжо на падставе таго, што адзін з прадстаўнікоў велікакняжацкай фаміліі станавіўся «гаспадаром» часцей за ўсё толькі са згоды паноў радных. Пацверджанне таму знаходзім у сведчаннях летапісцаў. Як паведамляе «Хроніка Быхаўца», вялікі князь літоўскі Казімір ў 1486 г. звярнуўся з просьбай да членаў рады, каб «панове-рада ... взяли соби господарем на княство Литовское сына его среднего Аляксандра-королевича. И панове-рада, видечи господара своего так покорне просячи... на то призволили, по животе его взяти на Великое княство Литовское сына его королевича Аляксандра» [157].

Пасля ўступлення на прастол у 1492 г. удзячны вялікі князь Аляксандр выдаў прывілей, паводле якога «гаспадар» быў абавязаны весці дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі толькі па ўзгадненню з панамі раднымі; у справах унутраных сваёй воляй нічога не адмяняць, што было вырашана разам з радаю; без згоды яе членаў не рабіць прызначэнні на дзяржаўныя пасады ці змяшчэнні з іх; распараджацца фінансамі толькі пад кантролем рады [158].

З вышэйсказанага можна меркаваць, наколькі вялікай была дзяржаўная кампетэнцыя рады. Прымаць удзел у яе рабоце азначала стаяць ля штурвала дзяржаўнай улады Вялікага княства. Засядаць у радзе разам з літоўскай арыстакратыяй значыла для беларускіх феадалаў падзяліць з ёю ўладу ў дзяржаве.

Ці існавала прадстаўніцтва феадалаў «рускіх» зямель княства ў найвышэйшым органе дзяржаўнай улады ў другой палавіне

---

[156] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 342—346.
[157] ПСРЛ. Т. 32. С. 163.
[158] Любавский М. К. Очерк... С. 307—312.

XV — першай палавіне XVI ст.? Перш чым даць адказ на гэта пытанне, трэба падрабязней спыніцца на характарыстыцы колькаснага і, так сказаць, якаснага складу гаспадарскай рады. Сярод паноў радных знаходзіліся каталіцкія епіскапы, ваяводы і кашталяны віленскі і трокскі, жамойцкі стараста, канцлер, падскарбіі земскі і дворны, маршалкі і іншыя шматлікія асобы дзяржаўнага апарату Вялікага княства Літоўскага.

Па падліках І. Маліноўскага, поўны склад рады да адміністрацыйнай рэформы 1565—1566 гг. налічваў прыблізна 45 чалавек, а перад Люблінскай уніяй — 65 (з улікам новых ваяводскіх і кашталянскіх пасад і павелічэннем колькасці маршалкаў) [159]. Настолькі ўзрослы склад рады садзейнічаў таму, што з яе вылучылася група найбольш уплывовых асоб, якая стварыла т. зв. тайную раду. Складалася яна з каталіцкіх епіскапаў, ваяводаў, кашталянаў, старасты жамойцкага і луцкага, вялікага гетмана і канцлера, маршалкаў земскіх і дворных, падскарбія земскага. Асобы гэтыя называліся старшымі панамі раднымі. Такое прадстаўніцтва ў тайнай радзе аформілася ў другой чвэрці XVI ст. У колькасных адносінах яна не перавышала 15 чалавек [160]. Але ў поўным складзе як тайная, так і ўся рада ніколі не засядалі. На самых шматлюдных паседжаннях тайнай рады збіралася 7—10, вельмі рэдка больш за 12 яе членаў. У большасці выпадкаў 5—6, іншы раз 3—4, а то і 2 члены рады вырашалі справы ад яе імя [161]. Гэтымі членамі, як правіла, былі віленскі каталіцкі епіскап, віленскі і трокскі ваявода і кашталян, якія былі прыбліжаныя да вялікага князя. Менавіта гэта ядро тайнай, т. зв. пярэдняй рады, верхаводзіла ў найвышэйшым органе ўлады Вялікага княства. Найбольш дакладна кіруючую ролю вышэйшых службовых асоб паказаў невядомы аўтар сярэдзіны XVI ст. у сваім апісанні дзяржаўнага ладу Вялікага княства Літоўскага: «Сенат Вялікага княства Літоўскага, у якім вырашаюцца самыя важныя справы, складаецца з біскупа, ваяводы і кашталяна віленскіх, ваяводы і кашталяна трокскіх, кашталян трокскі аднача́сова з'яўляецца і старастам жамойцкім. Да гэтых пасад ніводзін рускі схізматык не мае доступу» [162].

Сацыяльны склад рады быў аднастайным — яна была карпаратыўным органам буйных землеўласнікаў. Сярод яе членаў знаходзім прадстаўнікоў знатных родаў Вялікага княства: Гаштольдаў, Глінскіх, Глябовічаў, Гальшанскіх, Заберазінскіх, Ільінічаў, Кязгайлаў, Кішак, Манівідаў, Мантыгірдавічаў, Няміравічаў, Осцікаў, Астрожскіх, Пацаў, Радзівілаў, Сапегаў, Солтанаў, Хадкевічаў, Храптовічаў і інш. Па падліках М. Лю-

---

[159] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 100, 431—434.

[160] Там жа. С. 26—28, 99—100.

[161] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 102.

[162] Kamieniecki W. Społeczeństwo Litewskie w XV wieku. Warszawa, 1947. S. 108.

баўскага, на працягу стагоддзя — з сярэдзіны XV па сярэдзіну XVI ст.— членамі гаспадарскай рады былі прадстаўнікі каля 50 знатных фамілій. Сярод іх колькасць радных засядацеляў паходжання з беларускіх, украінскіх, рускіх зямель была меншай (82) у параўнанні з колькасцю членаў рады (100) літоўскага паходжання [163].

Аднак не толькі ў колькаснай перавазе (а яна не надта і вялікая) выступае рэальная вядучая роля феадалаў-католікаў літоўскага паходжання ў найвышэйшым органе ўлады Вялікага княства, а (і гэта галоўнае) у тым, што кіруючыя пасады ў радзе належалі менавіта ім. На працягу 77 гадоў (з 1492 па 1569 г.) панамі раднымі, што ўтваралі пярэднюю раду, былі 20 прадстаўнікоў літоўскай зямлі (Войцах Табар, Ян — з князёў літоўскіх, П. Мантыгірдавіч, 6 Радзівілаў, 3 Гальшанскія, 2 Забеpaзінскія, 2 Осцікі, 2 Кязгайлы), 2 феадалы беларускага паходжання (Валерыян Пратасевіч-Сушкоўскі, Я. Глябовіч), 5— украінскіх (3 Хадкевічы, Ш. Збаражскі, К. Астрожскі) і 1 — польскага (П. Кішка) [164].

Пры гэтым не варта забываць, што не ўсе феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства прытрымліваліся праваслаўя. З пералічаных вышэй засядацеляў пярэдняй рады толькі Астрожскі і адзін з Хадкевічаў былі праваслаўнымі. А менавіта ж рэлігійная прыналежнасць у сярэднія вякі была адной з галоўных этнавызначальных прыкмет. Калі ўлічваць фактар паходжання і канфесійную прыналежнасць, то на праваслаўных прадстаўнікоў «рускіх» зямель княства з канца XIV па сярэдзіну XVI ст. з 468 прыходзілася 20 назначэнняў (13 — «беларусаў», 7 — «украінцаў») на дзяржаўныя пасады, заняцце якіх прадвызначала членства ў радзе. Працэнт невялікі. Аднак ужо яго наяўнасць дазваляе заключыць, што Гарадзельскі прывілей з яго знакамітым параграфам аб недапушчэнні схізматыкаў да кіравання дзяржавай, нягледзячы на тое што пацвярджаўся Жыгімонтам Старым (1529 г.) і Жыгімонтам Аўгустам (1547 г.), на практыцы строга не выконваўся. У чым справа? Ды проста вярхоўная ўлада, якую прадстаўлялі буйныя літоўскія феадалы-католікі, не магла падначаліць сваёй волі ці хоць бы нейтралізаваць шматлікае баярства «рускіх» зямель, якое ўяўляла сабой салідную палітычную сілу; сілу, што імкнулася прабіцца да кіравання дзяржавай. Яна дастаткова рашуча праявіла сябе пры выбранні пераемніка Вітаўта. Паслядоўнікі ж Свідрыгайлы на ве-

---

[163] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. С. 347—352.

[164] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 431, 433—434; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem księstwe Litewskim w XV i XVI w. Warszawa, 1887. S. 20—24, 56—59, 71—74, 76—83, 119—130, 391—395, 411—416; Wolff J. Kniaziowie Litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. XXII, XXIV; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego księstwa Litewskiego. 1386—1795. Kraków, 1885. S. 9, 15, 19, 20, 22, 22—24, 35, 37, 45, 55—58, 73—78, 81—89, 92, 105, 121, 148—151, 160—168, 174—179, 184—192, 221—225, 236, 262, 266, 296, 298, 317.

лікакняжацкім прастоле не маглі не ўлічваць урокаў феадальнай вайны 30-х гадоў XV ст. І вымушаны былі праводзіць палітыку лавіравання: з аднаго боку, дагаджаць прыбліжанай да сябе літоўскай знаці (прыгадаем хоць бы той жа Гарадзельскі прывілей і яго пацверджанні), з другой — у этнічна неаднароднай дзяржаве шукаць апору і сярод феадалаў беларускіх, украінскіх і рускіх зямель. Асабліва выразна гэта палітыка праявілася ў канцы XV — першай палавіне XVI ст., у час складанага знешнепалітычнага і няўстойлівага ўнутрыпалітычнага становішча Вялікага княства.

З канца XV ст. усходні сусед Вялікага княства Маскоўская дзяржава, якая набірала моц, пачала збіранне ўсходнеславянскіх зямель, што складалі некалі Старажытную Русь. У 50—80-я гады XV ст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і Маскоўскай Руссю рэгуляваліся дагаворам Казіміра і Васіля II 1449 г., які ў гістарычнай літаратуры кваліфікуецца як «вялікі акт падзелу Русі паміж Масквой і Вільняй»[165]. Васіль II браў на сябе абавязак «не вступатися» ў вотчыну Казіміра: «ни в Смоленск, ни в Любутеск, ни во Мценск, ни во вси... вкраинныи места». У сваю чаргу Казімір адмаўляўся ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў. Дагавор заклікаў суседнія дзяржавы «жыти в любви, быти везде за один»[166]. Аднак гарачае імкненне адных захаваць за сабой беларускія і ўкраінскія землі, а другіх заваладаць імі не давала магчымасці ажыццявіць гэты высакародны заклік. Маскоўская дзяржава, якая знаходзілася на грэбені знешнепалітычных поспехаў, так фармулюе сваю пазіцыю ў адносінах да названых зямель: «Ано не то одно наша отчина, кои городы и волости и ныне за нами: и вся Руськая земля, Киев и Смоленск и иные городы... з божьею волею, из старины, от наших прародителей наша отчизна»[167].

Гэта пазіцыя не нарадзілася на пустым месцы. Яна была падрыхтавана палітычнымі выступленнямі праваслаўнай знаці рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага[168]. У 1481 г. была выкрыта змова супраць Казіміра ў Кіеве, на чале якой стаялі слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч, яго стрыечны брат Фёдар Іванавіч Бельскі і адзін з князёў Гальшанскіх. Сафійскі летапіс так зафіксаваў мэту гэтай змовы: «восхотеша вотчичи — Ольшанской да Олелькович, да князь Фёдор Бельский по Березыну реку отсести на великого князя [московского]»[169].

Змова абапіралася хутчэй за ўсё на пэўнае кола мясцовых феадалаў, якія знаходзіліся ў апазіцыі да пралітоўскага, пракаталіцкага ўрада Вялікага княства, сярод якіх былі адчувальныя

[165] Греков И. Б. Очерки... С. 140.
[166] Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв. М.; Л., 1950. С. 160—162.
[167] Сборник Русского исторического общества. Т. 35. Спб., 1882. С. 460.
[168] Там жа.
[169] ПСРЛ. Т. 6. Спб., 1853. С. 233.

прамаскоўскія настроі. Пацверджаннем таму з'яўляюцца частыя пераходы ў 80—90-х гадах XV ст. праваслаўных феадалаў «рускіх» зямель княства на бок Масквы. З 1487 па 1493 г. «на службу ў Маскву» выйшлі князі Варатынскія, Белеўскія, Мярэцкія, Вяземскія [170]. Выходзілі яны не з голымі рукамі, а са сваімі ўдзеламі, якія з дапамогай рускага войска далучаліся да Маскоўскай дзяржавы. У гэтыя гады практычна ішла неафіцыйная вайна паміж Масквой і Вялікім княствам Літоўскім, у ходзе якой Руская дзяржава пашырыла свае ўладанні за кошт Вяземскага княства, а таксама княстваў у басейне верхняй Акі і Угры.

У 1494 г. быў заключаны новы мірны дагавор паміж суседнімі дзяржавамі. Іван III і Аляксандр змацавалі сваімі подпісамі дакумент, паводле якога літоўскі бок прызнаваў усе ад'езды «вярхоўскіх» князёў і далучэнне да Масквы іх уладанняў, а таксама адмаўляўся «на вечныя часы» ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Разань. Іван III у сваю чаргу пацвердзіў абавязацельства Васіля II не «вступатися» ў Смаленск [171]. Аднак гэтага мірнага дагавора хапіла толькі на 6 гадоў.

У XVI ст. Вялікае княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава знаходзіліся ў стане вайны паміж сабой. Ваеннае сутыкненне зноў жа было справакавана дзейнасцю праваслаўных князёў пагранічных зямель княства. У канцы 90-х гадоў XV ст. на бок Масквы перайшлі князі Сямён Бельскі, Сямён і Іван Мажайскія, Васіль Шамяціч. Пад уладай Рускай дзяржавы аказаліся багатыя воласці з гарадамі Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Старадуб, Гомель і інш. [172] Такое развіццё падзей, натуральна, не магло не прывесці да ваеннага канфлікту. І сапраўды, 14 ліпеня 1500 г. «зехалося войско литовское з московским на Ведрошы, и учинили межы собою бой и сечу великую, и побила москва литву» [173]. Вынікамі пераможнай для Маскоўскай дзяржавы вайны з'явіўся мірны дагавор 1503 г., па якім да Масквы афіцыйна былі далучаны Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Гомель, Бранск, Пуціўль, Старадуб, Мцэнск [174].

XVI ст., такім чынам, для Вялікага княства Літоўскага і Рускага пачалося няўдала — са страты значнай тэрыторыі ўсходніх зямель. Аднак на гэтым беды не скончыліся. Нявырашанае «рускае» пытанне, якое раздзірала ўнутранае адзінства Вялікага княства з канца XIV ст., дало аб сабе знаць і ў новым стагоддзі. Гаворка ідзе аб т. зв. паўстанні Глінскага — самым буйным палітычным выступленні на тэрыторыі беларускіх і ўкраінскіх зямель пасля феадальнай вайны 30-х гадоў XV ст.

На чале выступлення стаў князь Міхаіл Глінскі — прыблі-

---

170 Любавский М. К. Очерк... С. 190.
171 Духовные и договорные грамоты... С. 329—332.
172 Любавский М. К. Очерк... С. 191.
173 ПСРЛ. Т. 35. С. 166.
174 Любавский М. К. Очерк... С. 191.

жаны ў свой час да вялікага князя Аляксандра, адукаваны, тонкі палітык-дыпламат, які грашыў, аднак, палітычным авантурызмам. Атрымаўшы адстаўку пры двары Жыгімонта I, славалюбівы князь адкрыта выступіў і супраць новага «гаспадара» і Яна Забеоразінскага. Пасля таго, як апошняга ён знішчыў фізічна, Міхаіл Глінскі пачаў ствараць кааліцыю для барацьбы з Жыгімонтам: «збирал прыятели одны кревные, другие за пенязи так з руси, яко з литвы»[175]. Разам з тым вопытны палітык, які ведаў стан спраў у дзяржаве і настроі розных колаў насельніцтва Вялікага княства,— Міхаіл Глінскі добра разумеў, што можа разлічваць на поспех свайго дастаткова авантурнага пачынання толькі пры падтрымцы шырокага фронту сепаратысцкі настроеных феадалаў ды і насельніцтва «рускіх» зямель княства, якія выступалі супраць каталіцкай экспансіі. Не выпадкова ён распаўсюджваў чуткі, што хутка ўсіх праваслаўных у Вялікім княстве пачнуць гвалтоўна абарачаць у каталіцкую веру[176].

Такая падрыхтоўка вельмі падзейнічала, і, як адзначае ў сваёй «Хроніцы» М. Стрыйкоўскі: «было іх ужо вельмі многа... якія Глінскаму дапамагалі і з ахвотай засталіся б з ім да канца і дамагаліся таго, што задумалі...»[177] А задумаў Міхаіл Глінскі з «братьею своею» ні многа ні мала як стварэнне самастойнага княства з апорай на «рускі» элемент Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Аб гэтым мы даведваемся ад таго ж Мацея Стрыйкоўскага, які пісаў, што брат Міхаіла Васіль Глінскі дзейнічаў у раёне Кіева, Жытоміра і Оўруча. Там ён падгаворваў мясцовых феадалаў прыняць бок свайго брата, які, па словах Васіля, спадзяецца «ўзнавіць Вялікае княства ад Літвы да Русі» і «адрадзіць кіеўскую манархію». Прапагандуючы гэтыя заклікі, Васіль Глінскі «многіх кіеўскіх баяраў перацягнуў на свой бок»[178].

Заручыўся Міхаіл Глінскі і падтрымкай Масквы. Падчас вайны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай, якая пачалася ў 1507 г., Васілю III было з рукі «ўзбунтаванне» прыгранічных тэрыторый свайго праціўніка, што давала дадатковыя шансы на лёгкую перамогу. А дзеля ж аслаблення магутнага заходняга суседа — Вялікага княства Літоўскага — Маскоўскі ўрад мог пайсці і на стварэнне марыянетачнага буфернага, скажам так, «Глінскага» княства. У ідэале такі зыход паўстання і прадугледжваўся. Аб гэтым сведчыць змест перагавораў паміж прадстаўніком Васіля III Губой Маклаковым і Міхаілам Глінскім. На іх ішла гаворка аб сумесных баявых дзеяннях, а таксама аб перадачы пад уладу Глінскага захопленых зямель:

---

[175] ПСРЛ. Т. 35. С. 167.

[176] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (АЮЗР). Т. 1. Спб., 1897. С. 35—36.

[177] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódska i wszystkiej Rusi. T. II. Warszawa, 1846. S. 347.

[178] Там жа. С. 346.

«и которые литовские городы возьмут и на тех городех сидети им, а великому князю [московскому] в те гроды не вступатися и на том на всем великого князя дъяк Губа Маклоков правду дал» [179].

Цэнтрам паўстання стаў горад Тураў — спадчыннае ўладанне князёў Глінскіх. Адсюль князь Міхаіл са сваім атрадам пайшоў да Мазыра і, як паведамляе «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», «Мозыр взял и своими людми осадил». Далей летапісец занатаваў, што «пристали теж до него княжата Друцкие и князь Михаил Мстиславский з замком своим, той з Друцким, а сей Мстиславским, так теж и оршанци, Кричев, Гомель поддалися ему» [180]. Сумесна з маскоўскім войскам атрады Глінскага аблажылі Мінск. Аблога Мінска суправаджалася рэйдамі асобных падраздзяленняў «мало не до Вильни». Атрад пад камандаваннем Андрэя Дажджа хадзіў пад Слуцк; Дзмітрыя Жыжэмскага і Андрэя Лукомскага — да Навагрудка [181].

Размах паўстання прымусіў Жыгімонта падрыхтаваць для барацьбы з «бунтаўнікамі» шматлікае польска-літоўскае войска. Падраздзяленні Глінскага супрацьстаяць яму не маглі, таму пачалі адыходзіць ад Оршы, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя сілы арміі Маскоўскай дзяржавы. Пры набліжэнні да Оршы ваенных злучэнняў Жыгімонта рускія палкі сумесна з атрадамі Глінскага перайшлі цераз Днепр, ухіліўшыся ад бітвы. Здарылася гэта супраць волі Міхаіла Глінскага, які «остатнего щастя своего и звитязства в той битве усиловал скоштовати, напоминал гетманов московских, абы... до битвы поле дали, обецуючи им певное и велми снадное звитязство, если будут ведлуг его рады поступовати» [182]. Але камандаванне рускім войскам вырашыла, што недастаткова падрыхтавана да вялікай бітвы, таму не прыняло ўгавораў Глінскага. Яно заключыла мірнае пагадненне з Жыгімонтам, па якім Глінскім і іх блізкім паплечнікам гарантаваўся свабодны выезд з Вялікага княства ў Маскву. Гэты ж дагавор пацвярджаў граніцы, што былі вызначаны Іванам III і Аляксандрам [183].

Такім чынам, выступленне Глінскага закончылася няўдачай. Характар гэтага руху быў неадназначны. З аднаго боку, гэта была барацьба вярхушкі пануючага класа беларускіх, украінскіх, рускіх зямель за прававую і маёмасную роўнасць з прывілеяванай часткай літоўскіх феадалаў-католікаў. З другога боку, калі мець на ўвазе шырокую падтрымку гэтага руху насельніцтвам беларускіх зямель, якое было незадаволена этнічнай няроў-

---

[179] Греков И. Б. Очерки... С. 238.
[180] ПСРЛ. Т. 32. С. 102—103.
[181] Зимин А. А. Новое о восстании Михаила Глинского в 1508 г. («Русский временник» по Румянцевскому списку) // Сов. архивы. 1970. № 5. С. 71.
[182] ПСРЛ. Т. 32. С. 103.
[183] Греков И. Б. Очерки... С. 241.

насцю, каталіцкай экспансіяй, то можна гаварыць і аб нацыянальным у нейкай меры характары выступлення Глінскага.

Вынікі паўстання 1508 г. таксама былі неадназначнымі. З аднаго боку, на яго ўдзельнікаў абрушыўся жорсткі тэрор: «И была у Литве после Глинского замятня велми великая, и панов тых имали, которые з Глинским мешкали горазд, и некоторых шляхту и мучоно» [184]. З другога — вярхоўная ўлада Вялікага княства добра ўсвядоміла, што без прыцягнення на свой бок феадалаў беларускіх, украінскіх, рускіх зямель ва ўмовах пастаяннага суперніцтва з Маскоўскай дзяржавай ёй не ўдасца ўтрымаць у сваіх руках гэтыя багатыя, вялізныя тэрыторыі. Зыходзячы менавіта з гэтага, трэба тлумачыць той факт, што з канца XV — пачатку XVI ст. велікакняжацкі ўрад пачынае праводзіць палітыку ўцягвання знаці «рускага» краю ў палітычную эліту Вялікага княства. З канца XV ст. значна пашыраюцца зямельныя ўладанні прадстаўнікоў знатных беларускіх, украінскіх родаў Глябовічаў, Іллінічаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Багавіцінавічаў, Храптовічаў. Зямельнае багацце давала палітычную вагу. У канцы XV — першай палавіне XVI ст. сярод радных засядацеляў знаходзім беларускага паходжання Глябовічаў, Іллінічаў, Сапегаў, Зяноўевічаў, Храптовічаў, Багавіцінавічаў, Вяжэвічаў, Друцкіх, Солтанаў, Грамык, Копацяў, Адзінцэвічаў, Стратовічаў, Саламярэцкіх і інш. [185] Аб тым, што ў першай палавіне XVI ст. літоўская велікакняжацкая ўлада пачала шырэй прыцягваць беларускіх і ўкраінскіх магнатаў да кіравання дзяржавай [186], сведчыць і статыстыка. Так, з тых 20 вышэйпамянёных назначэнняў на вышэйшыя дзяржаўныя пасады *праваслаўных* «рускіх» феадалаў за перыяд з канца XIV ст. па 1569 г. 14 прыходзілася на час пасля 1500 г.

У першай палавіне XVI ст. праваслаўных феадалаў усходніх зямель Вялікага княства знаходзім нават у складзе пярэдняй рады, каталіцкую чысціню якой гэтак ахоўвалі літоўскія арыстакраты. З 1522 па 1529 г. праваслаўны князь украінскага паходжання К. Астрожскі займаў пасаду трокскага ваяводы, што дазволіла яму сесці на першае месца раднай «лавіцы». Гэты факт выклікаў рэзкае абурэнне каталіцкай літоўскай магнатэрыі, вынікам чаго стала з'яўленне прывілею Жыгімонта Старога, па якім пасля смерці Астрожскага першае месца ў радзе павінна было перайсці да віленскага ваяводы [187]. Аднак ужо

[184] ПСРЛ. Т. 35. С. 168.

[185] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 428—440.

[186] Хорошкевич А. Л. Исторические судьбы белорусских и украинских земель в XIV — начале XVI в. // Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 76.

[187] Хорошкевич А. Л. О международных аспектах религиозной политики Великого княжества Литовского времени первого Статута 1529 года // Первый Литовский статут 1529 г. (Материалы республиканской научной конференции, посвященной 450-летию первого Статута). Вильнюс, 1982. С. 35.

праз 20 гадоў у пярэдняй радзе атрымлівае першае месца феадал беларускага паходжання, праўда, каталік, Я. Глябовіч, які заняў пасаду віленскага ваяводы [188]. А ў 1559 г. на пярэднюю «лавіцу» трапляе праваслаўны ўкраінскага паходжання Р. Хадкевіч, які атрымаў трокскае кашталянства [189].

Такім чынам, калі параграф Гарадзельскага прывілею, які забараняў праваслаўным засядаць у радзе, дзейнічаў да 20-х гадоў XVI ст. хаця б у адносінах да рады пярэдняй, то з назначэннямі Астрожскага і Хадкевіча ён практычна губляў сілу закона і, як зжыўшы сябе, быў канчаткова адменены ў 1563 г. З гэтага часу «достоинства и преложеньства всякие, и до рады нашое, и на уряды дворные и земские, не только подданые костелу римскому... обираны и прекладаны быти мають, але одинаково и заровно вси рыцерского стану з народу шляхетского люди веры хрестиянское, яко Литва, так и Русь, кождый водле заслуг и годности своее, от нас, господаря, на места зацные и преложеньства с ласки нашое браны быти мають...» [190]

Такім чынам, больш чым стогадовая барацьба, што вялі праваслаўныя феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства за палітычнае раўнапраўе з літоўска-каталіцкай арыстакратыяй, закончылася іх перамогай. Святкавала яе беларуская і ўкраінская знаць ужо ў 20-я гады XVI ст., а 1563 г. замацаваў дасягнутае.

Трэба заўважыць, што без барацьбы з акаталічваннем на беларускіх і ўкраінскіх землях, без барацьбы праваслаўных феадалаў з трымаючымі ўладу феадаламі, «рымскаму касцёлу падначаленымі», г. зн. без барацьбы за змену адносін да праваслаўя за ўвядзенне рэлігійнай талерантнасці ў Вялікім княстве Літоўскім, немагчыма было б з'яўленне ў Вільні, сталіцы княства, скарынаўскіх праваслаўных выданняў на «рускай» мове. Сувязь паміж узвышэннем у пачатку XVI ст. праваслаўных феадальных родаў і выхадам у свет кніг Ф. Скарыны самая прамая.

Неабходна звярнуць увагу таксама на той факт, што сам тэкст даравальнай граматы вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ад 7 чэрвеня 1563 г. з'яўляецца пераканаўчым доказам удзелу праваслаўных феадалаў у паседжаннях гаспадарскай рады і да адмены § 9 Гарадзельскага прывілею. У гэтым дакуменце адзначаецца, што «... бываючи не только римского костела послушные, але и грецкого, в лавицы рады предков наших и нашое, так же и иные вси станы, на радных службах наших бываючи, верность и сталость свою к службам предков наших и нашим охотне, яко добрым и верным подданым належит, завжды со всякою сталостью оказывали» [191]. І ў гэтым, сапраўды, не даводзіцца сумнявацца, што беларускія, украінскія, рускія феадалы «охот-

[188] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 431.
[189] Там жа.
[190] БЭФ. Т. 1. С. 142—143.
[191] БЭФ. Т. 1. С. 142—143.

не» служылі інтарэсам Вялікага княства, выказваючы пры гэтым і «верность и сталость». У першай палавіне XVI ст. карані сепаратызму ў асобах родавых князёў і баярства, што іх акружала, былі ў асноўным ліквідаваны. На пасадах дзяржаўнага кіравання Вялікага княства мы бачым «рускую» знаць, якая ўвайшла ў моц пры вялікіх князях, стала буйнымі землеўласнікамі за кошт велікакняжацкіх падараванняў. І, зразумела, падтрымлівала палітыку «гаспадара». Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае стала іх дзяржавай. Нездарма ў першай палавіне XVI ст. у найвышэйшым органе ўлады — гаспадарскай радзе не сустракалася груповак, якія б утварыліся з прычыны этнічных ці рэлігійных адрозненняў. Сярод паноў радных варожыя групы існавалі, але ўзнікалі яны ў выніку зямельных, месніцкіх, спадчынных спрэчак. Вядома варожасць заступніка праваслаўя К. Астрожскага да заўзятага каталіка А. Гаштольда, але той яшчэ больш варожа быў настроены супраць католікаў літоўцаў па паходжанню — Радзівілаў. Князь М. Глінскі ваяваў з Я. Забаразінскім (абодва католікі, першы татарскага, другі літоўскага паходжання); Б. Багавіцінавіч з Ю. Іллінічам (абодва беларускага паходжання); Ст. Осцік з Ю. Радзівілам (гэтыя фаміліі — разгалінаванне аднаго роду); князь А. Сангушка з князем Ф. Чартарыйскім (абодва Гедымінавічы) і г. д.[192] У той жа час члены рады знаходзіліся паміж сабою ў шматразовым сваяцтве, нягледзячы ні на этнічную розніцу, ні на розніцу ў веравызнаннях. Прыкладаў таму мноства. Так, украінскага паходжання Хадкевічы былі сваякамі князёў Карэцкіх (нашчадкі Гедыміна), прадстаўнікоў літоўскіх родаў Кязгайлаў, Сангушкаў, Пацаў. Беларускага паходжання род Іллінічаў меў сваякоў сярод літоўскай арыстакратыі: Давойнаў, Гедыгольдавічаў, Забаразінскіх, Радзівілаў. Літоўскія князі Гальшанскія, Сангушкі былі ў сваяцтве з Сапегамі; Глябовічы з Осцікамі і г. д.

У XVI ст. буйныя феадалы Вялікага княства як літоўскага, так і беларускага, украінскага, рускага паходжання, католікі, пратэстанты, праваслаўныя ўяўлялі адну сацыяльную групу, якая была аб'яднана агульнасцю палітычных, эканамічных, класавых інтарэсаў.

Вялікае значэнне ў працэсе кансалідацыі сіл пануючага класа Вялікага княства Літоўскага разам з ужо разгледжанымі прычынамі, мела абвастрэнне класавых супярэчнасцей у канцы XV — першай палавіне XVI ст. У гэты перыяд феадалы княства распачалі шырокае наступленне на народныя масы. Яно знайшло праяву ў запрыгоньванні і ўзмацненні феадальнага прыгнёту сялянства, павялічэнні падатковага і павіннаснага абкладання гарадскога насельніцтва. Гэта ў сваю чаргу нараджала шырокую незадаволенасць народных мас, выклікала ўзмац-

---

[192] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 57.

ненне класавай барацьбы. У такім становішчы этнічныя і рэлігійныя адрозненні ўнутры пануючага класа Вялікага княства адыходзілі на другі план перад агульнасцю класавых інтарэсаў. Як слушна зазначае Б. Флора: «Збліжэнне феадалаў розных нацыянальнасцей на базе адзінай сацыяльнай платформы прыводзіла да ўзмацнення ў свядомасці беларускага і ўкраінскага дваранства такога кампанента, як «дзяржаўны патрыятызм», у якім на справе ўвасабляліся вузкакласавыя, эгаістычныя інтарэсы пануючага класа-саслоўя краіны» [193].

Калі рабіць нейкія высновы з вышэйсказанага, то можна заключыць, што ля штурвала дзяржаўнай улады Вялікага княства ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. стаялі прадстаўнікі буйных феадальных родаў як літоўскага, так і беларускага, украінскага і рускага паходжання, як католікі, так і праваслаўныя. Гаспадарская рада з'яўлялася ў гэты час прадстаўнічым органам феадальнай знаці ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, а сама дзяржава была дзяржавай літоўскіх, беларускіх, украінскіх і рускіх феадалаў.

Дастаткова шырокае прадстаўніцтва мелі феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства і ў другім саслоўна-прадстаўнічым органе дзяржаўнай улады — сейме, які канчаткова афарміўся ў канцы XV ст. Яго з'яўленне было абумоўлена неабходнасцю пашырэння сацыяльнай апоры вярхоўнай улады. Гэта ў сваю чаргу было выклікана супярэчнасцямі паміж арыстакратычнай знаццю і радавой шляхтай, якая дамагалася роўных з ёю правоў, а таксама знешнепалітычнымі цяжкасцямі. У склад сейма ўваходзілі паны радныя, шматлікія службовыя асобы цэнтральнага і мясцовага дзяржаўнага апарату, а таксама шляхта ўсіх зямель Вялікага княства [194]. Спачатку шляхта на сейм запрашалася пагалоўна, што выклікала залішнюю шматлюднасць сеймаваўшых. Каб пазбегнуць гэтага, у 1512 г. было ўведзена шляхецкае прадстаўніцтва на сейме: 2 дэпутаты ад павета, але ў той жа час не адмаўлялася магчымасць асабістай прысутнасці на сейме ўсякага шляхціца [195]. З гэтай прычыны некаторыя сеймы былі завельмі прадстаўнічымі. Баркулабаўскі летапіс адзначае, што на Брэсцкім сейме 1544 г. «так же было множество людей ... иж на обе стороны около Берестя колконадцать миль стояли» [196].

Першапачаткова ў сеймавую кампетэнцыю ўваходзіла вырашэнне пытанняў, якія былі звязаны з заключэннем уніі з Польшчай і выбраннем вялікіх князёў. Прычым для іх абмеркавання прыцягваліся і феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства. Так,

---

[193] Флоря Б. Н. Древнерусские традиции и борьба восточнославянских народов за воссоединение // Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие... С. 175.

[194] Любавский М. К. Очерк... С. 203.

[195] Там жа.

[196] ПСРЛ. Т. 32. С. 174.

пасля смерці вялікага князя Казіміра былі накіраваны пасланні ад імя паноў-рады і будучага «гаспадара» Аляксандра ў Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Луцк, у якіх выказваліся спадзяванні, што феадалы беларускіх, рускіх, украінскіх зямель Вялікага княства Літоўскага пры выбранні новага валадара будуць «посполу за один с братьею своею с паны-радою» [197]. Г. зн. гаспадарская рада прызнавала за феадаламі «рускіх» тэрыторый княства права ўдзелу ў выбранні «гаспадара». Сапраўды, на Віленскім сейме 1492 г., на якім на вялікае княжанне быў пасаджаны Аляксандр, прысутнічалі паслы ад усіх літоўскіх і «рускіх» зямель дзяржавы [198]. Не выключаліся з ліку выбаршчыкаў землеўладальнікі ўсходніх зямель княства і пры наступных элекцыях. «За вольным собраньем тых же всих станов и обывателей великого князьства» быў узведзены на веліканкняжацкі прастол у 1506 г. Жыгімонт Стары, а ў 1529 г. на прадстаўнічым сейме, сярод дэпутатаў якога сядзелі «смоляне и полочане, а возле полочан новгородцы, а возле их витебляне», яго пераемнікам стаў Жыгімонт Аўгуст [199]. Пры гэтых вялікіх князях пашыраецца кола пытанняў, што абмяркоўваліся і вырашаліся на сеймах. На працягу XVI ст. на парадак дня сеймавых паседжанняў ставяцца пытанні аб вайне (норма вайсковай службы, вызначэнне «сярэбшчыны», аб'ява вайны), аб заканадаўстве, аб судовай дзейнасці [200]. Шырокі ўдзел шляхты з беларускіх зямель у паседжаннях сейма, а значыцца, і ўзмацненне яе ролі ў палітычным жыцці дзяржавы прадвызначаліся адноснай дэмакратычнасцю выбараў дэпутатаў: 2 ад павета (у выніку рэформы 1565—1566 гг. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае падраздзялялася на 30 паветаў, 16 з якіх былі поўнасцю ці часткова «беларускімі» [201], а таксама правам асабістага ўдзелу прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя ў рабоце сейма (колькасныя суадносіны літоўскай шляхты з феадаламі іншых зямель княства былі прыкладна роўнымі: з прыблізна 13 тысяч шляхецкіх сямей княства крыху больш 6 тысяч было карэнных літоўскіх) [202].

Геаграфія правядзення сеймавых паседжанняў не была абмежавана толькі Вільняй — сталіцай Вялікага княства. Сеймы збіраліся і на беларускіх землях: у Брэсце (1446, 1464, 1460, 1478, 1505, 1511, 1515—1516, 1518—1519, 1524, 1544, 1566 гг.), Навагрудку (1448, 1502, 1508, 1538 гг.), Гродне (1469, 1501,

[197] АЗР. Т. 1. 115—116; Любавский М. К. Очерк... С. 204.

[198] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. С. 135.

[199] ПСРЛ. Т. 35. С. 236; Любавский М. К. Очерк... С. 204.

[200] Первый Литовский статут. Т. 1, ч. 2. Вильнюс, 1985. Разд. II, арт. 1; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. // Временник имп. Моск. о-ва истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23, разд. II, арт. 2; разд. III, арт. 6, 12.

[201] Лаппо И. И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI ст. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911. С. 58; . Спірыдонаў М. Ф Беларусь у сярэдзіне XVI ст. Карта // БелСЭ. Т. 12. Мн., 1975.

[202] Ochmański J. Historya Litwy. S. 84—85.

1506, 1522 гг.)[203]. З-за аддаленасці ад цэнтра дзяржавы, маланаселенасці, блізкасці неспакойнай «руска-літоўскай» граніцы ў гарадах усходняй Беларусі сеймы не збіраліся.

Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. шляхецкае саслоўе ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага дамаглося значнага пашырэння сваіх палітычных правоў, фармальна дасягнула юрыдычнай роўнасці з князямі і буйнай знаццю. Устанаўленне вальнага сейму ў якасці найвышэйшага дзяржаўнага органа, які абмяжоўваў уладу манарха, надало палітычнаму ладу Вялікага княства рысы, што былі ўласцівы саслоўнай манархіі. Шляхецкія вольнасці шляхецкай рэспублікі павярнулі пануючы клас беларускіх зямель у бок Польшчы, заставіўшы адвярнуцца ад самадзяржаўнай Расіі.

Аднак поўнай роўнасці сярэдняй і дробнай шляхце з арыстакратыяй Вялікага княства Літоўскага дамагчыся не ўдалося. Паны радныя праводзілі свае рашэнні на вальным сейме, маніпулюючы паводле свайго меркавання шляхтай, якая мела правы, але не мела рэальнай улады. Аб гэтым можам даведацца з заявы члена гаспадарскай рады магната Альбрэхта Гаштольда, які параўноўваў сеймы польскага і «літоўскага» ўзораў: «...сеймы нашы (у Вялікім княстве Літоўскім. — *Рэд.*) праходзяць зусім інакш: што вырашае гаспадар і паны-рада, тое шляхта абавязкова прымае да выканання: мы ж запрашаем шляхту на нашы сеймы як бы для гонару, на самай жа справе дзеля таго, каб усе ведалі, што мы вырашаем»[204]. І на павятовых сейміках, органах шляхецкага самакіравання, якія былі створаны паводле рэформы 1565—1566 гг., таксама верхаводзілі буйныя землеўласнікі. Пераконваюць нас у гэтым сведчанні сучаснікаў. Вось адно з іх: «Там (у Вялікім княстве.— *Рэд.*) шляхта не прымае ўдзелу ні ў якіх нарадах, там паны робяць, што захочуць... Там прыязджаюць на сейм толькі ваявода, стараста ды харужы, напішуць, што ім уздумаецца, і адправяць да земяніна дахаты, каб падпісаў. Калі ж ён не падпіша, то яны аддубасяць яго палкамі...»[205]

Больш дакладна роля шляхты, і ў прыватнасці шляхты беларускай, выступае ў арганізацыі мясцовага кіравання. У першай палавіне XVI ст. землі Беларусі падзяляліся на ваяводствы. У 1503 г. ствараецца Віцебскае ваяводства, у 1504 г. заканадаўча афармляецца Полацкае, а ў 1507 г. узнікае Навагрудскае ваяводства[206]. Паводле рэформы 1565—1566 гг. былі створаны

---

[203] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. С. 123, 125, 188—191, 203, 211, 223—228, 234—237, 271—288, 290—300; Максимейко Н. А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902. С. 21, 92.

[204] Любавский М. К. Очерк... С. 207.

[205] Дневник Люблинского сейма 1569 года. Спб., 1869. С. 290.

[206] АЗР. Т. 2. СПб. 1848. С. 5—6; Витебская старина. Т. 1. С. 35; Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. С. 254.

Брэсцкае ваяводства з паветамі Брэсцкім і Пінскім, Мінскае з паветамі Мінскім, Рэчыцкім, Мазырскім (пасля 1567 г.), Мсціслаўскае ваяводства ў складзе павета Мсціслаўскага, паветы Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі былі ўключаны ў Віленскае ваяводства, Гродзенскі павет — у Трокскае [207]. На пасады ваяводаў, а таксама намеснікаў, стараст назначаў вялікі князь асабіста [208]. Зразумела, што на такіх ключавых пастах дзяржаўнага кіравання маглі знаходзіцца верныя праваднікі палітыкі «гаспадара» — ягоная апора. Невыпадкова у XV ст. на чале мясцовай улады на беларускіх землях стаялі, як правіла, прадстаўнікі літоўскай феадальнай знаці — гэта: у зямлі Навагрудскай Петраш Мантыгердавіч (1431—1452 гг.), Марцін Гаштольд (1464—1471 гг.), Войцах Манівід (1471—1475 гг.), Міхаіл Монтаўтавіч (1483—1484 гг.), Мікалай Радзівіл (1488—1490 гг.), Юрый Пац (1492—1496 гг.), Ян Заберазінскі (1496—1498 гг.); Полацкай — той жа Петраш Мантыгердавіч (1458—1460 гг.), Алехна Судымонтавіч (1466—1476 гг.), Ян Заберазінскі (1490—1496 гг.), Юрый Пац (1496—1501 гг.); Віцебскай — князі Фёдар (1492—1494 гг.), Міхаіл (1494—1495 гг.) Заслаўскія; Берасцейскай — Нац (Начка) (1440—1446 гг.), Алехна Давойнавіч (1452 г.); Мінскай — князь Іван Заслаўскі (1468—1473 гг.) [209].

Аднак трэба заўважыць, што ў Полацкай і Віцебскай землях вялікі князь не меў права асабіста вырашаць пытанні аб кандыдатуры на пасаду ваяводы. Узводзячы на ваяводства сваіх стаўленнікаў, ён быў абавязаны ўлічваць настроі і меркаванні мясцовых феадалаў. У прывілеях Полацкай і Віцебскай землям, якія выдаваліся вялікімі князямі Вітаўтам, Свідрыгайлам, Казімірам, Аляксандрам, Жыгімонтам Старым і Жыгімонтам Аўгустам, чытаем, што «гаспадар» абавязаны «им давати воеводу по старому, по их воли; и который им будет нелюб воевода, а обмовят его перед нами: ино нам воеводу им иного дати, по их воли» [210]. Прычым права гэта было не толькі на паперы (што часта здаралася), але дзейнічала і на практыцы. Пацверджаннем таму з'яўляецца зняцце ў 1526 г. Жыгімонтам Старым з пасады віцебскага ваяводы Івана Багданавіча Сапегі па просьбе віцяблян, якія скардзіліся вялікаму князю на «кривды» и «тяжкости» з боку ваяводы [211].

Істотнай рысай мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях было абмежаванне судовай улады намеснікаў і ваявод.

---

[207] Спірыдонаў М. Ф. Беларусь у сярэдзіне XVI ст. Карта // БелСЭ. Т. 12. Мн., 1975.

[208] ПСРЛ. Т. 35. С. 171, 237.

[209] Wolff J. Senatorowie... S. 8, 25, 34, 44, 85. Аб літоўскім паходжанні знатных фамілій Вялікага княства гл.: ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 1; Boniecki A. Poczet rodów. S. 25—26, 48—49, 56—59, 185—189, 196, 290—292, 391—395, 397—405; Wolff J. Kniaziowie. S. XXII; Wolff J. Pacowie... S. 5, 314.

[210] АЗР. Т. 1. С. 351—353; Т. 2. С. 86—90.

[211] Любавский М. К. Областное деление... С. 873—874.

На намесніцкім ці ваяводскім судзе была абавязковай прысутнасць старэйшых баяр і мяшчан, аб чым спецыяльна абмаўлялася ў граматах вялікіх князёў літоўскіх: «А воеводе нашому полоцкому мешчан одному не судити, судити ему с бояры и мещаны» [212].

Шматлікія пытанні мясцовага кіравання ў Полацку, такія, як выбранне службовых асоб, выкананне воінскай службы, судовыя разборы, гаспадарчыя гарадскія справы, вырашаліся на мясцовых сеймах. Генетычна яны бралі пачатак ад старажытнарускага веча. Праўда, ва ўмовах Вялікага княства Літоўскага вядучую ролю ў традыцыйным органе мясцовай улады — сейме — набылі феадальная знаць і гарадская вярхушка. Але і полацкія мяшчане прымалі самы актыўны ўдзел у сеймавых сходах, што пацвярджае грамата вялікага князя Казіміра жыхарам Полацка ад 1486 г., у якой адзначалася, што «...без бояр мещаном и дворяном городским и черни соймов не надобе чинить...» [213]. У гэты час (пры Казіміру) полацкія баяры, мяшчане, «все поспольство», пасылалі сваіх паслоў з «верющим» лістом у Рыгу для заключэння гандлёвага пагаднення [214]. Прыведзеныя факты сведчаць аб значнай актыўнасці ў палітычным жыцці Полацка гарадскога саслоўя.

Дастатковую палітычную незалежнасць мела ў сваіх землях полацкае і віцебскае баярства. Менавіта з Полаччыны выйшла абсалютная большасць знакамітых родаў беларускага паходжання, прадстаўнікі якіх займалі кіруючыя пасады як у мясцовых, так і ў цэнтральных органах улады Вялікага княства Літоўскага. Так, тут было радавое гняздо князёў Друцкіх (да якіх акрамя саміх Друцкіх належалі князі Горскія, Сакалінскія, Прыхабскія, Любецкія, Азярэцкія, Красныя, Талачынскія, Пуцяцічы), князёў Лукомскіх, Адзінцэвічаў. Адсюль пайшлі такія вядомыя фаміліі, як Глябовічы, Іллінічы, Неміровічы, Рамейкавічы, Шапкі, Алфер'евічы, Мітковічы, Аляхновічы, Копцевічы, Валадковічы, Корсакі, Зяноўевічы, Рагозы, Сялявы. Прадстаўнікі першых трох з пералічаных родаў займалі на працягу XV—XVI стст. кіруючыя пасады ў Віцебскай і Полацкай землях (Ян Няміра, стараста полацкі ў 1412—1501 гг., таксама намеснік, затым ваявода полацкі ў 1503—1513 гг.; Ян Глябовіч — ваявода віцебскі ў 1529—1532 гг., затым полацкі ў 1532—1542 гг.; Мікалай Няміравіч, намеснік віцебскі ў 1466 г.; Іван Ілініч, намеснік віцебскі ў 1482 г.; Юрый Глябовіч, намеснік віцебскі ў 1503—1508 гг.). Прадстаўнікі іншых фамілій займалі розныя пасады мясцовага кіравання і суда: гараднічага, канюшага, ключніка, лоўчага, баброўнічага і інш. Прычым мясцовае баярства валодала манапольным правам на пералі-

---

[212] АЗР. Т. 1. С. 73.
[213] АЗР. Т. 1. № 60. С. 73.
[214] Любавский М. К. Очерк ... С. 36.

чаныя пасады, што гарантавала ім удзел у кіраванні «сваімі» землямі [215].

Падобная самастойнасць у вырашэнні пытанняў мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях у XV — пачатку XVI ст. тлумачыцца тым, што гэтыя тэрыторыі Старажытнарускай дзяржавы ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага на ўмовах «ряда» (дагавора) мясцовага баярства з літоўскімі вялікімі князямі. Тут былі моцнымі ўдзельныя традыцыі. Зацікаўленасць вярхоўнай улады ў захаванні ў складзе Вялікага княства магутных Полацкай і Віцебскай зямель, якія размяшчаліся на пагранiччы з уваходзячай у моц Маскоўскай дзяржавай, прымушала кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага ісці на значныя ўступкі мясцовым феадалам і захоўваць за імі права арганізацыі мясцовай улады.

Развітыя формы грамадска-палітычнай аўтаноміі садзейнічалі этнічнай і культурнай кансалідацыі беларускай народнасці ў межах Вялікага княства Літоўскага і Рускага, выпрацоўцы ў насельніцтва патрыятызму як адной з адметных адзнак часу складвання беларускай народнасці. Таго мясцовага патрыятызму, зыходзячы з якога, палачанін Ф. Скарына ўзняўся да патрыятызму агульначалавечага, заклікаючы, каб людзі «всякого тружения и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» [216].

Іншыя тэрыторыі Беларусі не атрымалі ў складзе Вялікага княства Літоўскага вядомай самастойнасці ў мясцовым кіраванні, якую мы назіралі ў Полацкай і Віцебскай землях. Узначальвалі іх ваяводы — стаўленікі вялікага князя. Гэтыя высокія, прэстыжныя пасады, якія дазвалялі прымаць удзел у паседжаннях пярэдняй гаспадарскай рады, на працягу XV — першай палавіны XVI ст. аддаваліся, як правіла, феадалам каталіцкага веравызнання, што былі ў асноўным літоўскага паходжання. Сярод ваяводаў віленскіх і трокскіх (да пачатку XVI ст. у межы Віленскага і Трокскага ваяводстваў, якія былі ўтвораны ў 1413 г., уваходзіла большасць беларускіх зямель [217]) знаходзім прадстаўнікоў такіх знакамітых літоўскіх фамілій, як Мантыгердавічы, Радзівілы, Осцікі, Гаштольды, Забеpазінскія. У Навагрудскім ваяводстве, якое выдзелілася ў 1507 г. з Віленскага, на чале мясцовай адміністрацыі стаялі таксама прадстаўнікі літоўскай арыстакратыі: тыя ж Гаштольды, Осцікі, Забеpазінскія [218]. Аднак у канцы XV і на працягу XVI ст. (асабліва блі-

---

[215] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 4, 32; Wolff J. Kniaziowie. S. XXII—XXIII; Ён жа. Senatorowie... S. 44—46, 85—86; Любавский М. К. Литовско-русский сейм. С. 15, 7—159, 179—180.

[216] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 59.

[217] Любавский М. К. Областное деление... С. 79—110, 122—124, 140—166.

[218] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского... С. 431—433.

жэй да яго сярэдзіны) на пасадах мясцовага кіравання ў беларускіх землях усё часцей сустракаюцца прадстаўнікі знатных фамілій мясцовага паходжання. Так, Глябовічы займалі пасты ваяводы віленскага, намесніка навагрудскага; Іллінічы былі намеснікамі мінскімі, старастамі берасцейскімі. Прадстаўнікі роду Сапегаў займалі пасады ваявод навагрудскіх, віцебскіх. Кашталянамі трокскімі і віцебскімі, ваяводамі навагрудскімі, віцебскімі былі прадстаўнікі ўкраінскага паходжання роду Хадкевічаў. Тышкевічы, радавое гняздо якіх знаходзілася на ўкраінскіх землях (Чарталессе, Бярдзічаў), займалі пасады старастаў мінскіх, ваявод берасцейскіх. Гарнастаі, таксама ўкраінскага паходжання, былі ваяводамі навагрудскімі, мінскімі [219].

Знамянальна, падкрэслім гэта яшчэ раз, што сярод прадстаўнікоў мясцовых родаў, якія займалі вышэйшыя кіруючыя пасады на беларускіх землях, не было нашчадкаў ранейшых удзельных князёў. Гэта невыпадкова. Вярхоўная ўлада Вялікага княства адцясняла ад кіравання былымі старажытнарускімі землямі радавую знаць (былых носьбітаў палітычнай улады), сярод якой былі адчувальнымі сепаратысцкія настроі, і ўзводзіла ў яе ранг баярства, што паднялося пры вялікіх князях і таму абараняла іх інтарэсы. Такая палітыка вяла да кансалідацыі пад эгідай вярхоўнай улады «гаспадара» правячай вярхушкі класа феадалаў Вялікага княства.

У беларускіх паветах, валасцях, адміністрацыйныя пасады намеснікаў, таксама як у Полацкай і Віцебскай землях, займалі ў асноўным прадстаўнікі мясцовых феадальных родаў. Нагляднай таму ілюстрацыяй можа быць пералік такіх службовых асоб у буйных валасцях і паветах за другую палавіну XV — пачатак XVI ст. Браслаў — Ю. Зяноўевіч, І. Сапега, П. Сапега; Ашмяны — А. Прыхабскі, В. Горскі; Мінск — І. Красны, М. Ілініч; Любашаны — Ю. Няміравіч; Свіслач — Г. Грамыка, А. Няміравіч; Слонім — Л. Храптовіч, Б. Багавіцінавіч [220]. На долю намеснікаў прыходзілася большая частка бягучай работы мясцовага кіравання. У іх абавязкі ўваходзіла адміністрацыйна-гаспадарчая дзейнасць у велікакняжацкіх маёнтках, яны стаялі на чале мясцовых воінскіх злучэнняў, былі распарадчыкамі фінансаў, а таксама суддзямі над гаспадарскімі падданымі ў сваёй воласці ці павеце [221].

Ніжэйшым звяном дзяржаўнай улады на месцах у канцы

---

[219] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 2. Л. 1—3; Спр. 4. Л. 2, 11; Спр. 21. Л. 6; Wolff J. Senatorowie... S. 25, 35, 37, 45, 86, 87, 125; Boniecki A. Poczet rodów... S. 20—24, 71—74, 86—88, 300—308, 354—359; Малиновский И. А. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского // Изв. имп. Томского ун-та. Кн. 21. Томск, 1902. С. 22—23, 27—28, 39, 66—67.

[220] Любавский М. К. Областное деление... С. 82, 96, 102—105, 161.

[221] Любавский М. К. Очерк... С. 153—164.

XV — першай палавіне XVI ст. з'яўлялася вясковая адміністрацыя: цівуны, сотнікі, сарочнікі, дзесятнікі, прыставы, старцы. Гэтыя адміністрацыйныя пасады займалі заможныя сяляне, аб чым сведчыць каралеўская грамата 1529 г., якая загадвала, каб «старцы, тивуны, приставы, сорочники, гуменники, обирали што з лепшых служоб, верных, которыи бы больше стерегли работы, пашни и инших наших пожитков»[222]. Такі доўгі пералік асоб вясковай адміністрацыі гаворыць не аб наяўнасці вялікага штату вясковых «ураднікаў»: ён адлюстроўвае розніцу ў іх найменнях у розных раёнах Беларусі. Так, у Мядзельскай воласці знаходзім цівуноў, у Радашковіцкай — прыставаў, у землях верхняга і сярэдняга Нёмана — сотнікаў, сарочнікаў і дзесятнікаў, у Аршанскай, Барысаўскай воласцях Полацкай зямлі — старцаў[223]. Але нягледзячы на розніцу ў найменнях, дзейнасць названых адміністрацыйных асоб нічым істотным не адрознівалася. Функцыі цівуноў, старцаў і іншых былі дваякімі: з аднаго боку, яны размяркоўвалі і збіралі чыншы і даніну з сялян, наглядалі за работамі ў велікакняжацкай гаспадарцы, з другога — абаранялі сялян ад свавольстваў і празмернага прыгнёту з боку аканомаў. Такім чынам, вясковыя службовыя асобы выконвалі ролю сувязнога звяна паміж феадальнай уладай і сялянскім самакіраваннем, значэнне якога па меры запрыгоньвання сялянства зводзілася да мінімуму. Аб змяншэнні сялянскіх паўнамоцтваў гаворыць і той факт, што службовыя асобы з сялян не выбіраліся імі, а назначаліся кіраўніком адміністрацыі, а ў асобных выпадках і вялікім князем асабіста. Праўда, у некаторых валасцях (Барысаўскай, Гомельскай, Любашанскай, Магілёўскай) у першай палавіне XVI ст. сяляне яшчэ выбіралі старцаў[224]. Але такое становішча ўжо стала выключэннем з правіла. Правілам жа было прадпісанне ў грамаце Жыгімонта сялянам Чачэрскай воласці за 1547 г.: «што ся дотычит... выбираня старца, то есть реч наша, господарская, а не ваша, хлопская»[225]. Тым самым сяляне-«ўраднікі» аказваліся не столькі прадстаўнікамі сялянскай абшчыны, colькі ўжо ніжэйшым звяном апарату феадальнай адміністрацыі.

У канцы XV — першай палавіне XVI ст. на беларускіх землях захаваліся невялікія княствы-вотчыны: Давыд-Гарадоцкае, Клецкае, Кобрынскае, Капыльскае, Мсціслаўскае, Слуцкае, Пінскае. Валодалі імі ў асноўным прадстаўнікі велікакняжацкай фаміліі. Гэтыя астраўкі, якія ўкліньваліся ў межы ваявод-

---

[222] АЗР. Т. 2. С. 198.

[223] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1556. Л. 4—7, 11; Документы Московского архива министерства юстиции. Т. 1. М., 1897. С. 80, 102, 130—133; АЮЗР. Т. 1. С. 198; Любавский М. К. Областное деление... С. 424, 426—428, 435—437.

[224] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. С. 57—58.

[225] ЦДГА БССР. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1556. Л. 4 адв.

стваў і падначальваліся ваяводам толькі ў ваенных адносінах, валодалі поўнай унутранай аўтаноміяй. Валадары княстваў праводзілі ў сваіх землях самастойную падатковую палітыку, здавалі сваім васалам землі і сялян, чынілі суд над падданымі [226]. Апарат мясцовага кіравання ў названых княствах-вотчынах практычна не адрозніваўся — тыя ж намеснікі, цівуны і іншыя ўраднікі набіраліся, як правіла, з мясцовых феадалаў.

Адной з галоўных функцый мясцовых органаў улады была судовая. Суд знаходзіўся ў распараджэнні важнейшых службовых асоб мясцовай адміністрацыі: суд намесніцкі, ваяводскі. Юрысдыкцыі названых судоў падлягалі дзяржаўныя сяляне, мяшчане гарадоў, якія не мелі магдэбургскага права, шляхта, што трымала маёнткі ў вялікакняжацкіх землях. Непадсуднымі ім былі мяшчане гарадоў з самакіраваннем, прыватнаўласніцкія і царкоўныя сяляне. Апошніх судзілі землеўладальнікі «па звычаю старадаўняму», якое дадзена было вярхоўнай уладай. Яшчэ вялікі князь Свідрыгайла, калі раздаваў феадалам у спадчыннае валоданне землі, указваў, што ім прадстаўляецца права «свое люди судити, и вины и пересуд оных имати» [227]. А ў 1447 г. быў выдадзены прывілей, які афіцыйна ўзаконіў юрысдыкцыю феадалаў над сялянамі [228].

У вялікакняжацкіх землях правіў суд сам ваявода. Праўда, Статут Вялікага княства Літоўскага вызначаў, што ў выпадку адсутнасці ці занятасці кіраўніка мясцовай адміністрацыі правасуддзе маглі вяршыць асобы, якія яго замяшчаюць, але з абавязковым у такіх выпадках удзелам двух ці па меншай меры аднаго шляхціца [229].

Прынцып удзелу мясцовай шляхты ў судовай дзейнасці быў прыняты на ўзбраенне пры стварэнні судовых устаноў паводле рэформы 1565—1566 гг. У паветах ствараліся земскія суды. Камплектаванне іх праходзіла наступным чынам: на павятовым сейміку выбіраліся па 4 кандыдаты на пасаду суддзі, падсудка і пісара. Кандыдаты абавязаны былі быць шляхціцамі, якія мелі зямельныя ўладанні, былі ўраджэнцамі Вялікага княства Літоўскага, у павеце не «новооселые» (практычна мясцовая шляхта), хрысціянамі, якія ведалі права, былі пісьменнымі і не займалі іншых дзяржаўных і царкоўных пасад [230]. Затым вялікі князь з прадстаўленых кандыдатур зацвярджаў суддзяў, падсудкаў і пісараў. Земскі суд разглядаў галоўным чынам грамадска-прававыя іскі. На яго паседжаннях разбіраліся справы князёў, шляхты, баяр, што мелі ў павеце свае землі,

---

[226] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 171.
[227] Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве. Калекцыя пергаментных дакументаў. Спр. 8501.
[228] БЭФ. Т. 1. С. 127.
[229] Первый Литовский статут. Т. 1, ч. II, разд. VI, ст. 3.
[230] СВКЛ 1566 г. Разд. IV, арт. 1.

за выключэннем спраў, якія разглядаліся вялікакняжацкімі і гродскімі судамі [231].

Гродскі (замкавы) суд у адрозненне ад выбарнага шляхецкага земскага суда камплектаваўся з асоб, якія прызначаліся ваяводай. Таксама ў адрозненне ад суда земскага ён быў у значнай ступені ўсесаслоўным. Тут разглядаліся справы па абвінавачванню і шляхты, і мяшчан, і сялян. Нярэдка нават справы ўзбуджалі (з'яўляліся «стороной поводовой») сяляне. Гродскі суд вырашаў у асноўным крымінальныя справы [232].

Вырашэннем пазямельных спрэчак землеўласнікаў займаліся падкаморскія павятовыя суды, якія ствараліся таксама паводле рэформы 1565—1566 гг. Суд гэты складаўся з аднаго суддзі — падкаморага, які па Статуту 1566 г. пажыццёва прызначаўся вялікім князем з ліку шляхціцаў, «оселых в повете том» [233]. Гэта лішняе сведчанне таму, што вярхоўная ўлада ў судовай дзейнасці ці на месцах абапіралася ў асноўным на мясцовую шляхту.

У эпоху Скарыны ў дзяржаўнай судовай сістэме на тэрыторыі Беларусі дзейнічаў і традыцыйны копны суд. Пазасаслоўнасць яго (у актах копных судоў шляхціц, баярын, селянін выступаюць раўнапраўнымі асобамі ў судовым разборы) дае падставу меркаваць аб дафеадальным узнікненні капы. Суддзямі на копным сходзе былі мужы і старцы копныя, якія вылучаліся з сялян. На капе ў якасці наглядальніка маглі прысутнічаць прадстаўнікі дзяржаўнай адміністрацыі (возны ці віж), якія сведчылі затым перад гродскім судом аб захаванні на капе норм традыцыйнага і пісанага права. Копы збіраліся для разбораў як грамадзянскіх, так і крымінальных спраў. Судовыя пастановы тут абскарджанню не падлягалі і выконваліся адразу. Па меры ўзмацнення ролі дзяржаўнай адміністрацыі значэнне копных судоў змяншаецца. І калі ў XVI ст. дзяржаўныя органы не перашкаджалі іх дзейнасці, то ў XVII ст. копныя сходы пачалі забараняцца землеўладальнікамі і прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі [234].

Такім чынам, можна заключыць з вышэйсказанага, што сістэма мясцовага кіравання на беларускіх землях, якая сфарміравалася ў канцы XV — першай палавіне XVI ст., з'явілася вынікам кампрамісу вярхоўнай улады ў асобе вялікага князя і прыбліжанай да яго магнатэрыі са шляхтай (стварэнне павятовых сеймікаў, мясцовых шляхецкіх судоў) і з мясцовымі княжацкімі і баярскімі родамі (аўтаномны статус Полацкай і Ві-

---

[231] Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978. С. 123.

[232] Юхо И. А. Правовое положение... С. 121—123.

[233] СВКЛ 1566 г. Разд. IV, арт. 70.

[234] Юхо И. А. Основные черты судопроизводства по Статуту Великого княжества Литовского 1529 г. // Первый Литовский статут 1529 г. С. 50; Яго ж. Правовое положение... С. 126—127.

цебскай зямель, далучэнне буйных феадалаў беларускага паходжання да палітычнай эліты Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, якая трымала ўладу ў дзяржаве).

Аднак, нягледзячы на супярэчнасці ўнутры пануючага класа, ён адзіным фронтам выступаў супраць народных мас. Запрыгоньванне сялян, узмацненне павіннаснага прыгнёту, пашырэнне паншчыны патрабавалі развітога апарату гаспадарання і нагляду Гэта і прывяло да стварэння рада мясцовых інстытутаў кіравання, якія выступалі сродкам эксплуатацыі і падаўлення незадаволенасці сялян і гараджан.

Канец XV — першая палавіна XVI ст.— час інтэнсіўнага складвання беларускай народнасці. З'яўленне такой постаці, як Ф. Скарына, трэба лічыць вынікам, увасабленнем гэтага працэсу. Для фарміравання беларускай народнасці ў межах Вялікага княства Літоўскага вялікае значэнне мела цэласнасць былых старажытнарускіх зямель у новым дзяржаўным утварэнні. Умацаванню адзінства гэтых зямель садзейнічала ўзмацненне ўнутраных эканамічных сувязей. Усё больш прыкметны падзел працы актыўна ўцягваў вёску ў гандлёвы абмен з горадам, спрыяў таму, што павялічваліся таварна-грашовыя адносіны, пашыраўся ўнутраны рынак. Менавіта канец XV — першая палавіна XVI ст. сталі часам росквіту буйнейшых гарадоў, цэнтраў лакальных рынкаў — Полацка, Магілёва, Гродна, Брэста. Рост лакальных рынкаў прадвызначаў пашырэнне іх гандлёвых сувязей паміж сабою. Аб інтэграванні мясцовых рынкаў гаворыць той факт, што ў першай палавіне XVI ст. была створана на беларускіх землях параўнаўча аднародная сістэма манетнага абароту. Калі да гэтага часу ў Полацкай і Віцебскай землях была ў абароце галоўным чынам манета прыбалтыйскай чаканкі (шылінгі), у верхнім Падняпроўі ў грашовым абароце першае месца займаў пражскі грош, у цэнтральным і ўсходнім Палессі — залатаардынскія дзірхемы і пулф (г. зн. грашовая сістэма экспартнай арыентацыі), то пачынаючы з XVI ст. асноўнай манетай на ўсёй тэрыторыі Беларусі становіцца літоўскі паўгрош віленскай вытворчасці [235].

Унутрыэканамічная сцэпленасць садзейнічала пашырэнню ўнутрыэканамічных кантактаў, нівеліроўцы некаторых вытворча-бытавых адрозненняў, моўнай інтэграцыі. У эпоху Скарыны завяршылася фарміраванне агульнанароднай беларускай мовы. Без шматвяковага развіцця «рускай» мовы (так называлася старабеларуская мова ў крыніцах таго часу) немагчыма было б з'яўленне скарынаўскіх выданняў, якія адрасаваліся «люду посполитому», што размаўляў на гэтай мове, «...для того, абы братия моя русь ...чтучи могли лепей разумети» [236]. На думку

---

[235] Рябцевич В. Н. О чем рассказывают монеты. 2-е изд. Мн., 1977. С. 95, 96, 105, 108; Этнаграфія беларусаў. Мн., 1985. С. 64.

[236] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 47.

Я. Карскага, важнейшыя асаблівасці беларускай мовы ў той ці іншай меры існавалі ўжо ў XIII ст.[237]. Разам з гутарковай складаецца і беларуская літаратурная мова, у якой замацоўваюцца граматычныя і лексічныя формы народнай гаворкі[238]. Ужо XV ст. дае нам рад пісьмовых помнікаў — прывілеяў, юрыдычных дакументаў, летапісаў («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» і інш.), перакладных твораў на старабеларускай мове[239]. Распрацаванасць старабеларускай мовы і шырыня ўжытку (паводле даных Г. Лаўмяньскага, колькасць літоўцаў сярод насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і Рускага складала не больш чым 20%[240]) зрабілі яе афіцыйнай у Вялікім княстве. Справаводства ў вялікакняжацкай канцылярыі вялося на старабеларускай мове, яна стала мовай суда, на ёй пісаліся законы, адзін з якіх гаварыў: «А писар земский масть по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим языком и словы»[241].

Шырокае распаўсюджанне ў княстве мела «права рускае», генетычна звязанае з мясцовай інтэрпрэтацыяй «Рускай праўды» Старажытнай Русі. Практычна на яго абапіралася сістэма судаводства ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу XIV—XV стст. Новая прававая кадыфікацыя (статуты) у аснове мела таксама традыцыі «рускага» права[242].

У эпоху сярэдневякоўя адным з важных, а часам і вызначальным кампанентам этнічнай самасвядомасці таго ці іншага народа з'яўлялася рэлігійная прыналежнасць[243]. У той жа час рэлігія часта выступала не толькі этнавызначальным, але і этнастваральным фактарам — асабліва ў дзяржавах полірэлігійных, як Вялікае княства Літоўскае. Абсалютная большасць усходнеславянскага насельніцтва гэтага дзяржаўнага ўтварэння было праваслаўным, прычым да з'яўлення Вялікага княства праваслаўная царква на беларускіх землях існавала ўжо некалькі стагоддзяў. Літва ж з язычніцкай пераўтварылася ў каталіцкую на рубяжы XIV—XV стст. Каталіцызм як рэлігія літоўскай арыстакратыі стаў сродкам барацьбы за ўмацаванне палітычнай переваі ў княстве гэтай часткі пануючага класа. Каталіцызм пачаў пранікаць на беларускія землі з дапамогай царкоўных установ. Як было паказана, буйныя валоданні-латыфундыі як у заходняй, так і ва ўсходняй Беларусі мела віленскае епіскапства. Пры актыўным садзейнічанні вярхоўнай улады на беларускіх землях замацаваліся манастыры ордэна

---

237 Карский Е. Ф. Беларусы. Т. 1. Варшава, 1903. С. 105.
238 Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. С. 79.
239 История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 49—58.
240 Łowmiański H. Studia... S. 390.
241 Лаппо И. И. Литовский статут 1588 г. Т. II. Текст. Каунас, 1938. Разд. IV, арт. 1.
242 Этнаграфія беларусаў. С. 68—69.
243 Бромлей Ю. В. Этнос и этнография. М., 1973. С. 59, 106, 111.

францысканцаў (Ліда, Навагрудак, Ашмяны — канец XIV ст.), бернардзінцаў (Гродна — 1494 г., Полацк — 1498 г., Браслаў — 1504 г.), аўгусцінаў (Быстрыца — 1390 г., Брэст — пачатак XV ст.) [244]. Гэта сіла разгарнула буйную дзейнасць па акаталічванню праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Вось прыклад такога роду дзейнасці, які ўзяты з паслання Івана III вялікаму князю Аляксандру. Вялікі князь маскоўскі папракае «гаспадара літоўскага», што той «ныне ново силу учинил Руси, чего напеед того при отце и при его предках не бывало: колко велел поставляти божниц римского закона в русских городах, в Полоцтку и в иных местех, да жены от мужей и детей от отцов с живота отнимаючи силою покщают в римский закон» [245]. У 1481 г. была прынята пастанова, паводле якой забаранялася будаўніцтва праваслаўных храмаў на тэрыторыі Вялікага княства. Не прызнаваліся і перадачы зямель праваслаўным царквам і манастырам у якасці падараванняў ці завяшчанняў [246]. Сапраўды, сярод даравальных грамат 80—90 гадоў XV — пачатку XVI ст. ніводнай такой не сустракаецца [247].

Значнае месца ў рэлігійнай палітыцы велікакняжацкай улады адводзілася планам уніі праваслаўнай і каталіцкай царквы пад эгідай рымскай курыі. Пытанне гэта падымалася Ягайлам, Вітаўтам, Свідрыгайлам. Нарэшце ў 1439 г. на Фларэнційскім саборы царкоўна-рэлігійная унія была аб'яўлена. Аднак падтрымкі з боку «рускага» насельніцтва Вялікага княства яна не атрымала і практычна была правалена [248]. У канцы XV — на пачатку XVI ст. вялікім князем Аляксандрам з дапамогай епіскапа смаленскага Іосіфа Балгарыновіча, які заняў у 1500 г. кафедру мітрапаліта, былі зроблены спробы ўзнавіць унію. Але і яны аказаліся няўдалымі таму, што ні час правядзення (гады адкрытай барацьбы з Масквой, якая аб'явіла сябе абаронцам праваслаўя ў Вялікім княстве), ні метады (пракаталіцкая накіраванасць унутранай палітыкі Аляксандра) былі непрыгоднымі. Аж да стварэння Рэчы Паспалітай велікакняжацкі ўрад не падымаў больш пытання аб царкоўна-рэлігійнай уніі.

Пераемнікі Аляксандра Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст, знаходзячыся ў цяжкім унутры- і знешнепалітычным становішчы, памятаючы пра ўрокі гвалтоўнага акаталічвання, калі праваслаўнае насельніцтва Беларусі заняло адкрыта антыкаталіцкую, антыўрадавую пазіцыю [249], пайшлі на прызнанне права-

[244] Гринблат М. Я. Белорусы. Мн., 1968. С. 156—157; БелСЭ. Т. 2. С. 308; Т. 10. С. 631.

[245] РИО. Т. XXXV. С. 299.

[246] Хорошкевич А. Л. О международных аспектах религиозной политики... С. 32.

[247] Там жа. С. 32—33.

[248] Papee F. Polska i Litwa. S. 24—25.

[249] Такая пазіцыя дакладна сфармулявана ў лісце са Смаленска пад'ячага Фёдара Шастакова намесніку маскоўскаму ў Вязьме (1498 г.): «Ино наша Русь вельми з Литвою не любят» // АЗР. Т. 1. № 155.

слаўнай царквы і стварэнне рэлігійнай талерантнасці ў Вялікім княстве Літоўскім. У абыход велікакняжацкага дэкрэта 1481 г. аб забароне будаўніцтва праваслаўных храмаў і перадачы зямельных падараванняў праваслаўным установам узводзяцца новыя цэрквы і манастыры і справаводцы складаюць даравальныя граматы праваслаўным арганізацыям. Пры Жыгімонце I у княстве з'явілася каля 90 праваслаўных храмаў, у Вільні было 15 цэркваў пры 14 касцёлах, у Навагрудку на 1 касцёл прыходзілася 10 цэркваў, у Полацкім і Віцебскім паветах было толькі па аднаму касцёлу, а ўсходнія раёны Беларусі (Магілёўшчына, Мсціслаўшчына, Аршаншчына) не мелі каталіцкіх культ[ав]ых збудаванняў да пачатку XVII ст.[250] 1507 годам датуецца першая пасля амаль трыццацігадовага перапынку грамата, паводле якой нейкі Сямён Раманавіч завяшчаў царкве палавіну маёнтка Шапялевічы на Прыпяці. У 1507—1508 гг. царква Прачыстай багародзіцы Пустынскага манастыра ў Мсціслаўлі атрымала права збору дані ў вёсцы Лобкавічы Крычаўскай воласці. У 1509 г. служыцелям царквы св. Міколы ў Оршы дазволена было ездзіць за данінай з бортных зямель ва ўладанне Гомель, кіеўскі Мікола-Пустынскі манастыр атрымаў у 1514 г. службу людзей у Мазырскім павеце[251].

Такім чынам, першая палавіна XVI ст. адрознівалася ад папярэдняга стагоддзя і наступных часоў сваёй рэлігійнай талерантнасцю. Яна была заваёвана праваслаўным насельніцтвам Вялікага княства Літоўскага ў жорсткай барацьбе супраць каталіцкай экспансіі. Ад канца XIV — пачатку XV ст., часу вітаўтавай талерантнасці, якая мела формулу «...каторы б русін... хацеў бы па сваёй волі хрысціцца, няхай хрысціцца, а каторы б не схацеў, хай будзе ў сваёй веры»[252], да велікакняжацкай палітыкі верацярпімасці пачатку XVI ст. прайшлі дзесяцігоддзі насаджэння каталіцызму на беларускіх землях. І прайшлі яны для служыцеляў Рыма, трэба сказаць, не дарма. Няхай сабе асноўная маса ўсходнеславянскага насельніцтва Вялікага княства засталася праваслаўнай, няхай яшчэ 23 княжацкія і 42 шляхецкія роды тут прытрымліваліся праваслаўнай веры[253], няхай заставаліся старыя і будаваліся новыя праваслаўныя храмы, але ж былі ўжо Глябовічы, Іллінічы, Солтаны, Сапегі, якія прынялі каталіцтва, існавала 19 каталіцкіх парафій у Гродзенскім павеце, 20 — Навагрудскім, 16 — Мінскім, 15 — Валкавыскім, 7 — Слонімскім, па адной — у Полацкім, Віцебскім

---

[250] Грицкевич А. П. Белоруссия во времена Ивана Федорова // Иван Федоров и восточное книгопечатание. Мн., 1984. С. 56; Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979. С. 20.

[251] Хорошкевич А. Л. О международных аспектах религиозной политики... С. 337.

[252] Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979. S. 76.

[253] Этнаграфія беларусаў. С. 97.

і Аршанскім паветах [254], па ўсёй Беларусі ад Пінска да Полацка ўзводзіліся манастыры каталіцкіх ордэнаў. І сіла гэта толькі ўзяла передышку. Канец XVI ст. азнамянуецца заключэннем Брэсцкай уніі, а ў наступныя XVII—XVIII стст. каталіцкая экспансія на беларускіх землях дасягне свайго апагея.

Аднак у антыкаталіцкім запале нельга падымаць на шчыт, ідэалізаваць праваслаўе. У XV — сярэдзіне XVI ст. вярхоўная ўлада Вялікага княства Літоўскага падначаліла праваслаўную іерархію ў сваёй дзяржаве і толькі супраціўленне народных мас не дазволіла рэалізаваць планы царкоўнай уніі. Ды і не трэба забывацца на тое, што праваслаўная царква, якая валодала дастаткова вялікімі зямельнымі ўгоддзямі, была на той час такім жа, як царква каталіцкая, эксплуатататарам прыгоннага сялянства. Палітычны ж пратэст «пад рэлігійнай абалонкай, — як адзначаў У. І. Ленін, — ёсць з'ява, якая ўласціва ўсім народам на вядомай ступені іх развіцця» [255].

Перыяд другой палавіны XV — першай палавіны XVI ст. быў адным з самых складаных і важных у гісторыі Беларусі. Гэта час далейшага развіцця вытворчых сіл феадальнага грамадства, якое ішло за кошт далейшага ўзмацнення эксплуатацыі народных мас. Рост феадальнай эксплуатацыі на тэрыторыі Беларусі суправаджаўся нацыянальна-рэлігійным прыгнётам, які ўвасабляўся ў каталіцкай экспансіі і насаджэнні землеўладання буйных літоўскіх феадалаў. Тым не менш у барацьбе супраць гэтых з'яў у XVI ст. практычна завяршылася складванне беларускай народнасці, важным дасягненнем культуры якой стала асветніцкая дзейнасць усходнеславянскага першадрукара, вучонага-гуманіста Францыска Скарыны.

---

[254] Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustroj i uposażenie. Poznań, 1972. S. 81, 90.

[255] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 48. С. 232.





## ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСАЎ ЭПОХІ СКАРЫНЫ: СЯМЕЙНЫ І ГРАМАДСКІ ПОБЫТ, МАТЭРЫЯЛЬНАЯ І ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА

Эпоха Скарыны (канец XV — першая палавіна XVI ст.) складае адзін з найбольш цікавых і важкіх у этнакультурным аспекце перыядаў гісторыі утварэння і развіцця феадальнай этнічнай супольнасці беларусаў — народнасці. На гэты час прыпадае ўзнікненне ў этнасацыяльных характарыстыках народа прынцыпова новых з'яў, элементаў, прыкмет, якія паступова ўваходзілі ў побыт, культуру, мову, самасвядомасць не толькі больш мабільных вышэйшых феадальных колаў, але і ў асяроддзе простых саслоўяў — гараджан і сялян. Беларускі народ пачынае найбольш актыўна далучацца да агульнаеўрапейскага жыцця, карыстацца новымі для таго часу, больш прагрэсіўнымі формамі развіцця грамадства (пры захаванні шматлікіх традыцый і звычаяў старажытнасці).

Не ўсё новае, што пранікала на Беларусь ці самастойна ўзнікала на яе землях пад уплывам новых тэндэнцый у канцы XV — першай палавіне XVI ст., успрымалася насельніцтвам з задавальненнем і ўсведамленнем неабходнасці новых з'яў. Прынцып «старыны не рухаці» задавальняў большасць прадстаўнікоў амаль што ўсіх саслоўных груп насельніцтва, якія лічылі «звычай старадаўні» устойлівай і зразумелай традыцыяй, што ішла ад дзядоў. І толькі асобныя прадстаўнікі народа, якія пазнаёміліся з заходнееўрапейскай культурай і, усвядоміўшы прагрэсіўнасць пэўных яе элементаў, імкнуліся распаўсюджваць гэтыя вартыя да прыстасавання на мясцовай глебе і неабходныя для далейшага культурнага, этнічнага і грамадскага развіцця з'явы. З павагай і любоўю адносіліся яны і да добрых традыцый бацькоў і дзядоў. Адным з такіх дзеячаў быў прадстаўнік мяшчанскага (гарадскога) саслоўя доктар па адукацыі, палачанін па паходжанні, «русін» па самасвядомасці — Францыск Скарына.

Новыя з'явы ахапілі ў той час не толькі сферу культуры і этнасацыяльнага жыцця народа, пранікалі яны і ў сістэму палітычна-юрыдычнай і эканамічнай арганізаванасці феадальна

га грамадства Беларусі. Феадальныя вярхі былі зацікаўлены ў далейшым развіцці дзяржаўнасці і грамадства, у павышэнні рэнтабельнасці гаспадаркі і, само сабой зразумела, у павелічэнні вагі сваіх кашалькоў. Дзеля гэтага ў перыяд з канца XV і да сярэдзіны XVI ст. на землях Беларусі (таксама — Літвы і Украіны, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага) былі ажыццёўлены рознага роду рэформы, якія закранулі амаль што ўсе сферы эканамічнага, палітычнага, юрыдычнага і этнасацыяльнага жыцця насельніцтва. Узнікшы як навацыі, многія з гэтых з'яў праз два пакаленні людзей (ужо к канцу XVI ст.) сталі таксама традыцыйнымі, але ж на пачатку яны разам з элементамі даўніны складалі сінкрэтычную сумесь старога і новага ў жыцці і развіцці беларускага народа.

У этнічным аспекце апошнія стадыі этнагенезу беларускага этнасу, якія прыпадалі якраз на час Ф. Скарыны, таксама характарызаваліся цесным скрыжаваннем і ўзаемадзеяннем традыцыйнага і новага. Прычым традыцыі адлюстроўвалі лакальную разнастайнасць праяўлення асноўных прыкмет мовы, культуры, побыту, самасвядомасці, а навацыі, наадварот, паступова распаўсюджваліся на ўсю дэмаграфічную супольнасць і выконвалі інтэгруючую функцыю ў этнічным фармаўтварэнні.

Пачынаючы з гэтага перыяду лакальныя варыянты (дыялекты) усходнеславянскай (як тады пісалі — «рускай») афіцыйнай мовы Вялікага княства Літоўскага паступова нівеліруюцца на падставе ўзрастаючай колькасці беларусізмаў і складаюць у межах этнаграфічнай Беларусі старабеларускую мову. Навацыі культуры і побыту закранаюць у перыяд канца XV — першай палавіне XVI ст. амаль што ўсе сацыяльныя слаі грамадства і садзейнічаюць узнікненню ў межах усёй Беларусі (нават і шырэй) аднолькавых ці значна падобных рыс. У той час больш дакладна выкрышталізоўваецца класавая палярнасць феадальнай культуры грамадства, падзеленай на культуру пануючай вярхушкі і народную, галоўным чынам сялянскую, культуру, якая таксама ў значнай ступені нівеліруецца дзякуючы новым з'явам. У XVI ст. і асабліва ў яго апошнія дзесяцігоддзі мы не знойдзем ніводнага істотнага элемента народнай культуры, які не меў бы пэўнага распаўсюджання ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Пачатак найбольш актыўнага функцыяніравання працэсаў этнакультурнай кансалідацыі насельніцтва Беларусі быў пакладзены менавіта ў эпоху Ф. Скарыны.

На падставе дзяржаўна-палітычнай самасвядомасці пачынаючы з канца XV ст. паступова складваецца агульная для ўсіх беларусаў форма саманазвы — палітонім *ліцвіны* [1], які дапаў-

---

[1] Пры канфесійнай дыферэнцыяцыі насельніцтва на праваслаўных і католікаў першыя як у часы Ф. Скарыны, так і пазней працягвалі ўстойліва вызначаць сябе традыцыйнай старажытнай этнанімічнай формай *русіны, руськія, русічы, рускія* // Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 130—137.

няе зямляцкія вызначэнні (тыпу *палачане, берасцяне, піняне, мсціслаўцы* і інш.) і ахоплівае ў форме назвы з боку суседзяў (рускіх, украінцаў, палякаў) амаль што ўвесь беларускі этнас разам з усходнімі групамі менавіта літоўцаў[2]. Увогуле перыяд канца XV — першай палавіны XVI ст. характарызаваўся ў этнічным аспекце актывізацыяй этнакансалідуючых фактараў, што ў выніку абумовіла завяршэнне працэсу фарміравання беларускай народнасці ў XVI ст.

Пытанні сямейнага і грамадскага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў таго часу не былі асветлены ў спецыяльных даследаваннях, аднак маюць даволі шырокую гістарыяграфію, прадстаўленую радам прац дарэвалюцыйных і савецкіх даследчыкаў, дзе гэтыя пытанні разглядаліся паасобна [3]. Цяжкасці, звязаныя з вывучэннем дадзенага перыяду этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, абумоўлены адносна невялікай колькасцю аўтэнтычных гістарычных матэрыялаў (у параўнанні, напрыклад, з другой палавінай XVI ст. ці з XVII—XVIII стст.), што, з аднаго боку, не дае магчымасці даць найбольш поўны і грунтоўны малюнак гістарычнага жыцця народа таго часу, а, з другога боку, садзейнічае ўзнікненню і існаванню вельмі супярэчлівых інтэрпрэтацый і канцэпцый даследчыкаў.

Агульны дэмаграфічны масіў насельніцтва Беларусі таго часу (на сярэдзіну XVI ст.) налічваў каля 2 млн. чалавек, з якіх больш за 85% складала сялянства, 9—10% — гараджане, астатнія — феадалы, духавенства і інш. Асноўную частку насельніцтва краю складалі беларусы, саманазвы якіх (акрамя зямляцкіх вызначэнняў тыпу «палачане», «берасцяне», «тураўцы», «случане» і інш.) былі звязаны з этнонімамі «русіны», «руськія» ў праваслаўнага насельніцтва і «ліцвіны» ў католікаў. Апошняя назва выкарыстоўвалася часам і ў якасці дзяржаўна-палітычнага вызначэння (палітоніма) як для каталіцкага, так і для праваслаўнага насельніцтва Беларусі. З боку суседзяў (рускіх, украінцаў і палякаў) назва «ліцвіны» ўжывалася таксама для вызначэння ўсяго насельніцтва Вялікага княства Літоўскага (перш за ўсё беларусаў і літоўцаў). Аднак у адносінах адзін да другога назва «ліцвіны» ў гэтых народаў не выкарыстоўвалася. Вызначаючы сябе «ліцвінамі», беларускае насельніцтва называла суседнія групы літоўцаў «аўкштайтамі» ці «жамайта-

---

[2] Нават і пазней, у XVII ст., калі пачала распаўсюджвацца сучасная назва народа беларусы (у форме беларусцы), палітонім *ліцвіны* захоўваўся ў складаным этнанімічным вызначэнні «ліцвіны беларусцы», якім называлі сябе выхадцы з Беларусі ў Маскоўскай дзяржаве і іншых краінах // Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез і этнічная гісторыя. Мн., 1985. С. 80—82.

[3] Амаль што ўсе асноўныя працы, прысвечаныя пытанням сямейнага і грамадскага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў канца XV — першай палавіны XVI ст., а таксама рад вядомых зараз гістарычных дакументаў і матэрыялаў таго часу пададзены ў гэтым даследаванні ў бібліяграфічных спасылках.

мі» («жмуддзю»), а апошнія ў сваю чаргу ўсіх усходніх суседзяў — «гудасамі», ці «гудаямі».

Найбольш кампактным арэалам балцкае насельніцтва пражывала на землях паўночна-заходняй Беларусі, у раёнах Браслава, Пастаў, Ашмян, Міёр, Іўя, Ліды, Шчучына і на поўнач ад Гародні. Экстэрытарыяльныя групы літоўцаў пражывалі амаль што па ўсёй Беларусі, у тым ліку на ўсходзе, напрыклад, у воласці Обальцы (паміж Сенна і Талочынам).

Акрамя ўсходнелітоўскага насельніцтва на Беларусі яшчэ з XIII ст. рассяляліся экстэрытарыяльныя групы заходнебалцкага паходжання — дайнова, яцвягі, барцякі, прусы, рэшткі існавання якіх захаваліся да нашых часоў у адпаведных этнічных назвах вёсак Свіслацкага, Ваўкавыскага, Шчучынскага, Астрынскага, Мастоўскага, Лідскага, Ашмянскага, Астравецкага, Мядзельскага і іншых раёнаў. Паўднёва-заходнія раёны Берасцейскай зямлі і часткова т. зв. Чорнай Русі складалі перыферыйны арэал існавання палякшан (палексян, палесян), этнагенетычна звязаных з заходнебалцкім племянным саюзам яцвягаў. Этнаграфічныя асаблівасці гэтага насельніцтва ў адрозненне ад большасці іншых заходнебалцкіх груп Беларусі захоўваліся амаль што да другой палавіны XIX ст., калі і былі зафіксаваны даследчыкамі. Сярод іншых груп балцкага насельніцтва на Беларусі існавалі таксама адносна невялікія пасяленні латгалаў (латыгалі) і латышоў (лотвы) — у Браслаўскім, Дзісненскім, Міёрскім, Глыбоцкім, Маладзечанскім, Ашмянскім, Вілейскім, Іўеўскім, Ляхавіцкім раёнах.

У перыяд XV — першай палавіны XVI ст. на Беларусі ў выніку войн і па палітычных меркаваннях з'явіліся шматлікія групы рускага насельніцтва з Цверы, Ноўгарада, Пскова, а таксама з сумежных заходніх абласцей Маскоўскай дзяржавы. Ваеннапалоннае рускае насельніцтва сялілася пераважна ў заходніх і цэнтральных раёнах краю (Бярэсці, Камянцы, Слоніме, Наваградку, Драгічыне і інш.), мігранты — па ўсёй Беларусі, але пераважна ў Падняпроўі і Падзвінні. У гэты ж час некаторыя князі з Маскоўскай дзяржавы (Мажайскія, Адоеўскія, Варатынскія, Серпухоўскія, Масальскія і інш.), пераходзячы на службу ў Вялікае княства Літоўскае, далучалі да яго зямель свае вотчыны, што садзейнічала актывізацыі міграцыйных працэсаў у беларуска-рускім пагранiччы — на ўсход ад Дняпра.

Асобную этнічную групу ў Беларусі часоў Ф. Скарыны складалі татары (збіральная назва рознаэтнічнага, пераважна цюркскамоўнага вандроўнага насельніцтва Паўночнага Прычарнамор'я). З часоў Гедыміна і Вітаўта і да пачатку XVI ст. палонных і запрошаных на службу татараў сялілі ў заходніх, паўднёвых і цэнтральных раёнах Беларусі (Клецк, Слуцк, Койданава, Менск, Петрыкаў, Ліда, Маладзечна, Ашмяны, Бярэсце і інш.) і ва ўсходняй Літве.

Іншаэтнічным насельніцтвам у тагачаснай Беларусі былі

палякі, прадстаўнікі якіх у пераважнай большасці апынуліся ў Вялікім княстве Літоўскім у якасці палонных пасля ваенных набегаў вялікіх князёў літоўскіх на Польшчу. У XV—XVI стст. ажыццяўляліся таксама мірныя міграцыі польскіх перасяленцаў (пераважна мазаўшан ці мазураў) у суседнія з Каронай Берасцейскую і Гарадзенскую землі. Тут, а таксама на Падляшшы, што ўваходзіла ў той час у склад Вялікага княства Літоўскага, яшчэ са старажытных часоў пражывала і аўтахтоннае польскае (мазавецкае) насельніцтва. Акрамя таго, пэўныя групы палякаў (рамеснікаў, духавенства, купцоў) сяліліся на Беларусі (таксама ў Літве) па запрашэнню і на льготных умовах.

Параўнальна вялікай іншаэтнічнай групай у той час былі таксама яўрэі, якія сяліліся пераважна ў гарадах і мястэчках. Асноўная па колькасці міграцыйная хваля яўрэйскага насельніцтва на Беларусь адбылася пазней XVI ст., але ўжо ў часы Ф. Скарыны буйныя яўрэйскія абшчыны існавалі ў Бярэсці, Кобрыне, Гародні, Ваўкавыску. Увогуле беларускія гарады таго часу вылучаліся вельмі змешаным этнічным складам сваіх жыхароў, што асабліва было ўласціва для заходніх раёнаў і найбольш буйных гарадоў Усходняй Беларусі, у тым ліку і Полацка.

У той жа час арэал існавання беларусаў не быў абмежаваны выключна тэрыторыяй іх асноўнага рассялення. Кампактныя і дысперсныя, перыферыйныя і экстэрытарыяльныя групы беларускага насельніцтва пражывалі на Віленшчыне, Пскоўшчыне, Смаленшчыне, Браншчыне, Падляшшы і ў Латгаліі, якія ўваходзілі ў склад адной поліэтнічнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Нават і ў сталіцы княства Вільні беларускамоўнае насельніцтва складала адну з найбольш вялікіх па колькасці груп жыхароў, што па назіраннях сучаснікаў адлюстравалася, напрыклад, у вялікай колькасці ў гэтым горадзе праваслаўных культавых будынкаў [4].

У канфесійным аспекце большая частка насельніцтва Беларусі ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. належала да праваслаўя і ўваходзіла ў склад аўтакефальнай мітраполіі на чале з мітрапалітам Кіеўскім і ўсёй Русі [5]. Каталіцкае насельніцтва складала ў той час значна меншы працэнт і найбольш кампактна пражывала ў заходніх раёнах Беларусі — у шырокай зоне беларуска-літоўскага пагранічча [6]. Адносіны паміж каталіцтвам і праваслаўем увогуле ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. былі талерантнымі. Праваслаўнае насельніцтва перыядычна

---

[4] Этнаграфія беларусаў. С. 66—68, 97—103.

[5] Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 140—150; Śliwa T. Kościół prawosławny w państwe Polsko-Litewskim // Historia kościoła w Polsce. Poznań; Warszawa, 1974. T. 1. S. 383—386.

[6] Гринблат М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 158—161.

зраўноўвалася ў правах з католікамі, што садзейнічала паслабленню антыкаталіцкага руху і антаганізму ў дзяржаве. Аднак некаторыя буйныя феадалы праваслаўнай веры, што былі незадаволены канфесійнай і іншай палітыкай вярхоўнай улады, на працягу згаданага перыяду некалькі разоў арганізоўвалі змовы і паўстанні з мэтай захопу ўлады ў дзяржаве ці далучэння часткі яе зямель да Маскоўскай дзяржавы (змова 1481 г., паўстанне М. Глінскага ў 1507 г. і інш.) [7].

У першай палавіне XVI ст. на Беларусі (таксама ў Літве і іншых краінах) пачынае распаўсюджвацца з Заходняй Еўропы Рэфармацыя і звязаная з ёю новая рэлігія — пратэстантызм. Пратэстанцкі рух захапіў пераважна каталіцкую царкву, але закрануў у Беларусі і праваслаўе (як саму царкву, так і насельніцтва — асабліва вышэйшыя феадальныя колы, частку шляхты і гараджан) [8]. Таксама як праваслаўныя і католікі, пратэстанты былі аб'яднаны ў асобныя рэлігійныя абшчыны, са сваімі цэрквамі, клірам, школамі, шпіталямі і нават друкарнямі.

Адміністрацыйна беларускія землі Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі ў склад Віленскага, Трокскага, Наваградскага, Берасцейскага, Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў, якія ўключалі таксама рад удзельных княстваў — Слуцкае, Пінскае, Клецкае і інш., што карысталіся ў дзяржаве пэўнай аўтаноміяй, мелі свой адміністрацыйна-судовы апарат улады, фінансы, войска.

Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел этнічных зямель беларусаў таго часу ў пэўнай ступені адлюстроўваў, а таксама быў звязаны з некаторымі гісторыка-этнаграфічнымі асаблівасцямі насельніцтва розных зямель Беларусі. Увогуле генезіс гэтых асаблівасцей узыходзіў да старажытных часоў рассялення славян на землях Беларусі, характару ўзаемадзеяння іх з мясцовымі групамі балцкага насельніцтва, спецыфікі этнічнай гісторыі продкаў беларусаў у больш познія часы (эпоха Кіеўскай Русі, феадальнай раздробленасці і перыяд аб'яднання ў складзе Вялікага княства Літоўскага).

Пэўны ўплыў на гісторыка-этнаграфічную тэрытарыяльна-зямляцкую дыферэнцыраванасць традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры, мовы і самасвядомасці розных груп беларусаў аказвалі і міжэтнічныя кантакты з суседзямі (перш за ўсё з літоўцамі, латышамі, рускімі, украінцамі і палякамі). Увогуле ў часы Ф. Скарыны на Беларусі ўжо склалася некаль-

---

[7] Сепаратызм некаторых буйных феадалаў і ваенна-эканамічная слабасць дзяржавы ў пачатку XVI ст. абумовілі страту Вялікім княствам Літоўскім рада ўсходніх зямель у выніку вайны 1500—1503 гг. з Маскоўскай дзяржавай // Kolankowski L. Zygmunt August, wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913.

[8] З усіх адгалінаванняў пратэстантызму найбольшае распаўсюджанне на Беларусі атрымаў кальвінізм // Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1980. С. 19—42.

пры праваслаўных — пераважна царкоўнаславянскую), арыфметыку, геаметрыю, радзей — астраномію, дыялектыку, рыторыку, філасофію, іншыя мовы (напрыклад, латынь, грэчаскую, польскую).

У розных навучальных установах колькасць прадметаў і якасць іх выкладання былі рознымі. Большасць навучальных устаноў не мела абмежаванняў па канфесійнаму прынцыпу. У школы каталіцкіх манаскіх ордэнаў мелі доступ і праваслаўныя. У тых школах, дзе не трэба было плаціць грошы (пры рэлігійных брацтвах, некаторых цэрквах, касцёлах, манастырах), адукацыю маглі атрымаць нават і дзеці «убогага люду». Аднак у бедных сем'ях дзеці з ранняга дзяцінства былі далучаны да працы «на хлеб надзённы» ў якасці служак, хлопцаў, парабкаў, казачкоў, вучняў і падмайстраў пры рамесніках, цэрквах, шпіталях, адміністрацыйна-службовых установах, камунальных гарадскіх службах і г. д. У цяжкія гады войнаў, разбурэння, эпідэмій і неўраджаеў у гарадах распаўсюджвалася дзіцячае жабрацтва і адходныя промыслы ў сельскую мясцовасць, іншыя гарады за «ялмужнай» у складзе цэлых бадзяжных груп жабракоў.

У той жа час прадстаўнікі сярэдніх і заможных груп гараджан мелі магчымасць накіроўваць сваіх дзяцей на выхаванне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Еўропы. Ураджэнцы Беларусі атрымлівалі вышэйшую адукацыю ва універсітэтах Кракава, Прагі, Аламоўца, Вены, Крулеўца (Кёнігсберга), Гейдельберга, Вютэнберга, Інгальштадта, Падуі, Балоньі і інш. Напрыклад, у Кракаўскім універсітэце ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. каля чвэрці (больш за 30 чалавек) ад агульнай колькасці студэнтаў з Беларусі і Літвы (больш за 140 чалавек) былі прадстаўнікамі мяшчанскага саслоўя, астатнія — пераважна з зямян і шляхты [240].

Еўрапейскія універсітэты былі крыніцамі многіх прагрэсіўных ідэй таго часу — гусіцкіх, рэнесансавых, рэфармацыйных і інш. Універсітэцкая адукацыя і выхаванне пашыралі далягляд беларускай моладзі, садзейнічалі засваенню перадавых думак і культурных каштоўнасцей, заахвочвалі да актыўнай дзейнасці і творчасці на ніве як агульнаеўрапейскай, так і нацыянальнай культуры і літаратуры. Еўрапейская адукаванасць абумовіла значны ўплыў на станаўленне і развіццё духоўнай культуры беларусаў эпохі развітога феадалізму, яскравым прыкладам чаго было жыццё і творчая дзейнасць беларускага першадрукара і асветніка-гуманіста доктара Ф. Скарыны. Сінтэз заходнееўрапейскіх тэндэнцый і мясцовых традыцый грамадскага развіцця быў характэрным амаль што для ўсіх сфер духоўнай культуры

---

[240] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985. С. 92—95.

народа ў перыяд XVI ст., аднак найбольш выразна адлюстраваўся на прафесійнай культуры і культуры гарадоў.

У літаратуру і публіцыстыку Беларусі пачынаюць паступова пранікаць паралельна новыя элементы, звязаныя з уплывам ідэй еўрапейскага гуманізму, паступова ажыццяўляліся працэсы дэмакратызацыі беларускай літаратуры і пісьменства ўвогуле. Так, у канцы XVI ст. на беларускую мову былі перакладзены духоўныя аповесці «Жыццё святога Аляксея», «Страсці Хрыстовы» («Пакуты Хрыста»), рад біблейскіх кніг. Літаратурныя пераклады, на думку даследчыкаў, адлюстроўвалі працэс дэмакратызацыі мовы беларускага пісьменства[241]. У гэты ж перыяд беларуска-літоўскае летапісанне адыходзіць ад традыцый агульнарускіх летапісаў, пачынае напаўняцца мясцовым гістарычным, этнаграфічным і фальклорным матэрыялам[242]. Выразна выявілася таксама тэндэнцыя рамантызаваць нацыянальную (этнічную) гісторыю і больш эфектыўна выкарыстоўваць яе дзеля патрыятычнага выхавання чытачоў.

Рукапісная кніга як рэлігійнага, так і свецкага зместу ўвогуле характарызавалася ў той час шырокім распаўсюджаннем. У пачатку XVI ст. складальнікам і перапісчыкам кніг Мацеем Дзесятым была створана беларуская рэдакцыя Пралога (зборнік жыцій, павучальных аповесцей, апавяданняў) і збору Старай і Новазапаветных кніг Бібліі, узніклі рукапісныя зборнікі энцыклапедычнага зместу, гімнаграфічныя кнігі, што змяшчалі музычныя (рэлігійныя і свецкія) творы[243]. У XVI ст. далейшае развіццё атрымлівае дзелавое, канцылярскае пісьменства (юрыдычныя акты, граматы, інвентары і інш.) на тагачаснай беларускай літаратурнай мове.

На фарміраванне грамадскай думкі і духоўнай культуры Беларусі таго часу пэўны ўплыў пачаў аказваць заходнееўрапейскі рэфармацыйны рух. Некаторыя прадстаўнікі Рэфармацыі выказвалі вельмі радыкальныя на той час ідэі перабудовы грамадства, выступалі з патрабаваннем шырокай верацярпімасці, асуджалі запрыгоньванне сялянства, свавольствы свецкіх і духоўных феадалаў, раскошу іх жыцця і побыту, шчыра клапаціліся пра развіццё нацыянальнай культуры і мовы. Распаўсюджванне пратэстантызму (у Беларусі пераважна кальвінізму) у першай палавіне XVI ст. абумовіла складванне рэфармацыйнай ідэалогіі (С. Будны, В. Цяпінскі, А. Волан, М. Чаховіц, Л. Крышкоўскі і інш.).

У значна меншай ступені, чым іншыя сферы духоўнай культуры, навацыі духоўнага развіцця канца XV—XVI ст. закранулі традыцыйны фальклор беларускага народа, які ў цэлым скла-

---

[241] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. С. 92—95.

[242] Летописи белорусско-литовские // ПСРЛ. Т. 35. М., 1980; Т. 32. М., 1975.

[243] Николаев Н. В. Славянская рукописная книга на белорусских землях в XIV—XVIII вв.: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Л., 1988.

даўся з тых жа асноўных жанраў і элементаў, што бытавалі на Беларусі і ў папярэдні гістарычны перыяд (песні, магічныя заклінанні, звязаныя з язычніцкай абраднасцю, галашэнні, быліны, казкі, легенды, загадкі). Шырока бытавалі лірычныя песні. Новае, што ўзнікла ў фальклоры беларусаў у час жыцця Ф. Скарыны, было звязана пераважна са складаннем і развіццём новага эпічнага жанру — гістарычнымі песнямі і паданнямі, галоўнай тэмай якіх была барацьба за нацыянальную і сацыяльную самастойнасць і незалежнасць.

Гістарычныя дакументы канца XV—XVI ст. змяшчаюць мала аўтэнтычнага фальклорнага матэрыялу таго часу, аднак бытаванне ў больш познім фальклоры беларусаў рада старажытнейшых, у тым ліку і язычніцкіх, пластоў (зафіксаваных даследчыкамі ў канцы XVIII—XX ст.) [244] дазваляе лічыць іх існаваўшымі ў народнай вусна-паэтычнай і абрадавай творчасці і ў перыяд жыцця Ф. Скарыны.

Падобная рэтраспекцыя дапускаецца і значнай ступенню захавання са старажытных часоў да XIX — пачатку XX ст. істотнага зместу, рада галоўных функцый і канкрэтных форм правядзення фальклорна-абрадавых дзеянняў (а таксама ўскоснымі сведкамі матэрыялаў XV—XVI стст.). Язычніцкія і ўвогуле дахрысціянскія пласты беларускага фальклору, абрадаў, звычаяў грунтаваліся як у XIX ст., так і ў ранейшыя часы на старажытных формах светаўспрымання, на фантастычных уяўленнях і рацыянальных народных ведах аб жыцці жывой і нежывой прыроды і чалавека.

Разам з тым з прыняццем і распаўсюджваннем хрысціянства язычніцкія ўяўленні часткова былі выцеснены хрысціянскай ідэалогіяй і абраднасцю, а часткова захаваліся ў відазмененай ці нязменнай форме, што ўвогуле складала сінкрэтычны характар гэтай сферы духоўнай культуры народа. Фальклор і абрады беларусаў на працягу ўсёй эпохі феадалізму і аж да бліжэйшых да нас часоў працягвалі захоўваць і выконваць пэўныя функцыі, звязаныя з уміласціўленнем прыроды (напрыклад, зямлі, неба, вады, агню), багоў і бажкоў, духаў і іншых міфічных пер-

---

[244] Dolęga-Chodakowski Z. O słowianszczyznie przed Chrzesciaństwem // Pamiętnik Lwówski, 1819, Nr 1; Czeczot J. Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846; Zieńkiewicz R. O uroczyskach i zwyczajach Ludu pińskiego oraz o charakterze jego pieśni // Biblioteka Warszawska. 1852. T. IV; Rypiński A. Białorus: Kilka słow o poezyi prostego Ludu tej naszej prowincji. Paryz, 1840; Podania Białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhę. Lwów, 1889; Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1893; Карский Е. Ф. Белорусы: Очерки словесности белорусского племени. Народная поэзия. М., 1916; Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 1—2. Киев, 1886; Шейн П. В. Бытовая и семейная жизнь белорусов в обрядах и песнях. Спб., 1890; Никольский Н. М. Дохристианские верования и культы днепровских славян. М., 1929; Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930; Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974; Дзіцячы фальклор. Беларуская народная творчасць. Мн., 1972 і інш.

санажаў; з працэсам пазнання свету і выхавання падрастаючых пакаленняў; з лячэбнай, ахоўнай, чарадзейнай магіяй і інш.

Дахрысціянскія абрады і фальклор уключалі, напрыклад, уяўленні аб жывой істоце агню, зямлі, вады і г. д. Да гэтых стыхій, як сведчаць фальклорныя дадзеныя, ставіліся па звычаю з вялікай павагай. Агонь, напрыклад, лічыўся жыватворнай, ачышчальнай субстанцыяй, якая патрабавала сімвалічных ахвярапрынашэнняў. Нельга было «апаганьваць» агонь дурнымі дзеяннямі. З культам агню былі звязаны розныя святы (Купала), абрады («жаніцьба коміна») і інш.

Як жывая істота, карміцелька і парадзіха-маці ўспрымалася ў народзе зямля. Са старажытных часоў на Беларусі быў распаўсюджаны вялікі рад абрадаў, звязаных з культам урадлівасці зямлі, ураджаю, існавалі нават і такія, што сімвалічна «дапамагалі» зямлі «радзіць» добры ўраджай. Абрады, звязаныя з урадлівасцю, бытавалі і ў адносінах да хатняй жывёлы. Асобная група (пераважна вясельных і перадвясельных) шлюбна-сямейных абрадаў мела на мэце забяспечыць урадлівасць і прыбытак у гаспадарцы.

Шмат розных абрадаў і паданняў беларускага фальклору звязаны з вадой, дажджом. Вада была таксама асяроддзем, дзе пражывалі розныя міфічныя істоты — русалкі, вадзяныя-воднікі і г. д., якія ў адносінах да чалавека маглі быць злымі ці нейтральнымі (у залежнасці ад абставін іх «сустрэчы»). Культ русалак быў звязаны з трансфармаваным рытуалам ахвярапрынашэння, водгукі якога наглядаліся ў абрадах свята Купалы, т. зв. русалій, і інш. Міфічныя персанажы звычайна антрапаморфнай формы існавалі, на думку старажытных продкаў, у лясах (лесавікі, лесуны), балотах (багнюкі, балотнікі), на скрыжаваннях дарог (сохі, роды) і г. д. Існавалі на Беларусі таксама абрады і культы, звязаныя з громам, маланкай, камянямі, сонцам і іх сакраментальнымі персаніфікацыямі — Перуном і Ярылам. Некаторыя з культаў старажытных славянскіх багоў часткова трансфармаваліся пад уплывам хрысціянскай рэлігіі (напрыклад, апекуном хатняй жывёлы замест старадаўняга Велеса-Воласа лічыўся на Беларусі Ілля).

З рэшткамі старажытных татэмных уяўленняў і абрадаў былі звязаны культы дзікіх жывёл, птушак, паўзуноў — ваўкоў, мядзведзяў, тураў, вужоў, буслоў і інш. Згодна з фальклорнымі ўяўленнямі, у лютых ваўкоў маглі ператварацца і некаторыя людзі-ваўкалакі; мядзведзя нельга было называць яго сапраўдным уласным імем, а толькі табуіраванай мянушкай (параўнальна: мядзведзь — ведаючы мёд, аднак бярлога — логава бера); падобнымі былі ў некаторых раёнах Беларусі, напрыклад на Палессі, адносіны да вужа, божай кароўкі і інш.

З культам нябожчыкаў былі звязаны абрады радуніцы, дзядоў і інш. Да смерці ўвогуле ставіліся з журбой і смуткам, аднак калі чалавек памёр, то яго сям'я, суседзі, аднавяскоўцы не

жадалі, каб ён (ці яго дух) прыходзіў у хату ці вёску. Для гэтага практыкаваліся абрады вынасу цела нябожчыка ўперад нагамі, калектыўнае засыпанне магілы зямлёй, жалобныя галашэнні ў час пахавання, добрыя словы на памінках, трызнах і іншых хаўтурах.

Рад элементаў розных абрадаў, рытуалаў і звычаяў быў звязаны з выхаваннем дзяцей і моладзі. Акрамя таго, існаваў і самастойны вельмі багаты дзіцячы фальклор (песні, казкі, прымаўкі, загадкі, гульнёвыя лічылкі, страшылкі, скорагаворкі, маўчанкі і галасянкі, небыліцы і інш.). Асобныя багатыя пласты беларускага фальклору датычылі каляндарна-бытавых цыклаў (вясенніх, летніх, жніўных, зімовых), сямейна-бытавых абрадаў (вяселле, нараджэнне, пахаванне і інш.), розных свят (Каляды, Масленіца, Тройца (Сёмуха), Купалле, Вялікдзень і інш.). Акрамя пэўных рытуалаў абрадавы фальклор дапаўняўся музыкай, танцамі, тэатралізаванымі відовішчнымі паказамі.

Вялікі ўплыў на развіццё духоўнай культуры беларусаў часоў Ф. Скарыны аказвала хрысцінская ідэалогія і царква. Шмат святаў і розных урачыстасцей было звязана з культам розных хрысціянскіх святых[245], з праваслаўнымі і каталіцкімі календарамі ўвогуле. Незалежна ад канфесійнай прыналежнасці гарадское насельніцтва прымала ўдзел як у праваслаўных, так і ў каталіцкіх святах. Гэтаму садзейнічала існаваўшая на Беларусі да 60-х гадоў XVI ст. адносная верацярпімасць, што падтрымлівалася як цэнтральнай, так і мясцовымі ўладамі. Сумеснае ўшанаванне праваслаўных і каталіцкіх культаў у межах асобных сямей, цэхавых адзінак, купецкіх брацтваў, гарадскіх кварталаў і гарадоў у цэлым было дастаткова характэрнай з'явай на Беларусі канца XV — першай палавіне XVI ст.

Міжканфесійная інтэграцыя некаторых сфер духоўнай культуры гарадскога насельніцтва таго часу была звязана з пэўнымі агульнагарадскімі свецкімі ўрачыстасцямі, напрыклад у выпадках прыбыцця ў горад вялікага князя, караля, прыдворных вяльмож, іншаземных паслоў, арганізацыі сесій павятовых сойму і іншых збораў шляхты і магнатаў, дынастычных падзей (выбрання вялікага князя ці караля, каранацыі, шлюбаў і г. д.). На міжканфесійнай падставе праходзілі святы ў гонар святых-апекуноў цэхавых суполак.

Агульнагарадскія святы арганізоўваліся магістратамі, прадстаўнікамі велікакняжацкай улады, таксама прыватнымі ўладальнікамі некаторых гарадоў. Цэхавым і іншым рамеснікам, купцам і іншым жыхарам гарадоў прадпісвалася рыхтавацца да свят адпаведным чынам, напрыклад выступаць усім цэхам-брацтвам у святочным адзенні пад адзінай харугвай са сваім ба-

[245] У гэты час пачынаюць складвацца культы мясцовых, беларускіх, пераважна праваслаўных, святых — Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Іаана, Антонія і Яўстафія Віленскіх і інш.

рабаншчыкам. Члены магістрата, што ўзначальвалі цырыманіял, выходзілі да сустрэчы гасцей за гарадскую браму. Пад гукі барабанаў, труб, пушачнай стральбы кавалькада гасцей уязджала ў горад у суправаджэнні свецкіх і духоўных уладароў горада, гарнізона, ваенізаваных вартаўнікоў і накіроўвалася да цэнтральнай часткі — замка, крэпасці, ратушы. Афіцыйная агульнагарадская цырымонія суправаджалася ўзаемнымі падарункамі, карнавальнымі шэсцямі, тэатралізаванымі абрадамі. Звычайна па такіх святочных днях у гарадах арганізоўваліся вялікія кірмашы.

Усялякага роду забаўныя мерапрыемствы і тэатралізаваныя відовішчы арганізоўваліся ў той час амаль што на большасці гарадскіх свят з удзелам прафесійных артыстаў і аматараў. Як адзначаюць даследчыкі, у дакументах таго часу артысты часта вызначаліся збіральным паняццем «скамарохі» і ўключалі танцораў, бахараў (казачнікаў), канатаходцаў, жанглёраў, сілачоў, лялечнікаў, дудароў, мядзведжых павадыроў, выканаўцаў розных драматычных сцэнак[246]. Ужо ў XVI ст. акцёры-скамарохі складалі ў Беларусі асобную праслойку феадальнага грамадства, якая была параўнальна шматлікай і па характару дзейнасці прыроўнівалася да рамеснікаў[247]. Акрамя аседлых гарадскіх і местачковых скамарохаў былі вядомы ў той час вандроўныя акцёры, («а з людей волочащих, которые без службы мешкают, и теж з медведников, дудников, скрипников, и з каждого гука и иных... по осми грошей»)[248]. Прыходзілі на Беларусь таксама вандроўныя акцёры з Польшчы, Венгрыі, Прусіі і іншых краін. Забавы наладжваліся насельніцтвам не толькі ў часы свецкіх, але і рэлігійных святаў, што выклікала іншы раз адмоўную рэакцыю ў некаторых набожных людзей і царкоўных артадоксаў, якія бачылі ў гэтых «пацехах» перажыткі язычніцтва і «д'ябальскія падкопы». Такімі аб'яўляліся іншы раз нават і народныя валачобныя абрады, супраць якіх загадвалася прымяняць жорсткія меры («... волочельное по Воскресеньи з мест и з сел выволокши утопите»)[249].

У той жа час вярхоўная ўлада не забараняла іх, а іншы раз, наадварот, падтрымлівала. Так, у магдэбургскім прывілеі Наваградку 1511 г. гараджане «подле давнего обычая» выззва-

---

[246] Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1. С. 57—59.

[247] З'яўленне скамарохаў на землях Беларусі датуецца яшчэ старажытным часам: XI—XIII стст. // Калайдович К. Памятники российской словесности XII в. М., 1821. С. 94—95; Даследчыкі выказваюць думку аб генетычнай сувязі скамарохаў з язычніцтвам, народнай старажытнай вусна-паэтычнай творчасцю і абрадамі, аднак адзначаюць існаванне ў сярэдневяковым скамаростве і пэўных пластоў візантыйскага і заходнееўрапейскага ўплыву // Газо А. Шуты и скоморохи всех времен и народов. Спб., 1898; Миско С. Скоморохи в Белоруссии // Неман. 1962. № 1. С. 152.

[248] Литовская метрика. Книги публичных дел // РИБ. Т. XXX. С. 827.

[249] АЮЗР. Т. II. С. 223.

ляліся ад падаткаў «с каляды и волочебнаго»[250], аднак часцей за ўсё існаваў пэўны фармальны падатак казне, царкве ці духоўнай асобе («На свято фалебное Великоденное волочобного по полугрошу каждая особа даваті маеть»)[251]. Даследчыкі гісторыі беларускага тэатра адзначаюць, што валачобнікі ў той час складалі нават цэлыя прафесійныя суполкі, якія ў святочныя дні групавалі вакол сябе валачобныя групы і з'яўляліся асноўнымі выканаўцамі абрадавых рытуалаў, песен і інш.[252]

Увогуле, абрады, гульні, рытуалы, танцы і фальклор, што ўжываліся на Беларусі па вялікіх святах, з'яўляліся своеасаблівай мясцовай формай сярэдневяковых народных карнавалаў, тыповым адлюстраваннем т. зв. смехавой народнай культуры, якая найбольш відовішчна праяўлялася ў святочныя дні, калі пэўным чынам зніmaліся многія сацыяльныя і рэлігійныя абмежаванні, забароны і табу (характэрнай з'явай такіх карнавалаў было травесційнае пераадзяванне, апрананне ў незвычайнае адзенне, ужыванне масак і інш.)[253].

Злучэннем агульнахрысціянскіх норм маралі і народных этычных уяўленняў характарызаваліся паказы батлеек — ранніх форм народнага лялечнага тэатра. Па словах Я. Карскага, «батлейкавая драма зарадзілася на Захадзе, дасягнула значнага развіцця ў Польшчы, з якой трапіла ў паўднёва-заходнюю і заходнюю Русь»[254]. Найбольшае распаўсюджанне батлейка атрымала ў выніку пранікнення на землі Беларусі каталіцкіх манаскіх ордэнаў у XVI ст., якія прынеслі добра арганізаваную сістэму тэатралізацыі царкоўных абрадаў. Таму першапачаткова батлеечны лялечны тэатр развіваўся галоўным чынам як з'ява рэлігійна-містэрыяльнага характару і толькі значна пазней сцэнкі на біблейскія сюжэты «ўступілі сваё месца п'есам з чыста беларускімі народнымі рысамі, інтэрмедыям і камедыйна-сатырычным партрэтам»[255].

У той час на Беларусі існавалі і некаторыя іншыя, больш дэмакратычныя, мала залежныя ад рэлігійных норм віды папулярных тэатралізаваных паказаў, напрыклад, мядзведжыя забавы. У фальклоры, этнаграфіі, народным мастацтве беларусаў

---

[250] АЗР. Т. II. С. 91.

[251] ИЮМ. Т. VII. С. 340; таксама пазней — «ксензу Ждановичу, архидиякону белорускому дали волочобного, водлуг давнего постановеня, през пана бурмистра Гимбута, шелегами золот. петнадцать» // ИЮМ. Т. VIII. С. 70.

[252] Акрамя найбольш распаўсюджанай і збіральнай назвы «валачобнікі» на Беларусі іх называлі таксама «лялечнікі», «ралешнікі», «лалоўнікі», «хрыстоснікі», «жалоўнікі» // Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. С. 69—70, 97—99.

[253] Бахтин М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. М., 1965; Гуревич А. Я. Проблемы средневековой народной культуры. М. 1981; Даркевіч В. П. Народная культура средневековья. М., 1988.

[254] Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1922. Т. III. С. 117.

[255] Кабашнікаў К. П. Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі. Мн., 1969. С. 84—85.

існуе мноства сведчанняў аб сакраментальна-татэмных адносінах да мядзведзя. Як адзначаюць сучасныя даследчыкі, ва ўсходнеславянскім арэале мядзведзь часта асацыіраваўся з лесуном, а таксама з прадстаўніком славянскага язычніцкага пантэона — Велесам [256]. Паводленазірання больш позняга часу (XIX — пачатак XX ст.), мядзведзь успрымаўся як больш моцны за «нячыстую сілу» ахоўнік, які мог, напрыклад, адвесці няшчасце пажару ад хаты (калі абходзіў ці скакаў вакол яе). Павадыры мядзведзяў прарочылі здароўе чалавеку, які кранаў мядзведзя ці дазваляў зверу сябе пераступіць [257].

Публічныя забавы з мядзведзем уключалі розныя «штукі», напрыклад, танцы звера пад прымаўкі павадыра, жартоўная барацьба мядзведзя з павадыром, «казой» ці з кім-небудзь з публікі і інш. Пры феадальных дварах наладжваліся таксама жартоўныя, а часам і сапраўдныя мядзвежыя цкаванні, баі, катанне на мядзведжых тройках і г. д. [258] У XVI ст. і ў наступны перыяд на Беларусі ўзнікаюць буйнейшыя ў Еўропе цэнтры падрыхтоўкі дрэсіраваных мядзведзяў (у Смаргоні, Семежаве — пад Слуцкам, Міры), аднак промысел «ваджэння мядзведзяў» быў ужо традыцыйным і ў першай палавіне XVI ст. [259]

Значнае развіццё атрымалі на Беларусі ў канцы XV—XVI ст. такія традыцыйныя віды прафесійнага мастацтва, як жывапіс (фрэскі, іканапіс), графіка (пераважна мініяцюра), скульптура, архітэктура, прыкладное мастацтва (разьба па дрэву, косці, апрацоўка металу, каменю, ювелірная справа, ганчарства, выраб кафлі, ткацтва, вышыўка, пляценне), музыка і інш. Разам з тым у гэты перыяд у мастацтве Беларусі ўзнікаюць ці значна пашыраюцца некаторыя новыя з'явы, напрыклад свецкі, у тым ліку і т. зв. сармацкі, партрэт, пачынаючы з выданняў Ф. Скарыны — гравюра, унікальнае каменнае дойлідства (замкі і храмы ў Міры, Навагрудку, Мала-Мажэйкаве, Сынкавічах, Заслаўі і г. д.), ляўкасавае пакрыццё і размалёўка культавай скульптуры, разьба па ляўкасу ў іканапісу, ажурная «палымнеючая» разьба іканастасаў і іншай драўлянай аздобы цэркваў, вышыўка залатым і срэбным нітам культавага адзення і касцюмаў заможных феадалаў, вітражы для ўпрыгожвання храмаў (пераважна каталіцкіх), кантавы спеў, гімнападобная рэлігійная і свецкая музыка, пашыраецца ўжыванне розных музычных інструментаў (ліры, скрыпкі, басэтлі, дуды) і г. д.

Павышэнне ўзроўню прафесійнага мастацтва і яго распаў-

---

[256] Иванов В. В., Топоров В. Н. Исследования в области славянских древностей. М., 1974. С. 57—60.

[257] Клингер В. П. Животные в античном и современном суеверии. Киев, 1911. С. 277—278.

[258] Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. С. 136; Matuszewicz M. Pamiętniki. Warszawa, 1876. T. III. S. 43; Tauroginski A. Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937.

[259] Міхайлаў І. Мядзведжая «акадэмія» // Беларусь. 1965. № 12.

сюджванне аказвала пэўны ўплыў на народнае непрафесійнае і аматарскае мастацтва, якое таксама пачало характарызавацца развіццём новых з'яў, форм і тэндэнцый, што ўвогуле складала перманентную варыятыўнасць мастацкіх твораў — абавязковую ўмову для развіцця і ўзбагачэння гэтай сферы духоўнай культуры народа.

Акрамя твораў прафесійнага і непрафесійнага мастацтва беларускіх майстроў у 30—50-я гады XVI ст. на Беларусі атрымліваюць распаўсюджанне еўрапейскія мастацкія вырабы з Польшчы, Прусіі, Германіі, Венгрыі, Італіі, Чэхіі і нават Турцыі. Карціны, малюнкі, скульптура, ювелірныя рэчы, шкло, шпалеры замежных мастакоў купляліся ці рабіліся па заказу заможных феадалаў, паслоў, каталіцкай царквы, вялікага князя і г. д. З прыездам у Вялікае княства Літоўскае жонкі караля Жыгімонта Старога Боны Сфорцы ўзнікае мясцовая мода на калекцыяніраванне мастацкіх твораў, збіранне рарытэтных рукапісаў і кніг, сярод магнатаў распаўсюджваецца мецэнацтва. У маёнтках беларускіх феадалаў Хадкевічаў, Сапег, Радзівілаў, Гальшанскіх, Алелькавічаў, Нарушэвічаў, Кішкаў, Валовічаў і іншых на працягу XVI ст. узнікаюць буйныя бібліятэкі і карцінныя галерэі. Асобныя магнаты пачынаюць актыўна падтрымліваць і апякаць развіццё мастацтва, паэзіі, літаратуры, навукі, асветы, кнігадрукавання. У той жа час паступова пашыраецца і расце палярная розніца паміж буйной шляхтай і простымі людзьмі ў карыстанні мастацкімі каштоўнасцямі, дасягненнямі чалавечай думкі наогул, што з'яўлялася тыповай з'явай феадальнага спосабу размеркавання духоўных і матэрыяльных даброт у тагачасным грамадстве.

У выніку разнастайнай дзейнасці на Беларусі канца XV— першай палавіны XVI ст. розных этнасацыяльных працэсаў у культуры, сямейным і грамадскім жыцці народа існавалі, узнікалі, пашыраліся розныя па сваіх крыніцах і межах распаўсюджанасці з'явы. Адны з іх былі поліэтнічнымі і ахоплівалі некалькі этнасаў — народаў, іншыя характарызаваліся як этнічныя ці гісторыка-этнаграфічныя і бытавалі пераважна ў беларусаў і іх асобных этнатэрытарыяльных групах. Пэўная рэгіянальная абмежаванасць дзейнасці кансалідацыйных этнічных працэсаў XIV—XVI стст., этнагенетычныя фактары і міжэтнічныя кантакты з суседзямі абумовілі існаванне ў межах беларускай народнасці некалькіх своеасаблівых субэтнічных ці гісторыка-этнаграфічных зон (Русі ці Белай Русі — у Верхнім Падняпроўі і Падзвінні, Літвы — у басейнах Віліі і Нёмана і Палесся), насельніцтва якіх адрознівалася па дыялектах мовы, некаторых традыцыйных элементах матэрыяльнай і духоўнай культуры, быту, антрапалагічных рысах і нават самасвядомасці, адлюстраванай, напрыклад, у мясцовых саманазвах (адпаведна: русіны, з канца XVI ст. — беларусіны, беларусцы, ліцвіны і па-

лешукі), якія захаваліся ў гэтых зонах амаль да нашага часу [260]. Узаемадзеянне ўсіх складаючых культуру і побыт народа элементаў ажыццяўлялася праз розныя канфесійныя, прафесійныя і саслоўна-класавыя нормы, што абумоўлівала ўзнікненне яшчэ больш складанага перапляцення і шматслойнасці культуры і быту беларусаў, таксама як і іншых тагачасных народаў Еўропы.

Характэрнай тэндэнцыяй, якая пачала актывізавацца менавіта ў XV—XVI стст. і стабільна развівалася ў наступныя перыяды феадалізму, было далучэнне беларускага грамадства да многіх дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі. Новыя з'явы культуры, быту, перадавой думкі, навукі і тэхнікі распаўсюджваліся сярод розных сацыяльных груп беларускага народа, уключаючы і «простыя саслоўі», напрыклад мяшчанства, прадстаўніком якога быў Францыск Скарына.

Амаль усё новае, што з'яўлялася ў той час на Беларусі, праходзіла своеасаблівую адаптацыю да мясцовых умоў, у выніку чаго захоўвалася, відазмянялася, пашыралася ці знікала. Захавалася, пашыралася і дасягнула значнага развіцця, напрыклад, справа кнігадрукавання, якую заснаваў беларускі першадрукар. Ужо к канцу XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім пабачылі свет 324 мясцовыя кніжныя выданні (з якіх 151 — на лацінскай мове, 114 — на польскай, 50 — на беларускай, 9 — на іншых мовах) [261].

Аднак у эпоху феадалізму ( з яе саслоўна-класавай няроўнасцю, надзвычай цяжкім маёмасным, грамадскім і культурным становішчам большай часткі працоўных людзей, адсутнасцю ў іх вольнага часу, грошай і магчымасці адукацыі) кола распаўсюджанасці кнігі мела яшчэ значнае абмежаванне. Чытанне кніг насіла ў той час пераважна элітарны характар і практыкавалася галоўным чынам у асяроддзі вучоных людзей, царкоўных дзеячаў, адукаваных заможных слаёў, шляхты і багатых гараджан, часткова — у школах. Значная частка тагачаснага феадальнага грамадства яшчэ не мела магчымасці не толькі мець і чытаць кнігу, але і быць адукаванай увогуле, была вымушана ўспрымаць веды толькі традыцыйным вербальным і эмпірычным шляхам. Прагрэсіўныя, дэмакратычныя ідэі і мары Ф. Скарыны апярэджвалі час, а ў першай палавіне XVI ст. яшчэ значна затармажваліся, абмяжоўваліся пануючымі феадальнымі і грамадскімі адносінамі і рэлігійнай манаполіяй на асвету развіццё пісьменства і культуры. Увогуле ж творчая дзейнасць Ф. Скарыны адпавядала тым этнасацыяльным працэсам, якія ў навуковай літаратуры вызначаюцца як «нацыянальнае адраджэнне».

[260] Этнаграфія беларусаў. С. 70—82, 128—132.
[261] Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 13.





## БЕЛАРУСКАЯ МОВА КАНЦА XV—ПАЧАТКУ XVI ст.

Выдавецка-асветніцкая дзейнасць Ф. Скарыны прыпадае на перыяд, калі адбывалася інтэнсіўнае развіццё мовы беларускай народнасці ў яе кніжнай, пісьмовай форме. Сфарміраваўшыся ў XIV—XV стст. на аснове старажытнарускай мовы праз насычэнне яе мясцовымі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі элементамі, старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова працягвала выпрацоўваць новыя сродкі выражэння і ў наступным стагоддзі за кошт шырокага пранікнення ў пісьменнасць асаблівасцей народных гаворак. Адпаведна ўсё больш звужаўся ў помніках царкоўнаславянскі моўны струмень.

Працэсу паступовага збліжэння літаратурна-пісьмовай мовы з вуснай, дыялектнай садзейнічала тое, што народна-дыялектная форма старабеларускай мовы абслугоўвала сферу штодзённых зносін беларускага насельніцтва, у тым ліку і прадстаўнікоў тагачаснай культуры. У XV ст. у ёй ужо канчаткова склаліся многія спецыфічныя рысы, характэрныя і сучаснай беларускай мове — аканне і яканне, дзеканне і цеканне, пераход зычных *в* і *л* у *ў*, падаўжэнне зычных, пашырэнне канчатка *-у/-ю* ў родным склоне назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку, форм дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку без *-ць* і г. д.

Сярод жанрава-стылявых разнавіднасцей літаратурна-пісьмовай мовы, якія бытавалі ў канцы XV — пачатку XVI ст. на тэрыторыі Беларусі, асабліва прыкметна як па колькасці пісьмовых помнікаў, так і па ступені збліжэння з жывой народнай мовай вылучалася дзелавая пісьменнасць. Абмежаваная першапачаткова выключна граматамі і дагаворамі, яна паступова ўзбагацілася новымі жанрамі. Спрыяльныя ўмовы для гэтага склаліся дзякуючы таму, што ў Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова пачала выконваць функцыі дзяржаўнай. На ёй пісаліся статуты, судзебнікі, прывілеі, вялася дакументацыя судоў, гарадскіх упраў і магістратаў, дыпламатычная і прыватная перапіска. Зборы афіцыйных запісаў цэнтральных і мясцовых органаў улады, аб'яднаныя ў актавыя кнігі, заклалі аснову буй-

нога дзяржаўнага архіва, вядомага пад назвай Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Сваім прызначэннем дзелавая пісьменнасць найбольш цесна была звязана з жыццём шырокіх народных мас, стваралася яна таксама ў пераважнай большасці прадстаўнікамі сярэдніх слаёў грамадства. Усё гэта садзейнічала дэмакратызацыі яе шляхам замены архаічных рыс сродкамі жывой народнай мовы.

Самай беднай у колькасных адносінах і найбольш аддаленай ад народнай мовы была ў разглядаемы перыяд рэлігійная пісьменнасць. Яна прадстаўлена ў асноўным перакладамі на беларускую мову кананічных, агіяграфічных і апакрыфічных твораў — паасобных біблейскіх кніг, жыцій святых, рэлігійных аповесцей. Прамежкавае становішча паміж дзелавой і рэлігійнай пісьменнасцю займала свецкая літаратура — беларускія летапісы, хронікі, перакладныя аповесці.

Створаныя ў канцы XV — пачатку XVI ст. помнікі пісьменнасці, нягледзячы на іх жанрава-стылявую разнастайнасць, аб'ядноўваліся паміж сабой многімі графіка-арфаграфічнымі, граматычнымі і лексічнымі прыкметамі, што сведчыць аб устойлівасці пісьмовых традыцый і аб агульнасці тэндэнцый у развіцці старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Захаванне старажытных традыцый найбольш паслядоўным было ў галіне графікі і арфаграфіі, самую вялікую колькасць інавацый мела лексіка.

## ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

Графічная сістэма старабеларускай мовы, з'яўляючыся непасрэдным працягам старажытнарускай кірыліцы, першапачаткова не адрознівалася ад сваёй папярэдніцы ні літарным складам, ні функцыянальнай роляй асобных літар. Характэрнай асаблівасцю яе ў параўнанні з сучаснай беларускай графікай была наяўнасць дублетных сродкаў, якія без шкоды для пісьмовых зносін маглі замяняцца адзін другім, але працягвалі ўжывацца па традыцыі. Разам з тым для абазначэння некаторых гукаў, напрыклад зычнага *j*, афрыкаты *дж*, гука о пасля мяккіх зычных і гука *е* пасля цвёрдых, літар яўна не хапала. Паступова ў сувязі з далейшым развіццём пісьменнасці ў старабеларускай графічнай сістэме адбываліся змены, звязаныя з ліквідацыяй гэтай неадпаведнасці, якія закраналі як склад графем, так і правілы іх ужывання.

Працэс спрашчэння і ўдасканалення старабеларускай графікі адбываўся, аднак, вельмі марудна. У пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст. дублетныя графічныя сродкі захоўваліся яшчэ паслядоўна і ў прымяненні іх вытрымліваліся многія ранейшыя заканамернасці. Тым не менш ужо ў гэты час у некаторыя тэксты пачалі прабіваць сабе дарогу новыя графічныя асаблівасці. Гарманічнае спалучэнне старога, традыцыйнага з

выпрацаванымі на беларускай глебе інавацыямі асабліва вы разна прасочваецца ў галіне выкарыстання галосных літар.

Сярод галосных літар, якія ў канцы XV — пачатку XVI ст. мела старабеларуская графіка, найбольшай разнастайнасцю характарызаваліся сродкі для абазначэння гука *е*. Згодна са старажытнай традыцыяй, у сярэдзіне і ў канцы слоў пасля мяккіх зычных выступала літара *е (беседа, поле, серебро)*, у пачатку слоў і пасля галосных ужывалася графема *є (єхати, воєвати, тоє)*. Часам яны змешваліся. У асобных помніках канца XV ст., напрыклад у «Аповесці пра трох каралёў», паралельна з *є* яшчэ выкарыстоўвалася лігатура ѥ *(реликвиє — реликвиѥ)*, якая хутка канчаткова выйшла з ужытку. Затое ў XVI ст. з'явіўся новы графічны знак ɛ, спачатку часта замяняючы *є* (*ɛсти, жданіɛ, таɛмница*), а пасля і ў іншых пазіцыях, як у Зборніку № 262: *лɛвица, повɛдати, тɛпɛрь.* Гэта сведчыць аб тым, што спецыфічныя функцыянальныя адрозненні паміж графічнымі варыянтамі сціраліся і наспявала патрэбнасць абмежавацца якім-небудзь адным з іх.

Разнабой у перадачы гука *е* павялічваўся ад таго, што ў старабеларускай пісьменнасці працягвала ўжывацца літара *ѣ*. Як і ў старажытнарускі перыяд, яна выступала ў рэлігійных творах і летапісах у каранях многіх слоў *(вѣрити, дѣлати, лѣто, стѣна)*, у формах назоўнікаў і займеннікаў давальнага і меснага склонаў *(у комнатѣ, на столѣ, мнѣ, тобѣ)*, у прыслоўях вышэйшай ступені *(борздѣи, первѣи)* і інш. Зрэдку традыцыйнае ўжыванне гэтай літары парушалася выпадкамі замены яе літарай *е*: *лесъ, сено, хлебъ.* Больш абмежаваным і менш вытрыманым было выкарыстанне літары *ѣ* ў дзелавых помніках, што з'яўлялася праяўленнем тэндэнцыі да збліжэння графіка-арфаграфічнай сістэмы пісьмовай мовы з жывым беларускім вымаўленнем таго часу. Гэта тэндэнцыя аказалася адчувальнай і ў перакладных выданнях Ф. Скарыны. Можна меркаваць, што практыкуючы напісанне *е* замест старажытнай *ѣ* ў словах тыпу *векъ, вера, гневъ, грехъ, дело, железо, светъ,* беларускі першадрукар свядома імкнуўся графіка-арфаграфічнымі сродкамі зрабіць рэлігійныя тэксты больш даступнымі для чытача.

Характэрнай графічнай асаблівасцю некаторых помнікаў старабеларускай пісьменнасці была наяўнасць у іх літары *э*. Гэта літара пачала ўжывацца ў канцы XV ст. і, па сутнасці, з'явілася новым знакам у беларускай графічнай сістэме, бо старажытнарускаму пісьму яна не была вядома. Першыя выпадкі выкарыстання графемы *э* адзначаны выключна ў аказіяналізмах іншамоўнага паходжання: *экгрисевле, эксъцельсисъ, эксеквіе, эморроиса* (Валх.), *эидотоу* (Гр. 1498).

Выкарыстанне літар *і* і *и* ў рукапісах канца XV ст. таксама грунтавалася ў асноўным на прынцыпах, якія замацаваліся ў папярэдні перыяд развіцця пісьменнасці — першая пісалася ў сярэдзіне і канцы слоў перад галоснымі, другая — у астатніх

выпадках: *знаменіе, пріехати пріити.* У пачатку XVI ст. літара *і* распаўсюдзілася і на пазіцыю перад галоснымі ў пачатку слоў, што абазначалі ўласныя імёны і геаграфічныя назвы: *іовъ, іорданъ, іосифъ.* Зразумела, правілы ўжывання літар *і* і *и*, выпрацаваныя старабеларускімі кніжнікамі, не былі нідзе кадыфікаваны спецыяльнымі вучэбнымі дапаможнікамі. Яны падтрымліваліся толькі пісьмовай практыкай, таму, натуральна, у пісьменнасці мелі месца выпадкі змяшэння адзначаных літар тыпу *выкупиті, казніті, платиті.* Увогуле ж літара *і* ўжывалася значна радзей, чым *и*, а ў дзелавых помніках яна, як правіла, прымянялася толькі ў якасці лічбы.

Акрамя разгледжаных графем, у старабеларускай графіцы, як і ў старажытнарускай, была яшчэ літара ѵ (іжыца), якая спарадычна ўжывалася для абазначэння гука *і* ў словах іншамоўнага паходжання: *єгѵпеть, мѵро.* У дзелавых помніках яна амаль не выкарыстоўвалася. У гэтых адносінах дзелавая пісьменнасць была больш прагрэсіўнай, чым іншыя пісьмовыя жанры.

У выкарыстанні графічных сродкаў для абазначэння гука *о* старабеларускія кніжнікі XV ст. прытрымліваліся правіл, выпрацаваных у старажытнарускі перыяд — у пачатку слоў звычайна пісалася ѡ, а ў іншых становішчах у слове *о*: *ѡбослати, ѡлово, ѡстровъ.* Асабліва зручна было напісанне ѡ пры лігатурах у словах, якія пачынаюцца з *от-*, і ў прыназоўніку *от*: ѡ^т^*дати*, ѡ^т^ ѡ*зера.* Выкарыстанне літары ѡ ў пачатку слоў мела пэўнае дыферэнцыруючае значэнне: пры злітным напісанні слоў у радку яно служыла сродкам аддзялення наступнага слова ад папярэдняга. Аднак ужо ў ранніх беларускіх помніках можна сустрэць і спарадычныя выпадкі напісання пачатковага *о.* Рукапісы першай палавіны XVI ст.— рэлігійныя, свецкія, дзелавыя,— а таксама друкаваныя выданні Ф. Скарыны ў асноўным працягвалі ранейшыя прыёмы ўжывання абедзвюх літар, але літара *о* пісалася ў пачатку слоў значна часцей. Графема ж ѡ пастунова ўсё больш страчвала сваю пазіцыю і нярэдка магла стаяць замест о ў сярэдзіне слоў, як, напрыклад, у Зборніку № 262 *(добытѡкъ, хилиѡнъ)*, у «Псалтыры» XVI ст. (*лѡмъ*), у Кнізе Гродзенскага земскага суда 1540 г. *(заѡрати)* і інш.

Гук *у* ў старабеларускай пісьменнасці, як і ў старажытнарускай, абазначаўся дыграфам *оу* і літарамі ȣ, *у*. Ужо ў XIV ст. устанавілася некаторае правіла ўжывання гэтых графічных сродкаў: дыграфу *оу* адводзілася месца ў пачатку слоў, літарам ȣ і *у* — у сярэдзіне і канцы іх. Хоць і непаслядоўна, гэта правіла дзейнічала і ў канцы XV — пачатку XVI ст.: *оустье, мȣдрость, судити, противȣ.* Найбольшы разнабой адчуваўся ў рэлігійных і свецкіх помніках гэтага часу, дзе ў сувязі з другім паўднёваславянскім уплывам стала ўжывацца літара ѫ, якая павялічыла колькасць графічных варыянтаў: *моужь—мȣжь—мужь—мѫжь.* Першы крок у спрашчэнні графічнай сістэмы належыць

пісарам дзелавых кніг і дакументаў. Так, ужо ў Кнізе маршалкоўскага суда 1510—1517 гг., як правіла, выкарыстоўваюцца для абазначэння гука *у* толькі літары 8 і *у*: *бурмистръ, зак8пити, 8ступати.* Дыграф *оу* ў гэтай кнізе сустракаецца толькі ў адзінкавых выпадках, у цэлым ён не характэрны і для дзелавых помнікаў пазнейшага часу. Аднак, як паказваюць прыклады, і ў дзелавой пісьменнасці бессістэмнасць ужывання літар 8 і *у* дае сябе адчуваць вельмі моцна. Дакладна і вытрымана праводзіцца толькі адно агульнае правіла: літара 8 можа выступаць у любым становішчы ў слове, знак жа *у* ніколі ў пачатку слоў не ўжываецца.

Ужыванне літар ѧ і ꙗ ў ранняй старабеларускай пісьменнасці падпарадкоўвалася наступнай заканамернасці — літара ѧ пісалася пасля мяккіх зычных, а дублетная да яе ꙗ перадавала спалучэнне зычнага *ј* з галосным *а*: *волѧ, землѧ; боꙗринъ, ꙗчмень.* Такая дыферэнцыяцыя ў выкарыстанні адзначаных графічных сродкаў больш-менш паслядоўна захоўвалася і ў пісьмовых помніках рэлігійных і свецкіх жанраў канца XV — пачатку XVI ст. Для дзелавой пісьменнасці гэтага часу характэрна тэндэнцыя да пашырэння літары ꙗ і на пазіцыю з ранейшай ѧ: *кнꙗзь, присꙗгнути, третꙗꙗ.* Арфаграфічнай асаблівасцю асобных перакладных помнікаў, напрыклад «Пакут Хрыста», «Аповесці пра трох каралёў», было выкарыстанне для абазначэння ётаванага *а* спалучэння *іа (боіазнь, іаблоко, іасли),* у чым можна бачыць уплыў польскага правапісу.

Літары ъ і ь, якія згубілі сваё гукавое значэнне яшчэ ў старажытнарускі перыяд, працягвалі ўжывацца ў большасці выпадкаў па традыцыі. Асабліва паслядоўным было ў старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. ужыванне гэтых графічных сродкаў у канцы слоў пасля зычных *(городъ, домъ; день, соль),* хоць апраўданым у гэтай пазіцыі можна лічыць толькі выкарыстанне ь як паказчыка мяккасці зычных. Акрамя таго, у гэты час у беларускіх летапісах і рэлігійных творах распаўсюджана было напісанне ъ і ь у сярэдзіне слоў замест заканамерных *о* і *е*, што даўно ўжо практыкаваліся ў дзелавой пісьменнасці на месцы ранейшых рэдукаваных: *вълна, дьнь, дъска, съкровище.* З'яўленне падобных напісанняў, і тым больш архаічных *врьхъ, тлъкование, трьпети,* трэба звязваць з другім паўднёваславянскім уплывам.

Уплыў паўднёваславянскіх правапісных прыёмаў, безумоўна, адбіўся і на развіцці такіх характэрных для беларускіх помнікаў разглядаемага перыяду арфаграфічных рыс, як пастаноўка літар ъ і ь у сярэдзіне груп зычных*(балъванъство, кгвалътовъне, малъжонъка)* і змяшэнне іх *(лебедъ, променъ, тестаменть, тоть).* У помніках канца XV — пачатку XVI ст. зарадзілася і адваротная тэндэнцыя — не абазначаць мяккасць *л, с, з, д, т, н* перад зычнымі *(велми, ганба, писмо, людми, детми),* якая пазней стала характэрнай асаблівасцю старабеларускай арфаграфіі.

Астатнія галосныя літары (*а*, *ы*, *ю*) і большасць зычных выконвалі ў старабеларускай пісьменнасці такія ж функцыі, як і зараз, і істотных заўваг не выклікаюць. З графічных сродкаў, якія выкарыстоўваліся для абазначэння зычных гукаў, прыцягваюць да сябе ўвагу толькі дублетныя літары або тыя, што мелі іншы характар ужывання.

З дзвюх літар — *з* і *s* — у ранніх беларускіх помніках апошняя выкарыстоўвалася выключна ў лічбавым значэнні, але з канца XV ст. яна спарадычна пачынае сустракацца ў ролі *з*. Цяжка сказаць, чым было выклікана гэта пашырэнне функцый літары *s* — другім паўднёваславянскім уплывам ці нейкімі каліграфічнымі меркаваннямі пісцоў. Можна меркаваць, што якія-небудзь іншыя фактары тут не мелі значэння, бо ніякай асаблівай функцыі, адметнай ад ролі літары *з*, гэта літара пры сваім з'яўленні ў пісьменнасці не выконвала. Функцыянальная ідэнтычнасць літар *з* і *s* пацвярджаецца фактамі з пісьмовых помнікаў канца XV — пачатку XVI ст., напрыклад з Судзебніка Казіміра 1468 г.: *sлодѣи, кнѧsь* і *Казіміръ, казнити;* з Віленскага спісу летапісу: *slo, sвѣріе* і *зрѣти, засести;* са Зборніка № 262: *sвеsда* і *звезда;* з выданняў Ф. Скарыны: *sѣло* і *законъ*. У далейшым літара *s* паступова ўсё больш абмяжоўвалася ва ўжытку, а ў дзелавой пісьменнасці засталася толькі ў якасці лічбы.

У рэлігійных і свецкіх помніках канца XV — пачатку XVI ст. не было ўжо ранейшага строгага замацавання дублетных літар *ф* і θ кожнай за канкрэтнай групай іншамоўных слоў у залежнасці ад таго, з якім гукам гэтыя словы вымаўляліся ў мовекрыніцы. Абедзве яны ўжываліся ў запазычанай лексіцы без асаблівай дыферэнцыяцыі, часта замяняючы адна другую: *фома, шафранъ, θедоръ, руθъ*. Змешванню гэтых літар садзейнічала і з'яўленне новай формы літары θ, блізкай да *ф*, што асабліва было характэрна для скарапісу. У дзелавой пісьменнасці літара θ цалкам выцесніла літару *ф*, пакінуўшы апошнюю выключна ў лічбавым значэнні.

Уласціва была старабеларускай пісьменнасці разглядаемага перыяду і замена літар θ і *ф* літарамі *п*, *т*, *х* і спалучэннем *хв*, выкліканая ўплывам жывога народнага вымаўлення: *до каипы, теодосиюсъ* (Валх.), *ходоръ* (КМС), *рутъ* (Зб. 262), *пархвенъ, пилипъ, хома* (КВЗС) і інш. Аднак на шырокім фоне этымалагічна правільных напісанняў такія выпадкі выступалі ў абмежаванай колькасці нават у дзелавой пісьменнасці, якая ў значна большай меры, чым іншыя пісьмовыя жанры, адчувала на сабе ўплыў жывога вымаўлення. Гэта сведчыць аб тым, што адукаваныя людзі стараліся не адступаць ад традыцыйных правіл.

Своеасаблівымі прыёмамі вылучалася перадача на пісьме гука *г*. Для фрыкатыўнага *г* выкарыстоўвалася літара *г*: *година, гумно, гай, нога*. Гэта ж графема служыла і для абазначэння *г* у словах, запазычаных з іншых моў, калі ён не быў выбухным: *гелмъ, гербъ, гетманъ*. Выбухное ж *г* у словах іншамоўна-

га паходжання перадавалася дыграфам *кг*, вядомым у старабеларускай пісьменнасці ад XIV ст.: *кганокъ, кгвалтъ, кгрунтъ, моркгъ*. У паасобных помніках мелі месца выпадкі напісання *г* замест *кг* у запазычаных словах: *гды* (Валх.). Зрэдку ў помніках таксама можна сустрэць на месцы *г* і *кг* літару *к*: *макдалена* (Пак. Хр.), *мозкъ* (Зб. 262). Але ўсе гэтыя напісанні не складалі якой-небудзь нормы і выглядаюць як рэдкія выключэнні.

Такім чынам, як сведчыць разгледжаны матэрыял, канец XV — пачатак XVI ст. з'явіўся ў гісторыі старабеларускай пісьменнасці перыядам, калі на аснове спалучэння традыцыйных і новых прыёмаў выпрацаваліся або выразна намеціліся важнейшыя нормы далейшага выкарыстання графічных сродкаў. Іменна ў гэты час адбыліся найбольш істотныя змены і ў самім складзе графічных сродкаў — выйшлі канчаткова з ужытку знакі ѥ, *ѫ*, з'явіліся новыя графемы *э*, *кг*, звузілася сфера прымянення літар ѧ, ѣ, ѵ, ѕ, а ў дзелавой пісьменнасці дублетныя літары *і*, ѵ, ѯ, ѱ, ѕ, *ф* наогул перасталі ўжывацца ў гукавым значэнні. Усё гэта дазволіла ў наступным выкарыстоўваць графіку ў большай адпаведнасці з фанетычнай сістэмай жывой беларускай мовы.

Пісьмовая практыка канца XV — пачатку XVI ст. мела вялікае значэнне і для далейшага ўдасканалення беларускага пісьма. На рубяжы двух стагоддзяў адбыўся канчатковы пераход ад паўустава да скорапісу ў дзелавой пісьменнасці і ў пераважнай большасці помнікаў свецкіх і рэлігійных жанраў [1]. Разам з тым завяршылася выпрацоўка важнейшых прыёмаў афармлення рукапісаў. У прыватнасці, у гэты час вызначыліся ўсе асноўныя заканамернасці ўжывання вынасных літар, што адкрыла магчымасці для паскарэння працэсу пісання. Стала правілам, напрыклад, выносіць у сярэдзіне слоў першую літару са спалучэння зычных (*бо*$^{р}$*ть, голо*$^{в}$*щина, до*$^{л}$*гъ, за*$^{с}$*тава, ма*$^{л}$*же*$^{н}$*ство*), пісаць у канцы слоў над радком як асобныя зычныя (*бра*$^{т}$, *выступ*$^{п}$, *дово*$^{д}$, *коро*$^{л}$, *млы*$^{н}$), так і спалучэнні зычных з канцавым *т* (*вито*$^{вт}$, *жикгимо*$^{нт}$, *инди*$^{кт}$, *кгва*$^{лт}$, *радо*$^{ст}$). Прыкметнае месца

[1] Вывад сучасных даследчыкаў аб маруднасці пераходу ад паўустава да скорапісу ў галіне рэлігійнага ўжытку, заснаваны на палеаграфічных назіраннях, пацвярджаецца і сведчаннямі непасрэдных стваральнікаў пісьмовай дакументацыі таго часу. Несумненную цікавасць у гэтых адносінах выклікае, напрыклад, выпадак з судовага працэсу 1540 г. аб нявыплачаным грашовым доўгу, апісаны ў Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: калі ў судзе ўзнікла падазрэнне аб сапраўднасці пазыковай распіскі, нібыта напісанай больш дзесяці гадоў назад дзякам Клінцом, для праверкі арыгінальнасці дакумента быў выклікан поп, «в которого тотъ истый клинец училъся грамоте иж дей тотъ попъ писмо его знаеть, а такъ познаеть же не его то писмо, и тотъ попъ светъчылъ правъда естъ иж тотъ клинецъ небожчикъ будучы выростъкомъ молодымъ учылъся в мене але скорописи не вмелъ ани ся учылъ, бо я и самъ скорописного писма писати не умемъ где ж книжки и списки того клинцова писмени покладалъ уставнымъ писмомъ а не скорописънымъ» (Рукапіс ЦДАСА. Ф. 389, Кн. 228, Л. 124).

набыў прыём вынасу зычнай літары перад групай «*ь*+*j*», што найбольш часта практыкаваўся пры напісанні аддзеяслоўных назоўнікаў: *будова$^{н}$е, збаве$^{н}$е, кара$^{н}$е, молча$^{н}$е, сказа$^{н}$е*. Выразна праявілася тэндэнцыя выносіць зычныя ў становішчы пасля галосных перад *у*: *вста$^{н}$у, пра$^{в}$у, ста$^{т}$утъ, ча$^{с}$у*. Знайшоў далейшае пашырэнне спосаб скарачэння ўжывальных кніжных слоў шляхам вынасу літар (*блг$^{д}$ть, вл$^{д}$ка, г$^{с}$дь, е$^{в}$гліе, кр$^{с}$тъ, мдр$^{с}$ть, ср$^{д}$це, цр$^{к}$вь*), а ў дзелавой пісьменнасці, акрамя таго, лексем, якія абазначалі розныя тытулы і звароты ветлівасці (*г$^{с}$дрь, мл$^{с}$сть, его к$^{р}$м$^{л}$*). Скарачэнне слоў з адначасовым вынасам зычных літар стала праводзіцца пры абазначэнні дат: *ле$^{т}$ бо$^{ж}$ наро$^{ж}$ аф, м$^{с}$ца се$^{нт}$* і інш.

Асноўным арфаграфічным прынцыпам старажытнарускай пісьменнасці быў прынцып этымалагічна-марфалагічны. З'яўляючыся непасрэднай пераемніцай усяго багацця арфаграфічных прыёмаў пісьменнасці старажытнарускага перыяду, старабеларуская арфаграфічная сістэма першапачаткова трывала захоўвала старажытнарускія традыцыі і толькі зрэдку адступала перад жывой моўнай стыхіяй. Але з цягам часу арфаграфічны воблік старажытных беларускіх тэкстаў паступова пачаў змяняцца, усё больш набываючы новы, самабытны характар. Гэтыя змены ў сістэме напісанняў з'яўляліся вынікам праяўлення той агульнай для старабеларускага правапісу тэндэнцыі, якую можна ахарактарызаваць як імкненне да збліжэння з вымаўленчымі нормамі жывой гутарковай мовы беларускага народа. Неабходна адзначыць, аднак, што не ўсе фанетычныя з'явы старабеларускай мовы адлюстроўваліся ў помніках аднолькава. У сувязі з гэтым сукупнасць арфаграфічных норм старабеларускай пісьменнасці ў залежнасці ад ступені іх адпаведнасці жывому вымаўленню ўяўляецца як сістэма напісанняў дваякага тыпу — арфаграм, якія склаліся пад уплывам жывога вымаўлення, і правапісных рыс, якія грунтаваліся на этымалагічна-марфалагічным прынцыпе. Абедзве гэтыя разнавіднасці напісанняў вядомы і пісьмовым помнікам канца XV — пачатку XVI ст.

Да ліку напісанняў, выпрацаваных пад уздзеяннем жывога вымаўлення, варта аднесці перш за ўсё адлюстраванне пераходу *в* у *ў*. Ужо ў дзелавой пісьменнасці, летапісах і перакладных рэлігійна-апакрыфічных і свецкіх творах канца XV ст. гэта арфаграфічная рыса выразна афармілася ў выглядзе напісанняў з дыграфам *оу* і літарамі *у*, ꙋ на месцы этымалагічнага *в*, бо спецыяльнай графемы для абазначэння гука *ў* у тагачаснай графіцы не было: *оуси, у витебску, ꙋнукъ, оуздыхати*. Фактычны ж матэрыял, багата прадстаўлены ў рукапісных і друкаваных помніках наступнага стагоддзя, тыпу ꙋ *воде*, ꙋ*передъ, оуставка*, ꙋ*сходъ, усюды* сведчыць аб тым, што адлюстраванне пераходу *в* у *ў* у пачатку слоў і прыназоўніку *въ* стала ў гэты час арфаграфічнай нормай старабеларускай пісьменнасці.

У цеснай сувязі з разгледжанай арфаграфічнай рысай зна-

ходзілася частае ў беларускай пісьменнасці напісанне спалучэння *ув* на месцы прыназоўніка *въ* перад галосным наступнага слова. Літара *в* у гэтым спалучэнні служыла для абазначэння пратэтычнага зычнага гука *в*, які ў вусным вымаўленні развіваўся для ліквідацыі гіятуса. Даволі часта напісанне *ув* практыкавалася ў дзелавых помніках і летапісах канца XV ст., але асабліва распаўсюджанне яно атрымала ў пісьмовых крыніцах XVI ст.: *оув обороне, ув озеро, 8в опеце, оув 8хо, 8в ошмене.* Ёсць такія напісанні і ў выданнях Ф. Скарыны: *8в окне, 8в оковы.*

Характэрны для фанетычнай сістэмы старабеларускай мовы пераход у пэўнай пазіцыі складовага *у* ў *ў* на пісьме перадаваўся літарай *в*, бо пісцы ў ліку наяўных графічных сродкаў не знаходзілі спецыяльнай літары для абазначэння гэтага гука. Прыкладаў напісання *в* на месцы *у* ў помніках канца XV — пачатку XVI ст. так жа многа, як і прыкладаў напісання *у* і *ув* на месцы *в*: *вдарити, вжо, вмова, втекати, вчити, вмывалница.* Найбольш пашыраны яны ў дзелавой пісьменнасці. У гэтым жанры аб напісаннях тыпу *врадъ, вжывати, вчынити* можна гаварыць як аб асноўнай правапіснай норме.

Больш паслядоўна ў параўнанні з некаторымі іншымі фанетычнымі з'явамі перадавалася ў старабеларускай пісьменнасці і зацвярдзенне шыпячых. Праўда, у адносінах да канца XV — пачатку XVI ст., калі большасць арфаграфічных норм яшчэ толькі выпрацоўвалася, аб адлюстраванні зацвярдзення гэтых зычных можна гаварыць толькі як аб факультатыўнай норме. У многіх свецкіх і асабліва рэлігійных творах гэтага часу, дзе асноўным арыенцірам для пісцоў служылі правапісныя традыцыі, асаблівасці беларускай фанетыкі адбіліся ў мінімальнай колькасці. Так, адзначаныя арфаграфічныя інавацыі зусім нязначныя ў Віленскім, Увараўскім, Нікіфараўскім і Супрасльскім спісах летапісу, у «Пакутах Хрыста», «Аповесці пра трох каралёў», Зборніку № 262, Біблії Ф. Скарыны, Псалтыры XVI ст. Затое дзелавая пісьменнасць, якая наогул найбольш поўна перадавала жывую мову свайго часу, адлюстроўвала зацвярдзенне *ж, ш, ч* у пераважнай большасці выпадкаў: *жыто, положыти; грошы, нарушыти; городничый, личыти; головщына, небощыкъ.* Адлюстраванне цвёрдасці *ш* і *ч* асабліва часта выступала ў дзелавых помніках у суфіксах дзеепрыслоўяў прошлага і цяперашняга часу *-шы, -чы*: *вышедшы, зыскавшы, ставшы; видечы, даючы, жалуючы.* Няма сумнення ў тым, што такая паслядоўная перадача цвёрдых шыпячых у кнігах дзелавой пісьменнасці яскрава сведчыць аб арыентацыі пісараў тагачасных судовых канцылярый іменна на жывое народнае вымаўленне.

Да пачатку XVI ст. адносяцца і першыя выпадкі абазначэння цвёрдасці ц, што пазней таксама стала варыянтнай правапіснай нормай: *немоцы, панцыръ* (Ст. 1529), *пры томъ имене*[и]*цы,* на *колацыи* (КВЗС), *блискавицы, на правицы* (Пс. XVI) і інш.

Значны крок да фанетызацыі быў зроблены старабеларускай

пісьменнасцю ў правапісе *р*. Пачаўшы абазначацца спарадычна ўжо ў XIV ст., зацвярдзелае *р* у пісьмовых тэкстах канца XV — пачатку XVI ст. стала адлюстроўвацца даволі шырока. Аднак помнікі асобных жанрава-стылявых разнавіднасцей характарызаваліся рознымі арфаграфічнымі паказчыкамі. Творы рэлігійнага зместу, перапісаныя з больш ранніх старабеларускіх пратографаў або створаныя ці перакладзеныя ў манастырах высокаадукаванымі людзьмі, якія дасканала валодалі царкоўнаславянскімі правапіснымі прыёмамі, звычайна больш трывала захоўвалі на пісьме этымалагічную мяккасць гука *р*. Некалькі смялей парушалася традыцыя ў бок фанетызацыі ў тагачасных летапісах і перакладных свецкіх творах. Паўней, чым у іншых жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы, адбілася зацвярдзенне *р* у дзелавых помніках, дзе звычайнымі зрабіліся напісанні тыпу *борысъ, врадникъ, крывда, прыходити, тры, чотыры*. Праўда, і сярод дзелавых помнікаў канца XV або самага пачатку XVI ст. сустракаюцца асобныя кнігі і дакументы, у якіх мяккае *р* прадстаўлена параўнальна вялікай колькасцю выпадкаў, як, напрыклад, Кніга маршалкоўскага суда 1510—1517 гг.: *верити, говорю, писаря, смотрю* і інш. Аднак к сярэдзіне XVI ст. напісанні з літарамі *ы*, *а*, *у* пасля *р* пашырыліся ў дзелавой пісьменнасці настолькі, што ўспрымаюцца як правапісная норма. Наяўныя ж у помніках гэтага часу нешматлікія адхіленні ў бок этымалагічна-марфалагічнага прынцыпу можна часткова растлумачыць недастатковым выкарыстаннем літары *э*, а часткова — уплывам правапісных прыёмаў рэлігійнай пісьменнасці. Акрамя таго, для актаў, напісаных у мясцовасцях з мяккаэрымі гаворкамі, можна дапусціць і ўплыў жывога вымаўлення. Гэта апошняе тлумачэнне падыходзіць і да помнікаў іншых жанраў, калі яны былі створаны ці перапісаны выхадцамі з паўночна-ўсходняй ці паўднёва-заходняй ускраіны Беларусі.

Працэс зацвярдзення губных зычных *б, п, м, в* на канцы слоў, пачаўшыся яшчэ ў старажытнарускі перыяд пасля адпадзення канцавога рэдукаванага *ь*, сваё адлюстраванне на пісьме знайшоў толькі з XIV ст. У помніках старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. зацвярдзенне губных прадстаўлена вялікай колькасцю прыкладаў, хоць у цэлым гэта з'ява рэалізавалася ў лексічна абмежаваным разрадзе слоў: *голубъ, любовъ, кровъ, морковъ, семъ, осмъ* і інш. Аднак адзначаная арфаграфічная рыса не была праведзена ў старабеларускай пісьменнасці паслядоўна, і часта ў помніках паралельна з *ъ* ужывалася пасля канцавых губных зычных літара *ь*: *любовь, свекровь, есмь, скорбь*. Неабходна адзначыць таксама, што і сярод прыведзеных прыкладаў, дзе пасля губных стаіць *ъ*, ёсць некаторыя, што не мелі поўнай адпаведнасці з тагачасным жывым вымаўленнем. Так, калі першапачаткова ў старабеларускай мове этымалагічна мяккі канцавы *в* у словах тыпу *любовъ, кровъ, церковъ* вымаў-

ляўся як зацвярдзелы гук, то пазней ён перайшоў у *ў*. Аднак устанавіць дакладную храналогію гэтага пераходу на матэрыялах помнікаў цяжка, таму што ніякіх адхіленняў ад напісання літары *в* у даным становішчы старабеларускія помнікі не выяўляюць.

Архаічнай правапіснай рысай ранніх летапісаў з'ўлялася захаванне спалучэнняў *гы*, *кы*, *хы*, якія выступалі часцей за ўсё ў формах прыметнікаў *(великыи, виленскыи, витебскыи)* і ў канчатках назоўнікаў розных склонавых форм *(дочкы, ногы, поушкы)*. Сведчаннем таго, што гэтыя спалучэнні ўжо не адпавядалі жывому вымаўленню, могуць служыць матэрыялы напісаных прыкладна адначасова з названымі летапісамі «Пакут Хрыста» і «Аповесці пра трох каралёў», дзе спалучэнні *гі*, *кі*, *хі* займаюць у параўнанні са спалучэннямі *гы*, *кы*, *хы* пануючае становішча: *береги, грехи, книги, наоуки, некакии, римскіи* і г. д. Больш шматлікімі ў параўнанні з ахраічнымі *ветхыи, ногы, рукы* выглядаюць новыя напісанні з *ги, ки, хи* і ў помніках рэлігійных жанраў пачатку XVI ст.: *золотники, моухи, ноги, роги, слоуги* і інш. Для дзелавых жа і свецкіх помнікаў гэтага часу літара *ы* пасля заднеязычных наогул ужо не характэрна.

У старабеларускіх пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст. даволі адчувальна праявілася таксама тэндэнцыя да замены літары ѧ ў ненаціскным становішчы графемай *е*. Асабліва часта такія напісанні практыкаваліся ў дзеепрыслоўях цяперашняга часу *(боронечы, возечы, личечы, мовечы, просечы)*, у часціцы *-ся (братисе, веселитисе, женитисе, смиловатисе)*, у асобных назоўніках, прыметніках, лічэбніках, дзеясловах *(ечмень, паметь; светый, шлехетный; десеть, тридцеть; гледети, поменути)*. Ёсць падставы такія напісанні кваліфікаваць як ускоснае адлюстраванне якання. Іх нельга лічыць непасрэдным адлюстраваннем жывога вымаўлення перш за ўсё таму, што яны сустракаюцца амаль ва ўсіх старабеларускіх помніках незалежна ад месца напісання, тады як у жывым вымаўленні гук *е* ці блізкі да яго быў уласцівы, безумоўна, толькі невялікай частцы старажытных беларускіх гаворак. У наш час еканне вядома толькі асобным гаворкам паўднёва-заходняга дыялектнага масіву.

З меншай паслядоўнасцю адлюстроўваліся ў старабеларускай пісьменнасці разглядаемага перыяду іншыя фанетычныя з'явы беларускай мовы: аканне і яканне, дзеканне і цеканне, пераход *л* у *ў*, падаўжэнне зычных і г. д.

Першыя выпадкі адлюстравання акання былі выяўлены даследчыкамі ў старабеларускіх помніках сярэдзіны XV ст. У пісьмовых крыніцах розных жанраў канца XV — пачатку XVI ст. можна таксама часам сустрэць напісанні накшталт *стаяти* (Віл.), *с табою, на нагах, кали* (Пак. Хр.), *тагды, патом* (Валх.), *стаить при вѧлицкои дарозѧ, за сабою* (КМС), *въпрашаеть, сагнути* (Зб. 262), *во грамаде, гаварили, ападали* (Пс. XVI) і інш

Аднак арфаграфічнай нормай і ў гэтых помніках, і ў іншых працягвалі заставацца напісанні з літарай *о* ў ненаціскным становішчы: *вода, голова, дорога, копа, продажа, ховати* і г. д. Больш таго, у помніках выяўляюцца гіпернармалізмы тыпу *гроница, долеко, запохъ, козати, сproведливость*, якія з'явіліся ў выніку неадрознення пісцамі ненаціскнога гука *а* (з *о*) і этымалагічнага *а*. Гэтыя напісанні сведчаць аб свядомым імкненні старажытных кніжнікаў і пісцоў следаваць этымалагічна-марфалагічнаму прынцыпу.

Яшчэ меншыя магчымасці для адлюстравання ў пісьменнасці мела такая спецыфічная для беларускай мовы з'ява, як дзеканне і цеканне. Акрамя таго, што выкарыстанне *дз* і *ц* замест этымалагічных *д* і *т* у пазіцыі перад галоснымі літарамі *е, ѣ, и, і, ю, ꙗ*, і *ь* не прадугледжвалася тагачасным правапісам, стрымліваючым фактарам для старажытных беларускіх кніжнікаў было таксама імкненне пазбягаць супадзенняў з адпаведнымі асаблівасцямі польскай арфаграфіі. Таму абазначэнне дзекання і цекання магло рэалізавацца ў пісьмовых тэкстах, нават дзелавых, толькі ў выглядзе адзінкавых памылак, як, напрыклад, напісанне *цстꙗ его,* што зафіксавана ў дакуменце за 1519 г. (КСД), ці напісанні *сець, выцесал, у роце, ціотку* ў помніках пазнейшага часу.

Не атрымаў у ранняй старабеларускай пісьменнасці належнага адлюстравання і пераход *л* у *ў*, хоць гэта фанетычная з'ява, як і пераход *у* ў *ў*, адбылася яшчэ ў канцы старажытнарускага перыяду. На фоне масавага абазначэння пераходу *у* ў *ў* выпадкі ўжывання ў тэкстах канца XV — пачатку XVI ст. на месцы этымалагічнага *л* літары *в* успрымаюцца як памылкі: *невдовзѣ* (Гр. 1498), *услышавъ кнꙗзь свꙗтослав* (Віл.), *поранивсѧ* (Скар.). Адной з прычын такой няўвагі да яркай фанетычнай рысы, акрамя нежадання старажытных кніжнікаў парушаць правілы традыцыйнай арфаграфіі, з'яўлялася тое, што пераход *л* у *ў* быў характэрны пераважна для форм дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду, напісанне якіх аказалася ў залежнасці ад іншых форм у парадыгме прошлага часу, дзе не было неабходных умоў для пераходу *л* у *ў* (параўн. *читалъ* і *читала, читали*). Больш таго, у ранніх пісьмовых помніках не толькі зберагаліся этымалагічна-марфалагічныя напісанні тыпу *досталъ, зналъ, пришолъ,* але і былі вядомы напісанні з літарай *л* на месцы *в*. Гэта мела месца, у прыватнасці, у дзеепрыслоўях прошлага часу, якія перадаваліся то правільна *(бравши, положивши, пописавши),* то з *л* замест *в*. Найбольш выпадкаў такога афармлення дзеепрыслоўяў у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529 г. *(выкупи*$^{л}$*ши, доконa*$^{л}$*ши, почалъшы)* і ў Псалтыры XVI ст. *(взѧ*$^{л}$*ши, вслыша*$^{л}$*ши, пожи*$^{л}$*ши)*. Безумоўна, прыведзеныя напісанні з'яўляліся ўскосным адлюстраваннем пераходу *л* у *ў*. Паколькі ў пісьменнасці па традыцыі ў дзеясловах мужчынскага роду прошлага часу паслядоўна пісалася *л*, хоць у жывым

вымаўленні тут чулася *ў*, то і ў прыведзеных дзеепрыслоўях, дзе таксама вымаўлялася *ў*, магло з'явіцца напісанне з *л*. Аб тым, што змяшэнне *л* з *в* з'яўлялася ўскосным адлюстраваннем пераходу *л* у *ў*, у некаторай ступені сведчаць выпадкі разнабою пры напісанні іншых слоў: *витолтъ — витовтъ, ȣволторокъ — ȣвовторокъ.*

Падаўжэнне зычных у інтэрвакальным становішчы, якое развілося пасля падзення рэдукаваных у сувязі з асіміляцыяй наступнага *j*, у старабеларускіх помніках канца XV — пачатку XVI ст. адзначалася ў выглядзе напісанняў *вoзданне, искоренен-не, коренне* ў выключна рэдкіх выпадках. Гэта было звязана з тым, што тагачасныя кніжнікі падначальваліся правілам традыцыйнага правапісу, у якім напісанні з дзвюма аднолькавымі літарамі ў даным становішчы не дапускаліся. Звычайна ж для афармлення гэтай катэгорыі слоў выкарыстоўваліся прыёмы, заснаваныя на мадэлях «зычная+*ь*+галосная» *(веселье, едналье, каранье, сказанье)* і «зычная+*и*, *і*+галосная» *(блисканиe, камение, молвение, посмеваніе)*, першай усходнеславянскага, другой царкоўнаславянскага паходжання. Напісанні на *-ье* часцей ужываліся ў дзелавой і свецкай пісьменнасці, на *-ие* — у рукапісах і друкаваных кнігах рэлігійнага зместу. Пачаў у гэты перыяд практыкавацца (асабліва ў дзелавых помніках) і прыём напісання слоў з падоўжанымі зычнымі шляхам вынасу зычнай: *будоваⁿе, дыхаⁿе, мешкаⁿе, розмышлеⁿе* і інш.

Помнікі старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. адлюстроўвалі таксама пераход *е* ў *о* пасля спрадвечна мяккіх зычных перад цвёрдымі і на канцы слоў. Асабліва вялікая колькасць напісанняў з літарай *о* на месцы *е* з'яўлялася пасля шыпячых і *ц* у сувязі з зацвярдзеннем гэтых зычных у беларускай мове. Пры гэтым новыя напісанні ўзнікалі як пад націскам *(ещо, оужо, пошолъ, сучокъ)*, так і ў ненаціскным становішчы *(жона, вашо, мачоха, сердцо)*. Але ў помніках, якія ў большай ступені падвяргаліся ўплыву царкоўнаславянскай арфаграфіі, шырока ўжываліся этымалагічныя напісанні з *е*, што прыводзіла да арфаграфічнага разнабою: *ещо — еще, пришодшы — пришедши, чоловекъ — человекъ.* Пераход *е* ў *о* пасля іншых зычных абазначаўся толькі спарадычна: *оубелоны* (Валх.), *измeноно* (Скар.). Гэта тлумачыцца тым, што выкарыстанне літары *о* ў такіх выпадках прыводзіла да страты прыкметнай фанетычнай асаблівасці слоў — мяккасці папярэдняга зычнага, магло зацямніць сэнс іх і адмоўна адбіцца на разуменні тэксту.

Нешматлікімі выпадкамі парушэння правапіснай традыцыі прадстаўлена ў старабеларускай пісьменнасці разглядаемага перыяду і абазначэнне прыстаўных гукаў — зычных *в, г*: *ѡхвотно* (Пак. Хр.), *пчолы ȣ вȣльі* (КВЗС), *гетоᵀ* (Пс. XVI), галосных *і, о*: *к орши* (Віл.), *били и иръвали* (Пак. Хр.), *ильнѧными* (Зб. 262). Звычайнымі ж з'яўляліся напісанні накшталт *озеро, осень,*

*ужъ, наука; льва, льсти, лжи, льну.* Шырокім адлюстраваннем прыстаўных гукаў вылучаліся толькі скарынаўскія выданні: *вужъ, в навукахъ, гужи, гусеница; илживе, ильвица, ильстецъ, иржати* і інш. Па гэтай асаблівасці біблейскія кнігі Ф. Скарыны займаюць асобнае месца ў гісторыі старабеларускай пісьменнасці.

Разгледжаныя правапісныя рысы з дастатковай выразнасцю паказваюць, што ў канцы XV — пачатку XVI ст. арфаграфічная сістэма старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы знаходзілася яшчэ на стадыі пераасэнсавання сваіх норм. Тэндэнцыя да фанетызацыі правапісу, якая набрала сілу ў гэты час, толькі ў дзелавой пісьменнасці і толькі пры адлюстраванні асобных фанетычных з'яў прывяла да замацавання факультатыўных арфаграфічных інавацый, а мову свецкай і рэлігійнай літаратуры закранула нязначна. Ступень захавання ў тых ці іншых жанрава-стылявых разнавіднасцях або нават у асобных помніках старых, традыцыйных арфаграфічных норм і напаўнення іх новымі, фанетычнымі напісаннямі залежала ад розных прычын і абставін агульнага і прыватнага характару, з якімі прыходзілася лічыцца беларускім кніжнікам старажытнага перыяду.

Адну з прычын значнага разыходжання паміж вымаўленнем і арфаграфіяй і яе настойлівага ўхілення ад фанетызацыі трэба бачыць перш за ўсё ў самой прыродзе правапісу, які, як вядома, па сваёй спецыфіцы больш кансерватыўны, у меншай меры падвяргаецца зменам, чым жывое вымаўленне, і таму пастаянна адстае ад вымаўленчых норм свайго часу.

Трэба адзначыць таксама, што адначасова са старабеларускай пісьменнасцю на тэрыторыі Беларусі культывавалася царкоўнаславянская мова з яе традыцыйным правапісам. Пастаяннай заказчыцай на царкоўнаславянскую пісьмовую прадукцыю была праваслаўная царква, а рэгулярнымі пастаўшчыкамі гэтай прадукцыі — манастыры. Іменна тут ствараласся, перакладалася і перапісвалася таксама значная частка помнікаў на беларускай мове. Зразумела, аўтары, перакладчыкі і перапісчыкі, не маючы пад рукамі кадыфікаванага зводу арфаграфічных правіл, вымушаны былі абапірацца на больш нармалізаваную царкоўнаславянскую арфаграфію, як на ўзор правільнасці, і непазбежна пераносілі кансерватыўныя царкоўнаславянскія правапісныя прыёмы на беларускую глебу. Пераважная большасць напісанняў, выкліканых жывым вымаўленнем, пранікала ў гэтыя творы выпадкова, незалежна ад волі і жадання асобных кніжнікаў, часам як вынік недастатковай пісьменнасці апошніх. Не дзіўна таму, што беларускія помнікі рэлігійных жанраў мелі значна меншую магчымасць фанетызавацца, чым дзелавыя пісьмовыя крыніцы, якія пісаліся ў шматлікіх канцылярыях гарадскіх, земскіх і замкавых судоў.

Акрамя таго, захаванню традыцыйных напісанняў садзейнічала тое, што гістарычны лёс беларускага народа быў цесна

звязаны з лёсам народа ўкраінскага. Жывучы ў адной дзяржаве, беларусы і ўкраінцы хоць і карысталіся ў паўсядзённых моўных зносінах сваімі роднымі мовамі ў іх дыялектных адгалінаваннях, аднак у грамадскім і культурным жыцці ўжывалі, па сутнасці, агульную літаратурна-пісьмовую мову, якая толькі нязначна на Беларусі афарбоўвалася беларускімі, а на Украіне ўкраінскімі асаблівасцямі. Выкарыстоўваючы аднолькавыя графічныя сродкі і свядома пазбягаючы абазначэння на пісьме фанетычных рыс сваіх моў, беларускія і ўкраінскія кніжнікі тым самым рабілі свае творы даступнымі для ўсіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага.

Усе гэтыя прычыны ў сукупнасці мелі вынікам тое, што, нягледзячы на пастаянны колькасны рост у старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. напісанняў, выкліканых уздзеяннем фанетычнага прынцыпу, асноўным прынцыпам старабеларускай арфаграфічнай сістэмы працягваў заставацца прынцып этымалагічна-марфалагічны.

## МАРФАЛОГІЯ

Марфалагічная сістэма старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы канца XV — пачатку XVI ст. у адрозненне ад арфаграфіі характарызавалася большай унармаванасцю і цяснейшым збліжэннем з сістэмай граматычных форм жывой народна-гутарковай мовы. Адзначаныя якасці яе з'явіліся вынікам таго, што да гэтага часу ў граматычным ладзе ўсходнеславянскіх моў у асноўным завяршыліся агульныя зрухі, распачатыя яшчэ ў старажытнарускі перыяд, і развіліся спецыфічныя рысы, якія надалі кожнай з іх адметны характар. У тыя дзесяцігоддзі, калі ўзнікалі вядомыя зараз спісы ранніх беларускіх летапісаў (Віленскі, Увараўскі, Нікіфараўскі, Супрасльскі), перакладаліся з іншамоўных арыгіналаў дзелавы Вісліцкі статут, свецкія «Александрыя,», «Траянская гісторыя», рэлігійныя «Пакуты Хрыста», «Аповесць пра трох каралёў», калі друкаваліся першыя на ўсходняй славяншчыне кнігі ў перакладзе Ф. Скарыны, старабеларуская мова валодала ўжо ўсімі марфалагічнымі катэгорыямі і важнейшымі сродкамі іх выражэння, якія ўласцівы і сучаснай беларускай літаратурнай мове. Пэўныя эвалюцыйныя працэсы працягваліся толькі ў межах асобных катэгорый і былі звязаны з уніфікацыяй асобных форм.

У назоўніку уніфікацыя найбольш актыўна адбывалася ў катэгорыях склону і ліку. Нягледзячы на тое што былая шматтыпная сістэма скланення назоўнікаў замянілася ўжо трохтыпнай, у якой вядучую ролю заняў род, а не праславянскія асновы, і назоўнікі сталі змяняцца не па сямі, а па шасці склонах і ўжывацца не ў трох, а ў двух ліках, усё ж рэлікты архаічных склонавых канчаткаў, рэшткі форм клічнага склону і парнага ліку ў гэтай часціне мовы яшчэ захоўваліся. Значыць, існаваў прыкмет-

ны разнабой у афармленні некаторых склонаў і лексіка-семантычных груп. У пісьмовых помніках гэты разнабой у значнай меры падтрымліваўся ўздзеяннем царкоўнаславянскай моўнай стыхіі. Суадносіны асноўных і факультатыўных норм у скланенні назоўнікаў і тэндэнцыя да вызвалення старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы ад нерацыянальных сродкаў марфалагічнага выражэння выразна прасочваюцца пры аналізе канкрэтных склонавых форм.

Пісьмовыя помнікі розных жанрава-стылявых разнавіднасцей, якія датуюцца канцом XV — пачаткам XVI ст., сведчаць, што ў назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду незалежна ад таго, да якога тыпу скланення яны адносіліся ў папярэдні перыяд, ужываліся з нулявым канчаткам: *братъ, волъ, гай, день, камень, лесъ, олень, сынъ*. З ліку іх вылучаліся толькі групы адушаўлёных назоўнікаў тыпу *воевода, судья* і *батько, дядько*, якія мелі ў назоўным склоне адпаведна канчаткі *-а/-я* і *-о*. У іншых склонах гэтыя адушаўлёныя назоўнікі афармляліся па ўзору назоўнікаў жаночага роду і ніякіх спецыфічных асаблівасцей не выяўлялі.

Для назоўнікаў ніякага роду былі характэрны ў назоўным склоне канчаткі *-о*, *-е*, першы — пры цвёрдых асновах, другі — пры мяккіх: *болото, дело, железо, слово; веселье, еднанье, зелье, поле*. Разнабой ва ўжыванні гэтых форм назіраўся толькі ў выпадках, калі аснова заканчвалася на шыпячы і *ц*: *винніще — виннищо, лице — лицо*. У пісьмовых помніках, дзе было моцным захаванне правапісных традыцый, пераважаў канчатак *-е*, у тэкстах, якія больш шырока адлюстроўвалі зацвярдзенне зычных,— *-о*. Сваім афармленнем назоўнага склону вылучаліся назоўнікі з былымі асновамі на зычныя *н* і *т* тыпу *знамя, имя, семя; козля, осля, теля*, якія мелі канчатак *-я*.

Марфалагічным сродкам афармлення назоўнага склону назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* з'яўляўся канчатак *-а/-я: бочка, голова, мовароса; воля, земля, песня, хвоя*. У аднастайнасць гэтых форм некаторую непаслядоўнасць уносіла толькі група слоў тыпу *боярыня, господарыня, княгиня*, якая, акрамя канчатка -я, замацаванага пад уплывам іншых назоўнікаў жаночага роду, выкарыстоўвала яшчэ і старыя формы на *-и*: *великаѧ кнѧгині... пригадала ем8 такъ* (Віл.); *жаловала боꙗрини г$^{с}$дарскаꙗ* (КВЗС). Не выключана, што ў некаторых помніках пісьмовая традыцыя мела падтрымку і ў жывым вымаўленні, бо замена канчатка *-и* на *-я* ў старабеларускі перыяд адбылася не ва ўсіх гаворках, аб чым сведчаць рэлікты старой формы ў сучаснай дыялектнай мове. Усе астатнія назоўнікі жаночага роду выступалі ў назоўным склоне з нулявым канчаткам: *борть, весть, злость, кость, любовь, ночь, радость, часть*.

У родным склоне назоўнікі мужчынскага роду афармляліся пры дапамозе канчаткаў *-а/-я* і *-у/-ю*. Сфера размеркавання гэтых канчаткаў залежала ад прыналежнасці назоўнікаў да пэў-

ных лексіка-граматычных разрадаў і семантычных груп. Так, адушаўлёныя назоўнікі, акрамя зборных, нягледзячы на тое, да якіх асноў яны адносіліся ў папярэдні перыяд, ужываліся ў пісьмовых помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей выключна з традыцыйным канчаткам *-а/-я: енерала, зубра, коваля, коня, посла, рыболова, сына, ужа.* У разрадзе адушаўлёных назоўнікаў сваёй спецыфікай вылучаліся словы са зборным значэннем, якія, хоць і непаслядоўна, забяспечваліся новым канчаткам *-у/-ю.* Разнабой у афармленні роднага склону гэтай групы назоўнікаў асабліва відавочны ў такіх пісьмовых крыніцах рэлігійнага прызначэння, як «Пакуты Хрыста», «Аповесць пра трох каралёў», Зборнік № 262, дзе адны і тыя ж зборныя назоўнікі характарызуюцца дваякімі паказчыкамі: *гада — гаду, люда — люду, скота — скоту.* Частковае захаванне форм на *-а/-я* ў адзначаных тэкстах тлумачыцца царкоўнаславянскім уплывам, бо ў дзелавых і свецкіх помніках таго часу, якія не мелі царкоўнаславянскіх узораў, пры афармленні роднага склону зборных адушаўлёных назоўнікаў выкарыстоўваўся амаль выключна канчатак *-у/-ю*: *з люд8 своего зрА̂ди^л два^д цать и четыри шпици* (Троя); *мають... белокъ и никоторого звер8 не гонити* (КВЗС).

Сярод неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з канчаткам *-а/-я* ў родным склоне паслядоўна ўжываліся толькі назвы месяцаў *(августа, апреля, июля, июня, мая, февраля)* і некаторых канкрэтных прадметаў рэчаіснасці, што паддаюцца лічэнню *(корабля, крижа, меча, сапога, стола, шатра).* У іншых лексіка-семантычных групах неадушаўлёных назоўнікаў праяўлялася моцная тэндэнцыя да выцяснення гэтага канчатка канчаткам *-у/-ю.* Найбольш часта канчатак *-у/-ю* з'яўляўся ў назоўніках з рэчыўным значэннем, а таксама ў словах са значэннем матэрыялу, з якога зроблен прадмет: *бобу, воску, гороху, льну, маку, свинцу.* Шырока выкарыстоўваўся ён у родным склоне назоўнікаў са зборным значэннем: *бору, гаю, лесу, обозу, товару, хворосту.* Перавагу гэтаму канчатку аддавалі старажытныя беларускія кніжнікі і пры афармленні роднага склону многіх абстрактных назоўнікаў: *голосу, долгу, закону, розуму, смутку, часу.* Распаўсюджанне форм на *-у/-ю* ў помніках старабеларускай пісьменнасці сутыкалася, аднак, з пэўным супраціўленнем з боку традыцый, аб чым сведчыць суіснаванне паралельных напісанняў тыпу *года — году, крика — крику, обычая — обычаю* не толькі ў помніках рэлігійных жанраў, але і ў свецкіх і дзелавых, напрыклад у «Александрыі», Увараўскім і Нікіфараўскім спісах летапісу, Кнізе маршалкоўскага суда 1510—1517 гг. У некаторых помніках, нават у такім лепшым узоры свецкай пісьменнасці канца XV ст., як Віленскі спіс летапісу, формы на *-у/-ю* зусім адсутнічаюць. Данінай традыцыі трэба лічыць і спарадычныя выпадкі ўжывання архаічных канчаткаў *-е, -и* ў словах *день, камень: тако потече и до нынешне^г дне* (Чэцця); *принесли ем8 ст^ѣм8 пор08 ω^т камени самфира* (Алекс.). Падтрымкі з боку

жывога вымаўлення такія формаўтварэнні, зразумела, ужо не мелі.

Назоўнікі ніякага роду мелі ў родным склоне канчатак *-а/-я*. Ён выступаў у пісьменнасці розных жанраў, утвараючы словаформы *ведра, гумна, дерева, жита, золота, лета, неба, поля*. Пэўны разнабой узнікаў толькі ў словах тыпу *здоровье, именье* і аддзеяслоўных назоўніках накшталт *везенье, ловенье,* што пад уплывам царкоўнаславянскіх тэкстаў часам захоўвалі перад канчаткам традыцыйнае *и*: *прода*[л] *еси творца всего створенιа* (Пак. Хр.). У складзе назоўнікаў ніякага роду асобна стаяла група слоў на *н, т*, якая мела ў родным склоне канчатак *-и*: *знамени, имени, семени; быдляти, зверати, отрочати*. Парушэннем гэтай нормы з'яўляліся выпадкі ўжывання архаічных форм на *-е* або і новага канчатка *-я*, што пранікаў пад уздзеяннем іншых назоўнікаў ніякага роду: ѡ[т] *сѣмене и*[х] *почата* (Чэцця); *потребоуеть како*[г] *конѧ албо звѣрѧте* (Валх.); *носили зброю... бе*[з] *жадного знаменѧ* (Троя).

Пры афармленні роднага склону назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* выкарыстоўваўся канчатак *-ы/-и: воды, зимы, копы, роботы; зброи, лазни, недели, пустыни*. Іншыя назоўнікі жаночага роду мелі ў родным склоне канчатак *-и: горкости, криви, ночи, осени, свекрови, соли*. Некаторы разнабой, звязаны са змешваннем цвёрдага і мяккага варыянтаў, выяўляўся толькі ў групах назоўнікаў з асновай на шыпячы, *ц* і *р* (*бури — буры, пшеници — пшеницы, речи — речы*) і на заднеязычныя (*дороги — дорогы, ласки — ласкы, пазухи — пазухы*). Разам з тым у старабеларускай пісьменнасці ранняга перыяду зрэдку ўжываўся і стары канчатак *-е*, уласцівы яшчэ старажытнарускай пісьменнасці пры напісанні слоў з мяккай асновай: *вышли про*[ч] *из бо*[ж]*ницe* (Пак. Хр.); ѡ[т] *церкве римское соу*[т] ѡ[т]*делены* (Валх.). Асаблівасцю ў скланенні назоўнікаў тыпу *канцелярия, шия* было тое, што апошні галосны асновы *и* мог замяняцца на *е: до индеи пришо*[л] (Валх.); *привели насъ м8жове плебанеи витебъское* (КВЗС). У перакладных помніках пад уплывам польскай мовы для афармлення роднага склону такіх назоўнікаў зрэдку выкарыстоўваўся канчатак *-ей: до королѧ арабіеи пришли* (Валх.); *кторыи же бы*[л] *с касидониеи* (Троя).

Для афармлення давальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду старабеларуская мова выкарыстоўвала канчаткі *-у/-ю* і *-ови/-еви*. Ступень пашырэння кожнага з іх залежала ад прыналежнасці назоўнікаў да пэўных граматычных разрадаў, ад жанрава-стылявой характарыстыкі помнікаў і ад ступені ўздзеяння на іх мову з боку іншамоўных стыхій. Так, неадушаўлёныя назоўнікі ўжываліся, як правіла, з канчаткам *-у/-ю: берегу, городу, дому, суду; бою, гаю, каменю, краю*. Адушаўлёныя ж назоўнікі, ужываючы канчатак *-у/-ю* (*брату, мужу, пану; зятю, коню, королю*), у пэўнай ступені аддавалі даніну і канчатку *-ови/-еви*. Тэндэнцыя да пашырэння канчатка

*-ови/-еви* больш адчувальнай была ў дзелавой і свецкай пісьменнасці, хоць граматычнай нормай і тут накуль што заставалася ўжыванне канчатка *-у/-ю.* З помнікаў гэтых жанраў маштабнасцю выкарыстання канчатка *-ови/-еви* вылучаюцца толькі перакладныя Вісліцкі статут і «Траянская гісторыя», у якіх ён выступае ў якасці граматычнай нормы ва ўласных імёнах і словах са значэннем асобы: *гекторови, королеви, матееви, пастухови, служебникови, юрьеви.* Бясспрэчна, гэтыя формы атрымалі тут падтрымку з боку аналагічных форм заходнеславянскіх арыгіналаў. У помніках жа рэлігійных жанраў, якія наогул характарызаваліся больш трывалым захаваннем старажытных пісьмовых традыцый, назоўнікі давальнага склону з канчаткам *-ови/-еви* ўжываліся вельмі рэдка: *далъ ему исповедати пытание цареви* (Скар. ДП); *чи даси коневи храбрость* (Зб. 262). Выключэннем выглядаюць перакладныя «Пакуты Хрыста» і «Аповесць пра трох каралёў», дзе ўжывальнасць абодвух канчаткаў у давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў прыкладна аднолькавая, прычым часта ў адных і тых жа словах: *волкоу — волкови, королю — королеви, послоу — послови.*

Назоўнікі ніякага роду, акрамя слоў з асновамі на *н, т,* мелі ў давальным склоне канчатак *-у/-ю: войску, долоту, лету, небу, окну, полю, телу, чуду.* Як і ў родным склоне, словы тыпу *здоровье, именье* і аддзеяслоўныя назоўнікі ўжываліся з *ь* перад канчаткам, хоць часам пад царкоўнаславянскім уплывам маглі замяняць *ь* на *и*: *пан*о*ванію моем8 по*д*даны* (Пак. Хр.). Сродкам афармлення давальнага склону назоўнікаў з асновамі на *н, т* быў у помніках старажытны канчатак *-и,* прычым суфіксы *-ен-, -ят-* захоўваліся: *времени, имени, племени; дитяти, зверяти, княжати.* Аднак у некаторых тэкстах рэлігійнага зместу пачатку XVI ст. былі магчымы і формы з канчаткам *-ю*: *промысли*л *есми к веремeню* (Зб. 262); *нехаи же поеть имeню твоемоу* (Пс. XVI).

Назоўнікі жаночага роду з былымі асновамі на *ā* ўжываліся ў давальным склоне з канчаткамі *-е, -и (воде, зиме, славе, траве; воли, кропли, студни, шии),* усе астатнія — толькі з канчаткам *-и (болести, жалости, любви, матери, свекрови, чести).* У сувязі з зацвярдзеннем шыпячых, *ц* і *р* у становішчы пасля гэтых зычных канчатак *-и* мог замяняцца канчаткам *-ы*: *речы, пшеницы, матеры.* Адхіленні ад такога формаўжывання ў пісьмовай практыцы дапускаліся ў адзінкавых выпадках, напрыклад напісанне *-и* на месцы заканамернага *-е*: *невѣсти* (Ст. 1529), *-е(-ѣ)* на месцы *-и: великой княгинѣ* (АЗР), ці, як у Скарыны, ужыванне канчатка *-ови,* характэрнага для назоўнікаў мужчынскага роду: *домъ Амановъ далъ есми Есѳерови царици* (Скар. КЕ); *сосуды сиѦ ѿдали людие Ꙇ8диѳови* (Скар. КЮ). Пэўнай своеасаблівасцю вылучаўся назоўнік *пани,* які, акрамя формы *пани,* часта меў і форму *паней,* распаўсюджаную пад польскім уплывам: *што се пригодило... паней Мартыновой* (КСД); *сл8жила пане*и *семеново*и (КВЗС).

У вінавальным склоне назоўнікі мужчынскага роду мелі формы, якія супадалі з формамі назоўнага і роднага склонаў. Як і ў родным склоне, з канчаткам *-а/-я* ўжываліся ў пісьмовых помніках адушаўлёныя назоўнікі: *гетмана, зятя, князя, коня, мужа, сына.* Непаслядоўнасць, звязаная з захаваннем рэштак форм старога вінавальнага склону, часам праяўлялася пры напісанні назоўнікаў, якія абазначаюць назвы жывёл: *на свои конь оуседлъ* (Троя). Для неадушаўлёных назоўнікаў былі характэрны формы, што супадалі з формамі назоўнага склону: *берегъ, домъ, край, мостъ, промень, путь.* Зрэдку, аднак, з'яўляліся выпадкі афармлення вінавальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў пры дапамозе канчатка роднага склону: *начѧша твердо добывати града* (Віл.); *мает листа просити* (Ст. 1529). Гэта сведчыць аб тым, што ў жывой народнай мове таго часу працэс замены старога вінавальнага формамі роднага склону выходзіў за межы адушаўлёных назоўнікаў.

Вінавальны склон назоўнікаў ніякага роду выкарыстоўваў тыя ж формы, што і назоўны,— канчаткі *-о, -е (дело, молоко, слово; веселье, зелье, поле)* і *-а/-я (знамя, имя, семя; княжа, осля, отроча).* Некаторы разнабой, як і ў назоўным склоне, узнікаў ва ўжыванні гэтых форм толькі ў словах, дзе перад канчаткам сустракаўся шыпячы ці *ц*, бо вымаўленне зацвярдзелых зычных не супадала з правапіснай традыцыяй. Зрэдку ў дзелавой пісьменнасці, відавочна, пад уздзеяннем акаючай гаворкі пісца, замест традыцыйнага *-е* мог з'яўляцца канчатак *-я*: *ωрал свое полѧ* (Вісл.); *да^т^ за тое полѧ (КМС).*

Сродкам афармлення вінавальнага склону назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* быў канчатак *-у/-ю*: *беседу, жону, мову, руку; волю, землю, неделю, стайню.* Ва ўсіх астатніх назоўніках форма вінавальнага склону супадала з назоўным склонам: *злость, кость, любовь, ночь, осень, печать.*

Агульнай граматычнай нормай для творнага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з'яўляўся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчатак *-омъ/-емъ.* У варыянце *-омъ* ім забяспечваліся словаформы з цвёрдай асновай: *голосомъ, лесомъ, сыномъ, часомъ; виномъ, железомъ, лекарствомъ, озеромъ.* Варыянт *-емъ* выкарыстоўваўся для афармлення назоўнікаў з мяккай асновай: *боемъ, гаемъ, жалемъ, конемъ; везеньемъ, знаменемъ, полемъ, устьемъ.* Няўстойлівасць ва ўжыванні гэтых варыянтаў заўважалася толькі ў пазіцыі пасля шыпячых, *ц* і *р*: *лицемъ — лицомъ* (Пак. Хр.), *мужемъ — мужомъ* (Зб. 262), *мечемъ — мечомъ* (Троя). Іншыя адхіленні ад граматычнай нормы былі ўласцівы асобным помнікам, дзе выклікаліся рознымі прычынамі. Напрыклад, зафіксаваны ў Вісліцкім статуце выпадак напісання ў творным склоне канчатка *-амъ: индри^х^ сѧ заложилъ давнымъ записамъ и досве^т^чилъ* гаворыць аб развіцці ў жывой беларускай мове акання і аб вымаўленні ў ненаціскной пазіцыі гэтага канчатка як *-ам.* Выпадкі ўжывання ў

перакладных «Пакутах Хрыста» і «Аповесці пра трох каралёў» канчатка *-емъ* у назоўніках з асновай на цвёрды зычны: *веліким смоуткем... сердце млтівое матоухны было оудроучено* (Пак. Хр.); *межи поганствем роспрошены мешкали* (Валх.) можна растлумачыць уплывам польскіх форм.

Граматычнымі нормамі творнага склону жаночага роду былі на рубяжы XV—XVI стст. канчаткі *-ою/-ею* і *-ью.* Першы з іх мелі назоўнікі з былымі асновамі на *ā*: *виною, долиною, крапивою, правдою; зброею, кошулею, песнею, скрынею.* Змешванне цвёрдага і мяккага варыянтаў яго адбывалася пасля шыпячых, *ц* і *р*: *душею — душою, працею — працою, бурею — бурою.* Зразумела, такое змешванне не з'яўлялася непасрэдным адлюстраваннем жывога вымаўлення, бо ў сапраўднасці ў сувязі з развіццём акання гэты канчатак ужо меў агаласоўку *-аю.* Аднак напісанне *-аю* супярэчыла б патрабаванням традыцыйнай арфаграфіі, таму пісцы пачалі выкарыстоўваць канчатак *-ою*, які пісаўся пры цвёрдай аснове. Канчатак *-ью* быў характэрны для назоўнікаў іншых груп: *бортью, жалостью, злостью, костью, мудростью, печатью, страстью, честью.* У помніках рэлігійных жанраў ён пад царкоўнаславянскім уплывам змешваўся з канчаткам *-ию: лестью — лестию, ночью — ночию.* Былі вядомы і выпадкі замены канчатка *-ью* на *-ою/-ею: оустал моцею* (Пак. Хр.), *не вымовлꙗючисꙗ жадною речою* (КВЗС), што трэба звязваць з уздзеяннем назоўнікаў з былой асновай на *ā*.

Для афармлення меснага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўваліся канчаткі *-е* і *-и.* Канчатак *-е* ўжываўся пры напісанні назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны: *(о) брате, доме, сыне, часе; гумне, жите, коле, сене.* Пры дапамозе канчатка *-и* афармляліся назоўнікі з мяккай асновай: *(о) гаи, злодеи, камени, пути; весельи, здоровьи, коханьи, поли.* Выпадкі замены канчатка *-и* варыянтам *-ы* пасля зацвярдзелых шыпячых, *ц* і *р* у гэты час насілі яшчэ адзінкавы характар: *при том лицы* (Ст. 1529), *былъ на монастыры* (КВЗС). Часцей у гэтай пазіцыі замест *-и* мог з'яўляцца канчатак *-е: оу дворце* (Вісл.), *ве зборе* (Пак. Хр.), *ȣ дворе* (КМС). Гэта тлумачыцца тым, што словы з зацвярдзелымі гукамі ў канцы асновы сталі ўспрымацца пішучымі як і назоўнікі з асновай на цвёрды зычны. У сваю чаргу назоўнікі з цвёрдай асновай часам прымалі канчатак мяккай разнавіднасці, у сувязі з чым ствараўся арфаграфічны разнабой, як у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529 г.: *в законѣ — в закони.* Пры разглядзе форм меснага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што якраз у канцы XV — пачатку XVI ст. у старабеларускай пісьменнасці праявілася тэндэнцыя да замены старых склонавых форм *-е* і *-и* новым канчаткам *-у/-ю.* Гэты канчатак, уласцівы раней невялікай групе назоўнікаў з асновай на *ŭ*, стаў распаўсюджвацца і на астатнія назоўнікі: *в томъ часȣ* (ККК), *в воискȣ своемъ* (Зб. 262),

*на коню* (Троя). Пэўную падтрымку ў гэтым аказвалі і формы роднага склону, дзе таксама адбываўся аналагічны працэс замены *-а/-я* канчаткам *-у/-ю*.

Меншай разнастайнасцю канчаткаў характарызаваўся месны склон назоўнікаў жаночага роду. Для афармлення лексікі з былымі асновамі на *ā* цвёрдай разнавіднасці ўжываўся, як правіла, канчатак *-е: беседе, дуброве, заставе, нозе, особе, помсте, силе, хвале.* Усе астатнія назоўнікі, аснова якіх заканчвалася мяккімі зычнымі, мелі канчатак *-и: земли, лилии, пашни, свиньи; болести, матери, печали, церкви.* Узаемаўплыў паміж гэтымі формамі быў амаль непрыкметны: *8 своеи дѣдини* (Ст. 1529). Некаторыя змены захапілі толькі афармленне назоўнікаў мяккай разнавіднасці. З пачатку XVI ст., калі зацвярдзелі шыпячыя, *ц* і *р*, у пазіцыі пасля іх на месцы *-і* развіўся *-ы*. Гэты новы канчатак усё часцей ужываўся паралельна з *-и* пераважна ў помніках дзелавых і свецкіх жанраў, утвараючы тут факультатыўную правапісную норму, аб чым сведчыць, напрыклад, матэрыял з Кнігі Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: *на к8ницы мешъкалъ, 8 светълицы, на тои клꙗчы.*

У старабеларускай мове працягвала захоўвацца клічная форма, якая характарызавалася своеасаблівымі канчаткамі ў параўнанні з іншымі склонамі. У адрозненне ад клічнай формы старажытнарускай мовы яна мела больш абмежаваную сферу пашырэння. Фактычна яе маглі ўтвараць толькі назоўнікі мужчынскага роду з былымі асновамі на *ŏ*, *й* і жаночага роду з былой асновай на *ā*. Клічная форма, называючы асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца з гаворкай, магла знаходзіцца ў розных адносінах з бліжэйшым кантэкстам — складаць параўнальна ізаляваны самастойны вакатыўны сказ або выступаць у якасці дзейніка.

Характэрнай прыкметай клічнай формы назоўнікаў мужчынскага роду з былой асновай на *ŏ* былі ў старабеларускай мове канчаткі *-е*, *-ю*. З канчаткам *-е* ўжываліся звычайна назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай, аб чым сведчыць адлюстраванне ў пісьменнасці словаформ тыпу *брате, друже, иване, квете, орле, пане: велика сила твоѧ архистратиже михаиле* (Чэцця); *болше брате не терѧи земли* (Віл.). Канчатак *-ю* складаў асаблівасць клічнай формы назоўнікаў з мяккай асновай, у выніку чаго яны выступалі ў пісьмовых помніках у формах *витезю, злодею, королю, лебедю, приятелю, учителю: приꙗтелю мои* (Пак. Хр.); *пане лебедю не би ты мене* (КВЗС).

Клічная форма назоўнікаў мужчынскага роду з былой асновай на *й* ужывалася пераважна з канчаткам *-у: сыноу наимилеишіи мои* (Пак. Хр.); *слушаи сн8 наказаніе ѡтца своего* (Зб. 262). Зрэдку пад уплывам больш шматлікіх форм назоўнікаў з былой асновай на *ŏ* яна магла афармляцца і пры дапамозе канчатка *-е: исповедахоусѧ ем8 отче, сыне* (Чэцця). У сваю чаргу канчатак *-у* распаўсюдзіўся на іншыя групы назоўнікаў, у пры-

ватнасці на словы з канцавым заднеязычным асновы: *еси крие ны милосник8 мои* (Зб. 262); *пане наместъник8 на насъ перето з8 ище*ш (КВЗС).

Сродкамі афармлення клічнай формы назоўнікаў жаночага роду былі канчаткі *-о, -е*. Першы мелі назоўнікі з асновай на цвёрды зычны тыпу *дочко, жоно, матко, невесто, панно, сестро: беда мне сноу мои свѣчо ѡчью мои*х (Жыц. Ал.); *сестро моѦ невѣсто коль добры милованьѦ твоѦ* (Зб. 262). З другім ужываліся назоўнікі з мяккай асновай, утвараючы словаформы *госпоже, душе, земле, княгине, милостнице, царице: госпоже, доколь сѦкъ томишь дшю свою* (Чэцця; *зе*м*ле не покрыва*и *крови моеи* (Зб. 262).

Уніфікацыя склонавых форм назоўнікаў адбывалася і ў множным ліку. У назоўным склоне, напрыклад, на рубяжы XV—XVI стст. асноўнай вымаўленчай і правапіснай нормай назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай стаў канчатак *-ы*, які развіўся пад уплывам вінавальнага склону: *браты, волосы, зубы, кусты, мосты, послы, часы*. Назоўнікі ж з мяккай асновай працягвалі афармляцца пры дапамозе канчатка *-и: бои, витези, звычаи, кони, медведи, промени, струмени*. Нешматлікія выпадкі ўжывання старажытных форм на *-и* пасля цвёрдых зычных былі ўласцівы толькі тэкстам рэлігійных жанраў: *скрегтахоу ꙗко льви* (Чэцця); *пад8*т *тр8пи мнози* (Зб. 262). Новы канчатак *-ы* пасля зацвярдзелых зычных паступова пашыраўся пераважна ў дзелавых і свецкіх помніках: *ѡ*т*цы видѦчи сны свои посечены живо*т *свои в тѦ*ж*кости ве*д*ли* (Троя); *ѡтрошъковичы поведили и*ж *ѡни его не били* (КВЗС). Пэўны разнабой існаваў пры напісанні назоўнікаў з асновай на заднеязычны — ужыванне словаформ тыпу *бедники, вороги, грехи* не выключала магчымасці выкарыстання старых форм на *-гы, -кы, -хы* і нават архаічных на *-зи, -си, ци*: *кестоутѦ оудавили коморникы* (Віл.); *др8ѕи прикладають оухо* (Зб. 262).

Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова адлюстроўвала ўзаемадзеянне не толькі паміж формамі назоўнага і вінавальнага склонаў, але і вынікі ўзаемаўплыву паміж паасобнымі групамі назоўнікаў. Так, канчатак *-ы* часам з'яўляўся ў назоўніках з былой асновай на *й*, якія здаўна мелі ў назоўным склоне канчатак *-ове*: *соу*т *оу ни*х *домы ѡпришне* (Валх.). Часцей аднак пад уплывам словаформ тыпу *сынове, волове* канчатак *-ове* (пры мяккіх асновах ён афармляўся як *-еве*) распаўсюджваўся замест *-ы/-и*: *не ѡ*н самъ *с8дить але пановѣ* (Вісл.); *оучневе его пришли* (Пак. Хр.). У асноўным канчатак *-ове/-еве* станавіўся сродкам афармлення назоўнага склону адушаўлёных назоўнікаў, але зрэдку выступаў і ў назоўніках неадушаўлёных: *пред ним же пали были три рогове* (Скар. ДП); *дневе говорѦть* (Зб. 262). Пашырэнню гэтага канчатка садзейнічала наяўнасць аналагічных форм у польскай мове, якая, як вядома, аказвала ўплыў на старабеларускую.

Сярод сродкаў афармлення назоўнага склону назоўнікаў мужчынскага роду патрэбна адзначыць таксама канчатак -*е*, які спарадычна выкарыстоўваўся пад уплывам вінавальнага склону пры аснове на мяккі зычны: *сторожe которые стере*$^{г}$*ли гробоу* (Пак. Хр.); *рѣзцѣ членовыи его ѣсти оубогихъ* (Зб. 262). Амаль паслядоўным ужываннем гэтага канчатка характарызаваліся ў пісьменнасці назоўнікі, якія ў адзіночным ліку мелі суфікс -*инъ* як прыкмету адзінкавасці, а ў множным ліку, губляючы гэты суфікс, змяняліся як назоўнікі з былой асновай на зычны: *бояре, дворане, земляне, мещане, полочане, християне.* Толькі адзінкавымі выпадкамі прадстаўлены ў гэтым разрадзе назоўнікаў напісанні з канчаткам -*ы*/-*и*: *оубогы*$^{х}$ *землѧны оутискають* (Вісл.); *побиты падали троꙗны* (Троя).

У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду незалежна ад іх паходжання ўжываліся пераважна з канчаткам -*а*/-*я*: *гумна, дерева, кола, села; именья, каменья, коренья, поля.* Своеасаблівасцю ў скланенні назоўнікаў з былой асновай на зычны тыпу *знамя, имя, племя* і *зверя, княжа, теля* было тое, што ў іх перад канчаткам захоўваліся старажытныя суфіксы -*ен*- і -*ат*-/-*ят*-: *племена и ꙗзыци схилилисѧ ѡбразȣ златомȣ* (Зб. 262); *дети и внȣчата тȣю слȣ*$^{ж}$*бȣ слȣжили* (КВЗС). Зрэдку пад царкоўнаславянскім уплывам захоўваўся і суфікс -*ес*- у назоўніках тыпу *слово, тело, чудо,* хоць звычана яны ўжываліся без гэтага суфікса. Паслядоўнасць ва ўжыванні канчатка -*а*/-*я* толькі зрэдку парушалася напісаннямі з канчаткам -*ы*/-*и,* уласцівым назоўнікам мужчынскага роду: *словы мои цѣлы и розȣмъ с тобою* (Зб. 262). Выключэнне складалі лексемы *око* и *ухо,* якія афармляліся ў пераважнай большасці выпадкаў пры дапамозе канчатка -*и* (-*ы*).

Для назоўнікаў жаночага роду ў назоўным склоне быў характэрны пры цвёрдай аснове канчатак -*ы* (*воды, долины, краины, невесты, овцы, совы*), пры мяккай — -*и* (*богини, земли, песни, хвои; дани, злости, ночи, сеножати*). Толькі ў рэдкіх выпадках, калі аснова назоўнікаў заканчвалася на зацвярдзелы, канчатак -*и* мог замяняцца на -*ы*. Гэтак жа рэдка ў помніках рэлігійных жанраў пры мяккай аснове паралельна з -*и* захоўваўся стары канчатак -*е*: *оуси земле и королевства видевше таке дивы ѡстерегалисе* (Валх.).

У родным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду пры апошнім цвёрдым зычным асновы ўжываліся з канчаткам -*овъ,* характэрным раней толькі назоўнікам з асновай на *й*: *апостоловъ, воловъ, домовъ, квитовъ, листовъ, народовъ, пановъ, сыновъ.* Для назоўнікаў з мяккай асновай найбольш характэрны быў канчатак$^{v}$ -*ей*, уласцівы першапачаткова толькі назоўнікам з асновай на *і*: *витезей, голубей, дней, коней, лосей, ногтей, путей, соболей.* Часам канчатак гэтай разнавіднасці назоўнікаў выступаў у варыянце -*ий*, больш старажытным, чым -*ей*: *оу то*$^{м}$ *ѡгороде соу*$^{т}$ *се*$^{м}$ *колодезіи* (Валх.). Разам з тым па-

ральельна з канчаткам *-ей(-ий)* гэтыя словы афармляліся і пры дапамозе канчатка *-евъ*, які набываў пашырэнне пад уплывам назоўнікаў з цвёрдай асновай: *достанꙋть пꙋтевъ животны*[х] (Зб. 262); *которыи дне*[в] *свои*[х] *на*[д] *вси иныи своею цю*[д]*ностью бы*[л] *повыше*[н] (Троя). Даволі паслядоўным выкарыстаннем канчатка *-евъ* вылучаліся назоўнікі з асновай на *й*, утвараючы словаформы тыпу *боевъ, гаевъ, ереевъ, злодеевъ, розбоевъ.* Звяртаюць на сябе ўвагу назоўнікі на *-инъ*, пры афармленні якіх у родным склоне старабеларуская пісьменнасць выкарыстоўвала дзве варыянтныя формы — без канчатка і з канчаткам *-овъ*: *бояръ — бояровъ, троянъ — трояновъ, християнъ — християновъ.*

Назоўнікі ніякага роду з цвёрдай асновай выступалі ў родным склоне множнага ліку з нулявым канчаткам: *богатствъ, войскъ, житъ, коленъ, летъ, озеръ, правъ, стадъ.* Для назоўнікаў з асновай на мяккі зычны характэрным сродкам афармлення роднага склону быў канчатак *-ей/-ий: зелий, имений, мешканий, плечей, поколений, полей, утрапений.* Назоўнікі з былой асновай на зычны тыпу *знамя, имя, племя* і *жеребя, осля, теля* мелі нулявы канчатак з захаваннем суфіксаў *-ен-* і *-ат-/-ят-*: *тотъ абакоукъ межи двоу*[х] *зверѧ*[т] *злѧклъсе* (Валх.); *богъ вашъ изберетъ собѣ ѿ*[т] *всехъ плѣменъ* (Скар. ДЗ).

Родны склон назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* афармляўся ў выглядзе словаформ з нулявым канчаткам: *бочекъ, высотъ, дорогъ, жабъ, земль, игръ, пчолъ, ягодъ.* Астатнія назоўнікі жаночага роду мелі ў родным склоне старажытны канчатак *-ий* і ўтвораны на яго аснове варыянт *-ей.* Канчатак *-ий* характэрны быў для помнікаў рэлігійнага і свецкага зместу, дзе па традыцыі і пад уплывам царкоўнаславянскай мовы ўжываліся словаформы *вонностий, злостий, кровий, мыслий, темностий, церквий.* Варыянт *-ей* выступаў у дзелавой пісьменнасці (*бортей, записей, клетей, маетностей, печатей, речей*) і пад уплывам жывога вымаўлення распаўсюджваўся на іншыя жанры. У выніку ў некаторых рэлігійных помніках узнікаў разнабой пры напісанні адных і тых жа слоў, як у «Аповесці пра трох каралёў»: *костий — костей, мастий — мастей.* Уплыў форм на *-ей* адчувалі на сабе нават некаторыя назоўнікі з былой асновай на *ā*: *врѧдилъ притчеи много* (Зб. 262).

Сродкам афармлення давальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду быў канчатак *-омъ/-емъ.* Варынят *-омъ* быў характэрны для назоўнікаў з цвёрдай асновай незалежна ад іх паходжання (*бортникомъ, городомъ, домомъ, листомъ, мещаномъ, сыномъ, товаромъ*), пры дапамозе варыянта *-емъ* афармляліся назоўнікі з мяккай асновай (*витеземъ, днемъ, злодеемъ, конемъ, приятелемъ, путемъ, рожаемъ, учнемъ*). Часам варыянт *-омъ* пранікаў і ў назоўнікі з мяккай асновай, але гэта адбывалася толькі ў пісьмовай мове ў сувязі з адсутнасцю спецыяльнага графічнага сродка для абазначэння гука *о* пасля мяккіх зычных: *реклъ оучно*[м] *свои*[м] (Пак. Хр.); *казнодее... мно-*

*гимъ короло*ᵐ *и ины*ᵐ *людемъ велми любе* (Валх.). Пэўны арфаграфічны разнабой стварала афармленне давальнага склону назоўнікаў, аснова якіх заканчвалася на шыпячы, *ц* і *р*: *пастыремъ — пастыромъ, старцемъ — старцомъ, сторожемъ — сторожомъ*. У дзелавой пісьменнасці разнабой павялічваўся і ў сувязі з выкарыстаннем канчатка *-амъ/-ямъ*, уласцівага звычайна давальнаму склону назоўнікаў жаночага роду: *рокъ заплате тымъ пенезямъ положили* (КВЗС). Хоць такія выпадкі ў пісьмовых тэкстах нешматлікія, яны сведчаць, што ў жывой народнай мове працэс пашырэння новых форм на *-ам/-ям* быў актыўны, а яго адлюстраванне на пісьме стрымлівалася толькі традыцыяй.

Назоўнікі ніякага роду таксама афармляліся ў давальным склоне пераважна пры дапамозе канчатка *-омъ/-емъ*: *звератомъ, летомъ, озеромъ, словомъ; именьемъ, каменьемъ, мешканьемъ, полемъ*. Разам з тым большае распаўсюджанне, чым у мужчынскім родзе, тут атрымаў канчатак *-амъ/-ямъ*, што пашыраўся пад уздзеяннем форм давальнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду: *по всим королевства*ᵐ *инших королевъ королева*ˡ (Валх.); *вшистки*ᵐ *словам оуделавши коне*ⁿ (Троя). Гэта сведчыць аб адпаведных працэсах у жывой народнай мове, што прыводзілі да выцяснення старажытнага канчатка *-омъ/-емъ* канчаткам *-амъ/-ямъ* ва ўсіх родах.

Афармленне давальнага склону назоўнікаў жаночага роду адбывалася пры дапамозе канчатка *-амъ/-ямъ*: *березамъ, ногамъ, пущамъ, сестрамъ; землямъ, стихиямъ, торговлямъ, хитростямъ*. Аднак у помніках адзначаліся і адхіленні ад такога ўжывання. Так, вядомы выпадкі выкарыстання канчатка *-омъ* замест *-амъ*, што можна растлумачыць уздзеяннем форм мужчынскага роду: *и е*ˢ *конецъ рѣчо*ᵐ *вѣтрены*ᵐ (Зб. 262); *повелъ на*ˢ *по межомъ* (*КВЗС*). Яшчэ большае пашырэнне мелі напісанні з канчаткам *-емъ* тыпу *бортемъ, волостемъ, костемъ, матеремъ, сеножатемъ*, дублетныя да прыведзеных вышэй словаформ з канчаткам *-ямъ*. Паколькі такі разнабой сустракаецца звычайна ў словах, дзе націск падае на аснову, яго можна растлумачыць гукавой невыразнасцю ненаціскнога галоснага ў канчатку.

У вінавальным склоне назоўнікі мужчынскага і жаночага роду афармляліся пераважна з дапамогай канчатка *-ы/-и* (*бобры, гаи, кони, лесы, пути, сыны; волости, жоны, земли, козы, печати, стайни*), а назоўнікі ніякага роду мелі канчатак *-а/-я* (*близнята, гумна, имена, лета, начинья, поля*). Практычна яны супадалі па форме з назоўным склонам. Парушэннем гэтай заканамернасці ў перадачы назоўнікавых форм мужчынскага і жаночага роду было ўжыванне ў асобных помніках рэлігійнага зместу паралельна з канчаткам *-ы/-и* старых форм на *-е*: *выбирите из ва*ˢ *моуже силне* (Пак. Хр.); *чере*ˢ *ихъ земле шо*ˡ (Валх.). Для ніякага роду адступленнем ад марфалагічнай

нормы трэба лічыць выкарыстанне канчатка *-ы*, што з'яўляўся зрэдку пад уздзеяннем форм вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду ў працэсе уніфікацыі: *тыи словы ведаешь ве*[д] *ты* (КВЗС). Да напісанняў, якія стваралі арфаграфічную непаслядоўнасць у больш дробных групах назоўнікаў, адносіліся выпадкі неаднолькавай рэалізацыі пэўных фанетычных з'яў, у прыватнасці ваганні ў выкарыстанні варыянтаў *-и* і *-ы* ў становішчы пасля зацвярдзелых зычных (*месеци — месецы, писари — писары, речи — речы*) і пасля заднеязычных *г, к, х* (*веки — векы, грехи — грехы, книги — книгы*). Зразумела, гэтыя нешматлікія адхіленні не маглі пахіснуць стабільнасць марфалагічных норм. Тэндэнцыя да істотных зрухаў у афармленні вінавальнага склону намецілася па іншай прычыне — у сувязі з развіццём катэгорыі адушаўлёнасці. Практычным праяўленнем гэтай тэндэнцыі з'явіліся нешматлікія яшчэ выпадкі ўжывання назваў людзей і жывых істот у формах, адпаведных формам роднага склону. Для назоўнікаў мужчынскага роду такімі формамі станавіліся канчаткі *-овъ/-евъ* і *-ей*: *коне*[и] *взѧлъ* (ККК); *води*[т] *ерѣевъ глѹпостью* (Зб. 262); *суседовъ есмо собрали* (КВЗС), а для групы слоў на *-инъ* — нулявы канчатак: *пишете до мене жалуючесѧ на полочан* (ПГ); *жаловалъ намъ... поповичъ на мещанъ* (КВЗС). У жаночым родзе пачаў прабіваць сабе дарогу канчатак *-ей*: *взѧла свине*[и] (КВЗС). Гэта сведчыць, што ў жывой народнай мове таго часу працэс дыферэнцыяцыі канчаткаў вінавальнага склону множнага ліку ў залежнасці ад адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці ўжо адбыўся.

Асноўным сродкам афармлення творнага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду быў канчатак *-ы/-и*: *волы, гаи, домы, ковали, огороды, соболи; болоты, зельи, именьи, окны, седлы, устьи*. Непаслядоўнасць ва ўжыванні варыянтаў *-ы* і *-и* назіралася толькі пры напісанні назоўнікаў з канцавымі шыпячымі, *ц* і *р* у аснове (*мужи — мужы, шатри — шатры, местци — местцы, речищи — речищы*) і з асновай на заднеязычныя (*светки — светкы, оболоки — оболокы*). Як і ў іншых склонах, пэўныя асаблівасці былі ўласцівы таксама групам назоўнікаў ніякага роду з былой асновай на зычны, але яны не датычылі канчаткаў, а заключаліся ў наяўнасці або адсутнасці старажытных суфіксаў. Так, словы тыпу *знамя, имя, племя* і *зверя, княжа, порося* заўсёды ўжываліся з суфіксамі *-ен-* і *-ат-/-ят-*: *тыми*[ж] *знамены знаменали* (Валх.); *три коровы до*[и]*ны*[х] *с телѧты* (КВЗС), а лексемы накшталт *коло, слово* адлюстроўваліся ў двух раўнапраўных варыянтах: *словесы вашими* (Зб. 262) — *пышными словы* (Троя).

У жаночым родзе назоўнікаў множнага ліку ў творным склоне пераважалі канчаткі *-ами/-ями* і *-ми*, з якіх першы выступаў пры былых асновах на *ā*, другі — на *ĭ*: *водами, землями, искрами, кроплями, рыбами, струями; бортьми, жалостьми, костьми, радостьми*. У сувязі з імкненнем адрозніваць творны

склон ад назоўнага канчатка *-ми* пашырыўся і на назоўнікі мужчынскага і ніякага роду, дзе стаў выступаць як факультатыўная норма паралельна з канчаткам *-ы/-и*: *вечерѦ*[л] *исъ апостолъми своими* (Пак. Хр.); *не взѦла бы тѦ брывъми своими* (Зб. 262). Акрамя канчатка *-ми*, пры афармленні творнага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду і нават жаночага роду з былой асновай на *ĭ* некаторае распаўсюджанне знаходзіў канчатак *-ами/-ями*, што пранікаў пад уплывам назоўнікаў з асновай на *ā*: *прегоркими жалостѦми многіе приводила коу жалованію* (Пак. Хр.); *три королеве ис пастоухами говорили* (Валх.); *ѡсыпльте мѦ ꙗблоками* (Зб. 262). У жывой народнай мове таго часу гэты канчатак, безумоўна, меў большае пашырэнне. Аб гэтым сведчыць яго замацаванне ў якасці літаратурнай нормы творнага склону множнага ліку назоўнікаў усіх родаў у сучаснай беларускай мове.

Для афармлення меснага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду незалежна ад іх паходжання старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова выкарыстоўвала ў асноўным канчатак *-ехъ*: *(о) боехъ, домехъ, лесехъ, народехъ, путехъ, сынехъ; делехъ, зельехъ, летехъ, окнехъ, полехъ, словехъ*. Паралельна з гэтым граматычным сродкам, праўда, менш актыўна, выкарыстоўваўся і канчатак *-охъ: в плащо*[х] *свои*[х] (Зб. 262); *в озеро*[х] (КВЗС). Назоўнікі ж жаночага роду ўжываліся ў месным склоне пераважна з канчаткам *-ахъ/-яхъ*: *(о) зодахъ, избахъ, неделяхъ, песняхъ; волостяхъ, костяхъ, моцахъ, хитростяхъ*. Аднак па традыцыі ў словах з былой асновай на *ĭ* часам выступаў і стары канчатак *-ехъ: што было въ клете*[х] *то выграбили* (ККК). Усё ж словаформы на *-ахъ/-яхъ* колькасна складалі ў старабеларускай мове настолькі значнае месца, што аказалі прыкметны ўплыў на афармленне меснага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду: *королевствъ бо*[л]*шаꙗ долѦ албо часть есть в острова*[х] (Валх.); *матъка моꙗ засꙗ на тыхъ своихъ именьꙗхъ ѡсела* (КВЗС). Гэты працэс вёў да уніфікацыі канчаткаў меснага склону.

У сістэме скланення назоўніка сваёй спецыфікай вылучаліся формы парнага ліку. Яны перайшлі ў спадчыну ад старажытнарускага перыяду і ўжываліся ў выпадках, калі гаворка ішла аб двух або парных прадметах. У адрозненне ад старажытнарускай мовы, дзе склонавыя формы парнага ліку мелі вялікае пашырэнне і выступалі ў большай разнастайнасці, старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова фактычна захоўвала толькі рэлікты назоўна-вінавальнага, родна-меснага і давальна-творнага склонаў. Гэта тлумачыцца тым, што страта парнага ліку, выкліканая развіццём чалавечага мыслення ад уяўлення аб канкрэтнай множнасці да абстрактнай, якая пачалася яшчэ ў старажытнарускай мове, у асноўным была завершана на пачатковым этапе фарміравання старабеларускай мовы.

Супастаўленне фактычнага матэрыялу пісьмовых помнікаў

з пункту погляду адлюстравання парнага ліку ў паасобных склонах паказвае, што ў найбольшым аб'ёме ў старабеларускай мове адбіліся формы назоўна-вінавальнага склону. Праўда, і тут адбіццё парнага ліку не было аднолькавым для назоўнікаў розных родаў, што сведчыць аб рознанасовай страце форм парнага ліку паасобнымі родамі. У прыватнасці, для старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. зусім рэдкай з'явай было ўжыванне старажытнай формы парнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду пры лічэбніках *два, оба, обадва: ему ѡтдал тот Фома два рꙋблѧ* (ПГ); *там мѧ два птаха... стретили* (Алекс.). Верагодна, што жывой народнай мове такія спалучэнні былі ўжо не ўласцівы, бо звычайна ў гэтых умовах граматычнай нормай з'яўлялася выкарыстанне форм множнага ліку.

У адрозненне ад назоўнікаў мужчынскага роду форму назоўна-вінавальнага склону парнага ліку больш трывала захоўвалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове назоўнікі жаночага роду: *жонцѣ двѣ* (Віл.), *двѣ стене* (Валх.), *две сестре* (КМС), *на ѡбе стороне* (Ст. 1529), *две корове* (КВЗС). Былі вядомы такія формы і ніякаму роду: *за две лете* (Вісл.), *двѣ седле* (КМС). Аднак паралельна з імі ўжываліся формы множнага ліку.

У меншай ступені, чым формы назоўна-вінавальнага склону, для помнікаў старабеларускай пісьменнасці былі характэрны формы родна-меснага склону парнага ліку. Як сведчаць прыклады са старажытных пісьмовых крыніц розных жанраў, яны таксама ў асноўным выступалі ў назоўніках жаночага і ніякага роду: *не вспомѧнулъ на подножие ногу своих* (Скар. ПЕ); *пꙋть безꙋмного прѧмь вь ѡчью его* (Зб. 262); *высвободимѧ з рꙋкоу неприѧтели моих* (Пс. XVI). Гэтак жа абмежавана ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове формы давальна-творнага склону: *очима своима ихъ видалъ* (КЗ); *двѣма конома и трима слоугама может се ѡбоити* (Валх.); *он же не чинилъ рукама своима безакониѧ* (Скар. ПБ). Звычайна ж замест былога парнага ліку выступаў множны лік.

Сістэма граматычных форм прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў з'яўлялася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст. у аснове сваёй унармаванай і стабільнай. Таму пры разглядзе гэтых часцін мовы істотнае значэнне мае перш за ўсё ўлік тых форм, якія вызначаліся пэўнай спецыфікай. Звяртае на сябе ўвагу, напрыклад, спосаб афармлення назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і некаторых разрадаў займеннікаў пры дапамозе канчатка *-ый/-ий: зеленый, кождый, молодый, первый, синий, средний, таковый, чий.* Гэты канчатак яшчэ трывала зберагаўся ў пісьмовай мове, хоць ужо не адпавядаў становішчу ў большасці беларускіх гаворак, дзе адбывалася яго сцяжэнне ў *-ы/и.*

У родным склоне мужчынскага і ніякага роду для гэтых жа разрадаў слоў характэрны быў як марфалагічная норма канчатак *-ого/-его: великого, другого, кождого, летнего, нашего, середнего, судового, чистого.* З гэтым жа канчаткам ўжываліся ў дзелавых помніках адпрыметнікавыя назоўнікі, што абазначалі назвы асоб па пасадах і разнастайныя падаткі і пошліны: *децкого, ловчого, мостового, подстолего, торгового.* Разам з тым у родным склоне адбіваўся ўплыў граматычных засвоенаццей іншых моўных сістэм, перш за ўсё царкоўнаславяскай і польскай. Найбольш адчувальным аказаўся царкоўнаславянскі ўплыў, што выразіўся ва ўжыванні ў старабеларускіх помніках канчатка *-аго/-яго: послано камѣнѧ ѡстраго* (Чэцця); *на землю индиискаго црѧ пора пришли* (Алекс.); *бѡжіаго тела* (КМС). У помніках рэлігійных жанраў гэты канчатак выступаў як варыянтная норма. У кнігах, выдадзеных Ф. Скарынам, царкоўнаславянскія формы тыпу *великаго, вышняго, грешнаго, дивнаго, мудраго, славнаго* пераважаюць. Польскі ж уплыў на формы роднага склону мужчынскага і ніякага роду гэтых часцін мовы нязначны. Ён адчуваецца толькі ў паасобных перакладных помніках, напрыклад у «Аповесці пра трох каралёў»: *смачнего запахȣ, чирвонего морѧ, малего погреба.*

Прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі і суадносныя з імі займеннікі жаночага роду ў родным склоне мелі канчатак *-ое/-ее*: *великое, злое, каждое, малое, первое, синее, тутошнее, целое.* Аднак гэты канчатак не быў адзіным сродкам выражэння роднага склону. У выніку рэдукцыі канцавога ненацiскнога *е* ў старабеларускай мове даволі рана ўзнік скарочаны канчатак *-ой/-ей*, які з канца XV ст. пачаў адлюстроўвацца і ў пісьменнасці: *люди злои воли албо злостници были* (Валх.); *избы не звозилъ есми былъ своей* (КСД). Асобныя словаформы з канчаткам *-ей* пранікалі ў перакладныя пісьмовыя помнікі пад уздзеяннем аналагічных форм польскай мовы, што таксама з'яўляецца цікавай рысай у гісторыі беларускай марфалагічнай сістэмы: *до млстівеи матки* (Пак. Хр.), *с посполитеи рады* (Валх.). У некаторых помніках рэлігійных жанраў пад царкоўнаславянскім уплывам часам адзначаўся і канчатак *-ея: ѡт дȣши моеѧ* (Скар. КІ), *всеѧ родины* (Зб. 262).

Для прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і неасабовых займеннікаў мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне быў характэрны канчатак *-ому/-ему*: *ближнему, великому, доброму, летнему, нынешнему, первому, своему, чиему.* Гэтыя ж словы ў жаночым родзе мелі канчатак *-ой/-ей*: *бедной, всходней, грешной, девятой, злой, летней, старой, твоей.* Наяўныя ў помніках канца XV ст. словаформы тыпу *живоначальнѣи троици* (Чэцця), *милостивеи матоухне* (Пак. Хр.) тлумачацца ўздзеяннем царкоўнаславянскай мовы.

У творным склоне ўсе гэтыя часціны мовы афармляліся ў мужчынскім і ніякім родзе пры дапамозе канчатка *-ымъ/-имъ*: *ве-*

*селымъ, дорогимъ, здешнимъ, кождымъ, молодымъ, первымъ, синимъ, чистымъ.* У жаночым родзе яны выступалі з канчаткам *-ою/-ею: великою, доброю, золотою, летнею, моею, осеннею, теплою, четвертою.* Скарочаных форм на *-ой/-ей* пісьменнасць не адлюстроўвала, хоць у жывой народнай мове яны, напэўна, ужо існавалі.

Месны склон мужчынскага і ніякага роду ўсіх разглядаемых часцін мовы меў пераважна канчатак *-омъ/-емъ: (о) беломъ, густомъ, золотомъ, нижнемъ, первомъ, своемъ, тепершнемъ, чиемъ.* Аднак помнікі XV ст. сведчаць, што ў жывой мове пачала праяўляцца тэндэнцыя да уніфікацыі канчаткаў творнага і меснага склонаў. Яна выражалася ў паступовым пранікненні ў месны склон канчатка творнага склону *-ымъ/-имъ* і выцясненні апошнім старажытных форм на *-омъ/емъ*: *оу высокимъ городе* (Увар.), *на чужи^м^ конѣ* (Аўр). Праўда, пісьмовая традыцыя перашкаджала замацаванню новых форм у літаратурна-пісьмовай мове. Што датычыць меснага склону тых жа разрадаў слоў жаночага роду, то яны нязменна выступалі з канчаткам *-ой/-ей*: *(о) великой, доброй, здешней, кождой, новой, остатней, первой, синей.*

У прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і займеннікаў назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку пераважаў яшчэ канчатак *-ыи/ии: великии, добрыи, золотыи, лесныи, морскии, первыи, таковыи, ясныи.* Разам з тым у пісьмовых помніках розных жанраў пачалі замацоўвацца і словаформы на *-ые/-ие,* якія пазней сталі асноўнай нормай у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове: *соу^т^ великіе соуды твое* (Пак. Хр.); *жаловали пере^д^ нами слȣги господа^р^ские витебъские панъце^р^ные* (КВЗС). Рэшткамі архаічных форм, якія падтрымліваліся царкоўнаславянскім уплывам, з'яўляліся напісанні з канчаткамі *-ыя/-ия, -ая,* што сустракаліся зрэдку ў тэкстах рэлігійных жанраў: *дивны высоты морьскиꙗ* (Чэцця); *соу^т^ многаꙗ местца велми роскошна* (Валх.).

У астатніх склонах множнага ліку гэтых разрадаў слоў істотных зрухаў не заўважалася. У родным склоне яны мелі канчатак *-ыхъ/-ихъ (давныхъ, здешнихъ, красныхъ, летнихъ, первыхъ, своихъ),* у давальным — *-ымъ/-имъ (белымъ, вторымъ, злымъ, нынешнимъ, ровнымъ, твоимъ)*, у творным — *-ыми/-ими (вечными, дальними, малыми, первыми, синими, твоими),* у месным — *-ыхъ/-ихъ (вольныхъ, здешнихъ, лесныхъ, осеннихъ, таковыхъ, четвертыхъ)*. З гэтымі канчаткамі яны выступаюць і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

З асаблівасцей у скланенні прыметнікаў трэба адзначыць, што ў прэдыкатыўнай функцыі яны ўжываліся ў кароткай форме: *бысть бра^к^ чоуде^н^* (Віл.); *вода есть солона и чиста* (Валх.); *тѣло мое стално* (Зб. 262); *ѡни з города ехали пьꙗни* (КВЗС). Асаблівасцю ў скланенні асабовых займеннікаў было тое, што ў давальным і вінавальным склонах адзіночнага ліку яны збера-

галі яшчэ энклітычныя формы *ми, ти* і *мя, тя: выдали ми тебе* (Пак. Хр.); *прозба твоѦ б8детъ ти дана* (Зб. 262); *з дом8 мѦ выгналъ* (КМС); *добре тѦ знамъ* (Троя).

У пісьмовых помніках рэлігійных і свецкіх жанраў канца XV — пачатку XVI ст. практыкавалася яшчэ ўжыванне кароткіх форм вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў у назоўным і вінавальным склонах адзіночнага і множнага ліку: *была краснеиша над слоунца* (Пак. Хр.); *зеліа соуть теплеише и лепше* (Валх.); *подобнеищи и лацнеищи приступ* (Троя). Аднак граматычнай нормай з'яўляліся поўныя формы вышэйшай ступені, якія ўтвараліся пры дапамозе суфіксаў *-ейш-* і *-ш-*: *годнейший, дивнейший, моцнейший, старейший; глубший, дальший, смелший, хоробрший.* Шырока адлюстроўвалася і вышэйшая ступень, утвораная суплетыўна пры дапамозе суфікса *-ш-* ад іншых асноў: *добрый — лепший, злый — горший, малый — меньший.*

Самым актыўным спосабам утварэння найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў у старабеларускай мове было выкарыстанне спецыяльнай прыстаўкі *най-*, якая далучалася да форм вышэйшай ступені: *сына наимилеишог (Пак. Хр.), ѡмоемъ ѡблюбенцю наисласнеишомъ* (Жыц. Ал.), *свѣтлость наисвѣтлѣишаѦ* (Зб. 262). Разам з тым для выражэння найвышэйшай ступені зрэдку выкарыстоўвалася царкоўнаславянская прыстаўка *пре-*: *пресилныи см8токъ* (Пак. Хр.), *короли преславныи* (Валх.).

У старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст. адносна ўнармаванай з'яўлялася таксама сістэма дзеяслова, хоць і ў ёй адбываліся уніфікацыйныя змены. Гэтыя змены не ў аднолькавай ступені закраналі ўсе элементы сістэмы, таму сродкі матэрыяльнага выражэння дзеяслоўных катэгорый характарызаваліся рознай ступенню ўстойлівасці.

У парадыгме форм цяперашняга часу ўстойлівымі былі, напрыклад, формы 1-й асобы адзіночнага ліку, якія паслядоўна ўжываліся з канчаткам *-у/-ю*: *бачу, ведаю, живу, знаю, прошу, розумею, хочу, шлюбую.* Парушэннем гэтай нормы з'яўляліся выпадкі напісання замест *-у* форм на *-мъ* у помніках, якія адлюстроўвалі польскі ўплыў: *приров‍намсѦ к тым которые входѦть в рѡв* (Пс. XVI).

Формы 2-й асобы ўжываліся, як правіла, з канчаткам *-шь*: *будуешь, ведаешь, держишь, идешь, пытаешь, ставишь, хочешь, чинишь.* Толькі ў помніках з царкоўнаславянскім уплывам паралельна з ім выкарыстоўваўся канчатак *-ши*: *чем8 смутиши серце свое* (Скар. ПЦ); *што такъ заклинаеши насъ* (Зб. 262). Пры напісанні зваротных дзеясловаў пісьмовыя помнікі часам адлюстроўвалі і прыпадабненне гука *ш* канчатка да гука *с* зваротнай часціцы: *помолиссѦ* к нем8 (Зб. 262); *чомъ с нимъ свариссѦ* (там жа).

Больш складаным выглядала выражэнне 3-й асобы. Граматычнай нормай для дзеясловаў абодвух спражэнняў было ў гэ-

ты час ужыванне іх у 3-й асобе з канцавым *-ть*: *береть, даеть, идеть, маеть; верить, любить, просить, ходить.* Разам з тым у якасці варыянтнай нормы выступалі і формы на *-тъ*: *будуетъ, знаетъ; боронитъ, мовитъ.* Аднак ужо з канца XV ст. у помніках пісьменнасці пачалі ўжывацца словаформы без канцавога *-т.* Асабліва пашырана напісанне дзеясловаў I спражэння без *-т* у «Псалтыры» XVI ст.: *кто взыде на гор8; дорога злосников загыне; ѡ моцнои вере пише.* У тэкстах, якія адчулі польскі ўплыў, без канцавога *-т* часам афармляліся і дзеясловы II спражэння: *конъстытуцы ѩсв ѩдчы и вар8е* (ККК); *так заправд8 муси быть* (Троя). Польскае паходжанне такіх форм зусім відавочнае.

Разнастайнасцю характарызавалася і афармленне дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку. Побач з асноўнай формай на *-мъ* (*бежимъ, даемъ, жалуемъ, знаемъ; видимъ, мусимъ, просимъ, хвалимъ*) тут некаторае пашырэнне мелі формы на *-мо,* якія найбольш прыкметны ў «Пакутах Хрыста» (*будемо, ведаемо, знаемо*) і ў выданнях Ф. Скарыны (*говоримо, седимо, ходимо*). Акрамя таго, пад польскім уплывам распаўсюджваўся і канчатак *-мы,* які ўзнік у выніку ўздзеяння на дзеяслоўную форму асабовага займенніка *мы*: *выдаваемы и оуставлѧемы права* (Вісл.); *мы не вѣдаемы* (Пак. Хр.); *мы к нимъ приходимы* (Скар. КВ). Пазней формы на *-мы* шырока выкарыстоўваліся ў перакладах з польскай мовы.

Стабільным з'яўлялася ў старабеларускай пісьменнасці афармленне дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку. Тут паслядоўна ўжываліся формы тыпу *маете, пытаете, сеете, хочете; видите, гледите, носите, творите.*

Не адбылося змен у канцы XV — пачатку XVI ст. і ў формах 3-й асобы множнага ліку. Яны выступалі ў помніках розных жанраў у мяккім варыянце (*беруть, живуть, знають, мають; верать, лежать, стоять, ходять*), толькі зрэдку ўступаючы месца формам з цвёрдым канчаткам *-тъ.*

Асноўным сродкам выражэння мінулага дзеяння ў беларускай літаратурна-пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст. служыў перфект. Пры афармленні 1-й асобы адзіночнага ліку звязка ў складзе перфекта выступала звычайна ў выглядзе *есми*: *ни ѡдного там не нашол есми* (Алекс.); *не р8шилъ есми ни скарбов его ни стадъ* (Віл.); *видел есми глоупого* (Зб. 262). Аднак у рэлігійных творах, якія характарызаваліся захаваннем традыцыйных правапісных рыс, часам сустракалася і архаічная форма звязкі *есмь* (*есмъ*): *ходилъ есмъ по пути* (Скар. ПЦ); *искала есмь што любит дша моѧ* (Зб. 262). 1-я асоба перфекта зрэдку афармлялася і пры дапамозе сінтэтычных форм, утвораных шляхам зліцця звязкі з дзеепрыметнікам на *-л,* як у Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: *даломъ, державломъ, меломъ, пыталомъ, росказаломъ.* Крыніцай такіх утварэнняў лічыцца польская мова.

У 2-й асобе адзіночнага ліку ў складзе перфекта ўжывалася

ў пераважнай большасці выпадкаў звязка *еси: продалъ еси мистра своего* (Пак. Хр.); *где еси сбирала днесь* (Скар. КР); *покꙋсилъ еси нас* (Зб. 262). Разам з тым былі вядомы напісанні і са скарочаным варыянтам *есь: почто вчинилъ ми есь тако* (Скар. КБ); *штос тобе стало море иж есь побегло* (Пс. XVI). Паколькі ў дзелавой пісьменнасці такое афармленне перфекта не практыкавалася, можна лічыць яго прыналежнасцю выключна кніжнага стылю.

Практычна не ўжывалася звязка ў дзелавой пісьменнасці пры афармленні 3-й асобы перфекта. У свецкіх і рэлігійных помніках яна мела выгляд *есть: нагле сталъсѧ есть голос* (Валх.); *сталсѧ есть великии оупадъ* (Троя). У выданнях Ф. Скарыны яна часта выступала і ў форме *естъ*: *он же ꙋтеклъ естъ предъ тобою* (Скар. ДЦ); *мордохеи писалъ естъ листъ* (Скар. КЕ).

Структурнай асаблівасцю форм 1-й асобы множнага ліку з'яўлялася ўжыванне звязкі ў трансфармаваным варыянце *есмо*, якая звычайна выступала ў постпазіцыі да дзеепрыметніка асноўнага дзеяслова: *оурѧділи есмо такъ* (Судз. Каз.); *пришли есмо молитисе емоу* (Валх.); *слюбили есмо* (Ст. 1529). Відаць, гэтыя формы яшчэ знаходзілі падтрымку з боку народнай мовы, бо былі характэрны для ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці.

Звязка 2-й асобы множнага ліку *есте* ў складзе перфекта не зазнала ніякіх змен: *оубоѧлисѧ есте индиѧнъ* (Алекс.); *засромотили есте* (Пс. XVI). Затое 3-я асоба перфекта, як і ў адзіночным ліку, выступала ўжо без звязкі, маючы выгляд *бывали, пошли, ставили,* і толькі ў выданнях Ф. Скарыны яшчэ сустракаліся формы перфекта са звязкай *суть: вси плакали суть плачемъ великим* (Скар. ДЦ); *возопили суть вси людие* (Скар. КЮ).

Выступаючы ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ў якасці асноўнай формы прошлага часу, перфект замяняў сабой значэнне іншых форм прошлага часу — аорыста, імперфекта і часткова плюсквамперфекта. Аднак рэлікты гэтых старажытных форм у старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. па традыцыі, а ў некаторых выпадках і ў стылістычных мэтах яшчэ захоўваліся.

Формы аорыста і імперфекта з'яўляліся прыналежнасцю мовы свецкай і рэлігійнай літаратуры. У беларускіх летапісах яны ўжываліся пераважна ў тых частках, якія былі перапісаны са старажытнарускіх пратографаў або перадавалі змест больш ранніх спісаў, і, відавочна, успрымаліся аўтарамі і перапісчыкамі як неабходны элемент кніжнага стылю. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, выкарыстанне абедзвюх форм у Віленскім спісе летапісу пры апісанні мінулых падзей: *поидоша корабли за море и приидоша ко градꙋ пьсковꙋ*; *збирахоу бо их и запирахоу ꙋ своих избахъ и зажигахоу.* Формы аорыста і імперфекта замяняліся не толькі перфектам. Часам для выражэння адна-

разавага мінулага дзеяння ў значэнні былога аорыста выкарыстоўваўся будучы час: *Ѧгаило поедеть до крева, а кнѦз великыи витоѵтъ проводить его до крева, а Ѧгаило поедеть с крева къ Витебьскꙋ* (Віл.).

У рэлігійных творах аорыст і імперфект ужываліся па традыцыі. Асабліва распаўсюджаны яны ў выданнях Ф. Скарыны, якія адчувалі на сабе ўплыў царкоўнаславянскай мовы: *поплывоша воды велии* (Скар. КЕ); *гласъ словъ твоих слышахъ* (Скар. КІ) — *царъ не можаше спати* (Скар. КЕ); *они же стоѦхꙋ напротивꙋ* (Скар. КВ). Аднак сведчаннем таго, што абедзве гэтыя формы ўжо не з'яўляліся жывой моўнай з'явай, акрамя замены іх у большасці выпадкаў перфектам, было нярэдкае выкарыстанне ў значэнні аорыста 3-й асобы множнага ліку імперфекта 3-й асобы адзіночнага ліку: *давашесѦ вамъ плевы* (Скар. КВ); *источници водъ горскихъ осладишесѦ имъ ко питию* (Скар. КЮ). Аорыст і імперфект практычна адсутнічалі ў дзелавой пісьменнасці і ў апакрыфічных і агіяграфічных творах, перакладзеных з польскай мовы.

Старабеларускай пісьменнасці вядомы быў і плюсквамперфект са звязкай *быти* ў форме перфекта. Ён адзначаўся ў летапісах і ў агіяграфічных і апакрыфічных творах канца XV ст.: *Ѧгаило дал былъ полтескъ брату своему* (Віл.); *искали есмо тебе* (Пак. Хр.); *калдеи іероусолим ѡбъсели были и сказили* (Валх.). Але найбольш значнае пашырэнне меў плюсквамперфект у дзелавой пісьменнасці, дзе патрэба ў ім тлумачылася неабходнасцю перадаваць усе нюансы мінулых падзей: *мы сами въ тотъ часъ прихорали были, и высадили на тое дело судьями дворанъ господарьскихъ* (АЛМ); *ты пограбилъ былъ въ мене волы а клячу, а я служилъ на пана твоего* (КСД). Усё ж абмежаванне плюсквамперфекта перфектам сведчыла аб выцясненні гэтай складанай формы прошлага часу з літаратурна-пісьмовай мовы.

Будучае дзеянне ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове выражалася простымі і складанымі формамі будучага часу дзеясловаў. Па сваіх канчатках формы простага будучага цалкам адпавядалі канчаткам цяперашняга часу: *знайду, знайдешь, знайдеть (знайде), знайдемъ (знайдемо), знайдете, знайдуть; заборонꙋ, заборонишь, заборонить, заборонимъ (заборонимо), заборонитe, заборонять.* Формы будучага складанага ўтвараліся шляхам спалучэння асабовых форм дапаможнага дзеяслова *быти* з інфінітывам асноўнага дзеяслова: *боудоу плакатис* (Чэцця); *боудешь се радовати* (Пак. Хр.); *тамо вѣчне боудеть мѦшкати* (Валх.); *чинити будемъ* (Ст. 1529); *будете позывати* (КВЗС); *бꙋдоут сѦ радовати* (Пс. XVI). Акрамя таго, у якасці звязак часам выкарыстоўваўся дзеяслоў *имамъ (имашъ, имать, имамъ, имате, имуть)* і трансфармаваны з яго *маю (маешъ, маеть — мае, маемъ — маемо — маемы, маете, мають)*: *не имам оустати* (Чэцця); *маетъ шимку поплатити*

(КМС). Сустракаюцца ў помніках таксама формы будучага складанага II, якія ўтвараліся пры дапамозе далучэння дапаможнага дзеяслова *быти* да дзеепрыметнікаў на *-л*: *хто будеть што у кого купилъ* (АЗР); *ѡны*[и] *што будеть того шкодовалъ* (Ст. 1529). Гэту форму будучага часу можна кваліфікаваць як рэлікт старажытнай сістэмы ў адрозненне ад пісьменнасці пазнейшага часу, дзе яна ўжывалася ў іншых сінтаксічных умовах пад уплывам польскай мовы, як, напрыклад, у «Псалтыры» XVI ст.: *ты в ни*[х] *б8де*[ш] *мешка*[л]; *б8д8 спева*[л] *к8 хвале имени его; гнев8 своего не б8де иска*[л].

Граматычнай нормай загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў з ненаціскной асновай на зычны ці спалучэнне зычных было ўжыванне канчатка *-и*: *борони, возьми, живи, иди, помолчи, потягни, пошли, сожми*. Пры націску ж на аснове, калі аснова заканчвалася адным зычным, як правіла, ужываліся формы без канцавога *-и* (*бачъ, встань, дозволь, едь, кинь, позычъ, рачъ, услышъ*), а калі ў канцы асновы сустракалася два або тры зычныя гукі — з канчаткам *-и* і без канчатка (*выторгни — выторгнь, мысли — мысль, наполни — наполнь, очисти — очисть*).

Канчаткамі загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку былі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове *-мъ, -мо, -мы*. Часцей за ўсё ўжываліся канчаткі *-мъ, -мо*: *возьмемъ, пустимъ, станемъ, учинимъ; будьмо, даймо, киньмо, слухаймо*. У помніках, якія адлюстроўвалі польскі ўплыў, адзначаўся і канчатак *-мы: дѧкуймы емоу с тако великое доброты* (Пак. Хр.); *поидимы на ѡдъпоусты* (Валх.).

Пераважаючымі формамі загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку з'яўляліся формы на *-ите*: *бежите, гледите, идите, любите, несите, учите*. Разам з тым у асобных помніках, напрыклад у Чэцці 1489 г., ужываліся і формы на *-ѣте*: *боронѣте, вчинѣте, купѣте, смотрѣте*. Іншыя формы 2-й асобы ўтвараліся шляхам далучэння да адпаведнай формы 2-й асобы адзіночнага ліку фарманта *-те*: *видьте, дайте, обидьте, плачте*.

Загадны лад 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку ўтвараўся аналітычна шляхам далучэння да дзеясловаў загадных часціц. Даволі часта для гэтай мэты выкарыстоўвалася ў канцы XV — пачатку XVI ст. часціца *да*: *да боуде*[т] *тобе вѣрное потешеніе* (Пак. Хр.); *веземши то да идуть прочь* (Скар. ПЦ). Аднак асноўнай нормай было выкарыстанне часціцы *нехай*: *нехай онъ тотъ дворецъ деръжить* (КЗ); *межи снопы нехай збираеть* (Зб. 262); *нехаи тобѣ пошле помо*[ч] (Пс. XVI).

Асноўным сродкам афармлення дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу з'яўляліся ў старабеларускай пісьменнасці суфіксы *-уч-/-юч-, -ач-/-яч-*: *гаснучий, даючий, маючий, секучий; лежачий, мовячий, служачий, ходячий*. Разам з тым у пісьмовых помніках свецкіх і рэлігійных жанраў, якія адчувалі царкоўнаславянскі ўплыў, ужываліся і дзеепрыметнікі

на *-щ-*: *хотѧщіи та*[м] *поити идоу*[т] (Валх.); *сторонамъ владеющимь велики*[м] *Литовьскимь кнѧжение*[м] *то*[г]*да советъ сотвори* (Увар.). Асабліва пашыраны дзеепрыметнікі царкоўнаславянскага ўтварэння ў мове выданняў Ф. Скарыны, дзе іх налічваецца 87%, тады як на *-ч-* беларускага ўтварэння іх толькі 13%. Уласцівы для выданняў Ф. Скарыны і архаічныя дзеепрыметнікі тыпу *беряи, гледяи, живяи, носяи, стояи, хотяи.*

Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу мелі ў старабеларускай мове дваякі спосаб афармлення — шляхам далучэння суфіксаў *-ш-, -вш-* і пры дапамозе суфікса *-л-*. Дзеепрыметнікі на *-ш-, -вш-* тыпу *бывший, давший, минувший, пославший, умерший* вялікага пашырэння ў пісьменнасці не мелі, бо іх ужыванне не падтрымлівалася моўнай практыкай, аб чым сведчыць амаль поўная адсутнасць іх у дзелавых помніках. Затое шырокае адлюстраванне ва ўсіх жанрах старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы атрымалі дзеепрыметнікі на *-л-*: *вышлый, дозрелый, змерлый, ожилый, позосталый, прилеглый, струхлелый, упалый.* Гэты тып дзеепрыметнікаў, відаць, вызначаўся прадуктыўнасцю ў народна-дыялектнай мове.

У старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. у ролі самастойных дзеяслоўных форм выступалі ўжо дзеепрыслоўі, якія ў цяперашнім часе ўтвараліся пры дапамозе суфіксаў *-учи/-ючи* і *-ачи/-ячи (будучи, даючи, ждучи, знаючи; бачачи, держачи, любячи, ходячи),* а сродкам афармлення прошлага часу мелі суфікс *-ши (видевши, давши, живши, заплативши, ставши, услышавши).*

Інфінітывы ў помніках пісьменнасці розных жанраў ужываліся па традыцыі з суфіксамі *-ти, -чи: держати, жаловати, платити, служити; беречи, речи, стеречи, течи.* Аднак у асобных помніках траплялiся ўжо і новыя формы без канцавога *-и*: *виноватыи маеть все платіть; маеть оутечь до с8*[д]*и* (Вісл.). Такія новыя формы ў «Псалтыры» XVI ст. ужо могуць кваліфікавацца як факультатыўная норма: *брать, велбить, дать, меть, судить, чинить.* Акрамя таго, якраз на рубяжы XV—XVI стст. атрымала распаўсюджанне напісанне інфінітываў з канцавымі вынаснымі *т, ч*: *вола*[т], *иска*[т], *мови*[т], *стере*[ч], *терпе*[т]. Дэшыфроўка гэтых напісанняў стварае пэўныя цяжкасці.

Аналіз выяўленых у старабеларускіх пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст. традыцыйных і новых рыс у галіне знамянальных часцін мовы дае падставу сцвярджаць, што марфалагічны лад беларускай мовы па важнейшых сваіх паказчыках у гэты час ужо склаўся. Тыя змены, якія працягвалі яшчэ адбывацца ў працэсе уніфікацыі асобных форм, асабліва назоўнікавых і дзеяслоўных, садзейнічалі стабілізацыі марфалагічных катэгорый, няўхільнаму збліжэнню літаратурна-пісьмовай мовы з народна-дыялектнай. Пэўным тормазам на шляху гэтага збліжэння быў уплыў царкоўнаславянскай мовы, ад якога старабеларуская марфалагічная сістэма паступова вызваля-

лася. Невыпадкова, што найбольш набліжанай да жывых гаворак аказалася мова дзелавой пісьменнасці, дзе царкоўнаславянскія марфалагічныя асаблівасці адбіліся ў нязначнай ступені.

## ЛЕКСІКА

Лексічная сістэма старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы канца XV — пачатку XVI ст. таксама збліжалася ў многіх адносінах з лексікай жывой народнай мовы. Яна ўключала розныя па часу і месцу ўзнікнення, па шляхах пранікнення і спосабах утварэння словы, якія ахоплівалі самыя разнастайныя назвы рэалій і паняццяў акаляючай рэчаіснасці. У ёй, як у люстэрку, адбілася ступень развіцця тагачаснага беларускага насельніцтва, кола яго духоўных інтарэсаў, яго звычаі, побыт і ўзровень матэрыяльнай культуры.

Сваімі гістарычнымі каранямі старабеларуская лексіка была звязана са слоўнікавым багаццем старажытнарускай мовы, якая да XIV ст. была агульным сродкам зносін усходніх славян і паслужыла зыходнай крыніцай для рускай, беларускай і украінскай моў. Таму даволі значным выглядаў у старабеларускай пісьменнасці лексічны пласт, атрыманы ў спадчыну ад старажытнарускага перыяду. Істотную частку слоўнікавага запасу старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы канца XV — пачатку XVI ст. складалі таксама беларускія неалагізмы, утвораныя шляхам выкарыстання старажытнарускіх каранёў і характэрных для беларускай мовы словаўтваральных сродкаў. Нарэшце, прыкметнае месца ў старабеларускім слоўніку займалі запазычанні з іншых моў, якія ў пераважнай большасці першапачаткова пранікалі ў народныя гаворкі і ўжо адсюль траплялі ў пісьмовую мову.

Сярод слоў, якія перайшлі ў старабеларускую мову са старажытнарускай і знайшлі сваё адлюстраванне ў пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст., пэўную частку складалі лексічныя адзінкі агульнаславянскага паходжання. У ліку іх найбольш шматлікі і семантычна разнастайны разрад утваралі назоўнікі, звязаныя пераважна з характарыстыкай знешняга свету. Да агульнаславянскіх па паходжанню назоўнікаў адносіліся, напрыклад, словы, што абазначалі назвы з'яў прыроды (*буря, ветръ, градъ, громъ, дождь, морозъ, роса, снегъ*), рэльефу мясцовасці (*берегъ, бродъ, гора, долина, лесъ, озеро, река, яма*), пор года, адрэзкаў часу (*весна, вечеръ, година, годъ, день, зима, лето, месецъ*), раслін (*груша, дубъ, ель, слива, сосна, трава, хмель, яблоня*), прадстаўнікоў жывёльнага свету (*волкъ, дятелъ, жаба, заяцъ, лебедь, лось, олень, ястребъ*), частак чалавечага цела і органаў жывёл (*бедро, зубъ, лобъ, нога, носъ, рука, ротъ, ухо*).

Параўнальна вялікая колькасць агульнаславянскіх назоўнікаў, узятых у спадчыну ад старажытнарускага перыяду, харак-

тарызавала сферы сямейнага жыцця і сваяцкіх адносін (*братъ, внукъ, дедъ, мати, отецъ, свекоръ, сестра, сынъ*), бытавой і гаспадарчай дзейнасці чалавека (*борона, ведро, игла, коса, плугъ, ролья, серпъ, шило*), уяўляла сабой назвы гаспадарчых і жылых збудаванняў і іх частак (*домъ, гумно, дверь, окно, печь, порогъ, стена, хлевъ*), паказвала грамадскія адносіны (*война, другъ, народъ, племя, посолъ, родъ, староста, судъ*).

Для ўжывання ў сферы духоўнага жыцця старабеларуская мова мела рад агульнаславянскіх назоўнікаў адцягненага характару. Сярод іх на пярэдні план выступалі лексічныя сродкі, прыдатныя для характарыстыкі пачуццяў чалавека і яго інтэлектуальных здольнасцей: *вера, гневъ, жалость, любовь, мысль, память, радость, страхъ*. Сюды прымыкалі назвы некаторых паняццяў з галіны этыкі і рэлігіі: *бесъ, блудъ, богъ, вина, грехъ, зло, месть, правда*. У пэўную групу аб'ядноўваліся словы, якія раскрывалі ўяўленні аб свеце і аб жыццёвым працэсе: *жизнь, неволя, сила, слава, старость, смерть, трудъ, честь*.

Прыметнікі агульнаславянскага паходжання служылі для абазначэння розных фізічных якасцей чалавека і жывёл (*бледный, глухий, косый, лысый, молодый, слепый, старый, хромый*), колераў (*белый, желтый, зеленый, синий, черный*), уласцівасцей і якасцей рэчаў (*густый, кислый, легкий, мокрый, мягкий, острый, ровный, теплый*), а таксама дазвалялі даваць маральную і інтэлектуальную характарыстыку людзей: *глупый, гордый, добрый, злый, милый, скупый, хитрый, щедрый*.

Даволі значныя разрады складалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове агульнаславянскія дзеясловы (*брати, веяти, горети, жити, молотити, пети, рости, слышати*), займеннікі (*ты, мы, вы, кто, мой, свой, нашъ, самъ*), лічэбнікі (*одинъ, два, три, пять, семь, девять, десять, сто*) прыназоўнікі і злучнікі (*безъ, въ, за, на, надъ, къ, и, а*) і інш.

Агульнаславянскія па паходжанню словы, маючы ўстойлівыя лексічныя значэнні, былі найбольш ужывальнай часткай лексікі ў паўсядзённых моўных зносінах беларускага насельніцтва, а таму адлюстроўваліся ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці. Пры гэтым яны ў пераважнай большасці з'яўляліся тым асноўным ядром, па якому старабеларускі слоўнік супадаў з лексічнымі сістэмамі іншых славянскіх моў. Разам з тым кожная са славянскіх моў, у тым ліку і старабеларуская, атрымала ў спадчыну ад агульнаславянскай і рад слоў вузкалакальнага характару. Вылучаючы агульнаславянскія лексічныя дыялектызмы ў слоўнікавым саставе сучасных славянскіх моў, вядомы савецкі этымолаг А. М. Трубачоў адзначаў, напрыклад, што толькі ў слоўніку сучаснага ўсходнеславянскага арэала іх колькасць складае прыкладна каля 400 адзінак. Пры гэтым многія з агульнаславянскіх дыялектызмаў абмежаванага ўжывання сталі ў наш час здабыткам рускай, беларускай і ўкраінскай моў, а астатнія

размяркоўваюцца паміж усходнеславянскімі дыялектамі. З ліку агульнаславянскіх дыялектызмаў, выяўленых у беларускім моўным матэрыяле, А. М. Трубачоў адзначае словы *азярод, аперазаць, борзды, верабей, вусны, друзлы, золь, каліва, палетак, скрыль, угорыч* і інш. Зразумела, усе лексемы гэтага тыпу былі ўласцівы старабеларускай народна-гутарковай мове, хоць у пісьмовых помніках таго часу была адлюстравана толькі некаторая частка іх.

Старажытнаруская мова перадала старабеларускай акрамя лексікі агульнаславянскага паходжання нямала слоў, якія ўзніклі ў перыяд развіцця старажытнарускай народнасці. Сярод гэтай слоўнікавай спадчыны пераважную большасць складалі лексічныя адзінкі, утвораныя на базе агульнаславянскіх каранёў пры дапамозе пэўных сродкаў словаўтварэння. Тэматычна яны характарызаваліся багаццем і разнастайнасцю. Напрыклад, толькі ў галіне тэрміналогіі, звязанай з развіццём матэрыяльнай культуры, можна адзначыць такія інавацыі старажытнарускага гістарычнага перыяду, што шырока ўжываліся ў старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст., як *белка, веревка, виселица, горщокъ, кляча, кропива, лестница, ножницы, пуговица* і інш. Старажытнаруская па паходжанню лексіка тыпу *бояринъ, забота, землянинъ, ловчий, отчина, племянникъ, продажа, семья, служба* заклала аснову старабеларускай сацыяльнай тэрміналогіі. Ад старажытнарускай мовы перайшлі ў старабеларускую многія лічэбнікі (*двадцать, двенадцать, девяносто, девятнадцать, полтора, пятнадцать, сорокъ*), лексічныя адзінкі іншых часцін мовы (*будто, бы, вешний, теперь*).

Даволі прыкметным быў старажытнарускі ўклад у лексічную сістэму старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і за кошт даўніх усходнеславянскіх запазычанняў. Сярод слоў іншамоўнага паходжання, якія перавандравалі са старажытнарускіх пісьмовых помнікаў у раннія старабеларускія, найбольш ужывальнымі з'яўляліся грэцызмы *ангелъ, василиксъ, грамота, декабрь, дьяволъ, ересь, идолъ, икона, китъ, ладанъ, монастырь, октябрь, псалтырь, скипетръ, трапеза, февраль, херувимъ*, цюркізмы *атаманъ, баскакъ, бисеръ, жемчугъ, клобукъ, лошадь, орда, телега, ямъ, ярлыкъ*, германізмы *бровстъ, мештеръ, ратманъ, скалва*, лацінізмы *алтарь, оцетъ* і інш.

Хоць ад перыяду функцыяніравання старажытнарускай пісьменнасці да канца XV ст. прайшло ўсяго крыху больш стагоддзя, усё ж і за гэты параўнальна невялікі адрэзак часу лексічная сістэма старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы паспела зрабіць у сваім развіцці важкі крок наперад. Сведчаннем гэтага можа служыць наяўнасць у слоўніку пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. шматлікіх інавацый, перш за ўсё слоў уласнага беларускага ўтварэння.

Па сваіх адносінах да слоўнікавага складу іншых моў і сло-

ваўтваральнай спецыфіцы ўласнабеларуская лексіка, зафіксаваная ў пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст., выразна размяркоўваецца па некалькі групах. Адной з груп уласнабеларускай лексікі можна лічыць, напрыклад, словы агульнаславянскага і старажытнарускага паходжання, якія пастунова абмежавалі арэал свайго распаўсюджання беларускай тэрыторыяй, а на іншых усходнеславянскіх тэрыторыях аказаліся, па сутнасці, забытымі або ўспрымаліся як устарэлыя ці вузкамясцовыя лексічныя адзінкі. Пераважную большасць такіх слоў складалі назоўнікі *(вежа, гомонъ, коваль, краина, обрусъ, поспехъ, постать, прыкладъ, селянинъ, туга)* і дзеясловы *(брехати, жалитися, кликати, лагодити, наймати, належати, пытати, робити, тулитися, чаровати)*. Асабліва шырока выкарыстоўваў такую лексіку Ф. Скарына з мэтай зрабіць мову сваіх выданняў больш зразумелай простаму чытачу. Так, зусім па-сучаснаму гучаць, напрыклад, ужытыя ім назоўнікі *ветка, волотъ, ворожбитъ, вужъ, вышиня, гай, господаръ, гукъ, гулня, гусли, детинство, дубецъ, згода, клопотъ, конникъ, криница, кропля, куделя, кутъ, нива, плотъ, помста, походка, подлога, промень, сетка, смутокъ, стежка, страва,* прыметнікі *горший, дарсмный, дробный, дурный, лагодный, лепший, приветливый, пригожий, смутный,* дзеясловы *ведати, гинути, досегати, засмутити, лаяти, нахилити, помстити, скакати, уживати, ховати,* прыслоўі *вдолжъ, доловъ, домовъ, досыть, ледва, лепей, николи, поки.*

Вялікую групу ўласнабеларускай лексікі ў пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст. складалі словы, якія па паходжанню таксама з'яўляліся агульнаславянскімі або старажытнарускімі, але атрымалі ў старабеларускай мове спецыфічнае фанетычнае аблічча. Сюды трэба аднесці перш за ўсё лексічныя сродкі з адлюстраваннем поўнагалосся тыпу *беремя, борозна, боронити, воронъ, ворота, голова, голодъ, голосъ, городъ, дерево, дорога, жерело, золото, молодость, оборона, полонъ, порохъ, солодкий, соромота, сторожа, сторона, хоромы,* што ўжываліся ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці. Праўда, у тых жа пісьмовых крыніцах, часам у адным і тым жа кантэксце, паралельна з імі выступалі няпоўнагалосныя польскія формы (*брона, влока, влосъ, длото, злото, млодый, оброна, сромота, строна, хлопъ*), а ў помніках рэлігійных жанраў і летапісах — яшчэ і царкоўнаславянскія формы накшталт *врагъ, глава, гласъ, градъ, злато, мразъ, пламень, сладкий, храмъ, чрево,* але перавага была на баку поўнагалосных форм. Выключэнне складалі толькі моцна царкоўнаславянізаваныя помнікі, напрыклад выданні Ф. Скарыны, дзе ўжыванне поўнагалосных форм зведзена да мінімуму.

Спецыфічна беларускае афармленне мелі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст. таксама словы накшталт *жажа, надежа, ночь, помочь, свеча, тысяча,* якім у рэлігійных помніках часам адпавядалі царкоўнасла-

вянізмы *жажда, надежда, нощь, помощь, свеща, тысяща.* Беларускую афарбоўку надавалі многім лексемам і такія фанетыка-арфаграфічныя рысы, як адлюстраванне пераходу *у ў ў (вдарити, вжо, вмова, вмывалница, врадъ, врочище, вслышати, втекати, втискъ, вчити)*, з'яўленне прыстаўных галосных і зычных *(илгати, ильвица, ирвати, иржа, иржати; возеро, воко, вужъ, гужъ, гусеница)* і інш.

Нарэшце, у асобную, відаць, самую буйную і прадуктыўную групу ўласнабеларускіх наваўтварэнняў аб'ядноўваліся словы, утвораныя ад агульнаславянскіх каранёў пры дапамозе беларускіх словаўтваральных сродкаў — суфіксаў і прыставак. Пераважную большасць уласнабеларускіх слоў, утвораных суфіксальным спосабам, складалі назоўнікі. Сярод лексічных адзінак, якія ўзніклі шляхам выкарыстання прыставак, пераважалі дзеясловы.

У помніках канца XV — пачатку XVI ст. знайшлі адлюстраванне многія назоўнікі беларускага суфіксальнага ўтварэння, як адушаўлёныя, так і неадушаўлёныя. У ліку адушаўлёных сваёй шматлікасцю і разнастайнасцю словаўтваральных сродкаў вылучаліся перш за ўсё назвы людзей па сацыяльнаму становішчу, прафесіі, занятку, рамяству, сваяцкіх адносінах. Гэта словы з суфіксамі *-ник (десятникъ, заставникъ, ключникъ, огородникъ, подводникъ, потужникъ, служебникъ, сокольникъ), -овник (жорновникъ, звездовникъ, користовникъ, кошовникъ, мечовникъ, миловникъ, мостовникъ, солодовникъ), -ец (братанецъ, ездецъ, жатецъ, косецъ, посланецъ, псарецъ, резанецъ, сестренецъ), -ач (гадачъ, забивачъ, запалячъ, играчъ, оповедачъ, помогачъ, слухачъ, ткачъ), -ар (бочаръ, звездаръ, золотаръ, корчмаръ, лекаръ, млынаръ, овчаръ, седларъ), -к(-а) (бабка, братанка, ворожка, девка, дочка, матка, невестка, тетка)*, з многімі іншымі словаўтваральнымі элементамі *(корчмитъ, наймитъ, наследокъ, небожчикъ, отчичъ, сведокъ, учень, челядинъ)*.

Неадушаўлёныя назоўнікі, утвораныя на беларускай глебе, характарызаваліся наяўнасцю суфіксальных словаўтваральных элементаў *-ок (датокъ, заробокъ, зачынокъ, звонокъ, подклетокъ, початокъ, приростокъ, присенокъ), -к(-а) (забавка, крошка, мерка, печка, пуговка, сетка, стежка, частка), -ость (близость, великость, глубокость, далекость, зеленость, мужность, розность, теплость), -ство (добродейство, дуровство, забойство, ленивство, набоженство, насильство, подобенство, чародейство)* і інш.

У старабеларускай лексічнай сістэме існаваў таксама рад слоў з эмацыянальнай стылістычнай афарбоўкай. Гэта былі пераважна назоўнікі, утвораныя пры дапамозе пэўных суфіксаў, што далучаліся да агульнаславянскіх або старажытнарускіх каранёў. Даволі вялікай разнастайнасцю словаўтваральных сродкаў характарызаваліся памяншальна-ласкальныя формы назоўнікаў мужчынскага роду — *-ок, -ик, -ец, -очек: дарокъ,*

*домокъ, дубчикъ, звоночекъ, кожушокъ, кубочекъ, медокъ, обрусецъ.* Формы экспрэсіўнай ацэнкі жаночага роду ўзніклі ў выніку далучэння да асноў назоўнікаў суфіксаў *-к(-а), -иц(-а), -очк(-а), -ечк(-а), -инк(-а) (дубровка, землица, книжечка, лиска, мисочка, стежечка, травинка, хусточка),* ніякага — *-к(-о), -очк(-о), -ечк(-о), -ушк(-о) (деревко, зернетко, именьечко, козлятко, колечко, личко, сердушко, яблочко).* Асабліва шырока выкарыстаны формы тыпу *блюдечко, дитятко, матухна, небожатка, обрусецъ, ручничокъ, сынокъ, уличка* перакладчыкамі «Аповесці пра трох каралёў» як спецыяльны лексіка-стылістычны сродак выражэння асобай цеплыні і сімпатыі да персанажаў і падзей, аб якіх апавядаецца ў творы. Тут пры некаторых назоўніках памяншальна-ласкальныя формы размешчаны па ступеньчатай мадэлі: *листъ — листокъ — листочекъ, голова — головка — головочка.*

У выніку словаўтваральных працэсаў, якія адбываліся ў мове, старабеларуская пісьменнасць канца XV — пачатку XVI ст. мела ўжо многа слоў прэфіксальнага ўтварэння. Сярод іх пераважалі дзеясловы, а найбольш ужывальнымі прыстаўкамі былі *вы- (выбавити, выгнати, выдати, выкопати, выморити, выпросити, высвободити, выславити), до- (доглядати, дожати, дознати, доорати, допытати, дорости, досветчити, дотыкатися), з- (збити, зветшати, зготовати, згрешити, змыти, знайти, зубожати, зъести), за- (забити, загинути, задремати, закипети, замолчати, заплатити, заспевати, захавати), на- (навязати, нажати, называти, намучити, написати, наступити, научити, нахилити), од- (одвести, оддавати, одказати, одложити, одмыкати, одослати, одправити, одъехати), по- (повстати, повысити, полюбити, померети, поранити, посоромотити, потешити, потоптати)* і інш.

Асобны разрад прэфіксальных утварэнняў у старабеларускай лексічнай сістэме складалі словы з дзвюма прыстаўкамі. Гэты словаўтваральны тып ахопліваў перш за ўсё дзеясловы незакончанага трывання, якія дзякуючы наяўнасці ў іх дзвюх прыставак абазначалі шматкратнае ці працяглае дзеянне з фактычнай закончанасцю: *повыжыгати, повыкупати, позаметати, позаорати, позасевати, поотдавати, поотсекати, поразбивати.*

У дзелавой пісьменнасці мелі пашырэнне назоўнікі, утвораныя шляхам субстантывацыі прыметнікаў. Яны служылі для абазначэння разнастайных відаў падаткаў і плацяжоў *(важчее, гребельное, куничное, мостовое, поворотное, подымное, посошное, прутовое),* а таксама асоб па пасадах *(бирчий, восковничий, городничий, децкий, лесничий, ловчий, сокольничий, соляничий),* і некаторыя з іх у сваю чаргу з'яўляліся асновай для ўтварэння новых слоў, напрыклад назоўнікаў для абазначэння жонак службовых асоб: *городничая, ловчая, подключая* і г. д.

Дзелавыя дакументы вылучаліся сярод іншых помнікаў старабеларускай пісьменнасці і наяўнасцю своеасаблівых дроба-

вых лічэбнікаў накшталт *полпята, полсема, полсемадесеть, полсемаста, полтораста, полтретя, полтретяста* і інш. Спецыфіку лексіцы дзелавога пісьменства прыдавалі таксама такія словы з тэрміналагічным значэннем, як *головщина, данина, дедина, застава, купленина, материзна, отчина, подрука, prometъ, просока, серебщина.* Вельмі пашыраны ў ёй былі і састаўныя двухчленныя тэрміны, складзеныя з назоўніка і азначаючага яго прыметніка *(вдовий столецъ, домовый статокъ, земская устава, путныи люди, судовый листъ, тяглая служба)*, спецыфічна канцылярскія фразеалагізмы *(лицомъ отдати, метати лесы, положити рокъ, приставити шапку)*. У помніках іншых жанраў, дзе ўжыванне такіх лексічных сродкаў не выклікалася кантэкстам, яны адсутнічалі зусім.

Затое ў мове рэлігійных твораў былі вядомы многія наваўтварэнні, не ўласцівыя дзелавой і свецкай пісьменнасці. Прыкметны разрад лексікі ў гэтых творах складалі, напрыклад, кніжныя словы, якія з'яўляліся спецыфічнай прыналежнасцю пісьмовай мовы і, напэўна, не былі ўласцівы тагачаснай жывой мове. Тут можна адзначыць шматлікія лексічныя ўтварэнні на *-ость* абстрактнага значэння, выпрацаваныя пісьмовай практыкай у сувязі з неабходнасцю перадаваць разнастайныя паняцці адцягненага сэнсу: *бледость, горкость, горючесть, набожность, смертельность, студеность, черленость* і інш. Асаблівую каштоўнасць у гэтых адносінах уяўляюць сабой выданні Ф. Скарыны, дзе прадуктам словатворчай дзейнасці першадрукара трэба лічыць і ўжытыя ім лексічныя адзінкі *книжница* 'бібліятэка', *певница* 'музыка', *стороница* 'старонка', і некаторыя назоўнікі з фармантам *-ство (глуповство, действо, дуровство, ленивство, подобенство, скуповство, товариство, человеченство)*, і своеасаблівыя лексемы для абазначэння дзеючых асоб *(возотай, вышивачъ, лгарь, оборонатай, побиратель, посмевачъ, продавачъ, хороняка)*, і розныя тыпы складаных назоўнікаў і прыметнікаў *(доброволенство, добровонность, домочадецъ, злосмелость, летописецъ, многоможность; доброволный, долговечный, краснословный, многохтивый, правдумовный, стародавный)*, якія атрымалі пашырэнне ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове пазнейшага часу.

У выключна важнай справе развіцця слоўнікавага складу старабеларускай мовы побач са словаўтварэннем на базе ўласнага караняслова значную ролю выконвала запазычванне іншамоўных лексічных сродкаў. Яны былі неабходны беларускаму насельніцтву як для намінацыі новых рэалій і паняццяў, якія пастаянна ўзнікалі ў рэчаіснасці пад уплывам знаёмства з жыццём іншых народаў, так і для замены многіх назваў, што станавіліся непрыгоднымі ў выніку грамадскага прагрэсу.

Сярод запазычанняў, характэрных для старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы канца XV — пачатку XVI ст., па колькасці значных адзінак першае месца займалі словы поль-

скага паходжання. Прычыны такой перевагі польскай лексікі ў помніках пісьменнасці даволі выразныя. Яны вынікаюць з той гістарычнай сітуацыі, якая склалася на беларускай тэрыторыі ў працэсе ўзмацнення дзяржаўна-палітычных, эканамічных і культурных кантактаў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай, існавання паміж імі трывалай дыпламатычнай перапіскі і ўсё большага пашырэння на ўсход паланізацыі.

Першапачаткова найбольш пранікальнай для польскай лексікі аказалася старабеларуская дзелавая мова. На яе зрабілі ўплыў насычаныя паланізмамі дакументы на беларускай мове, што паступалі ў Вялікае княства Літоўскае з каралеўскай канцылярыі ў Кракаве. Ужо ў сярэдзіне XV ст. тут трывала замацаваліся паланізмы тыпу *векуистый, велебный, водлугъ, волати, едность, моцъ, никгды, окрутный, панъ, цнота,* якія працягвалі ўжывацца ў пісьмовых помніках і ў далейшым. Разам з тым дзелавая пісьменнасць пастулова насычалася новымі польскімі лексемамі, хоць яшчэ на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, гэты працэс быў замаруджаным.

Польскі лексічны струмень няўхільна прасочваўся і ў літаратурную сферу, аб чым сведчыць наяўнасць паланізмаў у помніках свецкіх і рэлігійных жанраў, асабліва перакладзеных з польскіх арыгіналаў. Пры гэтым набор паланізмаў у ранніх беларускіх летапісах і канфесійных творах істотна не адрозніваўся ад набору польскіх запазычанняў у помніках дзелавой пісьменнасці. Асаблівасцю было хіба толькі тое, што ў дзелавых кнігах і дакументах часцей ужываліся польскія словы бытавога ўжытку і з галіны справаводчай, грамадска-палітычнай, юрыдычнай тэрміналогіі, а ў свецкіх і рэлігійных творах больш актыўна быў прадстаўлены пласт абстрактнай лексікі. Ды і сама ўжывальнасць паланізмаў у свецкай і рэлігійнай літаратуры была меншая, чым у дзелавой пісьменнасці.

З пункту погляду адносін да граматычнай сістэмы старабеларускай мовы самую вялікую колькасць лексічных адзінак польскага паходжання ў пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст. складалі назоўнікі рознай семантычнай характарыстыкі. Сярод іх асабліва вылучаліся сваёй ужывальнасцю словы *быдло, валька* 'бой, барацьба', *вырокъ* 'пастанова', *дело* 'гармата', *замокъ* 'замак', *збродень* 'злачынец', *земянинъ* 'дробны памешчык', *коморникъ* 'судовы выканаўца, землямер', *листъ* 'юрыдычны дакумент', *маетность* 'маёмасць', *место* 'горад', *можность* 'багацце', *моцъ, навезка (навязка)* 'прыбытак; штраф', *немоцъ* 'хвароба, недамаганне', *панъ, пахолокъ* 'слуга', *пивница* 'вінны склеп', *поветъ, позовъ* 'выклік у суд', *потваръ* 'паклёп', *похвалка* 'пагроза', *пушкаръ* 'збройнік, артылерыст', *рокъ* 'год, пэўны тэрмін', *ростыркъ* 'разлад, сварка', *сведоцство* 'сведчанне, доказ', *скарбъ, соймъ* 'сейм', *спадокъ* 'спадчына', *статокъ* 'маёмасць', *столецъ* 'трон, сталіца', *сукня* 'сукенка, верхняя вопратка', *тлумокъ* 'клунак', *тлуща* 'натоўп', *цнота, члонокъ.*

Найбольш характэрнымі для старабеларускай пісьменнасці таго часу прыметнікамі польскага паходжання з'яўляліся такія, як *вечистый* 'вечны, спрадвечны', *гайный* 'адкрыты на законных падставах', *зуполный* 'поўны, увесь', *нерадный* 'распусны', *пильный* 'уважлівы', *посполитый* 'просты', *поспольный* 'агульны', *прожный* 'вольны, пусты', *розмаитый* 'розны, разнастайны', *рыхлый* 'хуткі, шпаркі', *совитый* 'шчодры, двайны', *спросный* 'распусны', *статечный* 'паважаны', *уставичный* 'пастаянны', *хтивый* 'прагны'.

У якасці самых ужывальных дзеясловаў, запазычаных з польскай мовы, тут выступалі: *будовати, волати* 'клікаць на дапамогу; выклікаць у суд', *дворити* 'жартаваць', *зыскати* 'атрымаць', *меновати* 'называць', *мешкати* 'жыць, знаходзіцца', *обецати, обцовати* 'вадзіць знаёмства', *позычати, полецати* 'даручаць, аддаваць', *привлащати* 'прысвойваць', *призволяти* 'дазваляць', *прислухати* 'належаць', *рачити* 'мець ласку', *сумовати* 'падлічваць', *хибити* 'мінуць, прамінуць'.

З іншых часцін мовы ў пісьмовых помніках ранняга перыяду часцей за ўсё ўжываліся паланізмы *ведлугъ (водлугъ)* 'паводле', *весполокъ* 'сумесна', *вниве чъ* 'дашчэнту', *вшакъ* 'ва ўсякім выпадку, аднак', *вшелякий* 'усялякі', *жаденъ* 'ніхто', *жебы* 'каб', *зася* 'зноў', *кгволи* 'згодна з жаданнем', *кгды* 'калі', *лечъ* 'але, толькі', *назбытъ* 'занадта', *овшемъ* 'вядома, зразумела', *поневажъ* 'бо, таму што', *предся* 'усё ж, аднак', *совито* 'шчодра', *тежъ* 'таксама' і інш.

Звяртаюць на сябе ўвагу зафіксаваныя ў ранніх тэкстах, пераважна дзелавых, субстантываваныя прыметнікі польскага паходжання, якія абазначалі назвы асоб мужчынскага полу па іх занятках і пасадах: *возный* 'судовы выканаўца', *конюшый* 'прыдворны, які загадваў канюшнямі', *крайчий* 'прыдворны, які загадваў княжацкім сталом', *подкоморый* 'прыдворны, які загадваў княжацкімі маёнткамі, галоўны межавы суддзя', *подчаший* 'прыдворны, які загадваў вінамі', *подскарбий* 'хавальнік княжацкай казны', *преложоный* 'загадчык, кіраўнік' і інш.

Ужывалася ў пісьмовай мове таго часу таксама пэўная колькасць слоў з польскай часціцай *-кольвекъ (-кольве)*, якая надавала ім значэнне няпэўнасці або абсалютнасці: *ачкольвекъ (ачкольве)* 'хоць, нягледзячы на тое, што', *гдекольвекъ (гдекольве)* 'дзе-небудзь', *которыйкольвекъ (которыйкольве)* 'які-небудзь', *ктокольвекъ (ктокольве)* 'хто-небудзь', *штокольвекъ (штокольве)* 'што-небудзь', *якокольвекъ* 'як-небудзь' і інш. Польскі ўплыў у помніках праяўляўся таксама дзякуючы ўжыванню слоў з польскім элементам *-кроть*: *двакроть* 'двойчы', *колькокроть* 'некалькі разоў', *многокроть* 'многа разоў', *трикроть* 'тройчы', *частокроть* 'часта'.

Агульным у лёсе названых запазычанняў было тое, што амаль усе яны трывала замацаваліся ў пісьменнасці і працягвалі ўжывацца ў ёй і ў пазнейшы час. Разам з тым у некаторых

помніках побач са сродкамі, выкліканымі выражальна-камуні катыўнай неабходнасцю, з'яўляліся словы польскага тыпу, за пазычванне якіх не апраўдвалася патрэбамі развіцця слоўні кавага складу старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Да ліку іх можна аднесці лексемы накшталт *гродъ, злото, кроль, млодый, слонце,* дублетныя да сваіх уласных *городъ, золото, король, молодый, солнце.* Увогуле ж трэба адзначыць, што папаўненне старабеларускага слоўніка новымі сродкамі выражэння пад уздзеяннем польскай мовы на рубяжы XV—XVI стст. у параўнанні з пазнейшым перыядам было яшчэ адносна ўмераным.

Параўнальна шырокае адлюстраванне знайшла ў старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. лексіка нямецкага паходжання, якая пранікала ў беларускую мову трыма каналамі — праз польскае пасрэдніцтва, з яўрэйскай мовы і непасрэдна ад немцаў. Асабліва адчувальным быў прыток нямецкіх слоў у беларускі слоўнік у сувязі з развіццём гандлёвых кантактаў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і Германіяй, з'яўленнем на яго тэрыторыі нямецкіх ваенных наёмнікаў, каланістаў і спецыялістаў у галіне рамесніцтва і гаспадарчай дзейнасці. Сярод германізмаў вылучаюцца перш за ўсё назвы людзей па пасадзе, занятку, светапогляду і сацыяльнаму становішчу: *барверъ (барберъ)* 'цырульнік, лекар', *бискупъ* 'каталіцкі епіскап', *бурмистръ* 'галава гарадскога самакіравання', *войтъ* 'галава гарадскога суда', *гетманъ, канцлеръ, кгарбаръ, кухаръ, кухмистръ* 'умелы кухар', *кушнеръ, лентвойтъ* 'намеснік войта', *маршалокъ, муляръ, римаръ, слесаръ, фурманъ, шолтысъ* 'вясковы стараста'. Прыкметную групу ўтваралі словы нямецкага паходжання, звычайныя ў бытавым ужытку тагачаснага насельніцтва: *вачокъ* 'кашалёк', *зекгаръ* 'гадзіннік', *занкель* 'спражка', *кафель, кгвалтъ, кгрунтъ, кнотъ, ланцухъ, лихтаръ, мордовати, мусити, паневъ* 'скаварада', *ретовати, трафити, фаса* 'бочка', *футро, шкода, шнуръ.* Асобна групаваліся германскія лексемы, звязаныя з гандлёвымі адносінамі, з назвамі тавараў, грашовых адзінак, адзінак вымярэння колькасці і вагі тавараў: *гарусъ* 'тонкая ваўняная тканіна', *колтрышъ* 'сукно ніжэйшага гатунку', *коштовати, ластъ* 'мера сыпкіх рэчываў', *рахунокъ, ринокъ, фунтъ, шацунокъ* 'расцэнка', *шацовати* 'ацэньваць', *штука* 'кавалак'. Нарэшце, вылучалася група слоў нямецкага паходжання, якая папаўняла старабеларускую ваенную тэрміналогію: *галябарда, гельмъ* 'шлем', *гуфъ* 'воінскае падраздзяленне', *панцеръ, рота, тарча* 'шчыт', *шикъ* 'строй' і інш.

Пераважная большасць лексічных сродкаў нямецкага паходжання, зафіксаваных у пісьмовых помніках канца XV — пачатку XVI ст., па сваму фанетыка-марфалагічнаму вобліку бліжэй стаіць да адпаведных польскіх слоў, чым да нямецкіх. Таму можна меркаваць, што асноўную ролю пры іх запазычванні выконвала польскае моўнае пасрэдніцтва. Аб рашаючым зна-

чэнні польскай мовы ў пашырэнні нямецкай лексікі ў старабеларускай мове ўскосна сведчыць і той факт, што пачатак інтэнсіўнага наплыву яе сюды якраз супадаў з узмацненнем беларуска-польскіх моўных сувязей і польскага лексічнага ўздзеяння, тады як непасрэдныя кантакты беларусаў з немцамі па прычыне тэрытарыяльнай аддаленасці былі калі не выпадковымі, то ва ўсякім разе несістэматычнымі. Адзначаныя абставіны даюць падставу лічыць гэтыя нямецкія словы паланізмамі, тым больш што ў слоўнікавым складзе старабеларускай мовы іх далейшая гісторыя і значэнне нічым не адрозніваюцца ад лёсу ўласна польскіх слоў.

У адрозненне ад літаратурна-пісьмовай мовы пазнейшага перыяду даволі абмежаваным было ў старабеларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. ужыванне лексікі лацінскага паходжання. З лацінскіх лексем, зафіксаваных у помніках таго часу, большая частка была запазычана старабеларускай мовай таксама праз пасрэдніцтва польскай мовы, бо атрымала фанетыка-марфалагічнае афармленне, блізкае да польскага. Найбольш ужывальнымі з гэтых лексем можна лічыць такія, як *актъ, артыкулъ, вилия* 'пярэдадне свята', *дата, докторъ, енералъ* 'галоўны судовы выканаўца', *капланъ* 'каталіцкі святар', *колацея* 'вячэра', *копея, корона, миля, октава* 'восьмы дзень пасля свята', *опатъ* 'абат', *оранда* 'арэнда', *паркгаминъ* 'пергамент', *персона, реестръ, секретарь, статутъ, сума, сыкгнетъ* 'пярсцёнак-пячатка', *тестаментъ* і інш. Аднак семантычная разнастайнасць гэтага невялікага яшчэ струменю лацінізмаў паказвае, што ўжо на рубяжы XV—XVI стст. выразна намеціліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове асноўныя напрамкі ў запазычванні лексікі лацінскага паходжання, якія пазней наклалі адбітак на многія звенні лексічнай сістэмы, значна павялічыўшы сродкі яе выражэння. Плённым аказалася ўздзеянне латыні на выпрацоўку навуковай, літаратурна-мастацкай і рэлігійнай тэрміналогіі, асноўнай сферай ужывання якой з'явілася свецкая і рэлігійная літаратура. За кошт лацінізмаў істотна развілася грамадска-палітычная, эканамічная і юрыдычная тэрміналогія, што шырока стала адлюстроўвацца ў дзелавой пісьменнасці. У большасці юрыдычных дакументаў старажытнага перыяду выкарыстанне спецыяльных лацінскіх тэрмінаў паступова з'явілася неабходным, а многія словы лацінскага паходжання не толькі арганічна ўліліся ў літаратурна-пісьмовую мову, але сталі здабыткам народнага ўжытку.

Уласцівы былі ранняй старабеларускай пісьменнасці некалькі слоў, запазычаных рознымі шляхамі з раманскіх моў (*ботъ, дукатъ, колнеръ*), паасобныя словы чэшскага паходжання (*каптуръ, мещанинъ*). Усе іх аб'ядноўвае тое, што апошнім этапам, непасрэднай крыніцай, з якой яны трапілі ў старабеларускую мову, з'явілася польская мова.

Развіваючы лексічны склад шляхам запазычвання патрэб-

ных слоў з заходніх моў, старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова канца XV — пачатку XVI ст. не пераставала папаўняць свае выражальна-камунікатыўныя сродкі і за кошт царкоўнаславянскай мовы, якая ў той час мела яшчэ значную сферу пашырэння на беларускай тэрыторыі. Аднак працэс гэты страціў ужо тую інтэнсіўнасць, якой валодаў у старажытнарускай мове, і стылістычна быў абмежаваным. Фактычна царкоўнаславянізмамі ў пэўнай меры жывіліся яшчэ толькі кніжныя стылі. Аб гэтым сведчыць значная колькасць царкоўнаславянскіх слоў тыпу *алкание, бездна, брашно, величати, вещь, вопль, всуе, гладъ, днесь, егда, жертва, злоба, искушение, клеветати, мзда, нужда, область, прелесть, разумъ, страсть, уповати, храбрый, чрево, щедрота,* ужытых у рэлігійных творах «Пакуты Хрыста», «Аповесць пра трох каралёў», Зборнік № 262, Біблія Ф. Скарыны, Псалтыр XVI ст., сярод якіх і лексічныя сродкі, што перайшлі ў спадчыну ад старажытнарускай мовы, і новыя запазычанні старабеларускага перыяду. Толькі нешматлікімі лексемамі традыцыйнага характару накшталт *азъ, бракъ, глава, елико, зело, месть, семо, срамъ* прадстаўлены быў царкоўнаславянскі лексічны струмень у тагачаснай свецкай пісьменнасці, у прыватнасці ў ранніх беларускіх летапісах. Амаль зусім не адчуваўся ён у дзелавой мове.

Характарызуючы запазычаную лексіку ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст., нельга не звярнуць увагу і на наяўны ў ёй пласт цюркізмаў. У адрозненне ад лексічных сродкаў, якія пранікалі з еўрапейскіх моў і развівалі многія прадметна-тэматычныя групы тагачаснай лексікі, гэтыя запазычанні ў асноўным абазначалі канкрэтныя прадметы, бо ў старажытнасці ўплыў цюркскіх народаў на духоўнае жыццё ўсходнеславянскага насельніцтва быў значна слабейшы, чым уплыў еўрапейскіх народаў. Таму не выпадкова, што сярод цюркізмаў, якія ўжываліся ў ранніх старабеларускіх помніках, пануючае становішча займалі назоўнікі: *атласъ, барышъ, баша* 'паша', *бедевей* 'рысак', *булгакъ* 'трывожны час', *деньги, епанча* 'шырокі плашч без рукавоў', *есакъ* 'даніна з падначаленых народаў', *калита* 'кашалёк', *кафтанъ, килимъ, кистень, китайка, козакъ, колпакъ, корованъ, кошъ* 'татарскі або казацкі лагер', *кутасъ, мурза, нагайка, сагайдакъ* 'футляр разам з калчанам і стрэламі', *саранча, тасьма, тафта, тягиляй* 'лёгкая верхняя вопратка', *черга, чоботъ, шлыкъ* 'высокая футравая шапка'. Словы іншых часцін мовы сустракаліся тут у адзінкавых выпадках: *алый, бурый, кочевати, чалый.* Цюркізмы, адлюстраваныя ў помніках, траніла ў старабеларускую мову пераважна праз кантакты беларусаў з рускім і ўкраінскім насельніцтвам і толькі асобныя з іх, напрыклад *булгакъ, есакъ, мурза,* былі запазычаны непасрэдна ад прадстаўнікоў цюркскіх народаў.

Варта звярнуць увагу таксама на характэрны для старабе-

ларускай пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. пласт літуанізмаў: *бонда* 'маёмасць, грошы; збожжа', *дойлидъ, дякло* 'падатак збожжам', *евья* 'ёўня, сушня', *клуня, ковшъ, кульша* 'сцягно', *кумпъ, мезлева* 'падатак за ўтрыманне быдла', *рыкунья* 'даглядчыца быдла', *свиренъ, скилондь* 'страўнік парсюка, набіты сечаным мясам', *стирта, торпъ*. Як відаць, іх тут невялікая колькасць, хоць ва ўмовах блізкага суседства і знаходжання Літвы і Беларусі ў адной дзяржаве можна было б чакаць больш значнага літоўскага лексічнага ўздзеяння на старабеларускую мову.

Разгледжаныя запазычанні, вядома, не вычэрпваюць усіх раздзелаў старабеларускага слоўніка і, тым больш, не ахопліваюць усяго лексічнага матэрыялу іншамоўнага паходжання, дзякуючы якому больш дасканалай станавілася камунікатыўна-выражальная здольнасць старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Як сведчаць многія помнікі, лексічнае ўздзеянне некаторых моў на старабеларускую было значна большым, чым можна меркаваць на аснове прааналізаваных слоў. Часам, як ужо адзначалася вышэй, яно праяўлялася ва ўжыванні іншамоўных лексічных элементаў у тых выпадках, калі для гэтага, здавалася б, не было ніякай патрэбы. Словы, якія сталі здабыткам паасобных пісьмовых помнікаў і не атрымалі замацавання ў старабеларускай мове, пранікалі ў асноўным пад польскім уздзеяннем, што ва ўмовах беларуска-польскага двухмоўя на тэрыторыі Беларусі можна лічыць заканамерным працэсам. Незвычайна яркай, але кароткачасовай з'явай у гісторыі лексічнай сістэмы беларускай мовы было таксама ўжыванне Ф. Скарынам у яго выданнях многіх слоў чэшскага паходжання тыпу *жадость* 'просьба', *жаларъ* 'турма', *заважие* 'гіра', *змизати* 'знікнуць', *лебка* 'чэрап', *нутити* 'прымушаць', *планый* 'дзікі', *ратолесный* 'галіністы', *смыркъ* 'елка' і г. д. Іх пранікненню садзейнічалі непасрэдныя кантакты беларускага першадрукара з чэхамі ў перыяд яго выдавецкай дзейнасці ў Празе (1517—1519) і выкарыстанне пры апрацоўцы тэкстаў біблейскіх кніг у якасці асноўнага дапаможніка Чэшскай бібліі ў венецыянскім выданні 1506 г.

Наяўнасць лексікі іншамоўнага паходжання ў старабеларускіх тэкстах розных жанраў, створаных у канцы XV — пачатку XVI ст.,— нармальная з'ява. Ні адзін помнік не мог заставацца ў моўных адносінах у баку ад агульнага працэсу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Аднак нельга перабольшваць сілу іншамоўнага лексічнага ўздзеяння на слоўнікавы склад ранняй беларускай пісьменнасці. У аснове сваёй ён працягваў заставацца беларускім, развіваючыся і ўзбагачаючы камунікатыўныя сродкі пераважна за кошт словаўтварэння на базе ўласнага каранеслова.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. Спб., 1846.

Алекс. — «Александрыя» канца XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q. XVII. 257.

АЛМ — Акты Литовской метрики, собраны Ф. И. Леонтовичем. Т. 1, вып. 1—2. Варшава, 1896—1897.

Аўр. — Летапісны зборнік Аўраамкі 1495 г. // ПСРЛ. Т. XVI. Спб., 1899.

Валх.— «Аповесць пра трох каралёў» канца XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q. I. 391.

Віл.— Віленскі спіс летапісу канца XV ст. Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, ф. Бх, адз. зах. 49.

Вісл.— Вісліцкі статут XV ст. // Roman S. Vetulani A. Ruski przekład polskich statutów z rękopisu moskiewskiego. Wrocław, Kraków, 1959.

Гр. 1498 — Грамата Янкі Багдановіча аб продажы сенажаці 1498 г. Рукапіс Бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя В. Капсукаса.

Жыц. Ал.— «Жыціе Аляксея» канца XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Q. I. 391.

Зб. 262 — Зборнік біблейскіх кніг пачатку XVI ст. Рукапіс Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. RKF — 262.

КВЗС — Кніга Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг. Рукапіс ЦДАСА. Ф. 389. Кн. 228.

КЗ — Литовская метрика. Книги записей // Русская историческая библиотека. Т. XXVII. Спб., 1910.

ККК — Кніга караля Казіміра 1482—1491 гг. Рукапіс ЦДАСА. Ф. 389. Кн. 4.

КМС — Кніга маршалкоўскага суда 1510—1517 гг. Рукапіс ЦДАСА. Ф. 389. Кн. 221.

КСД — Литовская метрика. Книги судных дел // Русская историческая библиотека. Т. XX. Спб., 1903.

Пак. Хр.— «Пакуты Хрыста» канца XV ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Q. I. 391.

ПГ — Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А. Л. Хорошкевич. Ч. I—II. М., 1977—1978.

Пс. XVI — Псалтыр XVI ст. Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна. № 335.

Скар.— «Бивлия руска» выдання Ф. Скарыны 1517—1519 гг.; ДЗ — Другазаконне; ДП — Кніга Данііла прарока; ДЦ — дру-

гая кніга «Царствы»; КБ — кніга «Быццё»; КВ — кніга «Выхад»; КЕ — кніга «Есфір»; КІ — кніга «Іоў»; КР — кніга «Руф»; КЮ — кніга «Юдзіф»; ПБ — кніга «Прамудрасць божая»; ПЕ — «Плач Ераміі»; ПЦ — першая кніга «Царствы».

Ст. 1529 — Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. (Фірлееўскі спіс). Рукапіс Польскай нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве. Baw. 952.

Судз. Каз.— Судзебнік Казіміра, караля польскага, 1468 г. Рукапіс Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна. Р. 232.

Троя — Траянская гісторыя першай палавіны XVI ст. Рукапіс Бібліятэкі Акадэміі навук УССР. ДА/п. 157.

Увар.— Увараўскі спіс летапісу канца XV ст. ПСРЛ. Т. XVII. Спб., 1907.

Чэцця — Чэцця 1489 г. Рукапіс Бібліятэкі Акадэміі навук УССР. ДА/415 л.





## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА РУБЯЖЫ ЭПОХ

Эпоха Скарыны была надзвычай цікавым і складаным, сапраўды этапным у гісторыі Беларусі перыядам як у сацыяльна-эканамічным, грамадска-палітычным, так і ў культурна-гістарычным плане. З аднаго боку, у той час завяршыліся вельмі важныя гістарычныя працэсы, якія пачаліся яшчэ ў XIII ст. і садзейнічалі станаўленню ўласнабеларускай культуры, беларускай мовы і літаратуры — дзяржаўнае аб'яднанне і палітычная цэнтралізацыя беларускіх зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага і Рускага і фарміраванне беларускай народнасці. Таму гэты перыяд справядліва разглядаецца як завяршэнне цэлага вялікага этапу ў гістарычным жыцці беларускага народа і ў гісторыі беларускай культуры.

З другога боку, у эпоху Скарыны намеціліся некаторыя новыя з'явы і тэндэнцыі, якім належала будучыня, што сталі вядучымі ва ўсім XVI ст., пачалося бурнае развіццё беларускага горада і закладванне перадумоў таго росквіту беларускай грамадска-палітычнай думкі, літаратуры і мастацтва, які быў магчымы ва ўмовах спелага феадалізму. Вытокі некаторых спецыфічных асаблівасцей беларускай культуры наогул і беларускай літаратуры ў прыватнасці, хоць яшчэ і мала прыкметныя, у XV і нават у XIV ст.

Неабходна таксама адзначыць, што ў часы Скарыны на Беларусі не здаваліся архаічнымі і зусім непатрэбнымі, былі яшчэ даволі надзённымі і жывымі шмат якія маральна-этычныя, ідэйна-мастацкія і эстэтычныя каштоўнасці эпохі сярэдневякоўя. Тады на беларускіх землях шырока бытавала і актыўна служыла грамадству літаратурная спадчына не толькі папярэдняга перыяду, XIV—XV стст., але і часоў Кіеўскай Русі, і нават больш далёкага мінулага (кнігі Бібліі, творы патрыстыкі і інш.). Сярэдневяковыя культурныя традыцыі і ўяўленні, маральныя нормы і эстэтычныя прынцыпы былі ў XVI ст. яшчэ настолькі моцнымі і аўтарытэтнымі, што іх сур'ёзна парушаць, падвяргаць сумненню і творча адмаўляць маглі толькі самыя смелыя і таленавітыя, людзі рэнесансавага светапогляду.

Карацей кажучы, у развіцці беларускай літаратуры канца XV — першай палавіны XVI ст. існавала арганічная сувязь і несумненная пераемнасць з багатымі традыцыямі шматвяковага мінулага. Таму гэты перыяд, які ляжыць на пераломе двух эпох, ёсць падставы адначасна разглядаць і як нешта цэласнае, бачыць у ім пэўнае адзінства і лічыць эпоху Скарыны на Беларусі своеасаблівым пераходным этапам ад сярэдневякоўя да Рэнесансу [1].

Працэс станаўлення ўласнабеларускай літаратуры ў цэлым адбываўся даволі марудна, запаволена і супярэчліва, што тлумачыцца ў першую чаргу недастаткова інтэнсіўным культурна-гістарычным развіццём Беларусі XV — пачатку XVI ст., слабай дыферэнцыраванасцю грамадскай свядомасці, а таксама значнай запозненасцю ў параўнанні з развітымі заходнееўрапейскімі народамі фарміравання ў беларускага насельніцтва этнічнай самасвядомасці. Моцным фактарам, што прыкметна стрымліваў гэты працэс, была манаполія на кніжную адукацыю хрысціянскай царквы, артадаксальнага духавенства, якое задавальнялася гатовым, запазычаным у іншых народаў фондам царкоўна-рэлігійнага пісьменства і наогул вельмі адмоўна ставілася да народнай культуры, да самой ідэі стварэння на мясцовай, несакральнай мове арыгінальных літаратурных твораў. Панаванне ў эпоху сярэдневякоўя на беларускіх землях закасцянелай царкоўнаславянскай мовы, універсальнага царкоўна-рэлігійнага светапогляду і уніфікуючай, па-сутнасці касмапалітычнай хрысціянскай эстэтыкі доўга цяжкім грузам ляжала на роднай ніве, скоўвала мясцовыя творчыя сілы і не давала магчымасці прабіцца маладым парасткам уласнабеларускай літаратуры. Аднак, нягледзячы на ўсе перашкоды, надзённыя культурна-гістарычныя патрэбы развіцця беларускага грамадства таго часу выклікалі ўжо ў канцы XIV—XV ст. з'яўленне даволі значнага і разнастайнага пісьменства на старабеларускай мове, якое і дало пачатак яшчэ адной славянскай літаратуры — беларускай.

Вывучэнне беларускай літаратуры эпохі Скарыны мае свае спецыфічныя цяжкасці. Уся пісьмовая прадукцыя таго далёкага ад нас часу, творы свецкай і царкоўна-рэлігійнай, дзелавой і мастацкай, арыгінальнай і перакладной літаратуры, апрача кніг першадрукара, бытавала выключна ў рукапісах. Паколькі папера тады каштавала вельмі дорага, а перапісванне адной кнігі займала нярэдка некалькі месяцаў, то, зразумела, рукапіснаму тыражыраванню падлягалі ў першую чаргу самыя значныя, важныя, аўтарытэтныя і неабходныя з пункту гледжання часу і феадальна-хрысціянскай ідэалогіі творы. Гэта садзейнічала большай захаванасці пісьменства пэўнага характа-

[1] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 74—93; Конон В. М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978. С. 17—24.

ру, што не дае магчымасці стварыць цалкам аб'ектыўны малюнак усёй літаратуры Беларусі часоў Скарыны.

Больш таго, да нашага часу дайшла толькі невялікая частка той агульнай колькасці літаратурных помнікаў, што бытавалі тады на беларускіх землях. Прычым найлепшыя ўмовы для збераження на працягу стагоддзяў былі зноў-такі для царкоўна-рэлігійных кніг, якія захоўваліся ў мурах сабораў і манастыроў, а не для свецкіх твораў, што бытавалі пераважна ў прыватных бібліятэках.

Аднак і тое, што зберaглося, рассеяна сёння па шматлікіх бібліятэках, архівах і музеях розных гарадоў Савецкага Саюза і замежных краін. Да таго ж вельмі многія, нават самыя буйныя і багатыя на беларускія матэрыялы сховішчы не маюць поўных і дэталёвых друкаваных апісанняў сваіх рукапісных збораў. Калі ўлічыць яшчэ тую акалічнасць, што пераважная большасць твораў, якія тады бытавалі, не апублікаваны, то стане цалкам зразумелым, чаму так марудна пасоўваецца наперад грунтоўнае асваенне нашай багатай пісьмовай спадчыны мінулага, вывучэнне якой шмат у чым знаходзіцца сёння яшчэ на стадыі збірання і апісання, хоць і мае паўтаравяковыя традыцыі.

З усіх жанраў беларускай літаратуры XV—XVI стст., бадай, найлепш даследаваны летапісы. З часу Ігната Даніловіча, якому належыць гонар іх навуковага адкрыцця, апублікаваны дзесяткі сур'ёзных прац, выдадзены ўсе важнейшыя летапісныя помнікі [2]. Дакастрычніцкі этап іх даследавання завяршыўся навуковым выданнем аднатомнага збору агульнадзяржаўных беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік XV—XVI стст.[3], а таксама грунтоўнай манаграфіяй Т. Сушыцкага [4]. Нямала зроблена і ў савецкі час, пра што сведчаць дзве асобныя манаграфіі [5], прысвечаныя гэтым творам, спецыяльнае археаграфічнае даследаванне [6] і двухтомнае выданне помнікаў беларускага летапісання XV—XVIII стст., падрыхтаванае М. Улашчыкам [7]. Паколькі перыяд найбольш актыўнага развіцця і росквіту агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання прыпадае менавіта на час з другой чвэрці XV да сярэдзіны XVI ст., то зразумела, што згаданыя вышэй працы і публікацыі непасрэдна

[2] Чамярыцкі В. А. Гістарыяграфія беларуска-літоўскага летапісання (дасавецкі перыяд) // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография (сб. статей). Мн., 1981. С. 42—63.

[3] ПСРЛ. Т. 17: Западнорусские летописи. Спб., 1907.

[4] Сушицький Т. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури. Ч. I. Київ, 1921; Ч. II, 1929.

[5] Jučas M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968; Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969.

[6] Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

[7] ПСРЛ. Т. 32 (Белорусско-литовские летописи). М., 1975; Т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980.

датычацца нашай тэмы — беларускай літаратуры эпохі Скарыны.

Па сутнасці, толькі нядаўна пачалася больш грунтоўная і дэталёвая распрацоўка асобных перыядаў гісторыі беларускай літаратуры, у тым ліку і перыяду канца XV — першай палавіны XVI ст. Сярод даследаванняў апошняга часу варта адзначыць змястоўную кнігу В. Дарашкевіча, прысвечаную зусім недаследаванай у беларускай навуцы тэме — літаратуры на лацінскай мове[8], наватарскую манаграфію А. Мальдзіса[9], а таксама цікавую працу У. Кароткага пра жыццё і творчасць Мялеція Сматрыцкага[10]. На жаль, так і не пабачыла свет першае ў Беларусі манаграфічнае даследаванне жыцця і творчасці Сімяона Полацкага, выкананае яшчэ ў 60-я гады М. Прашковічам. Найбольш распаўсюджанай формай вывучэння беларускай старажытнай літаратуры была раней манаграфія пра асобнага пісьменніка[11]. Нарэшце, толькі ў другой палавіне XX ст. была выпрацавана сапраўды навуковая канцэпцыя шматвяковага працэсу развіцця беларускай літаратуры старажытнага перыяду і створана яе першая гісторыя[12], што падрыхтавала глебу для напісання адпаведнага падручніка для ВНУ рэспублікі[13].

Што ж датычыць канкрэтна літаратуры эпохі Скарыны, то найчасцей у розных агульных нарысах і гісторыях падаваўся толькі беглы і сціслы агляд літаратурнай прадукцыі Беларусі таго часу. Значна больш аддавалася ўвагі самому Скарыну, аднак і яго творчая дзейнасць разглядалася пераважна ў філасофскім, мовазнаўчым, кнігазнаўчым і агульнакультурным плане. Па тэме ж «Беларускі гуманіст як пісьменнік і перакладчык» зроблены пакуль што толькі асобныя назіранні.

Вывучэнне беларускай літаратуры эпохі Скарыны, стварэнне аб'ектыўнай, усебакова абгрунтаванай канцэпцыі яе развіцця немагчыма без грунтоўнай фактычнай асновы, без ведання максімальнай колькасці літаратурных фактаў і з'яў Беларусі таго часу, без комплекснага падыходу. Як вядома, у эпоху сярэдневякоўя пераважную большасць літаратурнага фонду, які бытаваў у кожнай краіне, складалі не мясцовыя, арыгінальныя творы, а літаратура іншаземнага паходжання, інтэрнацыянальная паводле свайго характару, якая была, аднак, у цеснай су-

---

[8] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979.

[9] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.). Мн., 1980.

[10] Короткий В. Г. Мелетий Смотрицкий. Мн., 1987.

[11] Гл., напрыклад: Майхровіч С. К. Георгій Скарына. Мн., 1966; Коршунов А. Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество. Мн., 1965; Прашковіч М. Францішак Скарына — беларускі першадрукар. Мн., 1970.

[12] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1: З старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы.

[13] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985.

вязі з літаратурай нацыянальнай. Гэта былі як творы, перакладзеныя на мову тутэйшага насельніцтва, так і творы на літаратурных мовах, агульнапрынятых у дадзеным рэгіёне ў якасці афіцыйных дзяржаўных, сродку міжнацыянальных зносін ці богаслужэння. Такімі ў славянскім свеце былі тады царкоўнаславянская і лацінская мовы.

Беларускія землі ў гэтых адносінах не былі выключэннем. Арыгінальныя творы на беларускай мове складалі ў XV—XVI стст. толькі невялікую частку ўсёй літаратуры, якую ведалі і чыталі тады нашы продкі. Таму без папярэдняга знаёмства хоць бы ў агульных абрысах з усёй гэтай разнастайнай і разнамоўнай пісьмовай спадчынай, без ведання агульнага літаратурнага кантэксту нельга атрымаць больш-менш праўдзівае ўяўленне пра характар і асаблівасці развіцця ўласна беларускай літаратуры таго часу. Больш таго, менавіта ўся літаратурная прадукцыя, якая актыўна бытуе на пэўнай тэрыторыі ў пэўным асяроддзі, а не толькі арыгінальныя творы, вызначаюць чытацкія запатрабаванні, літаратурныя густы і эстэтычныя ўяўленні грамадства свайго часу. Яна дасць магчымасць больш аб'ектыўна раскрыць тыя культурныя вытокі і літаратурныя традыцыі, на якіх выхоўваўся і фарміраваўся на роднай зямлі і Францыск Скарына.

### ЖЫВАЯ СПАДЧЫНА

Якія ж кнігі і творы чыталі і ведалі на Беларусі ў эпоху Скарыны? Поўнае ўяўленне пра характар тагачаснага літаратурнага фонду на беларускіх землях можна было б атрымаць на падставе знаёмства са зместам рукапісаў і друкаваных кніг, якія бытавалі тут у XV—XVI стст. і часткова дайшлі да нашага часу. На жаль, у адрозненне ад апісання беларускіх друкаваных выданняў даўняй пары, якое падрыхтавана і апублікавана [14], такога зводнага каталога рукапісаў беларускага паходжання яшчэ няма. Аднак рускія, беларускія, польскія, украінскія даследчыкі ў цэлым нямала зрабілі, асабліва за апошнія сто гадоў, па выяўленню, апісанню і вывучэнню беларускіх рукапісных кніг, мясцовых літаратурных твораў і беларускіх перакладаў XV—XVII стст. Апрача публікацыі розных звестак пра асобныя зборнікі ці творы былі складзены апісанні шмат якіх рукапісных збораў буйных прыватных і дзяржаўных бібліятэк [15], а таксама зроблены спробы падаць зводныя агляды беларускіх рукапісаў таго часу [16].

---

[14] Лукьяненко В. И. Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1 (1523—1600 гг.). Л., 1973; Вып. 2 (1601—1654 гг.). Л., 1975; Кніга Беларусі. 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986.

[15] Бельчиков Н. Ф., Бегунов Ю. К., Рождественский Н. П. Справочник-указатель печатных описей славяно-русских рукописей. М., Л., 1963.

[16] Владимиров П. В. Обзор южнорусских и западнорусских памятников письменности от XI до XVII ст. Киев, 1890.

Найбольшая заслуга ў вывучэнні беларускага пісьменства старажытнай пары належыць Я. Карскаму. Яго высокакваліфікаваныя, насычаныя багатым, нярэдка новым фактычным матэрыялам працы склалі цэлую эпоху ў беларусазнаўстве і не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці да нашага часу. Гэты даследчык паспрабаваў, і не без поспеху, выявіць у неабсяжным моры пісьмовай спадчыны ўсходніх славян уласнабеларускі фонд. Асобным, найбольш выдатным рукапісным помнікам ён прысвяціў спецыяльныя грунтоўныя даследаванні і склаў першы анацыраваны каталог беларускіх рукапісаў, якія захоўваліся і былі выяўлены на працягу XIX ст.[17] Асноўным крытэрыем для вылучэння гэтых рукапісаў быў для яго моўны прынцып. Творы, змешчаныя ў рукапісах, ён даследаваў пераважна з мовазнаўчага боку. Карскі напісаў таксама першы навуковы нарыс гісторыі беларускай старажытнай літаратуры [18].

Багатай крыніцай для выяўлення фонду рукапісаў беларускага паходжання з'яўляецца «Апісанне рукапісаў Віленскай публічнай бібліятэкі» Ф. Дабранскага (Вільня, 1882). Зборы гэтай бібліятэкі фарміраваліся пераважна з мясцовых паступленняў з манастыроў, цэркваў і ад прыватных асоб Беларусі і Літвы. Толькі з бібліятэкі Супрасльскага манастыра паступіла 109 рукапісаў. Кніга Дабранскага асабліва каштоўная тым, што ў ёй не проста анацыруецца кожны рукапіс, а падаецца дэталёвае апісанне яго зместу, называюцца ўсе творы, змешчаныя ў зборніку, падаюцца найбольш значныя і цікавыя запісы.

Апрача Вільнюса, шмат рукапісаў беларускага паходжання XV—XVI стст. зберагаецца ў бібліятэках і архівах Ленінграда, Масквы, Кіева і некаторых іншых гарадоў Савецкага Саюза, а таксама замежных краін, асабліва Польшчы. Апісанні асобных рукапісных фондаў і збораў апублікаваны. Некаторыя найбольш выдатныя і каштоўныя рукапісныя помнікі (Супрасльскі кодэкс, Радзівілаўскі летапіс) маюць ужо даволі багатую літаратуру. Аднак стварэнне поўнага каталога рукапісаў беларускага паходжання, якое, несумненна, вельмі неабходна і мае вялікае культурнае і навуковае значэнне,— справа будучага, бо яно патрабуе працяглых калектыўных намаганняў значнай групы кваліфікаваных спецыялістаў па франтальнаму сістэматычнаму абследаванню соцень рукапісных фондаў дзесяткаў розных сховішчаў. Гэта важная і працаёмкая справа ў значнай меры будзе аблегчана дзякуючы таму, што рыхтуецца фундаментальнае апісанне ўсіх рукапісаў, якія зберагаюцца ў Савецкім Саюзе. Ужо апублікаваны апісанне помнікаў пісьменства

---

[17] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I: Введение в изучение языка и народной словестности. Варшава, 1903. С. 369—397.

[18] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словестности белорусского племени. Вып. 2. Старая западнобелорусская письменность. Пг., 1921.

XI—XIII стст.[19], а таксама папярэдні спіс рукапісаў XIV і XV стст.[20]

Ф. Дабранскі апісаў 273 рукапісы на царкоўнаславянскай, старажытнарускай і старабеларускай мовах XI—XVIII стст. Пераважная большасць з іх, несумненна, беларускага паходжання. Пра гэта сведчаць мясцовыя запісы на старонках, беларускія асаблівасці ў мове некаторых рукапісаў, а таксама бытаванне гэтых кніг на беларускай тэрыторыі. З 273 рукапісаў прыблізна палавіна датуецца XV—XVI стст., г. зн. так ці інакш звязана з эпохай Скарыны, з літаратурнымі традыцыямі таго часу.

Амаль выключна гэта кнігі царкоўна-рэлігійнага характару. Яны змяшчаюць творы традыцыйнага рэпертуару: асобныя кнігі Бібліі (апосталы, евангеллі, псалтыры), творы патрыстыкі (Іаана Златавуста, Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова, Яфрэма Сірына, Іаана Дамаскіна і інш.), помнікі агіяграфіі (мінеі чэцці, пралогі, пацерыкі, жыцці святых), розныя богаслужэбныя кнігі (мінеі месячныя, ірмалогіі, актоіхі, трэбнікі, трыёдзі, служэбнікі і інш.). Сустракаюцца таксама зборнікі змешаныя паводле зместу.

Найбольш шырока для індывідуальнага чытання выкарыстоўваліся і найбольш папулярнымі сярод беларускіх чытачоў у часы Скарыны былі агіяграфічныя творы. Лепшыя апавяданніі з жыцця святых, манахаў і іншых хрысціянскіх герояў, нягледзячы на іх у цэлым дыдактычны царкоўна-рэлігійны характар, прываблівають дынамічным займальным сюжэтам, жывасцю і эмацыянальнасцю выкладу, наяўнасцю незвычайнага і легендарнага, асобнымі бытавымі дэталямі і гістарычнымі рэаліямі. У кожным пралогу, пацерыку, мінеі, зборніку жыцій змешчаны дзесяткі такіх твораў.

Дзесяткі і сотні рукапісаў беларускага паходжання захоўваюцца ў іншых буйных сховішчах Савецкага Саюза, асабліва ў Ленінградзе, у Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына і ў Бібліятэцы Акадэміі навук СССР. Сярод іх нямала кніг XV—XVI стст. Знаёмства са зместам не мяняе агульнага малюнка літаратуры, што бытавала тады на Беларусі, атрыманага ў выніку знаёмства з віленскім зборам. Гэта пераважна традыцыйныя царкоўна-рэлігійныя творы на кніжнаславянскай мове.

Бясспрэчна, трэба абавязкова ўлічваць яшчэ тую важную акалічнасць, што царкоўна-рэлігійная літаратура мела тады значна лепшыя ўмовы і магчымасці для распаўсюджання і за-

---

[19] Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в СССР. XI—XIII вв. М., 1984.

[20] Предварительный список славяно-русских рукописей XI—XIV вв., хранящихся в СССР // Археографический ежегодник за 1965 год. М., 1966. С. 177—272; Предварительный список славяно-русских рукописных книг XV в., хранящихся в СССР. М., 1986.

хавання на працягу стагоддзяў, чым свецкая літаратура. Аднак некаторыя іншыя назіранні не толькі не супярэчаць вышэй выказанаму вываду, а дадаткова пацвярджаюць агульнае правіла. Па-першае, і ў беларускіх рукапісах наступнага XVII ст. суадносіны паміж царкоўна-рэлігійнымі і свецкімі творамі ў бок павелічэння колькасці апошніх змяняюцца ў цэлым не так значна, як здаецца на першы погляд. Першыя па-ранейшаму рашуча пераважаюць над апошнімі.

Пра гэта ж, па-другое, пераканаўча сведчыць і друкаваная прадукцыя таго часу. Ад Скарыны і да сярэдзіны XVII ст. на Беларусі і Літве толькі кірыліцай было выпушчана 155 назваў кніг[21]. На дзевяць дзесятых гэта творы царкоўна-рэлігійнага характару. Да таго ж, вельмі важна адзначыць, што апосталы, евангеллі, псалтыры і іншыя рэлігійныя кнігі выдаваліся не толькі манахамі ў друкарнях манастыроў ці праваслаўных брацтваў, але таксама па ініцыятыве і на сродкі розных свецкіх асоб у прыватных друкарнях. Зразумела, што і самыя першыя кірылічныя друкаваныя выданні, кнігі Ш. Фіёля, былі таксама царкоўна-рэлігійнага зместу.

Па-трэцяе, правільнасць папярэдняга вываду пра агульны характар кніжнага фонду, што бытаваў у XV—XVI стст. на Беларусі, цалкам падмацоўвае яшчэ адзін важкі і бясспрэчны аргумент. Захаваўся вопіс аднаго з найбуйнейшых на той час кніжных збораў бібліятэкі Супрасльскага манастыра, зроблены ў 1557 г. архімандрытам Сергіем Кімбарам[22]. На момант перапісу гэты збор налічваў звыш 200 кніг, у тым ліку 13 евангелляў, 10 апосталаў, 21 псалтыр, 12 саборнікаў, 26 міней, 8 служэбнікаў, 7 пралогаў. У бібліятэцы былі таксама творы Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова, Кірылы Ерусалімскага, Яфрэма Сірына, Васіля Вялікага, Іаана Дамаскіна, Фёдара Студзіта, Дыянісія Арэапагіта, Сімяона Метафраста, Грыгорыя Сінаіта, зборнікі «Ізмарагд», «Залаты ланцуг» («Златая цепь»), «Маргарыт», «Лесвіца», «Люстра» («Зерцало»), «Шасцідзённік» («Шестоднев») і інш. У гэтым спісе мы сустракаем папулярную духоўную аповесць пра Іасафа, якая пазней, у 1637 г., была надрукавана ў Куцейне ў перакладзе на беларускую мову пад назвай «Гісторыя пра жыццё Варлаама і Іасафа»[23], розныя богаслужэбныя кнігі (трыёдзі, актоіхі, ірмалогіі, трэбнікі), рад агіяграфічных твораў. З кніг гістарычнага зместу ў Супрасльскай бібліятэцы былі «Царственник с летописцем», «Временник», «Книга о пленении Іерусалимском». Пад апошняй назвай, відаць, хаваецца «Гісторыя Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія.

---

[21] Кніга Беларусі. С. 117.

[22] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1882. С. XXVII—XXXIII.

[23] Яшчэ адзін беларускі спіс гэтага твора захаваўся ў рукапісе XV ст., які раней бытаваў у Заходняй Беларусі (Навагрудак, Жыровічы), а цяпер у Бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе (збор Дабрахотава, 37).

Звяртае ўвагу беднасць арыгінальных твораў мясцовага і старажытнарускага паходжання. У вопісу згадваюцца толькі Нячорскі пацярык і Хаджэнне ігумена Данііла.

Кніжны фонд бібліятэкі Супрасльскага манастыра можна ў цэлым разглядаць як тыповы паводле саставу для кожнага больш-менш значнага праваслаўнага манастыра Беларусі XVI ст. Гэта меркаванне цалкам пацвярджае змест бібліятэкі Траецкага (Трайчанскага) манастыра ў Слуцку, у якой у канцы XV ст. налічвалася 47 кніг[24]. Як сведчыць іх пералік, гэта таксама амаль выключна царкоўна-рэлігійная літаратура: «Правила великии, Устав, Соборник постный, Соборник годовой, Соборник жития святых, Змарагд, потребника два, служебника три, Дорофей, Ефрем, Никон, Феодор Студит, Апокалипсия, Григорей Синаит, Псалтыря в десть, Часословец... миней двадцать, триоди две, Евангелии два тетры, прелоги два, Евангелие толковое четье, книжка Лествица, Семион Новый Богослов, Апостол тетр, а другой апракос, Устав, Псалтыря, Патерик Печерский».

Манастыры былі ў эпоху сярэдневякоўя значнымі кніжнымі цэнтрамі, дзе кнігі не толькі зберагаліся, але і множыліся. Пры буйных манастырах былі свае скрыпторыі, дзе спецыяльныя групы манахаў старанна перапісвалі кнігі як для ўнутраных патрэб, так і для патрэб прыходскіх цэркваў, а таксама на рынак. Гэту функцыю своеасаблівых фабрык па выпуску рукапіснай кніжнай прадукцыі манастыры яшчэ доўга выконвалі пасля з'яўлення друкарскага станка.

Зразумела, што царква асабліва была зацікаўлена ў пашырэнні кніг рэлігійнага характару. Дзякуючы манастырам, а таксама надзвычай шырокай, актыўнай і няспыннай прапагандысцкай працы ўсяго хрысціянскага духавенства, якое захоўвала манаполію на кніжную асвету і вызначала тагачасную кніжную палітыку, кніга пастулова пранікала ў розныя слаі насельніцтва і служыла тады перш за ўсё інтарэсам царквы, умацаванню хрысціянскай веры, выхаванню людзей у духу яе ідэалаў і маральных прынцыпаў, фарміраванню царкоўна-рэлігійнага светапогляду. Гэта кніжная палітыка духавенства мела поўную падтрымку ў свецкіх улад, бо хрысціянская рэлігія была ідэалагічным абгрунтаваннем і апраўданнем існуючага феадальнага ладу.

Буйныя кніжныя зборы мелі не толькі манастыры, а іх тады на Беларусі быў не адзін дзесятак, але і саборы, і некаторыя з іх вельмі значныя. Асаблівую цікавасць выклікаюць у дадзеным выпадку звесткі некаторых дакладных крыніц пра існаванне такой бібліятэкі пры Полацкай Сафіі. Агульнавядома паведамленне пра гэту бібліятэку польскага гісторыка XVI ст.

---

[24] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1 (1340—1506 гг.). Спб., 1846. С. 137.

Р. Гейдэнштэйна, які ў сваіх «Запісах пра Маскоўскую вайну», расказваючы пра ўзяцце Стэфанам Баторыем Полацка ў 1579 г., адзначаў: «У вачах адукаваных людзей амаль не меншую каштоўнасць, чым ўся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка. Апрача летапісаў у ёй было шмат твораў грэчаскіх айцоў царквы, і сярод іх твор Дыянісія Арэапагіта пра нябесную і царкоўную іерархію, усё на славянскай мове»[25].

Можна толькі здагадвацца, якія вялікія каштоўнасці пісьменнай культуры Беларусі зберагаліся ў мурах Сафійскага сабора ў Полацку, унікальны кніжны збор якога пачаў фарміравацца яшчэ з часоў Усяслава Чарадзея і Ефрасінні Полацкай. Увесь горад, у тым ліку і бібліятэка, былі аддадзены тады на разрабаванне пераможцам. Шмат беззваротна загінула, частка кніг была вывезена ў Польшчу.

Нядаўна рускі вучоны Я. Шчапаў паспрабаваў выявіць асобныя кнігі той славутай полацкай Сафійскай бібліятэкі XVI ст., некаторыя рукапісы якой, магчыма, трымаў у руках сам Францыск Скарына, і ў агульных абрысах рэканструяваць яе састаў[26]. У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у зборы Залускіх ён вылучыў 11 рукапісаў, большасць з іх якраз канца XV — першай палавіны XVI ст., з рознымі полацкімі запісамі. Адна кніга полацкага паходжання, пралог першай чвэрці XVI ст., знойдзена гэтым вучоным у бібліятэцы Львоўскага універсітэта.

Знаёмства са зместам выяўленых рукапісаў полацкай Сафіі не мяняе агульнага малюнка кніжных фондаў тагачаснай Беларусі. У гэтых кнігах змешчаны амаль выключна помнікі традыцыйнага царкоўна-рэлігійнага пісьменства іншаземнага паходжання: «Златаструй», «Златавуст», Палея тлумачальная, «Шасцідзённік» Севярына Гевальскага, словы Яфрэма Сірына, асобныя кнігі Старога запавету, Евангелле вучыцельнае, Псалтыр, творы вядомых візантыйскіх багасловаў і Кірылы Тураўскага, апакрыфічныя аповесці «Страсці Хрыстовы» і «Адкрыццё» Мяфодзія Патарскага. З твораў старажытнарускай літаратуры сустракаем толькі два помнікі — Хаджэнне ігумена Данііла і Пскоўскі летапіс. Увесь кніжны фонд Сафійскай бібліятэкі налічваў, напэўна, не адну сотню рукапісаў. Былі там, несумненна, і вельмі даўнія і унікальныя, яшчэ на пергамене.

Хоць у параўнанні з творамі зарубежнай літаратуры пераважна грэка-візантыйскага паходжання арыгінальная старажытнаруская колькасна не так багата, аднак яе значэнне ў ста-

---

[25] Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582). Спб., 1889. С. 71—72.

[26] Щапов Я. Н. О судьбе библиотеки полоцкого Софийского собора // Вопр. истории. 1974. № 6; Яго ж. Библиотека полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976. С. 262—282.

наўленні ўласна беларускай літаратуры цяжка пераацаніць. І храналагічна, і тэматычна, і паводле зместу гэта літаратура стаяла бліжэй да беларускага чытача эпохі Скарыны, была для яго больш роднай і зразумелай, чым іншаземная літаратура. Уплыў развітой зарубежнай літаратуры на менш развітую мясцовую, зразумела, не праходзіць бясследна і пры спрыяльных умовах мае вялікае стымулюючае значэнне. Аднак роля ўласных традыцый, мясцовых умоў і патрэб, асабліва на раннім этапе развіцця нацыянальнай культуры, як правіла, аказваецца рашаючай, найбольш жыватворчай.

Апрача згаданых вышэй Пацерыка Пячорскага і Хаджэння ігумена Данііла ў «святую зямлю», на беларускіх землях бытавала ў эпоху Скарыны нямала іншых помнікаў старажытнарускай літаратуры. У радзе зборнікаў XVI ст. беларускага паходжання сустракаюцца творы Кірылы Тураўскага і Грыгорыя Цамблака[27]. Вельмі папулярным было «Жыццё Барыса і Глеба», якое захавалася ў шматлікіх рукапісах XV—XVI стст. Адзін з найбольш выдатных з іх — Чэцця 1489 г., перапісаная ў Камянцы паповічам Бярозкам з Навáградка і характэрная выразнымі беларускімі асаблівасцямі ў мове. У гэтым зборніку твор азагалоўлены: «Сказание, страсть и похвала святых мученик Бориса и Глеба».

Шырока прадстаўлены ў беларускіх спісах жыціі як агульнахрысціянскіх, так і агульнарускіх святых. Так, напрыклад, толькі ў Вільнюсе ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР захоўваецца каля 30 рукапісаў, найбольш XVI ст., пісаных кірыліцай, у якіх змешчаны амаль 300 жыцій святых, у тым ліку больш дваццаці — рускай праваслаўнай царквы. Прычым пераважна апошнім спецыяльна прысвечаны два зборнікі: адзін XV ст., раней зберагаўся ў бібліятэцы Жыровіцкага манастыра, другі XVI ст., з Супрасля. У гэтых рукапісах чытаюцца жыціі Барыса і Глеба, Аляксея, мітрапаліта кіеўскага, Феадосія Пячорскага, Пятра, мітрапаліта кіеўскага, Кірылы Белазерскага, Лявонція Растоўскага, Міхаіла Чарнігаўскага, Варлама Хутынскага, Сяргея Раданежскага і інш.

Для нас найбольшую цікавасць маюць, безумоўна, жыціі мясцовага паходжання. Бадай, самае ранняе з іх — «Жыццё Ефрасінні Полацкай». Яно напісана, несумненна, у Полацку невядомым аўтарам духоўнага сану, хутчэй за ўсё неўзабаве пасля яе смерці (1173), г. зн. дзесьці ў канцы XII — пачатку XIII ст. Пра яго старажытнасць сведчаць архаічнасць мовы, у аснове царкоўнаславянскай без прыкметных беларускіх рыс, а таксама сам змест твора, яго гістарычныя рэаліі і бытавыя дэталі, якія мог ведаць толькі сучаснік галоўнай гераіні.

Захавалася шмат спісаў (каля 100) гэтага агіяграфіч-

---

[27] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки. С. 11, 92, 117, 211, 219, 220, 224, 227, 417, 420, 421.

нага твора. Адзін з іх — у Супрасльскім пралогу пачатку XVI ст., цяпер у Вільнюсе. Што «Жыццё Ефрасінні Полацкай» было добра вядома на Беларусі ў часы Скарыны, паказваюць даныя беларуска-літоўскіх летапісаў. У другой, пашыранай рэдакцыі «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» коратка закранаецца гісторыя Полацка часоў Старажытнай Русі. Ананімны храніст, расказваючы пра першых полацкіх князёў, згадвае Рагвалода-Васіля, які меў сына Глеба і дачку Параскоўю. «И тая Парасковея обецалася девство свое заховати в цэлости до жывота своего и пострыглася в чернцы у святого Спаса у манастыры над Полотою, и мешкала там сем лет, богу служечы и книги пишучы на цэрков»[28]. Не закранаючы тут праблемы гістарычнай дакладнасці звестак гэтай хронікі пра полацкіх князёў, адзначым толькі, што ўстаўка пра полацкую манашку-кніжніцу Параскоўю, несумненна, навеяна знаёмствам беларуска-літоўскага храніста з жыціем пра Ефрасінню Полацкую, якая мела свецкае імя Прадслава і пры жыцці якой у XII ст. у Полацку двойчы княжыў Рагвалод Барысавіч.

Яшчэ больш папулярным на ўсходнеславянскіх землях было «Жыццё Аўрамія Смаленскага», напісанае па-царкоўнаславянску яго вучнем смаленскім манахам Яфрэмам дзесьці ў другой чвэрці XIII ст. Сярод шматлікіх яго спісаў (каля 30), якія дайшлі да нашага часу, сустракаюцца і беларускія: Жыровіцкі XV ст., Супрасльскі XVI ст. і некаторыя іншыя[29]. Як і «Жыццё Ефрасінні Полацкай», на беларускую мову гэта жыціе, відаць, не перакладалася.

Прыкладна 10 беларускімі спісамі рознага часу прадстаўлена «Жыццё літоўскіх пакутнікаў», якое ўзнікла за межамі Беларусі, але тэматычна звязана з яе гісторыяй[30]. У арыгінале назва твора гучыць так: «Мучение святых новоявленых мученик, родем Литвы, Иоана, Антония, Еустафья, литовьскаа же им имена Круглець, Кумець, Нежило». Большасць вядомых яго спісаў XVI ст.: Навагрудскі 1512 г. (у пралогу), Супрасльскі пачатку XVI ст. (у зборніку жыцій святых), Віленскі XVI ст. (у зборніку жыцій святых, з Супрасля), Слуцкі XVI ст. (у мінеі) і інш. Адзін спіс, Жыровіцкі, датуецца XV ст. Мова гэтага помніка, як і пераважнай большасці царкоўна-рэлігійных твораў таго часу, што бытавалі на беларускіх землях,— кніжнаславянская.

Значна радзей сустракаюцца ў беларускіх рукапісах XV—XVI стст. свецкія творы старажытнарускай літаратурнай спадчыны. Сярод тых, што былі добра вядомы на беларускіх землях у эпоху Скарыны, найперш трэба назваць перакладныя аповесці

[28] ПСРЛ. Т. 35: Летописи белорусско-литовские. С. 147.

[29] Розанов С. П. Жития преподобного Авраамия Смоленского и службы ему. Спб., 1912; Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки. С. 102, 113, 201, 204.

[30] Сперанский М. Н. Сербское житие литовских мучеников. М., 1909.

пра Траянскую вайну і Аляксандра Македонскага. Іх згадвае сам Скарына. «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей или книги Махавеев,более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи»,— пісаў ён у «Предсловии... во всю Бивлию». На нашу думку, змест і характар гэтага выказвання сведчаць не пра супрацьпастаўленне гэтых папулярных твораў сярэдневяковай белетрыстыкі асобным, гістарычным кнігам Бібліі. Якраз наадварот. Беларускі гуманіст, параўноўваючы іх паміж сабою, ставіць усіх іх у адзін жанрава-тэматычны рад як з'явы шмат у чым блізкія, агульныя. Упершыню прадстаўляючы шырокаму беларускаму чытачу малавядомыя для яго біблейскія творы, Скарына параўноўваў апошнія з іншымі, больш вядомымі, і гэтым самым адначасова дадаткова рэкламаваў і Біблію і «Трою» з «Александрыяй».

Гэтыя яркія помнікі гістарычнай белетрыстыкі служылі на беларускіх землях у эпоху Скарыны не толькі для займальнага чытання, але і як крыніца ведаў і мастацкіх вобразаў, як літаратурны ўзор для пераймання. Так, напрыклад, невядомы аўтар «Пахвалы гетману Канстанціну Астрожскаму» (каля 1515 г.) узнёсла пісаў, што беларуска-літоўскія воіны «уподобилися есте своим мужством храбрым макидоняном...»[31], а свайго героя смела параўноўваў з Антыёхам, палкаводцам Аляксандра Македонскага, індыйскім царом Порам і Тыгранам, царом армянскім, гэтым самым сведчыўшы добрае веданне тэксту «Александрыі».

Устойлівая цікавасць назіраецца на Беларусі ў XV—XVI стст. да твораў гістарычнага жанру, у прыватнасці да летапісаў і хронік. Лепшыя помнікі летапісання Старажытнай Русі здаўна бытавалі тут, чыталіся, перапісваліся, перапрацоўваліся і выкарыстоўваліся пры складанні мясцовых летапісных зводаў і кампіляцый. Розныя прычыны падтрымлівалі папулярнасць твораў летапіснага жанру сярод розных слаёў беларускага грамадства таго часу. Але, бадай, самым галоўным было выразнае ўзмацненне цікавасці да свайго мінулага, выкліканае актыўным ростам гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа ў эпоху Адраджэння.

Дзесяткі летапісных твораў у сотнях спісаў бытавалі на землях усходніх славян у эпоху Скарыны. Многія з іх пранікалі і на тэрыторыю Беларусі. Як сведчаць розныя прамыя і ўскосныя даныя, нашы продкі ведалі «Аповесць мінулых гадоў», якая, як правіла, бытавала ў складзе іншых летапісных зводаў, Галіцка-Валынскі летапіс, а таксама некаторыя летапісныя помнікі маскоўскага, ноўгарадскага, пскоўскага паходжання. Да прыкладу, вядомы летапіс Аўрамкі быў двойчы перапісаны беларускімі кніжнікамі. Беларускага, верагодней за ўсё, пахо-

[31] ПСРЛ. Т. 35. С. 126.

джання і славуты Радзівілаўскі летапіс, які да перадачы ў XVII ст. у Кёнігсберг, зберагаўся на Беларусі. Маскоўскі летапіс Фоція ў другой чвэрці XV ст. быў пакладзены ў аснову агульнарускай часткі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г., а Галіцка-Валынскі летапіс быў шырока выкарыстаны ў першай палавіне XVI ст. складальнікамі «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Хронікі Быхаўца».

Дэталёвы аналіз характару выкарыстання старажытнарускіх летапісаў беларускімі летапісцамі і даследаванне ролі ідэйна-мастацкіх традыцый летапісання не ўваходзіць цяпер у нашу задачу, тым больш што гэтыя праблемы ўжо часткова закраналіся намі раней[32]. Як вывад, неабходна толькі адзначыць, што ўплыў гэтых традыцый быў вельмі значным і плённым, асабліва ў XV ст., на раннім этапе станаўлення ўласна беларускага летапісання. Старажытнарускія летапісы стымулявалі ўзнікненне Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. і часткова прадвызначылі яго змест, ідэйную накіраванасць і жанравую форму. Для беларуска-літоўскіх храністаў першай палавіны XVI ст. характэрна больш творчае, больш самастойнае выкарыстанне старажытнарускай летапіснай спадчыны.

Такім чынам, на беларускіх землях у XV—XVI стст. бытавала багатая і разнастайная літаратурная спадчына, аснову якой складаў кніжны фонд пісьменства на царкоўнаславянскай мове, што перайшоў яшчэ ад Кіеўскай Русі, але працягваў актыўна функцыяніраваць. Зразумела, у прапагандзе гэтай пераважна царкоўна-рэлігійнай, касмапалітычнай, грэка-візантыйскай паводле паходжання літаратуры, шмат у чым агульнай для ўсяго ўсходнееўрапейскага праваслаўнага рэгіёна, была зацікаўлена перш за ўсё праваслаўная царква. Менавіта дзякуючы яе намаганням гэтая хрысціянская літаратура захавалася ў даволі значным аб'ёме і ў амаль поўным саставе.

Як вядучая ідэалагічная сіла духавенства імкнулася фарміраваць светапогляд усяго грамадства, у тым ліку і чытацкія густы людзей эпохі сярэдневякоўя ў патрэбным, выгадным для сябе кірунку. Будучы вялікай культурнай, але вельмі кансерватыўнай сілай, яно настойліва культывавала і прапагандавала перш за ўсё традыцыйныя, асвечаныя часам, хрысціянскай царквою і яе вышэйшымі аўтарытэтамі творы кананічнай, богаслужэбнай і, больш шырока, клерыкальнай літаратуры. Гэтым і тлумачыцца адпаведны змест і характар кніжных збораў манастыроў, сабораў, буйных царкоўных іерархаў, што часткова зберагліся да нашага часу. Усё гэта моцна стрымлівала раз-

[32] Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969; Яго ж. Работа автора первого белорусско-литовского свода над русскими источниками // Летописи и хроники. 1980 г. М., 1981. С. 182—189; Чамярыцкі В. А., Коршунаў А. Ф., Лойка А. А. Традыцыі літаратуры Старажытнай Русі ў беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1982. С. 8—16.

віццё на мясцовай глебе свецкай, рыцарскай, гарадской і народна-дэмакратычнай літаратуры, а таксама пранікненне і шырокае распаўсюджанне на Беларусі ў XV—XVI стст. багатай антычнай літаратуры, заснаванай на зусім іншых ідэйна-мастацкіх крыніцах і эстэтычных ідэалах, на гуманістычнай язычніцкай міфалогіі, і класічных твораў еўрапейскага Рэнесансу.

Трэба ўлічваць яшчэ, што кніжны фонд, які быў у абарачэнні на беларускіх землях у эпоху Скарыны, складаўся не толькі з рукапісаў XV — першай палавіны XVI ст., але і ранейшага часу — XI—XIV стст. Іх тады было, несумненна, у шмат разоў больш, чым мы ведаем сёння. Гэта дадаткова надавала ўсёй тагачаснай літаратуры традыцыйны і архаічны характар, хоць сучаснікі Скарыны не зусім так яе ўспрымалі. Наадварот, старыя рукапісы, асабліва пергаменныя, карысталіся ў нашых продкаў большай павагай і аўтарытэтам, чым новыя. У апошнія нярэдка закрадваліся розныя навацыі, што не ўхвалялася ў сярэдневяковым грамадстве, арыентаваным на традыцыйныя ўзоры і каштоўнасці, выклікала недавер, падазрэнне і нават абвінавачанне ў ерасі.

Правільны ў цэлым вывад пра агульны характар кніжнай традыцыі Беларусі XV—XVI стст., атрыманы на падставе знаёмства з фондамі некаторых манастырскіх бібліятэк таго часу, нельга, зразумела, абсалютызаваць і цалкам пераносіць яго на характарыстыку ўсяго пісьменства, што бытавала тады ў розных слаях беларускага грамадства. Думаецца, прыватныя кніжныя зборы свецкіх асоб былі некалькі іншымі, чым манастырскія, і адрозніваліся не толькі колькасна, але і якасна. Буйны шляхціц альбо багаты мешчанін меў, несумненна, не толькі крыху іншыя, чым манах ці святар, культурныя запатрабаванні, чытацкія інтарэсы, эстэтычныя густы і нават маральныя прынцыпы. Ён меў таксама некалькі іншыя ўмовы і магчымасці сцвярджаць і выяўляць сваё індывідуальнае я, меў свой сацыяльны статус, вёў свой вобраз жыцця, адпаведны яго грамадскаму становішчу. Усё гэта адпаведна вызначала і змест і характар той літаратуры, якую ён імкнуўся набываць і чытаць. Творы свецкай літаратуры, займальныя і гумарыстычныя, а таксама гістарычнай тэматыкі, карысталіся найбольшай папулярнасцю ў асяроддзі беларускай шляхты і мяшчан у часы Скарыны і пазней.

На жаль, такая літаратура зберагалася па розных прычынах значна горш, чым клерыкальная. Шмат свецкіх твораў не дайшло да нас. Сёння мы не можам нават уявіць, наколькі бяднейшая без іх наша літаратура. Нагадаем адзін паказальны прыклад. Толькі шчаслівы выпадак выратаваў для чалавецтва геніяльнае «Слова пра паход Ігаравы»: адзіны яго спіс, які пасля загінуў, своечасова папаў у рукі адукаванага чалавека і быў апублікаваны. А колькі выдатных твораў так і не дачакалася сваіх Мусіных-Пушкіных? Такі ж лёс напаткаў бы і «Хроніку

Быхаўца», каб не папалася яна ў рукі гісторыка Т. Нарбута, бо ўнікальны рукапіс гэтага помніка таксама загінуў яшчэ ў XIX ст.

У адрозненне ад бібліятэк манастырскіх, саборных і духоўных іерархаў, падбор літаратуры для якіх быў абумоўлены вузкаслужбовымі ідэалагічнымі задачамі царкоўна-рэлігійнай прапаганды, прыватныя кніжныя зборы свецкіх асоб вылучаліся большай разнастайнасцю. Іх камплектаванне больш залежала ад асабістых інтарэсаў і густаў, узроўню і характару адукацыі, сацыяльнага статуса, культурных сувязей і агульнага кругагляду ўладальнікаў. Спецыфічная асаблівасць развіцця гэтых збораў у часы Скарыны — паступовае павелічэнне фонду свецкіх твораў, а таксама з'яўленне лацінскай, галоўным чынам ужо друкаванай кнігі.

Гэта якаснае абнаўленне кніжнай прадукцыі, што бытавала на беларускіх землях у другой палавіне XV — першай палавіне XVI ст., было выклікана агульным ростам культуры, цягі да ведаў, адукаванасці ў тагачасным беларускім грамадстве, яго секулярызацыяй і гуманізацыяй, пашырэннем рознабаковых узаемасувязей з перадавымі краінамі, якія перажывалі тады бліскучую пару росквіту культуры і мастацтва, эпоху Адраджэння. Прыкметна павялічылася колькасць беларусаў, якія бывалі за межамі Радзімы і атрымоўвалі вышэйшую адукацыю ва ўніверсітэтах Заходняй Еўропы, дзе мовай асветы, навукі, літаратуры была латынь. Дзякуючы апошняй адкрываўся доступ да багатай антычнай і жыццесцвярджальнай рэнесансавай культуры.

Пашырэнню ў нас у мінулым лацінскай кнігі спрыяла яшчэ і тая акалічнасць, што Беларусь непасрэдна межавала з краінай, дзе панавала каталіцкая царква і лацінская пісьменнасць і з якой яна яшчэ з часоў Крэўскай уніі (1385 г.) падтрымлівала цесныя палітычныя і культурныя ўзаемасувязі,— з Польшчай. Вельмі важным культурна-гістарычным фактарам, які садзейнічаў умацаванню ў Вялікім княстве Літоўскім уплываў каталіцкай царквы і пашырэнню лацінскай кнігі, было таксама тое, што складовая частка гэтай краіны, этнічная Літва, яшчэ ў канцы XIV ст. прыняла хрышчэнне па каталіцкаму абраду. Своеасаблівым цэнтрам узаемасувязей і ўзаемапранікнення, адштурхоўвання і збліжэння, сінтэзу і ўзбагачэння двух культур, праваслаўнай усходнеславянскай і лаціна-каталіцкай, была тагачасная палітычная і культурная сталіца літоўскага і беларускага народаў Вільня.

З-за адсутнасці дакладных фактычных даных цяжка сказаць што-небудзь пэўнае і канкрэтнае пра змест і характар зусім нешматлікіх яшчэ тады збораў лацінскіх кніг прыватных бібліятэк Беларусі другой палавіны XV — першай палавіны XVI ст., а тым больш аб'ектыўна і ўсебакова раскрыць ролю і значэнне лацінамоўнай літаратурнай спадчыны ў працэсе ста-

наўлення ўласна беларускай літаратуры. Гэта праблема грунтоўна яшчэ не даследавана, зроблены толькі папярэднія назіранні [33], на падставе якіх немагчыма будаваць усебакова абгрунтаваныя і пераканаўчыя навуковыя вывады. Даныя ж, якія захаваліся (звесткі пра бібліятэкі літоўскага магната А. Гаштольда, літоўскага пратэстанта А. Кульвы і інш.), маюць толькі ўскоснае дачыненне да гісторыі кнігі на Беларусі. Нельга лічыць тыповай для беларускіх зямель эпохі Скарыны і ўнікальную віленскую бібліятэку караля Жыгімонта II Аўгуста [34], бо што мог кароль ці буйны магнат, не мог радавы, хоць і адукаваны шляхціц ці мешчанін. Апрача таго, яна не прызначалася для шырокага карыстання. Доступ да яе мела абмежаванае кола знатных прыдворных асоб.

У цэлым лацінская кніга на незразумелай шырокаму чытачу, далёкай ад роднай мове не магла супернічаць з традыцыйнай кнігай на царкоўнаславянскай і старабеларускай мовах па сваёй даступнасці і масавасці. I ўсё ж яна мела вялікую прыцягальную сілу, бо адкрывала цэлы свет, новы, невядомы, свет іншых, чым у хрысціянскай літаратуры, ідэалаў і эстэтычных каштоўнасцей, але па-свойму блізкі жывы і прывабны свет паэтычнай язычніцкай міфалогіі, неўміручай культуры антычнай Грэцыі і Рыма. Такі свет адкрываўся далёка не кожнаму, хто мог чытаць лацінскія тэксты без слоўніка, а хутчэй таму, хто быў пазбаўлены хрысціянскага рэлігійнага фанатызму, быў дастаткова адукаваны і падрыхтаваны, каб адчуваць жывы дух старажытнай мовы і захапляцца велічнымі вобразамі герояў класічнай антычнай літаратуры.

I апошняе. Не кожная кніга на лацінскай мове была свецкая высокамастацкая, гуманістычная. У Заходняй Еўропе ў часы Скарыны, як і ва Усходняй, хапала літаратуры клерыкальнай, кансерватыўнай, тыпова сярэдневяковай, ад якой веяла духам ваяўнічага хрысціянства і рэлігійнага фанатызму і якую каталіцкае духавенства, як і праваслаўнае, таксама настойліва прапагандавала і распаўсюджвала, у тым ліку і на Беларусі, дзе ўжо ў XIV ст. пачалі з'яўляцца каталіцкія місіянеры і закладацца першыя касцёлы [35]. Таму роля лацінскай мовы і літаратуры, таксама як і царкоўнаславянскай, а пазней польскай, у гісторыі беларускай культуры вельмі неадназначная, супярэчлівая.

Старая літаратурная спадчына на царкоўнаславянскай і, часткова, лацінскай мовах, што бытавала на Беларусі ў XV—XVI стст., не толькі сведчыць пра характар духоўных запатрабаванняў беларускага грамадства таго часу, гістарычны ўзровень яго культуры, але і дапамагае лепш зразумець той літара-

---

[33] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979. С. 48—72.

[34] Hartleb K. Biblioteka Zygmunta Augusta. Lwów, 1928.

[35] Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972.

турны кантэкст эпохі, у сувязі з якім развівалася мясцовая літаратура, тыя літаратурныя традыцыі, якія ўплывалі на апошнюю, спрыяючы альбо стрымліваючы яе развіццё. Без гэтай «чужой» літаратуры агульны малюнак усёй літаратуры будзе няпоўны, збеднены.

Зразумела, запазычаныя творы іншамоўнай літаратуры належаць у першую чаргу таму народу, які іх стварыў. Аднак у эпоху сярэдневякоўя, калі шмат якія творы бытавалі ананімна, без выразна пазначанага часу і месца ўзнікнення, а сваё і чужое часцей размяжоўвалася паводле моўнага прынцыпу, многія творы замежнай літаратуры не проста механічна перапісваліся і чыталіся, а станавіліся арганічнай часткай жывога літаратурнага працэсу той краіны, куды яны траплялі. Літаратурная гісторыя гэтых твораў працягвалася і на чужой глебе: яны перакладаліся, перараблялі, уключаліся ў іншы літаратурны кантэкст, творча выкарыстоўваліся адпаведна з новымі культурна-гістарычнымі ўмовамі і духоўнымі запатрабаваннямі часу, месца і асяроддзя. Перакладчыкі і перапісчыкі нярэдка сур'ёзна ўмешваліся ў чужы тэкст, становячыся ў той ці іншай меры іх сааўтарамі. Такія творы справядліва далучаюцца таксама да духоўнага набытку, да культурнай спадчыны і таго народа, дзе яны бытавалі, і слушна ўключаюцца ў гісторыю яго нацыянальнай літаратуры.

Я. Карскі, адбіраючы творы для гісторыі беларускай старажытнай літаратуры, з вядомых яму сотень рукапісаў беларускага паходжання вылучыў крыху больш 100 з выразна беларускімі моўнымі асаблівасцямі. З гэтай колькасці каля палавіны кніг часоў Скарыны, а дзевяць дзесятых — традыцыйныя кнігі царкоўна-рэлігійнай літаратуры [36]. У гэтым спісе мы сустракаем Трыёдзь 1466 г., Прытачнік 1483 г., Мінею 1487 г., славутую Чэццю 1489 г., перапісаную ў Камянцы Бярозкам з Навагрудка, кнігу павучанняў Яфрэма Сірына 1492 г., Пралог 1496 г., Псалтыр другой палавіны XV ст., Пралог 1512 г., Пяцікніжжа Майсея 1514 г., Евангелле 1520 і 1539 гг., Псалтыр 1543 г., Часаслоў і Трэбнік XVI ст., зборнік слоў і павучанняў Іаана Златавуста XVI ст., Жыціі святых XVI ст., Мінею чэццю XVI ст., Кормчую XVI ст., рад зборнікаў розных твораў, як рэлігійных, так і свецкіх, і інш.

Значна большую каштоўнасць маюць пераклады на беларускую мову твораў замежнай літаратуры. У часы Скарыны сярод гэтых перакладаў рашуча пераважалі творы царкоўна-рэлігійнага зместу. Захаваўся рад цікавых зборнікаў беларускіх перакладаў духоўных аповесцей другой палавіны XV — першай палавіны XVI ст. Найбольш выдатны з іх ленінградскі канца

---

[36] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I: Введение в изучение языка и народной словесности. С. 369—397.

XV ст., у якім змешчаны «Жыццё Аляксея, чалавека божага», «Страсці Хрыстовы» і «Аповесць пра трох каралёў».

«Жыццё Аляксея» было адным з найбольш папулярных твораў агіяграфічнага жанру ў хрысціянскім свеце. Усходнім славянам яно стала вядомым яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі [37]. П. Уладзіміраў, які ўпершыню апублікаваў беларускі пераклад гэтага твора, сцвярджаў, што яго тэкст блізкі да лацінскай рэдакцыі, змешчанай у вядомым зборніку жыцій XIII ст. «Залатая легенда» італьянца Якапа Варагіна (з Варацца). Што ж датычыцца непасрэднай крыніцы гэтага перакладу, то ёю, на думку вучонага, хутчэй за ўсё быў чэшскі тэкст [38]. Я. Карскі, вызначаючы крыніцы беларускіх перакладаў вышэй згаданых аповесцей, вагаўся, не могучы канчаткова вырашыць, польскі ці лацінскі гэта быў тэкст, але ў рэшце рэшт аддаваў перавагу апошняму [39].

У «Аповесці пра трох каралёў» апавядаецца пра з'яўленне на свет пры незвычайных абставінах у горадзе Віфлееме, што ў Палестыне, бога-чалавека Ісуса Хрыста, нараджэнне якога было прадсказана прарокамі. Даведаўшыся пра гэта, тры ўсходнія цары-язычнікі Мельхіёр, Бальтазар і Яспер дзівосным чынам здзяйсняюць першае хаджэнне ў «святую зямлю», наведваюць нованароджанага і падносяць яму свае дарункі. Ішлі яны не спыняючыся і не стамляючыся, нічога не елі і не пілі, не спалі, а шлях ім наперад паказвала і асвятляла віфлеемская зорка. Вярнуўшыся на радзіму, цары з цягам часу прынялі хрышчэнне, актыўна садзейнічалі хрысціянізацыі сваіх краін і памерлі ў глыбокай старасці як благаверныя.

Твор насычаны фантастыкай, верай у звышнатуральнае. Аднак ён цікавы як сведка духоўных запатрабаванняў пэўнага кола чытачоў Беларусі XV—XVI стст., адна з крыніц іх гісторыка-геаграфічных уяўленняў пра краіны Блізкага Усходу. У аповесці апісваецца прырода арабскіх зямель, побыт і звычаі мясцовага насельніцтва, а таксама веравызнаўчыя і некаторыя этнічныя асаблівасці розных хрысціянскіх народаў — грэкаў, сірыйцаў, армян, грузін, коптаў і інш. Жывы водгалас часу, рэха вострай палемічнай барацьбы, якая няспынна вялася ў хрысціянскім свеце і падточвала яго адзінства, гучыць у характэрным прызнанні аўтара (ці перакладчыка): «Кажне отщепение [христианства] другого ненавидить и проклинаеть» [40].

«Аповесць пра трох каралёў» мае апакрыфічны характар, бо ў кананічнай літаратуры такой разгорнутай гісторыі падарож-

---

[37] Адрианова В. П. Житие Алексея, человека божия, в древней русской литературе и народной словесности. Пг., 1917.

[38] Владимиров П. Житие св. Алексея, человека божия, в западнорусском переводе конца XV века // ЖМНП. 1887. Ч. CCLII. № 10. С. 250—267.

[39] Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 286—289.

[40] Перетц В. Н. Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском списке XV века // Памятники древней письменности и искусства. Т. CL (150). Спб., 1903.

жа ў «святую зямлю» трох усходніх цароў няма. Твор напісаны ў XIV ст. нямецкім манахам Іаганам з Гільдасгейма, які ў Бібліі (Евангелле ад Мацвея) мог знайсці толькі кароткае паведамленне пра мудрацоў, што прыйшлі з Усходу ў Віфлеем пакланіцца нованароджанаму Ісусу Хрысту і знайшлі яго па яркай зорцы, якая ўзышла над тым месцам, дзе ён нарадзіўся. Даследчыкі не прыйшлі да адзінай думкі наконт таго, з якой мовы «Аповесць пра трох каралёў» была перакладзена на беларускую, з польскай ці лацінскай. У адным з рускіх рукапісаў твор названы: «Слово о житии и о хождении трех королев персидскых».

Вядомая легендарная гісторыя прапаведніка Ісуса Хрыста падрабязна выкладзена ў перакладной аповесці «Страсці Хрыстовы» («Пакуты Хрыста»). У Маскоўскім спісе канца XV — пачатку XVI ст. твор мае загаловак: «О умучении пана нашего Есу Криста»; у Варшаўскім таго ж часу ён названы «Повестью о мучении Исуса Христа», а ў Ленінградскім ролю загалоўка выконвае першы сказ: «Мука господа нашего Исуса Христа от преворотных жидов таким обычаем сталася есть».

Сюжэт аповесці ў асноўным паўтарае змест кананічнага Евангелля, аднак у ёй больш свабодна і дэталёва распрацоўваюцца шмат якія моманты і эпізоды, больш падрабязна і маляўніча апісваецца гісторыя смерці Ісуса Хрыста, больш шырока і жыва падаюцца вобразы багародзіцы і Пілата. Адной з галоўных крыніц твора паслужыла апакрыфічнае Евангелле ад Мікодыма. На думку Я. Карскага, «Страсці Хрыстовы» — «гэта асобая аповесць пра мучэнне Ісуса Хрыста, перакладзеная з якойсці польскай рукапіснай аповесці, складзенай на падставе некалькіх лацінскіх паданняў, якія злучаны месцамі даволі няўмела» [41]. Першы выдавец беларускага перакладу М. Тупікаў не сумняваўся ў тым, што ён узыходзіць да лацінскага тэксту праз пасрэдніцтва польскага [42].

Пераклады гэтых традыцыйных, чыста сярэдневяковых паводле паходжання і характару, выразна рэлігійных паводле зместу і накіраванасці помнікаў хрысціянскай літаратуры рэзка вылучаюцца сярод іншых перакладных і арыгінальных твораў Беларусі эпохі Скарыны рэдкім багаццем, надзвычай шырокім выкарыстаннем сродкаў жывой, народнай беларускай мовы. У гэтых адносінах яны значна апярэдзілі свой час. Паводле моўнай сістэмы яны стаяць побач з лепшымі беларускімі перакладамі другой палавіны XVI ст., такімі, як аповесці пра Трыстана і Баву, «Гісторыя пра Атылу», і некаторымі іншымі. Дасканалыя, высокамастацкія беларускія пераклады разгледжа-

---

[41] Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. С. 285.

[42] Тупиков Н. М. «Страсти Христовы» в западнорусском списке XV века // Памятники древней письменности и искусства. Т. LCX (140). Спб., 1901. С. 1.

ных вышэй твораў пераканаўча паказваюць, якога высокага ўзроўню развіцця дасягнула к пачатку XVI ст. старабеларуская літаратурная мова, якой яна ўжо тады была гнуткай і выразнай, лексічна багатай і стылістычна распрацаванай [43]. У літаратурным плане «Страсці Хрыстовы», «Жыццё Аляксея» і «Аповесць пра трох каралёў» — тыповыя ўзоры папулярнай сярэдневяковай белетрыстыкі. Чытацкая цікавасць да гэтых твораў падтрымлівалася важнасцю тэмы, наяўнасцю яркіх герояў і значнага элементу незвычайнага, драматычна напружаным, займальным выкладам.

Францыск Скарына, несумненна, добра ведаў найбольш папулярныя помнікі агульнахрысціянскай агіяграфічнай і апакрыфічнай літаратуры, у тым ліку, напэўна, і згаданыя вышэй аповесці. У «Предмолве... в книгу Исуса Сирахова» ён казаў, што другая частка гэтага твора «приводит нас к святости и к добрым делам путем прикладу, припоминаючи нам *жития святых*» (курсіў наш.— *В. Ч.*). З гэтага вынікае, што беларускі гуманіст надаваў агіяграфічным творам у цэлым важнае ідэйна-выхаваўчае значэнне, бачыў у іх поруч з біблейскімі кнігамі дзейсны сродак духоўнага ўдасканалення чалавека. Аднак увесь характар жыцця і рознабаковай дзейнасці Скарыны, незвычайная шырыня яго інтарэсаў і захапленняў, імкненне быць у гушчы жыцця, жыць надзённымі, зямнымі клопатамі свайго народа, служыць яму практычнымі справамі, жыць актыўна і плённа («Вера без дел мертва ест»,— любіў паўтараць ён) пераканаўча паказваюць, што аскетычныя тэндэнцыі шмат якіх рэлігійных твораў, у тым ліку і «Жыцця Аляксея», не маглі захапляць яго.

У сваіх прадмовах Скарына часта згадвае Ісуса Хрыста, галоўнага героя евангельскіх паданняў і асобных апакрыфічных твораў, неаднойчы гаворыць пра яго «невинную муку», «о страдании, о вмучении и о воскресении его из мертвых». Беларускі гуманіст, бясспрэчна, дасканальна ведаў гісторыю яго жыцця і пакутніцкай смерці не толькі паводле кананічных твораў. Ён, напэўна, чытаў і аповесць «Страсці Хрыстовы», якая была асабліва папулярнай у краінах Заходняй Еўропы, дзе вобразы багародзіцы-мадонны і ўкрыжаванага Хрыста-пакутніка былі вельмі шырока і ярка распрацаваны ў літаратуры і мастацтве. Трагічны лёс «сына божага», яго высакародная, гуманістычная самаахвярнасць мелі для Скарыны, які верыў у гістарычную сапраўднасць біблейскіх падзей і герояў, свяшчэнны і рэальны чалавечы, зямны сэнс, выклікалі ў яго глыбокі роздум і эмацыянальнае суперажыванне. Беларускі гуманіст успрымаў гэты вобраз як узор найвышэйшай духоўнай дасканаласці, як маральна-этычны ідэал Чалавека.

---

[43] Грунтоўную характарыстыку мовы гэтых перакладаў гл. у кн.: Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 97—113.

Пераклад на беларускую мову ўжо ў XV ст. рада твораў царкоўна-рэлігійнай літаратуры — з'ява вельмі паказальная і важная [44]. Ён засведчыў прынцыпова новую тэндэнцыю ў гісторыі пісьменства на беларускіх землях, якая стане характэрнай і вядучай асаблівасцю яе далейшага развіцця, а менавіта актыўны культурна-гістарычны працэс вызвалення кніжнай мовы ад царкоўнаславянскіх элементаў за кошт усё больш рашучага пранікнення асаблівасцей жывой, гутарковай мовы. Гэта быў сапраўды этапны крок, якога не ведала тады ні адна краіна праваслаўнага славянскага свету. Тэндэнцыя секулярызацыі і дэмакратызацыі літаратурнай мовы царкоўна-рэлігійнага пісьменства была выклікана агульнай атмасферай эпохі, зараджэннем на Беларусі гуманістычных і рэфармацыйных ідэй, ростам нацыянальнай і грамадскай самасвядомасці і некаторымі іншымі фактарамі, якія садзейнічалі росту культурна-гістарычнай актыўнасці свецкіх слаёў насельніцтва і моцна падарвалі манаполію духавенства на асвету народа і прапаганду літаратуры. Гэты працэс беларусізацыі мовы канфесійнага пісьменства быў настолькі моцны, што закрануў нават асвечаныя традыцыяй, аўтарытэтам класікаў патрыстыкі кананічныя помнікі «Свяшчэннага пісання».

Першыя беларускія пераклады асобных кніг Бібліі з'явіліся, відаць, не пазней канца XV ст. Гэта былі галоўным чынам творы Старога запавету (Іоў, Руф, Эклезіяст, Плач Ераміі, Эсфір, Прытчы Саламона, Данііл, Товіт, Песня песняў, Царствы і некаторыя іншыя). Рад біблейскіх кніг быў перакладзены на беларускую мову са стараяўрэйскай, з іўрыта [45]. Захавалася таксама каля двух дзесяткаў рукапісных экземпляраў самага папулярнага і ўстойлівага поруч з Евангеллем і Апосталам твора кананічнай літаратуры — Псалтыра з больш або менш значнымі беларускімі прыкметамі ў мове. Аднак уласна перакладамі сярод іх можна лічыць толькі два тэксты, адзін з іх другой чвэрці XVI ст. Паводленазіранняў Я. Карскага, крыніцай апошняга паслужыў польскі тэкст [46].

Усе гэтыя, вельмі розныя паводле якасці пераклады, зробленыя невядомымі асобамі, распаўсюджваліся ў адзінкавых экземплярах, у рукапісах, таму кола іх чытачоў было вельмі абмежаваным. Яны губляліся ў агульнай масе твораў, што бытавалі на беларускіх землях на царкоўнаславянскай і часткова лацінскай мовах. Тым не меней іх з'яўленне — надзвычай важны і знамянальны факт у гісторыі беларускай літаратуры, свед-

[44] Апрача названых твораў у першай палавіне XVI ст. на беларускай мове распаўсюджваліся аповесць «Сказанне пра Сівілу-прарочыцу» і «Кніга пра Таўдала-рыцара», перакладзеныя з чэшскай мовы, і некаторыя іншыя.

[45] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. Вып. 2. Старая западнорусская письменность. С. 18—21.

[46] Карский Е. Ф. Западнорусские переводы Псалтыри в XV—XVII веках. Варшава, 1896.

ка выспявання прынцыпова новага падыходу да Бібліі, што грунтаваўся на творчым выкарыстанні і развіцці старых традыцый, на новых, гуманістычных ідэалах. Яго заснавальнікам стаў Францыск Скарына.

У агромністым фондзе пісьмовай прадукцыі Беларусі канца XV — першай палавіны XVI ст. важнае месца належыць дзелавому пісьменству. Яго каштоўнасць і значэнне набывае асаблівую вагу па дзвюх асноўных прычынах: па-першае, яно амаль выключна мясцовага паходжання, арыгінальнае, створанае ў жывым працэсе рэальнага штодзённага грамадскага жыцця краю; па-другое, пераважная большасць яго помнікаў напісаны на тагачаснай беларускай літаратурнай мове, вельмі блізкай да размоўнай. Дзелавое пісьменства было свайго роду супрацьвагой касмапалітычнай царкоўна-рэлігійнай літаратуры, у большасці сваёй іншаземнага паходжання і на даволі далёкай ад народнай, многім незразумелай кніжнаславянскай мове. «У нас яшчэ чытаюць старасвецкія саборнікі, чытаюць пралогі, але іх ужо не разумеюць ні той, хто чытае, ні той, хто слухае»,— прызнаваўся Мялецій Сматрыцкі [47].

Развіццю дзелавога пісьменства на беларускай мове вельмі спрыяла тое, што апошняя фактычна выконвала ў XV—XVI стст. на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага ролю агульнадзяржаўнай. Яно было цесна звязана з жыццём, з яго надзённымі патрэбамі. Гэта садзейнічала шырокаму распаўсюджанню і лепшай унармаванасці гэтага пісьменства, а таксама больш поўнаму адлюстраванню ў ім асаблівасцей жывой беларускай мовы.

Вялікае багацце і разнастайнасць помнікаў старабеларускай дзелавой літаратуры здзіўляе і сёння, хоць захавалася толькі адносна невялікая іх частка. Але і яна налічвае сотні тамоў, большасць якіх сабрана ў славутай Літоўскай метрыцы. Гэта дало падставы Я. Карскаму, выдатнаму знаўцу пісьменства ўсходнеславянскіх народаў, зрабіць наступны вывад: «Паводле багацця старога лінгвістычнага матэрыялу заходнеруская мова займае першае месца пасля велікарускай, што ж датычыцца старадрукаваных кніг, то яна нават пераўзыходзіць апошнюю» [48].

Свецкае дзелавое пісьменства, з аднаго боку, і царкоўна-рэлігійная літаратура, з другога, складалі аснову пісьмовага фонду старадаўняй Беларусі. Нягледзячы на тое што дзве гэтыя літаратуры — не беларуская мастацкая проза, бо першая хоць і свая і на роднай мове, але не зусім літаратура, а другая хоць і літаратура, але пераважна чужая, запазычаная, яны разам складалі агульную сістэму сярэдневяковай пісьмова-літаратур-

---

[47] Wiszniewski M. Historya literatury polskiej. T. VIII. Kraków, 1851. S. 341.

[48] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1: Введение в изучение языка и народной словесности. С. 343.

най спадчыны Беларусі, узаемна дапаўняючы адна адну і ўплываючы адна на адну.

Гэтыя два магутныя, супрацьлеглыя па характару патокі абслугоўвалі і адлюстроўвалі два асноўныя бакі ці пачаткі тагачаснага жыцця грамадства: рэальна-гістарычны, канкрэтна-бытавы і ідэальны, духоўны, звязаны з узнёслымі, нярэдка ілюзорнымі ўяўленнямі і імкненнямі чалавека. Яны вызначалі аблічча ўсёй пісьмовай прадукцыі таго часу і моцна ўплывалі на ўласна беларускую літаратуру. Апошняя фарміравалася і развівалася, абапіраючыся на іх і адначасна адштурхоўваючыся і ад вузка службовага, прыкладнога характару дзелавых дакументаў, у якіх адзінкавыя факты і з'явы рэчаіснасці суха і педантычна рэгіструюцца і падаюцца з пункту гледжання іх прававаюрыдычных адносін у грамадстве, і ад адцягнена-касмапалітычнага характару большасці царкоўна-рэлігійных твораў, нярэдка адарваных ад нацыянальнай гісторыі народа, ад рэальных праблем чалавека і часу.

Агульнапрынятым з'яўляецца палажэнне, што творы царкоўна-рэлігійнага пісьменства, апрача вузка службовых, бліжэй да ўласна літаратуры, чым, напрыклад, акты, граматы, дагаворы, судовыя справы і іншыя помнікі права. Сапраўды, у апошніх элементы вобразна-эмацыянальнага, па-мастацку абагульненага адлюстравання рэчаіснасці і чалавека даволі рэдкая з'ява, тады як у першых — адна з галоўных асаблівасцей. Аднак шматлікія факты сведчаць таксама, што роля сваіх, мясцовых традыцый у гісторыі кожнай нацыянальнай літаратуры, асабліва на раннім этапе яе развіцця, з'яўляецца, як правіла, вырашальнай.

У перыяд станаўлення ўласна беларускай літаратуры, у XIV—XV стст., такою адзінаю і бесперапыннаю літаратурнай традыцыяй творчасці на роднай мове было дзелавое пісьменства. Яно мела тады ўжо добра развітую моўна-стылявую сістэму, на якую абапіраліся першыя складальнікі літаратурных твораў на беларускай мове. Без дасканалай літаратурнай мовы не можа быць і значнай літаратуры. Ужо ў часы Скарыны беларускае дзелавое пісьменства ў сваіх найвышэйшых дасягненнях дало творы такога ўзроўню, якія справядліва лічацца не толькі выдатнымі помнікамі беларускай культуры эпохі Рэнесансу, але і яркімі з'явамі літаратурнага парадку, напрыклад, Статут 1529 г. У гэтым святле роля і значэнне дзелавога пісьменства ў гісторыі беларускай літаратуры выглядаюць не такімі ўжо малазначнымі.

Апошні вывад становіцца яшчэ больш пераканаўчым, калі прыгледзецца бліжэй да генезісу і лёсу такога вядомага жанру сярэдневяковай літаратуры ўсходніх славян, як летапіс. Наогул, адна з характэрных, спецыфічных яе асаблівасцей — дзелавое, службовае прызначэнне жанраў. Яшчэ ў большай ступені гэта датычыцца жанру летапісу, які фактычна вырастаў з дакумента.

«Рух літаратуры да дакумента і дакумента да літаратуры — заканамерны працэс паступовага «размывання» межаў паміж літаратурай і дзелавым пісьменствам»,— пісаў Д. Ліхачоў [49]. Гэты працэс пачаўся ў беларускай літаратуры яшчэ ў XV ст.

Паводле свайго стылю, дзелавога, лаканічнага і выразнага, беларуска-літоўскія летапісы і хронікі XV — першай палавіны XVI ст. сапраўды шмат у чым блізкія да твораў дзелавога пісьменства. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, іх жанравай прыродай як помнікаў гістарычна-дакументальнай прозы, а з другога боку, непасрэдным уплывам на гэтыя творы мовы і стылю дзелавых дакументаў таго часу, што ўпершыню даволі грунтоўна даследаваў Т. Сушыцкі [50], таму мы не будзем спецыяльна спыняцца на гэтым пытанні.

Летапісы, блізка прымыкаючы да дзелавога пісьменства, былі на Беларусі ў часы Скарыны вядучым жанрам свецкай літаратуры, у якім вырашаліся важныя ідэйна-мастацкія задачы. На прыкладзе гэтага жанру добра прасочваюцца некаторыя агульныя заканамернасці і асаблівасці развіцця ўсёй беларускай літаратуры перыяду яе станаўлення, а таксама характар сувязі і пераемнасці з літаратурнымі традыцыямі Старажытнай Русі.

У другой чвэрці XV ст. у Смаленску быў складзены першы агульнадзяржаўны летапісны звод Вялікага княства Літоўскага — Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. Большая палавіна яго тэксту запазычана з рускіх летапісаў, у прыватнасці з летапісу Фоція. У гэтым зводзе гісторыя Беларусі і Літвы падаецца ў цеснай сувязі з гісторыяй усёй Русі, праводзіцца ідэя ўсходнеславянскага адзінства, сцвярджаецца і абгрунтоўваецца гістарычная заканамернасць палітычнага аб'яднання ўсходніх славян і літоўцаў у адной дзяржаве, Вялікім княстве Літоўскім і Рускім. Што ж датычыцца жанравай структуры, то Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. уяўляе сабою традыцыйны летапісны звод з традыцыйнай, пагадовай формай выкладу, складзены, як і старажытнарускія летапісы, з кароткіх пагадовых запісаў-паведамленняў, летапісных апавяданняў і гістарычных аповесцей.

Найбольш значныя з арыгінальных, мясцовых частак гэтага помніка — «Пахвала вялікаму князю Вітаўту» і «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Яны пабудаваны ў форме звязнага гістарычнага апавядання, у якім пераважае імкненне невядомага аўтара да захавання фактычнай дакладнасці, дакументальна-дзелавога апісання падзей, пададзенага, аднак, жыва, дынамічна, а месцамі нават па-мастацку вобразна і займальна. Гэтыя асаблівасці беларускага летапісання XV ст., якія шмат у чым грунтаваліся на літаратурным вопыце старажытнарускіх летапісаў, на іх традыцыях, былі прадоўжаны і развіты ў «Хро-

[49] Лихачев Д. С. Развитие русской литературы X—XVII веков: Эпохи и стили. Л., 1973. С. 132.

[50] Сушицький Т. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури. Київ, 1930. С. 362—404.

ніцы Быхаўца» і іншых летапісных помніках Беларусі XVI ст.

Першы беларуска-літоўскі летапіс бытаваў у шматлікіх спісах, з якіх зберагліся да нашага часу чатыры: Нікіфараўскі (канец XV ст.), Слуцкі (пачатак XVI ст.), Супрасльскі (1519 г.) і Акадэмічны (другая чвэрць XVI ст.). Грунтоўнае знаёмства з іх складам і зместам пераконвае ў тым, што першапачатковая рэдакцыя Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. не захавалася, а згаданыя спісы змяшчаюць тэкст яго другой рэдакцыі. Гэта рэдакцыя ўзнікла ў канцы XV ст. шляхам дадатковай перапрацоўкі агульнарускай часткі нашага летапісу паводле Ноўгарадскага IV і Сафійскага I летапісаў, што ўпершыню дакладна вызначыў А. Шахматаў[51]. Яны былі выкарыстаны беларускім летапісцам па-традыцыйнаму: у скарочаным выглядзе, у арыгінале, а не ў перакладзе, і без творчай перапрацоўкі тэксту. У новай рэдакцыі агульная гістарычная канцэпцыя Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. істотна не змянілася, засталіся ранейшымі і яго жанравая форма, а таксама ў цэлым склад і змест зводу, што сведчыць пра значную ўстойлівасць традыцыйнага летапіснага жанру на Беларусі ў XV ст.

Жывучасць старажытнарускіх традыцый у беларускай літаратуры XV — першай палавіны XVI ст. моцна адчуваецца і прасочваецца на самых розных узроўнях: у эстэтычных прынцыпах, літаратурных прыёмах і спосабах адлюстравання жыцця і чалавека, у следаванні царкоўным аўтарытэтам, у імкненні да стылістычных трафарэтаў, да кніжнай, архаічнай мовы і нават у характары цытавання і спасылак на іншыя крыніцы[52].

У гэтых адносінах вялікую цікавасць уяўляе «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму», напісаная ў гонар вядомай яго перамогі пад Оршай у 1514 г. Невядомы аўтар шырока карыстаўся кніжнымі зваротамі і архаічнымі моўна-стылявымі формуламі, каб годна ўславіць пераможца, выказаць сваё захапленне героем: «О пречестнаа мудраа главо! Како тя нареку и похволю? Короткостию языка моего и художством ума моего не могу ся домыслити, кую славу и честь въздати твоего справлению делу: мужства твоего крепость равна есть великому царю индийскому Пору...»[53]

Вельмі часта пісьменнік імкнецца абаперціся на аўтарытэтную думку, на гатовы літаратурны ўзор: «Успомянем слово великого Нифонта, как пишеть к верным христианом: «Таину цареву годно таити, рекучи, рады господарьское замкнутое негодно всим поведати, але дело и храбрость мужества доброго и смелого человека годно всим объявляти». Гэта цытата — папулярны ў эпоху сярэдневякоўя выраз, які часта ўжываўся ў па-

---

[51] Шахматов А. А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. Л., 1938. С. 345.

[52] Чамярыцкі В. А., Коршунаў А. Ф., Лойка А. А. Традыцыі літаратуры Старажытнай Русі ў беларускай літаратуры. Мн., 1982.

[53] ПСРЛ. Т. 35. С. 126.

добнага роду творах. Ім пачынаецца, напрыклад, папярэднік дадзенага твора — «Пахвала Вітаўту»: «Таину цареву таити добро есть, а дела велика господаря поведати добро же есть». Магчыма, аўтар «Пахвалы гетману Канстанціну Астрожскаму» чытаў гэты твор і часткова выкарыстаў творчы вопыт свайго папярэдніка.

Наогул жа гэта пахвала вельмі багата на розныя літаратурна-гістарычныя рэмінісцэнцыі і ў параўнанні з «Пахвалой Вітаўту» вылучаецца больш кніжным характарам, большай стылістычнай апрацаванасцю і рытарычнасцю, больш цеснай сувяззю з літаратурнымі традыцыямі мінулага. Яе аўтарам быў чалавек, начытаны не толькі ў царкоўна-рэлігійнай літаратуры. Ён добра ведаў розныя гістарычныя аповесці эпохі сярэдневякоўя, напрыклад «Александрыю», а таксама і іншыя творы па гісторыі антычнага свету:

«О великыи вдатныи витязи литовскии! Уподобилися есте своим мужством храбрым макидоняном, справою и наукою князя Костянтина Ивановича, второго Антиоха, гетмана войска македоньского... Прировнани есте великым храбрым рыцерем славнаго града Родоса, которыи их своим мужством многии замки христианьскии от поганьских рук впокоины чинять... Мужства твоего крепость от востока до запада слышати будет не токмю единому собе, але и всему княжеству Литовскому тую славу и высокость мужства вчинил еси... И тако мужства ти храбрость подобна Тигранису, царю арменскому, о котором же премудрый философ Фролос от Ливия пишеть: «Пришедши Тигранис, царь арменский, и сьсеклся с Антиохом и измог войско его и самого из града выгнал, Антиоху же бежавшу пред ним в Перскую сторону» [54].

Агульны характар зместу і асобных яго рэалій, мова і стыль «Пахвалы гетману Канстанціну Астрожскаму», а таксама месца ўзнікнення твора (Супрасльскі манастыр) выразна ўказваюць на праваслаўнае асяроддзе, на царкоўнаславянска-візантыйскую кніжную адукаванасць яе аўтара. Таму можна з упэўненасцю меркаваць, што з гэтай літаратурай ён мог пазнаёміцца не ў Заходняй Еўропе, а тут на месцы, у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім.

Прыгаданыя вышэй факты пераканаўча сведчаць пра тое, што на Беларусі ў эпоху Скарыны бытавала багатая і разнастайная пісьмовая спадчына мінулага, шматлікія творы царкоўна-рэлігійнай і свецкай літаратуры розных часоў і народаў пераважна на царкоўнаславянскай, старажытнарускай і часткова лацінскай мовах. Аснову яе складаў кніжны фонд, які сфарміраваўся яшчэ ў часы Кіеўскай Русі і ў эпоху феадальнай раздробленасці. Працягвалі бытаваць і творы мясцовага паходжання, што ўзніклі ў папярэднія стагоддзі. Той ідавочны

[54] ПСРЛ. Т. 35. С. 126.

факт, што шмат якія літаратурныя творы традыцыйных жанраў неаднаразова перапісваліся якраз у другой палавіне XV — першай палавіне XVI ст., пераканаўча гаворыць пра іх несумненную папулярнасць у часы Скарыны. Значыць, на гэтыя творы быў яшчэ вялікі чытацкі попыт. Уся спадчына мінулага служыла задавальненню духоўных запатрабаванняў беларускага грамадства таго часу і з'яўлялася неабходным сродкам сувязі эпох, захавання пераемнасці і бесперапыннасці развіцця літаратурнай традыцыі на беларускіх землях.

Вельмі важную ролю выконвалі пераклады з зарубежных літаратур на беларускую мову. Яны дапаўнялі чытацкі фонд новымі, цікавымі і значнымі ў ідэйна-мастацкіх адносінах творамі, якіх не было на Беларусі, узбагачалі літаратурную мову, станоўча ўплывалі на развіццё арыгінальнай літаратуры і служылі высакароднай справе ўмацавання культурных узаемасувязей беларускага народа з іншымі народамі.

У цэлым літаратурныя традыцыі адыгрывалі дваістую ролю ў гісторыі беларускай літаратуры на тым пераломным этапе яе развіцця. З аднаго боку, яны спрыялі яе станаўленню, дапаўнялі і ўзбагачалі яе, служылі добрай школай літаратурнай творчасці. З другога ж боку, пры адноснай нешматлікасці і слабасці ўласных творчых сіл тагачаснай Беларусі кансерватыўныя літаратурныя традыцыі мінулага стрымлівалі яе рух наперад, нярэдка падаўлялі маладыя арыгінальныя парасткі новага або накіроўвалі ў непажаданым напрамку. Шматлікая, пераважна іншамоўная і іншаземная паводле паходжання літаратура стварала ілюзію поўнай насычанасці чытацкага попыту патрэбнымі творамі, аднак насычанасць гэта была вельмі аднабаковая. Плённым для развіцця літаратуры, жыватворчым для літаратурнага працэсу можа быць толькі наватарскі падыход да традыцый, творчае іх засваенне і развіццё, што бліскуча пацвердзіў творчы вопыт Францыска Скарыны і яго паслядоўнікаў.

## РАЗВІЦЦЁ ТРАДЫЦЫЙ

Грамадства на розных этапах свайго развіцця, у розных культурна-гістарычных умовах па-рознаму ставіцца да культурнай спадчыны мінулага, да сваіх традыцый. Бываюць перыяды, калі на першы план асабліва моцна высоўваецца задача іх умацавання і зберажэння. Яны разглядаюцца як нацыянальная святыня народа, як непарушная аснова захавання яго духоўнай самабытнасці і незалежнасці. У іншых умовах, наадварот, акцэнт робіцца на рашучае абнаўленне традыцый, на іх пераадоленне і адмаўленне. Такі падыход да спадчыны мінулага диктуецца патрэбамі гістарычнага развіцця народа, важнымі зменамі культурных запатрабаванняў і густаў людзей. На Беларусі ў першай палавіне XVI ст., як і ў XV ст., не назіраецца рэзкага

разрыву з традыцыямі мінулага. Культурная спадчына папярэдніх стагоддзяў, у тым ліку і літаратурная, як мы вышэй пераканаліся, была яшчэ жывой і дзейснай, пераемнасць у развіцці надзейна захоўвалася і аберагалася. Па-ранейшаму панавала феадальна-рэлігійная ідэалогія, сярэдневяковая паводле характару і паходжання. Умовы для рэвалюцыйнага перавароту ў светапоглядзе, для рашучага адмаўлення традыцыйнай сістэмы культуры і стварэння новай яшчэ не паспелі.

Аднак тыя значныя культурна-гістарычныя змены, якія адбываліся ў тагачасным беларускім грамадстве, зараджэнне свецкага гуманізму і рэфармацыйных ідэй, не маглі не ўплываць на духоўнае жыццё нашых продкаў, на іх культурныя запатрабаванні, эстэтычныя прынцыпы і густы. Час, само жыццё, якое стала больш складаным і разнастайным, вымагалі абнаўлення традыцый, патрабавалі і новых, больш адпаведных надзённым задачам дня твораў і новых падыходаў да спадчыны мінулага, бо наследавалася не абсалютна ўсё, а толькі тое, што было ці здавалася актуальным, што адпавядала ідэалагічным, пазнавальна-выхаваўчым і культурным патрэбам эпохі. Усё больш мацнела адчуванне і разуменне таго, што той агромністы фонд пісьменства, які сабралі і якім карысталіся папярэднія пакаленні, хоць і прыдатны яшчэ, але не можа ўжо цалкам задаволіць узросшыя духоўныя запатрабаванні грамадства на новым этапе яго развіцця. Адны творы па розных прычынах пераставалі цікавіць чытачоў, іншыя, напрыклад, Біблія, патрабавалі больш адпаведнага часу, больш самастойнага і неартадаксальнага падыходу, прыстасаванага да патрэб шырокага, дэмакратычнага чытача, новага погляду на асвечаныя традыцыяй і аўтарытэтам царквы ідэйна-мастацкія каштоўнасці.

Прынцыпова важнай асаблівасцю культурна-гістарычнага развіцця беларускага грамадства эпохі Скарыны было ўзмацненне секулярызацыі ўсёй культуры і далейшая яе дыферэнцыяцыя, выкліканая сацыяльнымі прычынамі. Шляхта і гараджане выступалі ў XVI ст. не толькі як дзве магутныя грамадскія, але і культурна-стваральныя сілы, якія сваёй актыўнай дзейнасцю падрывалі шматвяковую манаполію хрысціянскай царквы і духавенства. Можна нават гаварыць ужо аб зараджэнні ў гэты час на Беларусі побач з народнай (сялянскай) і царкоўна-рэлігійнай (клерыкальнай) культурамі свецкай шляхецкай і ў пэўнай меры асобнай гарадской культуры, якія знаходзіліся ў цесным узаемадзеянні. Праўда, гэты працэс дыферэнцыяцыі праходзіў даволі марудна і не зайшоў так далёка, як у высокаразвітых краінах Заходняй Еўропы. Тым не менш адзначаная тэндэнцыя даволі выразна пачынае ў нас прасочвацца менавіта з часоў Скарыны.

Неабходна адзначыць яшчэ адну характэрную і вельмі важную акалічнасць. Тэндэнцыя да пэўнай пераацэнкі старых ідэйна-мастацкіх каштоўнасцей, далейшага развіцця традыцый і

стварэння новых, больш адпаведных духу часу твораў найбольш ярка выявілася ў XVI ст. менавіта ў асяроддзі перадавых слаёў беларускай шляхты і гараджан. У той жа час духавенства Беларусі, як пераканаўча сведчаць шматлікія факты, паказала сябе пераважна як мала актыўная ў творчых адносінах і кансерватыўная сіла. Яно цалкам задавольвалася старой спадчынай, старанна яе ахоўвала, прапагандавала і падавала яе народу як адзіна правільную, непарушную, свяшчэнную, непадлеглую сумненню і прыдатную ўсюды для ўсіх, на ўсе часы і выпадкі жыцця.

Хоць хрысціянская царква яшчэ захоўвала ў XVI ст. на Беларусі ролю вядучай духоўнай сілы і своеасаблівага ідэалагічнага лідэра ўсяго грамадства, яна, аднак, перастала ўжо быць выразніцай яго перадавых імкненняў і тэндэнцый і пастунова траціла манаполію адзінага заканадаўца ў галіне маралі, асветы, літаратуры і часткова мастацтва. Невыпадкова, што найбольш выдатныя дасягненні беларускай культуры, грамадскай думкі, літаратуры таго часу, у тым ліку і кнігадрукавання, звязаны з творчай дзейнасцю, маральнай і матэрыяльнай падтрымкай у першую чаргу не царквы і духавенства, а свецкіх станаў тагачаснага беларускага грамадства, шляхты і гараджан. Мы ўжо не гаворым тут пра фальклор, пра жыццесцвярджальную народную культуру, дзе ствараліся ідэйна-мастацкія каштоўнасці агульнаславянскага ўзроўню і значэння, арыгінальныя і самабытныя.

Тэндэнцыя да творчага развіцця і ўзбагачэння традыцый выявілася ў шмат якіх галінах свецкай культуры Беларусі XVI ст., нават у дзелавым пісьменстве, даволі традыцыйным паводле свайго агульнага характару, літаратурнай формы і стылю. Менавіта ў часы Скарыны ўзнік выдатны помнік культуры літоўскага і беларускага народаў эпохі феадалізму — Статут Вялікага княства Літоўскага і Рускага 1529 г., інакш — першы Літоўскі статут, адзін з першых у Еўропе сістэматызаваных зводаў законаў.

Неабходнасць кадыфікацыі права ўзнікае ў пэўных гістарычных умовах на дастаткова высокім узроўні развіцця грамадства. Менавіта на такім узроўні знаходзіліся Беларусь і Літва ў першай палавіне XVI ст., аб'яднаныя ў адной дзяржаве. Прыкметны сацыяльна-эканамічны ўздым, актывізацыя грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, рост гарадоў, завяршэнне працэсу цэнтралізацыі краіны і іншыя факты і з'явы сведчылі пра значны грамадскі прагрэс у тагачасным Вялікім княстве Літоўскім і Рускім і патрабавалі прававога ўрэгулявання новых грамадскіх адносін, якія склаліся. Ранейшыя велікакняжацкія прывілеі і звычаі ужо не маглі цалкам забяспечыць складаныя узаемаадносіны розных сацыяльных станаў і слаёў беларуска-літоўскага і ўкраінскага грамадства.

Як найхутчэйшай падрыхтоўкі, зацверджання і выдання

агульнадзяржаўнага звода законаў асабліва патрабавала шляхта, якая імкнулася гэтым самым юрыдычна замацаваць свае прывілеі і нават дамагчыся іх пашырэння, каб зраўняцца з польскай, якая была поўным гаспадаром у дзяржаве. Яна так сама вельмі хацела паслабіць неабмежаваную палітычную ўладу буйной феадальнай знаці, князёў, паноў і розных магнатаў. Велікакняжацкі ж урад быў зацікаўлены ў тым, каб навесці элементарны парадак у дзяржаве, зменшыць феадальныя свавольствы, падпарадкаваць шляхту дзеянню адзінага, абавязковага для ўсіх закона і, зразумела, канчаткова замацаваць правы служылага саслоўя. Карацей кажучы, з'яўленне Статута вымагалася актуальнымі патрэбамі дня.

Першы Статут Вялікага княства Літоўскага быў падрыхтаваны і прыняты не адразу. Яшчэ на Віленскім сейме 1514 г. шляхта патрабавала ад караля выдаць пісьмовыя законы. З яшчэ большай настойлівасцю гэта просьба была паўторана ў 1522 г. на сейме ў Гродне. У канцы таго ж года Жыгімонт I нават ужо выдаў спецыяльны эдыкт аб увядзенні Статута ў жыццё. Аднак ён быў яшчэ не настолькі гатовы, каб задаволіць усіх. Выпраўленая рэдакцыя кодэкса разглядалася на сейме ў Брэсце ў 1524 г. і зноў беспаспяхова. Толькі ў 1529 г. на чарговым сейме ў Вільні тэкст Статута нарэшце быў ухвалены і прыняты [55]. Затрымка і складанасці з падрыхтоўкай і зацверджаннем першага звода дзяржаўных законаў Вялікага княства Літоўскага была выклікана той зацятай барацьбой, што разгарэлася вакол яго паміж буйнымі феадаламі і шляхтай, якія імкнуліся ў заканадаўчым парадку не толькі максімальна поўна адлюстраваць і замацаваць свае ранейшыя правы і прывілеі, але і дадаткова іх пашырыць, не ўступаючы ні ў чым сваім канкурэнтам.

Падводзячы вынікі гэтай барацьбы, вядомы знаўца беларуска-літоўскай гісторыі і права эпохі феадалізму У. Пічэта пісаў: «Статут 1529 г. быў феадальным кодэксам класа землеўласнікаў у цэлым. Разам з гэтым ён замацоўваў за магнатамі іх прывілеяванае становішча, іх кіруючую палітычную ролю. За магнатамі і панамі па-ранейшаму заставалася асобая юрысдыкцыя. Яны не былі падсудны правінцыяльным суддзям. Магнаты заставаліся для шляхты такімі ж недасягальнымі, як і раней. У гэтым была асноўная прычына таго, што асобныя артыкулы Статута доўгі час не былі зацверджаны сеймам. Статут 1529 г. адлюстроўваў рэальныя суадносіны сіл у лагеры літоўскіх феадалаў. Эканамічнае панаванне і палітычнае кіраўніцтва належала буйным землеўласнікам. Шляхта палітычна і эканамічна яшчэ недастаткова ўзмацнела. Таму натуральна, што менавіта магнаты выйшлі пераможцамі ва ўнутранай барацьбе паміж двума слаямі феадальнага класа. Літоўскі статут 1529 г. санк-

[55] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 507—509.

цыяніраваў тое становішча ў арганізацыі ўлады і кіравання, якое існавала раней»[56].

Калі беларуска-літоўская шляхта яшчэ не змагла ў 20-х гадах XVI ст. сур'ёзна абмежаваць уладу ўсемагутнай арыстакратыі, то гэта не значыць, што яна была вельмі пакрыўджана ці ўрэзана ў правах артыкуламі першага Статута. Яе прывілеяванае становішча ў грамадстве юрыдычна было цалкам пацверджана і замацавана ў гэтым агульнадзяржаўным кодэксе, які можна з поўным правам назваць першай вялікай хартыяй шляхецкіх вольнасцей у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім.

Аднак нас у дадзеным выпадку Статут 1529 г. больш цікавіць пераважна як помнік пісьменства, дзелавой літаратуры свайго часу, як твор арыгінальны і ў поўным сэнсе наватарскі, як яркі паказчык даволі высокага культурна-гістарычнага развіцця беларуска-літоўскага грамадства эпохі Скарыны. Гэта пытанне закраналі шмат якія даследчыкі, па-рознаму ацэньваючы вартасці помніка.

Звяртае на сябе ўвагу вывад польскага вучонага Яна Якубоўскага, выказаны яшчэ на пачатку XX ст.: «Несумненна, што з'яўленне вялікага, умела складзенага кодэкса права вельмі пахвальна сведчыць пра інтэлектуальнае развіццё літоўскага грамадства ў XVI ст. Дастаткова параўнаць Судзебнік 1468 г., выдадзены Казімірам Ягелончыкам, з першым Статутам (1529), каб наглядна ўбачыць агромністы прагрэс, які здзейсніла літоўскае грамадства на працягу 60-ці гадоў, што аддзяляюць гэтыя два помнікі права... Калі Судзебнік не выяўляе ў яго аўтары ніякай юрыдычнай адукаванасці і з'яўляецца даволі прымітыўным творам судовай практыкі, то Статут паказвае ўжо значную юрыдычную культуру і ўменне арыентавацца ў складаных юрыдычных паняццях. Калі тэрміналогія Судзебніка ўбогая і абмяжоўваецца простымі паняццямі, то ў Статуце сустракаем багатую тэрміналогію, якая сведчыць пра значную юрыдычную падрыхтаванасць яго аўтараў»[57].

Сам змест гэтага помніка, дэталёвая распрацоўка, умелая сістэматызацыя і дыферэнцыяцыя прававых норм, а таксама іх літаратурна дасканалы выклад пераканаўча сведчаць пра яго высокую для свайго часу юрыдычную культуру. Ён змяшчае дзяржаўнае, ваеннае, саслоўна-шляхецкае, зямельнае, судзебнае, крымінальна-працэсуальнае, спадчыннае і апякунскае і некаторыя іншыя правы, складаецца з амаль 250 артыкулаў, якія тэматычна аб'яднаны ў 13 асобных раздзелаў: «1. О порсуне господарской; 2. О обороне земской; 3. О слободах шляхты и о розмножени Великого князьства Литовского; 4. О поглавеженской и о выправу девок; 5. О опекунах; 6. О судьях; 7.

---

[56] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. С. 509.

[57] Jakubowski J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed unią Lubelską. Warszawa, 1912. S. 72.

О кгвалтех земских и о боех, и о головщинах шляхетских, 8. О права земские, о границах и о межах, о копах; 9. О ловы, о пущи, о бортное дерево, о озера, о бобровые гоны, о хмелища, о сокольи гнезда; 10. О именях, которые в долзех, и о зоставы; 11. О головщины людей путных и о мужицкие и паробоцкие; 12. О грабежи и о навязки; 13. О злодействе» [58].

Змешчаныя ў Статуце артыкулы з нябачанаю датуль паўнатою і дакладнасцю ахоплівалі самыя розныя бакі тагачаснага дзяржаўнага, грамадскага і прыватнага жыцця нашых продкаў, значна большаю, чым у агульназемскім прывілею Казіміра 1447 г. і Судзебніку 1468 г., якія складаюцца адпаведна з 14 і 25 артыкулаў. Нездарма Статут 1529 г. атрымаў назву першага агульнадзяржаўнага зводу законаў Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

Асноўнымі крыніцамі гэтага выдатнага помніка дзелавога пісьменства Літвы і Беларусі XVI ст. былі мясцовае звычаёвае, г. зн. беларуска-літоўскае, права, шматлікія вялікакняжацкія прывілеі і пастановы, а таксама часткова польскае і старажытнарускае права, у тым ліку Руская праўда [59]. Даследчыкі знаходзяць у першым Статуце і асобныя рэмініспэнцыі антычнага і гуманістычнага права эпохі Адраджэння [60]. Усе гэтыя крыніцы былі творча выкарыстаны складальнікамі зводу адпаведна з патрэбамі і духам свайго часу.

Статут адрасаваўся ўсім жыхарам Вялікага княства Літоўскага, «усяму паспольству», і змяшчаў іх асноўныя правы і абавязкі. У ім пракламавалася роўнасць усіх перад законам («Вси подданые наши, так вбогие, яко и богатые, которого роду колве або стану были бы, ровно и одностойным тым писаным правом мають сужоны быти»), захаванне ранейшых свабод і прыватных уладанняў, грамадскай справядлівасці, якая, вядома, разумелася з пазіцый інтарэсаў пануючага класа. «Шлюбуем своею парсуною господарскою, иж всю шляхту, княжата и паны хоруговые, и вси бояре посполитые, и мещане, и их людей заховати при слободах и волностях, от предков наших и тэж от нас даных им» [61],— урачыста дэклараваў у Статуце галава дзяржавы. Асобныя правы і прывілеі надаваліся шляхце, якую кароль і

---

[58] Статут Великого княжества Литовского 1529 года. Мн., 1960.

[59] Jakubowski J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie... S. 73—82; Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. С. 511—517; Лазутка С. А. I Литовский статут — феодальный кодекс Великого княжества Литовского. Вильнюс, 1974. С. 67.

[60] Бардах Ю. Литовские статуты — памятники права периода Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 71—93; Конон В. М. Гуманистические истоки Статута Великого княжества Литовского 1529 года // Первый Литовский статут 1529 года: Материалы республиканской научной конференции, посвященной 450-летию первого Статута. Вильнюс, 1982. С. 94—103.

[61] Тэкст цытуецца паводле выдання: Статут Великого княжества Литовского 1529 года. Мн., 1960.

вялікі князь цвёрда абяцалі ўтрымліваць у высокай пашане і годнасці і «простых людей над шляхту не повышати». Шляхце дазвалялася таксама свабодна выязджаць у іншыя краіны «для набытья лепшого щастья своего и навченя вчинков рыцэрских».

Даволі адчувальна гучыць у Статуце індывідуалістычна-гуманістычная тэндэнцыя да абмежавання калектыўнай адказнасці за розныя ўчынкі, імкненне абараніць асабістыя інтарэсы і годнасць свабоднага чалавека незалежна ад яго нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці, разглядаць яго як самастойную асобу, якая павінна сама несці адказнасць за свае ўчынкі: «господар шлюбуеть никого не карати на заочное поведане, хотя бы ся дотыкало ображеня маистату его милости»; «не маеть нихто ни за кого терпети, але кождый сам за себе»; «человек волный за жадный выступ в неволю не маеть взят быти» і інш. Цвёрда абараняецца ў гэтым зводзе законаў годнасць жанчыны: «княгинь, паний, вдов и девок не мають ни за кого кгвалтом давати, кром их воли». Згвалтаванне асобы жаночага полу каралася вельмі сурова — смерцю — незалежна ад сацыяльнага становішча вінаватага.

Важнае значэнне мелі артыкулы Статута аб усеагульнай воінскай павіннасці, аб абавязковым удзеле кожнага дарослага чалавека, які меў зямельныя ўладанні, асабіста ці праз свайго ўзброенага слугу ў абароне роднай зямлі, а таксама аб захаванні дзяржаўнай цэласнасці і суверэнітэту краіны, умацаванні яе ваенна-палітычнай магутнасці і незалежнасці. Да іх прымыкаў і артыкул з трэцяга раздзела аб тым, што ў Вялікім княстве Літоўскім «держаней і честей чужоземцом не мають даваны быти». Усе гэтыя палажэнні мелі, несумненна, і патрыятычна-выхаваўчы характар і значэнне.

«І Статут з'яўляецца прадуктам больш позняй эпохі і больш развітога феадальнага грамадства,— адзначае вядомы даследчык беларуска-літоўскага права XVI ст. С. Лазутка,— ён выгадна адрозніваецца ад усіх вышэй згаданых судзебнікаў (польскіх, чэшскіх, сербскіх і рускіх XIV—XV стст.— *В. Ч.*) не толькі сваімі значнымі памерамі, але і дасканаласцю фармулёвак, спеласцю прававой думкі і, несумненна, нясе на сабе адбітак эпохі Адраджэння. У гэтым сэнсе Статут значна пераўзыходзіць нават кодэксы, якія ўзніклі ў той жа час або некалькі пазней, напрыклад Судзебнік Шварцанберга 1507 г., крымінальны Статут Германскай імперыі Карла V — «Караліна» 1522 г., Судзебнік Івана IV 1550 г.» [62] Высокі ўзровень і дасканаласць літоўска-беларускай кадыфікацыі эпохі феадалізму аказалі «значны ўплыў на права і судовую практыку суседніх краін» [63]. Некаторыя даследчыкі заўважаюць нават у гэтым помніку адбітак

[62] Лазутка С. А. I Литовский статут... С. 65—66.
[63] Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. С. 90.

асобных прававых ідэй Францыска Скарыны[64], што патрабуе яшчэ дадатковага даследавання і абгрунтавання.

Статут 1529 г. як помнік культуры ўзнік, такім чынам, не выпадкова і не на голым месцы. Яго змест грунтаваўся на жывой практыцы свайго часу, на значным вопыце беларуска-літоўскага права і на лепшых літаратурных традыцыях беларускага дзелавога пісьменства, выдатным творчым працягам якога ён і з'явіўся. Мова гэтага твора — узор дзелавога свецкага стылю беларускай літаратурнай мовы XVI ст., а стыль — далейшае развіццё стылю беларускай дакументальна-гістарычнай прозы таго часу. Уяўленне аб іх асаблівасцях можна атрымаць на падставе двух наступных невялікіх урыўкаў тэксту, узятых з двух розных раздзелаў Статута: другога («О обороне земской») і сёмага («О кгвалтех земских и о боех, и о головщинах шляхетских»):

«Уставляем с произволенем рад наших зуполных и всих подданых, иж кождый князь и пан, и дворанин, и вдова, также иж который сирота, лета зуполные маючи або не маючи, и всякий иной чоловек, лета зуполные маючи и земское имене маючи, часу потребы с нами и с потомки нашими або при гетманех наших повинен войну служити и выправляти на службу военную, колко бы коли надобе было подле уфалы земское, яко на тот час потреба будеть вказывати, то ест з людей как отчизных, так похожих, и з ыменя так отчизного, как выслуженого, так купленого,— кроме хто бы от нас держал в заставе имене нашо, тогды тот з людей наших не будеть повинен выправовати подле уфалы, которая на тот час будеть уставлена,— пахолка на добром кони, штобы конь стоял за чотыри копы грошей, а на нем бы панцэр, прилбыца а корд, повезка а древце с прапорцом»;

«Тэж, коли бы при какой вечерней зваде некоторый чоловек свечу згасил, а в том некоторый с тых, который при той зваде был а ранен был, не ведаючи от кого, а позвал бы до суда того, который свечу загасил, менячи так, жем я в той зваде ранен был, а не ведаю от кого за причиною твоею, а на то бы довод вчинил, а естли бы доводу не мел, а смел бы присягнути, тогды тот, который свечу загасил, повинен ему раны платити»[65].

Звяртаюць на сябе ўвагу выключна свецкі характар зместу, стылю і мовы працытаванага тэксту, яго літаратурная апрацаванасць, выразнасць і дакладнасць думкі, яснасць выкладу, але без спрошчанасці, характэрнай многім беларускім дзелавым дакументам папярэдняга перыяду — XIV—XV стст. І будова фразы тут не прымітыўная, не просталінейная і аднастайная, як у некаторых ранніх летапісах, дзе пераважаюць простыя сказы са злучальнай сувяззю, а даволі складаная, дастаткова развітая, з разгалінаванымі формамі падпарадкаванасці і залеж-

---

[64] Первый Литовский статут 1529 года. С. 102—103.
[65] Статут Великого княжества Литовского 1529 года. С. 42 і 90.

насці, якія фіксуюць розныя павароты чалавечай думкі, якія адлюстроўваюць ускладненасць мыслення і грамадскіх узаемаадносін, дэманструюць большую літаратурную вопытнасць выказвання.

Першы Статут даволі шырока, больш дыферэнцыравана і канкрэтна адлюстроўвае таксама ўзаемаадносіны чалавека і грамадства, людзей паміж сабою, часткова іх заняткі і побыт, розныя бакі і выпадкі жыцця. У іх нямала розных рэалій часу, канкрэтных бытавых дэталей, якія маюць не толькі гістарычна-пазнавальнае, але ў пэўнай меры і літаратурна-мастацкае значэнне:

«А хто маеть борти в чией пущи, бортники, которые мають ходити к их бортем, не мають з собою псов брати ани рогатин, ани иное жадное стрелбы, чим бы мел зверу шкоду вчинити; але бортники толко мают мети сокеру а пешню, чим борти робити. А к сеножатем не мает ни с чим ити, толко з сокирою, чим заросли ростеребити, а с косою, чим ее маеть косити ...А бортником волно лык на лезиво або лубя на лазбен [брати] и на иншые потребы»;

«Тэж уставуем: коли хто кому рек: «Ты еси злого ложа сын»,— а того бы на него не довел, тогды сказуем, иж таковый маеть того нагабаня судовне очистити под тыми слова: «Што есми менил на тебе, иж бы ты был злого ложа сын, менил есми то на тебе, яко пес» [66].

Вялікая каштоўнасць Статута 1529 г. як помніка пісьменства яшчэ і ў тым, што менавіта дзякуючы яму ўзнік унікальны беларуска-літоўскі рукапісны кодэкс пэўнага саставу, чыста свецкага характару, у якім гэты твор займае цэнтральнае месца. Гэты зборнік быў неўзабаве перакладзены з беларускай мовы на лацінскую і польскую і, што вельмі важна, захаваўся ў радзе рукапісных спісаў эпохі Скарыны, а дакладней другой чвэрці XVI ст. Найбольш поўна і ярка яго прадстаўляе польскамоўны Альшэўскі рукапіс.

Калі не лічыць больш позніх копій, тэкст першага Статута вядомы ў 7 арыгінальных спісах. Усе яны XVI ст. Чатыры з іх на беларускай, два на лацінскай і адзін на польскай мовах. Толькі адзін з іх, Слуцкі, захоўваецца ў нашай краіне, астатнія — за межамі СССР, у Польшчы і ГДР.

Найбольш дасканалы, блізкі да арыгінала тэкст гэтага Статута захаваўся ў т. зв. спісе Дзялынскага на старабеларускай мове. Ён звычайна кладзецца ў аснову навуковых выданняў гэтага помніка. Названы па імені польскага краязнаўца і выдаўца Т. Дзялынскага, які набыў гэты рукапіс у Варшаве ў 1820 г. Менавіта паводле гэтага спіса і быў упершыню надрукаваны ў 1841 г. у Познані тэкст Статута 1529 г., што падрыхтаваў І. Даніловіч, адзін з першых сур'ёзных даследчыкаў бела-

---

[66] Статут Великого княжества Литовского 1529 года. С. 50—52 і 105.

руска-літоўскага права[67]. Спіс Дзялынскага ўзнік каля 1560 г. у Вільні і належаў велікакняжацкай канцылярыі. Цяпер зберагаецца ў Курніцкай бібліятэцы, што ля Познані.

Віленскага паходжання і другі беларускі спіс гэтага помніка — Слуцкі, які ў XVIII ст. належаў бібліятэцы Слуцкай езуіцкай калегіі, а перад тым, як сведчаць запісы розных асоб, відаць, захоўваўся ў Вільні. Менавіта ў ім змешчаны славуты верш беларускага шляхціца Яна Казімера Пашкевіча «Польска квітнет лаціною, Літва квітнет русчызною». Слуцкі спіс датуецца 80-мі гадамі XVI ст. Зберагаецца ў Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.

Трэці беларускі спіс першага Статута, Фірлейскі, у XVIII ст. належаў панам Фірлеям. Ён адзін з найбольш старажытных: напісаны каля 1530 г. Месца яго ўзнікнення дакладна не вызначана. Як і два папярэднія, ён стаў вядомы даследчыкам яшчэ ў першай палавіне XIX ст. Цяпер захоўваецца ў Варшаве ў Народнай бібліятэцы.

У найбольш поўным паводле складу кодэксе дайшоў да нас чацвёрты беларускі спіс Статута 1529 г.— Замойскіх. Спачатку, у 30-х гадах XVI ст., ён належаў самому канцлеру Вялікага княства Літоўскага А. Гаштольду, а ў XVIII ст.— польскім арыстакратам Замойскім. Зборнік перапісаны ў Вільні каля 1530 г. Цяпер знаходзіцца ў Варшаве ў Народнай бібліятэцы[68].

Рукапіс Замойскіх цікавы яшчэ тым, што ў ім апрача тэксту зводу законаў змешчаны таксама розныя іншыя літаратурныя творы і дакументальна-гістарычныя матэрыялы: «Багародзіца», «Пахвала каралю Жыгімонту I», Прывілей Казіміра 1447 г., Прывілей Вітаўта яўрэям 1388 г. і толькі ў канцы Статут. Характэрна, што гэты парадак размяшчэння складовых частак захаваны і ў іншых спісах зборніка: Лаўрэнцьеўскім 1531 г. на лацінскай мове і Альшэўскім 1550 г. на польскай мове.

Лаўрэнцьеўскі спіс быў адкрыты нядаўна ў ГДР у бібліятэцы сярэдняй школы прыгарада Наумбурга Шульпфортэ літоўскім журналістам А. Сцепанаўскасам. Пісаны ў Кракаве каліграфам Лаўрэнціем, шыкоўна афармлены, прызначаўся, відаць, самой польскай каралеве Боне (у пачатку рукапісу намаляваны каляровы герб італьянскага роду Сфорцаў)[69]. Паводле свайго літаратурнага складу гэты кодэкс вылучаецца той асаблівасцю, што ў самым канцы яго змешчан яшчэ панегірык Гаштольдам. Дадзены акт дадаткова пацвярджае меркаванне аб значнай ролі

---

[67] Zbiór praw Litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841.

[68] Больш падрабязныя звесткі пра гэтыя і іншыя рукапісы першага Статута, а таксама грунтоўнае іх палеаграфічна-тэксталагічнае апісанне пададзены ў кн.: Pirmasis Lietuvos statutos. Первый Литовский статут. Т. 1, ч. 1; Лазутка С., Гудавичюс Э. Палеографический и текстологический анализ списков. Вильнюс, 1983. Гісторыя вывучэння літоўска-беларускага права XV—XVI стст. выкладзена ў працах У. Пічэты ў яго кнізе «Белоруссия и Литва XV—XVI вв.» С. 413—455, 487—502.

[69] Первый Литовский статут. Т. 1, ч. 1. С. 95—103.

А. Гаштольда як кіраўніка канцылярыі Вялікага княства Літоўскага ў падрыхтоўцы першага Статута.

З літаратурнага боку значную цікавасць выклікае верш «Багародзіца». У спісе Замойскіх ён мае наступную назву: «Песнь о велебной девици панне Марии». Пачатак гучыць так:

> Богородицо девице, благословена Мария,
> У твекго сына кгосподина матко зволена Мария.
> Зычи ж нам, спусти ж нам.
> Кири ялейзон.

Гэта рэлігійная песня, несумненна, польскага паходжання [70]. Пра гэта сведчаць 10 яе польскіх спісаў, у тым ліку тры XV ст., агульны каталіцкі характар твора, а таксама той факт, што адзіны яе ўсходнеславянскі спіс фактычна ўяўляе сабой транслітэраваны кірыліцай тэкст на польскай мове. Спробы ўкраінскага вучонага В. Шчурата давесці яе ўсходнеславянскае паходжанне аказаліся недастаткова пераканаўчымі [71].

Змясціўшы гэты гімн-малітву, якому тады надавалі важнае ідэалагічнае значэнне, на пачатку такога важнага дзяржаўнага дакумента, як Статут, які толькі што быў завершаны і зацверджаны, яго аўтары і рэдактары гэтым самым у традыцыях свайго часу як бы асвяцілі сваю працу, надалі ёй большую аўтарытэтнасць і імкнуліся паспрыяць паспяховаму правядзенню яе ў жыццё.

Характэрна, што першая польская друкаваная публікацыя гэтай песні (1506 г.) таксама змешчана перад помнікам дзяржаўнага права — польскім Статутам Яна Ласкага. Беларускі спіс «Багародзіцы» цікавы і як прыклад вельмі ранняга бытавання ў Вялікім княстве Літоўскім яшчэ ў часы Скарыны розных вершаваных твораў.

Статут 1529 г. у цэлым — своеасаблівае люстра свайго часу, яго станоўчых бакоў і недахопаў, заканамерны і арганічны вынік даволі высокага ўзроўню культурна-гістарычнага развіцця Літвы і Беларусі першай палавіны XVI ст., эпохі Скарыны. «Вялікім помнікам заканадаўства сваёй эпохі з'яўляецца Літоўскі статут,— пісаў В. Мацяёўскі, адзін з першых даследчыкаў беларуска-літоўскага права,— і такім, якога тагачасная Еўропа не мела. Ён — быццам дрэва, якое, прыцягнуўшы да сябе сокі суседніх дрэў, уабрала і перарабіла іх у сабе і зноў вярнула, але лепшымі і больш спажыўнымі» [72]. Гэты твор спрыяў узмац-

[70] Łoś J. Bogorodzica, pierwszy polski hymn narodowy. Lublin, 1922; Brückner A. Średniowieczna pieśń religijna polska. Kraków, 1923; Bańkowski P. Dwa teksty «Bogarodzicy» w dwóch rękopiśmiennych statutach litewskich z 1-ej połowy XVI w. // Archeion. Warszawa, 1948. S. 159—184.

[71] Щурат В. Грунвальдська пiсня (Bogorodzica dziewica): Пам'ятка западноруськоï лiтератури XIV в. Жовква, 1906.

[72] Цыт. паводле працы: Бардах Ю. Литовские статуты—памятники права периода Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 88.

ненню грамадска-палітычнай актыўнасці насельніцтва Вяліка га княства Літоўскага і Рускага, асабліва шляхты, умацаванню правапарадку ў дзяржаве, развіццю культуры, прававой і сацыялагічнай думкі, паслужыў асновай для наступных літоўска-беларускіх статутаў 1566 і 1588 гг. і стаў этапнай з'явай у гісторыі развіцця дакументальна-дзелавой прозы на старабеларускай літаратурнай мове.

Некаторыя даследчыкі заўважаюць пераклічку асобных палажэнняў гэтага помніка з прававымі поглядамі Ф. Скарыны[73]. Дадзенае пытанне патрабуе больш глыбокага і ўсебаковага вывучэння і абгрунтавання, аднак яго спецыяльная распрацоўка не ўваходзіць у задачу нашага даследавання. Гіпатэтычным і дыскусійным застаецца меркаванне пра магчымы ўдзел беларускага гуманіста ў складанні Статута 1529 г. Той факт, што гэты звод законаў не быў надрукаваны, хоць тады ў Вільні існавала скарынаўская друкарня, што Статут ствараўся як помнік феадальна-шляхецкага, а не гарадскога права, што Скарына не меў спецыяльнай юрыдычна-прававой адукацыі, а таксама яго вельмі складанае і цяжкае становішча якраз у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў XVI ст., робяць, на нашу думку, такое меркаванне малаверагодным.

У цеснай узаемасувязі з дзелавым пісьменствам развіваўся на беларускіх землях летапісны жанр. Ён фактычна ўзнік на мяжы гэтага пісьменства і ўласна літаратуры і таму паводле сваёй жанравай прыроды як асобы тып гістарычна-дакументальнай прозы мае сінкрэтычны характар. Невыпадкова, што летапісам як помнікам гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі свайго часу надавалі не толькі важнае ідэйна-выхаваўчае значэнне. Яны мелі яшчэ і практычна-службовае прызначэнне. Да іх ставіліся ў значнай меры і як да дзелавых дакументаў.

Апошняе пераканаўча пацвярджаецца яшчэ адным вельмі яркім фактам, на які не звярнулі асаблівай увагі даследчыкі. У Альшэўскім спісе таго, выключна дзелавога па зместу зборніка-кодэкса, пра які мы гаварылі вышэй, побач са Статутам 1529 г. і іншымі дзяржаўнай важнасці афіцыйнымі творамі змешчана таксама «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», помнік беларуска-літоўскага летапісання першай палавіны XVI ст. Альшэўскі спіс, які ўзнік каля 1550 г.,— не толькі першы пераклад гэтага твора на польскую мову, але і адзін з найбольш ранніх па часе яго спісаў наогул. Захаваліся яшчэ толькі два беларускія спісы XVI ст. гэтай хронікі — Красінскага і Археалагічнага таварыства. Усе яны апублікаваны[74].

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» разам

[73] Юхо Я. Статуты Вялікага княства Літоўскага // Полымя. 1966. № 11; Конон В. М. Гуманистические истоки Статута Великого княжества Литовского 1529 года // Первый Литовский статут 1529 года. С. 94—103.

[74] ПСРЛ. Т. 17: Западнорусские летописи. Спб., 1907; т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980.

з «Хронікай Быхаўца», што ўзнікла некалькі пазней,— новы этап у гісторыі агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. Іх з'яўленне было выклікана новымі культурна-гістарычнымі ўмовамі часу, новымі грамадска-палітычнымі тэндэнцыямі на літоўска-беларускіх землях эпохі Скарыны і новымі ідэйна-мастацкімі задачамі, якія паўсталі тады перад летапісцамі. Апрача выразна палітычных абставін, звязаных з патрэбамі ідэалагічна ўмацаваць міжнароднае становішча Вялікага княства Літоўскага, гістарычна абгрунтаваць яго права на беларускія і ўкраінскія землі, даказаць высокае паходжанне кіруючай княжацкай дынастыі, былі таксама і некаторыя іншыя прычыны, што стымулявалі стварэнне шмат у чым новай гісторыі гэтай дзяржавы.

У XVI ст. у эпоху Адраджэння, у перыяд завяршэння фарміравання літоўскай і беларускай народнасцей, адбываўся актыўны працэс росту нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасці шляхты і гараджан, прыкметна ўзмацнела цікавасць да свайго мінулага. Ствараліся велічныя, патрыятычна накіраваныя гісторыі цэлых краін і народаў. Прадстаўнікі асобных арыстакратычных фамілій шукалі сабе славутых продкаў, гістарычных аргументаў для доказу свайго высакароднага паходжання, выдатнай ролі свайго роду ў гісторыі дзяржавы. Збіраліся і літаратурна апрацоўваліся гістарычныя паданні, ствараліся і выдаваліся за гістарычную праўду розныя гераічнага зместу легенды, рамантызавалася і прыўзнімалася мінулае цэлых краін і народаў. Так, у Польшчы ў XVI—XVII стст. актыўна распаўсюджвалася канцэпцыя пра паходжанне ляхаў ад старажытных сарматаў, якія быццам бы перамагалі нават самога Аляксандра Македонскага, а ў Венгрыі інтэнсіўна распрацоўвалася, выдавалася за гістарычную праўду і прымалася за аксіёму легенда пра паходжанне венграў ад ваяўнічых гунаў.

Трэба адзначыць яшчэ, што не ўсіх і не ва ўсім задавальняла ўжо гісторыя Вялікага княства Літоўскага, укладзеная ў першай палавіне XV ст. і прадстаўленая Беларуска-літоўскім летапісам 1446 г. Яна выкладзена ў гэтым летапісным зводзе на шырокім усходнеславянскім фоне як арганічны працяг гісторыі Кіеўскай Русі і ў сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі. У ім вялікія літоўскія князі выступаюць носьбітамі агульнарускіх тэндэнцый, у пэўным сэнсе выразнікамі аб'яднаўчых імкненняў усходнеславянскіх народаў, змагарамі за аднаўленне іх палітычнага адзінства, якое было страчана пасля распаду Кіеўскай дзяржавы [75]. Асабліва ж не задавальняла ранейшая гісторыя некаторых патрыятычна настроеных літоўскіх арыстакратаў, што належалі да кіруючай вярхушкі. Іх больш цікавіла мінулае сваёй радзімы, уласна Літвы, чым Старажытнай Русі. У Беларуска-літоўскім жа летапісу 1446 г. апошняя пераважае над

[75] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 61.

першай і зусім не асветлены генезіс Вялікага княства Літоўскага. Менавіта ў іх асяроддзі і была створана новая гісторыя гэтай дзяржавы.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», найбольш верагодна, напісана ў 20-я гады XVI ст. асобай, блізкай да літоўскіх магнатаў Гаштольдаў. Гэта меркаванне, упершыню выкладзенае яшчэ Я. Якубоўскім [76], дадаткова пацверджана і абгрунтавана і ў найноўшых даследаваннях [77]. Месца яе ўзнікнення дакладна не высветлена. У апошні час М. Улашчык выказаў думку пра навагрудскае паходжанне асноўнай часткі хронікі [78].

У аснову гэтага твора пакладзена славутая легенда пра паходжанне літоўскіх князёў і феадалаў ад рымскай знаці, якую ўжо ведаў польскі храніст XV ст. Ян Длугаш і ўпершыню занатаваў у сваёй «Гісторыі Польшчы». У літоўска-беларускай хроніцы яна была літаратурна апрацавана, атрымаўшы выгляд праўдзівага апавядання пра гістарычна сапраўдных герояў, пра рэальныя падзеі і факты [79].

Сюжэт твора даволі традыцыйны, просты. Баючыся праследаванняў імператара-тырана Нерона, апавядае храніст, вялікая група рымлян («пятсот шляхты з жонами и з детми и з многыми людми») на чале з патрыцыем Палемонам пакінула Італію і пасля доўгага падарожжа па моры прыбыла ў вусце Нёмана. Тут, у Прынёманскім краі, і пасяліліся рымляне, заклалі першыя гарады і заснавалі першыя княствы. Ад найбольш радавітай рымскай знаці, сцвярджаецца ў хроніцы, і пайшлі літоўскія князі і буйныя феадалы, дзякуючы нястомнай дзейнасці і гераізму якіх і была створана магутная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае і Жамойцкае, як называе яе аўтар.

Створаная літоўскім хроністам велічная, але шмат у чым вымышленая гісторыя Літвы, поўная фактычных памылак, розных недакладнасцей і недарэчнасцей, зразумела, мае мала чаго агульнага з сапраўднасцю. Выразна прыніжанай і бездапаможнай выглядае ў творы Русь, якая паказана толькі як шырокае поле для актыўнай дзейнасці ўдалых літоўскіх князёў. Падкрэсліваючы высакароднасць і старажытнасць свайго паходжання, выключную ролю сваіх продкаў у гісторыі Вялікага

---

[76] Jakubowski J. Studya nad stosunkomi narodowościowemi na Litwie przed unią Lubelską. S. 34, 46.

[77] Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia Źródłoznawcze: Commentationes. T. XII. Warszawa, 1967. S. 158—159; Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969 С. 155—158; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 161—162.

[78] Улащик Н. Н. Введение... С. 159—162.

[79] Гэта легенда больш шырока разгледжана ў працах: Zachara-Wawrzyńczyk M. Geneza legendy o rzymskim pochodzeniu litwinów // Zeszyty historyczne. T. III. 1963. S. 5—35; Kulicka E. Legenda o rzymskim pochodzeniu litwinów i jej stosunek do mitu sarmackiego // Przegląd historyczny. T. LXXXI. 1980. Nr 1. S. 1—21.

княства Літоўскага, літоўскія феадалы гэтым самым імкнуліся сцвердзіць сваю перавагу над беларуска-ўкраінскімі і абгрунтаваць свае права на пануючае становішча ў гэтай дзяржаве.

Паводле сваёй жанравай формы «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» нагадвае не звычайны летапіс, а гістарычную аповесць. У творы няма традыцыйнага раздраблення тэксту на асобныя пагадовыя артыкулы, як у старажытнарускіх летапісах. Знешне яна блізкая да «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», твора, напісанага на сто гадоў раней. Па сутнасці ж гэта вельмі розныя творы. У адрозненне ад «Хронікі» «Летапісец» у цэлым вылучаецца натуральнай жывасцю і жыццёвай праўдзівасцю апавядання, цэльнасцю і літаратурным майстэрствам выкладу, гістарычнай дакладнасцю апісання падзей.

Апавяданне ж у «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» вядзецца вельмі бегла, даволі схематычна, аднастайна і трафарэтна. Месцамі твор нагадвае своеасаблівы даведнік па легендарнай літоўскай генеалогіі. Князі мяняюцца, як у калейдаскопе: Кунас, Гінбут, Скірмант, Мантвіл, Кукавойт, Утэнус, Гірус, Гінвіл... Асобныя іх імёны ўтвораны ад аднайменных геаграфічных назваў Літвы і Беларусі: Кернус, Неманас, Гольша, Трабус, Эйкшыс і г. д.; іншыя запазычаны з Галіцка-Валынскага летапісу: Шварн, Эрдзівіл, Тройдзень, Жывінбуд, Раман. З апошняга ўзяты таксама некаторыя гістарычныя сюжэты, што датычаць жыццяпісу літоўскіх князёў Міндоўга і Войшалка. Праўда, дакладныя звесткі, запазычаныя з аўтэнтычных крыніц, свядома перароблены і тэндэнцыйна падагнаны пад агульную канцэпцыю. Толькі заключная частка «Хронікі», прысвечаная апісанню княжання Гедыміна, грунтуецца на гістарычных паданнях, якія маюць рэальную аснову, і таму ўяўляе пэўную навукова-пазнавальную каштоўнасць.

Апошнія старонкі твора больш цікавыя і з літаратурнага боку, асабліва паэтычнае апавяданне пра заснаванне Гедымінам Вільні:

«И некоторого часу поехал князь великий Кгиндимин со столца своего Кернова в ловы за пять миль за реку Велю, и наиде в пущи гору красну, дубровами и ровнинами облеглую, и сподобалося ему велми, и он там поселился, и заложил город, и назове имя ему Троки, где ныне Старые Троки суть, и с Кернова перенес столец свой на Троки. И в малых часех поехал после того князь великий Кгиндимин в ловы от Троков за четыре мили, и найде гору красну над рекою Вилнею, на которой найде зверя великого тура, и убьет его на той горе, где ныне зовут Турья гора. И велми было позно до Троков ехати, и станет на луце на Швинторозе, где перших великих князей жигали, и обначовал. И спящу ему там, сон виде, што ж на горе, которую звали Кривая, тепер Лысая, стоит волк железный велик, а в нем ревет, как бы сто волков выло. И очутився от сна своего и рече ворожбиту своему именем Лиздейку, который был найден ув орлове

гнезде, и был тот Лиздейко у князя Кгиндимина ворожбитом навышшим, потом попом поганским: «Видех деи сон дивный», и споведа ему все, што се ему уво сне видело. И тот Лиздейко рече господарю: «Княже великий, волк железный знаменует город столечный тут будет, а што в нем унутри ревет, то слава его будет слынути на весь свет». И князь великий Кгиндимин назавтрее ж, не отеждаючи, послал по люди и заложил город, один на Швинторозе Нижний, а другий на Кривой горе, которую ныне зовут Лысою, и наречет имя тым городом Вилня. И збудовавши городы перенесет столец свой с Троков на Вилню, и учинит першим воеводою у Вилни гетмана своего Кгаштолта с Колюмнов, который ся народил с Кумпя, который был пойман от немцов на Куносове. И княжил великий князь Кгиндимин много лет на княжестве Литовском и Руском и Жомойтском, и был справедливый, и много валк мевал, а завжды зыскивал, и пановал фортунливе аж до старости великое своей»[80].

У гэтым творы вельмі ўдалы сінтэз рэальнага факта і вымыслу, праўды гістарычнай і праўды мастацкай, дакументальна-дакладнага і вусна-паэтычнага адлюстравання падзеі. У ім шмат дакладных гістарычных дэталей: Турава і Лысая горы, што «от Троков за четыре мили», Швінтарог (святы рог), дзе раней было месца язычніцкага спальвання літоўскіх князёў, Ніжні і Крывы (Верхні) гарады, з якіх складалася старажытная Вільня. Выгаднае геаграфічнае палажэнне (суток рэк Вільні і Віліі, высокія і крутыя ўзгоркі, што былі натуральнай перашкодай для ворагаў і аблягчалі абарону ў час іх нападу) і было галоўнай прычынай заснавання тут горада, куды была перанесена сталіца маладой дзяржавы.

Сапраўдны гістарычны факт літаратурна апрацаваны і паэтычна пераасэнсаваны ў «Хроніцы». На яго аснове створана сюжэтнае белетрыстычнае апавяданне, у якім моцна адчуваецца прыгодніцкі элемент і ўсё ахутана арэолам незвычайнага: незвычайнае паляванне ў незвычайным месцы, незвычайны тур, незвычайны сон, незвычайны варажбіт (дзіцем знойдзены ў гняздзе арла), незвычайная адгадка сну і незвычайны горад. Гэта мініяцюрная навела, несумненна, пабудавана на народным эпічным паданні, якое данесла да нас і сапраўдны гістарычны факт заснавання сталіцы дзяржавы менавіта князем Гедымінам і далёкае рэха язычніцкіх вераванняў літоўцаў.

Такім чынам, у легендарнай гісторыі Літвы ад міфічнага Палемона да Гедыміна, што выкладзена ў «Хроніцы», назіраецца выразны адыход ад традыцый старажытнарускага летапісання. Гэта датычыцца як формы і стылю апісання падзей, так і спосабу і метаду напісання гістарыяграфічнага твора. Менавіта ў дачыненні да «Хронікі» ўпершыню ў гісторыі беларуска-літоўскага летапісання можна гаварыць не пра складанне, а пра

[80] ПСРЛ. Т. 35. С. 96—97.

стварэнне пры дапамозе пераважна літаратурнага вымыслу пісьмовай гісторыі цэлай краіны, пачынаючы ад самых вытокаў яе дзяржаўна-палітычнага жыцця. І хоць гэта гісторыя настойліва выдавалася яе аўтарамі, заказчыкамі і натхняльнікамі за сапраўдную (так яе і ўспрымалі шматлікія чытачы, іншыя храністы і нават некаторыя вучоныя), аднак, па сутнасці, яна, хутчэй за ўсё, з'ява літаратурнага парадку, помнік грамадска-палітычнай думкі, а не факт дзелавой гістарычна-дакументальнай прозы.

Увядзенне ў летапісы свядомага вымыслу, што ўпершыню так выразна і шырока выявілася ў «Хроніцы», сведчыла аб новых, якасных зменах, якія адбываліся тады ў развіцці гэтага жанру на беларуска-літоўскіх землях у эпоху Скарыны. Разам са зменамі ў ідэйнай накіраванасці хранаграфічных твораў (страта імі агульнарускага характару, узмацненне пралітоўскіх тэндэнцый і інш.), іх гістарычнай канцэпцыі гэта ў цэлым знаменавала сабою пачатак новага этапу ў гісторыі беларуска-літоўскага летапісання. Аб'ектыўна гэта быў таксама рашучы крок у напрамку далейшай белетрызацыі гістарычнага апавядання і паступовага пераходу да хранаграфічнага, літаратурна-мастацкага апісання, вобразна-паэтычнага адлюстравання мінулага ў творах пісьменства.

«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» разам з «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх», «Пахвалой Вітаўту» і некаторымі іншымі летапіснымі творамі і асобнымі гістарычнымі запісамі, запазычанымі з арыгінальнай часткі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г., склалі другі агульнадзяржаўны беларуска-літоўскі летапісны звод. Яго першая рэдакцыя ўзнікла дзесьці каля 1530 г. і прадстаўлена адзіным вядомым нам сёння спісам Красінскага.

Неўзабаве легендарная частка «Хронікі» была прыкметна перапрацавана, а ў канцы зводу дапоўнена рознымі датаванымі гістарычнымі запісамі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Так утварылася новая, другая, рэдакцыя гэтага помніка. Яна захавалася ў радзе спісаў: Альшэўскім, Археалагічнага таварыства, Румянцаўскім, Патрыяршым. Прыблізна 50-мі гадамі XVI ст. датуецца трэцяя, самая поўная рэдакцыя другога беларуска-літоўскага летапіснага зводу, вядомая ў Познанскім, інакш Рачынскім, спісе. Найбольш прыкметнае і яркае яе адрозненне ад папярэдняй рэдакцыі — наяўнасць значнай колькасці гістарычных запісаў пра падзеі першай палавіны XVI ст., у тым ліку вельмі цікавага апавядання пра каханне караля Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл [81]. «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» паслужыла таксама адной з асноўных крыніц трэцяга беларуска-літоўскага летапіснага зводу — «Хронікі Быхаўца».

---

[81] ПСРЛ. Т. 35. С. 171—172.

Патрэба скласці неўзабаве новы твор па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, думаецца, узнікла таму, што і другі летапісны звод не даваў дастаткова поўнай карціны палітычнага мінулага Літвы і Русі (Беларусі і Украіны). Асабліва гэта датычылася бліжэйшай па часе сапраўднай гісторыі гэтай дзяржавы за XV — пачатак XVI ст., якая прадстаўлена ў папярэднім зводзе месцамі вельмі фрагментарна і тэзісна. Шмат якія значныя гістарычныя падзеі былі ў другім беларуска-літоўскім зводзе або зусім абыдзены або апісаны вельмі сцісла ці пададзены крыху не ў тым плане. Апрача таго, пэўная аднабаковасць і тэндэнцыйнасць «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», яе пралітоўскі характар закраналі патрыятычныя пачуцці беларуска-ўкраінскіх чытачоў, сярод якіх былі і прадстаўнікі пануючага класа, і таму гэты твор не мог цалкам іх задаволіць. Карацей кажучы, узнікненне пашыранай і ўдакладненай гісторыі Вялікага княства Літоўскага стала неабходнасцю і было з'явай далёка не выпадковай.

«Хроніка Быхаўца» — помнік шмат у чым унікальны і загадкавы. У адрозненне ад двух папярэдніх беларуска-літоўскіх летапісных зводаў яна зберагласся толькі ў адным спісе. Яе рукапіс, які ўяўляў сабою транслітэраваны дзесьці ў пачатку XVIII ст. лацінкай беларускі тэкст «Хронікі», быў няпоўны, дэфектны і да таго ж прапаў у другой палавіне мінулага стагоддзя. Толькі дзякуючы гісторыку Т. Нарбуту, які апублікаваў яе па рукапісу, знойдзеным у пана з-пад Ваўкавыска А. Быхаўца [82], помнік быў выратаваны ад канчатковай згубы. Гэта акалічнасць спараджала і спараджае шмат розных дадатковых праблем і ўскладняе даследаванне гэтага цікавага і каштоўнага помніка еўрапейскай гістарыяграфіі, якое апошнім часам значна пасунулася наперад дзякуючы намаганням польскіх і беларускіх, літоўскіх і рускіх вучоных [83].

Знешне «Хроніка Быхаўца» нагадвае гістарычную аповесць, створаную адным пісьменнікам. На самай жа справе яна, як і папярэднія помнікі агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання, таксама летапісны звод, складзены на аснове розных гістарычна-літаратурных твораў і дакументальных матэрыялаў. Як і другі летапісны звод, яна таксама пачынаецца легендарнай гісторыяй Літвы ад Палемона, чым прынцыпова адрозніваецца паводле свайго складу, зместу і агульнай накірава-

[82] Narbutt T. Pomniki do dziejów litewskich. Wilno, 1846.

[83] Улащик Н. Н. Предисловие // Хроника Быховца. М., 1966. С. 5—30; Флоря Б. Н. О «Летописце Быховца» // Источники и историография славянского средневековья. М., 1967. С. 135—144; Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969. С. 162—186; Ючас М. А. Хроника Быховца // Летописи и хроники. 1973. М., 1974. С. 220—231; Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia Źródłoznawcze. 1967. T. XII. S. 155—163; Jučas M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968. S. 99—134; Lietuvos metraštis. Bychovco Kronika. Vilnius, 1971 (прадмова, пераклад на літоўскую мову і каментарыі Р. Ясаса).

насці ад першага зводу, Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г., у якім гісторыі Вялікага княства Літоўскага папярэднічае гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі, што запазычана са старажытнарускіх летапісаў.

Непасрэднай крыніцай першай часткі «Хронікі Быхаўца» паслужыла «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», узятая з папярэдняга, другога, беларуска-літоўскага зводу. Яна была запазычана цалкам, без значных скарачэнняў і перапрацоўкі тэксту, але з двума істотнымі дапаўненнямі. Складальнік трэцяга зводу перанёс пачатак падзей з I ст. у V ст. і па-іншаму вытлумачыў прычыны ўцёкаў Палемона і групы яго суайчыннікаў з Італіі. Яны ратуюцца не ад крывавага тэрору рымскага імператара Нерона, а ад спусташальнага нашэсця гунскіх полчышчаў пад кіраўніцтвам «біча божага» Атылы [84]. Такая пераробка пачатку сур'ёзна не выправіла, аднак, яго храналагічную несуадпаведнасць з далейшым зместам хронікі: па-ранейшаму паміж часам прыбыцця ў Літву рымскіх выгнаннікаў і эпохай Старажытнай Русі, калі пачаліся напады на ўсходнеславянскія землі татара-мангольскіх ордаў, у творы адбываецца вельмі мала падзей і зменьваецца ўсяго тры пакаленні князёў.

Другое важнае дапаўненне ў легендарнай частцы «Хронікі Быхаўца» — устаўка аповесці пра літоўскіх князёў Міндоўга і Войшалка, якая была запазычана з Галіцка-Валынскага летапісу [85]. У ёй апісваецца першапачатковы этап надзвычай складанага і драматычнага працэсу палітычнага аб'яднання Літвы і прылеглых зямель Русі (будучай Беларусі), працэс станаўлення ў Еўропе ў XIII ст. новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага і Рускага. Звесткі пра гэтых князёў аўтар «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», які, несумненна, таксама карыстаўся Галіцка-Валынскім летапісам, свядома прапусціў. Складальнік жа «Хронікі Быхаўца», дапоўніўшы легендарную гісторыю дакладнымі летапіснымі запісамі пра рэальныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Літвы і Беларусі, гэтым засведчыў сваё імкненне стварыць больш поўную і па магчымасці гістарычна сапраўдную іх гісторыю, заснаваную на дакладных крыніцах.

Арганічным працягам легендарнай гісторыі служаць у «Хроніцы Быхаўца» «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» і іншыя творы з арыгінальнай часткі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г., якія прысвечаны палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага прыблізна ад сярэдзіны XIV да сярэдзіны XV ст. Найбольш грунтоўна апісаны падзеі часоў Вітаўта. Аднак пахвала яму, адзін з найбольш яркіх і значных твораў першага ле-

---

[84] ПСРЛ. Т. 32. С. 128. Пачатак хронікі аднаўляецца паводле «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, бо ў дэфектным спісе Быхаўца ён не захаваўся.
[85] Там жа. С. 132—134.

тапіснага зводу, у «Хроніку Быхаўца» не была ўключана. Ві даць, у XVI ст. яна ўжо страціла сваю былую актуальнасць.

Тэкст папярэдніх беларуска-літоўскіх летапісаў быў багата дапоўнены ў «Хроніцы Быхаўца» новымі гістарычна-літаратурными матэрыяламі пра мінулае Літвы і Беларусі XIV — пачатку XVI ст. Арыгінальная частка складае каля палавіны гэтага летапіснага зводу і мае для нас асаблівую цікавасць, бо яна стваралася ў часы Скарыны.

Змест новай часткі «Хронікі Быхаўца» выразна паказвае, якую важную гістарыяграфічна-літаратурную і ідэйна-выхаваўчую задачу ставіў перад сабою яе аўтар. Ён хацеў стварыць шырокую і велічную панараму гістарычнага мінулага сваёй краіны, каб задаволіць узросшую цікавасць сваіх суайчыннікаў да гісторыі роднай зямлі, выклікаць у іх пачуццё грамадзянскага і нацыянальнага гонару, абудзіць і ўзняць іх патрыятычныя пачуцці, захаваць для наступных пакаленняў памяць пра багатае мінулае сваёй Бацькаўшчыны, пра яе слаўных герояў і выдатныя гістарычныя падзеі. Каб дасягнуць сваёй мэты, храніст выкарыстоўваў самыя розныя крыніцы, пісьмовыя і вусныя. Ён імкнуўся зацікавіць свайго чытача не толькі тэмай і зместам гаворкі, але і захапіць яго яркім, жывым выкладам, займальным апавяданнем пра падзеі.

Аўтар «Хронікі Быхаўца» амаль цалкам скарыстаў легендарную частку «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», аднак сам не ствараў розных гісторый, не выдумляў падзей і герояў. Ён апісваў тое, што сам бачыў і перажыў, пра што чуў ад людзей бывалых і аўтарытэтных, сведкаў або непасрэдных удзельнікаў падзей. Ён абапіраўся таксама на ўспаміны людзей, добра дасведчаных у роднай гісторыі, хавальнікаў гістарычнай памяці народа, летапісцаў яго гераічнага мінулага, якія шмат ведалі і захавалі перададзеныя ад продкаў апавяданні пра падзеі далёкіх часоў, розныя гістарычныя і сямейныя паданні. Зразумела, асобныя гістарычныя падзеі былі паэтычна асэнсаваны народнай фантазіяй і бачыліся на адлегласці часу ў больш рамантычным святле або былі свядома апрацаваны ў зацікаўленых колах у патрэбным кірунку. Роля некаторых асоб у гісторыі была таксама прыкметна пераўвялічана, гераізавана.

Адной з крыніц «Хронікі Быхаўца» паслужылі радавыя паданні буйных літоўска-беларускіх арыстакратаў, у прыватнасці Гаштольдаў. Апошнія займалі высокае месца ў феадальнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага, дасягнуўшы найбольшай магутнасці ў 20—30-я гады XVI ст. Так, храніст уключыў у гэты летапісны звод апавяданне пра Пятра Гаштольда, віленскага ваяводу, які яшчэ ў часы Альгерда «найпервей прынял веру рымскую и до Литвы прынес». Выдатным ваенна-палітычным дзеячам паказаны таксама дзед віленскага ваяводы і дзяржаўнага канцлера ў 1522—1539 гг. Альбрэхта Гаштольда Ян. У час Грунвальдскай бітвы Вітаўт прызначыў яго вялікім гетманам,

галоўнакамандуючым літоўска-беларускімі войскамі. Ян Гаштольд непасрэдна ўдзельнічаў у абранні на велікакняжацкі трон Казіміра Ягайлавіча і настойліва называецца ў «Хроніцы» дзядзькам апошняга. Ён меў такі вялікі ўплыў пры двары, апавядае храніст, што часта дапамагаў Казіміру вырашаць розныя важныя дзяржаўныя праблемы і складаныя жыццёвыя сітуацыі, а яго сын Андрэй нават выратаваў гэтага князя ад немінучай смерці ў час змовы Міхайлушкі Жыгімонтавіча (у сярэдзіне XV ст.), які прэтэндаваў на велікакняжацкі трон. Уключэнне ў «Хроніку Быхаўца» матэрыялаў, звязаных з гісторыяй роду Гаштольдаў, дзейнасць продкаў якіх пададзена ў вельмі станоўчым, амаль панегірычным плане, сведчыць пра пэўныя сувязі з імі аўтара ці аднаго з аўтараў гэтага помніка беларуска-літоўскага агульнадзяржаўнага летапісання.

Любімай тэмай храніста была ваенна-патрыятычная. Яна выразна гучыць ва ўсім творы, у тым ліку і ў яго арыгінальнай частцы. Шмат яркіх старонак ён прысвяціў апісанню розных паходаў і бітваў, ратных учынкаў сваіх суайчыннікаў, іх рыцарскай доблесці і гераізму. У «Хроніцы Быхаўца» апісваюцца паходы Ягайлы на Польшчу, Вітаўта на Пскоў, польскага караля Ольбрахта на валашскага ваяводу Стафана, абарончыя войны з маскоўскімі князямі і татарамі ў канцы XV — пачатку XVI ст. і іншыя. Сярод гэтых апісанняў асаблівай жывасцю выкладу і сюжэтнай завершанасцю вылучаюцца, напрыклад, апавяданні пра паход Альгерда на Маскву, Грунвальдскую бітву і забойства князя Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г.

Характэрная асаблівасць апавядальнай манеры аўтара — прыкметная літаратурная белетрызацыя дакументальна-дзелавога апісання гісторыі, набліжэнне да падзей самога апавядальніка, які становіцца як бы непасрэдным іх удзельнікам, павышаная ўвага і цікавасць да асобных мастацкіх дэталей і гістарычных рэалій. Дзякуючы гэтаму ўвесь малюнак становіцца больш яркім, жывым, рэльефным, больш праўдзівым і рэалістычным. Даволі шырокае ўжыванне розных хроналагічных, тапаграфічных і іншых падрабязнасцей дапамагае ствараць своеасаблівы эфект прысутнасці чытача, што было з'явай вельмі рэдкай у папярэдніх беларуска-літоўскіх летапісах, у якіх падзеі падаюцца з пэўнай дыстанцыі, як бы з птушынага палёту.

Яркім прыкладам такога апісання можа служыць урывак з апавядання пра бітву з татарамі пад Клецкам:

«И выехали з Новогородка месяца августа в четверты день в понеделок в вечер, вже перед змерканием, и шли з Новогородка мимо Осташына. И на завстрые, во второк, прыбегли некоторые дворане от Церына и от Полонки, поведаючы, иже татарове за ними гонили, а ходят близко войска... Панове з своим всим войском того дня, во второк, не доходячы Молева в селе Налипой ночовали. А на завтрее, в середу, месяца августа шестого дня, на преображение господа нашего Исуса Хрыста,

воставше рано и зрадивше гуфы, яко на битву належит, и пошли просто ко Клецку... И как пришли под Клеческ к реце Лане, до Красного ставу, от полудни, и з горы через реку взрели полки татарские, стоячи поготове на бой, и перешедше стали об реку с ними [битися]. Татарове же зыймали писара пана Заберезенского Коптя, и отсекшы голову ему, носили на древцы ругаючыся. Видя же князь Михайло (Глінскі. — *В. Ч.*) з паны и со всим войском смех и наругание их, скоро казал всим полком о обема гатьми реку переходити, и затрубившы во трубу и во свирели загравшы пошли за реку»[86].

Некалькі іншага характару апавяданне пра паход Альгерда на Маскву. Яно пабудавана на гістарычным паданні пра даўно мінулую падзею, якая была паэтычна асэнсавана ў народнай памяці і адпаведна апрацавана, таму больш канцэптуальнае і сюжэтна стройнае. У ім значна менш розных дэталей, а тыя, якія ёсць, хутчэй за ўсё вусна-паэтычнага або літаратурна-мастацкага, а не рэальна-гістарычнага паходжання.

З літаратурнага боку значную цікавасць, у прыватнасці, выклікае ў гэтым апавяданні матыў пра своеасаблівае спаборніцтва ў дасціпнасці галоўных герояў праз загадкавыя, сімвалічныя падарункі, якія пасылае адзін з герояў свайму суперніку. Маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч, апавядае храніст, «без кождое прычыны, опустивши докончаня и прыязнь, и прыслал до великого князя Ольгерда посла своего со одповедию, а прыслал к нему огонь и саблю, даючы ему ведати, што «буду в земли твоей по красной весне, по тихому лету». Мудра і дасціпна адказаў на гэта літоўскі князь: ён узяў крэсіва і крэмень, запаліў губку і перадаў маскоўскаму паслу, даўшы гэтым зразумець, што ў Вялікім княстве Літоўскім ёсць свой агонь, а Дзмітрыю Іванавічу прасіў асабіста перадаць: «Я, дасть бог, в него буду на Велик день и поцалую его красным яйцом — через шчыт сулицою».

Гэты матыў своеасаблівага інтэлектуальнага выпрабавання герояў аналагічна блізкі да падобнага матыву ў «Александрыі», якая была добра вядома на Беларусі. У гэтым творы Дарый прысылае свайму праціўніку Аляксандру Македонскаму ў якасці падарунка мячык, клюшку і блазенскі каўпак з вельмі празрыстым з'едлівым намёкам. Аляксандр яго дасціпна парыруе, дэманструючы і сваю інтэлектуальную перавагу над персідскім царом. Элемент тыпалагічнай пераклічкі, калі не сказаць больш — літаратурнага пераймання, — тут несумненны.

Белетрыстычнасць жа апавядання «Хронікі Быхаўца» пра забойства князя Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г. у Трокскім замку грунтуецца на рэальнай, натуральнай займальнасці самой падзеі, на фабульнай вастрыні і драматычнай напружанасці самога жыццёвага факта. І гістарычныя дэталі таксама маюць тут

[86] ПСРЛ. Т. 32. С. 172.

рэальны, а не выдуманы характар, хоць і ўспрымаюцца як мастацкія знаходкі. Гэта вазы з сенам, што выконваюць у апавяданні ролю своеасаблівага траянскага каня: менавіта дзякуючы ім узброеныя змоўшчыкі змаглі пранікнуць у замак. Гэта таксама дрэсіраваны мядзведзь, які сапраўды быў у Жыгімонта, пра што паведамляе і польскі храніст Я. Длугаш, і інш.: «А так князь Чарторыски з Скобейком, прышодшы со всими тыми людми, и дернул рукою по дверем. И князь Жыгимонт мнимал медведь и казал дверы отчынити. И в тот час кинулися до ложницы... хотячы его убити. Понеже не было чым, и тот Скобейко ухопил вилы в комине, што огонь поправуют, и тыми вилами вдарыл его в тот час, как божые тело подносил каплан, — и кров скочыла з головы на стену, которая ж и до днесь есть на стене в ложницы его на вежы у большом замку Троцком»[87]. Апісанне гэтай незвычайнай падзеі, пра якую ў папярэднім, беларуска-літоўскім летапісу 1446 г. толькі паведамляецца, што «в лето 6948 сотворися зло велико в Литве: убиен бысть князь велики Жигимонт во граде Троцех во вербную неделю перед обедом», перарастае пад пяром аўтара «Хронікі Быхаўца» у яркую, вострасюжэтную, з моцным прыгодніцкім элементам гістарычную навелу.

Імкненне храніста цікава і займальна апавядаць пра мінулае спалучаецца з яго агульнадзяржаўным патрыятызмам, з вострай публіцыстычнай накіранаванасцю многіх старонак гэтага твора, з іх месцамі выразнай шляхецка-арыстакратычнай і нават антыпольскай накіраванасцю. Для яго літоўска-беларускія феадалы — «шляхта старая рымская», «старшая шляхта и передняя ниж ляхове». У гэтай дэманстрацыі высокага шляхецкага гонару, у непрыязным стаўленні да польскіх кіруючых колаў, якія, як сцвярджаецца ў «Хроніцы», хацелі Вялікае княства Літоўскае «до Коруны прывлашчыць», адбіліся імкненні і погляды патрыятычна настроенай часткі беларуска-літоўскай шляхты XVI ст., накіраваныя на сцверджанне свайго высокага паходжання, ідэалагічнае абгрунтаванне яе вялікай ролі ў гісторыі гэтай дзяржавы, на абарону яе палітычнага суверэнітэту ад мацнеючага наступу з боку шляхецкай Польшчы. У святле гэтай канцэпцыі падаецца таксама гісторыя княжання Вітаўта, які пашырыў межы сваёй дзяржавы «ад мора і да мора», у тым ліку вядомая справа з яго няўдалым каранаваннем.

У цэлым «Хроніка Быхаўца», якая была завершана ў 30-я гады XVI ст., — летапісны звод тэматычна звязаных, прасякнутых пэўнай ідэяй, патрыятычна скіраваных гістарычных аповесцей і апавяданняў. Яны пераканаўча сведчаць аб прыкметным росце апавядальнага майстэрства беларускіх хроністаў XVI ст. у параўнанні са сваімі папярэднікамі, летапісцамі XV ст. Захоўваючы яшчэ відавочную сувязь са старымі летапіснымі тра-

[87] ПСРЛ. Т. 32. С. 156.

цыцыямі і дзелавым пісьменствам, аўтар «Хронікі Быхаўца» зрабіў значны крок наперад па шляху далейшага алітаратурвання гістарычна-дакументальных запісаў, белетрызацыі гістарычнага апавядання і стварэння дабраякаснай гістарычнай прозы.

У гэтым зводзе арганічна спалучана традыцыйная, нагадовая форма выкладу гісторыі з прагматычным, звязным апавяданнем пра мінулае, аб'яднаны розныя хранаграфічныя творы і летапісныя матэрыялы, узятыя з папярэдніх беларуска-літоўскіх і Галіцка-Валынскага летапісаў, з уласнымі гістарычнымі запісамі храніста (ці храністаў). Характэрна, што звычайны летапіс больш нагадваюць заключныя запісы «Хронікі Быхаўца». Яны зроблены хутчэй за ўсё пры двары праваслаўных беларускіх князёў Слуцкіх. Цікавая асаблівасць летапіснай працы іх аўтара — адначасовае ўжыванне дзвюх эр летазлічэння: «В лета от початку света... а от божыяго нароженя...»

Сярэдневяковы характар, апісанне пераважна знешняга боку падзей, сінкрэтызм і ананімнасць аб'ядноўваюць «Хроніку Быхаўца» паводле агульнага жанравага тыпу з летапіснымі помнікамі Старажытнай Русі і Беларусі XV ст. Аднак шмат якія яе істотныя, якасныя адрозненні ад Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. у змесце, ідэйнай накіраванасці, характары гістарычнага апавядання, жанравай форме і нават стылі і мове даюць падставы гаварыць пра гэты твор як пра этапную з'яву ў развіцці ўсяго беларуска-літоўскага летапісання. У гісторыі беларускай гістарычнай прозы «Хроніка Быхаўца» — своеасаблівы пераходны мост ад летапіснага спосабу апісання гісторыі да хранаграфічнага, г. зн. ад дакументальна-дзелавога да літаратурна-мастацкага з выкарыстаннем вымыслу як творчага прыёму вобразна-паэтычнага адлюстравання гістарычных падзей. Спецыяльнай грунтоўнай гаворкі заслугоўвае гэты твор і як помнік гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі Літвы і Беларусі XVI ст., а таксама беларускай літаратурнай мовы таго часу, але гэта не ўваходзіць у задачу дадзенай працы.

Цяжка нават прыблізна вызначыць, што ведаў пра мінулае роднай зямлі, якія летапісы і хронікі чытаў Францыск Скарына, сучаснік стваральнікаў «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Хронікі Быхаўца». Несумненна, што гэты шырока эрудзіраваны, энцыклапедычна падрыхтаваны гуманіст выдатна ведаў антычную і біблейскую гісторыю, што пераканаўча пацвярджае і змест яго прадмоў да выдадзеных ім кніг. Яны даюць надзейны матэрыял для ўпэўненага вываду пра тое, што Скарына меў даволі пэўнае і дакладнае ўяўленне пра летапісны жанр. Так, ён адносіў біблейскую кнігу «Апостальскія дзеі» да ліку кніг, «иже пишуть дела бывшая и летописания», а кнігі Царстваў называў летапіснымі кнігамі Старога запавету, якія пісалі «летописци царей» [88].

---

[88] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 38, 39, 47, 50.

Беларускі асветнік, напэўна, добра ведаў асноўныя моманты гісторыі Старажытнай Русі, Вялікага княства Літоўскага, а таксама роднага Полацка, у мінулым сталіцы буйнога феадальнага княства, значнага палітычнага і культурнага цэнтра тагачаснай Беларусі, дзе была багатая Сафійская бібліятэка, чыталіся і перапісваліся старажытнарускія і беларускія летапісы. Што ж датычыцца непасрэднага знаёмства Скарыны з беларуска-літоўскімі летапісамі і хронікамі XV—XVI стст., то тут можна толькі выказваць розныя меркаванні, бо ніякіх дакладных звестак не захавалася.

Высвятляючы гэта пытанне, неабходна ўлічваць, прынамсі, дзве вельмі важныя акалічнасці. Па-першае, Скарына жыў у сталіцы дзяржавы Вільні якраз тады (20-я — першая палавіна 30-х гадоў XVI ст.), калі ў краіне вялася актыўная праца па стварэнню новай гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рускага. Па-другое, ён па роду сваёй службы, як сакратар віленскага каталіцкага біскупа Яна, члена дзяржаўнай рады, не раз сутыкаўся з прадстаўнікамі пануючай вярхушкі гэтай дзяржавы, з Гаштольдамі, Гальшанскімі, Слуцкімі, у асяроддзі якіх і ўзніклі найбольш значныя помнікі агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання XVI ст. — «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Хроніка Быхаўца». Таму вельмі верагодна, што асноўны змест легендарнай гісторыі ад Палемона да Гедыміна яму быў вядомы. Тым больш што легенда пра паходжанне літоўцаў з Італіі, добра знаёмая і беларускаму гуманісту, даволі шырока бытавала ў вуснай перадачы яшчэ да яе літаратурнай апрацоўкі. Аднак гэта пралітоўская і шляхецкая па духу гісторыя, думаецца, не выклікала асаблівага захаплення ў сапраўднага патрыёта Русі, годнага прадстаўніка простага народа, дэмакрата Францыска Скарыны.

Што ж датычыцца «Хронікі Быхаўца», то яна была толькі завершана ў 30-я гады XVI ст. і не паспела атрымаць шырокае распаўсюджанне да таго часу, як ён назаўсёды пакінуў родны край. Нягледзячы на гэта, пра шмат якіх герояў і падзеі, што апісаны ў гэтым творы, ён, напэўна, нямала ведаў, бо некаторым з іх (канца XV — пачатку XVI ст.) быў сам сучаснікам, пра больш даўнія ж мог уведаць з розных іншых, вусных і пісьмовых, крыніц. Так ці інакш Скарына меў дастаткова дакладнае ўяўленне пра сам жанр летапісу, а таксама чуў пра існаванне летапісання ў Літве і Беларусі на роднай мове.

Калі Статут 1529 г. з'явіўся новым этапам у развіцці беларускай дзелавой літаратуры, «Хроніка Быхаўца» — найвышэйшым дасягненнем беларуска-літоўскага летапісання, то творчая дзейнасць вялікага палачаніна склала цэлую эпоху ў гісторыі беларускай культуры. Калі згаданыя вышэй помнікі — прадукт культуры пануючага класа феадалаў і маюць шляхецка-арыстакратычны характар, то кнігі і творы выдатнага беларускага асветніка-гуманіста, адрасаваныя простым людзям,— з'ява га-

радской дэмакратычнай культуры і маюць агульнанароднае значэнне.

Францыск Скарына як прадстаўнік найбольш прагрэсіўнага слоя тагачаснага беларускага грамадства — асабіста свабодных гараджан стаў яркім выразнікам передавых імкненняў і духоўных запатрабаванняў усяго беларускага народа, праваднікам новых, рэнесансава-гуманістычных і нацыянальна-дэмакратычных тэндэнцый у беларускай культуры XVI ст. Дзякуючы незвычайнай рознабаковасці сваёй натуры, шырыні поглядаў, энцыклапедычным ведам, глыбокаму разуменню надзённых духоўных задач свайго часу і творчай смеласці ён змог таксама аказаць магутнае ўздзеянне на развіццё беларускай літаратуры, хоць сам і не быў пісьменнікам у сённяшнім разуменні гэтага слова.

Неацэннае значэнне для маладой беларускай літаратуры меў ужо сам факт заснавання Скарынам беларускага кнігадрукавання і выпуск даволі значным для таго часу тыражом больш двух дзесяткаў розных кніг. Гэта адкрыла нябачныя раней магчымасці для больш хуткага і шырокага распаўсюджання літаратурна-мастацкіх твораў, для фарміравання дэмакратычнага і больш адукаванага чытача. Гуманістычна-асветніцкі падыход першадрукара да кнігі як аднаго з найбольш важных сродкаў духоўнага прагрэсу народа, развіцця нацыянальнай культуры, сцверджанне высокіх этычных, эстэтычных і грамадзянскіх ідэалаў, яго вера ў чалавека і барацьбу за дасканаласць чалавечай асобы — усё гэта дабратворна ўплывала на сучаснікаў, на ідэйны змест і характар развіцця беларускай літаратуры XVI ст.

Выдатная з'ява ў гісторыі беларускай і ўсёй славянскай культуры — пераклады Скарыны. Ён быў заснавальнікам ва Усходняй Еўропе новага, гуманістычнага тыпу перакладу: не ананімнага, ілюстраванага, узбагачанага папулярнай, але змястоўнай прадмовай свецкага характару, дасканала выдадзенага друкарскім спосабам з выхаваўча-асветніцкімі мэтамі і адрасаванага «людзям простым паспалітым». Пераклаўшы на тагачасную беларускую літаратурную мову Біблію, найбольш папулярную і аўтарытэтную, свяшчэнную кнігу еўрапейскага сярэдневякоўя, беларускі гуманіст тым самым упершыню пазнаёміў шырокага беларускага чытача з выдатным помнікам сусветнай літаратуры. Гэты надзвычай багаты збор розных твораў фальклорнага і літаратурнага паходжання ён даў простаму, малаадукаванаму чалавеку для самастойнага чытання, для самаадукацыі. Зразумела, наколькі смелаю і вальнадумнаю для свайго часу, у пэўным сэнсе нават ерэтычнаю, была спроба першадрукара зрабіць Біблію агульнадаступнай, адкрытай для ўсіх кнігай, бо артадаксальная хрысціянская царква фактычна была супраць шырокага азнаямлення ўсіх веруючых з поўным тэкстам «Свяшчэннага пісання», асабліва з кнігамі Старога запавету. Больш таго, гэта быў акт вялікага культурна-гістарычнага, нацыянальна-патрыятычнага і грамадскага значэння. Ён засвед-

чыў з'яўленне на Беларусі новых творчых сіл з народа, якія здольны стварыць сур'ёзную канкурэнцыю духавенству, усемагутнай хрысціянскай царкве, падарваць іх шматвяковую манаполію ў галіне кніжнай асветы, літаратуры, мастацтва.

Выдатныя асаблівасці Скарынавых перакладаў — іх творчая самастойнасць, адсутнасць вузкаканфесійнага дагматызму, выразна свецкі характар, літаратурная дасканаласць. Выдаючы «Свяшчэннае пісанне» для ўсходнеславянскіх чытачоў-хрысціян праваслаўнага напрамку, Скарына, аднак, у якасці асноўнай крыніцы для свайго перакладу выкарыстаў чэшскую, каталіцкую Біблію, што ўзыходзіць да лацінскай Вульгаты. Яго Біблія, выдадзеная асобнымі выпускамі, што з'яўляецца унікальнай з'явай у гісторыі тагачаснага еўрапейскага кнігадруку, парадкам следавання кніг не адпавядае кананічнаму раду, афіцыйна прынятаму як у праваслаўнай, так і ў каталіцкай царкве. Біблейскі тэкст беларускі гуманіст перакладаў не літаральна, а даволі свабодна, шырока і творча выкарыстоўваючы багатыя лексіка-стылістычныя магчымасці царкоўна-славянскай і роднай моў, сваю грунтоўную філалагічную падрыхтоўку. Найбольш ён клапаціўся пра дакладную перадачу зместу арыгінала, захаванне яго духу, а таксама пра яснасць, прастату і даходлівасць сваіх перакладаў. Скарынаўскія пераклады, нягледзячы на стрыманыя, а нярэдка і адкрыта адмоўныя адносіны духавенства, атрымалі шырокае распаўсюджанне на ўсходнеславянскіх землях і стымулявалі больш актыўнае развіццё перакладчыцкай справы на Беларусі. Яны садзейнічалі таксама ўзмацненню ўплыву Біблії як літаратурнага помніка, яго апавядальнай манеры, яго лаканічнага, афарыстычнага і пранікнёнага стылю, паліморфнай жанравай формы на беларускую літаратуру XVI—XVII стст.

Францыск Скарына ўвайшоў у беларускую літаратуру і як пісьменнік-публіцыст, аўтар шматлікіх прадмоў да выдадзеных ім кніг. Хоць прадмова як своеасаблівы жанр літаратуры была вядома ўсходнім славянам яшчэ з часоў Кіеўскай Русі [89], аднак беларускі асветнік увёў яе ў шырокі ўжытак, зрабіў прадмову абавязковым і неабходным элементам кнігі.

Усяго ў пражскіх выданнях Скарыны змешчана 25 прадмоў, а ў адным толькі Апостале (Вільня, 1525 г.) — 22. Амаль столькі ж у гэтых кнігах і пасляслоўяў. Вельмі сціслыя і дзелавыя, яны выконваюць пераважна вузкаінфармацыйную задачу: знаёмяць чытачоў з выхаднымі данымі кнігі. Скарынавы пасляслоўі не могуць прэтэндаваць на ролю асобных і значных літаратурных твораў, хоць самыя вялікія з іх і ўяўляюць пэўную

---

[89] Демин А. С. Древнерусские рукописные книжные предисловия XI—XII вв. (На пути к массовому адресату) // Русская старопечатная литература (XVI — первая четверть XVIII в.). Тематика и стилистика предисловий и послесловий. М., 1981. С. 12—26.

пазнавальную цікавасць, як, напрыклад, пасляслоўе да кнігі «Юдзіф»:

«Доконана ест книга, рекомая Іудиф, с помощию бога в троици единого и матери его пречистое девици Марии людем посполитым руского языка к пожитку, повѣлением, працею и выкладом ученаго мужа в лекарских науках доктора Франциска Скорины из славнаго града Полоцька у великом месте Празском лѣта по нарожении нашего спасителя тысеща пятьсот и девятого на десеть, месеца февраля, дня 9» [90].

Прадмовы ж Скарыны — арыгінальныя творы беларускай дзелавой прозы і публіцыстыкі XVI ст., напісаныя рукою не проста вопытнага літаратара, а сталага, энцыклапедычна адукаванага майстра. Гэта звернутыя да простага, маладасведчанага чытача шчырыя, пранікнёныя словы мудрага настаўніка, у якіх ён цярпліва, старанна і зацікаўлена тлумачыць і расказвае агульнадаступнаю моваю змест, вобразы, ідэйную накіраванасць і духоўную карысць таго ці іншага твора, імкнучыся максімальна наблізіць яго да чытача, аблегчыць яму ўспрыняцце і засваенне месцамі вельмі нялёгкага матэрыялу.

Характэрная асаблівасць скарынаўскіх прадмоў — іх лаканічнасць, прастата і даходлівасць выкладу, незвычайная змястоўнасць, насычанасць багатай інфармацыяй, разнастайнымі звесткамі па гісторыі, геаграфіі, культуры, грамадскай думцы, літаратуры многіх краін і народаў, асабліва Блізкага Усходу. Гэта тлумачыцца шырокай, сапраўды энцыклапедычнай эрудыцыяй іх аўтара, а таксама вучэбна-пазнавальнай і асветніцка-выхаваўчай накіраванасцю яго прадмоў, якая патрабавала спецыяльна спыняцца на некаторых нават элементарных рэчах. Для большай пераканаўчасці гаворкі Скарына нярэдка спасылаўся на самыя аўтарытэтныя крыніцы, неаднаразова цытаваў «Свяшчэннае пісанне», словы і думкі біблейскіх герояў.

Нягледзячы на агульнае падабенства скарынаўскіх прадмоў як твораў пэўнага прызначэння, накіраванасці і жанравай формы, яны не трафарэтныя, а даволі розныя паводле кампазіцыі і выкладу. Змест іх цесна звязаны са зместам кніг Бібліі.

Найчасцей свае прадмовы Скарына пачынаў з тлумачальнага перакладу назвы кнігі і далей сцісла выкладаў яе змест: «Сия книга Есфер называется еврейским языком Мьгиля, то ест листы или грамоты, пишеть бо в ней наболей о том, яко Аман побрал листы от царя Асвера на побитие всех іудеов и тежe, яко царица Есфер выбавила их от побития и выпросила от царя листы противные на погубление всея родины и помощников Амановых и на избавление иудеов. А писаны бысть по пленении Ерусалимском Навходносором-царем, егда іудеи быша в неволи вавилонской» [91].

---

[90] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 60.
[91] Там жа. С. 106.

Нярэдка ён спачатку знаёміць чытачоў з аўтарам твора, і гэта гаворка перарастае ў апісанне гісторыі яго ўзнікнення, пераходзячы затым у характарыстыку зместу, складу, асветніцка-выхаваўчага значэння кнігі і г. д. Такая, напрыклад, кампазіцыя прадмовы да кнігі Ісуса Сірахава, што пачынаецца своеасаблівай біяграфіяй апошняга, а працягваецца выкладам гісторыі першага перакладу Старога запавету з яўрэйскай мовы на грэчаскую.

У некаторых жа прадмовах беларускі гуманіст выкладае спачатку прадгісторыю тых падзей, пра якія апавядаецца ў дадзенай кнізе, коратка знаёміць нас з палітычнай гісторыяй той краіны, дзе яны адбываліся: «Царство Асирское почалося ест от Веля-царя, сына Немрофова, скоро по потопе. Он же почал силен быти на земли. Велов пак сын Нинос поставил ест град и назвал и именем своим — Нинива. В том граде царствовали суть тридесеть и седм царей лет тысещу и триста даже до царя Сардонапаля,— его же убил Аръба, воевода медийский, и преседи царство то в Меды. А так пребыло ест до Цира, царя Перского... По смерти пак Цирове царствовал ест Камвизей, сын его. Того, ставячы на царство, прозвали суть Навходносором» [92].

Асобныя прадмовы насычаны ўласнымі развражаннямі аўтара, навеянымі зместам твора. Так, першая частка «Сказания доктора Франциска Скорины с Полоцька в книги Втораго закону Моисеова» фактычна прысвечана тэме «Чалавек і закон». У ёй пісьменнік знаёміць чытача з рознымі відамі права і юрыдычнымі нормамі асобных станаў грамадства, выказвае свае прававыя погляды: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано от господа бога, то ест прироженым а написаным.

Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети...

И вчинены суть права, или закон, для людей злых, абы боячися казни, усмирили смелость свою и моци не имели иным ушкодити, и абы добрыи межи злыми в покои жити могли» [93].

Па скарынаўскіх прадмовах багата рассыпаны розныя выслоўі і афарызмы, глыбакадумныя выказванні першадрукара, якія сталі крылатымі. Гэта і яго патрыятычнае, па-народнаму простае і мудрае слова пра «вялікую ласку», г. зн. любоў чалавека да роднага краю ў прадмове да кнігі «Юдзіф». Гэта і ўзнёслая пахвала кнізе і чалавечай мудрасці ў прадмове да «Прытчаў Саламона»: «Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку... Ест бо в сих притчах

---

[92] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 57—58.
[93] Там жа. С. 93—95.

сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у ворееху»[94]. Гэта і крылатае выказванне пра лекавыя якасці для чалавечай душы паэтычнага слова. Чытанне кніг высокай ідэйна-мастацкай вартасці, сцвярджаў Скарына,— «зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены» («Предисловие в книгу Иов»)[95].

Асобныя прадмовы вельмі цікавы таксама сваімі вершаванымі ўстаўкамі, якія справядліва прызнаюцца аўтарытэтнымі даследчыкамі першымі вопытамі кніжнага вершаскладання на ўсходнеславянскіх землях[96]. Сярод іх вылучаецца сваёй літаратурнай апрацаванасцю чатырохрадковая эпіграма, што змешчана ў якасці эпіграфа да кнігі «Іоў»:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.[97]

Дадзены верш выдатны тым, што ў ім вельмі выразна праглядваюцца элементы сілаба-танізму. Такім чынам, Скарына геніяльна прадказаў сваёй сціплай спробаю будучы напрамак развіцця ўсёй усходнеславянскай паэзіі — ад сілабічнай сістэмы вершаскладання, якая тады толькі зараджалася на Беларусі, да сілаба-танічнай.

Сярод скарынаўскіх прадмоў усё ж, бадай, найбольш вылучаюцца дзве: «Предсловие доктора Франциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускага языка» і «Предсловие в Псалтирь». Першая — велічынёю і зместам. Сваімі памерамі яна пераўзыходзіць усе астатнія і змяшчае кароткае анацыраванае і каменціраванае апісанне зместу і складу поўнага біблейскага кодэкса. Апрача таго, у гэтым творы мы сустракаем сціслую абагульненую ацэнку беларускім гуманістам усёй Бібліі, свайго роду квінтэсенцыю яго погляду на «Свяшчэннае пісанне» і здзіўляючую сваёй нечаканасцю тыраду пра навучанне па асобных біблейскіх кнігах сямі так званым свабодным навукам:

«В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець; бог вседержитель познаван бываеть. В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, пописаны суть. В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные, зуполне знайдете. Ту навчение философии добронравное, яко любити бога для самого себе и ближнего для бога, имамы. Ту справа всякого собрания людского и всякого града, еже верою, соединением

---

[94] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 20.
[95] Там жа. С. 14.
[96] Беркаў П. Н. Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 245—261.
[97] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 200.

ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть. Ту научение седми наук вызволеных достаточное.

Хощеши ли умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Библии, Псалтыру, чти ее. Пакли ти ся любить разумети ло[г]ику,— она же учить з доводом розознати правду от кривды,— чти книгу светого Іова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные...

Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи» [98].

Прадмова ж да Псалтыра вылучаецца большай узнёсласцю, эмацыянальнай напоўненасцю, мастацкай вобразнасцю і месцамі гучыць як паэзія ў прозе:

«Псалом ест щит против бесовскым нощьным мечтанием и страхом, покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, женам набожьная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение» [99].

Апрача таго, у гэтай прадмове сям-там адчуваецца таксама і пэўная кніжная рытарычнасць, другаснасць і нават запазычанасць асобных выразаў і вобразаў. І сапраўды, як нам удалося высветліць, Францыск Скарына, пішучы сваю прадмову да Псалтыра, карыстаўся як літаратурным узорам і крыніцай аналагічным творам славутага класіка патрыстыкі Васіля Кесарыйскага (Васіля Вялікага), яго гаміліяй на псалом 1.

Беларускі пісьменнік нават пачаў сваю прадмову гэтак жа, як і «бацька царквы»: «Всяко писание, богом водхненое, полезно ест». А вышэй працытаваны ўрывак пра псалом у Васіля Кесарыйскага, у больш позняй, царкоўнаславянскай рэдакцыі гучыць так:

«Псалом — бесом прогонитель, аггельския помощи наводитель, оружие в страхованиих нощных, покой трудом дневным, младенцем утверждение, растущим удобрение, старым утешение, женам прикладнейшая доброта... Новоначальным укрепление, предспевающим ращение, совершаемым утверждение» [100].

У гэтых тэкстах пераклічка несумненная. Аднак Скарына, захаваўшы не толькі дух, але стыль і сінтаксічную будову паэтычнай тырады арыгінала, падышоў да чужога тэксту вельмі творча, зрабіў пэўныя перастаноўкі, дапоўніў асобнымі ўстаўкамі і прыстасаваў яго да ўласных патрэб і асветніцкіх задач. І рабіў гэта ён цалкам у духу аўтарскіх уяўленняў свайго часу. Беларускі гуманіст настолькі ўмела і ўдала выкарыстаў гамілію

---

[98] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 62—63.

[99] Там жа. С. 10.

[100] Псалтыр 1594 г. захоўваецца ў Ленінградзе ў Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Салавецкі збор № 858/748. Л. 26.

Васіля Кесарыйскага ў сваёй прадмове, што яна, не страціўшы асноўнай ідэйна-выхаваўчай накіраванасці, мастацкай дасканаласці і паэтычнасці, арганічна ўвайшла сваёю лепшаю, таленавіта перастворанаю часткаю ў яго ўласны твор[101].

У цэлым жа скарынаўскія прадмовы маюць энцыклапедычны і сінкрэтычны характар. Глыбока прадуманыя паводле зместу, простыя па кампазіцыі, яны спалучаюць у сабе рысы навукова-папулярнага артыкула, гісторыка-філалагічнага каментарыя і пашыранай анатацыі да твора.

Як творы пэўнага жанру прадмовы Скарыны характарызуюцца выразным ідэйна-мастацкім і моўна-стылявым адзінствам, агульнасцю сваёй накіраванасці, перавагай інфармацыйна-дзелавога, навучальна-пазнавальнага і выхаваўча-асветніцкага пачатку. Нягледзячы на гэта, яны не трафарэтныя, не стандартна-этыкетныя, а вельмі разнастайныя, як розныя і непадобныя творы, да якіх яны напісаны.

Літаратурны стыль Скарыны вылучаецца прастатой і натуральнасцю, жывасцю і дынамічнасцю. Па-дзелавому лаканічны, важкі і афарыстычны, ён — даволі дакладны адбітак яркай і непаўторнай, ініцыятыўнай і мэтанакіраванай асобы самога аўтара. Мастацкая дасканаласць прадмоў, гарманічная суадпаведнасць у іх зместу і формы, думкі і слова, літаратурная адшліфаванасць і класічная яснасць выкладу даюць падставы называць скарынаўскі стыль класічным, у якім вельмі выразна праглядваецца ўжо індывідуальны стыль пісьменніка.

Літаратурна-публіцыстычная спадчына Скарыны ў параўнанні з іншымі выдатнымі, але ананімнымі і ў цэлым сярэдневяковымі паводле характару помнікамі беларускага пісьменства таго часу — Статутам 1529 г. і «Хронікай Быхаўца» — уяўляе сабою яркі ўзор індывідуальнай, асобаснай творчасці і складае першую важкую старонку гісторыі беларускай рэнесансавай літаратуры.

Вялікі беларускі асветнік-гуманіст увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры не толькі як пісьменнік-публіцыст і філолаг-літаратуразнавец, аўтар цікавых прадмоў да выдадзеных ім кніг, заснавальнік кніжнага вершаскладання на ўсходнеславянскіх землях, але і як выдатны перакладчык, аўтар першага ва Усходняй Еўропе друкаванага перакладу Бібліі на родную мову.

Ёсць важкія падставы сцвярджаць, што Скарына пераклаў поўны звод біблейскіх кніг. Пра гэта пераканаўча сведчаць як змест яго агульнай прадмовы да ўсёй Бібліі, так і непасрэднае прызнанне першадрукара, што змешчана ў канцы пасляслоўя да кнігі Апостал. Яно захавалася толькі ў адзіным экземпляры гэтага скарынаўскага выдання, які зберагаецца ў Маскве ў

---

[101] Чамярыцкі В. А. Літаратурныя крыніцы скарынаўскіх прадмоў // Спадчына Скарыны. Мн., 1989. С. 119—122.

Дзяржаўным гістарычным музеі. Тэкст дадатку не ўвайшоў у зборнік «Прадмовы і пасляслоўі» Ф. Скарыны (1969), а, між іншым, у ім наш перакладчык зазначае, што ў яго друкаваным Апостале тэкст падзелены на раздзелы, «яко и *во всех* книгах Библии Ветхаго и Новаго закона, мною на руски язык выложеных» [102].

Некаторыя перакладзеныя Скарынам кнігі, відаць, не захаваліся, а іншыя ён не паспеў надрукаваць. Вельмі праўдападобным здаецца нам меркаванне, выказанае яшчэ П. Уладзіміравым, што ў асобных рукапісных зборніках захаваліся невядомыя па друкаваных выданнях скарынаўскія пераклады кніг Бібліі. Так, у прыватнасці, у Львоўскім (былая бібліятэка Ануфрыеўскага манастыра) і Ленінградскім (збор Пагодзіна, № 85) рукапісах, узнікненне якіх датуецца 1573—1577 гг., змешчаны поўны тэкст Бібліі. Паводле кампетэнтных назіранняў таго ж П. Уладзімірава, у гэтым кніжным камплекце тэксты кніг «Іоў», «Прытчы Саламона», «Эклезіяст», «Песня песняў», «Эсфір», «Юдзіф» і г. д. «перадаюць той жа самы пераклад Скарыны, што і ў друкаваных кнігах з усімі прадмовамі», а кнігі «Параліпаменон», «Ездра», «Товіт», «Макавеі», скарынаўскія старадрукі якіх нам сёння невядомы, «характарызуюцца такімі ж непасрэднымі адносінамі да тэксту Чэшскай біблії 1506 года і такімі ж асаблівасцямі перакладу, як і іншыя кнігі Скарыны» [103]. Гэтыя рукапісы яшчэ чакаюць свайго ўдумлівага даследчыка.

Поўны пераклад і публікацыя ў кароткі тэрмін большай часткі Бібліі патрабавалі, несумненна, агромністай самаахвярнасці, тытанічных духоўных намаганняў і без перабольшання павінны быць ацэнены як сапраўдны подзвіг беларускага першадрукара, які справядліва ставіць Скарыну поруч з тытанамі еўрапейскага Адраджэння. Яго сучаснік нямецкі рэфарматар Лютар аддаў гэтай справе больш дзесяці гадоў свайго жыцця. Скарына ж прыраўноўваў сваю працу да этапнай у гісторыі перакладаў Бібліі працы славутага Ераніма і з гонарам называў сябе паслядоўнікам апошняга [104].

Адзін з найбольш адукаваных людзей свайго часу, выдатны знаўца антычнай літаратуры і старажытных моў, пісьменнік і філолаг Еранім упершыню зрабіў поўны, удакладнены па старажытных крыніцах пераклад Бібліі на лацінскую мову, які пазней быў названы Вульгатай і паслужыў асновай бадай усіх біблій каталіцкага свету эпохі сярэдневякоўя. Толькі пераклад Старога запавету заняў у яго каля 15 гадоў [105].

Скарына не праводзіў франтальнага тэксталагічнага параў-

---

[102] Скарына Ф. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988. С. 305.

[103] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 221—224.

[104] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 108.

[105] Голенищев-Кутузов И. Н. Средневековая латинская литература Италии. М., 1972. С. 80.

нання біблій на розных мовах і не рабіў грунтоўнага філалагічнага аналізу тэксту «Свяшчэннага пісання», бо не збіраўся надрыхтаваць крытычнае навуковае выданне гэтага помніка. Аднак мы ніяк не можам упікнуць беларускага гуманіста ў спрошчаным, тым больш дылетанцкім падыходзе да Бібліі. Ён ставіў перад сабою некалькі іншыя, чым Еранім і Лютар, але не менш сур'ёзныя і адказныя пазнавальна-асветніцкія і выхаваўчыя задачы і бліскуча з імі справіўся. Маючы пад рукою чэшскую, лацінскую, магчыма, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую бібліі, а таксама асобныя біблейскія кнігі на царкоўнаславянскай мове, ён творча скарыстаў вопыт сваіх папярэднікаў, перакладчыкаў «Свяшчэннага пісання» і за кароткі час зрабіў дасканалы гуманістычны пераклад гэтага славутага помніка старажытнага пісьменства. Беларуская Біблія 1517—1519 гг. значна апярэдзіла падобныя выданні ў суседніх народаў, была другой, пасля чэшскай, друкаванай Бібліяй у славянскім свеце, а паводле свайго агульнага характару і мастацкага афармлення — непаўторная з'ява еўрапейскага кнігадруку.

Роля і значэнне Скарыны ў гісторыі беларускай культуры як выдатнага майстра перакладчыцкай справы па-сапраўднаму яшчэ не высветлена і не ацэнена. Глыбокае і ўсебаковае даследаванне тэксталагічных прынцыпаў і метаду працы беларускага перакладчыка, асаблівасцей навуковага і мастацкага ўзроўню Скарынавага перакладу, дакладнае вызначэнне яго крыніц і месца ў еўрапейскай традыцыі — справа будучага. Але нават папярэднія назіранні, зробленыя асобнымі даследчыкамі (П. Уладзіміравым, І. Яўсеевым і інш.), даволі пераканаўча раскрылі самабытны талент і высокае майстэрства Скарыны-перакладчыка, яго грунтоўную дасведчанасць і ўсебаковую падрыхтаванасць.

Улічваючы колькасць перакладзеных беларускім першадрукаром кніг, навуковую дакладнасць і мастацкую дасканаласць яго перакладаў, іх асветніцка-дэмакратычную скіраванасць і гуманістычнае афармленне, а таксама выдатнае культурна-гістарычнае значэнне яго творчай дзейнасці для развіцця перакладчыцкай справы на Беларусі, ёсць усе падставы лічыць Скарыну заснавальнікам беларускай школы перакладу.

Надзвычай важна (гэта мела сапраўды этапнае значэнне ў гісторыі развіцця беларускай культуры наогул і беларускай літаратуры ў прыватнасці), што свае пераклады вялікі палачанін не пакінуў у рукапісу, а шырока распаўсюдзіў іх дзякуючы друкарскаму станку. Як вядома, з'яўленне кнігадрукавання паклала пачатак своеасаблівай культурнай рэвалюцыі ў Еўропе. Яно, пэўна, як ні адно іншае вынаходства таго часу, надзвычай моцна спрыяла пашырэнню асветы, ведаў сярод розных слаёў насельніцтва, культурнаму прагрэсу народаў. Кнігадрукаванне надало Адраджэнню дадатковае паскарэнне і садзейнічала пашырэнню і перамозе ідэй гуманізму. Далучаючы свой народ да

гэтага выдатнага здабытку чалавечай думкі, Скарына праклад-ваў беларускай культуры новыя шляхі развіцця.

Што значыў, што даваў новы, друкарскі спосаб размнажэння кніг у параўнанні з традыцыйным, рукапісным, яскрава сведчыць такі прыклад. У Ленінградзе, у бібліятэцы Акадэміі навук СССР, захоўваецца унікальны, шыкоўна аформлены помнік кніжнага мастацтва Беларусі пачатку XVI ст.— Біблія на царкоўнаславянскай мове. Яе перапісваў адзін чалавек — Мацей з Тарапца, празваны Дзесятым, на працягу аж пяці гадоў: пачаў у 1502 г. у Вільні, а скончыў у 1507 г. у Супраслі. Тады ж гэты багаты рукапіс быў завешчаны яго ўладальнікам супрасльскай Благавешчанскай царкве, якая яшчэ будавалася [106].

Кніжны фаліянт Мацея Дзесятага па аб'ёму тэксту крыху пераўзыходзіць 23 біблейскія кнігі, выдадзеныя на працягу 1517—1519 гг. у Празе беларускім першадрукаром. Хоць Скарына працаваў не адзін, але, улічваючы дадатковыя тэхнічныя цяжкасці пры падрыхтоўцы і выпуску кніг друкарскім спосабам, яго Біблію ў цэлым па затратах чалавечай працы можна ў пэўнай меры параўноўваць з рукапіснай Бібліяй 1507 г. І гэта параўнанне пераканаўча паказвае агромністыя перавагі кнігадрукавання перад традыцыйным, рукапісным спосабам распаўсюджвання літаратурных твораў.

Прыблізна за той жа час, калі Мацей Дзесяты перапісваў ад рукі адну кнігу, Скарына змог падрыхтаваць да друку і выпусціць у свет некалькі соцень камплектаў Бібліі. Нам дакладна сёння невядомы тыраж асобных скарынаўскіх выданняў, але, думаецца, ён дасягаў паўтысячы экземпляраў. Значыць, з яго друкарні ў Празе за два з паловаю гады выйшла звыш дзесяці тысяч кніг. Такую бібліятэку бадай што не змаглі б адолець сто перапісчыкаў і за дзесяць гадоў. Таму кнігадрукарская дзейнасць Скарыны зусім справядліва разглядаецца як новы этап у гісторыі ўсходнеславянскай кнігі.

Дзякуючы тытанічным намаганням беларускага асветніка-гуманіста Беларусь першай сярод краін Усходняй Еўропы была далучана да кнігадрукавання, да паскоранага культурнага развіцця. Дзякуючы Скарыну беларускі народ раптоўна разбагацеў на тысячы кніг, надрукаваных на добра зразумелай літаратурнай мове, і такім чынам у значнай меры быў задаволены павышаны ў той час попыт на кнігу, часткова спатолены своеасаблівы кніжны голад, які, несумненна, існаваў тады на Беларусі. Кніг сапраўды не хапала, бо рукапісная кніга не магла стаць масавай, а друкаваная, што пачала пранікаць на беларускія землі з Польшчы і іншых заходніх краін, таксама была яшчэ нешматлікай, дарагой і да таго ж не на роднай (пераважна лацінскай) мове.

---

[106] Алексеев А. А., Лихачева О. П. Супрасльский сборник 1507 г. // Материалы и сообщения по фондам Отдела рукописей и редкой книги (БАН). Л., 1978. С. 54—88.

Правільна зразумець характар кніжнай сітуацыі ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім у часы Скарыны часткова дапамагае, напрыклад, перапіска паміж Якубам, пісарам польскага караля і вялікага князя літоўскага Казіміра, і маскоўскім архідыяканам Васілём Ярмолічам (Ярмолінам), якія жылі ў другой палавіне XV ст.[107] На жаль, захаваўся толькі адзін ліст апошняга ў Літву. Якуб прасіў свайго маскоўскага прыяцеля прыдбаць для яго некалькі кніг, у тым ліку пралог, жыціі святых і Апостал. Васіль Ярмоліч у лісце ў адказ паведамляў, што патрэбныя кнігі гатовымі яму не ўдалося купіць і абяцаў спецыяльна заказаць іх у «дабрапісцаў», якія змогуць «книги сделать с добрых списков». Калі нават каралеўскі пісар не змог здабыць для сябе на радзіме некалькі агульнавядомых рэлігійных кніг і быў вымушаны звяртацца ў суседнюю краіну, то набыць кнігу для радавога беларускага шляхціца ці гараджаніна таго часу было, напэўна, яшчэ цяжэй. У святле гэтага і некаторых іншых фактаў ацэнка культурна-гістарычнага значэння подзвігу заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання як эпахальнага не здаецца перабольшаннем.

Дзякуючы Скарыну беларускі народ атрымаў не проста ўласную друкаваную кнігу, а кнігу высокамастацкую, наватарскую паводле афармлення, рэнесансавую, дэмакратычную, прызначаную для шырокага чытача, кнігу — узор друкарскага мастацтва, кнігу-адкрыццё. Яна радавала і вабіла знешнім выглядам, па-майстэрску выкананымі, свецкага характару гравюрамі, застаўкамі, ініцыяламі, з густам размешчаным тэкстам, надзвычай прыгожым, новым, але такім знаёмым і родным шрыфтам. Кніга Скарыны радавала і вабіла сваёй прастатой і зручнасцю, шчырасцю і даверлівасцю размовы, якую вёў з чытачом у сваіх прадмовах першадрукар.

Скарына даў шырокаму беларускаму (і ўсходнеславянскаму) чытачу кнігу незвычайную і паводле зместу. Ён даў яму славуты помнік старажытнай культуры — Біблію, якая карысталася тады безумоўным аўтарытэтам, поўны тэкст якой чытаць, тлумачыць і каменціраваць маглі толькі абраныя, спецыяльна пасвечаныя. «Дазволіць народу чытаць Біблію,— казаў сучаснік Скарыны польскі кардынал Гозій,— значыць, даваць святыню псам і сыпаць бісер перад свіннямі». Баючыся страціць сваю манаполію на асвету, свае пазіцыі ў грамадстве і аўтарытэт, артадаксальнае хрысціянскае духавенства прызнала індывідуальнае хатняе чытанне Бібліі простым міранінам шкодным, а народную мову — занадта грубай, вульгарнай для «святога» слова і для богаслужэння. Толькі дзякуючы розным ерэтычным рухам і Рэфармацыі з'явіліся пераклады «Свяшчэннага пісання»

[107] Седельников А. Д. «Послание от друга к другу» и западнорусская книжность XV века // Изв. Акад. наук СССР. VII сер. Отд. гуманит. наук. Л., 1930. № 4. С. 223—238.

на жывыя еўрапейскія мовы. Ва ўсходнеславянскім свеце, дзе панавала надзвычай кансерватыўная праваслаўная царква, такая пазіцыя духавенства (імкненне не пусціць Біблію ў народ, а жывое народнае слова ў богаслужэнне) датрывала да новага часу.

Скарына ж яшчэ ў XVI ст. кінуў рашучы выклік усемагутнай царкве, зрабіў вельмі смелую, сапраўды вальнадумную спробу пераадолець гэту шматвяковую традыцыю: ён даў Біблію простаму чалавеку ў рукі для самастойнага азнаямлення і карыстання, для самаадукацыі. Беларускі гуманіст імкнуўся зрабіць «Свяшчэннае пісанне» больш даступнай, больш адкрытай для ўсіх кнігай, лепш прыстасаваць Біблію для патрэб часу і радавога чытача, больш цесна і арганічна ўключыць яе ў кантэкст нацыянальнай культуры, больш эфектыўна выкарыстаць гэты помнік у асветніцка-выхаваўчых мэтах для навучання так званым сямі свабодным навукам, для духоўнага ўдасканалення чалавека.

Дзякуючы намаганням Скарыны свецкі чытач на ўсходнеславянскіх землях змог самастойна, з першых рук пазнаёміцца з займальнымі біблейскімі сюжэтамі, з цікавымі гісторыямі жыцця і дзейнасці славутых біблейскіх герояў, з дасціпнымі і мудрымі крылатымі выслоўямі. Перад шырокім чытачом больш поўна раскрываўся незвычайны змест гэтага аўтарытэтнага помніка старажытнага пісьменства, у якім ён шукаў адказы на хвалюючыя пытанні навакольнага жыцця і безумоўна верыў у гістарычную сапраўднасць выкладзенага ў ім. Беларускі гуманіст дапамог сваім суайчыннікам глыбей спасцігнуць невычэрпныя ідэйна-мастацкія і пазнавальныя багацці Біблії, яе складанасць і супярэчлівасць. Выдаўшы ў 1517—1525 гг. у Празе і Вільні 24 біблейскія кнігі, Скарына ўзбагаціў чытацкі фонд перакладной літаратуры Беларусі цэлай бібліятэкай лепшых твораў сусветнай літаратуры.

Даследчыкі спадчыны вялікага беларускага асветніка слушна адзначаюць, што «пераклад Скарыны і яго тлумачэнні ў прадмовах не маюць ніякіх адносін да пратэстанцкіх перакладаў «Св. пісання» [108]. Аднак нельга не прызнаць таксама, што пераклад і выданне своеасаблівай народнай Біблії ў гуманістычнай інтэрпрэтацыі, імкненне секулярызаваць і дэмакратызаваць яе, спроба прыстасаваць яе для індывідуальнага чытання, наблізіць да простага чалавека, выразная тэндэнцыя ігнараваць царкву, духавенства як абавязковага пасрэдніка паміж «святым словам» і веруючым, богам і чалавекам — было ў пэўнай меры і рэфармацыйным актам. Думаецца, цалкам справядлівым будзе лічыць Скарыну прадвеснікам Рэфармацыі на беларускіх землях [109].

---

[108] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 172.
[109] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 8—11.

Гэты супярэчлівы і парадаксальны на першы погляд вывады які дапускае, што ў адной асобе мог адначасова сумяшчацца прадстаўнік ранняга рэнесансавага гуманізму, якім на самай справе быў беларускі асветнік, і прадвеснік рэфармацыі, тлумачыцца своеасаблівасцю эпохі, складанасцю гістарычнага жыцця беларускага народа ў XVI ст. Менавіта нераўнамернасць развіцця, узаемадзеянне і барацьба адсталага і перадавога, сіл тармажэння і паскарэння абумовілі адначасовае суіснаванне і складанае спалучэнне ў тагачаснай культуры, філасофскай думцы, літаратуры і мастацтве Беларусі сярэдневяковых і рэнесансавых, кансерватыўных і прагрэсіўных з'яў, ідэй, стыляў.

Больш таго, на новыя, недастаткова яшчэ развітыя і спелыя рэнесансавыя з'явы нярэдка набягалі і накладваліся найноўшыя сінхронныя рэфармацыйныя, а крыху пазней і барокавыя тэндэнцыі, што з несумненнасцю сведчыць аб паскораным культурна-гістарычным развіцці Беларусі ў XVI ст.

Гэты вывад дае магчымасць намацаць некаторыя новыя аспекты і шляхі ў вывучэнні поглядаў, багатай спадчыны беларускага першадрукара, яго гістарычнай ролі ў развіцці беларускай культуры, а таксама больш дакладна і аб'ектыўна вызначыць асаблівасці беларускага гуманізму і рэфармацыі, эпохі Скарыны ў цэлым.

Падагульняючы гаворку пра творчы ўклад вялікага ўсходнеславянскага асветніка-гуманіста і першадрукара ў развіццё беларускай літаратуры, неабходна ў першую чаргу адзначыць, што ён узбагаціў яе дасканалымі, высокамастацкімі перакладамі выдатных твораў сусветнай літаратуры, якімі былі кнігі Бібліі, з'явіўся заснавальнікам жанру прадмоў і кніжнага вершаскладання, садзейнічаў умацаванню і развіццю свецкіх гуманістычных тэндэнцый у беларускай літаратуры XVI—XVII стст. Як чалавек пераходнай эпохі, ён завяршаў перыяд яе станаўлення і пачаў новы — перыяд сталасці, шмат у чым прадвызначыўшы характар і асноўны напрамак яе будучага развіцця.

Шматгранная творчая дзейнасць Скарыны, яго вялікая спадчына, найперш кнігі — найвышэйшае дасягненне беларускай культуры XVI ст. Скарынавы кнігі неслі новыя гуманістычныя ідэалы, адкрывалі новы эстэтычны свет, служылі выхаванню новага чалавека. Адрасаваныя шырокім дэмакратычным слаям беларускага і, шырэй, усяго ўсходнеславянскага грамадства, выкананыя на ўзроўні лепшых еўрапейскіх узораў свайго часу, рэнесансавыя паводле характару, яны выконвалі вялікую культурна-гістарычную місію, паскараючы далейшы поступ беларускай культуры, актыўна служачы нацыянальнаму адраджэнню і духоўнаму ўзвышэнню беларускага народа.

Гэта зусім не значыць, што шлях скарынаўскіх кніг да сваіх чытачоў быў трыумфальным, што гістарычнай, піянерскай справе беларускага асветніка-гуманіста была заўсёды і ўсюды адкрыта зялёная вуліца. Яго жыццёвы шлях — вельмі тыповы для

чалавека, які апярэдзіў свой час. У яго жыцці было нямала светлых момантаў, бліскучых перамог, але ў цэлым — няспынныя пошукі, тытанічная праца і няспынная барацьба. Непаўторнасць таленту, творчы, наватарскі характар дзейнасці, грамадзянская смеласць і незалежнасць, высокая адукаванасць і агульная культура ўзвышалі яго над шэрай, нярэдка надзеленай уладаю і ваяўнічай пасрэднасцю, якая, зразумела, не магла ўсяго гэтага дараваць яму.

Скарына сустракаў на Радзіме не толькі добразычлівасць і падтрымку сваіх суайчыннікаў, але і тупое неразуменне і кансерватызм, злосную зайздрасць і нават нянавісць. Некаторыя глядзелі на яго падазрона, як на ерэтыка, як на шкодную і небяспечную для грамадства асобу, якая парушае агульнапрынятыя нормы, падрывае агульнапрызнаныя аўтарытэты. Яго абвінавачвалі ў розных грахах, яго праследавалі, цягалі па судах і нават садзілі ў турму.

Рознабакова і высокаадукаваны вучоны, доктар навук, поўны сіл і энергіі, вялікіх планаў і задум інтэлігент-працаўнік, які неаднойчы бліскуча дэманстраваў свае глыбокія веды, неабмежаваныя творчыя магчымасці і выключныя здольнасці, уменне выдатна і хутка выконваць самую разнастайную працу і плённа вырашаць самыя складаныя задачы, не мог свабодна жыць і працаваць, займацца любімай справай на карысць грамадства. Яму не знаходзілася месца, прытулку, сталай работы. Яго праследавалі розныя няўдачы і няшчасці, амаль няспынна ўзнікалі ўсё новыя цяжкасці, праблемы, перашкоды, складваліся ў цэлым неспрыяльныя ўмовы для жыцця, працы, творчай дзейнасці.

На працягу цэлых дзесяці гадоў (1526—1535), цяжкіх, складаных і малаплённых (нагадаем, што яго апошняе друкаванае выданне, Апостал, пабачыла свет у 1525 г.), Скарына быў у няспынным пошуку, настойліва, беспаспяхова змагаўся за свае інтарэсы і правы, за права быць самім сабою, але так і не знайшоў неабходнай маральнай і матэрыяльнай падтрымкі ў свецкіх і духоўных улад. Яму так і не ўдалося завяршыць выданне ўсіх кніг Бібліі, ажыццявіць іншыя важныя планы і цікавыя задумы.

Ён — слава і гонар народа, аказаўся як бы непатрэбным на сваёй Радзіме і ў рэшце рэшт быў вымушаны, як выгнанец, пакінуць родную зямлю і шукаць сабе прыстанішча на чужыне. І не дапамагло нават заступніцтва самога караля Жыгімонта I, які спецыяльнай граматай 1532 г. браў Скарыну пад сваю апеку і імкнуўся абараніць яго «ад усякага насілля з боку розных асоб» [110]. Гэта была вялікая драма беларускага гуманіста, новага, перадавога чалавека эпохі, драма ўсяго беларускага Адраджэння XVI стагоддзя.

Па ўсім відаць, што культурна-гістарычная атмасфера ў

---

[110] Скарына Ф. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. С. 158.

тагачаснай Літве і Беларусі ў цэлым была яшчэ не зусім спрыяльнай для шырокай і актыўнай дзейнасці такіх новых людзей як Скарына, першых рэнесансавых гуманістаў, яркіх прадстаўнікоў новага мыслення. Яны не змаглі тады знайсці тут поўнага разумення і трывалай падтрымкі. Беларускае грамадства эпохі Скарыны, напэўна, яшчэ не ўзнялося да такога цывілізацыйнага ўзроўню, каб цаніць і шанаваць талент як вялікую каштоўнасць незалежна ад яго паходжання і характару, каб падтрымліваць і паважаць аўтарытэт адукаванасці і культуры гэтак жа, як аўтарытэт пасады і ўлады.

Характэрна і вельмі паказальна, што менавіта за межамі Радзімы, не ў Полацку і Вільні, а ў Падуі і Кёнігсбергу па-сапраўднаму былі ацэнены глыбокія веды, шырокая эрудыцыя і markрознабаковыя здольнасці беларускага гуманіста, што да нас дайшлі высокія словы захаплення, прызнання і пахвалы вялікай вучонасці і выдатнаму таленту Скарыны, сказаныя не яго суайчыннікамі, а чужынцамі, італьянскімі вучонымі і прускім герцагам Альбрэхтам.

Нягледзячы на несумненны культурна-гістарычны прагрэс Беларусі ў канцы XV — першай палавіне XVI ст., развіццё гарадоў, традыцыйны сярэдневяковы, у аснове артадаксальна-рэлігійны светапогляд яшчэ захоўваў тады вызначальную сілу ў галовах людзей, гарачыя абаронцы старой феадальнай сістэмы, ярыя прыхільнікі кансерватыўна-дагматычнага мыслення паранейшаму займалі пануючае становішча ў грамадстве, таму парасткі новага ў такіх умовах прабіваліся з вялікай цяжкасцю. Старыя традыцыі былі яшчэ вельмі моцнымі і жывучымі тады на Беларусі, бо феадальны лад быў у XVI ст. на беларускіх землях у самай сіле, у поўным росквіце.

Складанае і супярэчлівае суіснаванне старога і новага пры яўнай перавазе першага над другім надае спецыфічную асаблівасць усёй беларускай культуры эпохі Скарыны. Гэтым вызначаецца і беларускае мастацтва таго часу, у якім яшчэ панавалі візантыйска-старажытнарускія традыцыі [111], і філасофская думка, і літаратура. Напрыклад, беларуская хранаграфія першай палавіны XVI ст. так і не перарасла ў новую, гуманістычную гістарыяграфію. Адзіны выразна рэнесансавы помнік таго часу — паэма «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага. Творчасць гэтага паэта, бясспрэчна, належыць і беларускаму народу. Аднак паколькі «Песня пра зубра» была створана далёка за межамі Беларусі і апублікавана ў Кракаве невялікім тыражом, узнікла на грунце не ўласна беларускіх літаратурна-эстэтычных і моўных традыцый, таму яна непасрэдна не ўдзельнічала ў бе-

---

[111] Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т. 1. Ад старажытных часоў да другой паловы XVI стагоддзя. Мн., 1987. С. 170, 173, 188, 191, 203, 213.

ларускім літаратурным працэсе свайго часу, і мы свядома абмінаем у дадзенай працы гэты твор.

У цэлым і сёння нам уяўляецца справядлівым выказаны раней вывад, што ў эпоху Скарыны «гуманістычныя тэндэнцыі не перараслі ў Беларусі ў магутны рух. Адной з галоўных прычын гэтага было недастатковае развіццё раннебуржуазных з'яў у сацыяльна-эканамічным і духоўным жыцці беларускіх гарадоў, якія не змаглі канчаткова вызваліцца ад феадальнай залежнасці, выпрацаваць сваю ідэалогію і стварыць новую свецкую культуру, супрацьпастаўленую старой, сярэдневяковай. Рэвалюцыйны пераварот у светапоглядзе і культуры, пра які казаў Ф. Энгельс, характарызуючы эпоху Адраджэння ў Заходняй Еўропе, на Беларусі ў першай палавіне XVI ст. яшчэ не адбыўся»[112].

Таму, прызнаючы высокі ўзровень агульнага культурна-гістарычнага развіцця Беларусі эпохі Скарыны, еўрапейскі тып тагачаснай беларускай культуры, наяўнасць моцных гуманістычных тэндэнцый[113], думаецца, мы не павінны пераацэньваць іх рэнесансавы характар, калі не хочам прынізіць самога Скарыну, веліч яго тытанічнага подзвігу. Сапраўды, каб выдаць такую Біблію, не пратэстанцкую, не антыклерыкальную, у рэнесансавай краіне з развітым кнігадрукаваннем не патрэбна было б столькі гераізму, грамадзянскай смеласці і самаахвярнасці, укласці столькі працы, пераадолець столькі перашкод, вынесці столькі цяжкасцей, як гэта выпала на долю беларускага асветніка.

Драма Скарыны найперш у тым, што мала хто з уплывовых суайчыннікаў тады зразумеў і падтрымаў яго, дзеяча, які значна апярэдзіў свой час і з'явіўся яркім выразнікам творчых сіл і духоўных імкненняў беларускага народа. Скарына вырас на нацыянальнай глебе, творча сінтэзаваў лепшыя дасягненні ўсходнеславянскай і агульнаеўрапейскай культуры таго часу, нацыянальныя і іншаземныя традыцыі, таму яго шматгранная дзейнасць і неацэнная спадчына — заканамерны вынік культурна-гістарычнага развіцця беларускіх зямель канца XV — першай палавіны XVI ст. і найвышэйшае дасягненне беларускай культуры феадальнай пары.

Падсумоўваючы гаворку, неабходна адзначыць, што эпоха Скарыны была ў цэлым вельмі важным, у пэўным сэнсе сапраўды пераломным часам у гісторыі беларускай літаратуры, пачаткам новага этапу ў яе развіцці. У сувязі з далейшай секулярызацыяй усёй культуры, выкліканай значнымі зменамі ў грамадскім жыцці тагачаснай Беларусі, узнікненнем рэнесансава-гуманістычных тэндэнцый у светапоглядзе, новых культурных патрэб

[112] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 93.

[113] Голенищев-Кутузов И. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). М., 1963; Конон В. М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1978.

і эстэтычных густаў, пашырэннем узаемасувязей з перадавымі краінамі Еўропы, пачалося абнаўленне пісьмовай спадчыны мінулага, старых літаратурных традыцый. Гэта выразна выявілася ва ўдасканаленні і ўзмацненні ролі беларускай літаратурнай мовы ва ўсіх відах тагачаснага пісьменства, у тым ліку і ў царкоўнарэлігійнага, у з'яўленні новых перакладаў рада помнікаў сусветнай літаратуры, сярод іх і асобных кніг Бібліі, ва ўзбагачэнні беларускай літаратуры выдатнымі, еўрапейскага ўзроўню, самабытнымі з'явамі дзелавой, дакументальна-гістарычнай і літаратурна-публіцыстычнай прозы, у якой не проста былі творча развіты старыя традыцыі. Статут 1529 г., агульнадзяржаўныя хронікі, пераклады і прадмовы Скарыны заклалі асновы новых, уласна беларускіх традыцый, дзякуючы чаму беларуская літаратура стала на шлях больш самастойнага, больш інтэнсіўнага і паступальнага развіцця. Пра гэта пераканаўча сведчаць з'яўленне Статутаў 1566 і 1588 гг., шматлікіх твораў дзелавога, гістарычна-мемуарнага пісьменства, мясцовых летапісаў і хранографаў, зараджэнне кніжнай паэзіі і драматургіі, актывізацыя перакладчыцкай справы на Беларусі, росквіт рэфармацыйнай і палемічнай публіцыстыкі, які назіраецца ў другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст. Прынцыпова важным было таксама ўзмацненне аб'яднаўчых, агульнабеларускіх працэсаў і тэндэнцый у этнічным, грамадскім і эканамічным жыцці Беларусі, што закладвала асновы для фарміравання адзінай нацыянальнай культуры.

Скарына сваёй дзейнасцю надаў магутны штуршок больш інтэнсіўнаму, паскоранаму яе развіццю. І таму, нягледзячы на агульнае пагаршэнне гістарычных умоў у канцы XVI—XVII ст., якое сур'ёзна ўскладніла і моцна стрымлівала далейшае развіццё гэтых працэсаў, рух беларускай літаратуры да рэальнага жыцця, яе набліжэнне да надзённых праблем і агульнанародных інтарэсаў, да простага чалавека, да жывога роднага слова, а праз яго да творчага асваення шматвяковых традыцый і лепшых здабыткаў сусветнай літаратуры, нястрымна працягваўся.





# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І СТАНАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДСКА-ФІЛАСОФСКАЙ ДУМКІ Ў XVI — ПЕРШАЙ ПАЛАВІНЕ XVII ст.

Францыск Скарына — нацыянальны гонар беларускага народа. Яго шматгранная і наватарская дзейнасць, дзейнасць гуманіста і рэфарматара не толькі склала цэлую эпоху ў гісторыі культуры Беларусі, але і шмат у чым прадвызначыла яе будучае развіццё. Скарына — заснавальнік усходнеславянскага кнігадрукавання, першы ва Усходняй Еўропе перакладчык Бібліі на блізкую да народнай мову, у сувязі з чым яго трэба лічыць прадвеснікам Рэфармацыі на Беларусі, Літве і Украіне.

Скарына — выдатны мысліцель-гуманіст эпохі Адраджэння. Абапіраючыся на старажытнарускую філасофска-этычную і багаслоўскую традыцыю, ён паспрабаваў на новым узроўні ажыццявіць сінтэз гэтай традыцыі з антычнай і заходнееўрапейскай рэлігійна-філасофскай культурай. Хоць светапогляд беларускага гуманіста вызначаецца даволі шырокім дыяпазонам, аднак галоўнае месца ў ім займаюць каштоўнасныя формы асваення рэчаіснасці, і перш за ўсё — этыка і палітыка.

Асаблівасцю Скарыны як мысліцеля-наватара з'яўляецца спроба рэнесансава-гуманістычнай інтэрпрэтацыі «Свяшчэннага пісання». У сваіх шматлікіх прадмовах да біблейскіх кніг Скарына імкнуўся абгрунтаваць некаторыя рэнесансава-гуманістычныя ідэі: рэлігійнай і маральнай аўтаноміі чалавека, бязмежнасці яго пазнаваўчых магчымасцей, годнасці, перавагі актыўна-практычнага жыцця ў параўнанні з сузіральным, грамадзянскасці, патрыятызму і г. д. Светапогляд Скарыны — гэта раннебуржуазная ў сваёй тэндэнцыі спроба рэвізіі афіцыйнага хрысціянскага вучэння, і перш за ўсё этыкі. Справа ў тым, што пераклад Бібліі на народную мову рабіў яе даступнай шырокаму, дэмакратычнаму чытачу і, па сутнасці, азначаў заклік да яе свабоднага вывучэння. Тым самым міжволі ліквідавалася царкоўна-тэалагічнае пасрэдніцтва паміж «боскім адкрыццём» і «простым паспалітым чалавекам». Сцвярджаючы прынцып неінстытуцыйных, асабістых адносін чалавека да веры, Скары-

на падрыхтаваў пералом у свядомасці і характары мыслення сваіх суайчыннікаў; мысліцель адкрываў магчымасць не толькі для індывідуальнага, вольнага ад афіцыйных царкоўна-багаслоўскіх аўтарытэтаў асэнсавання Бібліі, але і для незалежнага філасофствавання.

Скарына быў сынам свайго часу, а значыць, чалавекам глыбока рэлігійным. Але рэлігійнасць ён разумеў не так, як артадаксальныя багасловы. Яго погляд у значнай ступені набліжаўся да пратэстантызму. Для Скарыны вера — справа перадважна асабістая і рухае яе індывідуальны маральны абавязак. У адносінах да рэлігіі чалавеку няма патрэбы ў пасрэдніцтве з боку прафесійных веранастаўнікаў, рэлігійных служак ды і ў цэлым царквы. Кожны чалавек, у тым ліку і «просты, паспаліты», здольны спасцігнуць рэлігійна-маральную сутнасць «боскага адкрыцця» ў выніку непасрэднага вывучэння «Свяшчэннага пісання». Скарына не адвяргаў сачыненняў бацькоў і настаўнікаў царквы, пастаноў царкоўных сабораў і г. д., г. зн. усяго таго, што адносіцца да галіны царкоўнага падання. Аднак ва ўяўленні мысліцеля паданне не мае аўтарытэту, які яму адводзіцца афіцыйнай — і каталіцкай, і праваслаўнай — традыцыяй.

Хоць Скарына і ставіўся з належным піетэтам да Бібліі, аднак яна была для яго не столькі веравучыцельным, колькі інтэлектуальна-пабуджальным, маральна-павучальным і грамадзянска-выхаваўчым творам. Зыходзячы з такіх рэнесансава-гуманістычных адносін да «Свяшчэннага пісання», Скарына, выкарыстоўваючы каментарыі, імкнуўся расставіць у ім адпаведныя акцэнты, унесці ў біблейскія апавяданні, прытчы, алегорыі новы сэнс. Ён звяртаў увагу на тыя грамадскія і маральна-філасофскія праблемы, якія заставаліся ў баку ад артадаксальных філосафаў і падымаліся на шчыт мысліцелямі эпохі Адраджэння. У прыватнасці, беларускі гуманіст даводзіў, што сфера свецкая, грамадзянская важней за сферу рэлігійна-царкоўную, што цэнтрам увагі чалавека павінны быць зямныя інтарэсы і праблемы, што чалавечы дух павінен праявіць сябе перш за ўсё ў галіне маральнай, інтэлектуальнай, грамадскай, а не ў рэлігійнай і тэалагічнай сферы. Галоўная задача дадзенай устаноўкі ў індывідуалізацыі, суб'ектывізацыі веры, змяншэнні ў рэлігійным жыцці чалавека такога апасродкаванага звяна, як афіцыйная царква. Больш таго, абапіраючыся на ўсходнехрысціянскую багаслоўскую традыцыю, Скарына даволі скептычна адносіўся да рацыянальнага богапазнання, што, як вядома, з'яўлялася адной з задач заходнееўрапейскай схаластыкі.

Скарына — жывое і вялікае ўвасабленне дамінуючай у духоўнай культуры Беларусі ідэі «агульнага дабра». Прычым гэту ідэю ён сцвярджаў не толькі тэарэтычна, у сваіх высока патрыятычных прадмовах да біблейскіх кніг, але і практычна, сваім самаахвярным жыццём і нястомнай грамадскай дзейнасцю. Доктар філасофіі і медыцыны, кваліфікаваны лекар і адукаваны

юрыст, Скарына лёгка мог бы знайсці сабе месца ў заходнееўрапейскім грамадстве, як гэта нярэдка здаралася з яго суайчыннікамі. Аднак усе свае сілы і веды, усю сваю энергію ён аддаў служэнню «людем посполитым руского языка», свайму народу. Для Скарыны была характэрна не толькі высокая грамадзянская, але і нацыянальная самасвядомасць, якая выяўлялася ў цэлым радзе фактараў, у тым ліку ў пастаянным і настойлівым падкрэсліванні свайго паходжання: «Я, Францискъ Скорина изъ славного града Полоцька». Дзейнасць Скарыны спрыяла прагрэсу духоўна-культурнага самасцвярджэння беларускага народа, станаўленню яго нацыянальнай свядомасці. Невыпадкова пераклад Бібліі на народныя мовы К. Маркс кваліфікаваў як фактар, што сведчыць пра «абуджэнне нацыянальнасцей» [1].

Светапогляд Скарыны — прыклад каштоўнаснага, духоўна-практычнага засваення рэчаіснасці, хоць у ім прысутнічае філасофска-тэарэтычная тэндэнцыя, звязаная з арыстоцелізмам і сучаснымі яму навуковымі ўяўленнямі. У працэсе інтэрпрэтацыі біблейскіх сюжэтаў Скарына даволі часта мысліць ужо ўпаўне «катэгарыяльна», выкарыстоўваючы такія паняцці, як «посполитое доброе» (грамадскае дабро), «пожиток посполитый» (грамадская карысць), «мудрость» (духоўна-практычныя веды, адзінства ведаў і маральнасці), «наука» (веды), «опатренность» (умеранасць, разважлівасць) і да т. п. Скарынаўскае самапазнанне («есть наивышшая мудрость размышление смерти и познание самого себе») не толькі духоўна-практычная, але і тэарэтычна-пазнаваўчая рэфлексія, звязаная са спасціжэннем як біблейскай, так і навуковай ісціны. Як вядома, Біблію вялікі гуманіст разглядаў не толькі як крыніцу веры і практычнай маралі, але і свецкіх ведаў. Ён выдзяляў у ёй тры слаі — веранастаўніцкі, маральна-філасофскі і тэарэтычна-пазнаваўчы. Як было паказана даследчыкамі [2], Скарына лічыў, што ў «Свяшчэнным пісанні» захаваны не толькі боскае, рэлігійна- і маральна-павучальнае, але і ўся натуральная, навуковая, «Арыстоцелева» мудрасць і ісціна. Біблію ён разглядаў у якасці універсальнага сродку свецкіх ведаў, дапаможніка для вывучэння «семи свободных наук» — граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі [3]. Менавіта ў такой канкрэтна-гістарычнай форме Скарына сцвярджаў не толькі каштоўнасную, але і навукова-пазнаваўчую функцыю духоўнай дзейнасці чалавека, што сведчыла аб рэнесансава-гуманістычнай тэндэнцыі ў яго светапоглядзе, прагрэсе ў грамадска-філасофскай думцы ўсходнеславянскіх народаў.

Францыск Скарына жыў у эпоху, калі ў Беларусі выразна

---

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 29. С. 18.

[2] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958; Майхровіч С. Георгій Скарына. Мн., 1966; Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981.

[3] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 62—63.

выявіліся адзнакі распаду феадальна-сярэдневяковага і станаўлення новага, рэнесансава-гуманістычнага светапогляду, нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Гэта было абумоўлена ростам гарадоў, развіццём таварна-грашовых адносін, узмацненнем палітычнай цэнтралізацыі і прававой стабілізацыі грамадства, фарміраваннем беларускай народнасці і яе культуры. Грамадская свядомасць дасягнула ўзроўню, пры якім аказалася магчымым не толькі асіміляцыя духоўна-культурных дасягненняў еўрапейскага Адраджэння, але і вытворчасць арыгінальных, рэнесансава-гуманістычных каштоўнасцей, канцэпцый, ідэй. Светапогляд Скарыны з'яўляецца адлюстраваннем працэсу фарміравання на айчыннай глебе ідэй і ўяўленняў эпохі Адраджэння [4].

Рэнесансава-гуманістычны светапогляд ёсць канцэптуальна цэласная сістэма ўзаемазвязаных і ўзаемадзеючых прынцыпаў і ўстановак, якія вызначаюць асноўны змест перадавой грамадскай свядомасці эпохі. Тры вызначальныя прынцыпы складаюць яго аснову. Па-першае, вучэнне пра самадастатковую каштоўнасць чалавечага жыцця, або адраджэнчы антрапацэнтрызм, дзе ў цэнтры ўвагі аказалася не праблема замагільнай аддзякі (воздаяния), грэхападзення і збавення, а зямнога прадвызначэння чалавека. Па-другое, вучэнне аб свабодзе, г. зн. аб меры магчымасцей чалавека ў яго адносінах да свету, пазнання, творчасці, самога сябе. Па-трэцяе, натуралізм, як пераважны спосаб тлумачэння чалавека і прыродна-сацыяльнага асяроддзя. У той жа час неабходна ўлічваць спецыфічны, асаблівы характар праяўлення гэтых прынцыпаў ва ўмовах канкрэтнай краіны, рэгіёна, народа, у тым ліку і Беларусі.

Калі разглядаць рэнесансава-гуманістычны светапогляд Скарыны як сістэму ўзаемазвязаных прынцыпаў і ўстановак, то неабходна адзначыць наступнае.

*Першае.* У яго светапогляднай структуры дамінуюць духоў-

---

[4] Падрабязней аб філасофскай культуры і літаратуры эпохі Адраджэння і Рэфармацыі ў Беларусі гл.: Багдановіч М. Белорусское Возрождение // Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Т. 2. Мн., 1968. С. 213—241; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI в.). Мн., 1970; Яго ж. Франциск Скорина. М., 1981; Яго ж. Проблема восточноевропейского Ренессанса и гуманизма // Иван Федоров и восточноевропейское книгопечатание. Мн., 1984. С. 30—49; Яго ж. Типология прогрессивной социально-политической мысли Белоруссии эпохи Возрождения // Исторические традиции философской культуры народов СССР и современность. Киев, 1984; Яго ж. Философская и общественно-политическая мысль эпохи Возрождения в Белоруссии: Автореф. дис. ... д-ра филос. наук. Мн., 1985; Яго ж. Философская мысль эпохи Возрождения. Типология, периодизация проблемы общего и особенного // Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1987; Конон В. М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1978; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Т. 1; З старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979 і інш.

на-практычныя, каштоўнасныя формы асваення рэчаіснасці, хоць і наглядаецца даволі прыкметная навуковая, тэарэтыка-пазнавачая тэндэнцыя.

*Другое.* Вядучым прынцыпам светапогляду Скарыны з'яўляецца адраджэнчы антрапацэнтрызм, г. зн. вылучэнне на першы план праблемы зямнога прадвызначэння чалавека, у той жа час беларускі гуманіст не здымае праблемы замагільнай падзякі.

*Трэцяе.* У параўнанні з артадаксальным, сярэдневякова-тэалагічным (і праваслаўным, і каталіцкім) светапоглядам Скарына значна пашырыў межы духоўна-маральнай свабоды чалавека. Па-першае, ён абвясціў права індывіда на адносна незалежнае тлумачэнне біблейскіх тэкстаў; па-другое, ён вылучыў палажэнне аб здольнасці чалавека дасягнуць інтэлектуальна-маральнай дасканаласці або ідэала пры дапамозе індывідуальных намаганняў, безцаркоўнага асвячэння; па-трэцяе, мысліцель папулярызаваў бязмежнае права чалавека на пазнанне і творчасць; па-чацвёртае, сцвярджаў магчымасць і нават неабходнасць умяшання чалавека ў існуючую грамадскую рэчаіснасць, актыўных адносін да яе. Разам з тым ідэя духоўнай свабоды Скарынам не даводзіцца да крайняга індывідуалізму, ён суадносіў яе з дамінуючай у сістэме яго сацыяльна-этычных каштоўнасцей ідэяй «агульнага дабра».

*Чацвёртае.* У якасці светапогляднай устаноўкі ў творах Скарыны вылучаецца натуралістычная тэндэнцыя, што знаходзіць, у прыватнасці, выяўленне ў яго канцэпцыі «натуральнай маралі» і «натуральнага права». Аднак натуралізм не выключае тэалагізму ў поглядах Скарыны на прыроду, грамадства, чалавека. Прычым Скарына, як і многія рэнесансавыя мысліцелі, не супрацьпастаўляе «натуральнае» і «боскае» адзін аднаму, а імкнецца паказаць магчымасць іх «мірнага суіснавання».

*Пятае.* Характэрнай рысай светапогляду Скарыны з'яўляецца ідэйны кампраміс, імкненне не да рашучага разрыву з традыцыйным, сярэдневякова-тэалагічным светапоглядам, а да яго абнаўлення, рэфармавання, узгодненасці з новымі, рэнесансава-гуманістычнымі прынцыпамі, нормамі, ідэаламі.

*Шостае.* Асаблівасцю скарынаўскага светапогляду з'яўляецца дэмакратызм, які заключаецца, з аднаго боку, у арыентацыі духоўнай дзейнасці ідыёлага, інтэлігента на народ, «люд просты, паспаліты» (тут аб'ядналіся дзве традыцыі: раннехрысціянская і старажытнаруская); з другога боку, грунтуецца на перакананні ў здольнасці народа далучыцца да самых высокіх каштоўнасцей духоўнай культуры, а таксама на веры ў інтэлектуальна-творчыя магчымасці народнай масы.

*Сёмае.* У аснове светапогляду беларускага мысліцеля ляжыць ідэя сінтэзу духоўных каштоўнасцей розных эпох, якая сведчыць аб разуменні ім пераемнаснага характару духоўнай культуры чалавецтва.

*Восьмае.* Светапогляд Скарыны сінкрэтычны, па-філасофску

непадзельны, пабудаваны на аснове адзінства этычнага, эстэтычнага і гнасеалагічнага, г. зн. маральнасці, прыгажосці і ісціны, хоць у радзе выпадкаў гэтыя паняцці выступаюць як параўнаўча самастойныя.

Як чалавек рэлігійны, Скарына прызнаваў асноўныя догматы хрысціянскага веравучэння: боскую троіцу, богачалавечую прыроду Хрыста і яго збавенчую ахвяру, бессмяротнасць душы, замагільнае жыццё і г. д. Біблію Скарына таксама лічыў кнігай святой і боганатхнёнай. У той жа час у адносінах мысліцеля да «Свяшчэннага пісання» выяўляецца супярэчнасць, шчыры давер, з аднаго боку, і спроба нетрадыцыйнага, вольнага тлумачэння тых або іншых рэлігійна-філасофскіх праблем, з другога.

Біблейская мудрасць, лічыў беларускі мысліцель, праяўляецца ў дваякай форме: даступнай толькі для выбраных і даверaных, г. зн. эзатэрычнай, і даступнай для ўсіх без выключэння людзей, г. зн. экзатэрычнай [5]. Да ліку эзатэрычных біблейскіх кніг, напісаных «внутрь духовне», Скарына адносіў кнігу «Быццё», пачатак і канец кнігі «Езекііль» і «Песню песняў», якія, на думку асветніка, «суть трудны ко зрозумению» [6]. Асноўная ж частка тэкстаў «Свяшчэннага пісання» экзатэрычная, даступная любому чалавеку [7]. У прыватнасці, экзатэрычнымі Скарына лічыў кнігі «Прытчы Саламона», «Прамудрасць Ісуса Сірахава», «Прамудрасць Саламона», «Царствы», «Юдзіф», з пэўнай агаворкай кнігу «Эклезіяст» і інш.

Да асабліва складаных і цяжкіх для разумення мысліцель адносіў тыя біблейскія тэксты, у якіх трактаваліся вельмі вострыя пытанні, і перш за ўсё пытанне аб паходжанні свету. Гэтыя тэксты, на думку мысліцеля, павінны быць прадметам веры.

Экзатэрычная частка Бібліі з'яўляецца аб'ектам розуму. Яна заключае ў сабе даступныя любому чалавеку маральна-філасофскія ісціны і элементы свецкіх ведаў. Менавіта гэта, не тэалагічная, а філасофская частка «Свяшчэннага пісання» мае для Скарыны найбольшую каштоўнасць. Нягледзячы на ўсю складанасць філасофскага зместу Бібліі, яна, на думку гуманіста, упаўне даступна індывідуальнаму чалавечаму розуму, розуму простага чалавека [8]. Скарына, такім чынам, упершыню ва ўсходнеславянскай культуры паставіў праблему інтэрпрэтацыі «Свяшчэннага пісання», спрабаваў тэарэтычна абгрунтаваць права шырокага дэмакратычнага чытача на свабоднае вывучэнне Бібліі, сцвярджаючы прынцып асабістых адносін чалавека да веры.

Скарына меркаваў, што ў «Свяшчэнным пісанні» схавана не толькі ўся боская, «Саламонава», але і ўся натуральная, «Арыстоцелева» мудрасць [9]. Біблію Скарына разглядаў як універсаль-

---

[5] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 62.
[6] Там жа. С. 71.
[7] Там жа. С. 125.
[8] Там жа. С. 62.
[9] Там жа. С. 24.

ную крыніцу свецкіх ведаў, дапаможнік для вывучэння «сямі свабодных навук» — граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі. «В сей книзе,— пісаў Скарына,— всее прироженое мудрости зачало и конець... вси законы и права, имн же люде на земли справоватися имають, пописаны суть... вси лекарства, душевные и телесные... навчение философии добронравное... справа всякого собрания людского и всякого града, еже верою, соединением ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть. Ту научение седми наук вызволены достаточное.

Хощеши ли умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии... Пакли ти ся любить разумети ло[г]ику,— она же учить з доводом разознати правду от кривды,— чти книгу светого Іова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные.

Восхощеш ли пак учитися музики, то есть певници, премножество стихов и песней светых по всей книзе сей знайдеши. Любо ли ти ест умети аритметику, еже вократце а неомылне считати учить, четвертыи книги Моисеевы часто чти. Пакли же имаши пред очима науку геометрию, еже по-руски сказуется землемерение, чти книгу Ісуса Навина. Естъли астрономии или звездочети — найдеш на початку книги сее о сотворении солнеца и месеца и звезд... А то суть седм наук вызволеных.

Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев... Потребуеши ли науки и мудрости добрых нравов, часто прочитай книги Ісуса Сирахова а Притчи Саломоновы» [10].

Такім чынам, паводле Скарыны, Біблія з'яўляецца своеасаблівай энцыклапедыяй навук, неабходнай для «простого и посполитого человека». Зразумела, імкненне Скарыны зрабіць Біблію аўтарытэтнай крыніцай «прироженой», натуральнай мудрасці, свецкіх ведаў сведчыць аб гістарычным характары яго светапогляду. Аднак не варта трактаваць погляд Скарыны ў тым сэнсе, што ён хацеў паказаць Біблію як адзіную крыніцу свецкіх ведаў, што ён імкнуўся падмяніць навуку «Свяшчэнным пісаннем». Асноўнай сваёй задачай мысліцель ставіў далучэнне «простого, посполитого человека» да вывучэння Бібліі. Прычым ён канцэнтраваў увагу дэмакратычнага чытача на двух аспектах біблейскай мудрасці: пазнавальным і маральна-філасофскім. У сувязі з гэтым ён абсалютызаваў ролю Бібліі ў адукацыі і маральным выхаванні чалавека, не выключаючы пры гэтым магчымасць і нават неабходнасць вывучэння свецкіх навук [11]. І хоць Скарына ставіў біблейскую мудрасць вышэй за папярэднюю, ён не выключаў для «людей простых посполитых» кантактаў з куль-

[10] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 62—63.
[11] Там жа. С. 38.

турай і навукай нехрысціянскага, язычніцкага свету. Відаць, можна гаварыць пра спробу Скарыны наладзіць дыялог з антычнасцю, сінтэзаваць навукова-культурныя каштоўнасці хрысціянскай і грэка-рымскай цывілізацыі, у прыватнасці, Скарына неаднойчы звяртаецца да аўтарытэту Арыстоцеля. На прыкладзе «милосников науки и мудрости» Саламона, Пталамея Філадэльфа, Ісуса Сірахава Скарына сцвярджаў ідэал інтэлектуальна-актыўнага чалавека [12]. На думку Скарыны, веды з'яўляюцца важнейшым кампанентам чалавечай мудрасці. Не адвяргаючы неабходнасці богапазнання, Скарына лічыў, што пазнавальныя намаганні чалавека ў асноўным павінны быць скіраваны на вывучэнне прыроды, грамадства, чалавека, авалоданне свецкімі ведамі. З такога пункту погляду ён галоўным чынам глядзеў на «Свяшчэннае пісанне», лічачы адной з важнейшых яго функцый пазнавальную. Вялікая роля, якую мысліцель адводзіў пазнавальнай здольнасці чалавечага інтэлекту, абумовіла той факт, што ў гнасеалагічным плане ён падышоў да рацыяналізму, хоць і адводзіў даволі важнае значэнне богаадкрывальным ведам. Побач з тым у каментарыях Скарыны выяўляецца ў якасці тэндэнцыі ідэя «двайстай ісціны» [13].

Скарына закранае самае вострае філасофскае пытанне эпохі позняга сярэдневякоўя: ці створаны свет богам або ён існуе спрадвеку. У прадмове да кнігі «Быццё» мысліцель супастаўляе хрысціянскае вучэнне аб стварэнні свету «з нічога» з натурфіласофскімі поглядамі старажытнагрэчаскіх філосафаў, і перш за ўсё Арыстоцелевай канцэпцыяй вечнасці і незнішчальнасці матэрыі. «Кто убо от философов,— піша Скарына,— мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, [по] старейшине их Аристотелю глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть» [14]. І хоць у канчатковым выглядзе асноўныя пытанні філасофіі мысліцель вырашае ў традыцыйна хрысціянскім духу, кранаючы хрысціянісцкую канцэпцыю паходжання свету («мы пак, хрестиане, зуполную веру имамы всемогущего во троици единаго бога, в шести днех сотворившего небо и землю и вся, еже суть в них»), развагі Скарыны па дадзеным пытанні давалі чытачам яго твораў магчымасць дыялога з навукай і філасофіяй.

Хрысціянскі догмат аб генезісе прыроды, на думку Скарыны, не можа быць абгрунтаваны сродкамі філасофскага розуму. Так, кніга «Быццё», дзе гаворыцца аб стварэнні міру з нічога, «суть над розум людскый» [15]. У гэтым выказванні імпліцытна змяшчаўся вывад аб бясплоднасці спроб схаластычнай філасофіі рацыянальнага абгрунтавання догматаў хрысціянства, аб неабходнасці размежавання кампетэнцый веры і розуму, тэалогіі

[12] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 16—24.
[13] Там жа. С. 22, 128—129.
[14] Там жа. С. 71—72.
[15] Там жа. С. 71.

і філасофіі. Характэрна, што Скарына не імкнецца, падобна Фаме Аквінскаму, устанавіць гармонію паміж верай і розумам, а ў большай ступені стараецца падкрэсліць іх розніцу. У гэтым заключалася адна з зыходных прадпасылак да проціпастаўлення навукі і рэлігіі, абгрунтавання незалежнасці свецкіх ведаў, філасофіі ў адносінах да веры, рэлігіі.

Вельмі паказальныя некаторыя навуковыя, і ў прыватнасці астранамічныя, даследаванні Скарыны. Першы з даследчыкаў, які прааналізаваў дзейнасць Скарыны як вучонага-астранома, Г. Я. Галенчанка прыйшоў да высновы, што мысліцель прытрымліваўся арыстоцелева-пталамееўскай сістэмы свету [16].

У цэнтры ўвагі беларускага мысліцеля-гуманіста знаходзіцца праблема чалавека і грамадства. У сувязі з гэтай усеабдымнай этычнай праблемай Скарынам разглядаюцца і рашаюцца пытанні прызначэння, сэнсу жыцця, духоўнага свету, годнасці чалавека, паходжання маральных уяўленняў, духоўна-маральнай свабоды, агульных і індывідуальных даброт, грамадскай актыўнасці і г. д.

Скарына зрабіў спробу перагледзець артадаксальна-хрысціянскую трактоўку праблемы чалавечага існавання, паводле якой зямное жыццё не ўяўляе самагоднай каштоўнасці, з'яўляецца толькі падрыхтоўкай да жыцця незямнога. Мысліцель сцвярджае самакаштоўнасць чалавечага жыцця, рэабілітуе зямное жыццё, не адвяргаючы ў той самы час і веры ў незямное жыццё [17].

Праблемы сэнсу жыцця і вышэйшага дабра разглядаюцца беларускім гуманістам у прадмовах да кніг «Прытчы Саламона», «Прамудрасць Ісуса, сына Сірахава», «Эклезіяст» і інш. Паводле старажытнай традыцыі, гэтыя кнігі лічыліся філасофскімі. У прыватнасці, кніга «Прамудрасць Ісуса, сына Сірахава» была шырока вядома чытачу Старажытнай Русі і разглядалася як свецкае маральна-дыдактычнае сачыненне. У «Прытчах Саламона» высокае прызнанне атрымлівае розум, сцвярджаецца каштоўнасць рэальнага жыцця і г. д. Негатыўныя адносіны да замагільнага свету, пропаведзь зямнога шчасця і асалоды змешчаны ў «Эклезіясце». Даволі сімптаматычна, што многія з гэтых ідэй прыцягнулі ўвагу мысліцеля і атрымалі адлюстраванне ў яго прадмовах.

У прадмове да «Прытчаў Саламона» Скарына сцвярджае, што галоўнае прадвызначэнне чалавека заключаецца ў сцвярджэнні зямнога жыцця, а аб'ектам этыкі з'яўляецца праблема, «яко ся имамы справовати и жити на сем свете» [18]. Беларускі гуманіст у каментарыях да «Эклезіяста» фіксуе шматбаковасць

---

[16] Галенчанка Г. Я. Астранамічныя звесткі ў «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1974. № 4. С. 42—35.

[17] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 20—24.

[18] Там жа. С. 17.

жыццёвых пазіцый рэальнага чалавека, плюралізм яго каштоў насных арыентацый. У прыватнасці, Скарына заўважае, што аўтар «Эклезіяста» «пишет о науце всех людей посполите сущих в летех мужства, приводячи им на память суету, беду и працу сего света, понеже в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя: едины в царствах и в пановании, друзии в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крѣпости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человѣк имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит» [19].

Гэты фрагмент сведчыць аб добрым веданні Скарынам антычных філасофска-этычных канцэпцый вышэйшага дабра, у прыватнасці арыстоцелеўскай, эпікурэйскай, стаічнай і інш. Скарына не прымае этычнай канцэпцыі эпікурызму, а імкнецца сінтэзаваць хрысціянскія маральныя нормы з маральнымі прынцыпамі арыстоцелізму і ўмеранага стаіцызму. Мысліцель правільна заўважыў дыялектычны характар разважанняў «прамудрага Саламона», у якіх адлюстравана супрацьлегласць маральнай свядомасці і паводзін чалавека ў рэальным жыцці, шматбаковасць жыццёвых пазіцый, складанасць быцця чалавека ў цэлым, якое не змяшчаецца ў жорсткую дагматычную схему той або іншай канцэпцыі [20]. Скарына з разуменнем адносіўся да рэальнай, зямной маралі людзей, у той жа час ён супрацьпастаўляў ёй духоўны ідэал, у якасці якога ў яго выступае гуманістычна пераасэнсаваная хрысціянская канцэпцыя жыцця. Для Скарыны вышэйшае дабро — дабро зямное, гэта — інтэлектуальнанасычанае, маральна-дасканалае і істотна-карыснае жыццё на зямлі.

Для Скарыны ўласцівы яскрава выражаны інтэлектуалізм, погляд на пазнанне як адну з істотных функцый духоўнай прыроды чалавека. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці трактуюцца Скарынам як набытыя, што з'яўляюцца функцыяй актыўнай, разумова-пазнавальнай і грамадска-практычнай дзейнасці чалавека. Ён услаўляе людзей, якія імкнуцца да пазнання і з усіх іншых уцех выбіраюць асалоду духа (цар Саламон, Пталамей Філадэльф, Ісус Сірахаў і інш.) [21].

Скарына станоўча ставіцца да чалавека, які спалучае ў сабе біблейскую мудрасць і мудрасць філасофскую («духа святого и философии исполненный, еврейского языка и греческого досконале умелый» [22]). У гэтым выказванні, па-першае, бачна характэрнае для Скарыны імкненне сінтэзу культурна-філасофскіх

[19] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 28.
[20] Там жа. С. 29—30.
[21] Там жа. С. 16, 22—24.
[22] Там жа. С. 22.

традыцый антычнасці і хрысціянства, па-другое, рэнесансава-гуманістычная трактоўка навуковай дзейнасці, якая прадугледжвае дасканалае веданне старажытных моў. Скарына гаворыць пра мудрасць больш у філасофскім, чым у тэалагічным сэнсе. У філасофскіх афарызмах Бібліі «сокрита мудрость,— пісаў ён,— якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли и ядро у вореху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость и достанеть благословения от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею, хвала и честь безчисленая моцию ея,— она убо ест мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению» [23]. Скарына разглядаў веды як неабходную ўмову духоўна-прыгожага жыцця. Адукацыя, культура, лічыў гуманіст, указваюць чалавеку шлях да інтэлектуальных і грамадскіх даброт, з'яўляюцца асновай маральных дабрачыннасцей, зямнога шчасця. Прычым кожнаму чалавеку даступны маральны ідэал, паколькі дабрачыннасці можна навучыцца. Звяртаючыся да ўнутранага свету чалавека, праяўляючы клопат аб яго інтэлектуальных і маральных дабрачыннасцях, Скарына тым самым сцвярджаў адзін з прагрэсіўных рэнесансава-гуманістычных прынцыпаў, паводле якога сапраўдная годнасць і высакароднасць чалавека заключаюцца не ў паходжанні, не ў знатнасці, не ў грамадскім становішчы, і, нарэшце, не ў рэлігійнай адданасці, а ў такіх якасцях, як інтэлект, маральны воблік, здольнасці.

Беларускі мысліцель імкнецца вытлумачыць паходжанне маральных уяўленняў чалавека. Паводле Скарыны, паняцці маралі маюць дваякую аснову: індывідуальны розум і боскае адкрыццё. Прычым натуральны маральны закон валодае прыярытэтам: «прежде всех законов или прав писаных закон прироженый всем людем от господа бога дан ест» [24]. Натуральны маральны закон, мяркуе Скарына, «написан есть в серци единого каждого человека», ён дадзены яму богам разам з розумам і свабоднай воляй, дзякуючы чаму чалавек валодае здольнасцю прымаць свядомае маральнае рашэнне. Асноўны пастулат натуральнага маральнага закона фармулюецца наступным чынам: «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных иметь». На гэтым прынцыпе, лічыць Скарына, заснаваны ўсе так званыя пісаныя маральныя законы, у тым ліку і закон Старога і Новага запаветаў. Гэтым, што зыходзіў з натуральнага розуму, маральным законам кіраваліся і кіруюцца людзі на працягу ўсёй гісторыі [25]. Скарына імкнецца знайсці нейкі універсальны маральны імператыў, прымальны для ўсіх людзей, на аснове якога можна рэгуляваць грамадскае жыццё. Гэта не толькі вынік інтэрпрэтацыі хрысціянскай этыкі («Итак, во всем, как хотите, чтобы с вами поступали люди,

---

[23] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 20.
[24] Там жа. С. 94.
[25] Там жа. С. 93—94.

поступайте и вы с ними» (Матфей, 7, 12)), але і адлюстраванне шматвяковага пошуку філасофска-этычнай думкі.

Пісьмовай крыніцай маральных норм, на думку Скарыны, з'яўляецца галоўным чынам Біблія. З тэкстаў прадмоў вынікае, што чалавек пры дапамозе Бібліі ажыццяўляе прамы дыялог з богам, самастойна, без царкоўнага пасрэдніцтва знаходзіць маральны сэнс «божественного откровения». Мысліцель сцвярджаў інтравертны, арыентаваны знутры характар вытокаў веры і чалавечай маралі, абгрунтоўваў думку пра асабістую адказнасць чалавека за свае дзеянні. Рэлігійна-маральную пазіцыю Скарыны можна кваліфікаваць як праяву рэнесансавага індывідуалізму, які сцвярджае мараль унутраных намераў у супрацьлегласць афіцыйнай царкоўнай маралі замагільнай адплаты. Мысліцель з'яўляецца адным з першых еўрапейскіх рэфарматараў як у галіне рэлігіі, так і ў сферы ўяўленняў аб маралі. У яго каментарыях прасочваецца тэндэнцыя да разрыву сувязі паміж мараллю і афіцыйнай царквой. Рэнесансава-гуманістычная тэндэнцыя да пераадолення залежнасці вучэння аб маралі ад афіцыйнай царкоўна-рэлігійнай дактрыны атрымала далейшае развіццё ў філасофска-этычнай думцы Беларусі другой палавіны XVI—XVII стст.

Скарына ставіць і вырашае адну з найважнейшых філасофска-этычных праблем — праблему адносін індывідуальнага і агульнага дабра. Мысліцель разглядае чалавека як стварэнне грамадскае, і для яго этыкі характэрна сцверджанне прымату агульнага дабра перад індывідуальным. Паняцце агульнага дабра ў творах Скарыны фігурыруе пад тэрмінам «посполитое доброе». Толькі ў грамадстве, на яго думку, жыццё чалавека напаўняецца сапраўдным сэнсам, таму людзі павінны навучыцца «вкупе жити». Грамадскае жыццё патрабуе ад чалавека бескарыснага служэння «пожитку посполитому», выкарыстання ўсіх сваіх здольнасцей і дараванняў у інтарэсах агульнага дабра [26]. У прадмове да кнігі «Эсфір» Скарына наступным чынам фармулюе сваё разуменне грамадскага абавязку: «Не толико бо сами народихомся на свет, но более ко службѣ божией и посполитого доброго» [27]. Сваю ўласную дзейнасць Скарына таксама разглядаў перш за ўсё як служэнне агульнаму дабру, як выкананне свайго абавязку перад народам, «братьями русью».

Скарына быў заснавальнікам нацыянальна-патрыятычнай традыцыі ў гісторыі беларускай культуры і грамадскай думкі. Важнейшай яго заслугай з'яўляецца асэнсаванне значэння духоўнай культуры, роднай мовы ў гістарычным жыцці народа. Сярэдневяковым мысліцелям быў уласцівы хрысціянскі касмапалітызм. Для Скарыны ж інтарэсы свайго народа і айчыны былі вышэй за рэлігійныя інтарэсы і канфесійныя намаганні, пачуц-

---

[26] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 132.
[27] Там жа. С. 109.

цё абавязку перад радзімай і «братьями русью, людьми посполитыми», выступаюць у яго намнога мацней, чым рэлігійная набожнасць. Нацыянальна-патрыятычны пачатак у свядомасці Скарыны — вынік канкрэтызацыі ідэі «агульнага дабра», што з'яўляецца адным з найбольш яркіх праяў традыцый старажытнарускай культуры. Абгрунтоўваючы сваю дзейнасць інтарэсамі «пожытку посполитого», беларускі гуманіст паступова канкрэтызуе яе накіраванасць: «Наболей с тое причины, иже мя милостливый бог с того языка на свет пустил»[28]. Свой патрыятызм, любоў да радзімы Скарына выказаў у наступных выдатных словах: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху ведающь гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым падобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродился и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають»[29].

Важнейшай маральнай дабрачыннасцю чалавека, паводле Скарыны, з'яўляецца любоў. Евангельскае паняцце «любовь к ближнему» гуманістычна ім пераасэнсоўваецца. Ва ўяўленні мысліцеля чалавекалюбства — вышэйшы прынцып узаемаадносін паміж людзьмі, універсальны закон прыватнага і грамадскага жыцця, аснова ўсіх іншых дабрачыннасцей. «Каждый хрестианин,— піша беларускі гуманіст,— ...наиболей любовь ко всим да соблудаеть, еже есть совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест»[30]. Прынцып любві распаўсюджваецца Скарынам не толькі на прадстаўнікоў хрысціянскага веравызнання, але звернуты «ко всякому человеку» незалежна ад яго становішча, веравызнання, нацыянальнага паходжання.

Другой важнейшай маральнай дабрачыннасцю, на думку Скарыны, з'яўляецца справядлівасць. Чалавекалюбства і справядлівасць — два галоўныя крытэрыі маральных паводзін чалавека. На аснове гэтых дабрачыннасцей, лічыў Скарына, павінны будавацца не толькі ўзаемаадносіны паміж людзьмі, але складацца юрыдычныя законы, адбывацца правасуддзе, ажыццяўляцца дзяржаўнае кіраванне і палітыка[31].

Хоць Скарына прызнаваў важнасць самапазнання і сузірання, аднак жа перавагу ён аддаваў сацыяльна-актыўнаму жыццю. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці чалавека істотны толькі ў тым выпадку, калі яны служаць «посполитому доброму», калі людзі ў імя агульнага дабра не шкадуюць «всякого тружания и скарбов»[32]. Сцвярджэнне ў якасці ідэалу актыўнага, грамадска-карыснага людскога жыцця з'ялялася выяўленнем самасвядомасці гандлёва-рамесніцкіх слаёў гарадскога насель-

---

[28] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 11.
[29] Там жа. С. 59.
[30] Там жа. С. 132.
[31] Там жа. С. 95, 115.
[32] Там жа. С. 59.

ніцтва, выступала адным з момантаў раннебуржуазнай ідэало гіі эпохі Адраджэння, што тады фарміравалася.

Не цяжка заўважыць, што філасофска-этычныя погляды Скарыны ствараюць цэлы рад ідэйных пластоў. Ён імкнецца сумясціць хрысціянскае этычнае вучэнне з некаторымі ідэямі антычнай і рэнесансава-гуманістычнай этыкі. З пункту тыпала гічнага этычныя погляды Скарыны адносяцца да ідэйна-філасофскай плыні эпохі Адраджэння, вядомай пад назвай «хрысціянскага гуманізму».

Скарынам была пастаўлена праблема ўдасканалення грамадскіх інстытутаў і ідэальных сацыяльна-палітычных форм. Абгрунтоўваючы неабходнасць змен у грамадскім жыцці, мысліцель спрабаваў вызначыць некаторыя ідэальныя палітыка-прававыя формы, якія ён знаходзіць пераважна ў гісторыі старажытнага свету, Бібліі. У прыватнасці, ён фармулюе вучэнне аб ідэальным законе, вельмі блізкае да тэорыі «натуральнага права». Скарына лічыў, што ў аснове як прававых, так і маральных норм ляжыць «прироженный закон», напісаны богам «в сердци единого кажного человека» і замацаваны ў чалавечым розуме. Розум дае магчымасць чалавеку дакладна адрозніваць дабро ад зла, справядліва паводзіць у адносінах да іншых людзей. Імкненне да правапарадку, такім чынам, натуральная патрэба чалавека.

Паводле Скарыны, «права земская», ці свецкія законы, «единый кажный народ с своими старейшими ухвалили суть подлѣ, яко же ся имналепей видело быти» [33]. Яны ўзнікаюць у кожнага народа ў розны час, абумоўлены патрэбамі грамадства і дзяржавы, дзейнасцю першых цароў і валадароў.

На думку Скарыны, ідэальны закон грунтуецца на маралі і перш за ўсё на чалавекалюбстве і справядлівасці, ён павінен карыстацца ўсеагульнай павагай, быць дакладным і зразумелым, не мець магчымасці для неадэкватнага яго вытлумачэння [34]. Вялікае значэнне надаваў Скарына ўдасканаленню сістэмы правасуддзя. «Судьи и справце,— піша Скарына, спасылаючыся на Другазаконне,— да судять людей судом справедливым, и да не уклонятся ни на жадную страну, и да не зрять на лица, и не примають даров, понеже дарове ослепляють очи мудрых людей и зменяють слова справедливых» [35]. Характэрна, што гэта думка абгрунтоўваецца ў эпіграфе да Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г.

Закон у Скарыны выступае як аснова, на якой павінна грунтавацца сацыяльная гармонія, існаваць грамадства. Парушэнне законнасці, правасуддзя вядзе да разбурэння грамадскай згоды і адзінства. Усё гэта сведчыла аб імкненні мысліцеля зрабіць законнасць і правапарадак нормай для грамадства.

---

[33] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 95.
[34] Там жа. С. 115.
[35] Там жа.

У якасці палітычнага ідэалу ў Скарыны выступае асвечаная і моцная манархічная ўлада. Ідэальнымі дзяржаўнымі дзеячамі ён лічыў старажытнаўсходніх манархаў Саламона і Пталамея Філадэльфа, старажытнагрэчаскіх і рымскіх цароў і заканадаўцаў Салона, Лікурга, Нуму Пампілія і інш. [36]

Беларускі гуманіст не адмаўляў наяўнасці ў грамадстве класавых супрацьлегласцей, аднак меркаваў, што ўзаемаадносіны паміж «богатыми» і «убогими» павінны будавацца на аснове «братолюбия», «друголюбия» [37]. Чалавечае грамадства грунтуецца на міры і «згодзе», «с нея же все доброе всякому граду и всякому собранию приходит, незгода бо и наибольшие царства разрушаеть» [38]. Скарына прапагандуе ідэі раннехрысціянскай філантропіі, пераконвае ўсіх людзей адносіцца «спомогающе друг другу со всякою любовию» [39].

Мысліцелю ўласцівы сацыяльны дэмакратызм. У адрозненне ад мысліцеляў эпохі Адраджэння, якія схілялі да сацыяльна-палітычнага дзеяння ў асноўным прадстаўнікоў пануючага класа, магутных феадалаў, каралёў, Скарына арыентаваўся на «людей простых, посполитых» і пастаянна апеляваў да іх. Яму чужое пачуццё элітарнасці, ён не ставіцца да простага люду як да цёмнай і неадукаванай масы, няздольнай успрыняць філасофскую мудрасць, а, наадварот, звяртаецца да народа, як да роўнага, верыць у яго інтэлектуальныя і маральныя магчымасці, высокія грамадзянскія пачуцці.

Самая выдатная заслуга Францыска Скарыны, такім чынам, у пастаноўцы праблемы чалавека і грамадства ў сацыяльна-філасофскай думцы Беларусі XVI ст. і яго імкненне вырашыць гэту праблему ў духу рэнесансавага гуманізму. Адначасова патрэбна адзначыць, па-першае, вельмі абстрактны характар скарынаўскай трактоўкі асноўных аспектаў дадзенай праблемы, што было звязана з яго прыхільнасцю да некаторых ідэй і форм рэлігійна-тэалагічнага светапогляду; па-другое, недастаткова дакладна выказаную сувязь філасофска-этычнага і сацыяльна-палітычнага вучэння Скарыны з канкрэтнай гістарычнай рэчаіснасцю. У творчасці беларускіх мысліцеляў больш позняй эпохі — Міколы Гусоўскага, Міхалона Ліцвіна, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Андрэя Волана і інш.— рашэнне гэтай праблемы набывае больш рэальныя рысы, напаўняецца канкрэтным зместам, па-філасофску абагачаецца і сацыяльна канкрэтызуецца.

Асноўны ўклад Міколы Гусоўскага ў айчынную філасофска-этычную думку заключаецца ў акцэнтаванні сувязі маральных дабрачыннасцей чалавека з натуральна-прыродным асяроддзем. Рэнесансава-гуманістычным па сутнасці было яго перакананне аб прыярытэце індывідуальнага рацыянальна-пачуццёвага вопыту

[36] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 52.
[37] Там жа. С. 123.
[38] Там жа. С. 130.
[39] Там жа. С. 139.

над кніжнымі ведамі і думкамі аўтарытэтаў. Геніяльным праз вызначэннем з'яўляецца яго ідэя экалагічнага выхавання чалавека і грамадства ў цэлым. Як і Скарына, а пазней М. Ліцвін, С. Будны, А. Волан і інш., Гусоўскі звязваў гістарычны прагрэс, развіццё і магутнасць грамадства і дзяржавы з мірнай плынню жыцця, росквітам духоўнай культуры, навукі, народных талентаў, добрых нораваў. «Дзяржава,— сцвярджаў паэт у звароце да каралевы Боны,— абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць як грэкі, так і рымляне. Іх магутнасць квітнела найбольш тады, калі расцвіталі навукі. А як толькі пачалі нікнуць таленты, сілы іх згаслі, а з заняпадам апошніх абрушылася іх дзяржава і ўсталявалася рабства. Таксама і ў нас»[40]. У той самы час мысліцель услаўляў мужнасць і воінскую доблесць, аднак асуджаў захопніцкія войны і княжацкія міжусобіцы. Міхалонам Ліцвінам была зроблена спроба вострай і ўсебаковай крытыкі сацыяльна-маральных заган грамадства, якая мае яскрава выражаны рэфармацыйна-гуманістычны характар. Асноўная мэта, якую ставіў перад сабой публіцыст,— абудзіць сваіх суайчыннікаў да маральнага аздараўлення і абнаўлення, ад чаго залежыць лёс краіны і народа[41]. У адрозненне ад Скарыны Гусоўскі і Ліцвін арыентаваліся не на біблейскі, а на рэальны, зямны маральна-этычны ідэал. У прыватнасці, у Гусоўскага ў якасці такога выступае ідэалізаваны вобраз вялікага князя Вітаўта, у Ліцвіна — прыхарошанае жыццё масквіцянаў і татар. Гэты якасна новы момант гісторыі айчыннай этыкі атрымаў сваё далейшае развіццё ў творчасці мысліцеляў больш позняга перыяду.

Галоўная заслуга С. Буднага як мысліцеля ў выпрацоўцы арыгінальных (прычым не толькі ва ўмовах беларускай, але і ў еўрапейскай філасофскай культуры), анталагічных і метадалагічна-гнасеалагічных ідэй і ўяўленняў, абумоўленых філасофскімі тэндэнцыямі эпохі Адраджэння. Тут ён быў больш радыкальны за Скарыну. С. Будны падвергнуў крытыцы артадаксальнае вучэнне пра траічнасць бога. Сапраўдным богам мысліцель аб'явіў толькі Бацьку, святы дух ператварыў у атрыбут апошняга, а Хрыста наогул вывеў з боскай супольнасці, прызнаўшы яго простым чалавекам. Тым самым С. Будны абстрагаваў бога ў духу дэізму. Мысліцель зрабіў спробу натуральна-рацыяналістычна вытлумачыць біблейскія цуды, хрысціянскія догматы аб замагільным пакаранні і бессмяротнасці індывідуальнай душы[42].

Услед за Скарынам яго паслядоўнікі ў Беларусі развівалі

---

[40] Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мн., 1980. С. 52.

[41] Литвин М. Извлечения из сочинения Михалона Литвина «О нравах татар, литовцев и москвитян» // Архив историко-юридических сведений, относящихся до России. Кн. 2, половина 2-я. М., 1854. С. 71.

[42] Подокшин С. А. Скорина и Будный: Очерк философских взглядов. Мн., 1974.

гуманістычную ідэю духоўна-маральнай свабоды чалавека. С. Будны меркаваў, што чалавек можа дзякуючы ўласным маральным і інтэлектуальным намаганням дасягнуць боскага ўдасканалення, прыкладам чаго служыць Хрыстос. У дыспуце з праваслаўнымі багасловамі ў Маскве 18 лютага 1627 г. Лаўрэнцій Зізаній, як і італьянскі філосаф-гуманіст Піка дэла Мірандала, абараняў тэзіс аб духоўным «самаўладдзі» чалавека, г. зн. аб бязмежнай духоўна-маральнай свабодзе [43].

Філасофска-этычныя пошукі мысліцеля другой палавіны XVI—пачатку XVII стст. Андрэя Волана таксама ажыццяўляліся ў рэчышчы рэнесансава-гуманістычных традыцый. Як і Скарыну, яго цікавілі праблемы агульнага і індывідуальнага дабра, этычнага ідэалу, шчасця, высакароднасці і г. д. Мысліцель творча пераасэнсаваў этычныя і сацыяльна-палітычныя ідэі Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона, зрабіў спробу іх сінтэзаваць з хрысціянскім вучэннем. У творы «Аб палітычнай, або грамадзянскай свабодзе» Волан сцвярджаў, што шчасце ўпаўне магчыма ва ўмовах зямнога жыцця. Прэдыкатам шчасця з'яўляецца права на жыццё і ўласнасць, менавіта яны складаюць асноўны змест свабоды. Гэтыя неад'емныя правы чалавека павінны ахоўваць закон і ўлада. На думку Волана, «дабрачыннасць не трэба разумець як спадчыннае дабро», «высакароднымі не столькі нараджаюцца, колькі становяцца» [44]. У трактаце «Аб гасудары і яго асабістых дабрачыннасцях» мысліцель стварыў ідэальны вобраз дзяржаўнага дзеяча, дабрачыннасцямі якога з'яўляюцца мудрасць, справядлівасць, мужнасць, шчодрасць.

Пастаўленая Скарынам праблема адносін веры і ведаў, рэлігіі і навукі ў айчыннай філасофскай думцы вырашалася двaіста: праз размяжоўванне іх кампетэнцый (Скарына, Гусоўскі, Л. Зізаній, Белабоцкі) і шляхам гранічнай рацыяналізацыі самой веры (С. Будны, сацыніяне). І тая, і другая пазіцыі ўяўлялі сабой кампрамісны, абходны спосаб пераадолення гнасеалогіі і метадалогіі артадаксальнага тэізму, сярэдневяковай філасофіі. Між тым беларускія атэісты і матэрыялісты Стэфан Лован (канец XVI ст.) і Казімір Лышчынскі (другая палавіна XVII ст.) адмовіліся ад метадалога-гнасеалагічнага кампрамісу з тэалогіяй і схаластыкай, адхіліўшы рэлігію і абмежаваўшы пазнанне граніцамі прыроднага свету. На думку Лована, «штоколвек есть на свете, то всё само през себе», «души в человеку, раю и пекла нет и судного дня не будет» [45]. Адхіліўшы боскае кіраўніцтва светам, Лышчынскі зрабіў цэнтральным пунктам сваёй анталогіі паняцце натуральнай заканамернасці.

Многія філасофска-этычныя ідэі, што былі прадметам раз-

---

[43] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Избр. произв. XVI — начала XIX в. Мн., 1962. С. 42.

[44] Volanus A. De libertate politica sive civili. Cracoviae, 1572. P. Eiij.

[45] Бодянский О. О поисках моих в Познанской публичной библиотеке. М., 1846. С. 11—12.

гляду Скарыны і яго беларускіх паслядоўнікаў, атрымалі далейшае абгрунтаванне і развіццё ў творах Сімяона Полацкага. Філосаф даволі дакладна сфармуляваў думку аб рацыянальным пачуццёвым паходжанні нашых ідэй, што сведчыла аб ускоснай палеміцы з артадаксальным царкоўным вучэннем аб прыроджаным характары чалавечага духу і першапачатковай грэшнасці рода чалавечага. З асветніцкіх пазіцый мысліцель сцвярджаў, што не старажытнасць рода сведчыць аб высакародстве чалавека, а яго розум, дабрачыннасць, здольнасці, актыўная грамадска-практычная дзейнасць. Высакародства даступна кожнаму чалавеку, не выключаючы і тых, «в худе доме кто родится». У сваіх шматлікіх паэтычных творах і рэлігійна-філасофскіх казаннях Сімяон Полацкі, як і Скарына, гаварыў аб неабходнасці ўдасканалення маралі, распаўсюджання культуры, адукацыі, абнаўлення сацыяльнага жыцця, падрыхтоўваючы тым самым грамадскую свядомасць да ўспрыняцця пятроўскіх рэформ.

Выдатнымі помнікамі беларускай палітычнай і прававой думкі XVI ст. з'яўляюцца Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг., у якіх знайшлі адлюстраванне ідэі і думкі, выказаныя Скарынам. Па сведчанню спецыялістаў, яны ўяўляюць сабой унікальную з'яву ў еўрапейскай духоўнай культуры таго перыяду.

Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё беларуска-літоўскага феадальнага грамадства XIV—XV стст. абумовіла неабходнасць стварэння адзінага зводу прававых норм. Першым кодэксам феадальнага права Вялікага княства Літоўскага з'явіўся Статут 1529 г., які быў напісаны на беларускай мове. Ён адлюстроўваў патрабаванні і прававыя інтарэсы грамадства ў цэлым, аднак феадалаў у першую чаргу. Статут юрыдычна афармляў існуючы дзяржаўны і грамадскі лад, прававое становішча розных сацыяльных груп, вызначаў парадак кіравання дзяржавай і судаводства. Статут 1529 г. замацоўваў за магнатамі іх прывілеяванае становішча і кіруючую палітычную ролю. Ён ураўноўваў праваслаўных землеўладальнікаў з каталіцкімі. У Статуце 1529 г., у прыватнасці, гаворыцца, што «правы хрестьянские» даруюцца «всим прелатом, княжатом, паном хоруговным, велможам, рыцерем повышоным, шляхте и всему посполству и их подданным а тубылцом земль Великого князьства нашого Литовского, которого бы колвек стадла а стану были... так латынского закону, яко и греческого» [46]. Кодэкс устанаўліваў індывідуальную прававую адказнасць («не маеть нихто ни за кого терпети, але кождый сам за себе»), прычым абумоўлівалася, што «не маеть быти каран... ани жона за выступ мужа своего, ани отец за выступ сына, ани сын за отца... ани слуга за пана» [47]. Адзначалася таксама, што «вси подданые... так вбогие,

[46] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960. С. 31.
[47] Там жа. С. 33.

яко и богатые, которого раду колве або стану были бы, ровно и одностайным тым писаным одным правом мають сужоны быти» [48]. Статут юрыдычна замацоўваў вельмі значны момант для суверэнітэту Вялікага княства Літоўскага, а менавіта ўстанаўлівалася, што ўсе шляхецкія пасады і ўрады будуць даваццa «толко прирожоным тубылцом тых земель наших Великого князства». Гаспадар ці вялікі князь абавязаны быў, згодна са Статутам, стаяць на абароне тэрытарыяльнай цэласнасці Вялікага княства Літоўскага і «што будеть несправедливе отдалено и неслушне розобрано», «ку панству привернути» [49].

Вялікая ўвага надавалася ў Статуце «правам чалавека». Заканадаўча ўмацоўвалася абяцанне вялікага князя «заховати при слободах и волностях» не толькі прадстаўнікоў феадальнага саслоўя, але і мяшчан. Статутам 1529 г. абвяшчаўся свабодны выезд за мяжу («абы княжата и панове хоруговные, шляхта и бояре прерочоные мели волную моц выйти з тых земель наших Великого князьства и иных для набытья лепшого шчастья своего и навченя вчинков рыцэрских до всяких земль чужих, кром неприятелей наших») [50]. Нягледзячы на тое што Статут 1529 г. прадугледжваў права ўсіх станаў, г. зн. саслоўяў беларуска-літоўскага феадальнага грамадства, заканадаўча замацоўвалася прывілеяванае становішча магнатаў і шляхты. У дзесятым артыкуле трэцяга раздзела сцвярджалася, што «простых людей над шляхту господар не маеть повышати» [51]. Старанна абгаворваліся маёмасныя і асабістыя правы жанчын, у прыватнасці пятнаццаты артыкул трэцяга раздзела абвяшчае: «княгінь, паний, вдов и девок не мають ни за кого кгвалтом давати, кром их воли» [52]. За згвалтаванне жанчыны ці дзяўчыны незалежна ад яе стану злачынец «горлом мает каран быти» [53].

Звяртае на сябе ўвагу дзевяты, прыродаахоўны, раздзел Статута 1529 г.; які фармулюецца наступным чынам: «О ловы, о пущи, о бортное дерево, о озера, о бобровые гоны, о хмелища, о сокольи гнезда». У прыватнасці, у дзевятым артыкуле гаворыцца, што той, у чыіх уладаннях знаходзяцца бабровыя гоны, не павінен высякаць кусты на адлегласці палкі, дакінутай да бабровага гняздоўя [54].

Шосты артыкул адзінаццатага раздзела Статута ўстанаўліваў, што «чоловек волный за жадный выступ в неволю не маеть взят быти», г. зн. вольны чалавек незалежна ад таго, шляхціц ён ці селянін не можа быць ператвораны ў няволю ні за якое злачынства [55]. Нявольнікамі, згодна са Статутам 1529 г., людзі лічы-

[48] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. С. 34.
[49] Там жа. С. 48.
[50] Там жа. С. 49.
[51] Там жа. С. 50.
[52] Там жа. С. 59.
[53] Там жа. С. 85.
[54] Там жа. С. 107.
[55] Там жа. С. 115.

ліся ў чатырох выпадках: тыя, хто знаходзіўся ў няволі даўно ці нарадзіўся ад несвабодных; палонныя; прысуджаныя да смерці, жанатыя на нявольніцах ці якія выйшлі замуж за нявольнікаў[56].

У 1566 г. каралеўскім прывілеем быў зацверджан абноўлены тэкст Статута Вялікага княства Літоўскага, што абумоўлена істотнымі змяненнямі ў жыцці грамадства ў 50—60-х гадах XVI ст., у прыватнасці тэрытарыяльна-адміністратыўнай і судовай рэформай, узвышэннем шляхты, узмацненнем сацыяльна-эканамічнай ролі гараджан, рэфармацыйна-гуманістычным рухам[57]. Згодна са Статутам 1566 г., шляхта ўсіх веравызванняў атрымлівала роўныя правы і доступ да дзяржаўных пасад нараўне з буйнымі феадаламі, вызначалася іх агульная падсуднасць, замацоўвалася права шляхты на ўдзел у павятовых сейміках. Статутам 1566 г. было пашырана права выезду за мяжу, яно распаўсюджвалася не толькі на «княжат, панов хоруговных, шляхту», але і на людзей «всякого стану», якія мелі «вольность и моц выехати» за межы Вялікага княства Літоўскага «для наук, у писме цвичения, учынков рыцерских и лепшого счастья своего, а теж будучи неспособного здоровья своего для лекарств»[58].

Паскораны характар развіцця грамадскага жыцця Вялікага княства Літоўскага 60—80-х гадоў выклікаў неабходнасць новай перабудовы тэксту Статута. Была створана спецыяльная камісія, куды ўвайшлі высокаадукаваныя беларускія і літоўскія юрысты на чале з канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Іванавічам Сапегам (1557—1633). Зацверджаны каралём Сігізмундам III 28 студзеня 1588 г. III Статут Вялікага княства Літоўскага быў надрукаваны на беларускай мове ў віленскай друкарні Мамонічаў. У Статуце 1588 г. найбольш ярка адлюстраваны філасофскія і сацыяльна-палітычныя тэндэнцыі эпохі Адраджэння[59]. Усталёўвалася рэлігійная цярпімасць. Беларуская мова абвяшчалася ў якасці дзяржаўнай: «пісар земский мает по руску, литерами и словы рускими, вси листы, выписы і позвы писати, а не иншим езыком и словы»[60].

У «Прадмове» да Статута 1588 г. Сапегам абгрунтоўвалася ідэя прававога грамадства і дзяржавы. Следам за Арыстоцелем і Цыцэронам мысліцель сцвярджае, што ўсякае цывілізаванае жыццё павінна будавацца на законаправіі. Калі ў грамадст-

---

[56] Там жа. С. 118.

[57] Юхо И. А. Правовое положение населения в Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Сокол С. Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII в. Мн., 1984.

[58] Статут Великого княжества Литовского 1566 г. // Временник имп. Моск. о-ва истории и древностей российских. Кн. 23. М., 1855.

[59] Бардах Ю. Литовские статуты — памятники права периода Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. (Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения). М., 1976. С. 82.

[60] Лаппо И. И. Литовский статут 1588 г. Т. 2. Каунас, 1938. С. 165.

ве адсутнічае правашанаванне і пануе свавольства і беззаконне, яно не можа лічыцца грамадствам людзей, а з'яўляецца воўчай зграяй. «А про то, — піша Сапега, — он, великий и зацный философ греческий Арыстотелес, поведил, же там бельлуа, а по нашому дикое звера, пануеть, где чоловек водлуг уподобанья своего владность свою ростегаеть, а где опять право, або статут, гору маеть, там сам бог всим владнеть»[61]. Гэта — зыходныя, фундаментальныя тэарэтычная ідэя беларускага мысліцеля, якая прадвызначае ўвесь комплекс яго поглядаў — ідэя вяршынства закона, прававога грамадства і дзяржавы. Ідэя гэта не толькі рэнесансава-гуманістычная, але і асветніцкая, паколькі права Сапега атаясамліваў з натуральным розумам чалавека. Дзякуючы розуму чалавек здольны выпрацаваць высокамаральныя нормы грамадскіх паводзін, якія годны яго чалавечай прыроды. «А тая того есть причина,— сцвярджаў Сапега,— же право ест, яко его другий зацный мудрец выславил (Цыцэрон. — *С. П.*) оным правдивым розсудком а мудрым умыслу чоловечого баченьем, которым пан бог натуру чоловечую обдарыти рачыл, абы водлуг того пристойного а мудрого баченья жывот чоловечий так справовал, яко бы се за тым, што есть почстивого, завжды удавал, а што непочистивого, абы се того выстерегал»[62].

Абараняючы ідэю вяршынства закону, Сапега, зразумела, не лічыў, што для ўсіх саслоўяў Вялікага княства Літоўскага павінны існаваць адны і тыя ж, якія ўраўноўваюць іх прававыя нормы. Ён з'яўляўся прыхільнікам саслоўнага, а не грамадзянскага права. Аднак, на думку беларускага мысліцеля, неабходнай умовай грамадскай згоды з'яўляецца прыярытэт закону, і гэты прынцып у большай ці меншай ступені фіксаваўся ў Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Спасылаючыся на Цыцэрона, Сапега пісаў: «Естесмо невольниками прав для того, абысьмы вольности уживати могли»[63].

Статут 1588 г. зрабіў вялікі ўплыў на развіццё айчыннай і еўрапейскай палітыка-прававой думкі. Ён быў перакладзены на польскую (1614, 1619, 1648, 1694, 1744, 1786, 1811, 1819 гг.), рускую (1811 г.), украінскую (1735—1738 гг.), нямецкую (XVII ст.) мовы, у канцы XVI в. выкарыстоўваўся пры кадыфікацыі прускага права, яго выкарыстоўвалі ў судах Латвіі і Эстоніі, шмат яго артыкулаў перайшло ў Саборнае ўкладанне 1649 г.

У дзейнасці і светапоглядзе Францыска Скарыны адлюстраваўся працэс станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Самасвядомасць ёсць акт усведамлення чалавекам, сацыяльнай групай, народам свайго прадвызначэння і мес-

---

[61] Лаппо И. И. Литовский статут 1588 г. Т. 2. С. 9—10. Арыстоцель, у прыватнасці, сцвярджаў (Политика. Спб., 1911. С. 144), што «ўлада закону — гэта ўлада бажаства і розуму».

[62] Там жа.

[63] Там жа. С. 15—16.

ца ў прыродна-сацыяльным свеце, усведамленне задач, інтарэсаў, мэт, дзеянняў, годнасці, сваёй этнічнай і духоўнай спецыфікі. Вызначальнай рысай нацыянальнай самасвядомасці з'яўляецца яго канкрэтна-гістарычны характар, неатаясамлены змест у залежнасці ад эпохі, грамадскага парадку, культурна-палітычнай сітуацыі і да т. п. Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XVI — XVII стст. знаходзілася ў стадыі станаўлення і, зразумела, не валодала ўсімі тымі рысамі, што былі характэрны для яе ў больш позні перыяд.

Элементы нацыянальнай самасвядомасці, што тады складвалася, відаць, можна ўжо наглядаць у эпоху Старажытнарускай дзяржавы. Яны зафіксаваны ў летапісах, дзе адлюстраваны вельмі складаныя адносіны паміж Кіевам і паўночна-заходнімі землямі — Полацкай і інш. Працэс станаўлення нацыянальнай самасвядомасці паскараецца са стварэннем Вялікага княства Літоўскага. На думку даследчыкаў, першапачатковай праявай нацыянальнага самавызначэння беларусаў выступала лакальная (палачанін, магілёвец), этнічная (рускі) і поліэтнічная (ліцвін) самасвядомасць[64]. На працягу XIV — XVI стст. фарміруецца беларуская народнасць, складваюцца асаблівыя рысы яе культуры, мовы, палітычнага складу, характару, узнікае паняцце «Белая Русь». Важнай прадумовай фарміраваня нацыянальнай самасвядомасці з'яўляецца развіццё беларускіх гарадоў.

У станаўленні нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа XVI — першай палавіны XVII ст. можна вызначыць два этапы. Першы этап — прыкладна да 1596 г. (да пачатку дзеяння Брэсцкай царкоўнай уніі). Другі этап — першая палавіна XVII ст. Справа ў тым, што ў нацыянальную самасвядомасць той эпохі інтэгрыраваны як свецкія, культурна-этнічныя, так і канфесійна-рэлігійныя кампаненты. Беларус, які валодаў больш ці менш выяўленай нацыянальнай самасвядомасцю, лічыў сябе не толькі далучаным да канкрэтнай галіны ўсходняга славянства, але і пераважна праваслаўным хрысціянінам, прадстаўніком усходняй царквы. Аднак прыкладна да канца XVI ст. ў канцэпцыях выразнікаў нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа свецкі, этнакультурны кампанент пераважаў над канфесійна-рэлігійным. Гэта заканамернасць пэўна зафіксавана ў нацыянальнай самасвядомасці Скарыны, Цяпінскага і інш. У прыватнасці, у сваіх прадмовах Скарына звяртаецца не да праваслаўных хрысціян, а да «людей посполитых руского языка», г. зн. мысліцель акцэнтуе ўвагу не на рэлігійным, канфесійным моманце грамадскай рэальнасці, а на свецкім, этнакультурным. Гэта, несумненна, рэнесансава-гуманістычная канцэпцыя нацыянальнай культуры, пранікнутая духам верацярпімасці. У якасці галоўных прыкмет народнасці бяруцца тэрыторыя, родная мова,

[64] Чаквін І. У. Этнаўтваральныя фактары ў фарміраванні беларускай народнасці // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 4. С. 89—95.

духоўная культура, традыцыі, а затым ужо рэлігійныя каштоўнасці, канфесійная прыналежнасць і інш. Скарына нават не ўжываў тэрмінаў «праваслаўе», «праваслаўныя», а гаварыў аб хрысціянстве наогул.

На мяжы XVI — XVII стст. пачынаецца другі этап у развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, які якасна адрозніваецца ад першага. Змяненне было абумоўлена істотнымі зрухамі ў сацыяльна-палітычнай, рэлігійнай сітуацыі краіны. Як вядома, у канцы XVI ст. феадальна-каталіцкая рэакцыя распачала масіраваны наступ на жыццёвыя правы беларускага і ўкраінскага народаў. Адным з аспектаў гэтай палітыкі з'яўлялася дэнацыяналізацыя беларусаў і ўкраінцаў, якую праводзілі пад сцягам акаталічвання і прымусовага пераводу ў унію. У гэтым выпадку абарона традыцыйнай веры, праваслаўя была спосабам захавання нацыянальнасці, культуры, народа. Рэлігія становіцца дамінуючай формай выяўлення нацыянальнай свядомасці, а праблема сцверджання нацыянальнай культуры выступае пераважна як праблема барацьбы за рэлігійную свабоду. Такім чынам, у нацыянальнай свядомасці беларускага народа на дадзеным этапе канфесійна-рэлігійны кампанент выступае на першы план. Гэта не значыць, што з нацыянальнай самасвядомасці элімініруюцца свецкія фактары. Яны працягваюць адыгрываць усё ўзрастаючую ролю. Барацьба супраць уніі, за свабоду праваслаўнага веравызнання ідзе поруч з барацьбой за нацыянальныя культурныя каштоўнасці, права народа на духоўнае самавызначэнне. Менавіта ў гэты перыяд ствараюцца брацкія школы, Кіева-Магілянская акадэмія і інш. Выразнікам нацыянальнай самасвядомасці на тым этапе з'яўляюцца звязаныя з братствамі беларуска-ўкраінскія культурныя і рэлігійныя дзеячы, пісьменнікі-палемісты, настаўнікі, кнігавыдаўцы і інш. Такім чынам, нацыянальная самасвядомасць эпохі Скарыны яшчэ не мела пэўнага зместу і ўстойлівай формы, яна знаходзілася ў стадыі станаўлення, абагачалася новымі кампанентамі, знаходзіла той ці іншы канкрэтна-гістарычны выгляд.

Адным з істотных кампанентаў нацыянальнай самасвядомасці беларусаў XVI — XVII стст. з'яўляўся патрыятызм, г. зн. любоў да роднага краю, культуры, зацікаўленыя адносіны да свайго мінулага, да сваёй сучаснасці і будучыні. Гэты момант выяўляецца ўжо ў першых беларускіх летапісах, а затым атрымлівае развіццё ў гістарыяграфіі, літаратуры, грамадска-філасофскай думцы. Надзвычай яскрава нацыянальна-патрыятычны пафас праявіўся ў эпоху ўздыму рэфармацыйна-гуманістычнага руху і перш за ўсё ў творчасці Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Васіля Цяпінскага і інш.

Патрыятызм Гусоўскага хоць і мае адной са сваіх крыніц Беларусь, аднак жа ў сваёй аснове з'яўляецца рэгіянальным або, як прапануюць яго называць некаторыя даследчыкі, дзяржаўным (што, на наш погляд, не зусім дакладна, таму што надае

гэтаму паняццю афіцыйнае адценне), г. зн. патрыятызм Гусоўскага можна трактаваць і ў якасці беларускага, і ў якасці літоўскага, і ў якасці ўкраінскага. У яго паэме «Песня пра зубра» прысутнічае яшчэ адна характэрная рыса, уласцівая нацыянальнай беларускай самасвядомасці, — пачуццё генетычнай роднасці са старажытнарускай культурай.

Гэтыя моманты больш дакладна выкладзены ў прадмовах Скарыны, патрыятызм якога ў значнай ступені носіць нацыянальны, беларускі характар («Я, Франциск Скорина из славного града Полоцка»; «наиболей с тое причины, иже мя милостливый бог с того языка на свет пустил»; «люди, игде зродился и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» і г. д.). Скарына ўводзіць у нацыянальную самасвядомасць беларускага народа адзін надзвычай важны кампанент — дзейсна практычную любоў да Радзімы. У адрозненне ад Гусоўскага, патрыятызм якога пераважна сузіральны, нацыянальна-патрыятычная свядомасць Скарыны сацыяльна актыўная, яна грунтуецца на ідэі служэння грамадскаму дабру, «людем посполитым руского языка», Радзіме. Прычым Скарына не толькі тэарэтычна, але і сваім жыццём і дзейнасцю сцвярджаў гэту канцэпцыю.

Як і Скарына, С. Будны ў «Катэхізісе» заклікаў феадалаў, у прыватнасці маладых князёў Радзівілаў, усяляк клапаціцца аб развіцці беларускай культуры, асветы, роднай мовы. «Абы ваши княжацкие милости, — пісаў ён, — не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся теж... и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити рачили»[65]. С. Будны лічыў, што засваенне багатай культурнай спадчыны славянскіх народаў мае вялікае асветніцкае, выхаваўчае і патрыятычнае значэнне. Ён з'яўляўся прыхільнікам дружбы беларускага народа з братнім рускім народам, быў у сяброўскіх адносінах з многімі дзеячамі рускай культуры, што воляю лёсу апынуліся на тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці з Арцеміем, а таксама Іванам Фёдаравым і яго беларускім паплечнікам Пятром Мсціслаўцам, высока цаніў іх культурна-асветніцкую дзейнасць[66].

Станаўленне нацыянальнай свядомасці ў пасляскарынаўскі перыяд атрымала адлюстраванне ў літаратурнай спадчыне аднаго з ідэолагаў рэфармацыйна-гуманістычнага руху на Беларусі Васіля Цяпінскага. У прадмове да Евангелля мысліцель выказвае сваю трывогу ў сувязі з усё ўзрастаючай пагардай беларускіх феадалаў да сваёй культуры і роднай мовы. «Хто бы не мусил плакати,— піша Цяпінскі,— видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном руском, а злаща перед тым довстипном, учоном наро-

[65] Будный С., Крышковский Л., Кавечинский М. Катехисис то ест наука стародавная христианьская... Несвиж, 1592. С. 4 об.

[66] Budny S. Dedykacja, przedmowa y przypiski S. Budnego do przekładu Nowego Testamentu z r. 1574 // Merczyng H. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913. S. 130—140.

де языка своего славного занедбане, а просто взгарду»[67]. Правячыя колы, духавенства, сцвярджае Цяпінскі, не клапоцяцца пра выданне кніг, стварэнне школ на роднай мове, таму дзеці беларускай шляхты, гараджан, сялян вымушаны ісці ў польскія школы і езуіцкія калегіі. Як рэальна думаючы чалавек, Цяпінскі разлічваў перш за ўсё на адукаваных і патрыятычна настроеных беларускіх феадалаў. Ён пераконваў іх стаць на чале нацыянальна-культурнага руху, паслужыць прыкладам для простага народа, што выяўляла ўласцівае мысліцелю рэнесансава-гуманістычнае разуменне месца і ролі адукаванай знаці ў сацыяльна-культурным жыцці грамадства: «Я не одному которому, але всим из тою потребою отчизны вашое богопойныи пилности, росторопности и верности поручаю и зоставую, просечи пана, абых был готов, если она до конца згниет, з нею згинуть, або если через ваш ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть»[68].

Цяпінскім, такім чынам, была пастаўлена праблема выратавання нацыянальнай культуры беларускага народа. Аднак прапанаваныя ім сродкі вырашэння гэтай праблемы не былі сапраўднымі, хоць некаторыя надзеі, што ўскладалі рэнесансавыя гуманісты на феадалаў-патрыётаў, часткова апраўдаліся. У цэлым стаўка на нацыянальную самасвядомасць правячых колаў пацярпела крах. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя інтарэсы беларускіх феадалаў узялі верх над інтарэсамі нацыянальна-культурнымі. Сапраўднымі захавальнікамі беларускай культуры аказаліся ўсё-такі народныя масы. Заблуджэнне Цяпінскага было заблуджэннем эпохі, рэнесансава-гуманістычнай ілюзіяй.

Прыкладам патрыятычна арыентаванага феадала з'яўляўся відны дзеяч і юрыст, галоўны рэдактар трэцяга Статута Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега. У прадмове да Статута ён з гонарам заяўляў, што «не обчим яким языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу чого нам потреба ку отпору всякое крывды ведати можем»[69]. Нават прыняўшы каталіцтва, Сапега настойваў на цярпімых адносінах да праваслаўных беларусаў, асуджаў фанатызм і насілле уніяцкага архіепіскапа Кунцэвіча над гараджанамі Магілёва, Віцебска, Оршы і інш. У прыватнасці, у лісце да яго Леў Сапега абгрунтоўваў ідэю прававой дзяржавы. Жыццё любога грамадства, лічыў ён, павінна грунтавацца на праве, законе. Нормай грамадскага жыцця павінна быць рэлігійная цярпімасць, царква павінна падпарадкоўваць сваю дзейнасць грамадству, дзяржаве, агульнаму дабру[70]. Адначасова трэба адзначыць, што ў Сапегі, як і ва ўсіх

---

[67] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 88.

[68] Там жа. С. 90.

[69] Лаппо И. И. Литовский статут 1588 г. С. 17.

[70] List kanclerza Wielkiego Księstwa Litewskiego Lwa Sapehy do Abpa Jozafata Kuncewicza z 12. III. 1622 // Żychiewicz T. Jozafat Kuncewicz. 1986. S. 159—171.

патрыятычна настроеных феадалаў, сацыяльна-класавыя інтарэсы ў канчатковым выніку ўзялі верх над інтарэсамі нацыянальна культурнымі.

На працягу XVI ст. айчыннымі мысліцелямі была выпрацавана яшчэ адна важная, прагрэсіўная канцэпцыя, якая мела вялікі ўплыў на сацыяльна-палітычную барацьбу і станаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа,— канцэпцыя рэлігійнай свабоды. Ва ўмовах эпохі, якую мы разглядаем, сцверджанне свабоды веравызнання было раўназначна сцверджанню свабоды нацыянальна-культурнага самавызначэння. Гэта тэндэнцыя даволі дакладна прасочваецца ў прадмовах Скарыны. Перадавыя мысліцелі Беларусі другой палавіны XVI ст. асудзілі рэакцыйную палітыку феадальна-каталіцкіх колаў, якія імкнуліся насільна навязаць беларускаму і ўкраінскаму народам унію. Яшчэ ў 1583 г., г. зн. задоўга да прыняцця Брэсцкай уніі, Чаховіц пісаў, што ў Рэчы Паспалітай «ніхто нікога не павінен прымушаць да сваёй веры, і гэта ў аднолькавай ступені адносіцца як да папскай веры, так і да веры грэчаскай, якой прытрымліваецца наша Русь: кожны, хто трымаецца сваёй веры, павінен карыстацца шырокай свабодай»[71].

Сваёй тэарэтычнай дзейнасцю і перш за ўсё вытлумачэннем ідэі нацыянальна-культурнай і рэлігійнай свабоды беларускія гуманісты XVI ст. — Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі і інш. — у нейкай меры ідэйна падрыхтавалі супраціўленне феадальна-каталіцкай рэакцыі канца XVI — першай палавіны XVII ст. Яго ідэолагі Стафан Зізаній, Мялецій Сматрыцкі, Афанасій Філіповіч і іншыя з'яўляліся ўжо носьбітамі некалькі іншай формы нацыянальнай самасвядомасці, у якой рэлігійны кампанент іграў дамінуючую ролю. Ідэя рэлігійнай свабоды аб'яднала ўсе патрыятычныя сілы, якія выступілі супраць ваяўнічага каталіцызму і уніі за захаванне нацыянальна-культурнага суверэнітэту беларускага і ўкраінскага народаў. У той жа самы час народныя масы не задавальняліся адной толькі ідэяй рэлігійна-культурнай свабоды, а імкнуліся ператварыць нацыянальна-вызваленчую барацьбу ў барацьбу класавую, антыфеадальную.

З'яўляючыся заўзятым выкрывальнікам ваяўнічага каталіцызму і уніі, Стафан Зізаній разглядаў веру як акт свабоднага выбару чалавека, што ўпаўне адпавядала духу эпохі Адраджэння. Абгрунтоўваючы ідэю верацярпімасці, ён пісаў: «Не только до ереси отщепенства, але и до щирое веры през кгвалт и войну абы жадного не притягали»[72].

З гуманістычных пазіцый вырашаў праблему рэлігійнага выбару Мялецій Сматрыцкі ў першы перыяд сваёй дзейнасці. У творы «Апраўданне невінаватасці» (1621) ён выкрываў самыя

---

[71] Literatura ariańska w Polsce XVI w.: Antologia. Warszawa, 1959. S. 480.

[72] Зизаний С. Казанье святого Кирилла патриарха Иерусалимского... Вильно, 1596. С. 34.

розныя метады і сродкі падаўлення грамадска-рэлігійнай свабоды беларусаў і ўкраінцаў, якімі карысталася феадальна-каталіцкая рэакцыя[73]. Сматрыцкі справядліва падкрэсліваў, што замах на рэлігійную свабоду непазбежна цягне за сабой скасаванне свабоды грамадзянскай, нацыянальна-культурнай. У «Скарзе на імя сената Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага» (1623), асноўным аўтарам якой, як устанавіў У. Кароткі[74], быў Сматрыцкі, сказана, што «разам са зменай веры, ліквідуюцца правы, свабоды, прывілеі рускага народа»[75]. Пісьменнік пералічвае шматлікія гарады Беларусі, Украіны, Літвы, у якіх «людзі старажытнага грэчаскага веравызнання, якім былі прадстаўлены правы польскімі каралямі, і вялікімі князямі рускімі і літоўскімі, здымаюцца з пасад гарадскога ўпраўлення, рамеснікаў выганяюць з цэхаў... пакутуюць ад невыносных катаванняў, турэмнага зняволення... і ўсялякіх іншых цяжкіх непрыемнасцей...» [76] Таксама, як і Скарына, Сматрыцкі прызнаваў што «дабро кожнага грамадства і дзяржавы заснавана на ўнутранай згодзе»[77]. Таму ён выступаў «за згоду і адзінства трох народаў — польскага, літоўскага і рускага». Аднак гэтай згоды можна дасягнуць толькі пры дапамозе разумнай і справядлівай урадавай палітыкі, клопатам аб агульным дабры, захаваннем «роўнасці і ўзаемапавагі». Асноўнай умовай адзінства Рэчы Паспалітай, мірнага суіснавання народаў, што жывуць на яе тэрыторыі, мысліцель лічыў рэлігійную свабоду. «Нішто не прынясе каралеўству такога заняпаду і спусташэння, — пісаў Сматрыцкі, — як наступленне на веру»[78]. Свабодай аднолькава павінны карыстацца і тыя, «хто належыць да народа рускага рымскай рэлігіі», і тыя, «хто належыць да грэчаскай рэлігіі ўсходняга паслушэнства»[79], — казаў ён. Свабоду наогул разумее Сматрыцкі як «жыццё ў адпаведнасці з добраахвотна прынятымі законамі»[80]. Прычым нічога супрацьзаконнага не адбываецца і свабода не абмяжоўваецца, калі «русін грэчаскай рэлігіі пакідае яе і становіцца русінам рэлігіі рымскай» і наадварот, але пры ўмове, што гэты акт адбываецца добраахвотна[81].

Сматрыцкі, такім чынам, не адвяргаў магчымасці пераходу чалавека з адной рэлігіі ў іншую, што, як ён меркаваў, з'яўляецца паказчыкам духоўнай, грамадскай свабоды. Аднак у межах

[73] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 173—176.

[74] Короткий В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987. С. 107—110.

[75] Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и к Польше. Спб., 1865. С. 244.

[76] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 184.

[77] Документы, объясняющие историю Западно-Русского края. С. 248.

[78] Там жа. С. 302.

[79] Там жа. С. 274.

[80] Там жа. С. 274.

[81] Там жа. С. 276.

якога веравызнання чалавек не знаходзіўся б, ён павінен карыстацца роўнымі правамі. Рэлігійны выбар «рускага народа грэчаскай рэлігіі» (г. зн. беларусаў і ўкраінцаў) ёсць выбар добраахвотны. Хто адбірае ў народа права рэлігійнага выбару, адымае ў яго свабоду, тую свабоду, якая з'яўляецца важнейшай і без якой усякая свабода не з'яўляецца свабодай і нават ценем яе»[82]. Вера — самае відавочнае сведчанне свабоды чалавека. Такім чынам, свабода веравызнання ў Сматрыцкага выступае ў якасці асноўнага крытэрыю як духоўнай, так і грамадзянскай свабоды чалавека. Мысліцель асобна адзначае, што свабода выканання рэлігійнага культу была дадзена беларускаму і ўкраінскаму народам са старажытных часоў польскімі і вялікімі князямі літоўскімі з іншымі палітычнымі і грамадзянскімі свабодамі[83]. Не цяжка заўважыць, што Сматрыцкі абсалютуе рэлігійную свабоду, ставіць яе вышэй за ўсе іншыя, у тым ліку і сацыяльную, што з'яўляецца сведчаннем яго саслоўна-класавай і гістарычнай абмежаванасці. Сматрыцкі лічыў, што правы, дадзеныя вялікімі князямі літоўскімі і польскімі каралямі беларускаму і ўкраінскаму народам, належаць ці праваслаўным, ці каталікам. Уніятам павінна быць адмоўлена ва ўсіх гэтых правах, паколькі яны адносяцца да штучна створанага веравызнання[84]. Сматрыцкі, як вядома, абараняў не толькі рэлігійнае права, але і нацыянальна-культурную свабоду і годнасць беларускага і ўкраінскага народаў, сведчаннем чаго з'яўляецца яго знакамітая «Граматыка славенская».

З самага пачатку фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа адным з істотных яго кампанентаў з'яўлялася ідэя яднання з брацкімі рускім і ўкраінскім народамі. Прычым гэта ідэя не зводзілася толькі да разумення агульных старажытнарускіх вытокаў, а выступала як усё ўзрастаючае ўсведамленне палітычнага і сацыяльна-эканамічнага супрацоўніцтва, духоўна-культурнага ўзаемадзеяння, братняй дапамогі і дружбы. Ідэя ўсходнеславянскай агульнасці вельмі яскрава зафіксавана ў ранніх помніках беларуска-ўкраінскай пісьменнасці, яна адчуваецца ў паэтычнай творчасці Гусоўскага, з'яўляецца пафасам прадмоў Скарыны і Цяпінскага, выразна праявілася ў дзейнасці Л. Зізанія і М. Сматрыцкага, складае аснову сацыяльна-палітычных поглядаў С. Полацкага і г. д. Ідэя яднання і дружбы беларускага і рускага народаў адлюстравана ў вусна-паэтычнай творчасці беларусаў[85]. Вялікая роля ў сцверджанні і прапагандзе гэтай гістарычна прагрэсіўнай ідэі належыць Афанасію Філіповічу, выдатнаму прадстаўніку грамадска-палітычнай думкі Беларусі, аўтару та-

[82] Архив Юго-Западной России... Ч. I. Т. 7. Киев, 1887. С. 311.
[83] Документы, объясняющие историю Западно-Русского края. С. 250.
[84] Там жа. С. 272—278.
[85] Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильно, 1866. С. 116—117.

ленавітага мастацка-публіцыстычнага твора «Дыярыуш». Філіповіч накіраваўся ў Маскву для таго, каб пераканаць рускага цара Міхаіла стаць на абарону нацыянальна-рэлігійных правоў беларускага і ўкраінскага народаў[86]. Гэта місія апісана аўтарам у «Гісторыі падарожжа ў Маскву», адной з састаўных частак «Дыярыуша».

У эпоху правідэнцыйнага разумення гісторыі ўсялякая суб'ектыўная дзейнасць магла атрымаць прызнанне і падтрымку, калі яна асвяшчалася боскаю воляй. Хоць ідэя саюза з рускім народам была папулярнай у пэўных, перш за ўсё дэмакратычных, колах беларускага і ўкраінскіх народаў, тым не менш падмацаванне боскім аўтарытэтам усялякай ініцыятывы, а тым больш такой адказнай і сур'ёзнай, як місія да рускага цара, было вельмі неабходным. І не толькі, каб прыцягнуць да яе ўвагу шырокіх грамадскіх колаў, але і каб засцерагчы ад абвінавачвання ў здрадзе, паколькі Філіповіч з'яўляўся грамадзянінам Рэчы Паспалітай, падданым польскага караля. Таму фармальнай падставай для паездкі паслужыў збор падаяння для ўзнаўлення Купяціцкай царквы (пад Пінскам), а сваю думку аб саюзе з рускім народам Філіповіч прадставіў у «Гісторыі падарожжа ў Маскву» як акт боскага азарэння, непасрэдных зносін з існінай, якую, быццам, яму адкрыў «глас божы»[87]. Сваю місію па ўстанаўленню кантактаў з рускім урадам, ідэю падтрымкі нацыянальна-рэлігійнай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў Філіповіч разглядае як святую, блаславёную богам справу, што сустракае шырокую грамадскую падтрымку на Беларусі, Украіне і ў Расіі. Мысліцель падкрэслівае сваю «богаабранасць». Яму, нязнатнаму і простаму чалавеку, боскае прадбачанне надало паўнамоцтвы абаронцы рэлігійна-палітычных інтарэсаў усяго праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай[88]. Ён прыпісвае сабе яўна выражаныя апостальскія якасці. Напрошваецца аналогія з Францыскам Скарынам, які таксама лічыў сябе такім, як апостал Лука. І ў тым, і ў другім выпадку мы маем справу не з празмерным самаўзвышэннем, «мірской гардыняй», а з яскрава выражанай грамадскай і нацыянальнай самасвядомасцю, гуманістычнай канцэпцыяй асобы, якая ўсведамляла сваю індывідуальную адказнасць за лёс Радзімы і народа.

У творах Філіповіча вельмі рэльефна паказана сацыяльная база антыуніяцкага нацыянальна-рэлігійнага вызваленчага руху. У асноўным гэта «панове мещане», ніжэйшыя і сярэднія пласты духавенства, частка патрыятычна настроенай шляхты, некаторыя буйныя свецкія і духоўныя феадалы. Паколькі касцяк руху — гэта аб'яднаныя ў брацтвы беларускія і ўкраінскія га-

---

[86] Филиппович А. Диариуш, албо список деев правдивых // Каршунов А. Ф. Афанасий Филиппович. Мн., 1965. С. 34—39.
[87] Там жа. С. 101.
[88] Там жа. С. 108.

раджане, пастолькі менавіта іх сацыяльна-патрыятычныя патрабаванні перш за ўсё адлюстраваны ў творах Філіповіча. Пры чым, абгрунтоўваючы суверэнітэт беларускага і ўкраінскага народаў, аўтар «Дыярыуша» шырока карыстаецца палітычнымі аргументамі. Вярнуўшыся з Масквы на радзіму, ён сабраў разам вялікую колькасць каралеўскіх прывілеяў, у якіх былі зафіксаваны рэлігійныя і грамадзянскія правы праваслаўнага беларускага і ўкраінскага насельніцтва Рэчы Паспалітай, і зарэгістраваў іх у «гродскіх кнігах» Брэста, г. зн. надаў гэтым прывілеям сілу дзеючага закону. Тым самым супраціўленне уніі атрымала як бы юрыдычнае абгрунтаванне. Побач з рэлігійнымі і грамадскімі свабодамі, нагадвае Філіповіч, беларускі і ўкраінскі народы маюць права на адукацыю на роднай мове. Характэрна, што пісьменнік не падзяляе ізаляцыянісцкай канцэпцыі кансерватыўнай часткі праваслаўнага духавенства, а выступае за пазітыўныя адносіны да заходняй культуры, падтрымлівае ідэолагаў беларускіх і ўкраінскіх брацтваў у іх імкненні «мети школу греческого, латинского, польского и руского языка и людей учоных в тых школах»[89].

Філіповіч звяртаўся за падтрымкай да вышэйшых праваслаўных чыноў, але яны не толькі не падтрымлівалі Філіповіча, а і асудзілі яго празмернае старанне. У сваім творы пісьменнік даў правільную ацэнку нацыянальна-рэлігійнаму адступніцтву праваслаўных царкоўных вярхоў і мясцовых феадалаў. Ён звязваў яго перш за ўсё з эканамічнымі і палітычнымі інтарэсамі, у імя якіх вышэйшыя саслоўі адмаўляліся ад традыцыйнай рэлігіі і нацыянальнай годнасці.

Пасля паездкі ў Маскву Філіповіч накіроўвае свае намаганні на актывізацыю барацьбы супраць уніі на тэрыторыі Беларусі. Яго не пакідае надзея, што кароль адгукнецца на просьбы беларускага і ўкраінскага насельніцтва і унія будзе скасавана. Ён ставіў перад урадам пытанне ў вышэйшай ступені катэгарычна: «абы вера правдивая грецкая грунтовне была успокоена, а унея проклятая вынищена и внивеч обернена»[90]. Філіповіч наступным чынам характарызуе становішча праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай: «Над турецкую неволю тут в панстве христианском православные люде неволю терпят и мают»[91]. Філіповіч паказвае, як ганенні праваслаўных суправаджалі беспадстаўнымі абвінавачваннямі, бессаромнымі нагаворамі, агіднай лаянкай, што зневажала не толькі рэлігійныя пачуцці, але і нацыянальную годнасць беларусаў і ўкраінцаў. Як і Сматрыцкі, ён прыходзіць да высновы, што падтрымліваемыя свецкімі ўладамі католікі і уніяты маюць намер вынішчыць не толькі праваслаўе, але і ўвесь «рускі» народ. Філіповіч не быў прыхільнікам рэлігійнай цярпімасці. Адзінай «сапраў-

---

[89] Коршунов А. Ф. Афанасий Филиппович. С. 114.
[90] Там жа. С. 130.
[91] Там жа.

днай» верай ён лічыў праваслаўе. «А то быць не можа,— пісаў ён,— каб многа вер мела быць добрых, бо напісана: «Адзін гасподзь, адзіная вера, адно хрышчэнне»[92]. І ў той жа час ён дапускаў суіснаванне праваслаўя і каталіцызму.

Нецярпіма Філіповіч адносіўся не толькі да уніяцтва, але і да ўсіх адгалінаванняў пратэстантызму. Асаблівую непрыязнь выклікалі ў Філіповіча езуіты. Ён справядліва лічыў, што менавіта езуіты — галоўныя натхняльнікі уніі і ганіцелі праваслаўя. Ён своечасова ацаніў пагрозу дэнацыяналізатарскай дзейнасці езуітаў, заклікаў грамадства перашкаджаць іх імкненню ўзяць пад свой кантроль школьную адукацыю, кнігадрукаванне і ў цэлым духоўную культуру беларуска-украінскага рэгіёна[93].

Якую ролю адыграла дзейнасць Філіповіча ў барацьбе беларускага народа за сваю сацыяльную і нацыянальна-рэлігійную свабоду? М. І. Кастамараў, прызнаючы пэўныя заслугі Філіповіча, усё ж лічыў, што апошні быў «гарачы фанатык, які ставіўся да тагачасных ворагаў праваслаўя з такім жа самым ізуверствам і злосцю, з якімі адносіліся гэтыя ж самыя ворагі да праваслаўя». У выпадку поспеху, меркаваў Кастамараў, Філіповіч учыніў бы са сваімі рэлігійнымі праціўнікамі, у прыватнасці уніятамі, тое ж самае, што, напрыклад, Іасафат Кунцэвіч з праваслаўнымі[94]. Падобны пункт гледжання быў падвергнуты крытыцы з боку А. Ф. Коршунава, які адзначыў, што «рэлігійна-царкоўную дзейнасць Філіповіча Кастамараў прадставіў як самадастатковую і ізаляваную ад той агульнай сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы, якую вялі беларускі і ўкраінскі народы ў XVII стагоддзі ў Рэчы Паспалітай»[95].

Філіповіч з'яўляўся прыхільнікам ідэі грамадскай згоды і класавага міру. Аднак мір і згода, лічыў ён, парушаюцца галоўным чынам у выніку ганенняў за рэлігійныя перакананні. Праблема сацыяльных супярэчнасцей не закранался мысліцелем. У прыватнасці, Філіповіч лічыў, што народна-вызваленчы рух на Беларусі мае свае вытокі ў рэлігійнай несвабодзе. Рэлігійнымі ганеннямі аўтар «Дыярыуша» тлумачыў і ўсё іншае грамадскае бязладдзе. Няправільна было б лічыць, што Філіповіч спачуваў узброеным выступленням народных мас, ён якраз і выкрываў унію за тое, што яна абвастрае класавыя супярэчнасці: «Униатские колотне и злости на розных местцах, всюды починеные, бо и з козаками внутреняя война непотребная о тое ж была»[96]. Калі ў 1648 г. казакі паўсталі на адкрытую барацьбу, Філіповіч усяляк імкнуўся не даваць зачэпкі для абвінавачвання яго ў

---

[92] Коршунов А. Ф. Афанасий Филиппович. С. 130.
[93] Там жа. С. 132.
[94] Костомаров Н. И. Афанасий Филиппович. Борец за православную веру в Западной Руси // Исторические монографии и исследования Николая Костомарова. М., 1881. Т. 14. С. 40—41.
[95] Коршунов А. Ф. Афанасий Филиппович. С. 93.
[96] Там жа. С. 159—160.

спачуванні гэтай барацьбе. Філіповіч, такім чынам, імкнуўся абысці сацыяльныя супярэчнасці, завастраючы ўвагу на супярэчнасцях рэлігійных, што тлумачыцца яго грамадскай пазіцыяй. Наўрад ці трэба лічыць Філіповіча выразнікам інтарэсаў плебейска-сялянскіх слаёў грамадства, хоць асобныя радыкальныя элементы прысутнічаюць у яго вучэнні. Мысліцель імкнуўся перш за ўсё стварыць адзіны антыуніяцкі фронт на самай шырокай сацыяльнай аснове.

Ідэя яднання рускага, беларускага і ўкраінскага народаў, намечаная ў творах Скарыны і радзе прадстаўнікоў грамадска-філасофскай думкі Беларусі XVI—першай палавіны XVII ст., атрымала далейшае абгрунтаванне і развіццё ў творах Сімяона Полацкага. У сваіх ранніх вершах, «Метрах», напісаных у 1656 г. з нагоды сустрэчы рускага цара Аляксея Міхайлавіча і яго арміі ў Віцебску, Сімяон Полацкі сцвярджаў: нацыянальна-рэлігійная свабода запануе на Беларусі толькі ў выніку дапамогі «з усходу». Аляксей Міхайлавіч не проста саюзнік і дабрадзей беларусаў, а іх «дедичь», «всех росов царь и государь», які мае спадчыннае і законнае права на беларускія землі; місія рускага цара і яго арміі — богаўгодная, справядлівая, вызваленчая [97]. Характэрна, што права рускага цара на тытул «всея Великия и Малыя и Белыя России самодержцы» Сімяон Полацкі абгрунтоўвае гістарычна, разглядаючы Аляксея Міхайлавіча ў якасці законнага пераемніка ўлады кіеўскіх князёў. Прыход рускага цара з войскам на Беларусь паэт параўноўвае з усходам сонца. «Солнцем ты естесь, царю»,— звяртаецца паэт да Аляксея Міхайлавіча [98].

У творах Сімяона Полацкага ідэя ўз'яднання Беларусі, Украіны і Расіі выяўлена больш дакладна, чым у Філіповіча. Гэта і не дзіўна, паколькі прыходу рускай арміі на чале з Аляксеем Міхайлавічам на Беларусь папярэднічала такая важная падзея ў гісторыі рускага, украінскага і беларускага народаў, як Пераяслаўская рада 1564 г., г. зн. уз'яднанне Украіны з Расіяй. У адрозненне ад папярэдніх пісьменнікаў, мысліцеляў і грамадскіх дзеячаў Беларусі Сімяон Полацкі страціў усялякую надзею на тое, што нацыянальна-вызваленчы рух беларускага і ўкраінскага народаў знойдзе разуменне ў польскіх каралёў. Таму асноўную стаўку ён рабіў на цара, рускую армію: адзіным выхадам са становішча, што склалася ў гістарычных умовах, ён лічыў уз'яднанне Беларусі ў адзінай дзяржаве з Расіяй.

Такім чынам, станаўленне нацыянальнай самасвядомасці — састаўная, неад'емная і важнейшая частка працэсу развіцця духоўнай культуры і грамадскай думкі беларускага народа. У XVI—XVII стст. закладваліся яго асновы, фарміраваліся істот-

---

[97] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 228—229; Прашковіч М. Т. Паэзія Сімяона Полацкага (ранні перыяд 1648—1669): Дыс. ... канд. філал. навук. Мн., 1964, дадатак.

[98] Там жа.

ныя кампаненты, што атрымалі адлюстраванне ў поглядах Скарыны і яго паслядоўнікаў. Грамадска-палітычная і філасофская думка Беларусі XVI—XVII стст. у значнай ступені развівалася пад знакам ідэй Ф. Скарыны. Шмат якія праблемы, што знаходзіліся ў цэнтры ўвагі прагрэсіўных мысліцеляў таго часу, і перш за ўсё праблемы этыкі, нацыянальнай культуры і інш., былі пастаўлены Скарынам ці атрымалі ў яго творах поўнае рашэнне. Скарына першы адчуў і ўбачыў тое, што ўслед за ім сталі разглядаць больш грунтоўна, дакладна і канкрэтна яго пераемнікі. Гэта менавіта той выпадак у гісторыі беларускай філасофскай культуры, калі мы маем справу з аб'ектыўным, прагрэсіўным працэсам узыходжання ад абстрактнага да канкрэтнага.





# ЭСТЭТЫЧНЫЯ І ЭТЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Беларускі асветнік і ўсходнееўрапейскі першадрукар нідзе спецыяльна не выкладаў сваіх філасофскіх, грамадска-палітычных, эстэтычных і этычных поглядаў у сістэматычнай форме. Яны могуць быць выяўлены толькі на падставе аналізу ўсёй яго літаратурна-асветніцкай спадчыны з улікам сінкрэтычнай цэласнасці яго творчасці, у структуры якой няма выразных меж паміж рознымі формамі свядомасці — філасофскай, навуковай, рэлігійнай і мастацкай. Найбольш «адкрытай», усім даступнай крыніцай тут з'яўляюцца яго прадмовы і пасляслоўі да выдадзеных ім кніг.

Даследчыкі пакуль што абмяжоўваліся гэтымі арыгінальнымі творамі пісьменніка, дзе спалучаюцца і ўзаемапранікаюць элементы філасофіі, тэалогіі, пазітыўнай навукі, літаратурна-мастацкай крытыкі і публіцыстыкі. Аднак па меры таго, як наша Скарыніяна папаўняецца ўсё новымі артыкуламі, манаграфіямі і нарысамі, становіцца відавочным абмежаванасць гэтых крыніц: аўтары пачынаюць паўтарацца ў сваіх фактычных аргументах. А гэта павінна стаць сігналам да пошукаў новых крыніц, якія б характарызавалі Ф. Скарыну як пісьменніка і асветніка-філосафа з іншых, часам нечаканых бакоў. Спадзявацца на тое, што скора будуць адкрыты яго цяпер невядомыя творы або якія-небудзь іншыя матэрыялы, якія б мелі непасрэднае дачыненне да яго жыцця і творчасці, пакуль што няма асаблівых падстаў, хоць і тут нельга не ўлічваць магчымасць шчаслівага выпадку.

Аднак і з таго, што ўжо даўно вядома, ёсць яшчэ, як кажуць, «нявыкарыстаныя рэзервы». Ф. Скарына шмат даследаваўся як выдавец, пісьменнік, філосаф і ні разу — як перакладчык, хоць добра вядома, што ён шмат перакладаў са старaславянскай мовы, а таксама з грэчаскай, чэшскай, лацінскай і старажытнаяўрэйскай моў. Параўнальны аналіз скарынаўскіх кніг з адпаведнымі кананічнымі тэкстамі Старога і Новага запаветаў, зборнікаў акафістаў і канонаў мог бы даць багата матэрыялаў не толькі для лінгвіста, але і для гісторыка літаратурнай, філасофскай, грамадска-палітычнай і эстэтычнай думкі. Апрача таго,

Ф. Скарына змясціў кароткія анатацыі да шматлікіх раздзелаў біблейскіх кніг — так званыя кантынуацыі, якія пакуль што нідзе не ўлічаны, хоць, бясспрэчна, маюць пэўную літаратурную вартасць і значэнне для характарыстыкі яго светапогляду і літаратурнага майстэрства. Цікава было б параўнаць іх з адпаведнымі ўказальнікамі зместу кожнай кнігі і раздзела ў Чэшскай бібліі 1506 г.[1], якая паслужыла важнай крыніцай для беларускага першадрукара. Наспела таксама неабходнасць «прачытаць» спадчыну беларускага асветніка ў кантэксце славянскай і заходнееўрапейскай культуры яго эпохі, і тут таксама прыгодзіцца методыка параўнальнага літаратуразнаўства і гісторыка-філасофскі аналіз.

Калі ж гутарка ідзе пра філасофскія, эстэтычныя і маральна-этычныя погляды Ф. Скарыны, то неабходна спачатку адказаць на такія пытанні: ці быў беларускі асветнік філосафам? А калі быў, то ў якім сэнсе разумелася ў тагачасную эпоху само паняцце філасофіі? Эстэтычныя, этычныя ды і філасофскія погляды ў цэлым, зразумела, ёсць не толькі ў філосафа, але і пісьменніка, асабліва такога высокага ўзроўню, як Скарына. Але ж адна справа філасофскія погляды пісьменніка ці публіцыста і зусім іншая — навукова-лагічная сістэма філосафа, які выяўляе яе не ў вобразна-сімвалічнай і публіцыстычнай форме, а пераважна ў паняццях і катэгорыях. Важнае значэнне набывае праблема вытокаў светапогляду, даследаванне айчынных традыцый, на якіх яны фарміраваліся, а таксама іх аналіз на фоне духоўнай культуры адпаведнай эпохі. Трэба таксама разгледзець спадчыну Скарыны і з пункту погляду станаўлення характэрных для літаратуры XVI ст. жанраў (прадмовы, пасляслоўі, анатацыі, публіцыстыка, навуковыя каментарыі).

У айчынных даследаваннях па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі не заўсёды выразна размяжоўваецца разуменне філасофіі як разумова-паняційнай рэфлексіі адносна прыроды, сацыяльнага быцця, пазнання і культуры, з аднаго боку, і як светапогляднай асновы розных з'яў культуры, з другога боку. Пагэтаму перш чым аналізаваць эстэтычныя і этычныя погляды Ф. Скарыны, важна хоць бы каратка адказаць на такія пытанні: 1. Ці з'яўляецца паняційная рэфлексія адносна быцця, пазнання і культуры адзіна магчымай формай філасофствавання? Магчыма філасофія ў яе першапачатковым этымалагічным значэнні «любові да мудрасці», пошука сэнсу жыцця? 2. Што з'яўляецца аб'ектам гісторыка-філасофскіх (і адпаведна гісторыка-эстэтычных, гісторыка-этычных) даследаванняў? Ці толькі філасофскія трактаты, іх фрагменты або таксама іншыя пласты духоўнай культуры? 3. Урэшце, якое месца займае эстэтыка і этыка на розных этапах гісторыка-філасофскага працэсу?

Перш чым адказаць на першую групу пытанняў, неабходна

[1] У СССР адзіны экземпляр гэтай кнігі захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.

спачатку высветліць яшчэ адно папярэдняе пытанне: ці была ў сярэдневяковай (уключаючы рэнесансавую) культуры філасофія ў сучасным значэнні гэтага паняцця? Адказ, здаецца, павінен быць неадназначным, так сказаць, заснаваным на двухзначнай логіцы: а) Так, была, у сэнсе ўзнікнення, станаўлення; б) Не, не было, у сэнсе завершаных сістэм спецыфічна філасофскіх паняццяў, катэгорый і метадаў. Інакш кажучы, філасофія (таксама філасофская этыка і эстэтыка) знаходзіліся на стадыі *станаўлення.* А ўсялякае станаўленне, калі паглядзець на яго з пункту погляду дыялектычнай логікі, ёсць *адзінства быцця і небыцця* яго аб'екта. Такой была культурна-філасофская сітуацыя на Беларусі XVI ст., калі жыў і тварыў Ф. Скарына.

Маючы на ўвазе такіх дзеячаў культуры, як Скарына, наш адказ на пастаўленыя вышэй пытанні павінен схіліцца ў бок другой альтэрнатывы — філасофіі як светапогляднай асновы культуры. У нашым далёкім мінулым (ва ўсякім выпадку да пачатку XVII ст.) пераважала фігура не «прафесійнага» філосафа ў школьным (у той час схаластычным) значэнні гэтага паняцця, а тып мудраца, мысліцеля сінкрэтычнага плана, які адначасова быў хрысціянскім асветнікам, пісьменнікам, публіцыстам, прапаведнікам. Пагэтаму важна ў метадалагічным плане ўлічыць гэту спецыфіку, каб уключыць у прадмет гісторыка-філасофскіх даследаванняў усю шматграннасць духоўнай культуры далёкай ад нас эпохі.

Адказваючы на трэцюю групу пытанняў, варта ўлічыць яшчэ адну рэгіянальную асаблівасць гісторыі айчыннай філасофскай думкі, у дадзеным выпадку беларускай у яе ўзаемасувязях з рускай, украінскай, польскай і літоўскай: значны ўдзел у яе распрацоўцы аж да пачатку XX ст. не толькі прафесійных філосафаў, але і аўтараў сінкрэтычнай пісьменнасці X—XVII стст., а пазней пісьменнікаў-мастакоў і крытыкаў-публіцыстаў, якімі былі Кірыла Тураўскі, Ф. Скарына, Сімяон Полацкі, а ў XIX—XX стст.— В. Р. Бялінскі, Л. М. Талстой, Ф. М. Дастаеўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Максім Багдановіч. Удзел пісьменнікаў у развіцці грамадска-філасофскай думкі абумовіў яе значную насычанасць эстэтычнай і этычнай праблематыкай, якая нярэдка была дамінуючай у іх светапоглядзе.

Так было і ў літаратурна-асветніцкай спадчыне Ф. Скарыны. Яна можа быць зразумелай толькі ў кантэксце духоўнай культуры і грамадскай думкі канца XV—XVI стст.

Прыкладна да сярэдзіны нашага стагоддзя даследчыкі спадчыны Ф. Скарыны звычайна не выдзялялі яго філасофскія, этычныя і эстэтычныя погляды ў асобны прадмет даследавання. Бадай ці не ўпершыню да такой ідэйна-філасофскай дыферэнцыяцыі яго светапогляду звярнуўся беларускі гісторык філасофіі М. А. Алексютовіч [2]. Цікавасць да эстэтычных поглядаў беларус-

[2] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958.

кага асветніка і першадрукара ўзнікла ў сувязі з вывучэннем гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі: у першы нарыс яе ўвайшоў раздзел Э. К. Дарашэвіча «Эстэтыка Адраджэння і Скарына» [3]. Інтэрпрэтацыя этычных і эстэтычных поглядаў Скарыны заняла пэўнае месца ў невялікай манаграфіі С. А. Падокшына «Скарына і Будны» [4]. Да аналізу яго эстэтычных і этычных поглядаў мне прыходзілася звяртацца ў даследаваннях па гісторыі беларускай эстэтыкі і часткова прававой думкі [5].

Агульным недахопам шмат якіх даследаванняў, прысвечаных светапогляду Ф. Скарыны, з'яўляецца пэўная абстрактнасць, а часам і апрыёрнасць падыходу да гэтага прадмета, экстрапаляцыя на яго ўжо вядомых у гісторыі філасофіі паняццяў, ацэнак і тыпаў мыслення, няўвага да канкрэтнага літаратурнага матэрыялу, з якім меў справу беларускі асветнік-першадрукар у сваіх кнігах. Дадзены нарыс — адна з першых спроб пераадолення гэтых стэрэатыпаў: аўтар увесь час будзе трымаць у полі зроку як канкрэтныя тэксты прадмоў і пасляслоўяў Скарыны, так і аб'ект яго літаратурных і выдавецкіх клопатаў — Біблію на роднай мове.

## УСХОДНЕСЛАВЯНСКАЯ КУЛЬТУРА XI—XV стст.— КРЫНІЦА МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫХ ПОГЛЯДАЎ Ф. СКАРЫНЫ

У канцы X — першай палавіне XI ст. старажытнабеларускія землі (Полацкае, Тураўскае і іншыя княствы) увайшлі ў склад Кіеўскай Русі — буйнога раннефеадальнага ваенна-палітычнага аб'яднання ўсходнеславянскіх плямён. Па сваёй сацыяльна-эканамічнай і палітычнай структуры гэта была рэгіянальна своеасаблівая сярэдневяковая дзяржава, у складзе якой удзельныя княствы (у тым ліку беларускія) захоўвалі сваю адносную дынастычную незалежнасць і ўнутранае самакіраванне. Яна паскорыла працэс фарміравання ўсходнеславянскіх народнасцей, садзейнічала іх эканамічнаму, палітычнаму і культурнаму развіццю, узмацніла іх міжнароднае становішча. У перыяд феадальнай раздробленасці і мангола-татарскага заваявання ўсходняй і паўднёвай Русі беларускія землі адасобіліся ў самастойныя княствы і гарады-рэспублікі (Полацкае, Тураўскае, Пінскае, Віцебскае, Мінскае, Слуцкае, Берасцейскае, Гарадзенскае і інш.). У XIII—XIV стст. яны ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, дзе канчаткова сфарміравалася беларуская народнасць, мова якой стала афіцыйнай дзяржаўнай мовай. Гэта было другое

[3] Дорошевич Э., Конон Вл. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 62—69.

[4] Подокшин С. А. Скорина и Будный. Очерк философских взглядов. Мн., 1974.

[5] Конон В. М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли Белоруссии в XV—XVIII вв. Мн., 1978; Яго ж: Эстетические взгляды Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 77—85.

пасля Кіеўскай Русі сярэдневяковае дзяржаўнае аб'яднанне беларускай, літоўскай, часткі рускай і ўкраінскай народнасцей.

Такім чынам, асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны папярэднічала паўтысячагадовае развіццё старажытнарускай і старабеларускай культуры пад непасрэдным уздзеяннем прынятай пры князю Уладзіміру Святаславічу (988 г.) хрысціянскай рэлігіі ў яе ўсходнім (грэчаскім, ці праваслаўным) варыянце. Прыняцце хрысціянства садзейнічала засваенню ўсходнеславянскім рэгіёнам культурных традыцый старажытных цывілізацый (антычнай і ўсходніх), узмацненню кантактаў з іх рэальнымі спадчыннікамі — Візантыяй і хрысціянскім Рымам, распаўсюджанню асветы, рукапісных кніг, літаратуры, філасофскай, грамадска-палітычнай і эстэтычнай думкі. Па светапогляднай аснове і сістэме каштоўнасцей усходнеславянскае сінкрэтычнае пісьменства (спалучэнне ў недыферэнцыраванай форме элементаў рэлігійных, літаратурных, навуковых і філасофскіх) належала да тыпу сярэдневяковай культуры з выразнымі рэгіянальнымі асаблівасцямі, якія вынікалі як з духоўнага аблічча яе носьбітаў — культурных традыцый усходнеславянскіх народаў, так і з арыентацыі на ідэалы праваслаўнага хрысціянства.

Поруч з заходнееўрапейскай рэнесансавай культурай яна была той традыцыяй, на якую абапіраўся Скарына ў сваёй асветніцкай дзейнасці. Аналіз гэтай культуры як адносна завершанай сістэмы раскрывае тры яе ўзаемазвязаныя часткі ці падсістэмы: агульныя для ўсяго хрысціянскага сярэдневякоўя; старажытнарускія, што ўзніклі да выхаду на гістарычную арэну трох усходнеславянскіх народнасцей; нарэшце, старабеларускія, узнікшыя пасля распаду Кіеўскай Русі.

Да першага раду крыніц адносіцца Біблія і «Святое пісьмо» наогул, у тым ліку філасофска-тэалагічная спадчына айцоў царквы (у старажытнарускім рэгіёне — пераважна ўсходніх, ці грэчаскіх — Васілія Вялікага, Грыгорыя Багаслова, Грыгорыя Ніскага і інш.). Створаная на працягу тысячагоддзя, Біблія ўвабрала ў сябе (у тэалагічна апрацаванай форме) асноўныя дасягненні духоўнай культуры старажытнага свету, у тым ліку антычнасці. Вядома, што паасобныя кнігі Старога запавету («Прамудрасць Ісуса, сына Сірахава», «Прамудрасць Саламона» і інш.) і ўвесь Новы запавет створаны ў эпоху элінізму. Спасылаючыся на даследаванні Б. Баўэра, Ф. Энгельс адзначаў, што Філон Александрыйскі «быў сапраўдным бацькам хрысціянства, а рымскі стоік Сенека быў, так сказаць, яго дзядзькам»; уплыў апошняга адчуваецца ў пасланнях апосталаў [6]. Ад антычнай культуры ў Біблію апрача этыкі стоікаў увайшло вучэнне пра меру як аснову дабра, гармоніі і прыгажосці. Праз фальклор у яе пранікла народнае ўяўленне пра святло як крыніцу жыцця і ўсіх яго каштоўнасцей. Але гэтыя фундаментальныя ідэі

[6] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 19. С. 307, 309.

антычнай філасофіі і эстэтыкі пераасэнсоўваюцца тут у тэалагічным кірунку. Бог, аказваецца, «разлічыў і вымераў» сваё тварэнне — Сусвет, стварыўшы яго «згодна меры, ліку і вазе». А стыхійна-матэрыялістычны погляд стваральнікаў фальклору на святло, яго выяўленні (белы і чырвоны колеры) і ўвасабленні (каштоўныя металы і камені) трансфармаваўся пад уплывам эліністычнага неаплатанізму ў канцэпцыю, згодна з якой яны сімвалізуюць абсалютнае дабро і бязмерную красу боскага свету як «чыстай духоўнасці».

Асабліва прыкметны ўплыў познеантычная (эліністычная) культура зрабіла на грэчаскую рэдакцыю Старога запавету (т. зв. Септуагінту — пераклад сямідзесяці «талкоўнікаў»), створаную ў 3—2 ст. да н. э. александрыйскімі вучонымі, выхаванымі на традыцыях антычнасці. Яны часткова «эстэтызавалі» многія паняцці старажытнаяўрэйскага арыгінала і такім чынам перадалі ў хрысціянскі свет элементы антычнай філасофіі, этыкі і эстэтыкі. Выходная канцэпцыя кнігі «Быццё» пра стварэнне Сусвету богам — крыніцай абсалютнага дабра і красы — з лагічнай неабходнасцю наводзіла на вывад аб дасканаласці і прыгажосці боскага «тварэння», у тым ліку чалавека і яго «айкумены» — планеты Зямлі. Згодна з Бібліяй, усе свае акты тварэння бог ацэньвае як добрыя, удачныя, патрэбныя і прыгожыя шматзначным грэчаскім паняццем calōs. Шматлікія фрагменты кніг Старога запавету сцвярджаюць прыгажосць свету і чалавека, створанага «па вобразу і падобію бога». Разам з тым «геацэнтрычная» і «гомацэнтрычная» канцэпцыя Бібліі (погляд на Зямлю як цэнтр Сусвету і памяшчэнне чалавека на яе вяршыні як валадара ўсяго зямнога плёну) давала магчымасць зрабіць гуманістычныя высновы пра чалавечае жыццё як найвышэйшую каштоўнасць зямнога быцця. Гэта гуманістычная інтэрпрэтацыя Бібліі — характэрная прыкмета рэнесансавага светапогляду, выяўленага як у філасофіі і асветніцкай дзейнасці такіх дзеячаў культуры, як Ф. Скарына, так і асабліва ў выяўленчым мастацтве.

Разам з тым у Старым запавеце Бібліі ёсць шмат чаго супрацьлеглага антычнай, рэнэсансавай і народнай эстэтыцы. Гэта перш за ўсё антынамічнасць, супярэчлівасць біблейскай канцэпцыі красы: яна не толькі сімвал духоўнасці і дабра, боскасці і маралі, але і ў сваёй аднабока пачуццёвай, прыроднай іпастасі — крыніца зла. Прыгажосць «забароненага яблыка» спакусіла праайцоў людзей на «грэхападзенне». Празмерная прыхільнасць людзей да зямной красы, сцвярджаюць біблейскія мудрацы і прарокі, адрывае іх ад неба, і яны, любуючыся на «тварэнне», забываюць пра тварца. За выключэннем меры і некаторых іншых паняццяў, прыўнесеных эліністычна адукаванымі стваральнікамі Септуагінты, своеасаблівая «эстэтыка Бібліі» шмат у чым супрацьлеглая антычнаму, у сваёй аснове мастацкаму светаўспрыманню. Для старажытных грэкаў рэчы і з'явы

мелі непасрэдную эстэтычную каштоўнасць, а для Бібліі — яшчэ і сімвалічную; краса для грэкаў была пераважна аб'ектам зрокавага ўспрымання і адпаведна выяўленчае мастацтва, асабліва скульптура,— аснова іх мастацкай культуры; біблейскі ж «стары закон» праклінае скульптара, а творы рук яго называе «брыдотай»; прыгажосць для антычнага чалавека выяўлялася перш за ўсё ў пластыцы і гармоніі, г. зн. у прапарцыянальным спалучэнні гукаў, колераў і іншых эстэтычна значных з'яў і прадметаў; старазапаветныя ж кнігі тлумачаць эстэтычную каштоўнасць яе як уласцівасць аднародных элементаў, інтэнсіўнасць уздзеяння святла, колеру, гуку, нават паху.

І ўсё ж супрацьлеглыя эстэтычныя сістэмы антычнай і старазапаветнай культур маюць нешта агульнае, што дазваляе аднесці іх да тыпу эстэтыкі старажытнага свету, адносна якога хрысціянскі светапогляд з'яўляецца якасна новым этапам. Маецца на ўвазе прынцыповы «аб'ектывізм» або нават «рэчавізм» эстэтыкі старажытнага свету: у ёй няма выразнага супрацьпастаўлення духоўнай і фізічнай прыгажосці, таго дуалізму, які на кожным кроку сустракаецца ў Новым запавеце. Праўда, у асобных старазапаветных кнігах (прарокаў, «прамудрасці» і інш.) гэта апазіцыя матэрыі і духу ўжо ўзнікае: найвышэйшай каштоўнасцю тут называецца мудрасць як ідэальны пачатак, супрацьпастаўлены «нікчэмнасці» і часовасці пачуццёвага свету. Спірытуалістычныя элементы Старога запавету леглі ў аснову трансцэндэнтнай хрысціянскай эстэтыкі. Не прапануючы завершанай сістэмы эстэтыкі, новазапаветныя аўтары абгрунтавалі пераважна этычныя каноны і крытэрыі мастацкай творчасці і эстэтычнага суджэння. Крыніцай красы і наогул усялякай духоўнай каштоўнасці, згодна з імі, аб'яўляецца бог, фізічная ж краса недасканалая і хуткаплынная, і нават у сваёй часовасці ўзнікае толькі як далучанасць да боскага, духоўнага свету. Найвышэйшай формай мастацтва цяпер становіцца духоўная паэзія і музыка, хоць і красамоўства не страціла свайго значэння; выяўленчае мастацтва не забаранялася, за ім прызнавалася здольнасць сімвалічнага адлюстравання боскай, ці духоўнай, прыгажосці. Паступова была рэабілітавана нават антычная скульптура, ці больш дакладна, яе эстэтычная каштоўнасць, супрацьпастаўленая яе першапачатковай культавай функцыянальнасці.

Такім чынам, агульная для хрысціянскай сярэдневяковай культуры біблейская ідэалогія была настолькі супярэчлівая, што дазваляла самыя процілеглыя інтэрпрэтацыі, у тым ліку гуманістычныя, характэрныя для Ф. Скарыны і іншых дзеячаў культуры эпохі Рэнесансу. Яго творчасць была, па сутнасці, новай якаснай ступенню шматвяковых асветніцкіх традыцый усходнеславянскіх народаў, якія пачынаюцца ад духоўнага подзвігу Кірылы і Мяфодзія. Важнае месца тут займае культура Кіеўскай Русі і яе спадчыннікаў. Дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі ў адносінах да свецкай навукі, літаратуры і філасофіі выявіліся

ў творах старажытнарускіх пісьменнікаў: прыняцце іх (у хрысціянскай інтэрпрэтацыі), з аднаго боку, і поўнае адмаўленне як «паганскіх», з другога боку. Вядома, напрыклад, што хрысціянскі асветнік Клімент Смаляціч (першая палавіна XII ст.) ведаў творы Гамера, філасофскія працы Платона і Арыстоцеля. Пра яго скупое на пахвалу летапісанне (згодна з Іпацьеўскім спісам) паведамляе, як пра выдатнага філосафа «зело книжного и учительного» [7], які тым не менш, як вядома з яго твора «Послание митрополита Климента Смолятича пресвитеру Фоме», павінен быў апраўдвацца перад артадоксамі, даказваючы, што веданне антычных аўтараў яму неабходна было для больш глыбокага разумення «Свяшчэннага пісання» [8].

Асвечаныя людзі Кіеўскай Русі знаёміліся з антычнай свецкай культурай пераважна з «другіх рук» — ад сваіх візантыйскіх настаўнікаў, г. зн. іх веды ў гэтай галіне былі фрагментарныя, да таго ж у візантыйска-хрысціянскай інтэрпрэтацыі. Адносна ж Ф. Скарыны вядома, што ён закончыў два еўрапейскія універсітэты, атрымаў ступень доктара навук у Італіі — тагачасным цэнтры рэнесансавай культуры. Найбольш папулярных там карыфеяў антычнай філасофіі і літаратуры ён мог вывучаць па першакрыніцах. І тым не менш Скарына не стаў папулярызатарам Арыстоцеля ці Гарацыя, а прадаўжаў традыцыі старажытнарускіх асветнікаў, узбагаціўшы іх важнымі здабыткамі рэнесансавай культуры, і перш за ўсё друкаванай кнігай.

Адзін з такіх асвечаных людзей Беларусі і Кіеўскай Русі, які мог паўплываць на першадрукара, быў Кірыла Тураўскі. Яго казанні, павучальныя «словы» — узоры аратарскага майстэрства, разлічанага не толькі на рэлігійнае, але і на эстэтычнае ўздзеянне; паэтычны, мастацкі аспект у іх часам пераважае над царкоўна-дыдактычным. Кірыла Тураўскі не адмаўляў каштоўнасці зямной, пачуццёвай красы, але ставіў яе значна ніжэй духоўнай прыгажосці ў традыцыйнай для хрысціянства іерархіі каштоўнасцей. Прыемныя для вачэй,— пісаў ён,— залатыя ўпрыгожванні, жэмчуг, дарагія камені і металы, але «тым больш прыемны прыгажосці духоўныя» — вялікія святы, што весяляць душы веруючых і асвятляюць іх душы [9]. Краса прыроды, на яго думку, сімвалізуе духоўную, боскую красу. Малюючы ў паэтычных вобразах адраджэнне зямлі пад уздзеяннем вясновага сонца, цёплага ветру, ён тлумачыў гэтыя з'явы як сімвалы духоўнага адраджэння. Розум, чалавечая духоўнасць для Кірылы Тураўскага — найвышэйшыя каштоўнасці быцця. Ён палка заклікаў да асветы, да «кніжнага чытання», якое дае чалавеку ду-

[7] ПСРЛ. Т. 9. М., 1965. С. 172.

[8] Никольский Н. О литературных трудах Климента Смолятича, писателя XII века. Спб., 1892. С. 103—104.

[9] Творения святого отца нашего Кирилла епископа Туровского. Киев, 1880. С. 74.

шэўную раўнавагу, далучае яго да шчасця, ісціны і дабра[10].

Важнае месца ў культуры старажытнай Русі і Беларусі XI—XV стст. займалі т. зв. фларылегіі — зборнікі афарызмаў і цытат з антычных пісьменнікаў, філосафаў, з біблейскіх кніг і вучэння айцоў царквы. Асабліва папулярнай у той час была кніга такога роду пад назвай «Пчала», безумоўна, добра вядомая Ф. Скарыну. Паасобныя выказванні ўзяты з фальклору, напр. прыказка: «Не месца дабрачыннасць, а дабрачыннасць месца ўпрыгожвае». У «Пчале» ёсць раздзел «Аб прыгажосці» — своеасаблівы трактат па эстэтыцы, які грунтуецца не на лагічным доказе, а на інтуітыўным спасціжэнні ісціны аксіяматычных афарызмаў. Кампазіцыйна ён пабудаваны на дыхатаміі (раздзяленні і супрацьпастаўленні вонкава-пачуццёвай і ўнутранадухоўнай красы: першая — часовая, падманлівая, эфемерная; другая — вечная, жыватворная, супадае з ісцінай і дабром. У структуры энцыклапедычных зборнікаў тыпу «Пчалы» выяўляюцца дзве плыні, не заўсёды арганічна спалучаныя паміж сабой: сярэдневяковы хрысціянскі спірытуалізм і антычная мудрасць, заснаваная на прынцыпе рэальнага быцця і пачуцці меры.

Поруч з «Пчалой» на Русі і ў Беларусі эпохі Скарыны вялікай папулярнасцю ў асяроддзі адукаваных людзей карысталіся таксама свецкія перакладныя творы, перапрацаваныя ў адпаведнасці з густамі і светапоглядам усходнеславянскага сярэдневяковага грамадства. На некаторыя з іх спасылаецца Скарына ў прадмове да ўсёй Бібліі: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи»[11]. Маюцца на ўвазе прыгодніцкія раманы «Александрия» і «Повесть о Трое», вядомыя на Русі з XII ст. і перакладзеныя на беларускую мову ў XV—XVI стст. У ідэйнамастацкіх адносінах гэтыя творы не арыгінальныя, іх каштоўнасць хутчэй гісторыка-літаратурная, чым эстэтычная, а таму той факт, што Скарына аддаваў перавагу біблейскім гістарычным аповесцям, адзначаным эпічным размахам і драматычнай напружанасцю, сведчыць пра яго літаратурную дасведчанасць і добры эстэтычны густ.

Светапогляд папярэднікаў Скарыны, пісьменнікаў і асветнікаў Старажытнай Русі і сярэдневяковай Беларусі грунтаваўся не толькі на хрысціянскай філасофіі з яе пастулатам духоўнай, ці боскай, субстанцыі быцця, але і ў значнай ступені на стыхійна-рэалістычным народным уяўленні пра жыццё як адвечную барацьбу святла і цемры, дабра і зла, ісціны і маны, праўды і крыўды. Бог мысліўся як крыніца духоўнага святла, ісціны, дабра і прыгажосці, а яго антаганіст д'ябал як зачыншчык зла і цемры, прычына ўсяго агіднага ў жыцці, у тым ліку смерці.

---

[10] ТОДРЛ. Т. 12. М.; Л., 1956. С. 340.
[11] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 63.

Такая дыхатамічнасць мыслення, заснаванага на антаганізме і непрымірымасці супрацьлеглых бакоў усяго існага, вызначыла агульны кірунак і стыль сярэдневяковага мастацтва: яно грунтуецца на апазіцыі ўзнёслага нізкаму, прыгожага агіднаму; яго архітэктоніка — гэта рух знізу ўгору, імкненне з зямлі да неба, гераічная спроба пераадолець матэрыяльнасць і далучыцца да чыстай духоўнасці (вертыкальныя архітэктурныя канструкцыі, чаргаванне высокіх і нізкіх таноў у музыцы, кантрастнасць колераў у жывапісе, узнёслыя словы ў паэзіі і красамоўстве). Сярэдневяковы сінкрэтызм навукі, рэлігіі і мастацтва, духоўных каштоўнасцей наогул зафіксаван і ў катэгорыях старажытнарускай культуры: *благолепие* (дабро+краса), *благоразумие* (дабро+розум) і інш.

Арыентацыя на катэгорыю ўзнёслага ў яе супрацьпастаўленасці нізкаму і агіднаму відавочна не толькі ў помніках архітэктуры (Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку, віцебская Благавешчанская царква, Каложская царква ў Гродне, а пазней, у XIII—XVI стст., самабытная беларуская готыка), не толькі ў жывапісе (іканапіс) і іншых выяўленчых мастацтвах, але і ў паэзіі, агіяграфіі (біяграфіі святых), гістарычных творах (летапісанне), красамоўстве (казанні, павучэнні і іншыя дыдактычныя літаратуры). Паэтыка найвялікшага помніка літаратуры «Слова пра паход Ігаравы» поўнасцю адпавядае гэтым эстэтычным прынцыпам усходнеславянскай сярэдневяковай культуры. Разам з тым гэты твор займае ў ёй асобнае месца, якое вызначаецца яго свецкасцю і народнасцю, арганічным спалучэннем прафесійнага мастацтва і фальклорнай паэтыкі. Характэрныя для гэтага твора пафас патрыятызму, усведамленне адзінства ўсходнеславянскіх народаў, узнёсласць гераізму і манументальны гістарызм пазней стануць аб'ектам апалогіі з боку беларускага асветніка і першадрукара.

Народнасць творчасці Ф. Скарыны, яго арыгінальнасць як пісьменніка і мысліцеля абумоўлены яго таленавітай і самабытнай чалавечай асабістасцю. Засвоіўшы дасягненні заходнееўрапейскай гуманітарнай культуры эпохі Высокага Рэнесансу, ён разам з тым не толькі не выракся духоўных здабыткаў свайго народа, але і ўзняў іх на больш высокую ступень, паказаўшы тагачаснаму цывілізаванаму свету іх невычэрпныя магчымасці ў справе асветы і маральнага ўдасканалення.

## ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА І ЭСТЭТЫЧНАЯ ДУМКА БЕЛАРУСІ Ў ЭПОХУ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Эпоха Ф. Скарыны вядома ў гісторыі еўрапейскай культуры як перыяд Высокага Адраджэння. Яна характарызуецца ўздымам свецкіх форм асветы, навукі, літаратуры і мастацтва, спецыфічным рэнесансава-асветніцкім гуманістычным светапоглядам, з'арыентаваным на чалавечую асобу як найвышэйшую каштоў-

насць зямнога быцця. Наколькі гэты тып культуры быў характэрным для ўсходнеславянскага рэгіёна наогул і для Беларусі ў прыватнасці? Ці ёсць падставы разглядаць усходнеславянскую культуру гэтага часу як рэгіянальна своеасаблівае Адраджэнне еўрапейскага тыпу або варта бачыць у ёй толькі элементы рэнесансавай культуры, што праніклі сюды з Заходняй Еўропы ў выніку эканамічных, палітычных і культурных узаемасувязей?

Пры адказе на гэта пытанне неабходна ўлічваць неаднолькавыя эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і агульнакультурныя ўмовы гісторыі рускага, беларускага і ўкраінскага народаў гэтага перыяду. Фарміраванне велікарускай народнасці адбывалася ва ўмовах барацьбы супраць татара-мангольскага іга і выявілася ў аб'яднанні былых удзельных княстваў і гарадоў у Маскоўскае царства, якое ў сярэдзіне XVI ст. уяўляла сабой сярэдневяковую абсалютную манархію. У выніку гэтага там не сфарміраваліся перадумовы для развіцця рэнесансавай культуры — гарадское самакіраванне, буржуазныя формы ўласнасці і адносны дэмакратызм, неабходныя для выяўлення творчай ініцыятывы аўтаномнай чалавечай асобы. Беларуская ж народнасць узнікла ва ўмовах утварэння на тэрыторыі Літвы, Беларусі і большай часткі Украіны Вялікага княства Літоўскага, якое ў выніку дынастычнай *Крэўскай уніі* і дзяржаўнай *Люблінскай уніі* (1569 г.) развівалася ў напрамку федэратыўнай дзяржавы шляхецка-дэмакратычнага тыпу з перадавым для свайго часу правам (Статут 1529 г.), развітым грамадскім самакіраваннем (магдэбургскае права) і ўстойлівымі культурнымі сувязямі з заходнеславянскім (Польшча, Чэхія) і заходнееўрапейскім (Італія, Германія) рэгіёнамі. У канцы XV — пачатку XVI ст. тут склаліся адносна спрыяльныя ўмовы для развіцця рэгіянальна своеасаблівай рэнесансавай культуры. Аднак агульнае эканамічнае адставанне ад перадавых краін Еўропы і панаванне феадалізму стрымлівалі ўсебаковае развіццё свецкіх форм культуры і пераход ад сярэдневякоўя да новага часу. Гэта адлюстравалася ў запозненасці беларускага Рэнесансу, «несінхроннасці» яго адпаведных этапаў адносна такіх жа ў Італіі і іншых еўрапейскіх краінах. У другой палавіне XV ст. тут яшчэ толькі выспявалі ўмовы для пашырэння рэнесансавай культуры, якая выразна выявілася толькі ў першай палавіне XVI ст. і, мінаючы Высокі Рэнесанс, перайшла ў стадыю свайго завяршэння ў другой палавіне XVI — пачатку XVII ст. Рэнесансавая культура тут аказалася незавершанай, канчаткова не выяўленай і ў выніку гэтага слаба супрацьпастаўленай сярэдневяковай сінкрэтычнай культуры, не да канца аддзеленай ад рэлігійнай ідэалогіі.

У ходзе фарміравання беларускай народнасці (XIV—XV стст.) адбывалася станаўленне першапачатковых форм нацыянальнай культуры. Найважнейшай яе перадумовай і крыніцай была народная, сінкрэтычная ў сваёй аснове духоўная культура — фальклор, які не толькі кампенсаваў адсутнасць многіх

жанраў прафесійнай літаратуры і іншых відаў мастацтва (лірычнай паэзіі, многіх жанраў прозы, масавай песні і г. д.), але і адыграў вырашальную ролю ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы. Яна становіцца афіцыйнай дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, на ёй вядзецца дзяржаўнае і грамадскае справаводства, пішуцца прававыя акты (Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг.), мясцовыя і агульнадзяржаўныя летапісы і інш. Набываючы новыя паняцці і тэрміны з польскай, літоўскай, нямецкай, чэшскай і іншых моў, разам з тым яна была цесна звязаная з рускай і ўкраінскай мовамі, развіваючыся з імі на агульнай аснове — старажытнарускай мове. Традыцыі гэтай апошняй выявіліся, між іншым, і на тэрміналагічным узроўні: новая славянская мова па-ранейшаму называлася «рускай» як у афіцыйных актах, так і ў творах беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку Ф. Скарыны. Назва «Белая Русь» у гэты час таксама ўжывалася спачатку (у канцы XIV ст.) у дачыненні да Полацкай зямлі, а пазней — да іншых зямель.

Асяродкамі культуры становяцца гарады. Полацк, Віцебск, Слуцк, Мінск, Брэст, Гродна, Навагрудак у XV ст. выраслі ў буйныя цэнтры рамяства і гандлю, набылі самакіраванне (магдэбургскае права). Узніклі карпаратыўныя арганізацыі рамеснікаў — цэхі, якія садзейнічалі фарміраванню гарадскога насельніцтва як самастойнага саслоўя. У барацьбе з буйнымі феадаламі-магнатамі ўзмацніла свае сацыяльна-эканамічныя і палітычныя пазіцыі шляхта, што займала прамежкавае становішча паміж пануючымі класамі і сялянствам. Разам з гараджанамі беларуская шляхта ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. з'явілася сацыяльным асяроддзем развіцця беларускай свецкай культуры і распаўсюджання ідэй рэнесансавага гуманізму. З асяроддзя шляхты і гараджан у XVI ст. выйшла большая частка вучоных, пісьменнікаў, дыпламатаў, фарміравалася інтэлігенцыя як сацыяльная праслойка. Толькі пазней (у другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст.) пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай і палітычнай экспансіі польскіх феадалаў большая частка гэтых слаёў насельніцтва дэнацыяналізавалася, адказалася ад традыцый нацыянальнай культуры, і толькі яе найбольш выдатныя прадстаўнікі, як В. Цяпінскі, засталіся вернымі гэтым традыцыям, выкрывалі нацыянальнае рэнегацтва феадалаў і гарадскіх вярхоў. Важную ролю ў ідэалагічнай арыентацыі культуры прадаўжала выконваць хрысціянская царква, у якой на Беларусі XV — першай палавіне XVI ст. пануючае становішча займала праваслаўе. Характэрныя для еўрапейскага Адраджэння вальнадумства і рацыяналізм паўплывалі на агульны духоўны клімат, аднак не атрымалі ўсебаковага развіцця і не аддзяліліся канчаткова ад сярэдневяковай рэлігійнай ідэалогіі.

У галіне архітэктуры поруч з традыцыйнымі сярэдневяковымі стылямі (візантыйска-рускі, готыка і інш.) у XVI ст. узніклі прыкметныя рэнесансавыя элементы, якія развіваліся як сама-

стойна (пераважна ў свецкім палацавым будаўніцтве), так і ў сінтэзе з готыкай. У гэтым кірунку ўзнікаюць выдатныя помнікі — умацаваныя цэрквы ў Сынковічах, Супраслі, Маламажэйкаве, Заслаўі, палац замкавага тыпу ў Міры і інш. Аднак у выніку запозненасці станаўлення новай свецкай культуры толькі ў другой палавіне XVI ст. на Беларусі ўзніклі завершаныя збудаванні рэнесансавага тыпу. У выяўленчым мастацтве гэтага перыяду таксама наглядаецца нярэзкі, плаўны пераход ад заснаванага на каноне сярэдневяковых метадаў творчасці да свецкіх форм жывапісу з характэрнымі для рэнесансавай выяўленчай культуры рэалізмам і гуманізмам. Важнае значэнне ў гэтым працэсе мела прыкладная графіка, асабліва кніжная гравюра, росквіт якой звязаны з кнігавыдавецкай дзейнасцю Ф. Скарыны. Яе ўзлёт быў падрыхтаваны ў XV ст. развіццём рукапіснага кніжнага мастацтва.

Значным дасягненнем культуры XV — пачатку XVII ст. было развіццё свецкай літаратуры на роднай мове. Найважнейшым дасягненнем у жанры прозы сталі беларуска-літоўскія летапісы («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», летапіс 1446 г., «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца»), перакладная літаратура («Аповесць пра трох каралёў», «Александрыя» і інш.), а ў галіне паэзіі — новалацінская свецкая паэзія (творчасць Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага), станаўленне сілабічнай паэзіі на роднай мове (элементы вершавай культуры ў Ф. Скарыны, творчасць А. Рымшы і інш.) і ўзнікненне характэрнага для беларускай літаратурнай традыцыі жанру прадмовы, росквіт якога звязаны з творчасцю і кнігавыдавецкай дзейнасцю Ф. Скарыны. Культурныя, у тым ліку літаратурныя, сувязі з перадавымі краінамі Еўропы стымуляваліся адноснай грамадзянскай свабодай, гарантаванай як асобнымі прывілеямі вярхоўнай улады (каралеўская грамата 1447 г. аб праве свабоднага выезду за мяжу на вучобу ва універсітэты і «для лепшага счасця набытья»), так і статутамі Вялікага княства Літоўскага. Вынікам гэтага было павелічэнне колькасці людзей з вышэйшай адукацыяй і станаўленне навуковых ведаў у галіне гісторыі, геаграфіі, філасофіі, права, медыцыны і прыродазнаўства. Развіццю навукі, вышэйшай адукацыі і літаратуры садзейнічаў характэрны для эпохі Адраджэння інстытут мецэнацтва (пісьменнік і апякун Гусоўскага Эразм Вітэліус, віленскія апекуны скарынаўскіх выданняў Багдан Онкаў, Якуб Бабіч і інш.).

Сярод самых прыкметных падзей эпохі Адраджэння Ф. Энгельс назваў вынаходства пораху і кнігадрукавання [12]. К. Маркс таксама адзначаў: «Вынаходства пораху, компасу і кнігадрукавання — гэта неабходныя перадумовы буржуазнага развіцця» [13]. Заснавальнік усходнеславянскага кнігадрукавання Ф. Скарына

---

[12] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 7. С. 346.
[13] Там жа. Т. 30. С. 262.

сваёй асветніцкай і літаратурнай дзейнасцю значна садзейнічаў развіццю рэнесансавай культуры ў Беларусі. У другой палавіне XVI ст. яго традыцыі падрыхтавалі ўзнікненне рускага і ўкраінскага кнігадрукавання (дзейнасць Івана Фёдарава), якое несла элементы рэнесансавай культуры ў новыя рэгіёны Усходняй Еўропы.

У цэлым культура Беларусі канца XV — першай палавіны XVI ст. характарызуецца прызнакамі, характэрнымі для пераходнага перыяду ад сярэдневякоўя да новага часу. Важнейшым яе дасягненнем было кнігадрукаванне, свецкая літаратура і ўсведамленне традыцыйнай для сярэдневякоўя кананічнай літаратуры (Бібліі) як выніку шматвяковага развіцця духоўных каштоўнасцей чалавецтва. У тыпалагічных адносінах яна можа быць ахарактарызавана як незавершаны, кампрамісны ўсходнеславянскі варыянт рэнесансавай культуры. Ф. Скарына быў адным з самых выдатных дзеячаў свайго часу, якія надалі ёй выразны кірунак і нацыянальную своеасаблівасць. Усходнеславянскае кнігадрукаванне XVI ст., у першую чаргу дзейнасць Ф. Скарыны і яго паслядоўнікаў (І. Фёдарава, П. Мсціслаўца, С. Буднага, В. Цяпінскага), было не выпадковасцю, а заканамернай з'явай распаўсюджання рэнесансавай культуры на ўсходнеславянскі рэгіён. Яе істотныя рысы выявіліся ў эстэтычнай думцы і мастацкай культуры Беларусі гэтага перыяду, якія ў сваёй светапогляднай аснове былі гуманістычнымі, накіраванымі на ўдасканаленне чалавека і грамадства.

Рэнесансавы светапогляд быў канкрэтнай гістарычнай формай раннебуржуазнага гуманізму, якому папярэднічалі гуманізм антычны, арыентаваны пераважна на «цялесную» і сацыяльную каштоўнасць чалавечага жыцця, і гуманізм раннехрысціянскі, у рамках якога спасцігнута (праўда, у рэлігійнай форме) духоўная каштоўнасць чалавека. Паколькі ж рэнесансавая культура спалучала духоўныя здабыткі антычнасці і хрысціянскага сярэдневякоўя, пастолькі яна арыентавалася на цэласнага чалавека, на гармонію цела і духу, прыроды і бога, на адзінства фізічных і духоўных здольнасцей чалавека. Грунтуючыся на філасофіі пантэізму, мысліцелі і мастакі Адраджэння імкнуліся пераадолець сярэдневяковую апазіцыю цела і душы, абгрунтаваць адзінства бога і чалавека, чалавечай асобы і грамадства. Прыгажосць як адзінства прыроднага і духоўнага пачаткаў жыцця, узгодненасць грамадскіх і асабістых інтарэсаў, дабра і красы была цэнтральнай катэгорыяй рэнесансавай эстэтыкі, ідэалам, які ўяўляўся сувымерным рэчаіснасці і ажыццявімы ў ёй. Гэта быў абстрактна-гуманістычны, у пэўнай ступені утапічны ідэал, бо тут не ўлічваліся непрымірымыя сацыяльна-класавыя і нацыянальныя супярэчнасці тагачаснага грамадства.

Ф. Скарына жыў і тварыў у пераходную эпоху ад сярэдневякоўя да новага часу, і пагэтаму зусім лагічна, што ў тагачаснай эстэтыцы выявіліся як рысы сярэдневяковага мыслення

(аўтарытарнасць і схаластыка, дамінаванне катэгорыі Ўсявышняга, сінкрэтызм літаратуры, спалучэнне ў ёй элементаў тэалогіі, мастацтва і навукі), так і характэрныя для новай эпохі тэндэнцыі да ўстанаўлення свецкіх форм культуры (перакладная літаратура XV—XVI стст., беларуска-літоўскія летапісы, узнікненне свецкай паэзіі, паэтыкі і рыторыкі). Асноўныя вытокі рэнесанснай культуры — антычная мудрасць і сярэдневяковае сінкрэтычнае мысленне па структуры былі бліжэй да мастацкай і філасофскай цэласнасці, эстэтычнай сузіральнасці і пластычнасці, чым да навуковай паняццевай сістэмнасці і аналітычнасці, характэрных для культуры новага часу. Адсюль значная ўдзельная вага эстэтычных і мастацкіх форм пазнання ў культуры Беларусі XV — першай палавіны XVII ст. Тагачаснаму пантэістычнаму светапогляду імпанавала мастацтва, бо яно, як правільна адзначыў І. Кант,— злучальнае звяно паміж неабходнасцю і свабодай, «мост», перакінуты паміж матэрыяй і духам, практычным жыццём і тэарэтычным мысленнем.

Асветніцкая дзейнасць Скарыны на Беларусі падрыхтавала глебу для развіцця нацыянальна своеасаблівых форм эстэтычнай думкі, у пэўнай ступені адэкватных рэнесансаваму тыпу культуры. Найважнейшым дасягненнем у гэтым кірунку было ўзнікненне літаратуры і друкаванай кніжкі на роднай мове, станаўленне свецкіх форм паэзіі і іншых відаў мастацтва, пачатак фарміравання нацыянальнай самасвядомасці як фактару, які стабілізуе цэласнасць народа і нацыі. Ф. Скарыну належаць першыя спробы сілабічнага вершаскладання. Аднак тады для свецкай паэзіі на ўсходнеславянскай моўнай аснове яшчэ не хапала вопыту і літаратурных традыцый. Затое якраз у перыяд, калі Скарына друкаваў свае кнігі (1517—1525 гг.), на Беларусі, у Польшчы і ў Літве адносна высокага развіцця дасягнула новалацінская паэзія Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага і інш. У паэме «Песня пра зубра» (1523 г.) Гусоўскі выявіў рэнесансава-гуманістычную канцэпцыю жыцця і мастацтва (усведамленне грамадскай і духоўнай каштоўнасці чалавека, прыроды і прыгажосці; погляд на літаратуру як адлюстраванне жыцця; прынцып наследавання прыродзе, які вынікаў з пастулата пра адзінства праўды і прыгажосці). У перыяд ранняга Рэнесансу на Беларусі (першая палавіна XVI ст.) вызначыліся дзве плыні эстэтычнай думкі. Першая фарміравалася на традыцыях старажытнарускай культуры, узбагачаных дасягненнямі еўрапейскага Адраджэння, і адлюстравала працэс развіцця беларускай народнасці (дзейнасць Скарыны, пазней І. Фёдарава і П. Мсціслаўца). Другая плынь узнікла на аснове адраджэння антычнай (новалацінскай) паэзіі, якая выявіла не толькі красу роднага краю, але і трагічныя канфлікты паміж ідэалам (веліч і прыгажосць Радзімы, яе гераічнае мінулае) і суровай рэальнасцю (сацыяльная несправядлівасць, бесчалавечная жорсткасць, братазабойчыя войны), адлюстраваныя ў паэзіі Гусоўскага і Вісліцкага. Скары-

на і Гусоўскі ішлі рознымі шляхамі, але іх творчасць і светапогляд мелі агульную трывалую аснову ў дэмакратызме, гуманізме, народнасці, у звароце да роднай мовы (Скарына) і народнай творчасці (Гусоўскі). Цэнтральнай катэгорыяй, у якой выявіліся іх эстэтычныя адносіны да рэчаіснасці, было прыгожае, і яно арыентавала іх на сцвярджэнне гарманічных суадносін чалавека і грамадства. Разам з тым Гусоўскі адлюстраваў глыбокія супярэчнасці свайго часу, якія пазней (другая палавіна XVI—XVII ст.) востра выявіліся ў класавай і нацыянальна-рэлігійнай барацьбе, у трагічнай раздвоенасці беларускай культуры.

Спецыфічная для Беларусі эпоха позняга Рэнесансу (з сярэдзіны XVI ст.) адзначана якраз гэтымі супярэчнасцямі — фарсіраваннем дэнацыяналізацыі (апалячвання феадальных вярхоў краю), рэфармацыйным рухам, а затым каталіцка-езуіцкай рэакцыяй. У адрозненне ад раннерэнесансавай асветніцкай эстэтыкі, заснаванай на веры ў магчымасць гармоніі паміж класамі і народамі, чалавечай асобай і грамадствам, позняе Адраджэнне на Беларусі характарызавалася адказам ад гэтых спадзяванняў і настойлівай барацьбой трох ідэалагічных кірункаў, прадстаўленых праваслаўем, каталіцызмам і рэфармацыяй, за сцвярджэнне сваіх светапоглядных і, у прыватнасці, эстэтычных арыентацый. Выдавецкая дзейнасць і публіцыстыка паслядоўнікаў Скарыны ў Расіі, на Беларусі і Украіне Фёдарава і Мсціслаўца арыентавалася на праваслаўе і айчынныя асветніцкія традыцыі. Іх эстэтыка грунтавалася на прызнанні зямной красы, велічы з'яў прыроды і культуры, якія разам з тым тлумачыліся як сімвалы мудрага і спрадвечнага мастака — бога. Прыродная краса апрача свайго непасрэднага значэння мела яшчэ вышэйшы, духоўны сэнс — тлумачылася як вобраз духоўна-боскага свету. Шырока прымянялася паняцце «ўпрыгожваць», якім падкрэслівалася эстэтычная каштоўнасць мастацкай і наогул усялякай стваральнай працы чалавека. І. Фёдараў і П. Мсціславец у прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг прадаўжалі гэту ўсходнеславянскую асветніцкую традыцыю эстэтыкі Скарыны (урачыстыя і шчырыя звароты да чытача, у якіх падкрэсліваецца неабходнасць руху ўверх — ад цемры да святла, увага акцэнтуецца на катарсісным, выхаваўчым уздзеянні ісціны і красы, увасобленых у кнігах, якія патрэбны нам «для выпраўлення душэўнага і цялеснага»).

Асветніцтва Ф. Скарыны аб'ектыўна садзейнічала ўзнікненню рэфармацыйнага руху, крытыцы «Святога пісьма» і артадаксальнай хрысціянскай традыцыі наогул з боку С. Буднага і яго паслядоўнікаў. Агульным для Скарыны і Буднага быў падыход да Бібліі як аб'екту не толькі веры, але і навуковай, нават эстэтычнай ацэнкі. Аднак для Скарыны характэрны цэласны погляд на Стары і Новы запаветы як абагульненне ўсіх старажытных навук і мастацтваў і адпаведна з гэтым — пераважна этыка-

эстэтычны аналіз іх зместу. У Буднага ж пераважае фармальна-лагічны і тэксталагічны аналіз гэтых кніг. Як ідэолаг радыкальнага пратэстантызму (антытрынітарызму) і рацыяналізму ён не надаваў вялікай увагі пытанням эстэтыкі. У вызначэнні сутнасці бога Будны не ўключаў у яго атрыбут абсалютна прыгожага, эстэтычна дасканалага, хоць наогул прызнаваў, што ўсе створаныя богам рэчы «дзіўныя, цудоўныя»[14]. Адносіны Буднага да мастацтва супярэчлівыя і недастаткова выяўленыя. У яго іканаборчай пазіцыі быў відавочны аспект адмаўлення пэўных, галоўным чынам царкоўных, традыцый выяўленчага мастацтва. Выступаў ён таксама супраць народных карнавалаў з танцамі, скамарошаствам і музыкай. Але ён высока цаніў дыдактычную літаратуру, сам унёс пэўны ўклад у развіццё палемічнай публіцыстыкі. Народна-патрыятычны аспект эстэтыкі Скарыны прадаўжаў Васіль Цяпінскі, ацэньваючы як «шкарэдную» (агідную і нізкую) пазіцыю свецкіх і духоўных феадалаў, што выракліся роднай мовы і іншых духоўных каштоўнасцей беларускага народа. Ад Ф. Скарыны і В. Цяпінскага пачынаецца традыцыя абароны роднай мовы як агульнанароднай духоўнай і эстэтычнай каштоўнасці.

З сярэдзіны XVI ст. на Беларусі адносна шырокае развіццё набыла свецкая сілабічная паэзія і палемічная літаратура, якая адлюстравала барацьбу праваслаўных (усходнеславянскіх), рымска-каталіцкіх і пратэстанцкіх традыцый у рэлігіі і культуры. У проціборстве езуіцкай экспансіі фарміравалася славяна-руская гуманітарная навука (у значнай ступені на старабеларускай моўнай аснове), у тым ліку элементы паэтыкі і рыторыкі, якія ў XVII—XVIII стст. былі асноўнымі формамі развіцця эстэтычнай думкі. Лаўрэнцій Зізаній у сваёй «Грамматике словеньской» (1596 г., раздзелы «О просодии», «Перестрога хотячим верше складати») паспрабаваў прымяніць антычную сістэму вершаскладання да роднай мовы. Далейшым крокам у гэтым кірунку былі фрагменты паэтыкі і рыторыкі ў «Грамматике словеньской» (1618 г.) Мялеція Сматрыцкага. Тут ужо прыкметныя ўплывы эстэтыкі барока, асабліва ў палемічнай літаратуры (Л. Карповіч і інш.).

Найбольш яркім прадстаўніком барокавай культуры ўсходнеславянскага тыпу быў Сімяон Полацкі — зямляк Скарыны і прадаўжальнік яго асветніцка-гуманістычнай дзейнасці. У праграмных сілабічных «віршах» і ў творах царкоўна-хрысціянскага красамоўства (зб. «Обед душевный» і «Вечеря душевная») ён закранаў найважнейшыя праблемы эстэтыкі свайго часу (сутнасць прыгажосці і яе выяўлення ў розных сферах жыцця і творчасці, суадносіны духоўнай і пачуццёвай красы, каштоўнасць рэлігійнай і свецкай літаратуры), якія вырашаў з пазіцый хрыс-

[14] Budny Sz. Przedmowa i przypisy do Nowego Testamentu z 1574 r. // Merczyng H. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913. S. 87—88.

ціянскай эстэтыкі ў яе гуманістычнай, свабоднай ад дагматычных крайнасцей, адносна ліберальнай інтэрпрэтацыі. Пасля пераезду ў Маскву (1664) прыкметна паўплываў на развіццё рускай літаратуры і эстэтычнай думкі.

Заходнееўрапейскі (рымска-каталіцкі) тып эстэтыкі барока на Беларусі ў XVII ст. прадстаўлены лацінскімі трактатамі рыторыкі і паэтыкі, якія ўзніклі ў выніку шырокага выкладання гэтых курсаў у езуіцкіх калегіях і іншых школах. Яны грунтаваліся на каменціраванні і развіццi літаратурна-эстэтычных ідэй антычных аўтараў (Арыстоцеля, Платона, Цыцэрона, Гарацыя, Квінтыліяна), еўрапейскіх літаратуразнаўцаў, асабліва Ю. Скалігера і Я. Пантана. Найбольш арыгінальным літаратуразнаўцам і эстэтыкам гэтага тыпу ў Польшчы, Літве і Беларусі быў М. С. Сарбеўскі — аўтар фундаментальных прац «Пра дасканалую паэзію» [15], «Курс паэтыкі» [16] і «Богі язычнікаў» [17]. Яны ўзніклі на аснове курсаў паэтыкі, рыторыкі і антычнай міфалогіі, якія чыталіся аўтарам у Полацкай калегіі ў 1618—1620 і 1626—1627 гг. Сарбеўскі прадаўжаў гуманістычную лінію ў эстэтыцы, бо асноўным аб'ектам мастацтва лічыў чалавека ў яго шматгранных сувязях з асяроддзем. Разам з тым у яго працах адлюстраваліся супярэчнасці эстэтычных поглядаў пераходнага перыяду: сярэдневяковая схаластыка і іерархічная марфалогія відаў і жанраў мастацтва сумяшчаецца з рэнесансавай свецкай навуковасцю, а стыхійна-рэалістычная тэорыя мімезісу (наследавання) дапаўняецца характэрнай для эстэтыкі класіцызму нарматыўнасцю ідэальнага, абсалютна дасканалага героя. А ў арыгінальным трактаце пра паэтычную дасціпнасць Сарбеўскі набліжаўся да эстэтыкі барока, асабліва ў трактоўцы катэгорыі камічнага. Яму таксама належыць грунтоўная распрацоўка тэорыі і практыкі школьнага тэатра — аднаго з вядучых відаў мастацкай культуры барока.

Такім чынам, эстэтычныя погляды Скарыны былі заканамерным этапам у развіцці эстэтычнай думкі Беларусі ад яе сярэдневяковых сінкрэтычных форм (старажытнарускае раннехрысціянскае асветніцтва, традыцыі старабеларускай літаратуры, выяўленая ў фальклоры народная эстэтыка) да развітых і адносна дыферэнцыраваных поглядаў на эстэтычныя катэгорыі і асобныя віды мастацтва, асабліва паэзію і красамоўства.

## ПРАБЛЕМА ЛІТАРАТУРНАГА ЖАНРУ У ЭСТЭТЫЦЫ Ф. СКАРЫНЫ

У творчасці беларускага асветніка і першадрукара сфарміраваліся асноўныя жанры беларускай літаратуры XVI — пер-

---

[15] Sarbiewski M. K. De perfecta poesi, sive Vergilius et Homerus. Wrocław, 1954.
[16] Sarbiewski M. K. Praecepta poetica. Wrocław, 1958.
[17] Sarbiewski M. K. Dii gentium... Wrocław; Warszawa; Kraków, 1972.

шай палавіны XVII ст.— прадмова, пасляслоўе, публіцыстыка і сілабічныя «вершы».

Прадмова — гэта кароткі ўступны артыкул, слова да чытача ці нататка аўтара, перакладчыка, рэдактара або выдаўца, змешчаныя ў пачатку кнігі, асобнага літаратурнага твора або навуковага артыкула. Ва ўсходнеславянскім рэгіёне ўпершыню ўзнікла ў сярэдневяковай рукапіснай літаратуры X—XII стст., аднак шырокае распаўсюджанне атрымала толькі ў эпоху Адраджэння ў сувязі з развіццём кнігадрукавання і ростам аўтарскага самаўсведамлення. Ф. Скарына, творча выкарыстаўшы традыцыі айчыннай (старажытнарускай і старабеларускай), заходнеславянскай (чэшскай і польскай) і заходнееўрапейскай літаратур, увёў прадмову ў шырокі ўжытак, надаўшы ёй філасофска-асветніцкі, навучальна-пазнаваўчы і маральна-эстэтычны змест. Ён адмовіўся ад ананімных або стандартна-этыкетных прадмоў сваіх папярэднікаў, усебакова выявіў у гэтым жанры сваю творчую асобу як пісьменніка, перакладчыка, вучонага і выдаўца. Напісаныя Ф. Скарынам 50 прадмоў складаюць аснову яго літаратурна-публіцыстычнай спадчыны, у якой адлюстраваліся арыгінальныя грамадска-палітычныя, філасофскія, прававыя, эстэтычныя, моваznаўчыя і педагагічныя погляды. З іх 21 мае назву «предословие» (радзей «предсловие», «предъсловие»), 25 — «сказание» (пераважна да новазапаветных кніг), 2 названы па-беларуску прадмовамі («предъмолъва» да кнігі «Ісус Навін» і «предмова» да «Дзяянняў св. апосталаў») і 2 не маюць жанравай адзнакі (да Пасхаліі і «Малой падарожнай кніжкі»). Хоць усе яны адпавядаюць паняццю прадмовы, аднак уведзеная Скарынам дыферэнцыяцыя адлюстроўвае пэўныя асаблівасці зместу, структуры і стылістыкі яго твораў. «Предословия», як правіла, маюць тэарэтычна-канцэптуальны характар, большыя памерам і больш падрабязныя. Яны складаюцца з некалькіх частак: абагульняючай ідэі філасофскага, асветніцкага, маральна-дыдактычнага ці тэалагічнага характару («Всяко писание богом водхъненое полезно ест ко учению, и ко обличению, исправлению, и ко наказанию правды». С. 9 [18]); агульнай характарыстыкі зместу, структуры і гісторыі стварэння кніг, яе спецыфікі, яе аўтараў і асноўных герояў («Псалтырь же сама едина вси тые речи в собе замыкаеть...». С. 10; «Книгу сию, рекомую Премудрость, написал ест Филон Философ». С. 34; «Исус Навин был ест воевода людей ізраилевых...» С. 51); шматлікіх гістарычных, філалагічных, юрыдычных і тэалагічных каментарыяў да адпаведнай кнігі, тлумачэнняў этымалогіі іх назваў («А зовется Псалтырь гудба, едина подобна к гуслям». С. 11; «Третии же книгы царя Саломоновы нарицаються Сира спирим, по-латине — Кантикум кантыкорум, еже по-рускы и исказуется

[18] Тут і далей спасылкі ў тэксце даюцца па кн.: Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. У дужках указана старонка.

Песнь песням». С. 26—28); падрабязнай анатацыі, асабліва да кніг апавядальна-гістарычнага ці сюжэтна-фабульнага зместу («Книги первые Моисеевы суть Бытья. В них же пишеть о сотворении света, о зачале людского поколения, о разделении языков и земли, и о роде еврейском...» С. 65); тлумачэнняў адносна прынцыпаў перакладу і выдання («Тоже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить». С. 12). У некаторых прадмовах Скарына вызначае яшчэ кола чытачоў, да якіх звернута кніга («И всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего...» С. 14), яе грамадска-выхаваўчыя і эстэтычныя функцыі («Псалом жестокое сердце мягчить... вкупе тело пением веселить а душу учить». С. 10), аб'яўляе сваё аўтарства, сваю кампетэнтнасць і мэту як пісьменніка, выдаўца і асветніка («Прото ж и я, Франтишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость розмышление смерти и познание самого себе... казал есми тиснути книгу святого Іова рускым языком богу ко чти и людем посполитым к научению». С. 15).

Скарынаўскія ж «сказанні» па зместу і структуры — гэта кароткія прадмовы, абмежаваныя анатацыяй да кнігі і лаканічнымі тлумачэннямі навукова-інфармацыйнага характару («Остров преславный Критъский, еже есть в мори Посредоземном, имея в собе градов сто». С. 148). Дзве «предмовы» Скарыны адрозніваюцца ад «предъсловий» яшчэ большай самастойнасцю адносна біблейскай традыцыі, шырынёй светапогляду, нават пэўным вальнадумствам, што выявілася ў адыходзе ад схаластычнай унітарнасці думкі. Тут асаблівую цікавасць Скарына выявіў да найбольш філасофскай, напісанай у кантэксце элiністычнай культуры кнігі Ісуса Сірахава — прыхільніка навукі і мудрасці, які «болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели в тленных великих царскых сокровищах» (С. 22—23). На яго думку, тут у афарыстычнай форме раскрыта не толькі боская («Саламонава»), але і свецкая («Арыстоцелева») мудрасць. У прадмове да «Дзяянняў св. апосталаў» асветнік дазволіў сабе поруч з апалогіяй свайго калегі па адукацыі, «у лекарскіх навуках доктара» евангеліста Лукі, навукова-эстэтычную ацэнку кніг Новага запавету: на яго думку, Лука пісаў больш глыбока і прыгожа («наистней и наряднеи»), чым іншыя аўтары (С. 117).

Ф. Скарына, праўда, не заўсёды размяжоўваў разнавіднасці сваіх прадмоў, у выніку чаго кароткае ўступнае слова да першай кнігі «Царствы» назваў «сказанием», а такія ж лаканічныя анатацыі да трох наступных кніг «Царстваў» — «предословиями» (С. 43—50). І наадварот, прадмову да «Другога закону Майсея», якая набліжаецца да ўводнага артыкула этыка-прававога зместу, ён назваў «сказанием» (С. 93); а «предмову» да «Дзяянняў св. апосталаў» закончыў словамі: «Конець сказанию» (С. 121). У заўвагах да Пасхаліі і «Малой падарожнай кніжкі» пісьмен-

нік абмежаваўся кароткімі ўказаннямі практычнага і царкоўна служэбнага характару. Можна меркаваць, што канцэптуальна навуковыя прадмовы ён напісаў да менш вядомых для тагачаснага простага чытача, але значных у асветніцка-выхаваўчым аспекце кніг Старога запавету, а кароткія нататкі анатацыйнага зместу — да кніг Новага запавету, добра вядомых хрысціянскаму насельніцтву з евангельскіх і апостальскіх царкоўных чытанняў. Не тлумачыў ён падрабязна таксама спецыфічныя кнігі старажытнаяўрэйскай літаратуры і гісторыі, якія ўспрымаліся ў хрысціянскім свеце пераважна ў іх алегарычным ці сімвалічным сэнсе. Маючы іх на ўвазе, Скарына адзначыў, што кнігі «Быццё», пачатак і канец кнігі «Прарок Езекііль» і «Песня песняў» «суть трудны ко зрозумению». Гэтыя і многія іншыя творы Старога і Новага запаветаў, на яго думку, напісаныя «внутрь и зовнутрь», г. зн. маюць відавочны (літаральны) і апасродкаваны, сімвалічны сэнс; першы вядомы не толькі «доктарам і людзям вучоным», але і «простым і паспалітым» людзям; другі ж, пераносны, сэнс патрабуе пэўных каментарыяў, багата прадстаўленых у прадмовах Скарыны. Кожны раздзел выдадзеных ім кніг пачынаецца са своеасаблівай «мікрапрадмовы» — кароткай анатацыі, у якой вызначаюцца фабула, сюжэт або асноўны змест адпаведнай часткі твора. У выніку такога метаду выдання змест кожнай кнігі пададзены не толькі сваім поўным тэкстам, але і ў кароткім пераказе выдаўца-перакладчыка, часам у яго сімвалічным тлумачэнні, як у анатацыях да раздзелаў паэтычнай кнігі «Песня песняў».

У ідэйна-светапоглядным плане прадмовы Скарыны нясуць на сабе адзнаку пераходнай эпохі ад сярэдневякоўя да новага часу. З аднаго боку, яны грунтуюцца на традыцыях хрысціянскай біблеістыкі і раннехрысціянскай літаратуры, асабліва на пасланнях апосталаў; з другога боку, у адпаведнасці з рэнесансавым светапоглядам Біблія разглядаецца як заканамерны вынік развіцця шматвяковай агульначалавечай культуры, крыніца тэарэтычнай філасофіі і практычнай мудрасці, сукупнасць твораў чалавечага, хоць і боганатхнёнага таленту і розуму, адлюстраванне драматычнага шляху станаўлення духоўных каштоўнасцей чалавецтва. У прадмовах Скарыны ўпершыню ва ўсходнеславянскім рэгіёне ўсвядомлены духоўны пераварот, які прынесла з сабой кнігадрукаванне, вызначана агульначалавечая каштоўнасць здабыткаў сусветнай літаратурнай думкі і значэнне роднай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры. У поўнай адпаведнасці з дэмакратычным светапоглядам асветнік адрасуе свае кнігі не да пэўнай карпарацыі або саслоўя, не да вузкага кола чытачоў, як гэта рабіла большасць сярэдневяковых пісьменнікаў або перапісчыкаў кніг, якія звярталіся да «братии», а ўсяму народу, робіць пры гэтым акцэнт на грамадскай карысці пераважна дэмакратычных («простых», «паспалітых») грамадзян. Ф. Скарына ўзняўся над канфесійнымі спрэчкамі розных

плыней хрысціянства і адпаведна з гэтым прапанаваў свае кнігі не ў якасці царкоўных служэбнікаў, а для самаадукацыі ўсяго народа, шчыраваў для яго асветы, маральнага, грамадзянскага і эстэтычнага выхавання.

Характэрны для эпохі Адраджэння гуманістычны светапогляд, які ўзнік пад уплывам антычнай культуры і хрысціянства і адлюстраваўся ў прадмовах Скарыны, паўплываў таксама на іх стылістыку і літаратурную форму. Тут пісьменнік імкнецца паяднаць бога і чалавека, рэлігію і навуковыя веды, тэалогію і навуку, царкоўнае красамоўства і літаратурную публіцыстыку, школьную дыдактыку і вольнае філасофстваванне. Сінкрэтызм зместу прадмоў, недыферэнцыраванасць у іх яшчэ не развітых у асобныя галіны ведаў і культуры элементаў літаратуры, тэалогіі, філасофскай публіцыстыкі, гісторыі, правазнаўства, лінгвістыкі, эстэтыкі і літаратурнай крытыкі абумовіў шматпланавую, хоць і адносна цэласную, стылістыку.

З боку літаратурнай формы прадмовы Скарыны сталі класічным узорам у гэтым жанры старабеларускай літаратуры. Пісьменнік вядзе з чытачом даверліва-шчырую, а часам і ўзнёсла-ўрачыстую гаворку пра значныя духоўныя каштоўнасці сваёй Радзімы і ўсяго чалавецтва. У іх спалучаецца глыбіня думкі з афарыстычнасцю і мудрай прастатой вопытнага настаўніка і красамоўцы. Асобныя месцы яго твораў (пра патрыятызм, «кохане» да Радзімы і роднае мовы) гучаць, як вершы ў прозе. Там, дзе для выяўлення пачуццяў прыгожага і ўзнёслага рамкі публіцыстыкі аказваюцца недастатковымі, аўтар арганічна ўводзіць у тэксты прадмоў сілабічныя вершы. Так, у якасці эпіграфа да кнігі «Іоў» гучыць наступны верш Скарыны:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.[19]

Вершаваныя фрагменты ёсць у прадмове да кнігі «Эсфір» (у форме разгорнутай прымаўкі) і ў вольным ізлажэнні дзесяці запаведзей Майсея[20]. Мова прадмоў Ф. Скарыны можа быць вызначана як навукова-літаратурны і кніжны варыянт тагачаснай беларускай мовы, якая ў пачатку XVI ст. мела некалькі разнавіднасцей — у залежнасці ад свайго функцыянальнага прызначэння.

Прадмовы Скарыны паслужылі ўзорам для многіх пісьменнікаў і выдаўцоў Беларусі, Расіі і Украіны XVI—XVII стст., якія звярталіся таксама да ўсяго народа, паставілі кнігу на службу айчыннай культуры і роднай мове.

Усе кнігі Ф. Скарыны заканчваюцца яго лаканічнымі пасля-

---

[19] Книга светого Иова. Библия Ф. Скорины. Прага, 1517. Арк. А.
[20] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 74.

слоўямі, якія маюць не толькі «этыкетнае» значэнне, але і характарызуюць яго светапогляд.

Пасляслоўе — дапаўненне да літаратурнага, навуковага ці публіцыстычнага твора, зборніка артыкулаў або публікацыі літаратурных помнікаў, у якім змяшчаюцца высновы ці каментары аўтара, рэдактара, перакладчыка або выдаўца. У адрозненне ад эпілога і заключэння пасляслоўе не з'яўляецца прадаўжэннем фабулы, сюжэта або навуковай праблемы асноўнай часткі кнігі. У паасобных выпадках яно выконвае функцыі прадмовы, напрыклад пасляслоўе Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца да маскоўскага першадрукаванага Апостала. У беларускай літаратуры іх упершыню ў шырокі ўжытак увёў Ф. Скарына, які абапіраўся на традыцыі славянскай рукапіснай кнігі (кароткія заключныя запісы аўтараў ці перапісчыкаў) і заходнееўрапейскай кнігавыдавецкай практыкі. Асноўныя каментарыі да перакладзеных і выдадзеных кніг Скарына змясціў у прадмовах, пагэтаму яго пасляслоўі лаканічныя па форме, без назваў і маюць характар кароткіх допісаў, на якія, аднак, асветнік ускладваў не толькі інфармацыйныя, але і вельмі важныя ідэалагічныя функцыі. Ён напісаў пасляслоўі да ўсіх выдадзеных ім старазапаветных кніг, апрача першай кнігі «Царстваў», да большасці кніг новазапаветных (апрача саборных пасланняў апосталаў Іаана і Якава, другога паслання апостала Пятра), да ўсіх кніг «Малой падарожнай кніжкі» і двух выданняў Псалтыра (1517 і 1522 гг.). Акрамя таго, сярод яго твораў гэтага тыпу ёсць агульныя пасляслоўі да чатырох кніг «Царстваў», да ўсяго Апостала і агульнае падсумаванне да «Малой падарожнай кніжкі». Усяго Скарына напісаў 62 пасляслоўі, якія паводле сваёй структуры падзяляюцца на поўныя, скарочаныя і зусім кароткія. Агульным для ўсіх тыпаў пасляслоўяў з'яўляецца паведамленне аб заканчэнні кнігі («Скончалася Псалтыр сия...». С. 12; «Скончалася книга сия светого Иова...» С. 15; «Доконана ест сия книга Исуса, сына Сирахова...» С. 26; «Кончается книга, рекомая Премудрость...» С. 36; «Доконавается первая часть книг Самуила-пророка...» С. 44; «То ест конець первых книг Моисеевых...» С. 72; «Доконаны суть вторы книги Моисеевы...» С. 80; «Сконаваются книги Даниила-пророка...» С. 106). Найбольш кароткія пасляслоўі (толькі да пасланняў апостала Паўла) абмяжоўваюцца гэтай інфармацыяй адносна заканчэння кнігі («Доконано ест послание перъвое к селунянам светого славного апостола Христова Павла». С. 145). Аднак гэта не толькі тэхнічна-выдавецкая інфармацыя. Паняцце «закончанасці» твора было важным элементам эстэтыкі і паэтыкі рэнесансавай мастацкай культуры, з'арыентаванай на класічную завершанасць твораў.

Тып скарочаных пасляслоўяў мае ў Скарыны некалькі варыянтаў. Адны з іх уключаюць апрача паведамлення аб заканчэнні звесткі пра выдаўца, перакладчыка і рэдактара, пра яго родны горад («...пилностию доктора Франциска Скорины с Полоцка».

С. 157; «...выкладом, пилностию и працею доктора Франциска Скорины с Полоцка-града». С. 121; «...выложено и вытиснено з великою пилъностию доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька». С. 123). У пасляслоўях Скарына называў сябе «в лекарских науках доктором» (С. 50, 60, 72, 88, 92, 99, 112, 156, 157), «в лекарстве и в науках доктором» (С. 100), «в лечебных науках доктором» (С. 158). У двух месцах адзначаецца дзве вучоныя ступені Скарыны — «в науках вызволеных и в лекарстве доктор» (С. 57), «в лекарстве и в науках вызволеных доктор» (С. 126). Урэшце, у двух пасляслоўях аўтар называе сябе «в науках и в лекарстве учителем» (С. 109, 116). Больш падрабязна пасляслоўі змяшчаюць своеасаблівы «сімвал веры» пісьменніка, нярэдка са спасылкай на хрысціянскі догмат траічнасці бога («...с помощию бога в троици единого»... С. 15; «с помощию в троици единого бога и его пречистое матери Марии». С. 26), з указаннем месца выдання («...в старом месте Празском». С. 12, 15, 112; «...в славном старом месте Празском». С. 21, 30, 36; «...в великом старом месте Празском». С. 34, 57; «...во славном месте Виленском». С. 152; «...в великославном месте Виленском». С. 152), дакладнай даты і года выдання («...лета по божьем нарожению тысещного пятьсотого и семогонадесеть, месеца августа, дъня шестаго» — г. зн. 6 жніўня 1517 г. С. 12). Ёсць варыянты пасляслоўя, якія завяршаюцца кароткай малітвай Хрысту («Ему же то буди хвала, честь и поклонение с отцем и святым духом ныне и всегда, и в век веков. Аминь». С. 15), змяшчаюць каментарыі гістарычнага, семантычнага або іншага характару («...Притчи или присловия премудраго Саломона, царя Израилева, сына Давыдова, он же был царем в Ерусалиме». С. 21; «...книга Исуса, сына Сирахова, ерусалимлянина, рекомая Панаретос или Екллезиастикус, еже іскazуется всех добрых нравов сокровище или Церковник». С. 26; «То ест конець первых книг Моисеовых, еже от еврей называются Брешис, по-гречески иже и по-латине именуются Енезеос, а по-руски — Бытья». С. 72). Урэшце, поўныя пасляслоўі Скарыны змяшчаюць у сабе апрача адзначаных вышэй частак яшчэ тлумачэнні пра мэту выдання кнігі, яе грамадзянскае значэнне, асветніцкую і духоўную каштоўнасць («...Песнь песням, напред ко чти и к похвале богу в троици единому и его пречистой матери девици Марии и всем небесным чином, святым и святицам божиим, и людем посполитым всем к пожитъку». С. 34; «...и людем посполитым к доброму научению». С. 50; «...к науце людем посполитым рускаго языка». С. 57).

Такім чынам, у скарынаўскіх пасляслоўях выявіліся характэрныя рысы літаратуры і грамадскай думкі на Беларусі пераходнага перыяду ад сярэдневякоўя да новага часу. Погляд на Біблію як на крыніцу гуманітарных навук і практычнай філасофіі, скіраванай на духоўнае ўдасканаленне ўсяго народа і кожнага чалавека паасобку, быў традыцыйным для хрысціянскага

асветніцтва ўсходнеславянскага рэгіёна. Ад сярэдневяковай традыцыі ідзе таксама звычай пачынаць і канчаць кожную сур'ёзную справу падзячнай малітвай адзінаму богу ў трох іпастасях. Разам з тым у пасляслоўях Скарыны відавочнае ў параўнанні з сярэдневяковай літаратурай узмацненне гістарычнай свядомасці, погляд на духоўную працу, у дадзеным выпадку на літаратуру і кнігадрукаванне, як на значную гістарычную падзею, што падкрэсліваецца дакладнай фіксацыяй даты выхаду ў свет кнігі, дэмакратычнай выдавецкай праграмай, арыентацыяй на просты народ. І разам з тым — абвостранае пачуццё непаўторнасці і значнасці сваёй творчай асобы, нацыянальная самасвядомасць, праслаўленне сваёй «вялікай» (уся Русь) і «малой» (г. Полацк) радзімы. У пасляслоўях Скарыны Полацк упамінаецца каля 50 разоў з дабаўленнем эпітэту «слаўны». Гэта дае падставу аднесці скарынаўскія пасляслоўі да нацыянальнай літаратуры у якой яскрава выявіліся рысы рэгіянальна своеасаблівага ўсходнеславянскага Адраджэння.

У якасці выдаўца-асветніка Ф. Скарына стаў заснавальнікам яшчэ аднаго «мікражанру» ў беларускай літаратуры — анатацыі. Некаторыя з іх (пераважна да цэлых кніг) увайшлі ў склад прадмоў. Большасць сваіх кніг ён адрасаваў шырокаму чытачу, раскрываў іх структуру, сюжэт, кампазіцыю. Так, напрыклад, пра кнігу «Іоў» ён пісаў: «Делится же сия книга на главы, а главы ся делять на стихи, по тому же, яко и Псалтыр ся делить. Поченши от третиея главы даже до остаточное, вся сия книга стихами разделена ест, яко же чточи поразумееш. И всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего» [21]. Або да кнігі «Прытчы Саламона»: «Сия книга, рекомая Притчи или Присловия премудраго Соломона, сына Давыдова, царя Израилева, имать в собе глав тридесять и одну. Пишеть же в них царь Соломон о мудрости, о страху господнем, о служобе божией, о науце, о карании злых нравов и о научении цнот и добрых обычаев, о хитростях женъских, о царех добрых и злых, о справедливости, о судех, о речах противных, о ненасыщеных, о зверех некоих и о дивном прирожению их, и о речах трудных к познаванию и о иных многих разноличных речах» [22]. У прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» гутарка ідзе пра найбольш важныя духоўныя каштоўнасці — мудрасць, маральнасць і святасць: «Делится же сия книга на двое,— піша Ф. Скарына.— Едина часть от зачала книгы даже до четыредесят четвертое главы. А в той части приводить нас к мудрости и к добрым обычаем путем разуму. Вторая же часть починается от четырдесят четвертое главы даже до конца. В сей же части приводит нас к святости и к добрым делом путем прикладу...» [23] Адносна кнігі «Эклезіяст»: «В сей

[21] Книга светого Иова... Прага, 1517. Л. 2 адв.
[22] Притчи Саломона. Библия Ф. Скорины. Прага, 1517. Л. 4.
[23] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 26.

книзе, рекомой Екклесиаст или Соборник, пишет о науце всех людей посполите сущих в летех мужства...»[24] Анатацыі займаюць прыкметнае месца ў кампазіцыі Скарынавых прадмоў і пасляслоўяў.

Скарынаўскія анатацыі з асаблівай яскравасцю сведчаць пра асветніцкі, «вучыцельны» характар першадрукаваных беларускіх кніг. Па сутнасці, іх змест двойчы даводзіўся да чытача: у пераказах-анатацыях асветніка і ў поўных выданнях. Даследчыкі яшчэ не звярнулі ўвагі на тую акалічнасць, што Ф. Скарына пісаў (на тагачаснай беларускай мове) анатацыі (т. зв. кантыкуляцыі) да ўсіх сваіх кніг і да кожнага з іх шматлікіх раздзелаў. У сваёй сукупнасці яны поўнасцю пераказваюць змест старазапаветных біблейскіх кніг, Апостала і «Малой падарожнай кніжкі». Як правіла, асветнік тут утрымліваецца ад сваіх інтэрпрэтацый і ацэнак, абмяжоўваючыся пераказам сюжэтаў і дамінуючых ідэй. Ёсць, аднак, выключэнні, на якія ніжэй будзе звернута ўвага.

Разгледзім асаблівасці скарынаўскіх анатацый на прыкладзе выдадзенай ім кнігі «Іоў». Спачатку пісьменнік пераказвае схему сюжэта твора: «В сей книзе светого Иова суть глав четыредесять и две. Пишеть же в них о его терпении, и о его совершении, и яко жена искушала его. О гадании теже его со трема другы, они же были пришли посетити его. И ясно им поведел о из мертвых въставании. Потом Елиуд с ним говорил. А потом сам господь из бури облачное ему чудеса поведал есть»[25]. Як бачым, тут ёсць не толькі пераказ, але і хрысціянская інтэрпрэтацыя слоў героя кнігі, як будучага ўваскрэсення («о из мертвых въставании»). Далей ідуць анатацыі да кожнага з раздзелаў кнігі. Вось кароткі пераказ зместу першага раздзела: «Поведаеть, яко богат был светыи Иов. И о чадех его, и о пированіи их. Яко дияволъ з попущения божия погубил все имение его и чада его» (С. 4).

У сваёй сукупнасці анатацыі ўсіх раздзелаў ствараюць своеасаблівую поліфанію галасоў-думак, раскрываючы дыялагічнасць і супярэчлівасць ісціны, праўды, дабра і красы. Кожны персанаж сцвярджае тую ці іншую грань гэтай цэласнасці ў яе палемічнай завостранасці. Так, галоўны герой, шматпакутны Іоў акцэнтуе ўвагу на трагічным асцекце жыцця: «Иов являеть, иже сегосветное житие ест клопотно, и смерть скоро приходить, и несть навращения» (арк. 11 адв.). Трое яго сяброў, якія наведалі хворага, каб суцяшаць у вялікіх пакутах, імкнуцца апраўдаць дысгармонію і несправядлівасць зямнога быцця вышэйшай справядлівасцю нябеснай, заклікаючы пакутніка Іова да пакаяння, цярплівасці і малітвы, выкрываючы зло, прадказваючы пагібель

[24] Еклезиастес, или Соборник премудраго царя Саломона. Библия Ф. Скорины. Прага, 1518. Л. 1.

[25] Книга светого Иова... С. 4. Далей лічбы ў дужках абазначаюць нумар аркуша гэтага выдання.

грэшнікаў і выратаванне праведнікаў, трактуючы пакуты праведных як боскае выпрабаванне. Яны пранікліва кажуць: «о справедливости божией, яко господь бог своих казнить и потом жалуеть и избавляет» (9); «бог возводить смиреныя на высокость и немощные приводить к полному здравию» (9 адв.). Адзін з іх «поведаеть великоможность божию, и доводить того, иже ни един человек пред богом не может чист быти» (31).

Аднак Іоў перамагае іх у гэтай спрэчцы, ён схіляецца да крайняга песімізму і нават багаборства. «Стошнилося Иову — живу быти»,— піша Скарына ў сваіх анатацыях. Іоў шкадуе, што нарадзіўся на свет, дзе пакутуюць добрыя і святкуюць перамогу злыя людзі. Перад тварам гэтай усеагульнай несправядлівасці, адсутнасці адпаведнага «воздояния» кожнаму па справах яго знікае розніца паміж дабром і злом. І тут у дыспут уключаецца пяты субяседнік «именем Елиуд», каб падвесці вынікі дыялогу і раскрыць ісціну ў яе цэласнасці (у адпаведнасці з вядомай сентэнцыяй-пагаворкай: «Истина глаголит устами младенца»): «Елиуд почал говорити ко Иову поведаеть ему, иже бог, кого караеть, учить и милуеть. И о воплощении господа нашего Исуса Христа пророкуеть» (39). Тут «пророковение» героя — хрысціянская інтэрпрэтацыя Скарынам старазапаветнай кнігі. Сутнасць аргументаў Еліуда такая: «Людская дабрата богу не помагаеть, но самому человеку. Те же злоба не досажаеть богу, но токмо человеку» (42). А карамі сваімі, няшчасцямі і хваробамі бог напамінае не злым людзям, а добрым, каб выратоўваліся ў духоўным узыходжанні ад зямлі да неба. Адным словам, чалавек нараджаецца для працы і пакуты, падобна іскрам, каб узнімацца ўверх.

У анатацыях да кнігі «Эклезіяст» асветнік падкрэслівае перавагу духоўных каштоўнасцей над матэрыяльнымі: у кнізе гутарка ідзе «о суете и о неуставичности сего света, и о праздных людъскых пытаннях», пра марнасць багацтва, якое не ідзе на патрэбу людзям, мізэрнасць зямной славы, зменлівасць людскіх інтарэсаў і жыццёвых арыентацый; пра тое, «иже духу не можем возбранити», бо сутнасць яго — свабода[26]. Адносна 11-га раздзела гэтай кнігі Скарына заўважае, што мы тут «имамы науку добрую розсевати» (16). Пазней вобраз сяўца кніжнай мудрасці выкарыстаў рускі першадрукар Іван Фёдараў. Адносна кнігі «Ісус Сірахаў» Ф. Скарына піша, што ў ёй даследуюцца вытокі («зачала») мудрасці, справядлівасці, сціпласці, літасці, дабраты, якая забараняе радавацца смерці ворагаў сваіх[27]. Такім жа чынам анатуюцца ўсе іншыя кнігі Ф. Скарыны.

Важнае месца ў літаратурнай спадчыне Ф. Скарыны заняла публіцыстыка. Яна характарызуецца цэласным, комплексным

---

[26] Еклезиастес, или Соборник... Л. 3, 6, 7, 8.

[27] Книга Исуса Сирахова, рекомая Панаретос Еклесиастыкус, или Церковник. Прага, 1517. Л. 1—3, 11, 14.

ідэйна-накіраваным і адкрыта тэндэнцыйным абмеркаваннем тых бакоў сацыяльнага быцця і культуры, якія выклікаюць найбольшую цікавасць грамадскай думкі, найбольш поўна выяўляецца ў публіцыстычных жанрах (артыкул, нарыс, фельетон, рэцэнзія, памфлет), але разам з тым арганічна пранікае ў творы мастацкай і навуковай літаратуры, тэатральнага, аратарскага, выяўленчага і іншых відаў мастацтва, надаючы ім пафас публіцыстычнасці, палемічнай завостранасці, адкрытай ці завуаляванай барацьбы за тыя ці іншыя грамадскія ідэалы.

Асабліва вялікае значэнне публіцыстыка набыла ў эпоху Адраджэння, калі адкрыццё кнігадрукавання дало магчымасць звяртацца да масавага чытача. Ф. Скарына, адрасуючы свае кнігі «люду простаму, паспалітаму», звяртаўся да яго з прадмовамі і пасляслоўямі, у якіх па-рэнесанснаму ўраўнаважаныя, стрыманыя публіцыстычная страснасць і аратарская вобразнасць займаюць значнае месца. Беларускі першадрукар стаў заснавальнікам навукова-асветніцкай маральна-дыдактычнай і філасофскай публіцыстыкі ў беларускай літаратуры.

Ф. Скарына як публіцыст меў сваіх папярэднікаў і паслядоўнікаў. Айчынныя вытокі яго публіцыстыкі трэба шукаць у старажытнарускай і старабеларускай літаратурах (элементы публіцыстычнасці ў «Слове о законе и благодати» Іларыёна, у «словах», павучаннях і пропаведзях Кірылы Тураўскага, беларуска-літоўскіх летапісах XII—XVI стст., рукапісных прадмовах і пасляслоўях і інш. Разам з тым, атрымаўшы адукацыю ў лепшых для свайго часу еўрапейскіх універсітэтах, ён добра ведаў багатыя на публіцыстычнае слова антычнае красамоўства (палкія прамовы Дэмасфена, Цыцэрона і інш.), візантыйскую і лацінскую патрыстыку, глыбока засвоіў біблейскую прапаведніцкую традыцыю (яркую вобразнасць старазапаветных пракрокаў, «прытчавую» сімволіку евангелляў і апостальскіх пасланняў і г. д.). Апрача таго, на фарміраванне Ф. Скарыны як вучонага і публіцыста паўплывала аратарская проза еўрапейскіх рэнесансавых асветнікаў і дзеячаў рэфармацыі (Ульрыха фон Гутэна, Эразма Ратэрдамскага і інш.). Усё гэта дазволіла яму арганічна спалучыць у сваіх творах ідэі, вобразы і публіцыстычныя выяўленчыя сродкі айчыннай, візантыйска-хрысціянскай і заходнееўрапейскай літаратур.

Літаратурная спадчына Скарыны захавала ў сабе стылявыя адзнакі сярэдневяковага сінкрэтызму: у ёй спалучаюцца традыцыйная тэалогія з характэрнымі для новай эпохі элементамі вальнадумства, спецыфічны для рэнесансавых гуманістаў жанр папулярнага тлумачэння старажытных тэкстаў, узнёслае красамоўства і першыя спробы вершаскладання. Разам з тым яго творчасць вызначаецца ярка выражанай публіцыстычнасцю — імкненнем спалучыць кнігадрукаванне, тэксталогію, філасофскую, літаратурна-мастацкую і нават тэхналагічную інтэрпрэтацыі біблейскіх кніг з актуальнымі нацыянальна-патрыятычнымі,

маральна-выхаваўчымі, прававымі і асветніцкімі праблемамі свайго часу. Ф. Скарына выступае ў сваіх творах не прафесійным тэолагам, а хутчэй асветнікам, грамадскім дзеячам і папулярызатарам айчынай і агульначалавечай культурнай спадчыны; пагэтаму ўсе пытанні тэалогіі традыцыйнае хрысціянскае асветніцтва, агульнанародная праўда былі тым, чым для старажытных грэкаў калакагатыя — адзінства ісціны, дабра, справядлівасці і красы, адным словам, нацыянальна-своеасаблівым паняццем дасканаласці. З яго пачаў беларускі асветнік у прадмове да Псалтыра — сваёй першай кнігі: карысць «усякага пісання», на яго думку, у тым, што яно служыць «ко обличению, исправлению и наказанию правды», а ў канчатковым выніку — для духоўнага ўдасканалення чалавека[28]. У апалогіі біблейскіх псалмоў Скарына «праецыраваў» на іх сімвалічны змест свой ідэал людской дасканаласці: «Там ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум доскональный. Там ест милость и друголюбство без лести, и все иншии добрые нравы...»[29]

Амаль у кожнай прадмове Скарына звяртаецца да чытача з вобразным публіцыстычным словам. Кнігу «Іоў», на яго думку, патрэбна чытаць кожнаму чалавеку, бо яна — люстэрка нашага жыцця і лекі для душы (С. 14). Прытчы карысны ўсякаму чалавеку — мудраму і нямудраму, багатаму і беднаму, маладому і старому[30]. Кніга Ісуса Сірахава служыць для царкоўнага і свецкага чытання, бо мае ў сабе «Саламонаву і Арыстоцелеву боскую і жыцейскую мудрасць»[31]. Аповесць пра Юдзіф, якая выратавала свой горад ад ворага, ён рэкамендуе трымаць перад сабою як узор патрыятызму, самаахвярнасці і бескарыслівага служэння грамадскаму дабру. У прадмове да гэтай кнігі звяртаецца Скарына да чытача з узнёслым публіцыстычным словам пра любоў да радзімы як самае натуральнае і першаснае пачуццё ўсіх жывых істот, а тым больш надзеленага розумам і сумленнем чалавека[32]. Публіцыстычнай насычанасцю вызначаецца прадмова Скарыны да кнігі «Другі закон»: яе маральна-прававую праблематыку асветнік выкарыстаў для таго, каб данесці да чытача свае грамадска-палітычныя погляды і гуманістычную этыку. А ў прадмовах да кнігі «Эсфір» асноўны маральны прынцып набывае форму вершаванай прымаўкі, сутнасць якой такая: не капай яму для другога, бо сам упадзеш у яе. Звяртаючыся ў сваіх прадмовах не да спецыялістаў — вучоных тэолагаў ці філосафаў, а да радавых чытачоў, Скарына надаў ім лёгкую для разумення навукова-папулярную, па сутнасці, публіцыстычную форму. З гэтай жа мэтай ён адмовіўся ад элітарных моў свайго

---

[28] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 9, 153.
[29] Там жа. С. 10.
[30] Книга светого Иова... Л. 3.
[31] Книга Исуса Сирахова... Л. 1—2.
[32] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 59.

часу — лацінскай, грэчаскай і царкоўнаславянскай, напісаўшы свае каментарыі на тагачаснай беларускай мове. Нават кананічныя біблейскія тэксты ён наблізіў да вуснай гутаркі, тлумачыў на палях кнігі асобныя словы арыгінала, і, што асабліва важна, падаў да ўсіх раздзелаў біблейскіх кніг свае анатацыі, выклаўшы змест Бібліі папулярна і на зразумелай простаму народу мове. Так ён сцвярджаў духоўную каштоўнасць роднай мовы, неаднаразова даводзячы гэту думку ў публіцыстычных зваротах да чытачоў [33]. Каб надаць сваёй публіцыстыцы пераканаўчасць і прапагандыскую эфектыўнасць, ён выкарыстоўваў выяўленчыя сродкі тагачаснага свецкага красамоўства, народныя прымаўкі. Ф. Скарына шырока выкарыстоўвае стылістычныя фігуры — паўторы (падваенні, анафары, градацыі, супастаўленні), рытарычныя воклічы і запытанні («Псалом єст щит против бесовским нащъным мечтанием и страхом...»; «Псалом ест вся церькви единый глас...»; «Псалом жестокое сердце мягчить...»; «Псалом ест ангельская песнь...» (С. 10). Або: «И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там величества божия и хвалы его?» (С. 10)). Гэтыя вобразна-выяўленчыя сродкі рытмізуюць яго прадмовы і пасляслоўі, у якіх спалучаюцца асаблівасці пісьмовай і гутарковай мовы.

## ЭСТЭТЫЧНЫЯ ПАНЯЦЦІ І КАТЭГОРЫІ Ў ТВОРЧАСЦІ Ф. СКАРЫНЫ

Наш папярэдні аналіз культуры і літаратурна-эстэтычнай думкі Беларусі ў эпоху Скарыны дае падставы характарызаваць іх як кампрамісныя ў сваёй аснове, нацэленыя на сінтэз элементаў антычнага эстэтызму, хрысціянскага спірытуалізму і рэнесансавага гуманізму на аснове айчынных традыцый, выпрацаваных у Старажытнай Русі і ў перыяд станаўлення беларускай народнасці (X—XV стст.). Для пераходнай ад сярэдневякоўя да новага часу эпохі Рэнесансу якраз характэрны кампраміснасць, развіццё новых ідэй у рамках традыцыйных форм, тэм і сюжэтаў, пераакцэнтацыя ўвагі з тэалагічнага на чалавечы, гуманістычны аспект Бібліі і іншых фундаментальных духоўных каштоўнасцей хрысціянскага свету. Праўда, у сваім руху «ўшыр», у новыя рэгіёны рэнесансавая культура не была аднатыпнай: чым далей ад «эпіцэнтру» італьянскіх гарадоў XV—XVI стст., тым больш «размытымі» аказаліся яе свецкія, безрэлігійныя тэндэнцыі.

У адносна шматлікай даследчай літаратуры пра творчасць і светапогляд беларускага першадрукара і асветніка ўсё яшчэ не пераадолены пэўныя антыноміі. Яны вынікаюць з таго, што Скарына арыентаваўся не на свецкую навуку і антычную культуру, што было характэрна для заходнееўрапейскіх рэнесансавых вучоных, пісьменнікаў і мастакоў, а на Біблію — традыцыйную

[33] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 11, 12, 15, 59, 60.

«высокую» навуку пра бога і чалавека, сусвет і грамадства, завершаную сістэму тэарэтычнага і практычнага розуму, вышэйшую маральную філасофію. Пагаджаючыся ў асноўным у поглядзе на Скарыну як дзеяча і мысліцеля рэнесансавага тыпу, даследчыкі звычайна імкнуліся аддзяліць прагрэсіўнае, асветніцкае «зерне» ў яго светапоглядзе ад тэалагічных «заблуджэнняў» і схаластычнай арыентацыі на аўтарытэт «Свяшчэннага пісання».

У апошнія гады стаў прыкметным адыход найбольш дасведчаных скарыназнаўцаў ад гэтага занадта прасталінейнага супрацьпастаўлення сярэдневяковай і рэнесансавай культур, хрысціянскай і свецкай філасофіі; своеасаблівасць філасофствавання айчынных дзеячаў скарынаўскага тыпу імі вызначаецца як пэўны сінтэз сярэдневякова-хрысціянскіх, антычных і рэнесансава-гуманістычных ідэй, і ў гэтым бачацца кампраміснасць, незавершанасць і пэўная нявыяўленасць рэнесансавых форм культуры на Беларусі XVI ст.[34] Гэта, безумоўна, так, але тут не ўся, а толькі адзін бок ісціны. Нельга ўяўляць культурна-гістарычную сітуацыю эпохі Рэнесансу як поўны адказ ад духоўных каштоўнасцей сярэдневякоўя, поўную элімінацыю рэлігійнай свядомасці і замену яе свядомасцю свецкай, навукова-філасофскай, нават атэістычнай. Рэнесансавыя пісьменнікі, мастакі, мысліцелі наблізілі хрысціянскую рэлігію, Біблію, Хрыста і Багародзіцу да чалавека, але не адказаліся ад гэтых традыцыйных духоўных каштоўнасцей, за выключэннем хіба што паасобных, звычайна скрытых атэістаў, якія, аднак, не зрабілі прыкметнага ўкладу ў культуру свайго часу. У святле дыялектычнага прынцыпу гістарызму Біблія — гэта тэалагічна апрацаваны сінтэз старажытнай мудрасці, пачынаючы ад фальклора, старажытнаўсходніх прадбачанняў у форме міфалагічна-вобразных прароцтваў і канчаючы эліністычнай і раннехрысціянскай маральнай філасофіяй. Аналізуючы Біблію як тварэнне чалавечага таленту і розуму, узнаўляючы яе аўтэнтычны змест на роднай мове, Ф. Скарына рабіў агульную для рэнесансавых гуманістаў справу[35].

Аналіз скарынаўскіх эстэтычных паняццяў і катэгорый сведчыць пра тое, што беларускі асветнік-гуманіст імкнуўся спалучыць у гарманічную цэласнасць хрысціянскі маральны рыгарызм з рэнесансавым эстэтызмам. Паняцце прыгажосці, або красы, і яго мадыфікацыі ўжываліся ім пераважна ў разнастайных (эстэтычных, этычных, утылітарна-практычных і інш.) атрыбутыўных значэннях, а не ў сэнсе гранічна шырокай філасофскай катэгорыі, як гэта характэрна для тэарэтычнай эстэтыкі. Аднак і ў такой тэарэтычна не завершанай форме мысліцель ужо валодаў даволі разнастайным дыяпазонам сэнсавых адценняў ка-

[34] Подокшин С. А. Философская и общественно-политическая мысль эпохи Возрождения в Белоруссии.: Автореф. дис. ... д-ра филос. наук. Мн., 1985.

[35] Конон В. М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1978. С. 33.

тэгорыі прыгожага, спалучаючы ў сваіх эстэтычных поглядах элементы народна-сузіральнай (фальклорнай), хрысціянска-рэлігійнай, антычнай і рэнесансавай эстэтыкі.

У традыцыях народнай эстэтыкі Скарына ўслед за хрысціянскай выкарыстоўваў паняцце духоўнай красы ў значэнні цэласнага, духоўна-прыроднага праяўлення жыцця. Разуменне красы як «душы», або жыватворнага пачатку быцця адчуваецца ў прыўзнятым, жалобным трапары на ўкрыжаванне Хрыста: «Стоячи Пречистая у креста и видячи своего сына на древе, рыдаше вопиюще: Увы мне, прекрасное солнце, како зойде твоя красота» [36]. Прызнавалася Скарынам эстэтычная каштоўнасць фізічнай, прыроднай, або «цялеснай» красы: ёсць людзі, адзначае ён у прадмове да кнігі «Эклезіяст», якія бачаць шчасце сваё «в красоте и крепости телесной» [37]. Апрача свайго літаральнага, так сказаць, паверхневага значэння гэта паняцце мела таксама сімвалічны сэнс адраджэння да новага жыцця. У анатацыі да апошняга раздзела кнігі «Іоў», у якім гутарка ідзе пра вяртанне героя праз бога да ўзбагачанага «сугубо» жыцця, Ф. Скарына зазначае: «И не суть знайдены жены красныя, яко дщеры Иовы на всей земли» [38]. Пра сімвалічнае значэнне красы гутарка ідзе таксама ў прадмове да кнігі «Лічбы», дзе зазначаецца, што 20-ты стан «сыноў Ізраілевых» размясціўся «у горы Сафер, еже исказуется гора красоты» [39].

Прымяняецца Ф. Скарынам паняцце «красный» у сярэдневяковым і рэнесансавым значэннях боскага атрыбута — дасканаласці тварца і яго тварэння. Пра гэта сведчыць яго анатацыя да трэцяй кнігі «Эклезіяст»: «Иже вси речи, еже суть на свете, час свой имеють, и часом своим меняются. И господь бог все учинил красно в час свой» [40]. Але краса, як і іншыя «рэчы» пад сонцам, мае свой абмежаваны час квітнення і смерці. Гэтым элегічным настроем хуткаплыннасці жыцця, мімалётнасці яго красы пранікнута ўся кніга «Эклезіяст». Пра гэта кажа першадрукар у анатацыі да яе: «И познан еси, иже ничто ест *лепшего,* токмо веселитися человеку в деле своем, и то бы имел *за долю свою»* [41] (Курсіў наш.— *У. К.*). Паняцце «лепшы» (дарэчы, беларускае слова) мае не толькі этычны, утылітарны, але і эстэтычны сэнс: гутарка ідзе пра свайго роду калагатыю — адзінства дабра і красы, якое мысліцца як радаснае прыманне кожным чалавекам быцця і сваёй долі незалежна ад наяўных матэрыяльных даброт і талентаў. У традыцыі старажытнарускага разумення гэтага паняцця антычнай эстэтыкі як адпаведнасці ці год-

---

[36] Малая подорожная книжка (Выданне Ф. Скарыны). Вільня, 1522. № 13.

[37] Еклезиастес, или Соборник... Л. 2 адв.

[38] Книга светого Иова... Арк. 51.

[39] Книги четвертые Моисеевы, зовомые Числа (Выданне Ф. Скарыны). Прага, 1519. Л. 4.

[40] Еклезиастес, или Соборник... Л. 6.

[41] Там жа. Л. 6 адв.

насці адносна «чыну» тлумачыў Скарына ў анатацыях паасобныя фрагменты Бібліі, напрыклад сёмы раздзел «Эклезіяста»: «Иже не годится людем искати больших и вышших речей над чин свой, и что собе болей имают выбрати и от чего отдалятися»[42]. У скарынаўскім тлумачэнні «иже мудрость человечая на лици является»[43] нельга не заўважыць глыбокага, хоць яшчэ эскізнага вызначэння прыгажосці як пластычна «яўленай» духоўнасці.

Варта звярнуць увагу і на старажытнарускую традыцыю ў скарынаўскім тлумачэнні катэгорыі прыгожага, якое разумелася як упрыгожванне разнастайных з'яў прыроды, грамадскага быцця і людской дзейнасці каштоўнасцямі вышэйшага, духоўнага парадку. У гэтым сэнсе разумелася Скарынам эстэтычная функцыя паэзіі і музыкі псалмоў, якія «всея церькви единый глас, свята украшаеть»; псалом разам з тым «женам набожьная молитва и покраса»[44]. У блізкім да гэтага традыцыйнага для старажытнарускай хрысціянскай эстэтыкі значэнні выкарыстоўваліся Скарынам паняцці дасканалага, «чуднага» (або «пречуднаго») «наряднаго», калі гутарка ідзе «О царстве Саломонове и о пречудных делех его» або «О житии и о чудных делех Елисея-пророка», пра «чудное к римляном послание» апостала Паўла[45]. Літаратурны, свецкі аспект прыгажосці падкрэсліваецца ім у вызначэнні старажытных грэкаў як «мудрелюбцев и краснословцев»[46].

Супрацьлеглае прыгажосці паняцце *агіднага* Ф. Скарына звычайна абазначаў тэрмінамі «прыкрый», «прыкро», «неуставичность», пры гэтым яны мелі адначасова значэнне негатыўнай маральнай ацэнкі, а ў асобных выпадках і грамадска-бытавой ці нават касмічнай неўпарадкаванасці. Выпрабоўваючы сваіх братоў у Егіпце, Іосіф «прикро к ним молвил, они же молилися ему»[47]. Пра змест першага раздзела кнігі «Эклезіяст» пісьменнік паведамляе: «О суете и о *неуставичности* сего света, и о праздных людскых пытаниах»[48]. Адмоўная маральна-эстэтычная ацэнка даецца ім таксама словам «мерзость»[49].

Катэгорыя ўзнёслага і нізкага ў адпаведнасці з традыцыяй сярэдневяковай хрысціянскай эстэтыкі прымянялася Скарынам часцей за ўсё ў якасці боскага, нябеснага атрыбута. Ён карыстаецца шматлікімі яе сінонімамі і «мадуляцыямі», як, напрыклад, «высокость», «великоможность», «превышный», «великая высокость», «превеликий», «навышший», «повышение», «безчис-

[42] Еклезиастес, или Соборник... Л. 10 адв.
[43] Там жа. Л. 8.
[44] Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. С. 10.
[45] Там жа. С. 46, 49, 129.
[46] Там жа. С. 130.
[47] Библия руска выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька. Прага, 1519. Л. 87.
[48] Еклезиастес, или Соборник... Л. 3.
[49] Притчи Саломона... Л. 29 адв.

ленность», «велеможность», «пониженный» і да т. п. Патрэбна, адзначае ён у прадмове да кнігі «Прытчы», «милостивого бога хвалити по тому, яко же приналежить на *великую высокость* и велеможность имени его святого» [50]. У сваіх пакутах, зазначае пісьменнік, Іоў «являеть великоможность божию» [51]. Адносна астраноміі, адной з сямі «свабодных навук»: «Более воистинну чудитися (здзіўляцца) превеликой божией моци мусиш, нижли учитися» [52]. У прадмове да кнігі «Іоў» Ф. Скарына развівае традыцыйную хрысціянскую дыялектыку ўзаемапераходу супрацьлегласцей, малога і вялікага, нізкага і высокага: той, хто непрыкметны ў сістэме сацыяльна-бытавой іерархіі, паднімаецца на вышыню ў духоўным подзвігу; так бог «возводить смиренныя на высокость, и немощные приводить къ полному здравию» [53]. Не толькі бог, але і мудрасць «узносіць паніжанага», як зазначае Скарына ў анатацыі да дзесятага раздзела кнігі «Ісус Сірахаў». Для Ф. Скарыны характэрна апалогія розуму, культуры, мудрасці, якая «высокость свою и славу» з'яўляе нам у кнізе «Ісус Сірахаў» [54]. Ёсць у Скарыны і зусім свецкі, грамадзянска-патрыятычны, спецыфічна рэнесансавы сэнс паняцця ўзнёслага і вялікага. Маюцца на ўвазе велічальныя тытулы родным гарадам Полацку, Вільні і Празе: яны называюцца ў яго творах «вялікімі» і «вялікаслаўнымі». Урэшце, часам сустракаецца ў яго і агідны, або камічны аспект высокага, асабліва ў тых выпадках, калі гутарка ідзе «о повышении безумного (г. зн. дурнога, недалёкага чалавека.— *У. К.*) и раба» [55].

Катэгорыя трагічнага прадстаўлена ў літаратурнай спадчыне Ф. Скарыны паняццямі «беды и немоци», «короткость и беда живота человеческого», «терпение» і інш. Згодна з хрысціянскімі традыцыямі, разуменне трагічнасці жыцця ўваходзіла ў паняцце мудрасці. Пра тое, што наш пісьменнік і мысліцель прытрымліваўся гэтай традыцыйнай для хрысціянскай эстэтыкі канцэпцыі трагізму, сведчаць яго заключныя словы ў прадмове да кнігі «Іоў»: «Прото ж и я, Франтишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, *иже ест наивышшая мудрость розмышление смерти* (курсіў наш.— *У. К.*), и познание самого себе, и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу святого Іова рускым языком богу ко чти и людем посполитым к научению» [56]. Супрацьлеглае трагічнаму паняцце камічнага не атрымала выразнага адлюстравання ў яго творах, і тут нельга не заўважыць хрысціянска-рыгарысцкай арыентацыі мысліцеля.

---

[50] Притчи Соломона... Л. 4.
[51] Книга светого Иова... Л. 13 адв.
[52] Библия руска... Л. 4.
[53] Книга светого Иова... Л. 9 адв.
[54] Книга Исуса Сирахова... Л. 19 адв., 38 адв.
[55] Еклезиастес, или Соборник... Л. 15.
[56] Книга светого Иова... Л. 2 адв.

Згодна з тагачаснай біблеістыкай, Ф. Скарына прыпісваў біблейскую кнігу «Прытчы» цару Саламону. У самой жа гэтай кнізе ён выдзяляў тры часткі: павучанні ў форме бацькоўскіх маральна-этычных настаўленняў сыну; розныя па зместу прытчы, кожная з якіх мае свой закончаны змест, кантэкстуальна не звязаны з папярэднімі і наступнымі аднароднымі творамі; урэшце, эзатэрычныя па зместу «прыслоўі», сабраныя пасля смерці Саламона старажытнымі вучонымі. У высакаўзнёслым стылі пісаў Скарына пра гэты карысны для ўсіх чытачоў жанр — для мудрых і неадукаваных, багатых і бедных, маладых і старых: «У гэтых прытчах схавана мудрасць, як бы моц у дарагім каменні, як золата ў зямлі і ядро ў арэху» [57]. Асабліва рэкамендаваў іх пісьменнік для маральнага ўдасканалення моладзі. Ён удакладняў, што прытчы разлічаны найбольш для маладых, у той час як кніга «Эклезіяст» — для людзей сталых і з вялікім духоўным вопытам.

Якімі ж яшчэ літаратурна-эстэтычнымі паняццямі карыстаўся Ф. Скарына? Вялікае значэнне ён надаваў жанру *прытчы*; адным з першых у славянскай навуцы звярнуў увагу на яе сімвалічны сэнс і ролю ў папулярызацыі маральна-філасофскай мудрасці. «Притчи же,— пісаў ён,— нарицаются еврейским языком масшлоф, а греческим — параболе, па-латине же — провербия, а по-русқы и — притчи, или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и навуку знаменують а иначей ся разумеють, нажели молвены бывають, и больши в собе сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть» [58].

У прадмове да ўсёй «Бібліі рускай» у якасці аднаго з вядучых відаў тагачасных мастацтваў называе «рыторыку, еже есть красомовность». Тэрмін «стихи», у іншых выпадках «стишки или припелы» прымяняўся ім для абазначэння тэкставых і прамоўна-напеўных адзінак біблейскіх кніг [59].

У Ф. Скарыны, знаўцы шмат якіх моў і добрага перакладчыка, ёсць цікавыя меркаванні адносна сэнсавай адэкватнасці перадачы зместу з адной мовы на другую, асабліва тэрміналагічнай лексікі. Ён неаднаразова звяртаўся да аналізу этымалогіі і семантыкі пэўных слоў і паасобных моўных адзінак. Адносна большасці сваіх кніг пісьменнік заяўляў у прадмовах і пасляслоўях, што яны пераведзены ім на родную мову [60].

На скарынаўскі пераклад Бібліі паўплывалі як антычныя (галоўным чынам эліністычныя) яе крыніцы, так і агульная атмасфера эпохі Рэнесансу, павышаная цікавасць да мастацтва і эстэтычных адносін да рэчаіснасці наогул. Параўнальны аналіз найбольш «эстэтычна насычаных» фрагментаў біблейскіх кніг у перакладзе Скарыны і адпаведных месц з афіцыйных тэкстаў

---

[57] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 20.
[58] Починаются книги, еже словуть Притчи (Выданне Ф. Скарыны). Арк. 3.
[59] Библия руска... Л. 4.
[60] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 12, 14, 19, 66.

(на стараславянскай і рускай мовах) сведчыць пра тое, што некаторым ацэначным меркаванням маральна-тэалагічных значэнняў перакладчык надаў эстэтычны сэнс. Напрыклад, з кнігі «Іоў»: «Аз же видех безумных укореняющихся, но абие поядено бысть их жилище» (стараславянскі тэкст).— «Видел я, как глупец укореняется, и тотчас проклял дом его» (рускі тэкст).— «Аз видех безумного укорененного, и злоречих красоте его» (скарынаўскі пераклад). З кнігі «Ісус Сірахаў» — адпаведна: «Слава высоты, твердь *чистоты*, зряк небеса в видении *славы*».— «Величие высоты, твердь *чистоты, вид неба в славном видении!*» — «Высокость тверди есть *красота Божия, и лепота небесная* есть видение славы» (Скарына). Яшчэ з той жа кнігі: «И тамо суть *преславна и чудна* делает — «Ибо там *необычные и чудесные* дела».— «Тамо суть *прекрасная* дела господня» (Скарына).

Паасобныя ацэначныя меркаванні тыпу «добро», або «доброзело» Скарына перадаў рознымі адценнямі катэгоры *прыгожага*: «красный», «красота», «лепо», «краса» і інш. Найбольшую цікавасць тут мае перакладчыцкая трактоўка пачатку і канца «боскага тварэння» сусвету. У Ф. Скарыны першая кніга Бібліі пачынаецца якраз з эстэтычнага суджэння: «В начале сотворил Бог небо и землю, земля же бе неплодна и *не украшена»*. Гэта — пачатак тварэння гарманічна-прыгожага космасу з неаформленай, хаатычнай «без-óбразнай» (а, значыцца, «безобрáзной», непрыгожай) матэрыі. А пра завяршэнне тварэння кажа раздзел другі першай кнігі «Быццё», які ў Скарыны гучыць так: «Тако совершишеся небеса и земля, и все *украшение* их» (усюды курсіў наш.— *У. К.*) [61].

Эстэтычныя ацэнкі і меркаванні ў прадмовах і пасляслоўях Скарыны адпавядаюць рэнесансавай канцэпцыі ідэалу і гармоніі. Гаворачы пра энцыклапедычнасць кнігі «Ісус Сірахаў», ён называе сярод іншых навук і вучэнне пра «мернасць» альбо меру. У каментарыях да прававой праблематыкі Бібліі ён адзначае, што законы павінны адпавядаць традыцыям і звычаям народа — «подлуг обычаев земли, часу и месту *«пригожии»* (С. 95). Нават евангельскія кнігі ацэньваюцца ім як літаратурныя творы — паводле крытэрыяў красы і жыццёвай праўды. На думку Скарыны, евангеліст Лука — «в лекарских науках доктор пренавченый писал ест о слове божием навышшей, наистей и нарядней, нежели иные...», г. зн. больш глыбока, узнёсла і больш прыгожа, чым іншыя новазапаветныя пісьменнікі [62].

Не аналізуючы іншых эстэтычных катэгорый, Скарына мае на ўвазе іх сэнсавае значэнне ў каментарыях да Бібліі. Вобраз «Иудиф-вдовици», якая ахвяруе сваім гонарам і рызыкуе жыццём для выратавання свайго народа, на яго думку,— яскравы прыклад узнёслага гераізму, узор грамадзянскай прыгажосці.

---

[61] Библия руска... Л. 10, 11 адв.
[62] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 117.

Прычына ўзнёсла-гераічнай любві да радзімы, на яго думку,— у натуральна-этычным законе людзей, бо яны «игде зродилися, и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» [63]. Па-свойму раскрывае Скарына і сутнасць трагічнай супярэчнасці ў жыцці, хоць у форме пытання багаслоўскай тэадыцэі — «чего ради господь Бог на добрах и на праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие» [64]. У вучэнні пра выхаваўчае значэнне трагедыі тагачасная думка, як вядома, абапіралася на арыстоцелеўскую ідэю катарсісу. Ф. Скарына ўпэўнены, што розум «о бедном и горком животе людском на сем свете и о конце добрых и злых», змякчае сэрца чалавека, а таму кнігу «Іоў» «всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немоцах положены» [65].

Важнае месца ў светапоглядзе Скарыны займае праблема ідэалу, пераважна ў дачыненні да грамадскага, дзяржаўнага і асабістага жыцця чалавека. Як вядома, рэнесансавыя мысліцелі, мастакі, пісьменнікі імкнуліся ствараць вобразы ідэальных, гарманічна цэласных людзей, шукаючы іх прататыпы ў антычнай і біблейскай гісторыі. Беларускі асветнік таксама бачыў там узоры мудрасці і грамадзянскай доблесці, прыклад наследавання для сваіх суайчыннікаў. Ён славіць ідэальных заканадаўцаў і дзяржаўцаў (афінянін Салон, спартанец Лікург, рымлянін Нума Пампілій), біблейскіх правадыроў і цароў (Майсей, Ісус Навін, Давыд і інш.). У паняцце ідэальнага чалавека ўваходзяць, паводле пераканання Скарыны, мудрасць, інтэлектуалізм, высокая ацэнка якога — тыповая рыса рэнесансавага гуманізму.

У кожнага чалавека, пісаў Скарына, свая сістэма каштоўнасцей, пра што, на яго думку, глыбока гаворыцца ў кнізе «Эклезіяст»: адны людзі бачаць свой ідэал у «царствах і в пановании», другія — ў багацці і скарбах, трэція — у здароўі, чацвёртыя — «в красоте и крепости телесной», пятыя — у мностве фальваркаў і статкаў, шостыя — у «роскошном ядении и питии и в любодеянии», сёмыя — «в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах». Але ёсць і такія, што вышэй за ўсё ставяць «мудрасць і навуку» [66]. Такім быў ідэальны суддзя і цар Саламон, які не прасіў у бога для сябе ні доўгага жыцця, ні багацтва, ні ваенных перамог, а толькі «мудрости и разума», неабходных «к научению судов» [67]. Гутарка ідзе, такім чынам, пра неадназначнасць каштоўнасных арыентацый розных людзей. Такім жа ідэальным царом эпохі элінізму, адзначае Скарына, быў Пталемей Філадэльф — «милосник науки и мудрости,

---

[63] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 59.
[64] Там жа. С. 3.
[65] Книга светого Иова... Арк. 2 адв.
[66] Еклезиастес, или Соборник... Л. 1 адв.
[67] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 16.

иже болей избран оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великых царскых сокровищах»[68]. Узнёслым героем быў для яго і «воевода» Ісус Навін — «муж богобойный, справедливый, мудрый, смелый, сильный, цнотливый, грозный и щасливый, и у своих справах чуйный и порадный»[69]. У характарыстыцы гэтага героя адчуваецца ўплыў кананізаваных доблесцей ідэальнага героя пісьменнікаў і тэарэтыкаў літаратуры эпохі Рэнесансу — вобраза Энея з эпічнай паэмы Вергілія «Энеіда».

Пэўны эстэтычны аспект маюць і грамадска-палітычныя погляды Скарыны; тут выявілася яго мара пра дасканаласць і гармонію зямнога жыцця, ідэальны стан сацыяльнага быцця. Як і ў іншых рэнесансавых гуманістаў, нацэленасць скарынаўскай думкі на ідэальнае і дасканалае не магло не парадзіць утопій, напрыклад ідэалізацыю патрыярхальнай даўніны як гарманічна дасканалага абшчыннага самакіравання (старажытнаяўрэйская абшчына з часоў біблейскіх патрыярхаў і «суддзяў», раннехрысціянская камуна і інш.)[70]. Ф. Скарына быў стваральнікам адной з першых асветніцкіх утопіў — надзеі на магчымасць стварэння ідэальнага грамадства шляхам усеагульнага спасціжэння ісціны, дабра і красы, без рэвалюцыйнага пераўтварэння існуючых адносін грамадскіх. У гэтай, як і ва ўсякай іншай, утопіі ёсць элемент мастацкай творчасці — або пошук ідэальнага прэцэндэнта ў мінулым, або мадэліраванне дасканалай будучыні. Нягледзячы на сваю утапічнасць, скарынаўская сацыяльная утопія арыентавала грамадскую свядомасць у дэмакратычным і гуманістычным кірунку.

Эстэтычныя погляды Ф. Скарыны фарміраваліся ва ўлонні сярэдневяковага сінкрэтычнага светапогляду, пагэтаму няма ў яго выразнай дыферэнцыяцыі духоўнай культуры на рэлігію, мастацтва, навуку і філасофію. Аднак ён ужо часткова ўлічваў спецыфіку іх прыроды і функцый. У адрозненне ад шмат у чым эзатэрычнай мудрасці філасофіі і навукі мастацтва звернута «ко всему собору людей». Аднак найбольш мудрыя кнігі прытчаў і вершаў, напрыклад «Песня песняў», на яго думку, маюць дваякі сэнс — унутраны і вонкавы. Іх унутранае, сімвалічнае значэнне вядома толькі мудрацам-прарокам, «разумеющим о тайнах превеликих божиих»[71]. Але ў іх жа ёсць і непасрэдны, усім даступны вонкавы сэнс, «понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети, что ест потребно к душному спасению его»[72]. Гэта падвойная структура зместу характэрна, у прыватнасці, для жанру «прытчаў», альбо

[68] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 22—23.
[69] Там жа. С. 52.
[70] Там жа. С. 115, 117—120.
[71] Там жа. С. 60.
[72] Там жа. С. 61—62.

«прыслоўяў»: яны «иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собе сокрытых таин замыкають, нежели ся словами пишут»[73]. Асабліва глыбокі сімвалічны сэнс, на думку Скарыны, ёсць у біблейскай кнізе «Песня песняў». Тагачасная літаратурная крытыка была яшчэ не здатная для аналізу лірычнай паэзіі гэтай кнігі; тым больш што ў ёй імкнуліся абавязкова знайсці пэўную сістэму тэалагічных сімвалаў.

Ф. Скарына шырока карыстаўся паняццем сімвала («знамя», «знаменование», «знаменовать» і інш.), надаючы вялікае значэнне пераноснаму тлумачэнню Бібліі. Так, напрыклад, на яго думку, дзесяць прарочых слоў Данііла «знаменовали»: «зачатие нашего Спасителя Ісуса Хрыста без семени от непорушеное девици Марии» (С. 102); «нарожение Христово и принятие на ся плоти человеческое и богоявление во Иордани» (С. 103); слова Хрыстова и нашы добрыя справы (С. 103); «отнятие всея моци бесовское написом и знамением животворящего креста» (С. 103); «положение во гробе господне и воскресение его» (С. 103); чатыры царствы — Вавілонскае, Персідскае, Македонскае і Рымскае (С. 104); «переменение царств со единого в другое» (С. 104); «час распятия Слова Божия и опустение Ерусалимского» (С. 104); прыход прарока Ільы ў час «царства антихристова» (С. 104); усеагульнае ўваскрэсенне людзей у судны дзень (С. 105). Дванаццаць суддзяў Ізраілевых, на яго думку, «знаменовали двунадесеть апостолов, бывших по Ісусе» (С. 113). У прадмове да кнігі «Плач Ераміі» Скарына раскрывае сімвалічнае значэнне кожнай старажытнай літары, напрыклад: дзевятая літара — дабро, дзесятая — пачатак, чатырнаццатая — вечнасць, васемнаццатая — праўда і г. д. (С. 111—112).

У анатацыі да раздзела 31 да кнігі «Прытчы Саламона» Скарына піша: «О жене мудрой, она же церковь святую знаменует»[74].

Вобразы самай паэтычнай кнігі Бібліі «Песня песняў» у яго тлумачэнні маюць непасрэдны і ўскосны, або сімвалічны, сэнс: «Глас Хрыстов, он же есть жених; глас церкви Христовы, еже невеста ест; глас апостолов, сии же суть дружина женихова; глас отроковиць, иже детей церкви Христовы знаменует. Теже пятый глас ест сонмища жидовскаго, они же для неверия своего не прияша закона Христова...»[75] Адпаведна гэтаму сімвалічнаму тлумачэнню Скарына «драматызаваў» кнігу, акцэнтаваўшы ўвагу чытача на яе дзеючых асобах-сімвалах «червленым писмом», г. зн. чырвоным шрыфтам.

Вялікае значэнне надаваў Скарына эстэтычнаму выхаванню і наогул духоўнаму ўдасканаленню людзей сродкамі мастацтва;

---

[73] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 19.
[74] Притчи Саломона... Л. 42 адв.
[75] Книга премудраго царя Саломона, рекомая Песнь Песням... Прага, 1517. Арк. 2.

пра гэта сведчыць яго сапраўдны панегірык Псалтыру — кнізе, якая з усіх частак Бібліі найбольш блізкая да мастацтва — паэзіі і музыкі. На думку пісьменніка, яна шматзначная па свайму зместу і функцыянальнаму прызначэнню, бо песні і вершы яе «всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствіе в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють»; апрача гэтага, яны «покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, женам набожным молитва и покраса, детем малым пачаток всякое доброе наукы, дарослым помножение в науце, мужем моцное утвержение»; псалом «свята украшаеть» і «жестокое сердце мякчить», нарэшце, «вкупе тело пением веселить а душу учить» [76]. Тут ёсць дагадка мысліцеля адносна сэнсавай шматзначнасці і поліфункцыянальнасці мастацтва ў адрозненне ад паняційнай адназначнасці навуковых лагічных суджэнняў; яго ўпэўненасць ва ўсебаковым выхаваўчым уздзеянні паэзіі і музыкі і адпаведным багацці эстэтычнага перажывання. Бо на Псалтыр ён глядзеў як на мастацкі вобраз, і пагэтаму яго ацэнка можа быць з поўнай падставай перанесена і на мастацкую творчасць наогул.

У публіцыстыцы Скарыны ёсць пэўныя элементы літаратурна-мастацкай крытыкі — адной з найбольш распаўсюджаных форм грамадска-эстэтычнай думкі жыцця і мастацтва. Як і тагачасныя еўрапейскія мысліцелі-гуманісты, ён глядзеў на Біблію як на тварэнне людскога розуму і таленту, хоць і «боганатхнёнага». Ужо сам факт каментатарства біблейскіх кніг, вызначэнне іх аўтарства і зместу, гістарычных умоў іх стварэння, больш высокая эстэтычная ацэнка адных кніг (напрыклад, «Евангелля ад Лукі») у параўнанні з іншымі, акцэнт на іх пазнаваўчай, выхаваўчай і вучэбна-педагагічнай функцыях — гэта ў пэўным сэнсе дзейнасць літаратурнага крытыка. Як перакладчык і каментатар старажытных тэкстаў Скарына тлумачыў этымалогію паасобных імён і паняццяў.

Кнігі Ф. Скарыны, іх графічнае афармленне і ілюстрацыі да іх, як устанавілі даследчыкі, належаць да рэнесансавай мастацкай культуры. Нарэшце, рэнесансавае самасцвярджэнне асобы пісьменніка гучыць у пастаянных дэкларацыях свайго аўтарства. «Я, Францыск Скарыны сын з слаўнага горада Полацка»,— гучыць гордым лейтматывам ва ўсіх прадмовах і пасляслоўях пісьменніка, які ўсвядоміў і сваю прыналежнасць да народа, і свой сыноўні доўг перад ім.

---

[76] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 154.

## МАРАЛЬНА-ПРАВАВЫЯ ПОГЛЯДЫ Ф. СКАРЫНЫ

Этычныя і асабліва прававыя погляды Ф. Скарыны доўгі час не былі прадметам ўвагі даследчыкаў, хоць і яго прадмовы і пасляслоўі інтэнсіўна насычаны разнастайнымі маральнымі і юрыдычнымі паняццямі. Толькі ў канцы 60-х гадоў І. А. Юхо звярнуў увагу на ўклад беларускага асветніка ў развіццё прававой думкі Вялікага княства Літоўскага [77]. Ён падкрэсліў узаемасувязь палітычных і прававых поглядаў Скарыны, яго бясспрэчную кампетэнтнасць у галіне тагачаснай юрыспрудэнцыі. Аднак даследчыкі доўгі час штучна аддзялялі маральна-прававы аспект яго светапогляду ад той духоўнай традыцыі (пераважна хрысціянска-гуманістычнай), на якой сфарміраваўся гэты светапогляд.

Для ўсіх ранніх этычных твораў (антычных, сярэдневяковых і шмат у чым новаеўрапейскіх XVII — пачатку XIX ст.) характэрным з'яўляецца сінкрэтычнае адзінства з прававымі поглядамі. Нават у Гегеля мараль і права разглядаліся як дзве ўзаемадапаўняючыя адна другую ступені аб'ектывізацыі ідэі свабоды. Зразумела, іх адзінства зусім не азначала, што ў мысліцеляў мінулага не было выразнага размежавання паміж гэтымі дзвюма формамі грамадскай свядомасці. Калі ўжо казаць пра айчынную традыцыю, то нават у «Слове о законе и благодати» мітрапаліта Іларыёна гэта размежаванне ўжо даволі відавочнае: права — гэта «закон няволі», прымусовае выкананне правіл узаемаадносін, якія вынікаюць з адвечнага, богам натхнёнага катэгарычнага імператыву, а мараль — гэта свабоднае, творча-радаснае яго выяўленне ўсім сваім духоўным жыццём.

Паводле Ф. Скарыны, асновай маралі, грамадскага агульнага жыцця і правапарадку з'яўляецца абсалютны пастулат «натуральнага права», абгрунтаваны аўтарамі Новага запавету ў форме катэгарычнага імператыву: «Такім чынам, ва ўсім, як хочаце, каб вам рабілі людзі, так і вы рабіце ім» [78]. У фармуліроўцы Скарыны: «Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» [79]. Гэты закон, па яго перакананню, з'яўляецца натуральным законам жыцця, дадзеным адвеку богам у форме закліку: «Возлюбиши ближнего своего, яко сам себе» [80]. Яго было б зусім дастаткова для любога грамадства, пры ўмове, што яны складаліся б толькі з добрых людзей. Аднак паколькі грамадства недасканалае, бо ў ім шмат людзей злосных, якія не захоўваюць уложанага ў сэрца маральнага катэгарычнага імператыву, то ўзнікла неабходнасць у дзяржаве і пісаным праве, якія тым не менш, каб быць справядлівымі, павінны грунтавацца на гэтым адвеч-

---

[77] Полымя. 1967. № 6. С. 175—180.
[78] Евангелле ад Матфея.
[79] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 93.
[80] Там жа. С. 94.

ным, боска-прыродным законе роўнакаштоўнасці ўсіх людзей. Толькі праз яго кожны чалавек, які нясе адказнасць за свае ўчынкі, добра ўсведамляе, што нікому не дазваляюцца «непослушание, убийство, прелюбодеяние, ненависть, татба, несправедливость, злоимание, неволя, досаждение, гордость, злоречение, нелютость, клеветание, зависть и иная тым подобная злая быти, понеже сам таковых речей от иных не хощеть терпети» [81].

Як бачым, тут мысліцель разглядае ў адным кантэксце амаральныя паводзіны (несправядлівасць, пралюбадзейства, нянавісць, гордасць, зайдрасць і інш.) і крымінальныя злачынствы (забойства, крадзёж, насілле і інш.) як аднапарадкавыя негатыўныя грамадска-небяспечныя з'явы. Заўважым, што і сёння, ва ўмовах усебакова дыферэнцыраванай прававой і маральнай свядомасці, няма абсалютнай мяжы паміж мараллю і правам, якія не толькі ўзаемадзейнічаюць паміж сабою, але і ўзаемапераходзяць. Скажам, напрыклад, такія адзначаныя Скарынам негатыўныя паводзіны, як паклёп, «злоречение», або «злоимание», могуць у залежнасці ад іх інтэнсіўнасці і ступені грамадскай небяспечнасці расцэньвацца або як маральныя праступкі, або як крымінальныя злачынствы.

Узнікшая ў даследчай літаратуры антыномія светапогляду першадрукара-асветніка (Ф. Скарына — рэнесансавы гуманіст і ён жа — апалагет Бібліі, які шукае ў ёй адказы на ўсе пытанні тэарэтычнай філасофіі і практычнай, у тым ліку маральна-прававой мудрасці) можа быць вырашана толькі з улікам дыялектычнага прынцыпу гістарызму, згодна з якім Біблія — гэта тэалагічна апрацаваны сінтэз духоўнай культуры старажытных грамадстваў, пачынаючы з фальклору і канчаючы антычнай і раннехрысціянскай (у сваіх вытоках эліністычнай) маральнай філасофіяй. Поўны звод Бібліі (уключаючы некананічныя філасофскія кнігі, узнікшыя ў эпоху элінізму) адлюстраваў драматычны шлях станаўлення чалавечай духоўнасці, падсумаваў інтэлектуальны і маральны вопыт усяго папярэдняга чалавецтва. У святле гэтага гістарызму не так ужо і схаластычна гучаць вядомыя словы Скарыны пра Біблію як энцыклапедыю ўсіх «навук» і «мастацтваў». Для паўнаты разумення яго думкі прывядзём яе ў перакладзе на сучасную мову: «У гэтай кнізе пачатак і канец прыроджанай мудрасці... У гэтай кнізе запісаныя *ўсе законы і правы,* якімі кіруюцца людзі на зямлі. У гэтай кнізе ўсе лякарствы, душэўныя і цялесныя, разам знойдзеце. Тут навучанне *маральнай філасофіі,* як любіць бога для самога сябе і бліжняга свайго для бога. Тут справа для ўсялякага збору людскога і ўсялякага горада, як павялічыць грамадскае дабро вераю, злучэннем любві і згоды» (курсіў наш. — *У. К.*) [82]. Заўважым, што ў гэтым фрагменце з агульнай прадмовы Скарыны да ўсёй Бібліі пераважае маральна-прававая праблематыка.

---

[81] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 93—94.
[82] Библия руска... Л. 3 адв., 4.

Біблейская кніга «Другі закон», якая дала Скарыну падставу развіць сваю канцэпцыю суадносін паміж маральнымі нормамі і прававымі законамі, — бясспрэчна цікавы твор для гісторыка этычнай і юрыдычнай думкі, бо адлюстроўвае працэс станаўлення прававога грамадства і тэакратычнай дзяржавы, у якой заканадаўства і маральныя патрабаванні прынялі форму рэлігійнага запавету, а гэты апошні ў сваю чаргу тлумачыўся прававымі катэгорыямі — як вынік «дагавору», заключанага богам з «выбраным народам» праз яго пракрокаў, або духоўных праваДыроў. У выніку такой канцэпцыі рэлігіі маральныя нормы і прававыя законы трактаваліся як вынік «обезательственного права», а яго парушэнне вяло за сабою прымяненне даволі суровых санкцый. У гісторыка-прававым аспекце «Другі закон» адзін з самых цікавых старажытных помнікаў маральна-юрыдычнай культуры, аўтары якога падсумавалі дасягненні даволі развітых права і этыкі шумера-вавілонскай і старажытнаегіпецкай цывілізацый. Квінтэсенцыяй гэтай кнігі з'яўляецца «Ветхий» (Стары) маральна-прававы закон, аформлены ў выглядзе «дзесяці» запаведзей (прыказанняў) — зыходных пастулатаў монатэістычнай маралі, сямейнага, крымінальнага і грамадзянскага права.

Адрасуючы свае кнігі «людзям простым», Ф. Скарына прыдаваў гэтым запаведзям вялікае значэнне як эфектыўнага сродку развіцця маралі і правасвядомасці. Пра гэта сведчыць яго вольны пераклад «дзесяці прыказанняў» сілабічным «віршам». Прывядзём яго поўнасцю як узор вольнай інтэрпрэтацыі Бібліі:

Первое: Веруй в бога единого!
Второе: А не бери надармо имени его!
Третее: Помни дни светые святити!
Четвертое: Отца и матку чтити!
Пятое: Не забивай ни едина!
Шестое: И не делай греху блудна!
Седмое: Не вкради, что дружнего!
Осмое: А не давай сведецтва лживаго!
Девятое: Не пожелай жены ближнего!
Десятое: Ни имения или речи его! [83]

Параўнальны аналіз гэтага сілабічнага перакладу і адпаведнага фрагменту з кананічнага выдання Бібліі паказвае, што Скарына дзесятую запаведзь раздзяліў на дзве (9-ю і 10-ю), іудаісцкі догмат «наблюдай день суботний, чтобы свято хранить его» замяніў хрысціянскім «помни дни светые святити» і, урэшце, самае галоўнае, поўнасцю прапусціў другую запаведзь («Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху и что на земле внизу, и что в водах ниже земли, не поклоняйся и не служи им»), накіраваную ў эпоху станаўлення монатэізму супраць язычніцтва, але ва ўмовах XVI ст. непрыдатную для хрысціянства, якое шырока выкарыстоўвала ўсе віды выяўленчага мастацтва — скульптуру, жывапіс і графіку.

[83] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 74.

Што імпанавала Ф. Скарыну ў сентэнцыях Старога запавету? З яго каментарыяў вынікае, што ён прапагандаваў перш за ўсё гуманістычныя і этычныя аспекты старажытнага заканадаўства: аб'ектыўнасць і непрадузятасць суддзяў. («И дал я повеленае судьям вашым в то время, говоря: выслушивайте братьев наших и судите справедливо, как брата с братом (г. зн. аднапляменнікаў), так и пришельца (іншаземца) его; не различайте лиц на суде, как малого так и великого выслушивайте: не бойтесь лица человеческого»); спісанне пазыкі пасля сямігадовай уплаты працэнтаў па ёй («В седьмой год делай прощение. Прощение же состоит в том, чтобы всякий заимодавец, который дал взаймы ближнему своему, простил долг»); дараванне волі рабамаднапляменнікам («Если продается тебе брат твой, еврей или евреянка, то шесть лет он должен быть рабом тебе, а в седьмой год отпусти его от себя на свободу», даўшы яму ўсё неабходнае для жыцця); справядлівасць грамадскага кіравання і судовага прыгавору («Поставь себе судей и надзирателей... чтобы они судили народ твой судом правильным; не извращай закона, не смотри на лица и не бери даров, ибо дары ослепляют глаза мудрых и превращают дело правых; правды, правды ищи»); грамадская дабрачыннасць («Потому я повелеваю: отверзай руку твою братку твоему, бедному твоему и нищему твоему на земле твоей»); строгае выкананне законаў вярхоўным кіраўніком народа (ён павінен выконваць «все слова закона сего», каб «не надмевалось сердце его перад братьями его и чтобы не уклонялся от закона ни направо, ни налево»); вынясенне прыгавору толькі на падставе аб'ектыўных паказанняў, сведак («Недостаточно одного свидетеля против кого-либо в какой-нибудь вине») і строгае пакаранне паклёпнікаў (па прынцыпу эквівалентнага пакарання за хлусліваe абвінавачванне) [84].

Ф. Скарына быў перакананы, што катэгарычны імператыў маралі і права — гэта «закон прироженый написан ест в сердци единого каждого человека». Бо язычнікі, адзначаў ён, спасылаючыся на пасланне апостала Паўла да рымлян, хоць і не ведалі гэтага евангельскага закону, усё ж насілі яго ў сэрцы сваім, «пра што сведчыць сумленне іх і думкі іх, якія то абвінавачваюць, то апраўдваюць адна адну» [85]. Пазней пачынальнік нямецкай класічнай філасофіі Імануіл Кант таксама быў упэўнены ў тым, што гэты закон з'яўляецца абсалютна неабходным пастулатам маралі і права. Невыпадкова ён надаў яму некалькі фармуліровак, якія аб'ядноўваюць гэтыя дзве формы грамадскай свядомасці. Прывядзём тры асноўныя з гэтых кантаўскіх вызначэнняў: «Дзейнічай толькі згодна з такою максімаю, кіруючыся якою ты ў той жа час можаш пажадаць, каб яна стала ўсеагульным законам». Фактычна ж Кант, які, як і яго далёкі папярэднік

[84] Библия, кн. Второзаконие, гл. 1—19.
[85] Евангелле ад Матфея.

Скарына, лічыў яго законам боскім і прыродным, хоць і называў паняццем бога і прыроды апрыёрнае суб'ектыўнае тлумачэнне: «Дзейнічай так, як быццам бы максіма твайго ўчынку праз тваю волю павінна была б стаць усеагульным законам» [86]. Канцэпцыя маральна-прававога катэгарычнага імператыву адлюстравала грамадскае ўсведамленне раўнацэннасці людзей па прыродзе і была глыбока гуманістычнай па сваім характары. Гуманістычны аспект, відавочны ў Скарыны, пазней у нямецкага філосафа спецыяльна акцэнтаваўся ў яшчэ адным, так званым практычным вызначэнні пастулату маралі: «Дзейнічай так, каб заўсёды адносіўся да чалавека і ў сваёй асобе і ў асобе ўсялякага іншага як да мэты і ніколі не адносіўся б да яго толькі як да сродку» [87].

Крыніцай жа «пісанага закону», паводле Скарыны, з'яўляецца або воля боская, або чалавечая: з першай вынікалі прадпісанні Старога і Новага запаветаў, з другой — царкоўнае і свецкае права. Такім чынам, мысліцель у адпаведнасці з духам эпохі, якая яшчэ не ведала практыкі аддзялення царквы ад дзяржавы, усё яшчэ прызнаваў за рэлігійнымі догматамі, якія цяпер сталі (за выключэннем паасобных мусульманскіх тэакратычных дзяржаў) аб'ектам асабістага выбару або сумлення, нейкі нарматыўны, агульнаабавязковы змест. Аднак усё ж засяродзіўся на свецкім праве, прапанаваўшы ў адпаведнасці з тагачаснай прававой навукай даволі падрабязную і, што галоўнае, правільную яго класіфікацыю. Найбольш шырокай сферай прававых адносін Скарына лічыў права «посполітое» (агульнаграмадскае), або «земское», пад якім разумеў розныя віды грамадзянскага права, у тым ліку сямейнае, абавязковае і інш., а таксама права крымінальнае («насилию силое отпрение»). Следам за гэтым ён выдзеліў міжнародныя прававыя адносіны — права «языческое, от многих убо языков (г. зн. народаў.— *У. М.*) ухвалено ест», якое рэгулюе правілы вайны і міру, дыпламатычныя адносіны і іншыя міждзяржаўныя сувязі. Да «права царскага» асветнік залічваў нормы дзяржаўнага, адміністратыўнага, фінансавага і паасобныя раздзелы крымінальнага права. Урэшце, у самастойныя формы заканадаўства ён выдзеліў «право рицерское, или военное», гарадское, марское і гандлёвае («купецькае»)[88].

У светапоглядзе Ф. Скарыны, як і іншых рэнесансавых гуманістаў, відавочны мастацка-эстэтычны аспект — сувымярэнне рэальнасці і ідэалу. Калі б усе людзі былі дасканалымі, развівае думку асветнік, г. зн. кіраваліся б у сваім жыцці катэгарычным імператывам маралі, то не было б і неабходнасці ў законах і дзяржаўным апараце, які вымушаны прымяняць насілле па неабходнасці. Ф. Скарына пакідаў надзею на будучае, калі ўсе людзі сэрцам прымуць запаведзі любві і брацтва. Такую высnову ён зрабіў з традыцыйнага тлумачэння дыялектыкі Старога і Но-

[86] Кант И. Собр. соч.: В 6-ти т. Т. 4, ч. 1. М., 1965. С. 260—261.
[87] Там жа. С. 270.
[88] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 93—97.

вага запаветаў: Стары запавет Майсееў узнік з неабходнасці; закон жа Хрыстоў — гэта закон свабоды і боскай ласкі, абсалютна дасканалая мараль, для якой непатрэбна сіла дзяржаўнага закону.

Як і ў іншых рэнесансавых гуманістаў, нацэленасць скарынаўскай думкі на ідэальнае, дасканалае пры адсутнасці аналізу рэальных сацыяльна-класавых супярэчнасцей не магла не парадзіць утопій. Адной з іх была ідэалізацыя патрыярхальнай даўніны як самакіруючай грамады, якой, на думку Скарыны, быў грамадскі лад старажытных яўрэяў пасля выхаду іх з егіпецкага рабства: імі, маўляў, кіравалі справядлівыя суддзі, якія «не справовали суть их, яко цари или властители вышнии, силу имеюще над ними, но яко равнии и товарищи, раду им даючи и справедливость межи ними чинячи» [89]. Другая утопія — гэта надзея на магчымасць адраджэння дасканалага «посполитого права», якім кіраваліся раннехрысціянскія абшчыны, знітаваныя не толькі агульнасцю маёмасці, але і аднадушшам. Урэшце, агульная асветніцкая утопія—перакананне ў магчымасці выхаваць ідэальнае грамадства пры дапамозе дасканалых хрысціянскіх законаў.

Было б памылкай бачыць ва ўсіх гэтых утопіях адны толькі нязбытныя мары. Сістэма маральна-прававых каштоўнасцей Скарыны пры ўсёй, здавалася б, абстрактнасці мела палітычную накіраванасць — арыентаваць сваіх сучаснікаў у бок гуманізацыі і дэмакратызацыі грамадства. І зусім невыпадкова ён у прыклад ім ставіў вялікіх рэфарматараў і заканадаўцаў мінулага (егіпцяніна Меркурыя Трымеіста, афіняніна Салона, спартанца Лікурга, рымляніна Нумы Пампілія і інш.) прыхільнікаў навукі і мастацтва Саламона, Пталамея Філадэльфа і інш., якія праславіліся не крывавымі войнамі і не ў «тленных выписах царскых сокровищах», а «в науке и в книгах вечную славу и память» пакінулі пасля сябе [90].

Даследчыкі літаратурна-асветніцкай спадчыны Ф. Скарыны пакуль што не звярнулі пільнай увагі на багацце і разнастайнасць у ёй маральна-этычных паняццяў і катэгорый. Зыходнае тут — паняцці дабра і зла. У анатацыі да кнігі «Іоў» ён зазначае: «Людская доброта богу не помагаеть, но самому человеку. Теже злоба не досажаеть богу, но токмо человеку». Тут у рэлігійнай форме ўсведамляецца чалавечая, гуманітарная прырода маральных каштоўнасцей. У прадмове да сваёй першай кнігі Псалтыр этычнай праблематыцы асветнік адводзіць першае месца. Кніга, на яго думку, паслужыць сцвярджэнню дабра і праўды, і «да совершен будеть человек божий и на всяко дело добро уготован, яко святый апостол Павел пишеть» (С. 9) [91].

---

[89] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 115.
[90] Там жа. С. 22—23, 38.
[91] Книга светого Иова... Арк. 42.

Словы і музыка Псалтыра ацэньваюцца ім як універсальны сродак духоўнага ўдасканалення чалавека: пракрокі прарочаць добрае добрым, а злое злым; святыя айцы сваім жыццём і сваімі справамі вучаць нас сціпласці і цярплівасці, прытчы і прымаўкі мудрых настаўнікаў «добрых обычаев младых и старых наставляють».

Псалтыр жа «сама едина вси тые речи в собе замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть»; псалмы лечаць душу і цела, уціхамірваюць усе негатыўныя эфекты, «людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють». Псалмы — гэта ўвасобленая справядлівасць, душэўная і цялесная чыстата, «наука всякое правды»; яны ж «мудрость и разум доскональій», «друголюбство без лести» і ўсе іншыя «добрые нравы якобы со источника от толе походять» (С. 10). Гутарка ідзе, такім чынам, пра маральнае выхаванне сродкамі літаратуры і мастацтва. Самае істотнае ў змесце прытчаў — навука «о добрых обычаех» (С. 17). У кнізе «Іоў», на думку Скарыны, раскрываецца вышэйшая праўда і апошні сэнс жыцця на зямлі, дзе нярэдка «господь бог на добрых и на праведных допущаеть беды и немощи, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие» (С. 13). Недасканаласць зямнога жыцця, між іншым, і ў тым, што тут «люди злые казнять добрых»[92]. У шматлікіх каментарыях першадрукара да старазапаветных кніг гутарка ідзе найчасцей пра «добродеяние» (С. 199), добрых і злых людзей, добрыя звычаі (С. 9—10), добрыя справы і «доброе умение» (С. 20, 25, 26, 103, 138, 143, 157), добрые норавы (С. 10, 19, 24), пра «пожиток посполитого доброго», г. зн. пра карысць грамадскага дабра (С. 11, 24, 59, 62, 69, 95). Шырока карыстаецца пісьменнік такімі паняццямі, як «добротливый» (С. 20), «добрая цнота» (С. 20—21), «добротливость» (С. 91), «благодать» (С. 36). У шмат якіх анатацыях да кнігі «Ісус Сірахаў» гутарка ідзе пра «доброту здравия», добрага сябра, «добранаученых мужах», пра хлусню — прычыну маральнага падзення і інш.[93] Усялякая няпраўда абавязкова вядзе да зла, «злоімания», «злоречения» і да т. п. (С. 13, 93, 94). У творах Скарыны шырока выкарыстоўваецца прыём антытэзы дабра і зла: добродеяние — злоречение, каханне (любоў) — нянавісць, згода — сварка, праўда — няпраўда, справядлівасць — несправядлівасць, свабода — рабства.

Тыпова рэнесансавай этыка-эстэтычнай катэгорыяй Ф. Скарыны была «згода», пад якой разумелася гармонія ўзаемаадносін як паміж асобнымі людзьмі, народамі і дзяржавамі, так і паміж асобаю і грамадствам. Ад згоды «все доброе всякому граду и всякому собранию приходит; незгода бо и наиболшие царства разрушаеть» (С. 130). Усялякая *распря* звычайна бывае ад гордасці, самалюбства, фальшывай «прамудрасці» (С. 130). Ад-

---

[92] Еклезиастес, или Соборник... Арк. 15.
[93] Книга Исуса Сирахова... Арк. 13, 14, 15 адв., 48.

нак не ўсялякая, а толькі заснаваная на добрай волі згода адпавядае маральнаму паняццю дабра. Невыпадкова асветнік піша «о товаристве добром и злом» (С. 24); згода злых людзей толькі павялічвае зло. Найвышэйшай маральнай каштоўнасцю з'яўляецца любоў. Для выяўлення розных адценняў гэтага паняцця Скарына карыстаецца сінонімамі (каханне, міласць, ласка і інш.). Шырока карыстаўся ён паняццямі «мир и покой» (С. 17), «добрый умысел» (С. 54), «справедливость» (С. 10, 21, 24). Важнае месца займае ў яго маральных ацэнках паняцце *цнота* (дабрачыннасць, дабрадзейнасць) і вытворнае ад яго «цнотливый»: «Превращение убо мысли отлучають от бога, искушеная же *цнота* наказуеть немудрых» («Прамудрасць божая», арк. 3 б); «Пишеть же в них царь Соломон... о науце, о карании злых нъравов и о научении цнот и добрых обычаев» («Прытчы Саламона», арк. 4 б); «Исус — муж богобойный, справедливый, мудрый, смелый, цнотливый...» (кніга «Ісус Навін»)[94].

Этычныя паняцці і меркаванні ў шмат якіх творах Ф. Скарыны займаюць дамінуючае становішча. Вось толькі некалькі са шматлікіх прыкладаў: чуйность (пільнасць), чуйны (пільны); «чуйности убо и мысли сердъца людского ко злому наклонены суть отъ младости своея» (кніга «Быццё», 19 б)[95]; чуйный и порадный (пільны і разважлівы, с. 52); «зависть и иная им подобная злая» (С. 94); душное здравие (душэўнае здароўе, с. 69); чесныи (паважаны, шаноўны, с. 36); ненависть — «яко братия для ненавісти продали Иосифа до Египту» (С. 70); клеветание (С. 94); «вера без дел мертва бывает» (С. 121); прытчы і прымаўкі прыводзяць нас «к доброму житию» (С. 124). Пісьменнік раіць «власную жену любити, а пред чужого утекати»[96]; піша пра «добрые и злые словы, о языку злом и добром»[97].

У прадмове Скарыны да кнігі «Левіт» дамінуючае паняцце— этычная катэгорыя сумлення. Спасылаючыся на пасланне апостала Паўла да яўрэяў, асветнік тлумачыць яе як усведамленне чалавекам сваёй віны і сваёй недасканаласці перад ідэальнай духоўнасцю, увасобленай у паняцці бога[98].

Урэшце, ёсць у Ф. Скарыны і паняцце этыкі, якая вызначаецца ім як «философия добронравная». У апалогіі Бібліі ён заўважае між іншым: «Ту (тут.— *У. К.*) навчение философии добронравное»[99]. Развіваючы гэту дэфініцыю, асветнік вызначае этыку як навуку «мудрости и добрых нравов», якая найбольш глыбока выявілася, на яго думку, у біблейскіх кнігах «Ісус Сірахаў» і «Прытчы»[100]. А ў прадмове да кнігі «Эклезіяст» ён наблізіўся

---

[94] Слоўнік мовы Скарыны. Т. 2. Мн., 1984. С. 339.
[95] Там жа. С. 350.
[96] Притчи Саломона... Арк. 10 адв.
[97] Там жа. Арк. 19 адв.
[98] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 83—84.
[99] Там жа. С. 62.
[100] Там жа. С. 63.

да разумення спецыфікі аксіялагічных (каштоўнасных) адносін чалавека да рэчаіснасці — таго, што абазначаецца ім паняццем *«мысли и кохания»*. Ф. Скарына піша: «...Понеже в розмаитых речах люди на свете покладают *мысли* и *кохания* своя: едины в царствах і в пановании, друзии в богатстве и в скарбах, инии в мудрости и в науце, неции же во множестве имения и статку, а неции в раскошном ядении и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человек имать некоторую речь пред собою, а в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит» [101]. Гутарка ідзе, такім чынам, пра матэрыяльныя (багацце і скарбы, мноства маёмасці і да т. п.), духоўныя (навукі, мастацтва, мудрасць), цялесныя (дарагая яда і напіткі), духоўна-фізічныя (цялесная прыгажосць) і, урэшце, пра палітычныя (улада, панаванне) каштоўнасці. Супярэчнасць як прыватных, так і грамадскіх патрэб і арыентацый тлумачыцца, як правільна заўважае Скарына, тым, што «людская *кохания и мысли* (г. зн. каштоўнасці.— *У. К.*) суть собе противна, един бо в том ся кохаеть, тое хвалить и о том мыслит, а другый другое, а иный иное» [102].

Францыск Скарына быў, такім чынам, арыгінальным мысліцелем-гуманістам перыяду беларускага Адраджэння, пачынальнікам рэнесансавай этыкі і эстэтычнай думкі на Беларусі. Адзін з першых у нас глыбокіх знаўцаў Бібліі, ён разглядаў гэту кнігу як вынік шматвяковага станаўлення людской духоўнасці, крыніцу маралі, філасофіі, літаратуры і мастацтва.

[101] Еклезиастес, или Соборник... Арк. 2.
[102] Там жа.





# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА ЭПОХІ СКАРЫНЫ

## МАНУМЕНТАЛЬНАЕ ДОЙЛІДСТВА

Сярэдзіна XVI ст. з'яўляецца мяжой паміж двума якасна адметнымі перыядамі ў развіцці беларускага манументальнага дойлідства. Змены ў сацыяльна-палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага, станаўленне рэнесансавага светапогляду [1], развіццё вогнпай тэхнікі і інжынерна-фартыфікацыйнага майстэрства [2] спрыялі адыходу ад дойлідства агульнаабарончага характару да архітэктуры новага часу, адзначанай мастацка-стылявымі прыкметамі, з выразнай сацыяльна-ідэалагічнай праграмай.

Архітэктурная творчасць з самых ранніх этапаў развіцця абумоўлена жыццядзейнасцю чалавека, а таксама прыродна-геаграфічнымі і сацыяльнымі ўмовамі. Архітэктура крапасных збудаванняў на тэрыторыі Беларусі мела даўнія традыцыі [3]. Ужо ў I—III стст. нашай эры існаваў тып пасялення — гарадзішча, якія меў прыстасаванні, каб бараніцца ад нападу дзікіх звяроў або на выпадак родава-абшчынных міжусобіц. Гарадзішчы звычайна размяшчаліся на ўчастках з натуральнымі прыроднымі перашкодамі, на ўзвышаных берагах у сутоку рэк і дадаткова ўмацоўваліся штучныміваламі, равамі і астрогам з бярвенняў.

На працягу IX—XIII стст. у сувязі з развіццём рамёстваў і гандлю, зараджэннем дзяржаўнасці на месцы старажытных гарадзішчаў пачалі фарміравацца пасяленні новага тыпу — гарады. Звычайна яны складаліся з дзвюх частак: умацаванага дзядзінца і гандлёва-рамесніцкага пасада. Указаную структуру мелі найбольш старажытныя гарады Беларусі: Полацк, Тураў, Брэст, Віцебск, Мінск, Орша, Друцк, Пінск, Слуцк, Копысь, Гродна, Рагачоў і інш. Гарадскія ўмацаванні гэтага перыяду мелі неўрэгуляваную форму, адпаведную з рэльефам участка, складаліся

[1] Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970.

[2] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 79—90.

[3] Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. М., 1954. С. 9—14.

са штучных земляных збудаванняў, драўляных сцен і вежаў, якія пры адсутнасці агністрэльнай зброі і тактыцы пасіўнай аблогі былі дастаткова надзейнай аховай.

На тэрыторыі дзядзінца канцэнтравалася манументальная забудова — харомы князя і баяр, культавыя будынкі. З пашырэннем хрысціянства на Старажытнай Русі і ўзвядзеннем на яе землях першых мураваных культавых будынкаў па візантыйскаму ўзору для беларускага дойлідства пачаўся якасна новы этап. Па сваім функцыянальным прызначэнні і прагрэсіўным на той час канструкцыйна-тэхнічным вырашэнні гэтыя збудаванні ўвасаблялі ідэалагічную праграму развітога раннефеадальнага грамадства. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя крыжова-купальнага храма, запазычаная з візантыйскага дойлідства, мела глыбокі сімвалічны змест. Найбольш раннія манументальныя культавыя будынкі — Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку. Яны паўтаралі ў агульных рысах тэктанічную структуру візантыйскага пяцінефавага крыжова-купальнага храма. Аднак параўнанне гэтых помнікаў патрабуе ад даследчыкаў вылучыць Полацкую Сафію з ліку іншых пяцінефавых цэркваў Старажытнай Русі па раду вельмі істотных архітэктурных асаблівасцей. Адной з іх з'яўляецца наяўнасць дадатковай пары слупоў на ўсход ад падкупальнага квадрата.

Творчыя, наватарскія прыёмы, закладзеныя ў Сафіі, аказалі ўздзеянне на цэлую групу помнікаў XII—XIII стст., якія аб'яднаны ў сучасным мастацтвазнаўстве агульным тэрмінам «полацкая школа дойлідства». Да іх адносяцца мураваныя крыжовакупальныя цэрквы на дзядзінцы і ў Ніжнім замку, храм-пахавальня і Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку, Вялікі сабор і Барысаглебская царква ў Бельчыцкім манастыры пад Полацкам, Благавешчанская царква ў Віцебску, а таксама рад помнікаў старажытнага Смаленска[4]. Помнікі полацкага круга (большасць з іх вядома па археалагічных даследаваннях) значна адыходзяць ад прынцыпаў візантызму, маюць ярка выражаны самабытны характар. Архітэктурна-планіровачныя і будаўніча-канструкцыйныя асаблівасці вылучаюць адзначаныя помнікі з агульнага рэчышча старажытнарускага дойлідства дамангольскага перыяду. Найбольш тыповай асаблівасцю полацкай школы дойлідства з'яўляецца арыгінальнае мастацкае вырашэнне алтарнай часткі са «схаванымі» бакавымі апсідамі.

Першыя вядомыя грамадзянскія пабудовы — княжацкія харомы ў Полацку і Гродне, пабудаваныя ў апошняй чвэрці XII ст., сведчаць аб зараджэнні самабытнай манументальнай свецкай архітэктуры. Па сваёй будаўнічай тэхніцы яны аналагічныя культавым будынкам, але аб'ёмна-прасторавая структура харо-

[4] Раппопорт П. А. Русская архитектура X—XIII вв.: Каталог памятников // Археология СССР. Свод археологических источников. Л., 1982. Вып. Е 1—47. Табл. 11, 13.

маў, якія мелі зусім іншае прызначэнне, была выпрацавана, безумоўна, мясцовымі дойлідамі. З гэтага кароткага гісторыка-мастацтвазнаўчага экскурсу відаць, што ў XI—XII стст. эпіцэнтрам манументальнага дойлідства з'яўляўся старажытны Полацк, радзіма Ф. Скарыны. Аднак сацыяльна-гістарычныя абставіны наступнага часу прымусілі горад развівацца зусім іншым шляхам.

Звесткі аб тым, ці існавалі мураваныя крапасныя збудаванні на тэрыторыі Беларусі да XIII ст., адсутнічаюць. Але дакладна вядома, што ў XIII ст., у перыяд распаду Кіеўскай дзяржавы, на беларускіх землях з'явіліся мураваныя збудаванні тыпу асобна размешчанай магутнай абарончай вежы, якая акружалася штучнымі землянымі і драўлянымі ўмацаваннямі. Прычынай іх узнікнення паслужыў пераход да выкарыстання каменямётных прыстасаванняў пры актыўным штурме, што было новым этапам у развіцці ваенна-інжынернага мастацтва ўсходніх славян. Са збудаванняў гэтага тыпу да нашага часу збярогся толькі адзін помнік — абарончая вежа ў Камянцы Брэсцкай вобласці. З розных крыніц вядома, што існавалі аналагічныя вежы ў Брэсце, Тураве, Полацку, Гродне, Навагрудку. Паказальная этымалогія тэрміна «вежа», абумоўленая магутнасцю і абарончым прызначэннем збудавання: «твердза» — «твержа» — «вежа».

У другой палавіне XIII ст. пачала складвацца новая дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, якое аб'яднала беларускія і літоўскія землі. Неабходнасць гэтага дзяржаўнага саюза была абумоўлена знешняй пагрозай татара-мангольскай навалы з усходу і агрэсіяй крыжацкіх ордэнаў з захаду. Менавіта ў гэты перыяд у беларускім дойлідстве з'яўляецца новы тып манументальнага збудавання — замак, які спалучаў у сабе жылыя і абарончыя функцыі, а таксама задачы прадстаўніцтва. Агрэсіўнай тактыцы крыжакоў, якія замацоўвалі захопленыя тэрыторыі магутнымі мураванымі замкамі — канвентхаўзамі, была супрацьпастаўлена абарончая сістэма замкаў, сканцэнтраваных на заходніх рубяжах Вялікага княства. У XIV ст. былі ўзведзены мураваныя замкі ў Крэве, Лідзе, Медніках, Троках, Навагрудку, Гродне і Вільні. Усе яны былі велікакняжацкія і мелі агульнадзяржаўнае значэнне.

Па планіровачна-кампазіцыйнаму вырашэнню замкі падзяляюцца на два тыпы. Замкі ў Крэве і Лідзе, пабудаваныя ў першай палавіне XIV ст., уяўляюць сабой тып замка-кастэля з рэгулярнай формай плана і штучнымі землянымі ўмацаваннямі. Яны ўзведзены на нізіннай мясцовасці, на насыпным узвышшы і акружаны ровам з вадой. Магутныя мураваныя сцены (вышынёй каля 12 м, таўшчынёй 2,75 м) утваралі ў плане няправільны чатырохвугольнік, блізкі да квадрата. Баявую моц сцен, якія завяршаліся крытымі навеснымі драўлянымі галерэямі і байніцамі, узмацнялі дзве квадратныя вуглавыя вежы, размешчаныя па дыяганалі. Першапачаткова замкі мелі па адной вежы, дзве

другія ўзведзены пазней, у канцы XIV ст. Вежы ўяўлялі сабой лаканічныя прызматычныя аб'ёмы (без усялякіх гарызантальных чляненняў) з чатырохсхільнымі шатровымі дахамі. Унутры яны мелі некалькі ярусаў, прызначаных для абароны і жылля, аб чым сведчаць убудаваныя прыстасаванні для ацяплення памяшканняў. Дапаможныя службы размяшчаліся ў драўляных пабудовах унутры двара ў адрозненне ад рыцарскіх замкаў, якія мелі па перыметру масіўныя мураваныя будынкі з мноствам памяшканняў.

Другі архітэктурны тып прадстаўляюць велікакняжацкія замкі ў Навагрудку і Гродне, якія працягвалі развіваць традыцыі ўмацаваных гарадзішч і дзядзінцаў старажытных паселішчаў. Яны размяшчаліся на натуральных узгорках вышынёй 30—40 м і мелі ў плане паліганальную форму, адпаведную рэльефу. Да канца XIV ст. аснову іх складалі ўзведзеныя яшчэ ў XIII ст. драўляныя сцены-гародні ў спалучэнні з адной магутнай мураванай вежай. І толькі на мяжы XIV—XV стст., у сувязі з кансалідацыяй сіл для поўнага разгрому крыжакоў драўляныя сцены былі заменены мураванымі і на апорных пунктах плана ўзведзены вежы, якія па сваёй архітэктуры не адрозніваліся ад больш ранніх — масіўныя мураваныя прызматычныя аб'ёмы аднолькавага на ўсю вышыню сячэння, без вонкавых гарызантальных чляненняў, завершаныя байніцамі і невысокімі чатырохсхільнымі шатрамі. Толькі пазней, у пачатку XVI ст., у Навагрудскім замку былі ўзведзены дзве вежы пераменнага сячэння, якія мелі квадратную аснову і васьмерыковы верх. Характэрнай рысай Старога замка ў Гродне з'яўляецца ўбудаваны паміж вежамі двухпавярховы палац Вітаўта, які быў звернуты да горада фасадам з вузкімі байніцамі.

Замкі абодвух тыпаў узводзіліся ў агульнай будаўнічай тэхніцы. Сцены да дзесяціметровай вышыні ўзводзілі з бутавых камянёў і выроўнівалі радамі цаглін. Завяршэнні сцен, вуглы, праёмы таксама абмуроўвалі цэглай. Вежы будавалі пераважна ў тэхніцы трохслаёвай (лускаватай) муроўкі. Унутраную і вонкавую паверхні вежавых сцен ад самага фундаменту выкладвалі з вялікапамернай баразнаватай цэглы. Поласць паміж імі запаўнялася бутам і вапнавай рошчынай з дамешкай бітай цэглы і дробных камянёў — як і ў старажытнай гродзенскай школе дойлідства. У якасці дэкору ўжывалі ўзор з цёмнай перапаленай цэглы-жалезняку.

Унутры ярусы вежаў перакрываліся крыжовымі і нервюрнымі скляпеннямі. Замкі ўсё больш шырока пачалі выкарыстоўваць для жылля, аб чым сведчаць фрагменты кафельных печаў, гаршковыя кафлі XIV ст., якія знойдзены пры раскопках замчышчаў [5].

---

[5] Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Мн., 1988. С. 129—141.

Пасля разгрому Тэўтонскага ордэна крыжакоў у Грунвальдскай бітве (1410) будаўніцтва замкаў агульнадзяржаўнага значэння скарацілася, але беларускае дойлідства ў цэлым працягвала захоўваць абарончы характар. Вялікую небяспеку для беларускіх зямель па-ранейшаму ўяўлялі спусташальныя набегі крымскіх татар.

На мяжы XV—XVI стст. пашыраецца будаўніцтва прыватнаўласніцкіх замкаў. Квінтэсэнцыяй традыцый беларускага замкавага дойлідства, вышэйшым дасягненнем нацыянальнага ваенна-інжынернага мастацтва пачатку XVI ст. з'яўляецца аб'ёмна-прасторавае, канструкцыйна-фартыфікацыйнае і мастацкае вырашэнне прыватнаўласніцкага замка ў Міры. Ён належаў старажытнаму праваслаўнаму магнацкаму роду Іллінічаў, пазней перайшоў у валоданне Радзівілаў. У 1506—1510 гг. тут былі ўзведзены магутныя сцены, якія ў плане ўтвараюць крыху няправільны чатырохвугольнік, блізкі да квадрата, і пяць шмат'ярусных вежаў, чатыры з якіх размяшчаліся па вуглах плана за перыметрам сцен, а пятая, уязная — пасярэдзіне заходняга боку. Вежы Мірскага замка маюць падобную паміж сабой тэктанічную структуру, якая адрозніваецца, аднак, ад больш ранніх замкавых вежаў папярэдняга перыяду. Вежы кампазіцыйна падзяляюцца на дзве часткі: масіўны ніжні чацвярык і верхні васьмярык, завершаны пакатым шатром-каўпаком. Прапорцыі гэтых аб'ёмаў ва ўсіх вежах розныя, з рознай колькасцю ярусаў, але абавязкова верхняя частка мае меншую вышыню і таўшчыню сцен, зрэзаныя вуглы, што надае вежам пры ўсёй іх масіўнасці візуальную вытанчанасць і стромкасць. Васьмерыковая форма вярхоў вежаў у беларускім замкавым дойлідстве распаўсюдзілася пад уплывам мясцовага крапаснога драўлянага будаўніцтва, якое на той час было асноўным. Падобную кампазіцыю атрымалі вежы замкаў у Любчы і Навагрудку, пабудаваныя таксама ў першай палавіне XVI ст.

Мірскі замак уяўляў сабой моцную фартыфікацыйную сістэму. Яго абкружалі штучныя земляныя ўмацаванні — вал і роў, праз які быў перакінуты пад'ёмны мост. Сцены мелі тры ўзроўні бою, злучаныя хадамі з ярусамі вежаў. У ніжняй частцы сцен прарэзаны байніцы для гармат. Унутры сцен на вышыні васьмі метраў ішла галерэя з ружэйнымі байніцамі. Вянчала сцены баявая пляцоўка, закрытая зубчатым парапетам. Вежы завяршаліся поясам машыкуляў-байніц, скіраваных уніз. Асаблівай магутнасцю вылучалася шасціярусная ўязная вежа. Праезд закрываўся дзвюма дубовымі брамамі і металічнай рашоткай-герсай, звонку абараняўся мураванай сцяной-барбаканам.

Першапачаткова на тэрыторыі замка быў пабудаваны невялікі аднапавярховы жылы корпус у паўночна-заходнім куце, затым, у 30-я гады XVI ст., уздоўж паўночнай і ўсходняй сцен узведзены аднапавярховы жылы дом з двух'яруснымі скляпамі пад ім. У XVII ст. яго надбудавалі да трох паверхаў, у выніку чаго ён

набыў формы рэнесанснага палаца. Мастацкі вобраз Мірскага замка дапаўняецца самабытным дэкаратыўным выражэннем, заснаваным на спалучэнні адкрытай цаглянай кладкі і пабеленых плоскіх арачных ніш, паясоў, раструбаў амбразур.

Аналагічную па ідэі кампазіцыю, дэкор і фартыфікацыйныя элементы мелі шырока вядомыя абарончыя цэрквы канца XV — пачатку XVI ст. у Полацку, Супраслі, Сынковічах і Мураванцы [6]. Кампактныя аб'ёмы гэтых помнікаў (у плане блізкія да прамавугольніка або квадрата) фланкіраваліся на вуглах круглымі баявымі вежамі з байніцамі. Па верху сцен ішоў пояс машыкуляў. У скляпах размяшчаліся склады правіянту, пад высокімі клінавіднымі дахамі знаходзіліся ў час небяспекі абаронцы храма. Інтэр'ер залы расчляняўся чатырма слупамі на прасторавыя ячэйкі роўнай вышыні, перакрытыя гатычнымі нервюрнымі скляпеннямі розных тыпаў (крыжовымі, зорчатамі, сотавымі). Пры ўсім агульным падабенстве кампазіцыі гэтых помнікаў у іх ёсць пэўныя адметнасці, абумоўленыя большай або меншай блізкасцю да традыцый старажытнарускага дойлідства.

Першым абарончым культавым будынкам даследчыкі лічаць Сафійскі сабор у Полацку [7]. У XV—XVI стст. умацаваны дзядзінец старажытнага Полацка ператварыўся ў Верхні замак, у цэнтры якога ўзвышаўся яшчэ адзін апошні пункт абароны горада — Сафійскі сабор, дзе ў час небяспекі жыў сам ваявода з сям'ёй. З рада гістарычных крыніц вядома, што ў 1495—1501 гг. старажытны храм быў перабудаваны і набыў пры гэтым абарончыя прыстасаванні. Пазней, у XVII ст., ён неаднаразова цярпеў ад пажараў, перабудоўваўся, быў моцна пашкоджаны выбухам 1710 г. і ў сярэдзіне XVII ст. радыкальна перабудаваны ў стылі віленскага барока. Выгляд сабора ў той час, калі яго бачыў Ф. Скарына, даносіць да нас малюнак С. Пахалавецкага, зроблены ў 1579 г.— у час аблогі Полацка войскамі караля Стэфана Баторыя. На ім сабор прадстаўлены значным па памерах, велічным пяцівежавым збудаваннем з чатырма трох'яруснымі вежамі па вуглах і светлавым барабанам, завершаным высокім шатром, у цэнтры. Суадносіны мас будынка, прапорцыі вертыкальных і гарызантальных чляненняў дазваляюць меркаваць, што ён быў узведзены ў параметрах старажытнага храма і адпавядаў яго канструкцыйнай аснове з трыма алтарнымі апсідамі. Паміж вежамі, верагодна, на ўсіх фасадах былі франтоны, якія закрывалі тарцы крыжападобнага ў плане даху.

Найбольш падобнай да Полацкай Сафіі па аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі была царква ў Супраслі, пабудаваная ў 1503—1510 гг. Яна з'яўлялася галоўным храмам старажытнага праваслаўнага Благавешчанскага манастыра. Ім абедзвюм была ўласціва двухвосевая сіметрыя вянчаючых мас і трохапсіднасць,

---

[6] Иодковский И. Церкви, приспособленные к обороне на Литве и Литовской Руси // Древности. М., 1915. Т. 6. С. 249—311.

[7] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні... С. 127.

характэрная для культавых збудаванняў старажытнарускага перыяду. Верхняя частка Супрасльскай царквы паміж поясам машыкуляў, якія ішлі па верху сцен, і васьміграннным светлавым барабанам купала была вырашана ў выглядзе ўзаемаперпендыкулярных двухсхільных дахаў, што ў плане ўтваралі папарна роўнаканцовы крыж.

Сынковіцкая царква-крэпасць, пабудаваная ў першай чвэрці XVI ст., у плане на ўзроўні падлогі была трохапсіднай, як і Супрасльская, а на ўзроўні пояса машыкуляў — аднаапсіднай. Тры амаль аднолькавыя паўкруглыя апсіды злучаны ў адну пры дапамозе ступенчатых тромпаў і накрыты агульным гонтавым дахам.

Пабудаваная пазней астатніх, паміж 1516 і 1542 гг., абарончая царква ў Мураванцы мае толькі адну значную па памерах паўкруглую апсіду. Гэтыя змены ў кампазіцыі чатырохвежавых храмаў адлюстроўваюць тэндэнцыю ў культавым дойлідстве таго часу да аднаапсіднасці, абумоўленую заходнееўрапейскімі ўплывамі. Відавочна, што самабытная архітэктура гэтых помнікаў склалася на аснове знітавання структуры руска-візантыйскага крыжова-купальнага храма і кампазіцыйна-канструкцыйных прыёмаў мясцовага замкавага дойлідства.

Акрамя чатырохвежавых цэркваў-крэпасцей да канца XV — першай палавіны XVI ст. адносяцца некалькі бязвежавых культавых збудаванняў: Троіцкі касцёл у Ішкалдзі (1472), Барысаглебская царква ў Навагрудку (1519), Святадухаўская царква ў Кодне (1530) [8]. Усе яны мелі кампактны прамавугольны асноўны аб'ём і адну значную па памерах шматгранную апсіду. Абедзве часткі будынка былі накрыты асобнымі высокімі кроквеннымі дахамі. Унутры асноўны аб'ём падзяляўся слупамі на амаль роўныя прасторавыя ячэйкі, перакрытыя нервюрнымі скляпеннямі, распор якіх успрымалі вонкавыя контрфорсы пераменнага сячэння. У будынках гэтага тыпу фартыфікацыйныя элементы (баявыя вежы, байніцы, машыкулі) адсутнічаюць, але агульная кампазіцыя, гатычная канструкцыя скляпенняў і характар дэкору аб'ядноўвае іх з храмамі-крэпасцямі, дзякуючы чаму мы можам іх аднесці да беларускай готыкі.

Дэкаратыўнае вырашэнне культавых помнікаў беларускай готыкі, як і замка ў Міры, заснавана на кантрасце адкрытай цаглянай муроўкі з пабеленымі плоскімі арачнымі нішамі розных форм. Асноўны дэкаратыўны акцэнт рабіўся на шчыце галоўнага фасада, дзе нішы з завяршэннямі ў выглядзе паўцыркульных, корабавых, падвесных дзвюх- і трохпралётных арак утваралі вытанчаную ярусную кампазіцыю. Захавалася традыцыя ўключэння ў муроўку ўзораў з перапаленай цэглы або падкрэслівання канструкцыйнай асновы дэкорам з лекальнай цэглы.

---

[8] Квитницкая Е. Д. Малоизвестные зальные храмы Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1974. Вып. 23. С. 14—27.

Такім у агульных рысах быў стан манументальнага дойлідства Беларусі на пачатак эпохі Адраджэння, эпохі Скарыны.

Змены, якія адбываюцца ў светапоглядзе грамадства, з усіх сфер культуры найбольш павольна адлюстроўваюцца ў манументальным дойлідстве, але вельмі дакладна і трывала замацоўваюцца ў эвалюцыі форм і канструкцый, спецыфіцы мастацкіх уплываў, эстэтычнай канцэпцыі формаўтварэння. З сярэдзіны XVI ст. манументальнае дойлідства паступова страчвае суровы крапасны характар, становіцца больш свецкім і рэпрэзентатыўным. У гэты перыяд найбольш распаўсюджаным стаў тып храма, які ўвабраў у сябе рысы цэнтральнаеўрапейскай готыкі, а таксама італьянскага і нідэрландскага Рэнесансу. Ён уяўляе сабой трохчасткавую тэктанічную структуру, якая складаецца з асноўнага прамавугольнага аднанефавага аб'ёму і далучаных да яго па падоўжнай восі шматграннай апсіды і ўваходнага аб'ёму-бабінца. Усе аб'ёмы звычайна былі аднолькавай вышыні, аб'ядноўваліся агульным прафіляваным карнізам і накрываліся асобнымі дахамі. Дынаміка кампазіцыі дахаў нарастала ад алтара да ўваходу. Бабінец завяршаўся масіўнай вежай, якая складалася з некалькіх ярусаў чацверыкоў і васьмерыкоў і накрывалася шатром-каўпаком. Памеры ярусаў амаль не адрозніваліся паміж сабой. Прапорцыі іх нагадвалі вежы беларускіх замкаў пачатку XVI ст.

Гэты тып культавага збудавання ў беларускую архітэктуру быў прыўнесены каталіцкімі ордэнамі бернардзінцаў і францысканцаў, якія першымі праніклі ў Вялікае княства Літоўскае ў XV — пачатку XVI ст. Яны мігрыравалі з паўночнай Італіі праз Аўстрыю, Венгрыю, Чэхію і Польшчу. Таму азначаны тып храма набыў рысы архітэктуры гэтых краін. Першы помнік такога тыпу — касцёл у Гнезне (Ваўкавыскі р-н) [10], пабудаваны каля 1527 г. Ён меў цалкам гатычную канструкцыю і дэкор. У культавых будынках, узведзеных у сярэдзіне XVI ст., замест гатычных нервюрных скляпенняў з'яўляецца цыліндрычнае скляпенне з распалубкамі, якое перакрывала ўвесь неф і надавала яму залавы характар. Амаль зніклі контрфорсы, якія ўспрымалі распор нервюрных скляпенняў. Стральчатыя гатычныя абрысы праёмаў замяняюцца ўраўнаважанымі паўцыркульнымі аркамі. Сцены тынкуюцца і набываюць скупы ордэрны дэкор. Паясы машыкуляў і байніц замяняе прафіляваны карніз. Усё гэта сведчыць аб пранікненні ў мясцовае дойлідства элементаў Рэнесансу. Нельга не адзначыць таксама генетычнай блізкасці гэтага тыпу культавых будынкаў да драўлянага дойлідства. Сваёй лаканічнасцю, гранёнымі формамі апсід, комплекснай кампаноўкай роўнавышынных аб'ёмаў яны нагадваюць трохзрубавы тып

[9] Encyclopedia koscielna. Warszawa, 1873. T. 2. S. 218.

[10] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 127—128.

драўляных цэркваў, які сфарміраваўся на аснове мясцовых цяслярскіх традыцый.

У перыяд рэфармацыйнага руху пачалося актыўнае будаўніцтва пратэстанцкіх храмаў. Пабудаваныя ў другой палавіне XVI ст. кальвінскія зборы ў Асташыне (Навагрудскі р-н), Койданаве (цяпер г. Дзяржынск)[11], Дзераўной і Новым Свержані (Стаўбцоўскі р-н)[12] маюць трохчасткавую аб'ёмна-прасторавую структуру з вежай над бабінцам і вызначаюцца спецыфічнай лапідарнасцю мас і стрыманасцю дэкору, што адпавядае імкненню пратэстантаў да больш таннай і аскетычнай царквы. Гэтыя храмы яшчэ захоўвалі абарончыя функцыі і нярэдка дапаўняліся сістэмай вонкавых умацаванняў.

Рысы готыкі і Рэнесансу арганічна спалучыліся ў архітэктуры касцёлаў сярэдзіны і другой палавіны XVI ст. Аднанефавую трохчасткавую структуру з гранёнай апсідай і вежай над бабінцам меў фарны касцёл у Клецку[13]. У ім неф і апсіда аднолькавай вышыні, аб'яднаны агульнай цягай прафіляванага карніза і высокім двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Чацвярык бабінца зроблены больш нізкім, а верхнія васьмігранныя ярусы вежы расчлянёны атыкавымі ўстаўкамі. Гэта робіць вежу больш стромкай і пластычнай. У архітэктуры касцёла элементы рэнесансавага дэкору дапаўняліся масіўнымі контрфорсамі, якія ўмацоўвалі сцены будынка.

Фарны касцёл у Гродне, так званая фара Вітаўта, — першы помнік, у якім адбыўся своеасаблівы сімбіёз аднавежавай аб'ёмна-прасторавай структуры, характэрнай для гатычнай архітэктуры амаль усёй Цэнтральнай Еўропы, з традыцыйнымі для беларускай готыкі баявымі вежамі, якія фланкіравалі храмы-крэпасці. Заснаваны пры князю Вітаўце, першапачатковы касцёл быў драўляны. Мураваны будынак быў узведзены ў 1579—1586 гг.[14] — у той час, калі кароль Стэфан Баторый зрабіў Гродна ледзь не сталіцай Рэчы Паспалітай. Упершыню гэты помнік адлюстраваны на гравюры Т. Маскоўскага пачатку XVII ст. Будынак фарнага касцёла неаднаразова цярпеў ад пажараў і перабудоўваўся. У пачатку XIX ст. быў прыстасаваны пад праваслаўную царкву, а ў першай палавіне XX ст.— зноў пад касцёл. Звонку ён быў падобны на апісаныя вышэй готыка-рэнесансавыя культавыя будынкі залавага тыпу, але меў унутры трохнефавую базілікальную структуру. Аконныя праёмы былі стральчатай формы, але ў дэкоры пераважалі рысы Рэнесансу. Контрфорсы, якія ўмацоўвалі сцены, былі аформлены накшталт пілястраў, зверху злучаліся лучковымі аркамі і ўтваралі такім чынам на бакавых фа-

---

[11] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1969. С. 65—68.

[12] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Мн., 1987. Кн. 2. С. 241—243.

[13] ЦДГА ЛітССР. Г. Вільнюс. Ф. 1135. Воп. 3. Спр. 501.

[14] Квитницкая Е. Д. Приходской костел в Гродно // Проблемы истории архитектуры народов СССР. Сб. науч. тр. М., 1975.

садах рытмічную рэнесансавую аркаду. Цэнтральны неф на галоўным фасадзе завяршала магутная вежа, з другога боку ён пераходзіў у гранёную апсіду прэзбітэрыя. Бакавыя нефы каля алтара завяршаліся паўкруглымі нішамі, схаванымі ў тоўшчы сцяны, а на галоўным фасадзе — дзвюма вежачкамі па баках цэнтральнай. Іх высокія ніжнія ярусы былі квадратныя ў плане, а невысокія верхнія нагадвалі круглыя баявыя вежы абарончых храмаў, як, відаць, было ў той час і ў полацкім Сафійскім саборы. Усе гэтыя асаблівасці падкрэсліваюць пераходны характар архітэктуры «фары Вітаўта», якая сінтэзавала традыцыі беларускага дойлідства папярэдняга часу і элементы Рэнесансу.

Тыя ж рысы, але ў зусім іншых формах спалучыліся ў архітэктуры Троіцкага касцёла ў Чарнаўчыцах (Брэсцкі р-н), набудаванага ў 1585 г.[15], што адлюстроўвае інтэнсіўны творчы пошук у манументальным дойлідстве таго часу. У Чарнаўчыцкім касцёле плоскі рэнесансавы фасад спалучаецца з абарончай вежай каля паўкруглай апсіды прэзбітэрыя. Рэнесансавы характар помніка падкрэслівае дэкор цыліндрычных скляпенняў у інтэр'еры, якія аздоблены ляпнымі кесонамі са складаным геаметрычным малюнкам.

У апошняй чвэрці XVI ст. дзеля ўмацавання пазіцый каталіцызму і яго ідэалагічнага ўздзеяння на веруючых у беларускую архітэктуру быў прыўнесены архітэктурны тып галоўнага ордэнскага храма езуітаў — касцёла Іль Джэзу ў Рыме, які ўвасабляў сабой эстэтычныя прынцыпы новага архітэктурна-мастацкага стылю барока. Выразныя сродкі гэтага стылю служылі рэалізацыі сацыяльна-філасофскай праграмы контррэфармацыі. Першым помнікам барока на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай з'явіўся касцёл езуітаў у Нясвіжы, узведзены ў 1587—1593 гг.[16] Збудаванне ўяўляе сабою першую ў беларускім дойлідстве трохнефавую крыжова-купальную базіліку з плоскім бязвежавым фасадам, насычаным ордэрнай пластыкай і завершаным франтонам з валютамі. План будынка на ўзроўні карніза мае форму лацінскага крыжа. У адрозненне ад рымскага першаўзору Нясвіжскі касцёл мае самабытныя рысы (раўназначная распрацоўка ўсіх фасадаў, спрошчаны ордэр, наяўнасць дадатковых бакавых гранёных капліц), якія ўжо даўно прыцягвалі ўвагу даследчыкаў. Але, што асабліва цікава, першапачаткова меркавалася ўзвядзенне не гэтых капліц, а дзвюх круглых баявых вежаў па баках галоўнага барочнага фасада. Аб гэтым сведчаць нядаўна выяўленыя праектныя чарцяжы касцёла, якія належаць яго аўтару манаху-езуіту Дж. М. Бернардоні.

З'яўленне праектнага чарцяжа — значная з'ява ў гісторыі беларускага дойлідства. Праектны чарцёж у яго сучасным разуменні, дзе ў пэўным маштабе прадстаўлены планы, фасады бу-

---

[15] Аддзел рукапісаў НБ Вільнюскага універсітэта. Ф. 4. Спр. 2934.
[16] ЦДАС. Г. Масква. Ф. 2188. Т. 1. Спр. 51—51адв.

дучага збудавання, узмацняў творчую ролю архітэктара, больш дакладна адлюстроўваў эстэтычныя прынцыпы грамадства пэўнага перыяду. Сярод усходнеславянскіх народаў праектны чарцёж перш за ўсё з'явіўся з пачаткам эпохі барока на Беларусі.

Нягледзячы на наватарскія выразныя сродкі архітэктуры Нясвіжскага касцёла езуітаў, да пачатку XVII ст. ён заставаўся тут адзіным помнікам стылю барока. Пабудаваны ўслед за ім комплекс кляштара бенедыкцінак у Нясвіжы (1590—1596 гг.) [17] мае адкрытую Е-падобную кампазіцыю, якая адлюстроўвае паслабленне абарончых функцый пабудоў такога роду. Аднак будынак касцёла, размешчаны паміж крыламі кляштара, захаваў элементы готыка-рэнесансавага характару. Ён мае аднанефавую структуру з гранёнай апсідай і вежай на галоўным фасадзе.

Блізкі рэгіянальна да Нясвіжа Мікаласўскі касцёл у Міры (Карэліцкі р-н, 1599—1605 гг.) [18] — другая па часе ў архітэктуры Беларусі трохнефавая базіліка. Але тут яна набыла рад новых кампазіцыйных элементаў. Храм гэты трохапсідны, што было характэрна для праваслаўнага, а не для каталіцкага будаўніцтва на Беларусі. Да таго ж пры дапамозе своеасаблівых контрфорсаў бакавыя апсіды схаваны ў тоўшчы сцен і не выяўлены ў вонкавым вобліку будынка, як і ў старажытнай полацкай школе дойлідства. Трансепт (папярочны неф) мае гранёныя формы крылаў, што сведчыць аб яго генетычнай сувязі з драўляным дойлідствам. Ён значна меншы, чым у Нясвіжскім касцёле езуітаў, і таму план на ўзроўні карніза — просты прамавугольнік. З уваходу замест плоскай сцяны фасада цэнтральны неф завершаны высокай чацверыковай вежай, а бакавыя — дзвюма невялікімі круглымі баявымі вежамі. Трохвежавае вырашэнне галоўнага фасада Мірскага касцёла даволі арганічна спалучаецца з трохнефавай структурай збудавання.

Найбольш вядомай пабудовай беларускага Рэнесансу з'яўляецца кальвінскі збор у Смаргоні, які першапачаткова таксама быў трохвежавым. Будынак узведзены як пратэстанцкі храм у 1606—1612 гг.[19], але хутка, як і кальвінскія зборы ў Дзераўной, Новым Свержані і інш., быў прыстасаваны пад касцёл. Для класічных пабудоў Рэнесансу характэрны ўраўнаважанасць суадносін прасторы і масы, раўназначнасць усіх фасадаў, якая найлепей дасягаецца пры цэнтрычнай кампазіцыі збудаванняў. Кальвінскі збор у Смаргоні — адзіны сярод архітэктурных помнікаў Беларусі перыяду Рэнесансу, які па форме набліжаецца да італьянскіх узораў. Ён мае амаль цэнтрычную кампазіцыю, якая, аднак, не вытрымана паслядоўна. Унутраная прастора ўяўляе сабою круглую залу, перакрытую сферычным купалам. Звонку гэта прастора апранута ў васьмігранны аб'ём, які ў плане ўжо

[17] ЦДГА БССР. Г. Минск. Ф. 1787. Воп. 27. Спр. 283; ЦДВГА. Г. Масква. Ф. 349. Воп. 19. Спр. 4409.

[18] ЦДГА ЛітССР. Г. Вільнюс. Ф. 1135. Воп. 3. Спр. 542.

[19] Кароткая Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1981. Т. 4. С. 545.

не роўнабаковы, а з двума больш выцягнутымі бакамі. Купал звонку часткова закрыты атыкам, накрыты вальмавым дахам і падоўжаным вільчыкам. Падоўжнасць кампазіцыі яшчэ больш падкрэслена тым, што з уваходу да асноўнага аб'ёму далучана масіўная цэнтральная вежа, да якой па баках прылягалі дзве невялікія круглыя вежачкі.

Атык — дэкаратыўны парапет, які вянчае фасад будынка і закрывае яго дах, з'яўляецца адным з найбольш тыповых элементаў архітэктуры Рэнесансу. Характэрнай нацыянальнай асаблівасцю рэнесансавых пабудоў на Літве і Беларусі было тое, што атык у іх меў дэкаратыўна-абарончае прызначэнне. Атык Смаргонскага збору быў аздоблены рытмічным радам плоскіх арачных ніш і прарэзаны байніцамі. Форма арак — падвойных з гіркамі — захавалася яшчэ з часоў беларускай готыкі. Падобныя атыкі мелі Ніжні замак, універсітэт і яшчэ некалькі будынкаў у Вільні [20].

Мастацкія сродкі рэнесансавай архітэктуры — атык, руставаныя лапаткі, філёнгавыя нішы спалучаліся з абарончымі прыстасаваннямі ў будынку сінагогі ў Старым Быхаве, узведзеным у канцы XVI ст. Ён меў цэнтрычную квадратную ў плане дзевяцiпольную кампазіцыю з баявой вежай на паўночна-ўсходнім рагу будынка.

Блізкую да Смаргонскага кальвінскага збору аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю меў яшчэ адзін рэфармацкі храм — у в. Кухцічы (Уздзенскі р-н) [21]. Яго вонкавы выгляд потым быў значна зменены ў выніку перабудоў. Тэктанічная структура будынка складаецца з цэнтрычнага шматграннага асноўнага аб'ёму, да якога па падоўжанай восі далучаны квадратныя ў плане бабінец і апсіда. Раней асноўны аб'ём перакрываўся купалам, а бабінец, верагодна, завяршаўся шмат'яруснай вежай. Дзве баявыя круглыя вежачкі размешчаны не ў месцы злучэння бабінца і асноўнага аб'ёму, а на нарожных вуглах бабінца і прасторава развіваюць галоўны фасад, як гэта меркавалася зрабіць у Нясвіжскім касцёле езуітаў. У такой трактоўцы фасада адчуваецца ўплыў прынцыпаў барока, што і дазваляе датаваць помнік канцом XVI — пачаткам XVII ст. Аналагічную кампазіцыю фасада меў двухвежавы касцёл у Камаях (Пастаўскі р-н), пабудаваны ў 1603—1606 гг. Далейшае развіццё тэктонікі культавых будынкаў ішло пад пераважным уздзеяннем эстэтыкі барока. Больш трывалымі пазіцыі Рэнесансу аказаліся ў свецкім манументальным дойлідстве Беларусі.

У другой палавіне XVI ст. ускладненне феадальных адносін, развіццё рамёстваў, рост насельніцтва ў гарадах прывялі да фарміравання новых горадабудаўнічых прынцыпаў. Павялічва-

[20] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. Т. 1. С. 243—247.

[21] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кн. 2. С. 257.

лася тэрыторыя гарадоў, ускладнялася іх планіровачная структура. Як і ў папярэдні перыяд, значная роля ў ёй належала гарадскім умацаванням. Адначасова ўзрасло значэнне гандлёвай плошчы, дзе сыходзіліся асноўныя шляхі зносін. Яна стала ядром архітэктурнай кампазіцыі горада: тут узводзіліся манументальныя грамадскія збудаванні. З іх да нашага часу захаваўся амаль што адзіны помнік — ратуша ў Нясвіжы, пабудаваная ў 1596 г. Будынак мае кампазіцыю, сіметрычную адносна падоўжнай восі з масіўнай чацверыковай вежай над уваходам, і нагадвае, такім чынам, гатычныя храмы рэнесансавага тыпу.

Для манументальнага жыллёвага будаўніцтва XVI ст. характэрны тры асноўныя тыпы збудавання: двор, палац і замак[22]. Двор — паняцце хутчэй этнаграфічнае, чым архітэктурна-мастацкае. Аснову яго складалі драўляная жылая аднапавярховая пабудова «з нізка размешчанымі вокнамі» і гаспадарчыя службы, а таксама абарончыя прыстасаванні накшталт астрога. Палацам называлася двухпавярховая «мураваная камяніца» без унутранага дворыка. Характэрным прыкладам мясцовага рэнесансавага палаца з'яўляецца так званы замак каралевы Боны ў Рагачове, умацаваны контрфорсамі, які адначасова меў арачную лоджыю на другім паверсе. Пад замкам разумелася збудаванне з унутраным дваром, абкружаным па перыметру сценамі і пабудовамі. Аптымальным лічыўся двор даўжынёю 50—60 локцяў. Прыватнаўласніцкія замкі ў Любчы, Геранёнах, Іказні і г. д. мелі аб'ёмна-планіровачную кампазіцыю ў выглядзе чатырохвугольнага збудавання з унутраным дваром, тоўстымі сценамі і вежамі на вуглах і над уязной брамай — у асноўных рысах падобныя да Мірскага замка.

Пад уплывам Рэнесансу замкавае будаўніцтва паступова трансфармавалася ў палацава-замкавае. Аб гэтым сведчыць перабудова Старога (Каралеўскага) замка ў Гродне ў 1580 г., які быў перабудаваны для караля Стэфана Баторыя ў формах мясцовага Рэнесансу архітэктарам Скота з Пармы. Па рэканструкцыі К. Вайцяхоўскага двухпавярховы мураваны палац, убудаваны ў перыметр сцен замка і павернуты да горада вузкімі байніцамі, набыў вялікія аконныя праёмы, рызаліт з адкрытай арачнай лоджыяй і дэкаратыўна-абарончы атык з мерным рытмам плоскіх падвесных арачных ніш.[23] У аздабленні інтэр'ераў былі ўжыты разьбяныя па каменю абрамленні акон і парталаў.

Удасканаленне ваеннай тэхнікі спрыяла развіццю новых сістэм фартыфікацыі, а ў выніку і падзелу грамадзянскіх і ваенных функцый архітэктурных комплексаў. У канцы XVI ст. у горадабудаўнічай практыцы Беларусі атрымала развіццё тэндэнцыя, заснаваная на выкарыстанні заходнееўрапейскіх фартыфікацый-

---

[22] Łuszczkiewicz W. Przyczynek do historyi architektury dworu szlacheckiego w Polsce XVI wieku. Kraków, 1890. S. 3—4.

[23] Wojciechowski K. Stary zamek w Grodnie. Warszawa, 1938.

ных сістэм, якія ўзніклі ў Італіі на мяжы XV—XVI стст., а пазней былі ўдасканалены галандскімі інжынерамі-фартыфікатарамі [24]. Гэта тэндэнцыя знайшла найбольш яркае выражэнне ў архітэктурна-планіровачнай структуры прыватнаўласніцкіх гарадоў, такіх, як Нясвіж, Ляхавічы, Быхаў, Слуцк. Буйнейшыя магнаты Вялікага княства Літоўскага імкнуліся мадэрнізаваць свае рэзідэнцыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Для гэтага яны запрашалі заходнееўрапейскіх майстроў архітэктуры і ваенна-інжынернага мастацтва.

Адным з першых бастыённых замкаў на Беларусі быў замак у Заслаўі, пабудаваны па загаду яго ўладальніка І. Глябовіча. Па сваёй структуры Заслаўскі замак адпавядаў стараітальянскай сістэме фартыфікацыі з абмураванымі каменем кароткімі курцісамі і блізка размешчанымі бастыёнамі. Трапецападобнае збудаванне займала астраўное палажэнне, было абкружана воднымі перашкодамі. Пад'ёмны мост цераз роў вёў да двухпавярховай брамы з магутнымі сценамі, якая была пад аховай паўднёва-ўсходняга бастыёна. На тэрыторыі замка ў 1557 г. была ўзведзена мураваная Спаса-Праабражэнская царква аднанефавага залавага тыпу, да якой у XVII ст. была прыбудавана шмат'ярусная вежа над бабінцам. Па сваёй кампазіцыі і дэкору гэты помнік з'яўляецца яркім прыкладам Рэнесансу ў беларускім дойлідстве.

У 1583 г. на месцы старога драўлянага замка Радзівілаў у Нясвіжы быў закладзены новы замак, які ўяўляў сабой узор новаітальянскай сістэмы фартыфікацыі. Ён меў у плане рэгулярную прамавугольную форму з вялікімі бастыёнамі па вуглах, каменную абмуроўку курцін і бастыёнаў, быў абкружаны земляным валам і ровам з вадой, узровень якой рэгуляваўся. Акрамя таго, замак аддзяляўся ад горада двума вялікімі штучнымі вадаёмамі, утворанымі на р. Уша. Уязджаць у замак трэба было па доўгаму разборнаму драўлянаму масту праз запруды, а затым па пад'ёмнаму масту праз роў. Ёсць звесткі, што ў пачатку XVII ст. на бастыёнах былі ўзведзены традыцыйныя для мясцовага замкавага будаўніцтва абарончыя вежы. Унутры замкавых умацаванняў знаходзіліся двух- і трохпавярховыя палацавыя і службовыя пабудовы, якія былі пазбаўлены абарончых функцый. Нясвіж меў асобныя ад замка земляныя ўмацаванні з брамамі на асноўных шляхах зносін.

Падобную да Нясвіжскага замка новаітальянскую сістэму ўмацаванняў мела адна з найбольш магутных у Рэчы Паспалітай Ляхавіцкая «фартэцыя», пабудаваная ў канцы XVI ст. Я. Хадкевічам. Па восі ўезда ў замак размяшчаўся двухпавярховы палац з сіметрычнай П-падобнай кампазіцыяй, з паўадкрытым дворыкам, аформленым аркадай і шмат'яруснымі франтонамі ў формах Рэнесансу [25]. Па-мастацку выразны свецкі харак-

---

[24] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні... С. 102—104.

[25] ДПБ імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Калекцыя аддзела картаграфіі. № 273. Гравюра фартэцыі ў Ляхавічах.

тар пабудовы быў абумоўлены тым, што яе можна было надзейна абараніць.

На мяжы XVI—XVII стст. атрымалі пашырэнне сістэмы фартыфікацыі, распрацаваныя ў Галандыі, што было звязана з дзейнасцю ў Вялікім княстве Літоўскім групы галандскіх інжынераў-фартыфікатараў. Умацаванні гэтага тыпу мелі земляныя валы без абмуроўкі, больш плоскія і шырокія равы. Гэта рабіла іх больш простымі і таннымі, дазваляла павялічыць памеры абарончага пояса і ахоўваемай тэрыторыі.

Ў 1590—1610 гг. гетман Вялікага княства Літоўскага Я. Хадкевіч узвёў у Старым Быхаве магутныя гарадскія ўмацаванні старагаландскага тыпу. Горад быў абкружаны землянымі валамі з бастыёнамі і равелінамі, якія ўтваралі ў плане амаль правільны паўкруг радыусам 400 м. Унутры іх сетка вуліц з жылой забудовай утварала трыццаць два рэгулярныя кварталы з вялікай гандлёвай плошчай, на якой былі ўзведзены крамы і культавыя будынкі. Геаметрычным цэнтрам паўкруглага плана горада і яго кампазіцыйнай дамінантай быў замак феадала, які завяршаў усходні бок умацаванняў Старога Быхава. Замкавы комплекс складаўся з некалькіх будынкаў, якія ўтваралі ў плане замкнёны чатырохвугольнік, аддзяляўся ад горада ровам з пад'ёмным мастом. Галоўны палацавы корпус меў уваходную арачную галерэю і шматгранныя ад асновы вежы, з'яўленне якіх у беларускім дойлідстве звязана з уплывам нідэрландскага Рэнесансу.

Аналагічныя формы вежаў мелі пабудаваныя ў пачатку XVII ст. палацава-замкавыя комплексы ў мястэчках Гальшаны (Ашмянскі р-н), і Смаляны (Аршанскі р-н), якія належалі буйным магнатам Сапегам і Сангушкам. Гэтыя збудаванні па-ранейшаму маюць замкнёны блізкі да квадрата план, але яго ўтваралі ўжо не абарончыя сцены і вежы, а палацавыя карпусы з анфіладнай планіроўкай памяшканняў, вялікімі аконнымі праёмамі на фасадах. Будынкі, верагодна, таксама завяршаліся атыкам у мясцовай трактоўцы, фігурнымі яруснымі шчытамі на тарцах дахаў, мелі адкрытыя ва ўнутраны двор арачныя галерэі. Вежы выкарыстоўваліся пад жылыя памяшканні і кабінеты. Інтэр'еры былі аздоблены ляпным рэнесансавым дэкорам, фрэскавымі размалёўкамі. Абарончыя функцыі былі перанесены на земляныя валы і равы, што абкружалі замкі.

Своеасаблівы сплаў палаца і замка ўяўляе прыватны жылы дом архітэктара П. Нонхарта ў Гайцюнішках (Воранаўскі р-н), пабудаваны ў 1611—1612 гг. Двухпавярховая прамавугольная ў плане мураваная камяніца фланкавана на вуглах чатырма баявымі вежамі. Уваход зроблены ў пятай масіўнай чацверыковай вежы, размешчанай на падоўжным фасадзе. У перыяд барока ў кампазіцыі мясцовых палацаў баявыя вежы пераўтварыліся ў вуглавыя жылыя аб'ёмы — «алькежы», а ўваходная вежа — у цэнтральны рызаліт.

Пашырэнне новых архітэктурных сістэм спрыяла далейшаму размежаванню фартыфікацыйных і свецкіх функцый збудаванняў, што абумовіла развіццё іх мастацкіх форм. Акрамя адзначанай тэндэнцыі даволі надзейна трымаліся і працягвалі развівацца традыцыі мясцовага драўлянага крапаснога будаўніцтва. У другой палавіне XVI ст. у час Лівонскай вайны пояс абарончых збудаванняў перамясціўся на ўсходнія тэрыторыі Беларусі. У басейне Заходняй Дзвіны і Дняпра было пабудавана шмат драўляных крэпасцей, напрыклад, у Оршы, Дзісне, Мазыры, Рэчыцы. З удзелам мясцовых майстроў былі ўзведзены або ўзмоцнены драўляныя крэпасці: Каз'ян, Туроўля, Сітна, Красны, Суша, Сокал, Усвяты і інш., якія мелі важнае стратэгічнае прызначэнне [26].

У такіх буйных гарадах, як Полацк, Віцебск, Магілёў, было створана некалькі злучаных паміж сабой замкаў, якія ўтваралі адзіную абарончую сістэму. У Полацку і Віцебску «Верхнія замкі» ўзніклі на месцы дзядзінцаў старажытнарускіх гарадоў, умацаванні «Ніжніх замкаў» абкружылі тэрыторыі пасадаў. Больш раннія прымітыўныя ўмацаванні ў выглядзе астрога былі заменены магутнымі драўлянымі сценамі — «гароднямі» і «тарасамі», якія мелі некалькі баявых ярусаў, завяршаліся навеснымі галерэямі пад двухсхільным дахам. Вуглавыя пункты паліганальных планаў замкаў умацоўваліся шмат'яруснымі вежамі, завершанымі дазорнымі пляцоўкамі-трапіламі і шатровымі дахамі. Гародні рубіліся ў пяць, а вежы — у тры насцілы бярвенняў. Кампазіцыя вежаў была рознай. Былі чацверыковыя вежы пастаяннага сячэння, рубленыя «клецкі». Больш выразную кампазіцыю мелі «круглікі» — васьмерыковыя ад асновы вежы ці «васьмерыкі на чацверыку», падобныя да вежаў Мірскага замка. Вежы-трысцены называліся «бычкі», а невялікія аднаярусныя — «раскаты». Некаторыя вежы былі прарэзаны брамаміўездамі на тэрыторыю замкаў. У XVI ст. у Полацку апрача замкаў было пяць умацаваных пасадаў.

Тэхнічна-канструкцыйны ўзровень драўлянага крапаснога будаўніцтва з развіццём ваеннай тэхнікі паступова ўдасканальваўся. У XVII ст. яно дасягнула вышэйшага росквіту, але ўжо ў пачатку XVIII ст. страціла стратэгічнае і горадабудаўнічае значэнне. Разбураныя ў Паўночную вайну драўляныя замкі Беларусі больш не аднаўляліся.

У беларускім манументальным дойлідстве кароткая, але дынамічная эпоха Рэнесансу пакінула свой непаўторны адбітак. Яна з'явілася пераломным момантам у эвалюцыі форм і канструкцый збудаванняў, станаўленні новых прынцыпаў горадабудаўнічай практыкі, аказала ўплыў на фарміраванне самабытных рыс нацыянальнай архітэктуры і шляхі яе далейшага развіцця.

---

[26] Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. С. 41—44.

## ЖЫВАПІС XV—XVI стст.

**Манументальны жывапіс.** Беларускі манументальны жывапіс перыяду XV—XVI стст. з'яўляецца натуральным працягам традыцый жывапісу Кіеўскай Русі і захоўвае рысы візантыйскага мастацтва: вытанчаны каларыт, гарманічныя прапорцыі і смелы малюнак. Побач з гэтым традыцыйным напрамкам шырокае развіццё атрымлівае жывапіс, які ствараўся пад непасрэдным уздзеяннем фальклорна-паэтычных уяўленняў аб прыгажосці і быў цесна звязаны з дэмакратычнымі мастацкімі ідэаламі. Для яго былі характэрны: гучная колеравая гама, цвёрдая лепка, лапідарная кампазіцыя. Замест аскетычных рыс у жывапіс усё часцей пранікаюць маральна-павучальныя ідэі.

Агульным для мастацтва Беларусі гэтага перыяду з'яўляецца ідэйна-вобразны пачатак, дзе галоўнае месца займае маральны свет чалавека. Цікавасць да чалавека аказвае ўплыў на эвалюцыю мастацкай мовы, якая становіцца больш даходлівай. У ёй узмацняецца экспрэсія, нарастае драматызм. Вобразы святых надзяляюцца мясцовымі рысамі, высокімі маральна-этычнымі якасцямі.

Манументальны жывапіс Беларусі XV—XVI стст. амаль не захаваўся, але, як сведчаць архіўныя і літаратурныя крыніцы, у той час шматлікія забудовы былі ўпрыгожаны фрэскавым роспісам. Напрыклад, княжацкія палацы ў Вільні, Троках [1], Віцебску [2], Полацку, Гродне; цэрквы абароннага значэння ў Маламажэйкаве, Сынковічах [3], Супраслі; касцёл у Ішкалдзі, сцены, скляпенні і слупы якога былі некалі ўпрыгожаны фігурамі розных святых асоб, арнаментальнымі матывамі [4].

Развіццё беларускага манументальнага жывапісу адбывалася нераўнамерна і ў надзвычай складаных умовах. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што менш будавалася мураваных храмаў і больш узводзілася драўляных цэркваў, што ў сваю чаргу выклікала развіццё іканапісу (як правіла, абразоў на дрэве), які эвалюцыяніраваў па ўзыходзячай лініі.

Кардынальныя змены, што адбыліся ў характары манументальнага дойлідства, у значнай ступені абумоўлены гістарычнымі, сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі існавання беларускіх зямель у дадзены перыяд, калі значная частка іх знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага, якое ў сваю чаргу ўтварала саюз з Польскай каронай.

Кароль Рэчы Паспалітай Ягайла (1348—1434) выхоўваўся пры віленскім двары, быў акружаны ў асноўным беларускімі

[1] Athenaeum. Wilno, 1841. T. 1, 2, 3; Smokowski W. Wspomnienie Trok roku 1822. S. 157—180; ЦДГА Літоўскай ССР. г. Вільнюс. Ф. 1135. Воп. 12. Адз. зах. 557—559, 561, 562. Л. 1.

[2] Długosz J. Historiae Polonicae libri XII, IV. Cracoviae, 1877. S. 536.

[3] Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии XIV—XVI вв. // Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6. С. 465.

[4] ЦДГА БССР. Ф. 1781. Воп. 27. Спр. 501 (візіта касцёла 1729 г.).

магнатамі. Агульнаўжывальнай мовай у гэтым асяроддзі была старажытнабеларуская. У майстэрнях, якія знаходзіліся на ўтрыманні двара, працавала шмат беларускіх ювеліраў злотнікаў, гравёраў, жывапісцаў. Натуральна, што беларуская культура аказвала вялікае ўздзеянне на выхаванне Ягайлы, а пасля і яго сына — караля Казіміра Ягелончыка (1440—1492).

Ужо ў першыя гады праўлення караля Ягайлы ў Польшчу былі запрошаны майстры з Беларусі, Украіны, Расіі [5]. Паводле падання, прыдворным жывапісцам у караля быў Якуб Венжык родам з Беларусі [6].

Польскі гісторык часоў сярэдневякоўя Длугаш пісаў: «...кароль Уладзіслаў перад лацінскай мовай і мастацтвам аддаваў перавагу рускай» [7]. Такая арыентацыя, бясспрэчна, адыграла значную ролю ў развіцці ўсходнеславянскага манументальнага жывапісу ў Польшчы.

З матэрыялаў Длугаша вядома, што па даручэнню Ягайлы храмы на Лысай гары, у Кракаве, Вісліцы, Сандаміры, Любліне і Гнезне былі ўпрыгожаны «грэчаскім сценапісам» (так называліся «рускія» фрэскі ў Польшчы) [8]. Гэта пацвердзілі потым рускія і польскія даследчыкі [9].

Да найбольш значных твораў «рускага» жывапісу ў Польшчы належаць манументальныя роспісы канца XIV — пачатку і сярэдзіны XV ст.: фрэскі катэдраў у Гнезне і Сандаміры, калегіяты ў Вісліцы, капліц св. Тройцы і св. Крыжа ў Вавельскім замку, капліцы св. Тройцы ў Люблінскім замку.

Фрэскавыя цыклы, якія захаваліся на тэрыторыі Польшчы, маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць для вывучэння культурнай спадчыны беларускага народа гэтага перыяду менавіта таму, што яны ствараліся ў спецыфічных абставінах. Розная ступень захаванасці не дае магчымасці для грун-

---

[5] Piekosiński F. Rachunki dworu króla Władysława Jagiełły i królowej Jadwigi. Kraków, 1896. S. 126—127, 136; Kopera F. Dzieje malarstwa w Polsce. Średniowieczne malarstwo w Polsce. Kraków, 1925. Cz. 1. S. 126; Соболевский А. И. Русские фрески в старой Польше. М., 1916. С. 4; Эттингер П. Русская церковная стенопись в средневековой Польше // Старые годы. 1915. С. 69—72.

[6] Старые годы. С. 69.

[7] Kopera F. Dzieje malarstwa w Polsce. Średniowieczne malarstwo w Polsce. S. 126; Яго ж. O malarstwie bizantyńskim w Polsce. Kraków, 1906. S. 1—3.

[8] Piekosiński F. Rachunki dworu króla Władysława Jagiełły i królowej Jadwigi. S. 126.

[9] Kopera F. Dzieje malarstwa w Polsce. Średniowieczne malarstwo w Polsce. Kraków, 1925; Walicki M. Malowidła ścienne Kościoła św. Trójcy na zamku w Lubline. Studia do dziejów sztuki w Polsce, Warszawa, 1930. T. 3. S. 2—30; Różycka—Bryzek A. Bizantyńsko-ruskie malowidła ścienne w kaplicy Świętokrzyskiej na Wawelu // Studia do dziejów Wawelu. Kraków, 1968. T. III. S. 175—293; Каринский Н. М. Русская надпись в Люблинском тюремном костеле // Изв. имп. археол. комиссии. Спб., 1910. Воп. 35. С. 134; Соболевский А. Материалы исследования в области славянской филологии и археологии. Спб., 1910. С. 193.

тоўнага і сістэматызаванага даследавання гэтых твораў манументальнага мастацтва [10].

Манументальны жывапіс калегіяты ў Вісліцы захаваўся ў фрагментах. Размешчаны фрэскі ў алтары, на прасценках паміж вокнамі і нішамі праз пэўныя інтэрвалы. Такое размяшчэнне было абумоўлена канонамі і прынцыпамі гатычнай архітэктуры. Насценны жывапіс калегіяты складаецца з трох рэгістраў, два з якіх прысвечаны евангельскім тэмам, трэці — адзіночным фігурам святых. На адкосах аконных праёмаў дзе-нідзе захаваліся рэшткі расліннага арнаментальнага дэкору.

Жывапіс фрэсак шчыльны, зроблены на колеравым спалучэнні карычнева-чырвоных, сіне-зеленаватых таноў з рэзкаватымі пераходамі колераў ад цёмных да светлых (лакальная пляма без танальных пераходаў). Вопісы зроблены карычнева-чырвоным колерам. Мадэліроўка вохрыста-ружаватая па зеленавата-аліўкаваму санкіру. Рысы твараў буйныя і размаляваны бялільнымі мазкамі. Фон і архітэктурныя кулісы адыгрываюць у фрэсках другарадную ролю і зводзяцца да мінімуму («Нараджэнне Мары», «Увядзенне ў храм», «Успенне», «Зняцце з крыжа»). Адлюстраванне шматфігурных кампазіцый таксама зводзіцца да мінімуму, напрыклад у кампазіцыі «Успенне». Усю ўвагу аўтар аддае тварам, асабліва Марыі і Хрыста. Малююцца яны буйнымі, што, відавочна, было абумоўлена ўплывам народнай эстэтыкі: пранікненнем простанародных мясцовых рыс, што акружалі мастака і былі яму блізкімі.

У жывапісных і кампазіцыйных прыёмах фрэскі калегіяты Вісліцы блізкія да фрэсак капліцы св. Тройцы Люблінскага замка [11]. Аналагічныя і некаторыя ўцалелыя сюжэты, напрыклад «Успенне». Тут амаль аднолькавыя іканаграфічныя прыёмы: кампазіцыйная нешматслоўнасць, лаканічнасць, аналагічнасць сродкаў у адлюстраванні фігур (асабліва Хрыста з немаўлём, душой Марыі, і самой памерлай Марыі), якія сведчаць пра адзінства майстэрань. Такая ж блізкасць наглядаецца і ў кампазіцыях «Зняцце з крыжа» і «Стрэчанне». Аналагічнымі з'яўляюцца таксама ўцалелыя фрагменты раслінных арнаментальных матываў у калегіяце Вісліцы і на люблінскіх фрэсках.

Фрэскавы цыкл капліцы св. Тройцы Люблінскага замка — адзін з найлепш уцалелых помнікаў манументальнага жывапісу. Ён уяўляе асаблівую цікавасць, паколькі ўдзел у яго ства-

---

[10] Фрэскавыя цыклы катэдры Сандаміра, калегіяты ў Вісліцы, капліц св. Тройцы і св. Крыжа ў Вавельскім замку Кракава, капліцы св. Тройцы ў Люблінскім замку былі даследаваны і па магчымасці вывучаны аўтарам у 1972—1973 гг. Фотаздымкі і планы размяшчэння ўпамянутых фрэскавых роспісаў былі атрыманы аўтарам з архіва Інстытута мастацтвазнаўства Акадэміі навук ПНР.

[11] Такая ж думка выказана ўкраінскім вучоным Г. Логвіным у артыкуле «Фрэскі Любліна, Вавеля, Вісліцы» // Декоративное искусство. 1971. № 10/167. С. 18—20.

рэнні прымалі і беларускія майстры, што пацвярджаецца палеаграфіяй кцітарскага надпісу і літаратурнымі крыніцамі.

Замкавая капліца св. Тройцы — аднанефавае аднаапсіднае збудаванне, у цэнтры якога ўзвышаецца гранёны слуп, які пераходзіць у гатычныя скляпенні. Плоскасці сцен асноўнага аб'ёму храма, апсіды, слупа-апоры, нервюрныя гатычныя скляпенні распісаны сюжэтнымі кампазіцыямі і арнаментальнымі матывамі. І кампазіцыя, і колеравае рашэнне фрэскавага цыкла амаль цалкам захаваліся да нашых дзён [12].

У аснове фрэскавага роспісу — евангельскія і біблейскія сюжэты, выявы святых і прарокаў. Паасобныя сцэны часцей за ўсё размешчаны, як і ў візантыйскіх храмах, але заўважаюцца і адрозненні. У цэнтры апсіды замест традыцыйнай «Еўхарысціі» знаходзяцца «Страсці Хрыстовы», а «Еўхарысція» перанесена на паўночна-ўсходнюю частку апсіды. Адсутнічае ў цыкле кампазіцыя «Страшнага суда», якая, адпаведна канону, павінна займаць заходнюю сцяну.

Размяшчэнне евангельскіх сюжэтаў тут свабоднае. Такая творчая трактоўка кананічнай сістэмы роспісаў і яе пераасэнсаванне прыкметны і ў больш ранніх фрэскавых цыклах Беларусі, напрыклад у бельчыцкім Барысаглебскім манастыры XII ст. (каля Полацка). Гэта ж адзначана і ў фрэскавым цыкле Ноўгарадскай царквы Фёдара Страцілата (пабудавана ў 1360—1361 гг., а фрэскі створаны крыху пазней). У апсідзе размешчаны «Страсці Хрыстовы» — з'ява, зусім не характэрная для ранніх візантыйска-рускіх фрэсак [13].

Хрысталагічны цыкл «Страсцей» меў распаўсюджанне ў беларускім іканапісе. Гэта сведчыць ужо пра ўплыў еўрапейскага мастацтва і своеасаблівае перапляценне канонаў усходняй і заходняй хрысціянскіх цэркваў.

Евангельскі сюжэт у сістэме роспісаў капліцы св. Тройцы разгортваецца не ў гістарычнай паслядоўнасці, а толькі ў іх прыблізным размеркаванні. Ён пачынаецца з паўночнай сцяны і следуе па гадзіннікавай стрэлцы, хаця сюжэты можна прачытаць і па гарызанталі і па вертыкалі, яны свабодна пераходзяць на паўднёвую і ўсходнюю сцены. Гэта тлумачыцца не толькі творчай інтэрпрэтацыяй кананічнай сістэмы, але, відаць, і гатычнай архітэктурнай пабудовай. Майстры, якія распісвалі капліцу, улічылі ўсе архітэктурныя чляненні будынка.

Сюжэты скампанаваны ярусамі ў выглядзе фрызаў (ад двух да пяці, адзін пад адным). Унізе ідзе шырокі дэкаратыўны фрыз, які складаецца з платаў карычнева-чырвонага колеру з цёмна-шэрымі вопісамі мякка задрапіраваных складак (тканіны).

---

[12] Роспіс у прэсбітэрыі выкананы ў тэхніцы а сэка (па сухой тынкоўцы з дамешкай тэмперы на жаўтку), на астатняй плошчы — у тэхніцы звычайнай фрэскі (па сырой тынкоўцы).

[13] Лазарев В. Н. Древнерусские мозаики и фрески. М., 1973. С. 59.

У апсідзе дэкаратыўны фрыз аздоблены малюнкам у выглядзе ромбападобных фігур, размешчаных у геаметрычнай паслядоўнасці.

На плоскасці алтарнага арачнага праёма (злева) адлюстраваны геральдыка і кароль Ягайла, які скача на белым кані, справа — кцітарскі надпіс.

У алтары сюжэты таксама размешчаны рэгістрамі і чытаюцца як па гарызанталі, так і па вертыкалі. У цэнтры другога рэгістра мясцяцца «Страсці Хрыстовы», якія справа і злева пераходзяць у трэці рэгістр.

Паўночна-ўсходнюю частку апсіды абмяжоўваюць дзве спічастыя арачныя сцяны, падзеленыя вузкім арнаментальным фрызам. На першай сцяне размешчана «Еўхарысція», вышэй — «Ушэсце», удала ўпісанае ў арачнае завяршэнне. На другой сцяне — «Тайная вячэра», над ёю — «Маленне аб чашы», якое ўзыходзіць да больш старажытных традыцый.

На паўднёва-ўсходняй частцы апсіды кампазіцыйнае размяшчэнне фрэсак некалькі іншае, паколькі глухія аконныя праёмы ствараюць своеасаблівае архітэктурнае чляненне. Над «страсным» цыклам паказаны ў рост «Анёл з крыжам», «Багародзіца з дзіцем» і «Святая Алена».

На скляпеннях алтара, у цэнтры — кампазіцыя «Хрыстос на троне» (ці «Хрыстос міласэрны») з арэолам славы, ад якога разыходзяцца прамавугольнай формы прамені з сімваламі евангелістаў: ільва, анёла, арла і цяльца. Уніз па скляпенню спускаюцца фігурныя кампазіцыі Багародзіцы з працягнутымі рукамі (Багародзіцы-прасіцельніцы) і Іаана Прадцечы. З другога боку ад «Хрыста на троне» адлюстраваны ў рост архангелы Гаўрыіл і Міхаіл, апранутыя ў кароткія плашчы і парадныя дзівіцісіі, якія аздоблены лорамі. Кожны з іх у правай руцэ трымае мярылы, у левай — сферы, сімвалы сусвету.

На паўднёвай і паўночнай сценах размешчаны фрызавыя кампазіцыі. На паўднёва-заходняй сцяне паўавальнай формы, што служыць нібы амбонам, у другім рэгістры знаходзіцца кампазіцыя «Багародзіца з Хрыстом-Эмануілам», якія сядзяць на троне. Перад Багародзіцай стаіць першасвяшчэннік і ўкленчаны Ягайла. Справа ад яе — прарок са скруткам, злева — малады воін з мячом і старац у белым адзенні.

На заходняй сцяне, пад хорамі, намаляваны ў рост прарокі. Два рады на плоскасцях нефавага слупа займаюць адлюстраванні святых у рост, трэці — святых у медальёнах. На скляпеннях — анёлы, херувімы і серафімы.

Канты нервюрных скляпенняў, арачныя сцены, аконныя праёмы багата дэкараваны арнаментальнымі фрызамі, паяскамі. Дэкор складаецца з геаметрычна пераплеценых ромбаў, мудрагеліста размешчаных раслін і лісця, гарлачыкаў, на якіх намаляваны галінкі з кветкамі.

Прыкладна так выглядае ідэалагічная праграма роспісу люб-

лінскіх фрэсак, якія адрозніваюцца вялікай свабодай кампазіцыйнай пабудовы і разнастайнасцю стылістычных прыёмаў. Тут можна вылучыць некалькі почыркаў. Капліцу распісвалі майстры, што належалі да розных мастацкіх школ, а кіраваў імі, як сведчыць кцітарскі надпіс, вопытны майстар Андрэй. Праца была скончана 10 жніўня 1418 г. [14]

Мяркуючы па кцітарскім надпісе, аўтарам фрэсак у алтары прэсбітэрыі) мог быць сам Андрэй, які, відаць, доўгі час працаваў пры двары караля Ягайлы і быў знаёмы не толькі з візантыйскім, але і з заходнееўрапейскім мастацтвам [15]. Многія з сюжэтаў «Страсцей Хрыстовых» («Радуйся, цар іудзейскі», «Бічаванне», «Пілат умывае рукі», «Еўхарысція», «Тайная вячэра» і інш.) запазычаны з мініяцюр, дзе дэталёва выканана пластыка форм і архітэктурныя кулісы [16]. Майстар не пазбягае ў карнацыі рэзкіх высвятленняў, часам супастаўляе вельмі цёмныя і светлыя плямы, з дапамогай якіх выяўляецца форма прадметаў, фігур, прасторы. Энергічна і ўпэўнена пакладзены блікі.

Кампазіцыю «Еўхарысціі» мастак трактуе нетрадыцыйна. Яна адрозніваецца ад аналагічнага сюжэта Кіеўскай (XI ст.) і Ноўгарадскай Сафіі (XI ст.), а таксама больш позняй царквы Спаса Праабражэння ў Ноўгарадзе (XIV ст.). Люблінская «Еўхарысція» нібыта сціснута, апосталы стаяць у два рады, па тры справа і злева. У цэнтры — сівавалосы стары, бог-айцец, з пояса якога злева і справа нібы вырастаюць сімвалічныя фігуры сына Ісуса. Ён раздае прычасце апосталам. Гэты сюжэт звязаны з асноўным дзеяннем літургіі — абрадам прычасця, калі, згодна з вучэннем хрысціянскай царквы, хлеб і віно дзівосным чынам ператвараюцца ў плоць і кроў Хрыстову. Адлюстраваны на гэтай фрэсцы іканаграфічны тып цесна звязаны з догматам аб непарыўнасці асоб святой тройцы, аб нераздзельнасці айца, сына і святога духа, спалучэнні ў Хрысце дзвюх якасцей: бога і чалавека. Іканаграфія ў такой трактоўцы вельмі характэрная для жывапісу Беларусі XVI—XVII стст.

Вылучаецца адвольнасцю кампазіцыя «Тайная вячэра». Хрыстос і дванаццаць апосталаў сядзяць вакол авальнага стала. Іх позы вольныя, у розных ракурсах. Адны сядзяць напаўабарота да гледача, другія ажыўлена размаўляюць, а Іаан схіліў галаву на правае пляча Ісуса. Своеасаблівасцю кампазіцыі з'яўляюцца два адлюстраванні Іуды: першае — ён сядзіць за сталом, другое — уцякае з чорцікам на плячах.

---

[14] Walicki M. Malowidła ścienne kościoła św. Trójcy na zamku w Lublinie // Studia do dziejów sztuki w Polsce. Warszawa, 1930. T. 3. S. 35, 85—86. Тут Валіцкі піша, што капліцу распісвалі тры майстры пад кіраўніцтвам майстра Андрэя. Г. Логвін сцвярджае, што арцель складалася з 10 чалавек // Искусство народов СССР XIV—XVII вв. М., 1974. Т. 3. С. 112—114.

[15] Гэту ж думку выказвае і М. Валіцкі.

[16] Walicki M. Malowidła ścienne kościoła św. Trójcy na zamku w Lublinie // Studia do dziejów sztuki w Polsce. T. 11. S. 35, 85—86.

Стол шаравата-белага колеру, задрапіраваны ўнізе тканінай у выглядзе платаў, толькі перад Хрыстом свабодна рассцелены льняны ручнік з гарызантальна затканымі чырвонымі палосамі (такія ўзоры ручнікоў і цяпер сустракаюцца на Брэстчыне ў Іванаўскім і Драгічынскім р-нах). На пярэднім плане стала — ахвярная чаша з вялікай рыбай, гародніна, нажы і некалькі сасудаў усходняй формы. Дзеянне адбываецца на фоне складаных архітэктурных куліс.

Увесь сэнс сюжэта заключаны ў сімвалічнай трактоўцы. Адносіны паміж апосталамі і Хрыстом выразна адбіты на іх тварах, постацях. Фрэску ажыўляюць уведзеныя ў сюжэт матэрыяльныя рэчы (бытавы посуд, ткацтва). Асаблівасцю кампазіцыі з'яўляецца намаляваны чорт, што суправаджае Іуду. Гэты сюжэтны ход сустракаецца ў іканапісе на Палессі нават у XIX ст., у той час як для старажытнарускай іканаграфіі ён не характэрны.

Самабытнасцю вызначаецца і кампазіцыя «Маленне аб чашы», дзе таксама ўведзены каларытныя мясцовыя дэталі. Напрыклад, апосталы спяць за агароджай лазы. Народныя традыцыі, на якіх, відаць, быў выхаваны майстар, яўна пранікаюць у люблінскія фрэскі, насычаюць іх жыццёвасцю і псіхалагічнай глыбінёй.

Фрэскі ў прэсбітэрыі амаль без змен захавалі сваю першапачатковую гаму чырвона-карычневых, ружаватых, сіне-блакітных і зялёных адценняў. Ляшчадныя горкі і архітэктурныя кулісы падаюцца ў цёплай, вохрыста-карычневай гаме з чырвона-карычневымі вопісамі. На твары паверх карнацыі накладзены цені з прабеламі і ажыўкамі. Крыху пацямнелі і страцілі сваю свежасць сіні і зялёны адценні. Графічная аснова ў іх выяўлена значна мацней, адчуваецца моцны ўплыў тэхнікі мініяцюры.

Фрэскі паўночнай сцяны, захоўваючы ў аснове амаль тыя ж жывапісныя і стылістычныя прыёмы (напрыклад, «Праабражэнне» на паўночнай сцяне і «Маленне аб чашы» ў прэсбітэрыі), усё ж крыху адрозніваюцца кампазіцыяй. Тут ужо бачна рука майстра іншай вывучкі. Ён адыходзіць ад графічнай мовы. Архітэктурныя кулісы пададзены вельмі скупа і лаканічна, усё часцей з'яўляюцца ляшчадныя горкі ў выглядзе каскадаў і глухі цёмна-сіні фон. Фрэскі ажыўлены скупым пейзажам, дзе перавага аддаецца сасне (замест пальмавых дрэў).

Вялікая ўвага звернута на пластыку форм і твараў, якія вызначаюцца маляўнічай лепкай. Сакавітыя энергічныя белыя блікі, пакладзеныя паверх зеленаватай карнацыі, ствараюць ёй форму, надаюць рэльеф. Авал твараў страчвае вытанчанасць, характэрную для візантыйскага мастацтва, і набывае больш простанародны характар.

У трактоўцы вобраза старца Сімяона («Стрэчанне»), твар якога хаця і строгі, але вельмі пакутніцкі, адчуваецца цяга майстра да арнаментальнай стылізаванай лініі. Гэта ж уласціва

і кампазіцыі «святы Ануфрый». Натуральна, што майстры, якія праяўлялі такую павышаную цікавасць да лініі, былі неабыякавымі і да арнаменту, што і назіраецца ў люблінскіх фрэсках.

Роспісы алтарнай перагародкі блізкія да фрэсак паўночнай сцяны: тая ж нешматслоўнасць у архітэктурных кулісах, тыя ж ляшчадныя горкі ў кампазіцыях «Дэісус» і «Сашэсце ў пекла». Ва ўсім адчуваецца рука адзінага майстра. Аднак некаторыя кампазіцыі («Архангел з мярылам» ці «Багародзіца на троне» ў верхнім рэгістры) набліжаюцца па манеры выканання да алтарных фрэсак.

Кампазіцыя «Тройцы» дадзена ў традыцыйным іканаграфічным зводзе, які быў характэрны для XIV—XVI стст. Асаблівасцю яго з'яўляецца аўтарытарнае, моцна падкрэсленае становішча анёла, які сядзіць у цэнтры. Тут жа прысутнічаюць Аўраам і Сара, што сведчыць аб гістарычным разуменні біблейскага сюжэта. Атрыбуты трапезы (ручнік з затканымі гарызантальнымі палосамі, посуд, гародніна) усё тыя ж, што і ў «Тайнай вячэры», хоць у адлюстраванні фігур адчуваецца рука іншага майстра. Фігуры анёлаў дадзены тут у больш статычных позах.

Каларыстычная гама фрэсак паўночнай сцяны і алтарнай перагародкі складаецца з вохрыстых, карычневых, чырванаватых, ружовых, сініх і зялёных колераў. Вопісы фігур і твараў робяцца карычнева-чырвоным контурам, архітэктурныя кулісы і ляшчадныя горкі — вохрыста-карычневыя. Прапрацоўка адзення дадзена цёмнымі сухаватымі, амаль графічнымі вопісамі, маларытмічнымі складкамі. Твары падоўжаныя, з вялікімі выразнымі вачыма, фігуры рухомыя і свабодныя. Не адчуваецца застыласці і статычнасці формы.

Фрэскі на паўднёвай і паўднёва-заходняй сценах можна аднесці да трэцяй манеры пісьма. Тут майстар звяртаецца да складаных і дэталёва прапрацаваных архітэктурных куліс, вэлюмаў, перакінутых паверх будынкаў, ляшчадных горак («Успенне Іаана», «Смерць Паўла», «Хрыстос у доме Сімяона» і інш.). Фігуры крыху застылыя, прыземістыя, іх рухам уласціва вуглаватасць. Галовы вялікія, рысы твараў даволі буйныя. Кантраст светлага і цёмнага тут падкрэсліваецца мацней, чым на паўночнай сцяне. Твары напісаны па зялёнаму санкіру амаль чыстай вохрай з невялікай прапрацоўкай і падрумянкай. Тут ужо няма тых сакавітых і свабодных бялільных мазкоў і блікаў, як на фрэсках паўночнай сцяны. Асабліва добра прасочваецца гэта ў кампазіцыі «Збіванне дзіцяці».

Не зусім звычайная кампазіцыя на паўднёва-заходняй сцяне, дзе адлюстравана Багародзіца з Хрыстом-Эмануілам на паўкруглым троне. Перад ёю стаіць на каленях фундатар капліцы (партрэтнае адлюстраванне караля Ягайлы). Фігура нібы ўзнесена над зялёным пазёмам і датыкаецца да каралеўскага трона, адлюстраванне якога ўводзіцца ў сюжэт фрагментарна. Ягайла ў цёмна-сінім адзенні і жаўтавата-карычневым плашчы, злёгку

накінутым на плечы. Побач стаіць першасвяшчэннік, які паказвае на Багародзіцу. Ён адзеты ў светла-карычневае адзенне з бела-шэрым амафорам. Вопісы складак цёмныя. Багародзіца ў вішнёва-чырвоным мафорыі і сінім хітоне. Твары пісаны вохрай па карычневай аснове. Агульны каларыт гэтай кампазіцыі мажорны і святочны. Яркія колеры адзення гарманічна ўпісваюцца ў жаўтавата-карычневыя архітэктурныя кулісы, зялёны падзём і блакітна-сіняе неба.

Майстар, які стварыў гэту фрэску, паказаў высокае майстэрства і дасканалае веданне біблейскага сюжэта. Гэта кампазіцыя з'яўляецца нібы дамінантай ва ўсім фрэскавым цыкле і па каларыту, і па вобразнасці выражэння, і па манументальнасці. Па манеры выканання і характары пластыкі яна набліжана да фрэсак алтарнай перагародкі і некаторых кампазіцый прэсбітэрыя.

Пракокі на заходняй сцяне дадзены ў нерухомых франтальных позах на цёмна-сінім фоне. Пейзаж у выглядзе невялікіх ляшчадных горак скупы і лаканічны. Твары святых суровыя, погляд іх скіраваны прама, але праходзіць міма гледача. Аскетычны сэнс кампазіцыі праяўляецца, акрамя таго, у статычнасці і скаванасці поз, у акцэнціроўцы асяроддзя. У гэтых выявах адчуваецца ўплыў гатычнага мастацтва.

Фрэскавы цыкл Троіцкай капліцы Любліна, які ў аснове ўзыходзіць да візантыйскіх традыцый, атрымлівае тут новую творчую перапрацоўку. Роспісы пазбаўлены таго вытанчанага спірытуалістычнага пачатку, што быў так характэрны для мастацтва Візантыі. Адчуваецца ўплыў на іх стваральнікаў не толькі ідэй протарэнесансу, але і готыкі. Побач з гэтым у фрэскі пранікаюць элементы фальклору, уводзяцца прадметы побыту, персанажы асобных кампазіцый («Хрыстос у доме Сімяона») адрозніваюцца простанароднасцю тыпажу.

Галоўным сродкам выражэння з'яўляецца лінія, якая прысутнічае ва ўнутранай распрацоўцы формы, у трактоўцы твараў, архітэктурных кулісах, арнаменце. Адзенне расчляняецца на дробныя плоскія складкі, зігзагападобныя ці востравугольныя, часам падобныя на арнаментальны ўзор («Стрэчанне»).

Рад фрэсак вызначаецца вялікай свабодай пабудовы («Еўхарысцiя»), дзе апосталы пададзены не ўрачыста і размерана, а ствараюць свабодныя маляўнічыя групкі. Мастак не баіцца размяшчаць адну фігуру за другой, расстаўляючы іх даволі асіметрычна. Такая свабодная кампазіцыя ўласціва і іншым сюжэтам.

Даволі характэрна для люблінскіх фрэсак і колеравая палітра, пабудаваная на светлых і яркіх адценнях (залацістая вохра, умбрыста-карычневая, вішнёва-чырвоная, светла-ружовая, сіне-блакітная, зялёная).

Нягледзячы на разнастайнасць мастацкіх прыёмаў і стылю, што тлумачыцца прыналежнасцю майстроў да розных школ, у цэлым фрэскавы цыкл уражвае адзінствам і стройнасцю дэкаратыўнай сістэмы, высокай тэхнікай выканання.

Выключна важным з'яўляецца пытанне аб аўтарстве фрэскавага цыкла Троіцкай капэлы ў Любліне. Вырашыць яго часткова дазваляе надпіс, што захаваўся ў капліцы Тройцы да сённяшніх дзён. Выкананы на старaславянскай мове кірылічнымі літарамі, ён сведчыць аб сканчэнні працы і называе імя аднаго з майстроў — Андрэй.

Польскія вучоныя, даследчыкі фрэсак, абапіраючыся на моўныя асаблівасці подпісу, мяркуюць, што майстар паходзіў з Беларусі [17]. На беларускае паходжанне аўтара фрэскавага цыкла ў Любліне ўказвае таксама і стыль выканання малюнкаў, блізкі да стылю мініяцюр Аршанскага (XIII ст.) і Лаўрышаўскага (пачатак XIV ст.) евангелляў. Апрача таго, вельмі блізкую аналогію мы ўбачым, калі параўнаем абраз «Замілаванне» XIV — пачатку XV ст. (паходзіць з Брэсцкай вобласці, зараз захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР) з некаторымі выявамі архангелаў і анёлаў на люблінскіх фрэсках, асабліва алтарнай перагародкі. І нарэшце, выява Маці боскай вельмі падобная да малюнкаў на фрэсках.

Яшчэ больш пераконвае ў тым, што аўтарам люблінскіх фрэсак быў беларус, параўнанне іх з абразам «Блакітнае ўспенне», створаным у першай чвэрці XV ст. на тэрыторыі Беларусі, каля Пінска (Успенскі ляшчынскі манастыр). Абраз «Успенне» быў вывезены ў 1920 г. з саборнай званіцы Мінска ў збор І. С. Астравухава [18], каля 1920 г. рэстаўрыраваны Я. І. Брагіным. У 1929 г. ён паступіў у Дзяржаўную Траццякоўскую галерэю [19]. Мастацтвазнаўцамі гэты абраз быў аднесены да цвярской школы. А. І. Някрасаў, здаецца, адным з першых звярнуў увагу даследчыкаў на падабенства абраза «Успенне» і люблінскіх фрэсак [20]. Нагадаем некаторыя агульныя дэталі кампазіцыі, тыпажу, дэкору і каларыту. Уражвае вельмі блізкая, калі не сказаць, амаль адна і тая ж пабудова сюжэтнай асновы, дзеянне і архітэктурныя кулісы. Кампазіцыя абраза і кампазіцыі фрэсак цалкам адпавядаюць канону. Абраз будуецца традыцыйна, самае галоўнае дзеянне паказана на першым плане, нібы па авалу. Гэта ложак з целам памерлай Марыі (Маці боскай), які малюецца па гарызанталі. Вакол яе злева і справа апосталы і святыя жонкі па авалу, позы іх пластычныя і мяккія. У цэнтры, за ложкам Марыі, Хрыстос з яе душой (маленькім немаўляткам) у славе (мандорле). Па баках, над галовамі апосталаў і святых жонак

[17] Walicki M. Malowidła ścienne kościoła św. Trójcy na zamku w Lublinie // Studia do dziejów sztuki w Polsce. Warszawa, 1930. T. 2; Różycka-Bryzek A. Bizantyńsko-ruskie malowidła ścienne w kaplicy Świętokrzyskiej na Wawelu // Studia do dziejów Wawelu. Kraków, 1968. T. III. S. 176—269.

[18] Антонова В. И., Мнева Н. Е. Каталог древнерусской живописи. Опыт историко-художественной классификации. М., 1963. Т. 1. № 20. С. 235—236.

[19] Там жа. С. 236 (ОР ГТГ № 10/1623, зараз у ЦГАЛИ).

[20] Некрасов А. И. Древнерусское изобразительное искусство. М., 1937. С. 187. Мал. 125.

будынкі базілікальнага тыпу. Далей, у цэнтры, у медальёне змешчана «Ушэсце Маці боскай», вакол якога (злева і справа) паясныя выявы апосталаў у аблоках, іх падтрымліваюць анёлы. Гэтыя тры планы ў кампазіцыі ўмоўныя, таму што два дзеянні рознасовыя, але паслядоўныя і звязаны паміж сабой: спачатку смерць, потым ушэсце. Іх раздзяляюць толькі архітэктурныя кулісы і мандорла з Хрыстом. Першае дзеянне паказана буйным планам, другое — удвая меншае і займае тры чвэрці ўсёй кампазіцыі. Уся кампазіцыя малюецца па роўнай плоскасці, аб'ём адсутнічае, ён умоўны.

Люблінскія фрэскі, асабліва ў алтары і некаторыя на алтарнай перагародцы, будуюцца па гэтаму ж прынцыпу (вышэй мы іх вылучалі ў асобны стыль пісьма). Калі параўнаць паміж сабой архітэктурныя кулісы фрэскавых кампазіцый «Тайная вячэра», «Сустрэчы Марыі і Лізаветы», «Страсці Хрыстовы», то відавочна самае бліжэйшае падабенства. Зусім не выключана, што яны напісаны рукой аднаго і таго ж мастака. Будынкі выкананы вельмі дэкаратыўна і маляўніча: то з прамавугольнымі двух- і трохступеньчатымі дахамі, то з пакатымі і трохвугольнымі франтонамі. Нішы малююцца цёмнымі і living рознымі па форме: арачнымі, паўарачнымі, круглымі, прамавугольнымі. Выклікае здзіўленне дэкор і колер. Дахі блакітна-сінія чатырохплітачныя, але некаторыя раздзяляюцца святлаценем (пераход ад бялёса-блакітнага да цёмна-сіняга) на трохвугольнікі і ствараюць арнаментальны рапортны малюнак (рытм). Самі сцены светла-ружова-карычняватыя з карычнева-белай раздзелкай. На іх плоскасцях нібы эскізна раскіданы вельмі пластычна зробленыя малюнкі, накшталт ліста-завітка. Вопісы і контуры будынкаў зроблены карычневым, а ў некаторых месцах і чорным колерам. Вельмі блізкае падабенства тыпажу, пластыкі малюнка, постацей, адзення. Твары Хрыста, Маці боскай, апосталаў, анёлаў і іншых святых ледзь падоўжаныя, мадэліраваны жоўта-карычневай вохрай з невялікай падрумянкай і чырвона-карычневым вопісам, з выразнымі міндалепадобнымі вачыма, тонкімі доўгімі насамі.

Характэрнай дэталлю з'яўляецца лінія-мазок белага колеру каля вачэй, на лбе, шчоках, носе, шыі, валасах і барадзе. Ён даецца як бы абрывачна, графічна дзвюма-трыма рыскамі, а іншы раз і белай плямай. Гэта можна ўбачыць на малюнках Маці боскай з кцітарам Ягайлам, на твары і крылах анёла, што на алтарнай перагародцы злева, над кампазіцыяй «Сашэсце ў пекла» і іншых фрагментах «Страснага цыкла» ў алтары. Гэту дэталь, зробленую графічным белым мазком дзвюма-трыма абрывачнымі рыскамі на адкрытых частках цела: твары, шыі, руках, можна яшчэ ўбачыць і на абразе «Маці боская Адзігітрыя» канца XV — пачатку XVI ст. Абраз знаходзіцца зараз у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Вывезены ён экспедыцыяй у 1921 г. са Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Раскрыты ў 1972—

1976 гг. брыгадай рэстаўратараў Дзяржаўнага Рускага музея ў складзе І. В. Ярыгінай, С. І. Голубева, М. Р. Малкіна, Л. Т. Дзеднянкова [21].

Яшчэ адна агульная дэталь люблінскіх фрэсак і абраза — гэта адзенне, складкі якога ніспадаюць каскадам: вострымі вугламі адна над адной і заканчваюцца вострым вуглом. Асабліваe падабенства назіраецца ў кампазіцыях «Хрыстос з жонкамі-міраносіцамі», «Барыс, Глеб і Уладзімір» і інш. Шмат паралелей ёсць і ў пластыцы самога малюнка, вельмі мяккага і плаўнага пры ўсёй графічнасці.

Наогул, калі параўноўваць гэты абраз з люблінскімі фрэскамі, ствараецца ўражанне, што гэтым майстрам мог быць і Андрэй, надпіс і каліграфія якога захаваліся да нашых дзён на сцяне. Але калі гэта і не Андрэй, то майстар, які стварыў абраз «Блакітнае ўспенне», безумоўна, быў сярод мастакоў, што распісвалі замкавую капліцу ў Лібліне. Па-першае, аб гэтым гавораць вельмі блізкае падабенства ў кампазіцыях і стылістычных прыёмах, яны нават адны і тыя ж. Па-другое, адзін і той жа час: менавіта першая чвэрць XV ст. Нашу думку пацвярджае і той факт, што кароль Ягайла ў 1393 г. прывёз рускіх мастакоў з Вільні. Іх было 11 чалавек. Гэта былі не простыя мастакі, а вялікія майстры. Іх раскошна кармілі, пасылалі белае і чырвонае віно, «figi», «migdały», ізюм, рыс і г. д., а калі яны закончылі сваю работу, то ім далі 11 коней, столькі ж футраў, каб яны маглі спакойна вярнуцца ў Вільню [22].

Вельмі цікавым фактам з'яўляецца і тое, што ў люблінскіх фрэсках мы двойчы бачым выяву караля Ягайлы як кцітара: выява, дзе ён скача на белым кані (на падпружнай арачнай сцяне — насупраць надпісу) і ў кампазіцыі «Маці боская з кцітарам Ягайлам і першасвяшчэннікам». Выява Ягайлы паказана ў фрэсках іканаграфічна. Гэта наводзіць на думку, якая ўжо выказвалася польскімі даследчыкамі [23], што выканаўцам партрэта Ягайлы і галоўнага сюжэта фрэскавага цыкла (прэсбітэрый, некаторыя сюжэты на алтарнай перагародцы і ў іншых месцах) быў Андрэй.

Выказаныя вышэй думкі, безумоўна, патрабуюць дадатковых доказаў і далейшых архіўных пошукаў.

У асэнсаванні шляхоў развіцця беларускага манументальнага жывапісу сярэдневякоўя значнае месца належыць фрэскам капліцы св. Крыжа на Вавелі ў Кракаве, якія былі выкананы

---

[21] Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1980. С. 17—18.

[22] Kołaczkowski J. Wiadomości tyczące się przemysłu i sztuki w dawnej Polsce. Kraków, 1888. S. 300.

[23] Zbiór krótki wiadomości szczególniejsze względem dawności założenia Miasta J. K. M. Lublina. Lublin, 1785; Smoliński J. Fresk w kaplicy zamkowej w Lublinie. Spraw. K. H. S. VII, 1902. Szp. CCLVII. Рукапіс. Lublin. Kaplica Zamkowa p. w. św. Trójcy. Materiały dotyczące konserwacji malowideł ściennych. Zestawiła M. Puciata. Warszawa, 1955.

ў 1470 г. Захаванасць іх даволі добрая, за выключэннем нязначных страт і разлажэння некаторых колераў. Як і ў люблінскіх фрэсках, тут таксама захоўваецца кцітарскі надпіс, зроблены кірыліцай на беларускай мове, што сведчыць пра паходжанне майстроў з Беларусі. Гэта пацвярджаюць і польскія вучоныя В. Падляха[24], Ганна Ружыцка-Брыжак[25] і рускія даследчыкі[26]. Фрэскавы роспіс капліцы св. Крыжа, яго паходжанне, моўныя асаблівасці подпісу найбольш грунтоўна вывучаны польскай даследчыцай візантыйска-рускіх фрэсак у Польшчы Г. Ружыцкай-Брыжак. Яна падрабязна аналізуе выяўленчы стыль, іканаграфію і праводзіць паралелі з жывапісам Паўночнай Русі. З яе артыкула бачна, што фрэскавым роспісам займаліся яшчэ ў XVII ст. (1602, 1635, 1670—1682). Цікавая работа, прысвечаная гэтым фрэскам, у Я. Мучкоўскага; займаліся іх вывучэннем Я. Ляпкоўскі, М. Сакалоўскі. Аб ідэйнай праграме роспісаў скляпення пісала Асячкоўская[27].

Капліца св. Крыжа на Вавелі, як і капліца св. Тройцы ў Любліне, мае спічастыя арачныя сцены і нервюрныя гатычныя скляпенні, у якія ўдала ўпісаны евангельскія сюжэты. Аднак у роспісах капліцы св. Крыжа евангельскі расказ больш паслядоўны, хаця захоўвае тую ж заканамернасць размяшчэння — ад трох да пяці рэгістраў, размешчаных адзін над адным. У межах кожнага рэгістра сцэны непасрэдна пераходзяць адна ў другую альбо чляняцца па вертыкалі.

Сюжэт разгортваецца адпаведна канону, злева направа, і пачынаецца з верхняга рэгістра. Першы, ніжні рэгістр, відаць, спачатку меў дэкаратыўны фрыз з платаў, цяпер жа ён ужо атынкаваны і чысты. Нервюрныя скляпенні дэкараваны фігурамі архангелаў і святых, рэбры і аконныя праёмы аздоблены арнаментам.

Фрэскі капліцы св. Крыжа адрозніваюцца ад люблінскіх стылем і сродкамі жывапісу (яны выкананы на паўстагоддзя пазней). Лінія — асноўны прыём люблінскага цыкла — саступае месца колеру. Тут ужо адчуваецца ўплыў не столькі мініяцюры, колькі манументальнага роспісу. Знікаюць складаныя архітэктурныя кулісы, шматступенныя ляшчадныя горкі, драпіроўкі. Кампазіцыі становяцца шматфігурнымі, архітэктурныя кулісы ўводзяцца фрагментарна, пейзаж толькі пазначаецца. Твары, вылепленыя блікам, акрэслены карычнева-чырванаватымі лінія-

---

[24] Padlachie W. Historia malarstwa polskiego. Lwów, 1914. S. 19, 85—109.

[25] Różycka-Bryzek A. Bizantyńsko-ruskie malowidła ścienne w kaplicy Świętokrzyskiej na Wawelu... S. 179—182.

[26] Соболевский А. И. Русские фрески в Старой Польше. М., 1916; Яго ж: Материалы и исследования в области славянской филологии и археологии // Сб. имп. Акад. наук. Спб., 1910. Т. 88. С. 193.

[27] Różycka-Bryzek A. Bizantyńsko-ruskie malowidła ścienne w kaplicy Świętokrzyskiej na Wawelu. S. 178.

мі, а паверх вохрыстага тону карнацыі накладзены прыцяненні і румяны, якія пацямнелі ад часу і ператварыліся ў плямы.

Па стылявых адзнаках вавельскі фрэскавы цыкл больш цэласны, чым Люблінскі, хаця і тут можна распазнаць руку двух розных майстроў. Аднаму з іх належаць дэкарацыі скляпенняў, кампазіцыі «Дабравешчанне», «Абмыванне ног», «Тайная вячэра», «Маленне аб чашы», «Еўхарысція», «Распяцце», «Аплакванне», «Сашэсце ў пекла», «З'яўленне Хрыста жонкам-міраносіцам», «Успенне» і інш. У гэтых фрэсках мацней, чым у іншых, адчуваюцца традыцыі гатычнага жывапісу, што праявілася ў вострай экспрэсіі перадачы пакут.

Другому майстру належаць кампазіцыі «Суд першасвяшчэннікаў», «Суд Пілата», «Бічаванне» і інш., выкананыя больш спакойна, без экспрэсіўнасці, псіхалагічнай напружанасці і выразнасці ўнутранага стану, характэрных для папярэдняга. Фігуры анемічныя, хаця пададзены ў руху («Бічаванне»). Тыпажы больш масіўныя і грубыя. Адчуваецца ўплыў на жывапісца традыцый народнага мастацтва з яго простанародным тыпажом, адметнай рысай якога былі крыху прыземістыя, сутулаватыя постаці. Магчыма, гэтыя фрэскі выкананы вучнем [28].

Кампазіцыя многіх сюжэтаў трактуецца даволі адвольна, напрыклад «Еўхарысція» пабудавана ў адваротнай перспектыве. Апосталы падзелены на дзве групкі ў два рады па тры. Замест традыцыйнага размяшчэння франтальна пастаўленых фігур яны стаяць у свабодных позах. Гэта ж было характэрна і для люблінскіх фрэсак, але ў дадзеным выпадку Хрыстос, які раздае прычасце, падаецца ў іншай інтэрпрэтацыі. Сімвалічныя выявы дзвюх місій Хрыста: бога і чалавека. Злева сімвалічная фігура Хрыста-чалавека — у цёмным адзенні з выразнай прамалёўкай, справа — у светлым адзенні Хрыстос-бог. Змешчаны яны ў глыбіні ківорыя. Перад імі прастол, накрыты простым абрусам, унізе абрус аблямаваны жамчужным обнізам і імітацыяй каштоўных камянёў. Постаці апосталаў пададзены мякка, але іх адзенне амаль без прарысовак. Яно даецца скупым вопісам і плямай. Архітэктурныя кулісы невялікія, толькі намячаюцца двума будынкамі злева і справа. Відаць прамавугольныя ступеньчатыя дахі.

Кампазіцыя «Тайнай вячэры» таксама пабудавана ў адваротнай перспектыве. Атрыбуты трапезы ў адрозненне ад аналагічнай люблінскай кампазіцыі — толькі круглыя хлябы, раскладзеныя на эліпсападобным стале, невялікая пасудзіна з адной цэнтральнай (у выглядзе трапецападобнага кілішка) кароткай ножкай.

У цэлым каларыстычная гама фрэсак вытрымана ў цёплых вохрыста-умбрыстых адценнях. Адзенне чырвона-карычневых,

---

[28] Г. Ружыцка-Брыжак у выдзеленых кампазіцыях бачыць руку майстра, які выйшаў з асяроддзя арцельнага метаду працы, пашыранага на Беларусі.

жоўтых, сініх, зялёных і іншых колераў, хаця з часам яны пабляклі і пацямнелі.

Вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць для Беларусі ўяўляе фрэскавы роспіс Благавешчанскай царквы Супрасльскага манастыра, створаны ў 1557 г. Манастыр быў заснаваны ў канцы XV — пачатку XVI ст. кцітарамі Аляксандрам Хадкевічам і Іосіфам Солтанам, мітрапалітам усяе Русі і архіепіскапам Смаленскім. Благавешчанская царква (пабудавана ў 1503—1511 гг.) была найбольш каштоўным помнікам і займала цэнтральнае месца ў ансамблі манастыра. Яна, як і падобныя да яе Сынковіцкая і Маламажэйкаўская цэрквы, належала да пабудоў абарончага тыпу. Інтэр'ер храма быў складаным. З заходняй часткі ён пачынаўся прытворам. Скляпенні пад прытворамі былі зроблены ў гатычным стылі і падзяляліся на тры часткі плоскімі перамычкамі. Пад скляпеннем знаходзіліся хоры, якія адкрываліся на асноўны аб'ём праз драўляны разны балкон. У цэнтры былі размешчаны два васьмігранныя слупы, зверху якіх знаходзіліся падпружныя аркі і барабан. Алтарны выступ з усходняга боку ў верхняй частцы меў тайнік-казну. У адрозненне ад іншых цэркваў-крэпасцей тут маецца адзін выступ (а не тры), што стварала манументальнасць і маналітнасць будынка [29]. Літаратурныя і архіўныя крыніцы, а таксама ўцалелы фотаархіў (Інстытут мастацтваў Акадэміі навук у Варшаве) сведчаць, што інтэр'ер Благавешчанскай царквы быў багата дэкараваны фрэскавым роспісам. Да нашых дзён фрэскавы роспіс застаўся толькі ў фрагментах. 28 ліпеня 1944 г. гітлераўцы пры адступленні ўзарвалі царкву, знішчылі яе багатае ўнутранае ўбранства, а разам і фрэскавы роспіс [30]. У 1945—1946 гг. фрэскі былі зняты са слупоў польскімі рэстаўратарамі пад кіраўніцтвам Уладзіслава Пашкоўскага, а ў 1964—1966 гг. адрэстаўрыраваны. Усяго захавалася 30 фрагментаў, якія зараз экспануюцца ў краязнаўчым музеі Беластока (ПНР) [31]. Захаваныя фрэскі размяшчаліся на двух васьміграных слупах, якія знаходзіліся ва ўнутранай падкупальнай прасторы. Гэта выявы святых і пакутнікаў, арнаментальна-дэкаратыўныя фрызы, якія пакрывалі капітэлі слупоў. Цалкам захавалася толькі сем фрэсак з выявамі пакутнікаў і тры медальёны з пакаленнымі выявамі святых,

---

[29] Гл.: Рогов А. И. Фрески Супрасля // Древнерусское искусство. Монументальная живопись XI—XVII вв. М., 1980. С. 348.

[30] Супрасльский Благовещенский монастырь // Вестник Западной России. Вильна, 1867. Т. 1. кн. II, отд. II. С. 70—81; Т. 1. Кн. III, отд. II. С. 83—117. Археогр. сб. документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1870. Т. IX; Долматов Н. Супрасльский Благовещенский монастырь. Спб., 1892; Покрышкин П. Благовещенская церковь в Супрасльском монастыре // Сб. археол. статей, поднесенный графу А. А. Бобрынскому. Спб., 1911. С. 222—237; Шчакаціхін М. М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. Т. 1. С. 259, 267; Рогов А. И. Фрески Супрасля // Древнерусское искусство. Монументальная живопись XI—XVII вв. М., 1980. С. 343—358.

[31] Freski z Supraśla. Katalog wystawy. Białystok, 1968.

астатнія прыходзілася збіраць асобнымі кавалачкамі і фрагментамі. Роспіс Благавешчанскай царквы выкананы ў вапнякова-тэмпернай тэхніцы па часткова высушанай тынкоўцы з выкарыстаннем сечаных канапляных валокнаў для лепшага замацавання фрэскі [32]. Гэта традыцыйны спосаб прыгатавання фрэскавай тынкоўкі, аб чым сведчаць тэхналагічныя даследаванні больш ранніх фрэсак на тэрыторыі Беларусі (у Полацку, Віцебску, Гродне). Характар іканаграфіі і стыль выканання фрэскавага роспісу Благавешчанскай царквы адпавядае позневізантыйскаму мастацтву т. зв. рэнесансу палеалогаў і ўзыходзіць да візантыйска-сербскіх традыцый [33].

Але час і гістарычныя падзеі адбіліся на гэтым выдатным помніку Беларусі. Так, у 1771 г. інтэр'ер царквы быў дэкараваны багатай ляпной і жывапіснай дэкарацыяй у стылі ракако, якая схавала фрэскі ў апсідзе, сцены і слупы былі закрыты драўлянай панеллю. У 1852—1859 гг. фрэскі пашкоджаны зацёкамі вады, якая пранікала праз скляпенне, пасля былі забелены. У 1887 г. пабелка была знята сухім спосабам. Некалькі фрэсак у час работ папсавалася. У 1910 г. адкрыты фрагменты роспісу на паўднёвай і паўночнай сценах, якія былі закрыты ў XVIII ст. драўлянай панеллю, пры гэтым некаторыя элементы фрэсак былі зноў папсаваны. Аб гэтым пісаў П. П. Пакрышкін, які аглядаў царкву з дазволу імператарскай археалагічнай камісіі ў 1911 г. [34]

Узнаўленне ўсёй сістэмы роспісаў Благавешчанскай царквы ўскладняецца з-за гібелі фрэсак [35]. У люстры купала (скуф'і) была напісана паясная выява Хрыста Уседзяржыцеля, ці Пантакратара, з закрытай кнігай, якая, згодна з прароцтвам Іаана Багаслова, будзе раскрыта ў дзень «Страшнага суда». Гэты мастацкі сюжэт вельмі старажытны, ён узыходзіць да больш ранніх традыцый дамангольскага часу. Пантакратар паказаны пагрудна, шчыльна ахутаны гімаціем, бачны толькі кісці рук — левая падтрымлівае кнігу, правая ледзь узнята ўгору з сагнутымі ўніз пальцамі і ствараe трохвугольнік. Твар падоўжаны, з выразнымі вачыма і суровым позіркам, валасы авалам закрываюць лоб [36].

Як адзначае А. Рогаў, такую дэталь, калі правая рука не ў

---

[32] Freski z Supraśla. Katalog wystawy. Białystok, 1968. 81 il.

[33] Рогов А. И. Фрески Супрасля // Древнерусское искусство... С. 343.

[34] Покрышкин П. П. Благовещенская церковь в Супрасльском монастыре... С. 222—237; Freski z Supraśla. Katalog wystawy.

[35] Схема роспісаў скапіравана аўтарам з макета, які экспануецца разам з уцалелымі фрэскамі ў краязнаўчым музеі ў Беластоку (ПНР). Схема размяшчэння роспісу ў інтэр'еры разглядаецца і А. Рогавым па матэрыялах П. Пакрышкіна ў артыкуле «Фрески Супрасля» // Древнерусское искусство... С. 343—358.

[36] Гэта фрэска не захавалася, яна вядома па фотаздымку мастака Пятрова, зробленаму ў 1864 г., які цяпер экспануецца ў краязнаўчым музеі Беластока (з макетам). Копіі прыкладзены да артыкулаў П. Пакрышкіна і А. Рогава.

блаславенні, можна ўбачыць у ноўгарадскіх фрэсках. Але трэба дадаць, што толькі ў творчасці Феафана Грэка, дзе рука ў выяве Пантакратара (1378), размешчанай у скуф'і царквы Спаса-Праабражэнскай у Ноўгарадзе, ледзь высунута з-пад гімацця і сагнута па валу, пальцы дакранаюцца ўнізе да вялікага пальца [37].

Выява паказана на блакітным фоне, дэкараваным зорачкамі. Пантакратар размешчаны ў васьміграннiку з падвойным вопісам, па фону прасвечваюцца літары. Ад яго ў розныя бакі разбягаюцца да аконных распалубак восем трохвугольных прамянёў, у якіх намаляваны шасцікрылыя серафімы. Ці ёсць вуглападобныя мандорлы ў балканскіх помніках, невядома, але ў іканапісе Беларусі XVI—XVIII стст. яны сустракаюцца вельмі часта, асабліва ў кампазіцыях «Успенне», «Ушэсце» і інш.

У пераходным прамежку паміж светлавым барабанам і купалам былі адлюстраванні чатырох архангелаў і чатырох серафімаў. Архангелы прадстаўлены ў рост, адзеты ў кароткія баявыя плашчы і парадныя дзівіцісіі, аздобленыя лорамі. Гэта т. зв. нябеснае воінства, што ахоўвае Уседзяржыцеля. Далей размяшчаўся дэкаратыўна-арнаментальны фрыз. У светлавым барабане паміж вокнамі былі змешчаны ў рост біблейскія праайцы: Адам, Авель, Сіф, Енох, Ной, Мельхіседак, святыя айцы царквы і прарокі, старазапаветныя персанажы (Майсей, Саламон, Давыд, Ілля, Елісей, Захарый, Іона, Авакум, Амос і г. д.).

На паўночным і паўднёвым схілах усходняй аркі былі паясныя выявы святых. На ветразях барабана размяшчаліся сімвалы чатырох евангелістаў. У аснове сюжэта — акафіст Маці боскай і некаторыя сцэны з жыцця Хрыста. На ўсходняй (алтарнай) сцяне размешчаны кампазіцыі: злева — «Знаменне», справа — «Благавешчанне». Апошняя з'яўляецца галоўнай у фрэскавым цыкле, таму што яна прысвячаецца храму. На паўднёвай сцяне ідуць кампазіцыі: «Сустрэча Марыі з Лізаветай», «Пакланенне вешчуноў» і інш. На паўночнай сцяне — працяг акафістных сцэн: «Нараджэнне Хрыста», бліжэй да ўсходняй сцяны — «Маці боская. Знаменне са свяцiцелямі», далей «Нядрэмнае вока Спасава». Ніжэй кампазіцыя з трох анёлаў і «Сашэсце святога духа». У верхнім рэгістры размешчаны кампазіцыі «Хрышчэнне», «Стрэчанне», на паўднёвай частцы хораў — «Уваскрэсенне Лазара», на заходняй — «Жонкі-міраносіцы каля труны господняй», «Хрыстос і самарыцянка». Са святочных кампазіцый яшчэ не ўпамянуты «Уваскрэсенне», «Ушэсце», якія размешчаны на паўночнай сцяне.

Пад евангельскімі сюжэтамі праходзіў вузкі дэкаратыўны фрыз. Роспіс храма завяршалі фігуры пакутнікаў, стоўпнікаў, воінаў, прападобных і шматлікіх святых, што запаўнялі два ніжнія рэгістры і грані нефавых слупоў. Фігуры пададзены ў строгіх франтальных позах. У самым нізе праходзіў шырокі

[37] Лазарев В. Н. Древнерусские мозаики и фрески... С. 304.

фрыз, што складаўся з платаў. Ён быў аздоблены гарызантальнымі зігзагападобнымі трайнымі палосамі.

Побач з сюжэтнымі выявамі вялікая ўвага надавалася арнаментальнаму дэкору ў выглядзе фрызаў ці самастойных кампазіцый, размешчаных у арачным завершы, аконных праёмах, нішах.

Як ужо адзначалася, па характару іканаграфіі фрэскі Супрасльскага манастыра набліжаюцца да мастацтва Візантыі канца XIV — пачатку XV ст. і стылістычна блізкія да сербскіх помнікаў манументальнага жывапісу царквы св. Тройцы ў Манасіі (Паўночная Сербія). Гэта прасочваецца ў графічна-лінейнай манеры пісьма, у архітэктурных формах — нарастанні архітэктурных куліс, вэлюмаў, перакінутых праз будынкі, горных пейзажах, а таксама ў самім тыпажы, зграбных падоўжаных прапорцыях фігур, іх лёгкасці і вытанчанасці, у лінейнай распрацоўцы складак адзення.

Аднак у жывапісе Супрасля відавочны і элементы заходнееўрапейскага мастацтва, напрыклад у адзенні. Большасць святых апрануты ў даспехі, тунікі, плашчы, лёгка перакінутыя праз плечы. На туніках — шырокія паясы, у руках — мячы і шчыты.

Такі гарманічны сплаў элементаў заходняга і ўсходняга мастацтва невыпадковы, што тлумачыцца асаблівасцямі гістарычнага развіцця Беларусі. Манументальнае будаўніцтва гэтага перыяду насіла абарончы характар і выпрацавала своеасаблівы тып царквы-крэпасці (Супрасль, Маламажэйкава, Сынкавічы). У архітэктуры гэтых храмаў, як і ў іх дэкоры, удала перапляліся элементы ўсходневізантыйскага і заходнееўрапейскага мастацтва.

Незвычайны каларыт фрэскаваму цыклу ў Супраслі надаюць адценні, сярод якіх пераважаюць лёгкія шэра-сіняватыя, ружовыя, залаціста-жоўтыя, карычнева-вішнёвыя з цёмнымі лінейнымі вопісамі. Твары напісаны светлай вохрай з лёгкай падрумянкай, якая пакладзена паверх зеленаватай карнацыі.

Паходжанне фрэсак Благавешчанскай царквы Супрасльскага манастыра пакуль што не высветлена. Як сведчыць «Хроніка Супрасльскай лаўры», складзеная яе настаяцелем архімандрытам Сергіем Кімбарам, «...Сербіну Нектарыю маляру за Дэісусец цёплай царквы дадзена 6 коп грошай, а золата царкоўнае. За дзве святыні, што ён рабіў, трох свяціцеляў і трох прападобных 9 коп грошай, а золата царкоўнае. За палажэнне золата на карунку царкоўную, на дзве ківотцы дзвярныя 3 капы грошай, а золата царкоўнае. За летапісец царкоўны, што на цяблє, 3 капы грошай, а золата царкоўнае... А за святы іканастасныя 12 коп і 14 грошай і 4 пенязі. Усяго серабра на абразе жыція Багародзіцы 31 грывень і 32 залатнікі, а за пазалоту...» [38] Такім чынам вядома, што «Сербін Нектарый маляр» маляваў абразы

[38] Археологический сборник документов. Вильно, 1870. Т. 9. С. 52.

для іканастаса цёплай царквы Іаана Багаслова, якая пабудавана ў 1501 г. Якія адносіны ён мае да фрэскавага роспісу — невядома. Цікавыя думкі па гэтым пытанні выказалі югаслаўскі вучоны С. Пяткові і польскі вучоны С. Ставіцкі [39]. Апошні мяркуе, што Нектарый — гэта аўтар Тыпікі Эрмініі — інструкцыі для іканапісцаў. Але трэба заўважыць, што Тыпіка была напісана ў 1599 г., а фрэскі — у 1557 г. С. Пятковіч, праўда, лічыць дацiроўку Тыпікі вольнай. Даследчык А. Рогаў выказвае думку, што Сербін Нектарый быў не толькі жывапісцам, але і тэарэтыкам жывапісу, а імя яго было шырока вядома на Балканах [40]. Ва ўсякім разе гэта пытанне застаецца вельмі далікатным. Не выключана магчымасць, што Нектарый быў запрошаны Кімбарам з нейкага сербскага манастыра для стварэння абразоў цёплай царквы і для роспісу Благавешчанскай царквы. Магчыма, пад яго кіраўніцтвам працавалі і мясцовыя майстры-жывапісцы. Як вядома, у гэты перыяд пры Барысаглебскай царкве ў Гродне існавала жывапісная школа, якую ўзначальвалі абат Іаан і Афанасій Антонавіч [41]. Супрасль у тыя часы належаў Гродзенскаму павету. Аб этнічнай прыналежнасці майстроў можна меркаваць яшчэ і па надпісах, зробленых на фрэсках на старaславянскай мове беларускай рэдакцыі.

Манументальны жывапіс беларускіх майстроў у Польшчы мае вялікае значэнне для гісторыі мастацтва, бо ён зрабіў вялікі ўплыў на развіццё станковага жывапісу.

В. Падабедава пісала, што манументальны жывапіс надзвычай успрымальны да ўсялякіх змен стыляў, грамадскіх адносін. Ён, як і кніжная ілюстрацыя, першы сведчыць аб крызісе стылю, нараджэнні новых якасцей і ўсяго новага, што адбываецца ў грамадстве [42].

Усе разгледжаныя фрэскавыя цыклы на тэрыторыі ўсходняй Польшчы візантыйска-рускага характару, звязаны з мастацкімі традыцыямі і культурай Паўночна-Заходняй Русі і маюць непасрэдныя адносіны да развіцця сярэдневяковага манументальнага мастацтва.

**Іканапіс.** Прасачыць эвалюцыю іканапісу XV—XVI стст. надзвычай складана; тыя адзінкавыя творы, якія захаваліся, не даюць магчымасці зрабіць грунтоўныя абагульненні. Абмежаванае кола помнікаў патрабуе выкарыстання ўскосных крыніц, правядзення іканаграфічных паралелей і стылістычных су-

---

[39] Петковић С. Нектарије Сербин, еликар XVI в. // Зборник за ликовие уместности. 1972. С. 211—225; Stawiski S. Czy Nektarij autor «Tipika» był twórcą malowideł supraśloskich // Biuletyn Historii Sztuki. 1972. N 1. S. 30—35; N 2. S. 143—145.

[40] Рогов А. И. Фрески Супрасля... С. 258.

[41] Jodkowski J. Muzeum w Grodnie. Wilno, 1924. S. 38.

[42] Подобедова О. Л. Изучение русской средневековой монументальной живописи // Древнерусское искусство. Монументальная живопись XI—XVII вв. С. 7.

пастаўленняў з помнікамі мастацкай спадчыны іншых народаў. Беларускай мастацтвазнаўчай навукай ужо зроблены першыя захады такіх даследаванняў [43].

Іканапіс пры ўсім сваім кансерватызме і традыцыяналісцкай арыентацыі вельмі чулліві да канфесійнай сітуацыі ў грамадстве і да тонкіх нюансаў рэлігійна-этычных і рэлігійна-эстэтычных поглядаў свайго часу, зарыентаваных у сярэдневяковай Беларусі на «даўніну», на актуалізацыю старажытных мастацкіх вобразаў, старажытнай сімволікі, раннехрысціянскай маралі і патрыстыкі. Таму, каб зразумець месца XV—XVI стст. у гісторыі беларускага іканапісу, неабходна пачаць з помнікаў, якія належаць больш ранняму часу.

Як і на ўсіх усходнеславянскіх землях, у Полацку і Тураве з часоў прыняцця хрысціянства ў іканапісе існавала ўстойлівая арыентацыя на мастацтва Візантыі. Вядомы прыклад прынясення ў Полацк па просьбе Ефрасінні ў падарунак ад канстанцінопальскага імператара Мануіла Комніна славутага абраза Маці боскай Эфескай-Карсунскай з'яўляецца выдатнай ілюстрацыяй сувязей старажытнага Полацка з візантыйскім мастацтвам. З легендарных крыніц невядома, да якога іканаграфічнага тыпу належаў ізвод Эфескага абраза, лічыцца, што гэта ізвод Адзігітрыі [44]. Дапушчальна, што Лазар Богша на крыжы Ефрасінні Полацкай з часткамі святынь змясціў і адлюстраванне найвялікшай святыні — абраза Маці боскай Эфескай, які не захаваўся. У такім выпадку абраз Адзігітрыі Дзяржаўнага Рускага музея, па паданню, прынесены ў Тарапец з Полацка дачкой полацкага князя Брачыслава, з'явіцца яшчэ адной візантыйскай іконай, якая трапіла ў Полацк у дамангольскі час. На заходнерускіх землях, менавіта ў Смаленску, гісторыя якога цесна пераплятаецца з Полацкам, знаходзіўся яшчэ адзін найстаражытнейшы на Русі візантыйскі абраз Маці боскай — «Адзігітрыя Смаленская» (абраз страчаны ў час другой сусветнай вайны, як і крыж Ефрасінні Полацкай). Варта тут прыгадаць і легенду аб полацкім паходжанні абраза XIII ст. «Маці боская Чанстахоўская» ў Яснай Гуры.

Прыклады цесных кантактаў заходнерускіх зямель з мастацтвам Візантыі гавораць аб тым, што гэтыя землі ў культурным жыцці дамангольскай Русі займалі не апошняе месца. На жаль, адсутнасць уласных помнікаў іканапісу XI—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі не дае магчымасці канкрэтызаваць значэн-

[43] Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 33—36; Ветер Э. И. Памятники живописи, связанные с развитием Ренессанса в Белоруссии // Памятники культуры. Новые открытия. 1981. М., 1983. С. 207—215; Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 188—203.

[44] Агульнапрынятым з'яўляецца дапушчэнне, што гэта абраз Адзігітрыі, які захоўваецца ў Дзяржаўным Рускім музеі ў Ленінградзе, куды ён трапіў з царквы Тарапца // Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 87; Сапунов А. Древние иконы Божией матери в Полоцкой епархии. Витебск, 1888. С. 10—11.

не ў заходнерускім мастацтве іканапісу Полацкага, Тураўскага, Смаленскага і Галіцка-Валынскага княстваў, удзелы якіх ахоплівалі сучасную беларускую тэрыторыю.

У XIII ст. у выніку мангола-татарскага разбурэння кантакты старажытнарускага мастацтва з мастацтвам Візантыі амаль спыніліся, таму дасягненні высокага палеалогаўскага стылю візантыйскага мастацтва засвойваліся рускім іканапісам са спазненнем і ў гатовых формах XIV ст.[45] На заходнерускіх землях засваенне навацый раннепалеалогаўскага стылю ў выяўленчым мастацтве, абнаўленне вобразных сродкаў жывапісу храналагічна не адставала ад аналагічных працэсаў у візантыйскім мастацтве, сведчаннем чаму з'яўляюцца выдатныя помнікі заходнерускага мастацтва XIII ст.— мініяцюры Аршанскага (захоўваецца ў ЦБ АН УССР, Кіеў) і Галіцка-Валынскага (у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі) евангелляў. Артыстызм выканання, упэўненасць мазка і пластычнага контуру, аб'ёмнасць мадэліроўкі твараў, псіхалагізм, высакароднасць вобраза, што адпавядалі мастацкім пошукам раннепалеалогаўскага стылю, вызначаюць мініяцюры евангелістаў Мацвея і Лукі з Аршанскага евангелля [46].

Заходнерускія землі не зазналі такога страшэннага спусташэння, як паўночна-ўсходняя і паўднёвая Русь. Культурныя і мастацкія кантакты заходнерускіх зямель з Візантыяй і паўднёвымі славянамі амаль не прыпыняліся. Асабліва актывізаваліся яны з «другой хваляй» балканскіх уплываў. У 1415 г. Вітаўт аднавіў Кіеўска-Літоўскую метраполію з рэзідэнцыяй у Навагрудку. Першым мітрапалітам яе стаў выхадзец з Балкан Грыгорый Цамблак [47]. Асабліва ўзмацнілася эміграцыя на Беларусь з Балкан пасля заваёвы туркамі Канстанцінопаля (1453 г.) і зямель паўднёвых славян. Вядомы прыклад такога роду — праца Нектарыя Сербіна над абразамі іканастаса Супрасльскай царквы Іаана Багаслова ў XVI ст.[48]

«Другая балканская хваля» спрыяла падтрыманню высокага ўзроўню беларускага мастацтва XV ст. Аб плённым выкарыстанні візантыйскіх традыцый пераканаўча сведчаць такія выдатныя творы, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, як абразы «Успенне» (у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі) і «Маці боская Елеўса» (у МСБК ІМЭФ АН БССР).

Абраз «Успенне» знаходзіўся ў Мінску, адкуль пасля 1914 г. трапіў у збор І. С. Астравухава. Традыцыйна абраз адносяць

---

[45] Попова О. С. Новгородская миниатюра раннего XIV века и ее связь с палеологовским искусством // Древнерусское искусство: Рукописная книга. М., 1972. С. 105.

[46] Аб Аршанскім евангеллі гл.: Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 95—96.

[47] Саббатовский А. Григорий Цамблак, митрополит Киевский и Литовский (Оттиск из Лит. еп. вед.). Вильно, 1884.

[48] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 187.

да першай чвэрці XV ст. Большасць даследчыкаў звязвае гэты твор, які з-за сваёй нязвыклай халодна-блакітнай каларыстычнай гамы названы «Блакітным успеннем», з мастацкай спадчынай Цвярскога княства [49], заўважаючы тым не менш, што «рысы стылю, у якім знайшлі арганічнае праламленне познепалеалогаўскія і, не выключана, поствізантыйскія ўзоры ставяць «Блакітнае ўспенне» ў адасобленае становішча ў адносінах да галоўнай мастацкай тэндэнцыі рускага жывапісу другой палавіны XV стагоддзя» [50]. Версія цвярскога паходжання «Блакітнага ўспення» не дастаткова пераканаўчая, сярод бяспрэчна цвярскіх помнікаў абраз не мае ніводнага дакладнага стылістычнага аналага, а тыя гіпатэтычныя «цвярскія» творы, якія найбольш блізкія стылістычна да разглядаемага помніка, маюць нявысветленае паходжанне [51].

Вытанчаная стылістыка «Блакітнага ўспення», бездакорная кампазіцыйная будова ставяць яго ў лік выдатнейшых твораў, якія поўна і глыбока ўвасобілі вобразна-пластычныя прынцыпы эстэтыкі праваслаўнай царквы. Каліграфічнасцю і адначасовай манументальнасцю выканання «Успенне» адпавядае лепшым узорам познепалеалогаўскага адраджэння [52]. Па характару мадэліроўкі лікаў да «Успення» найбольш блізкі чатырохчасткавы абраз-алтар «Апосталы Пётр і Павел, архангелы Міхаіл і Гаўрыіл, Іаан Златавуст і Васілій Вялікі» канца XIV ст. з Сінайскага манастыра св. Кацярыны. Асабліва ўражвае падабенства малюнка твараў апосталаў Пятра і Паўла на абразе «Успенне» і сінайскім алтары (асабліва партрэтны твар апостала Паўла). Нягледзячы на тое што на абразах, якія мы параўноўваем, Павел падаецца ў розных паваротах і адпавядае агульнапрынятай у XIV—XV стст. іканаграфіі, індывідуальнасць яго твару пазнаецца адразу [53].

Стылістыка «Блакітнага ўспення» не адасоблена ад стылістычных пошукаў позневізантыйскага жывапісу апошняй чвэрці XIV — першай палавіны XV ст., у гэтых межах яго і трэба датаваць. Сцэна перанясення апосталаў (і ўзнясенне Маці боскай на воблака) вядома на ўсходнеславянскіх і візантыйскіх помніках ужо ў XIII ст., напрыклад, фрэска царквы Маці боскай Пе-

---

[49] Попов Г. В., Рындина А. В. Живопись и прикладное искусство Твери XIV—XVI веков. М., 1979. С. 189—193, 319—321, 440—441. На с. 321 падрабязная бібліяграфія твора, акрамя таго: Черашчатава В. В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986. С. 75; Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў (Альбом. Аўтар уступнага тэксту Н. Ф. Высоцкая). Мн., 1980. Іл. 14—16.

[50] Попов Г. В., Рындина А. В. С. 192.

[51] Гэтыя творы: кляймо царскай брамы з евангелістамі Мацвеем і Сафіяй Прамудрасцю (Попов Г. В., Рындина А. В. С. 315, 316, 438) і «Уезд у Іерусалім» (Попов Г. В., Рындина А. В. С. 287—288, 398—401).

[52] Лазарев В. Н. История Византийской живописи (Таблицы). М., 1986. Іл. 516—517, 518—519, 550.

[53] Там жа. Іл. 551.

рыўлепты ў Ахрыдзе[54]. Іканаграфічна ніжні ярус кампазіцыі «Блакітнага ўспення» збліжаецца і з манументальным творам палеалогаўскага адраджэння пачатку XIV ст. мазаікай Кахрые Джамі (Стамбул)[55].

Такім чынам, відавочна знаёмства майстра «Блакітнага ўспення» з найбольш выдатнымі прыкладамі іканаграфіі «Успення» ў палеалогаўскім мастацтве.

Вобразы «Блакітнага ўспення» надзвычай адухоўленыя і змястоўныя, надзелены індывідуальнасцю рыс і выразу твараў, індывідуальнай псіхалагічнай трактоўкай. Цікавасць да чалавечых пачуццяў, псіхалагізм позневізантыйскага мастацтва знайшлі тут выразнае ўвасабленне, якое раскрывае праз асобы апосталаў і іерусалімскіх жанчын пачуцці вялікага, непапраўнага гора, жалобы і смутку. Нягледзячы на значныя іканаграфічныя і стылістычныя паралелі ў позневізантыйскім мастацтве, рад асаблівасцей вобразна-пластычнай пабудовы «Блакітнага ўспення» не дазваляе залічыць яго ў лік бясспрэчных візантыйскіх помнікаў. Да гэтых асаблівасцей належыць у першую чаргу каларыстычнае вырашэнне абраза і манера жывапіснага выканання, якая характарызуецца пастознасцю мазка і рытмічным размяшчэннем прабелаў і ліній складак і контураў, што будуюцца ў адпаведнасці са своеасаблівай арнаменталізавана-геаметрычнай заканамернасцю плаўнай, дугападобнай пластыкі кампазіцыі «Блакітнага ўспення». Як зазначае Г. В. Папоў, «жывапіс «Успення» — перш за ўсё рускі жывапіс... Кожны жэст, ледзь заўважны рух падпарадкоўваюцца агульнаму рытму, апраўданы лагічна і мастацкі, зведзены ў адно кампазіцыйнае цэлае. Рытм у параўнанні з поствізантыйскімі абразамі тут мякчэйшы, пабудаваны на перацяканні ліній і аб'ёмаў. Але гэта плаўнае цячэнне неаднаразова перарываецца, ад чаго рытміцы надаецца вастрыня, напружанасць, якія ў цэлым не ўласцівы рускаму жывапісу другой палавіны XV ст.»[56]

Колеравая гама «Блакітнага ўспення» таксама не характэрна ні для паўночна-ўсходніх рускіх абразоў, дзе пераважала цёплая, залаціста-зялёна-чырвоная гама колераў, ні для позневізантыйскага і поствізантыйскага іканапісу, пабудаванага на рэзкіх, кантрастных супастаўленнях цёмных, насычаных таноў. Каларыт «Успення» параўнальны з танальнасцю фрэскавых роспісаў. Блізкасць «Блакітнага ўспення» з «рускімі» фрэскамі замкавай капліцы ў Любліне адзначыў яшчэ А. І. Някрасаў[57]. Стылістычныя адметнасці «Успення» прыводзяць да высновы, што твор гэты быў напісаны на заходнерускіх землях.

Другім выдатным помнікам іканапісу XV ст., лёс якога звя-

---

[54] Лазарев В. Н. История Византийской живописи (Таблицы). Іл. 451.
[55] Там жа. Іл. 461.
[56] Попов Г. В., Рындина А. В. С. 191—192.
[57] Некрасов А. И. Древнерусское изобразительное искусство. М., 1937. С. 186.

заны з Беларуссю, менавіта з Заходнім Палессем, з'яўляецца абраз «Маці боская Елеўса» («Замілаванне»), які паступіў у Музей старажытна-беларускай культуры (МСБК)[58]. Тэхналагічнымі параметрамі гэты абраз вельмі нагадвае «Блакітнае ўспенне». У абодвух выпадках творы вызначаюцца добрай захаванасцю фарбавага слою, трывалым ляўкасам, характарам дошкі з вузкімі палямі і пакатым схілам каўчэга, аднатыпным кракелюрам. Сваім жывапісным вырашэннем абраз «Елеўса» адпавядае позневізантыйскаму акадэмізму і ў большай ступені—манеры італа-грэчаскай школы жывапісу. Таму трэба лічыць, што «Елеўса» напісана некалькі пазней, чым «Блакітнае ўспенне», верагодна, у сярэдзіне XV ст. З творамі італа-грэчаскай (і пазнейшай італа-крыцкай) школы абраз «Маці боская Елеўса» яднае ў першую чаргу шырока распаўсюджаны ў поствізантыйскім мастацтве прыём аздаблення німбаў далікатнай кропкавай гравіроўкай з хвалістых сцяблін і завіткоў[59]. Але ў абразе МСБК яшчэ адчуваецца подых жывых імпульсаў высокага палеалогаўскага стылю. Пластычнасць сілуэта, мяккая аб'ёмнасць і псіхалагічная напружанасць у ліках «Елеўсы», паўнаважнасць формы застаўляюць прыгадаць іканаграфічна блізкія да разглядаемага абраза ўзоры ўвасаблення тэмы Маці боскай Міласэрнай — Елеўсы ў позневізантыйскім мастацтве часоў яго найвышэйшага росквіту[60].

Абраз «Маці боская Елеўса» мае дакладны іканаграфічны і стылістычны аналаг. Гэта абраз у Дзяржаўным Эрмітажы з былога збору Н. П. Ліхачова, які даціруецца канцом XV ст.[61] Абраз са збору Ліхачова апублікаваны ў яго «Матэрыялах», а таксама Кандаковым, які грунтоўна даследаваў іканаграфічны тып «Елеўса», указаў найбольш старажытныя паралелі да абраза ў зборы Ліхачова[62]. Абраз Ліхачова і абраз МСБК напісаны па адной і той жа прорысі і розняцца паміж сабой толькі дробнымі дэталямі. Але абраз МСБК выкананы больш тонка і архаічна, што застаўляе бачыць у ім больш ранні твор. На жаль, невядома, адкуль трапіў у збор Ліхачова згаданы абраз, як невядома і першапачатковае месцазнаходжанне «Елеўсы» з МСБК. Верагодна італа-грэчаскае паходжанне абодвух твораў, але такое меркаванне застаецца ўсё ж гіпатэтычным, таму што немагчыма праверыць гіпотэзу стварэння абодвух абразоў

---

[58] Музей старажытнабеларускай культуры: Каталог экспазіцыі. Мн., 1983. С. 92—93.

[59] Сокровища Кипра: Альбом. Текст А. К. Коровиной и др. М., 1976. Табл. XII, XIII, XIV.

[60] Лазарев В. Н. Табл. № 423, 481.

[61] Лифшиц Л. И. Икона «донской» Богоматери // Древнерусское искусство: Художественная культура Москвы и прилегающих к ней княжеств XIV—XVI вв. М., 1970. С. 90.

[62] Кондаков Н. П. Иконография Богоматери: Связи греческой иконописи с итальянской живописью раннего Возрождения. Спб., 1910. С. 154, 155. Рис. 103.

на Беларусі. Ускосна на карысць апошняй гіпотэзы сведчыць рад акалічнасцей. Гэта тэхналагічнае падабенства абодвух абразоў да «Блакітнага ўспення» і знаходжанне «Елеўсы» МСБК на блізкай тэрыторыі да Пінска — аднаго з буйнейшых культурных асяродкаў правізантыйскай арыентацыі ў Беларусі XV ст. Важна і тое, што на абразе «Елеўса» ёсць паясныя выявы архангелаў у верхніх вуглах кампазіцыі, імёны якіх падпісаны па-славянску, кірыліцай. Гэтыя дэталі прысутнічаюць у XV—XVI стст. амаль на ўсіх беларускіх і ўкраінскіх абразах Маці боскай з дзіцем. Іканаграфічны тып «Елеўса» добра вядомы ў старажытнабеларускім мастацтве. Да яго належыць рэльефны абразок Маці боскай Жыровіцкай, абраз «Маці боская. Замілаванне» 1644 г. у МСБК і інш. Згаданыя акалічнасці не даюць падставы адвяргаць магчымасць стварэння абраза «Елеўса» МСБК на беларускай зямлі.

Вельмі складаны і напружаны вобразны змест гэтага твора. Тут перадаецца не проста сцэна пяшчоты маці да сына, а драматычнае, надзеленае значным дагматычным падтэкстам і апакрыфічнымі прадстаўленнямі дзеянне. Навучальны скрутак, які трымае ў руках дзіця Хрыстос, указвае на яго місію, анёлы ў верхніх вуглах, постаці якіх часта адлюстроўваюцца з прыладамі пакут Хрыста, нясуць дзіцяці яго прадвызначаны лёс; Маці боская, на кайме мафорыя якой змешчаны надпіс «аздобленая бахрамой» — сімвал царскай велічы, прадстае як Царыца нябесная. Міласэрнай заступніцай з'яўляецца для людзей Маці боская на абразе МСБК. Але адначасова яе вобраз перапаўняе глыбокі непакой, усведамленне трагічнай непазбежнасці ахвяравання сынам. У мастацкім змесце «Елеўсы» МСБК перадаюцца апакрыфічныя ўяўленні, прадстаўленыя і ў познім апокрыфе «Сон Багародзіцы», вядомым на Беларусі ў спісах XVIII ст. На аснове гэтых уяўленняў у абразе «Елеўса», як і іншых беларускіх абразах, падкрэсліваецца думка аб трагічным усведамленні Маці боскай лёсу свайго сына, таму ласка дзіцяці выклікае ў маці не толькі замілаванне, але і адчай, пакуту ад немагчымасці змяніць яго лёс.

Гэты глыбока чалавечны вобразны змест прачытваецца ў XV—XVI стст. і на беларускіх абразах іншых ізводаў: «Маці боская Перыўлепта», «Адзігітрыя». Абраз «Маці боская Перыўлепта» з пінскай Варварынскай царквы [63] вельмі блізкі да «Елеўсы» МСБК каларыстычным строем, асобнымі момантамі стылістыкі, вобразным зместам. Манументальная веліч на абразе з Пінска падкрэслена яшчэ больш значна, чым на абразе «Елеўса». Вялізны памер дошкі, ясна акрэслены сілуэт, выцягнутыя прапорцыі застаўляюць гледача ўспрымаць вобраз Маці боскай знізу, ад зямлі, адчуваць сваю зямную, чалавечую слабасць і сваю абароненасць боскай Непарушнай заступніцай.

---

[63] Жывапіс Беларусі... Іл. 21. Твор аднесены Н. Ф. Высоцкай да XVI ст.

Яшчэ больш, чым на абразе «Елеўса», узмацняецца тэма будучай пакуты: анёлы, укрыўшы рукі хусцінкамі, нясуць да Хрыста крыж і дзіды. У той жа час напружанасць пачуццяў на абразе з Пінска праяўляецца больш стрымана, чым у «Елеўсе» МСБК. У цэлым вобразны настрой абраза Маці боскай з Пінска характарызуецца адыходам ад вытанчанай стылістыкі палеалогаўскай спадчыны і арыентацыяй на больш раннія ўзоры візантыйскага мастацтва, вызначаныя спірытуалістычным пафасам, стрыманай суровасцю. Манера выканання пінскага абраза паказальная эвалюцыі беларускага іканапісу. Аб'ёмная, упэўненая мадэліроўка твараў злучаецца з рытмізаванай, плоскаснай перадачай складак простымі прамымі лініямі, плаўны сілуэт і ясная, злёгку геаметрызаваная канструкцыя формы злучаецца з вытанчанай, але не дробнай арнаментацыяй і стрыманым выкарыстаннем прабелаў і асісту. Тут як бы знаходзяць лагічнае развіццё стылявыя прыёмы «Блакітнага ўспення» і адначасова ўжо праглядаецца дэкаратывізм і вобразная суровасць твораў XVI ст. Таму правільна, на нашу думку, даціраваць пінскі абраз другой палавінай — апошняй чвэрцю XV ст. Кампазіцыя твора адпавядае іканаграфічнаму тыпу Перыўлепты — «Маці боскай дзівоснай прыгажосці» [64], але праз фігуры анёлаў набывае і рысы іканаграфіі «Маці боскай страснай». У іканаграфіі Перыўлепты ўвасабляецца ідэя надзвычайнай красы Маці боскай. Дасканалая прыгажосць аблічча Маці боскай, яе царскі пурпурны мафорый з залатой бахрамой, зоркамі і светла-ружовым ісподам, які ніспадае фалдамі, пакідаючы адкрытай тонкую доўгую шыю і падкрэсліваючы смуглявасць авальнага твару — усе гэтыя асаблівасці пластычнага вобраза Маці боскай Перыўлепты з Пінска выразна ўвасабляюць класічны ў сваёй завершанасці мастацкі ідэал старажытнабеларускага іканапісу. Наколькі папулярным быў гэты іканаграфічны ізвод у сярэдневяковым беларускім мастацтве, гавораць шматлікія варыяцыі гэтай тэмы ў іканапісе XVII ст. Найперш выдатнейшы па сваіх мастацкіх якасцях абраз «Маці боская Баркалабаўская». Да варыяцый сумешчанага ізвода Перыўлепты — Адзігітрыі Іверска-Іерусалімскай належаць і абраз Маці боскай са Здзітава (у МСБК ІМЭФ АН БССР) [65] апошняй чвэрці XVI ст., і абразы XVII ст. з Магілёва, Лахвы, Вялікага Падлесся. Абраз «Маці боская Перыўлепта» з Пінска належыць да неперавзыдзеных вяршынь беларускага мастацтва. Яго паходжанне пераканаўча сведчыць аб першараднай ролі мастацкага асяроддзя Пінска ў культурным жыцці Беларусі XV ст.

Нам невядома, у якім напрамку развіваўся ў XV ст. жывапіс у Вільні, Полацку і іншых буйных гарадах краіны. Без-

---

[64] Антонова В. И. Иконографический тип Перивлепты и русские иконы Богоматери в XIV веке // Из истории русского и западноевропейского искусства. М., 1960. С. 104—110.

[65] Музей старажытнабеларускага мастацтва. Каталог экспазіцыі... С. 104.

умоўна, ужо ў гэты час існавалі адзінкавыя выпадкі «імпарту» твораў заходнееўрапейскага жывапісу, прыкладам якога з'яўляецца зусім недаследаваны алтарны абраз, напісаны на метале,— «Мадонна з немаўлём» у Навагрудку (XV ст.? Італія?)[66]. Аднак у мясцовым мастацтве ўсё ж дамінавала арганічнае, паслядоўнае развіццё на аснове праваслаўнага канона і візантыйскай эліністычнай эстэтыкі. Такі напрамак пераважаў у рэзідэнцыях апошніх старажытных фамілій удзельных князёў, па традыцыі арыентаваных у сваіх культурных запатрабаваннях на візантыйскую і старажытнарускую спадчыну. Акрамя пінскіх князёў гэта былі роды Лугвенічаў у Мсціславе і Алелькавічаў у Слуцку. Алелькавічам, напрыклад, належаў трон са сланавай косці, зроблены ў Візантыі; Юрый Юр'евіч Алелька ў канцы XVI ст. уласнай рукой перапісаў Евангелле. Росквіт іканапісу ў Слуцку прыпадае на мяжу XVI—XVII стст., але і ў ранейшы час тут ствараліся абразы, аб чым сведчаць архіўныя крыніцы[67] і два абразы Маці боскай слуцкага паходжання канца XV — пачатку XVI ст., якія захоўваюцца ў ДММ БССР[68].

Абодва раннія слуцкія абразы дайшлі да нас у вельмі дрэннай, фрагментарнай захаванасці. Яны прадстаўляюць крыху іншы напрамак у беларускім іканапісе, чым той, што ўвасоблены ў пінскім абразе «Маці боская Перыўлепта». На слуцкіх абразах мы бачым німбы з ляпным на ляўкасе раслінным арнаментам, што тыпова для ўкраінскага і беларускага іканапісу XVI ст., асабліва ў першай яго палавіне, і генетычна ўзыходзіць да заходнееўрапейскага мастацтва, адкуль такі прыём дэкарыроўкі плоскасці німбаў і фонаў перайшоў у поствізантыйскі, італа-крыцкі жывапіс. Жывапісная манера слуцкіх абразоў больш свабодная, экспрэсіўная, у малюнку больш дэфармацый і менш артыстычнай вывераннасці, чым на абразе Маці боскай з Пінска. Слуцкі іканапіс у канцы XV ст. значна больш правінцыяльны, ён бліжэй да іканапісу Валыні таго часу[69].

Такім чынам, у заходнерускім іканапісу ў XV ст. прадстаўлена артыстычная элітарная лінія візантыйскай арыентацыі, якая прасочваецца на абразах «Успенне», «Елеўса», «Перыўлепта», і лінія больш дэмакратычная, больш зніжаная, з больш адкрытым каларытам і свабоднай манерай, увасобленымі ў помніках Валыні і Слуцка. Другі напрамак становіцца галоўным у іканапісе Беларусі і Заходняй Украіны XVI ст.

Пэўнае зніжэнне мастацкага ўзроўню іканапісу ў XVI ст.

---

[66] Архіў ІМЭФ АН БССР. Фонд Кацара. Воп. 2. Адз. зах. 24.

[67] Минская старина. Вып. 4 (Тройчанский архив). Мн., 1913. С. 117.

[68] Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV—XVIII стагоддзя. Мн., 1986. С. 38—40, 42.

[69] Напрыклад, абраз «Маці боская Адзігітрыя» пачатку XVI ст. з Бэлза // Українське мистецтво у міжнародних зв'язках. Київ, 1983. Іл. да артыкула В. І. Свянціцкай.

абумоўлена шматлікімі прычынамі. З пункту гледжання заканамернасцей самаразвіцця мастацтва — гэта непазбежнае старэнне стылю, пазбаўленага магчымасці эксперыменту, значнай зменлівасці. Дэградацыя стылю назіраецца ў XVI ст. ва ўсім усходнехрысціянскім мастацтве, зарыентаваным на развіццё шляхам варыяцый. У XVI ст. у краінах праваслаўнага свету наспявае неабходнасць абнаўлення іканапісу. Немалаважна, што ў гэты час была канчаткова страчана Канстанцінопалем роля цэнтра, які накіроўваў, задаваў галоўны напрамак развіцця мастацтва.

З другога боку, абставіны беларускай гісторыі складваліся так, што ў XVI ст. праваслаўная царква, а адпаведна і праваслаўны іканапіс адчуваюць усё большую дыскрымінацыю. Канфесійныя хваляванні, вялікая дагматычная палеміка, асабліва па трынітарнай праблематыцы, спробы самаабнаўлення праваслаўя, збліжэнне яго з рэфармацыйным рухам, рэзкае змяншэнне матэрыяльнай падтрымкі з боку буйной шляхты, збядненне праваслаўнай царквы непазбежна вялі да рэлігійнай уніі. У такіх умовах адбывалася эвалюцыя беларускага іканапісу XVI ст.

Паказальны прыклад ранняга этапу гэтай эвалюцыі — абраз «Маці боская Адзігітрыя» з Дубінца. Выява Маці боскай на абразе з Дубінца (першая палавіна XVI ст., у ДММ БССР) паказана ў напружаным стане, надзелена суровасцю і драматызмам. Каларыт даволі стрыманы, пабудаваны на цёплых жоўта-аранжава-чырвоных танах, якія кантрастуюць з блакітна-сінім колерам. Карнацыя карычневая. Рысы твару зроблены пры дапамозе дэкаратыўна-графічнага вопісу і бялільных штрышкоў, на пукатых частках высвятлення. Адзенне прапрацавана цёмнай графічнай лініяй, але гімацый Хрыста-Эмануіла падаецца агульным светла-аранжавым колерам.

Побач з візантыйска-рускімі ўплывамі ў XV ст. на тэрыторыю Беларусі пачынаюць пранікаць рысы заходнееўрапейскага мастацтва. Прыкладам з'яўляецца алтарны абраз «Пакланенне вешчуноў» 1514 г. (?) з Дрысвят Віцебскай вобласці (знаходзіцца ў МСБК ІМЭФ АН БССР) [70], які выкананы прафесійным майстрам, знаёмым з узорамі творчасці вялікага мастака Паўночнага Адраджэння Лукаса Кранаха Старэйшага.

Малюнак мяккі, аб'ём ствараецца пры дапамозе колеру, які вельмі ўдала вібрыруе і спалучае цёплыя і халодныя таны: агульны залаціста-карычнева-чырвоны з блакітна-зялёным, пры дапамозе чаго ствараецца свежы натуральны каларыт. Вобразы святых надзяляюцца партрэтнымі рысамі, асабліва выявы вешчуноў, якія прыйшлі з падарункамі віншаваць з нараджэннем Хрыста.

[70] Музей старажытнабеларускай культуры. Каталог экспазіцыі... С. 93, 95, 98—99.

У XVI ст. з пашырэннем эканамічных, палітычных і культурных кантактаў з Захадам у беларускім мастацтве складваюцца спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення новага стылю, які ўплывае не толькі на маляўнічую тэхніку, але ў першую чаргу на вобразны лад жывапісу. Яркім прыкладам можа служыць абраз «Маці боская Іерусалімская» са Здзітава Брэсцкай вобласці (зараз знаходзіцца ў МСБК ІМЭФ АН БССР), створаны ў другой палавіне XVI ст. У аснове сваёй гэты абраз захоўвае кананічную схему, але выява Маці боскай падаецца ў больш смелым ракурсе (павароце і наклоне), у кампазіцыі адчуваецца прасторавая глыбіня, высвятляецца карнацыя, уводзіцца арнаментаваны малюнак фону, што надае ўрачыстасць агульнай кампазіцыі. Каларыт ствараюць сакавітыя вохрыста-аранжавыя, чырвоныя і ізумрудна-зялёныя таны, лепка формы мяккая. Вобраз адухоўлены, лірычны. Характэрнымі для гэтага часу з'яўляюцца абразы «Маці боская Мінская» (Мінскі кафедральны сабор), якая, паводле літаратурных і архіўных крыніц, належыць да XVI ст.[71], і «Параскева Пятніца» са Случчыны (знаходзіцца ў ДММ БССР)[72].

Нягледзячы на традыцыйнасць і сярэдневяковыя мастацкія прыёмы, гэтыя абразы належаць ужо да новага стылю, які канчаткова складваецца на мяжы XVI—XVII стст. Ён характарызуецца светлым святочным каларытам, які будуецца на спалучэнні насычаных адкрытых колераў. Фігуры застаюцца яшчэ графічна-плоскімі, але ў мадэліроўцы твараў ужо адчуваецца аб'ём і матэрыяльнасць, вобразы надзяляюцца партрэтнымі рысамі, кампазіцыйная будова набывае маляўнічасць.

Прыкметы новага ярка адбіліся і ў кампазіцыйнай пабудове абраза «Нараджэнне Багародзіцы» з Ляхаўцоў Брэсцкай вобласці (знаходзіцца ў ДММ БССР), першая палавіна XVII ст. Характэрнымі рысам гэтага абраза з'яўляюцца жанравасць і ўключэнне мясцовага тыпажу, народнага беларускага адзення (андаракі, кужэльныя сарочкі, гарсэты, галаўныя ўборы і іншыя дэталі строя, якія бачны на дзевах-служанках); уводзяцца і этнаграфічныя прадметы ў выглядзе дзіцячай калыскі на паўкруглых ножках-качалках, спавівальніка, які ляжыць на калысцы, падушак з прошвамі. Каларыт абраза вельмі ўрачысты і гучны. Нягледзячы на жанравасць і дробнасць дзеянняў, абраз уражвае сваёй жыццесцвярджальнасцю. Ён належыць да лепшых абразоў беларускага іканапісу[73].

Цікавымі помнікамі першай палавіны XVII ст. са сталымі стылявымі прыкметамі беларускай школы іканапісу з'яўляюцца

[71] Историко-статистическое описание Минской епархии. Спб., 1864. С. 62; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. Спб., 1890. С. 31. Примечания. С. 45; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 202.

[72] Жывапіс Беларусі... Іл. 26.

[73] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Брэсцкая вобласць. Макет рукапісу. 1972. Т. 1. С. 420—421.

абраз «Тройца новазапаветная» з Дастоева Брэсцкай вобласці (знаходзіцца ў МСБК ІМЭФ АН БССР) [74] і «Успенне» з Паніквы Брэсцкай вобласці. Яны вылучаюцца выразнасцю будовы кампазіцыі, характэрнай сімволікай, лакальным адкрытым колерам, сакавітым разьбяным раслінным арнаментам фону.

Такім чынам, XVI ст. у гісторыі беларускага іканапісу стала пераломным этапам, калі адбывалася фарміраванне новай эстэтычнай сістэмы, новай мастацкай канцэпцыі абраза, той канцэпцыі, якая выразна прадстае ў закончанай арыгінальнай стылістыцы беларускага іканапісу ўжо наступнага XVII ст.

*Партрэт.* Пытанне аб уздзеянні мастацкай і філасофскай спадчыны Скарыны на працэс фарміравання і развіцця беларускага партрэтнага жывапісу зусім не даследавана.

Неабходна звярнуць увагу не толькі на сам факт з'яўлення на старонках пражскай Бібліі выразнага па рэнесансаваму духу і чыстага па стылістычных формах партрэта першадрукара, што стварала пэўную іканаграфічную традыцыю, але і далей разглядаць ролю графічнага мастацтва ў развіцці жывапіснага партрэта. Фігура Скарыны, безумоўна, цікавіць даследчыкаў мастацкай культуры Беларусі як яскравы прыклад «стылю жыцця» чалавека Адраджэння, для якога адчыняюцца межы дзяржаў (паездкі па еўрапейскіх культурных цэнтрах) і знікаюць межы ў пераймайнні перадавога (асветніцкага) вопыту на карысць узбагачэння айчыннай культуры. Бо, безумоўна, менавіта паездкі «па адукацыю» ў еўрапейскія дзяржавы патэнцыяльных мецэнатаў мастакоў-партрэтыстаў, перайманне густаў еўрапейскіх двароў і гуманістычных цэнтраў, дзе партрэт як жанр зрабіўся ўжо фактам мастацкага і сацыяльна-культурнага жыцця, не ў апошнюю чаргу паўплывалі на развіццё гэтага жанру на Беларусі.

Неабходна таксама вылучыць сярод ранніх беларускіх партрэтаў такія, якія па мастацкіх асаблівасцях адпавядалі рэнесансавым уяўленням. Некрытычнае выкарыстанне ў беларускім мастацтвазнаўстве тэрмінаў «сармацкі партрэт» [75], а таксама блытаніна з паняццямі «партрэт-парсуна», «партрэт-ікона» перашкаджае не толькі прасачыць працэс выспявання ў беларускім мастацтве «чыстага» партрэтнага жанра, які пазбаўляецца жорсткай субардынацыі культавага жывапісу (у адрозненне ад партрэта данатарскага, кцітарскага, партрэта-персаніфікацыі), але і адзначыць падзел паміж рэнесансавым і маньерыстычным партрэтам і партрэтам эпохі барока, калі ў нас сапраўды з'яўляецца тып «сармацкага» адлюстравання [76].

---

[74] Музей старажытнабеларускай культуры. Каталог экспазіцыі... С. 93, 102—103, 130.

[75] Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1987. Т. 1. С. 204—213; Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1987. Т. 4. С. 193.

[76] Распрацоўку пытання аб сармацкім партрэце гл.: Тананаева Л. Портретные формы в Польше и России XVI в. // СИ. 1981/1; Seminaria Niedickie II. Związki artystyczne polsko-czesko-słowacko-węgierskie. Kraków, 1985.

Даследчыкамі скарынаўскіх выданняў і беларускай гравюры неаднаразова адзначалася выключнае значэнне партрэта першадрукара, змешчанага ў пражскай Бібліі. Партрэт Скарыны ўвогуле быў першым у Еўропе падпісаным адлюстраваннем друкара Бібліі[77]. Цікава параўнаць гравюру з Бібліі 1517 г. з партрэтнымі дрэварытамі тагачасных польскіх выданняў з вобразатворамі польскіх каралёў — Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста і іншых, змешчаных у «De Sigismundi regis temporibus liber» Дэцыя (1521), «Статутах Жыгімонта І» (1524), «Хроніцы» М. Мяхоўскага (1521), якія адлюстроўвалі стан развіцця партрэтнага жывапісу пры двары Жыгімонта І[78]. Больш прагрэсіўныя мастацкія тэндэнцыі выяўляюцца ў партрэце Скарыны, дзе гравёр адыходзіць ад традыцыйнага профільнага адлюстравання мадэлі, свабодна размяшчае фігуру ў трохмернай прасторы і выразнай лініяй контураў пазбаўляе яе статычнасці. Праз дэталі, што абкружаюць Скарыну і дадаткова каменціруюць партрэт,— кнігі, «глобус сусвету», кашолкі для лекавых раслін — раскрываецца характар дзейнасці і кругагляд вучонага. Гэтыя дэталі спалучаюцца ў адзінае цэлае і ствараюць начынне «студыёла» — кабінета для заняткаў вучонага-гуманіста. Такія кабінеты былі тыповай рысай абсталявання рэнесансавых палацаў Італіі яшчэ ў XV ст., ствараліся для іх гаспадароў, што цікавіліся кніжнай навукай, і для вучоных, якіх феадал-мецэнат запрашаў працаваць пры сваім двары. Інтэр'еры кабінетаў вучоных як натурны матэрыял далі штуршок развіццю ў італьянскім і паўночнаеўрапейскім мастацтве іканаграфіі адлюстравання святых у келлі («Св. Еранім» і інш.), станавіліся характэрнай рысай партрэтаў гуманістаў. Такім чынам, дрэварыт са скарынаўскай Бібліі не проста распачынаў развіццё беларускага партрэта эпохі Адраджэння, а ўкараняў на Беларусі найбольш рэнесансавы тып партрэта вучонага.

Спроба адшукаць вынікі ўплываў партрэта Скарыны на беларускае мастацтва пераконвае нас у тым, што вялікі асветнік апярэдзіў свой час не толькі асноўнай справай свайго жыцця, ён дасягнуў такога ўзроўню афармлення і аздаблення кнігі, які яго нашчадкі паўтарылі толькі праз дзесяцігоддзі. Тое ж адбылося з перайманнем мастацкай формы партрэта Скарыны. Толькі ў 1576 г. з'явіўся другі беларускі партрэтны дрэварыт, адзіны экземпляр якога быў выяўлены і надрукаваны бібліёграфам Р. Зямкевічам у 1919 г.[79] Партрэт Васіля Цяпінскага, што, магчыма, быў падрыхтаваны для выдання яго Евангелля, працягвае скарынаўскую традыцыю і адносіцца да вобразатвораў вучоных-

---

[77] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVII стагоддзяў. Мн., 1934. С. 34.

[78] Miodońska B. Władca i państwo w krakowskim drzeworycie książkowym // Renesans. Sztuka i ideologia. Warszawa, 1976. S. 45—96.

[79] Галенчанка Г. Я. Партрэты першадрукароў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 1. С. 28—29.

гуманістаў. Рэдукцыя кампазіцыі паяснога партрэта, падкрэсленая выразнасцю контуру і дакладнасцю штрыхоўкі, дазваляе меркаваць, што аўтару дрэварыта больш блізкім было мастацтва Паўночнай Еўропы. Перайманне партрэтных схем, генетычна звязаных з творчасцю Гальбейнаў і асабліва Кранахаў, не выклікае ў дадзеным выпадку сумнення — арыентацыя прадстаўнікоў рэфармацыйнага руху Беларусі на культурнае жыццё паўночнаеўрапейскіх краін была досыць выразнай і трывалай, бо аб уплывах Л. Кранаха яскрава засведчылі ўжо графіка шрыфтоў і малюнак сюжэтных кампазіцый тытульнага ліста Брэсцкай біблії (1563).

У станковым жывапісе, аднак, плён развіцця жанру партрэта быў даволі сціплы. Абавязковыя для з'яўлення такіх твораў жаданне заказчыка мець такі партрэт, магчымасць рэалізаваць заказ у мясцовага або замежнага мастака, здольнага адысці ад позднегатычных або візантыйскіх традыцый, супадалі досыць рэдка. Найбольш яркім прыкладам рэалізацыі гэтых умоў служыць партрэт Юрыя III Радзівіла са збораў ДММ БССР (1590-я гады) [80]. Асаблівасці твора ў значнай ступені былі абумоўлены неардынарным характарам асобы Радзівіла, які ўжо ў 24 гады быў віленскім біскупам, карыстаўся сяброўскай павагай рымскіх пап Грыгорыя XIII і Інакенція IX, удзельнічаў у канклавах у Італіі. Ён быў значнай фігурай у палітычным жыцці Еўропы, наладжваў адносіны Рэчы Паспалітай з Габсбургамі, сасватаў Сігізмунду III Ганну Штырыйскую. І галоўнае, больш за ўсё Радзівіл цаніў, паводле яго ўласных слоў, «шырыню адукацыі і годнасць асобы чалавека» [81]. Партрэт Юрыя III Радзівіла, між іншым, выяўляе відавочную для беларускага мастацтва XVI ст. тэндэнцыю арыентацыі стылістыкі твораў на розныя культурныя цэнтры Еўропы адпаведна з канфесійнай прыналежнасцю заказчыка. Сын кальвініста М. Радзівіла Чорнага Юрый займаў самыя буйныя біскупскія кафедры Княства і Кароны — віленскую і кракаўскую (з 1591 г.), знаходзіўся на вышэйшых ступенях каталіцкай іерархіі, і невыпадкова вытокі кампазіцыйнай схемы гэтага «кардынальскага» партрэта мы знаходзім у жывапісе Італіі, у творчасці Л. Лота, Рафаэля, а пазней Я. Басана і Я. Цінтарэта [82]. У такім параўнанні беларускага партрэта з італьянскімі «першакрыніцамі» ёсць пэўная ступень умоўнасці, але нельга не заўважыць непасрэднага ці праз замежных мастакоў у Вільні або Кракаве знаёмства яго аўтара з дасягненнямі рэалістычнага жывапісу Італіі. Мастак добра валодае жывапіснымі прыёмамі пластычнай пабудовы аб'ёмаў, танальнымі градацыямі ўпэўнена вызначае прасторавую структуру палатна.

---

[80] Другое нараджэнне партрэтаў з Нясвіжа і Гродна. Каталог / Аўтар уступнага артыкула і складальнік Т. А. Карповіч. Мн., 1981. С. 30—31. № 2.

[81] Kotłubaj E. Galerja nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. Wilno, 1857.

[82] Гл. партрэты Бернарда дэ Росі (1505, Неапаль), Тамаза Негры (1527, Спліт) Л. Лота, кардынала (1511, Прада) і Юлія II (1511—1512) Рафаэля.

Ясныя фарбы цёплых таноў — ад аксамітна-карычневага (фон) да кінаварна-чырвонага (палярына і кардынальская шапка) і жамчужна-белага ствараюць высакародную колеравую гаму, а сакавіты чырвоны колер візуальна падмацоўвае першапланавае размяшчэнне фігуры ў крэсле. Ёсць у мастацкім рашэнні партрэта некаторыя асаблівасці, якія не дазваляюць рашуча адмаўляць магчымасць мясцовага паходжання яго аўтара. Мяккімі, сплаўленымі мазкамі пэндзля ён выразна перадае паверхню, колерам і святлом вылучае цэнтры кампазіцыі, засяроджвае ўвагу на прывабным маладым твары Юрыя. Але яго імкненню падкрэсліць атласную фактуру галубавата-жамчужнага стыхара не адпавядае ўзровень яго тэхнічнага майстэрства, і замест паўпразрыстых лёгкіх мазкоў-блікаў мастак карыстаецца амаль графічнымі росчыркамі пэндзля. Можна лічыць, што спакойны, крыху спрошчаны рытм складак, ценяў і некаторае абагульненне рысаў твару адпавядалі не толькі гераізавана-гуманістычнаму настрою вобраза, але былі больш блізкімі канцэптуальным асновам манеры беларускага жывапісца. Тым не менш трэба канстатаваць, што мастак, безумоўна, валодае якасцямі рэнесансавага светаўспрымання, якія яго сучаснік выдатны паэт Ян Кахаprobably

Адзначым, што карціна з Нясвіжа была толькі адным з партрэтаў Юрыя III Радзівіла, якія знаходзіліся сярод шматлікіх збораў «нясвіжска-алыцкай» (ад Мікалая Радзівіла Чорнага) і «біржайскай» (ад яго брата Мікалая Рудога) ліній сям'і Радзівілаў. Яны згадваюцца ў інвентарах маёмасці 1657, 1671, 1778 гг., а Шыман Старавольскі ў «Помніках Сармацii» (1655) прыгадвае партрэт Юрыя ў Алыцы на Валыні [83]. Апошні зараз знаходзіцца ў Луцкім мастацкім музеі і з'яўляецца копіяй партрэта работы прыдворнага каралеўскага мастака школы М. Кобера 1592 г. (Рым, галерэя Карсіні). Але найбольш блізкі да мінскага вобраза захоўваецца ў кракаўскім кляштары францысканцаў — на ім тая ж кампазіцыйная схема, якая адрозніваецца толькі ў дэталях [84], але фігура біскупа ў крэсле паказана на ўвесь рост. Кракаўскі партрэт, што ўваходзіць у галерэю біскупаў у кляштары, займае ў ёй асобнае месца. У ім мастак адмаўляецца ад прыёмаў «гатызуючага рэнесансу», што характэрнай плоскаснасцю, дэкаратыўнасцю вырашэнняў адзення і арнаментальных рам вакол фігур часам залатымі фонамі набліжалі ўсе папярэднія вобразы ў кляштары — ад партрэта П. Таміцкага да Ф. Красінскага — да традыцыйнага алтарнага абраза. Параўнанне кракаўскага партрэта Юрыя III Радзівіла з нясвіжскім не дазваляе, нягледзячы на іх прынцыповую блізкасць як твораў выразна рэнесансавых, прыпісваць іх аднаму мастаку. Справа не толькі ў тым, што першы з іх напісаны на дошцы, чым набліжаецца

[83] Starowolski S. Monumenta sarmatorum. Cracoviae, 1655. S. 529.

[84] Piwocki K. Zagadnienie rodzimości sztuki polskiej późnego renesansu // Renesans... S. 235. Іл. 9.

жаецца да больш ранніх вобразаў з галерэі ў кляштары. Падрабязнае адлюстраванне дэталей, графічная апрацоўка формы, стрыманасць колеру падкрэсліваюць яго блізкасць да мастацтва Паўночнай Еўропы.

Тып партрэта вучонага-гуманіста і блізкага да яго біскупскага не набыў у беларускім мастацтве шырокага распаўсюджвання. Больш таго, такія творы, як партрэт Мельхіёра Гедройца (1585, ГЭМ ЛітССР) і серыя вобразаў біскупаў Жамойці, яшчэ блізкія да рэнесансавых схем па кампазіцыйнай будове, фарміруюць ужо «асноўныя ідэйна-мастацкія прынцыпы партрэта духоўнай асобы перыяду контррэфармацыі»[85]. Гэтыя паясныя выявы біскупаў вытрыманы ў халодным каларыце блакітнага, сіняга, белага, чорнага з дробнымі чырвонымі акцэнтамі, перадаюць сваіх герояў прынцыпова аддаленымі ад гледача. Далейшая эвалюцыя вобразаў вучоных, прадстаўленая партрэтамі П. Скаргі (ГЭМ ЛітССР, 1612) і К. Жахоўскага (1680, ДММ БССР), адносіцца ўжо да наступнай эпохі.

Матэрыялы архіваў, перапіска, літаратура XVI ст., як і вывучэнне беларускіх партрэтаў гэтага часу, сведчаць, што развіццё свецкіх жанраў жывапісу было звязана ў асноўным не непасрэдна з гуманістычным рухам, а галоўным чынам з мастацкім мецэнацтвам вышэйшых колаў тагачаснага грамадства. Мецэнацтва і імкненне збіраць калекцыі самых розных твораў мастацтва, унікальных рэчаў, археалагічных знаходак пачалі пашырацца з часоў Жыгімонта I і як мода, як новае ўяўленне аб рэпрэзентатыўнасці побыту ўладара распаўсюджваліся на каралеўскія і велікакняжацкія двары і пераймаліся ў першую чаргу буйнейшымі феадаламі[86]. Першапачатковы штуршок гэтаму працэсу далі кантакты з буйнымі цэнтрамі рэнесансавай культуры, дзе новае мастацтва і новы стыль жыцця ўжо пусцілі трывалыя карані. Магчымасць пазнаёміцца з новымі з'явамі ў культурным жыцці Еўропы выхадцы з Польшчы і Літвы атрымлівалі ў першую чаргу ў час вандровак з мэтай атрымаць адукацыю за мяжой ва універсітэтах або ў прыдворных гуртках заходніх сталіц. Значны плён польскай і беларускай культуры прынесла знаёмства з мастацкім жыццём венгерскага каралеўскага двара каралевіча Жыгімонта, які быў добра падрыхтаваны да ўспрымання новых культурных каштоўнасцей сваім кракаўскім выхавальнікам італьянскім гуманістам Філіпам Буанакорсі (Калімахам). Наведванне Буды Жыгімонтам прыпадае на 1490—1492 гг., калі буйнейшага «мецэната на троне» Мацея Корвіна, які зрабіў Венгрыю другім пасля Італіі асяродкам рэнесансавай

[85] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 206.

[86] Kępiński Z., Sławska A. Zagadnienie mecenatu na prykładzie portretu polskiego od XVI do XVIII w. // Studia muzealne 1. Poznań, 1954; Malarstwo europejskie w zbiorach polskich 1300—1800 / Red. J. Białostocki. Warszawa, 1955. Wstęp; Tomkiewicz Wł. Z dziejów polskiego mecenatu artystycznego w wieku XVII. Wrocław, 1952.

культуры, дзе працавалі жывапісцы і дойліды з Фларэнцыі і Ламбардыі, перапісваліся трактаты па мастацтву Альберці і Філарэтэ, толькі што змяніў на троне брат Жыгімонта Уладзіслаў [87]. Менавіта з ініцыятывы Жыгімонта I, як калісьці Мацея Корвіна ў Венгрыі, у Польшчы з'явіліся італьянскія архітэктары і скульптары на чале з Францыскам з Фларэнцыі, стваральнікі ўжо чыста рэнесансавых твораў — у першую чаргу славутай капліцы Жыгімонтаў у Вавелі, надмагілля гэтага караля і Яна Ольбрахта. Наступная генерацыя італьянскіх скульптараў (Дж. Чыні, Б. Занобія дэ Джыяноці) выконвала заказы ўжо і для Вялікага княства Літоўскага [88]. Аднак адносіны Жыгімонта I да жывапісу былі больш стрыманыя, і таму колькасць жывапісцаў, а тым больш партрэтыстаў, што працавалі для караля, вельмі нязначная. Сярод іх чэх Якуб з Кутнай Гуры (1519), Андрэй Руль з Вроцлава (1551), манаграміст H. D. (магчыма, Ханс Дзюрар, 1530), Андрэй Юнгхольч з Баварыі (1546), якія пісалі партрэты Жыгімонта I [89]. Захаваліся творы толькі двух апошніх мастакоў, прычым работа Андрэя Юнгхольча толькі ў копіі 1860 г. у капліцы ў Вавелі. Няма ніякіх падстаў звязваць, як гэта зроблена ў «Гісторыі беларускага мастацтва» (Т. 1), яшчэ два партрэты Жыгімонта I з творчасцю ананімных беларускіх мастакоў [90]. Партрэт з Глогава (Нацыянальны музей у Познані) адносіцца да XVII ст. і ўваходзіць у серыю з чатырох «фантастычных» партрэтаў каралёў з вельмі адвольнай іканаграфіяй, што была створана жывапісцам з Сілезіі. Другі (Грыпсхольм, Швецыя), хаця і больш дакладна перадае аблічча караля, з'яўляецца копіяй XVII ст. і хутчэй за ўсё паўтарае твор Якуба з Кутнай Гуры (1519) [91].

У тыя ж часы, у першай палавіне XVI ст., партрэты ствараліся і на Беларусі, але меркаваць аб іх мастацкіх якасцях даволі цяжка, як і аб больш ранніх творах беларускага партрэтнага жывапісу — вобразах Ульяны і Альгерда з Віцебскай замкавай царквы, Юрыя Лугвеніча і Сафіі з-пад Мсціслава, вялікага князя Аляксандра, пра якія мы даведваемся з пісьмовых крыніц [92]. Аб значным узрастанні цікаўнасці да чалавечай асобы на мяжы XV—XVI стст. сведчаць і літаратурныя творы, у якіх мы сустракаем выразныя, цікавыя як дакументальна-дакладныя,

---

[87] Białostocki J. The art of the Renaissance in Eastern Europe. Oxford, 1976.
[88] Червонная С., Богданас К. Искусство Литвы. Л., 1972. С. 33—35.
[89] Petrus J. T. Kierunki malarstwa portretowego w Polsce w w. XVI // Seminaria Niedzickie II. S. 66—67.
[90] Там жа. Гл. таксама: Dobrowolski T. Polskie malarstwo portretowe. Kraków, 1948. S. 59—73; Zlat M. Typy osobowości w polskiej sztuce XVI w. // Renesans... S. 254—256.
[91] Petrus J. T. Kierunki malarstwa portretowego... С. 66.
[92] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 205; Кацар М. Зараджэнне і развіццё партрэтнага жанру ў беларускім жывапісе XIV—XVI стст. // Беларускае мастацтва. Мн., 1960. С. 128.

так і гераізаваныя чалавечыя вобразы. Партрэт князя Аляксандра даволі блізкі жывапіснаму твору 1493 г. і «велми пиенкный, твари белой, ягод румляных, ока черного, усок тылко що засеявся». Такое «пратакольнае» апісанне не выключае, што ў яго жывапісным адпаведніку мастак дасягнуў ужо пэўных поспехаў у авалодванні светлым, жыццёвым каларытам карнацыі. Але ўсё ж такі яно прымушае прыгадаць крыху лялечныя партрэты з абразоў з данатарамі, у якіх мастакі перадавалі чалавека, як бы пералічваючы яго прыкметы, — набожнасць перадавалася укленчанай паставай, сацыяльнае становішча ўдакладняў касцюм. У процівагу вобраз Сафіі Гальшанскай з «Прускай вайны» (1516) Я. Вісліцкага выглядае больш гераізаваным, з лёгкім адценнем антыкізацыі і таму больш блізкі да рэнесансавай канцэпцыі чалавека: «Прелестна найдена дева, знаменита, нимф и богинь превышает красой, красоту не опишешь, Сонькой ее величают в народе, как солнышко любят...» [93] Нам здаецца, што ў літаратуры, асабліва лацінскай, якая абапіралася на багатыя магчымасці распрацаванай старажытнай мовы, у гэты час назапашваецца большы арсенал выразных сродкаў адлюстравання рэчаіснасці і на пачатку XVI ст. літаратурны партрэт стаіць паперадзе жывапіснага. Гэту думку добра ілюструе інвентарны вопіс маёмасці Ковенскага войскага Андрэя Бабраўніцкага, дзе сярод рэчаў названы «твар залаты Жыгімонта караля, на каторым напісана рок 1533, што вісіць на чорнай кітайцы» [94]. Калі гаворка ідзе не аб медалю, а аб яшчэ даволі рэдкім сярод прыватных збораў жывапісным партрэце, можна меркаваць, што вызначэнне «залаты твар» падкрэслівае традыцыйны характар твора, у якім прыём змяшчэння адлюстравання на пакрытым золатам ляўкасным фоне запазычаны з мастацкага арсенала абразоў ці познегатычных алтарных карцін. Вострыя, гатызуючы малюнак быў уласцівы партрэту І. Д. Шуйскага, створанаму ў Віцебску, дзе ўцякач з Маскоўскай дзяржавы апынуўся пасля 1534 г. Паколькі твор аздабляў Спаскую царкву — перад намі ўжо другі выпадак стварэння партрэта для віцебскіх цэркваў [95].

Канчатковы і рашучы паварот у развіцці партрэтнага жанру, калі ён пазбаўляецца непасрэднай залежнасці ад стылістыкі рэлігійнага жывапісу і адчувае плённы ўплыў новых кампазіцыйных схем, адбываецца каля сярэдзіны XVI ст. Усё большая колькасць навучэнцаў з Літвы едзе на вучобу ў еўрапейскія гарады, расце цікавасць як да навуковых ведаў, так і да новай мастацкай культуры. На новы ўзровень уздымаецца мецэнацкая дзейнасць велікакняжацкага двара і буйных феадалаў, якая

---

[93] Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Зб. 1. Мн., 1973. С. 161—164.

[94] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильно, 1887. Т. 14. С. 260.

[95] Смирнов Я. И. Описание одного польского сборника портретов XVII в. // Тр. XIV археол. съезда. Москва, 1911. С. 449.

прыводзіць да стварэння першых свецкіх збораў мастацтва, дзе творы жывапісу знаходзяцца ў прынцыпова новым асяроддзі і выконваюць ужо іншыя функцыі, чым у культавых інтэр'ерах.

Яркай старонкай культурнага жыцця Беларусі і Літвы было апякунства над мастацтвам Жыгімонта II Аўгуста і канцлера Вялікага княства Літоўскага віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага (1515—1565), чалавека надзвычай разнастайных схільнасцей і блізкага каралю некаторы час пасля шлюбу караля з Барбарай Радзівіл (1547). Менавіта Мікалай Радзівіл першы з беларускіх магнатаў падхапіў прыклад калекцыянерскай дзейнасці караля і вялікага князя, які стварыў на Ніжнім замку ў Вільні даволі значны збор еўрапейскіх карцін і габеленаў. Пераймаючы ініцыятыву караля, Чорны неўзабаве прывёз з Галандыі ў свой палац у Брэсце 2 габелены: «Хрышчэнне Хрыста ў Іардане» і «Лютар сярод электараў». Ролю Мікалая Радзівіла, буйнейшага дзеяча рэфармацыйнага руху і ідыёлага палітычнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы, у гісторыі айчыннай культуры XVI ст. цяжка пераацаніць[96]. Мікалай Чорны стаяў ля вытокаў славутых радзівілаўскіх мастацкіх збораў, пакінуўшы сынам калекцыю, ацэненую пры падзеле маёмасці ў 5732 злотых. Безумоўна, значная частка калекцыі Мікалая Чорнага стваралася з рэчаў, якія гаспадар прывозіў з дыпламатычных паездак па еўрапейскіх краінах, дзе ён у 1547 і 1553 гг. быў паслом пры двары Габсбургаў. Адначасова Чорны і іншыя Радзівілы заказвалі партрэты заходнім прыдворным мастакам, прычым, як здаецца, не таму, што яны не маглі размеркаваць заказы сярод мясцовых жывапісцаў, што працавалі ў Брэсце, Нясвіжы ці Вільні. Новым эстэтычным запатрабаванням лепш адпавядаў тып еўрапейскага прыдворнага партрэта. З перапіскі Мікалая Чорнага з сынам Мікалаем Хрыстафорам Сіроткам, які знаходзіўся на вучобе ў Страсбургу, даведваемся аб партрэце работы страсбургскага мастака, дасланым бацьку сынам разам з ілюстраваным выданнем «Метамарфоз» Авідзія і нейкімі кірылічнымі кнігамі. Жывапіс, як вынікае з лістоў Чорнага, не вельмі яго задаволіў, але ён выслаў Мікалаю Хрыстафору грошы і заказаў зрабіць яшчэ партрэт з «тварам караля з залатым ланцугом».

Работы іншаземных партрэтыстаў, трапляючы ў беларускія і літоўскія зборы, станавіліся свайго роду ўзорамі, на якія павінны былі арыентавацца мясцовыя майстры, працуючы над заказамі прадстаўнікоў еўрапеізаванай феадальнай эліты. Былі

[96] Менавіта ён заснаваў брэсцкую і нясвіжскую друкарні, фінансаваў выданні Брэсцкай біблії (1563), «Катэхізіса» С. Буднага (1562) і цэлага рада іншых кніг. Шырокі рэнесансавы кругагляд Радзівіла характарызуе надзвычайная разнастайнасць выданняў, што былі прысвечаны віленскаму ваяводзе аўтарамі з розных краін: другое выданне «Каментарыяў» Кальвіна і іншыя творы дзеячаў еўрапейскай Рэфармацыі, пераклады Плутарха на польскую мову, медыцынскі трактат Мантануса, творы паэтаў-маралістаў і гімны. Гл.: Jasnowski J. Mikolaj Czarny Radziwiłł (1515—1565). Warszawa, 1939.

і непасрэдныя кантакты жывапісцаў Вялікага княства Літоўскага з носьбітамі мастацкай культуры Адраджэння Заходняй Еўропы. Месцам, дзе асабліва інтэнсіўна пераймалася ўсё найбольш цікавае з арсенала заходняга жывапісу, зрабілася мастацкае асяроддзе велікакняжацкага двара ў Вільні сярэдзіны XVI ст. Жыгімонт II Аўгуст, як і Мікалай Радзівіл, цікавіўся творчасцю паўночнаеўрапейскіх мастакоў, асабліва Лукаса Кранаха Старэйшага, чаму садзейнічалі сувязі з герцагам Альбрэхтам Прускім, праз якога ў Віленскую галерэю ў 1547 г. трапілі партрэты нямецкіх курфюрстаў работы Л. Кранаха[97].

Сярод замежных мастакоў, што працавалі ў Вільні, найбольшай актыўнасцю вылучаўся Антон Вейдэ (1508—1558) з Цюрынгіі, чыё майстэрства фарміравалася пад уплывам жывапісу Кранахаў. Творчасць А. Вейдэ звязана перш за ўсё са свецкай тэматыкай. Для Жыгімонта II Аўгуста ім былі напісаны карціны «Паляванне на зубраў» (1545), «Турнір рыцараў» (1546), а для Альбрэхта Прускага ў 1553 г. былі выкананы 4 партрэты[98]. Цікава асвятляюць адносіны тагачасных заказчыкаў да партрэта словы, паводле якіх герцаг «знаходзіць вялікую радасць і прыемнасць у валоданні рознымі падабізнамі, асабліва асоб з каралеўскага і княжацкага роду...»[99]

Пры двары ў Вільні мог працаваць врацлавянін Андрэй Руль (яго імя з'яўляецца ў рахунках каралеўскага двара ў Кракаве ў 1546 г.), аўтар партрэта Жыгімонта II Аўгуста (1551 г.)[100]. Аднак самае непасрэднае ўяўленне аб работах паўночнаеўрапейскіх мастакоў у Вільні дае серыя з 10 мініяцюрных партрэтаў Жыгімонта I Старога, Боны, іх чатырох дачок і Жыгімонта II Аўгуста з яго жонкамі (Кракаў, Нацыянальны музей), напісаных на медных пласцінках жывапісцам з майстэрні Л. Кранаха Малодшага каля 1556 г.[101] Партрэты некаторы час знаходзіліся ў Вільні, на што ўказвае іканаграфічна блізкая серыя медалёў, што выканаў у 1561 г. пры двары Жыгімонта II галандскі медальер Стэфан Хервік[102]. У сваю чаргу майстар са школы Кранахаў мог паўтарыць у скарочаным па пояс выглядзе кампазіцыйныя схемы больш ранніх партрэтаў Ягелонаў у рост (Варшава, каралеўскі замак). Віленскія мініяцюры (кожная 19,7×17,8 см) уяўляюць сабой тыповыя для мастацкай прадукцыі кранахаўскай школы партрэтныя вобразы, на якіх мадэлі падаюцца па пояс, злёгку павернутыя ад франтальнай пазіцыі.

---

[97] Petrus J. T. Kierunki malarstwa portretowego... S. 67.

[98] Thieme U., Becker F. Allgemeines Lexikon der bildenden Künstler von der Antike bis zur Gegenwart. Leipzig, 1942. Bd 35. S. 524.

[99] Łopaciński E. Materiały do dziejów rzemiosła artystycznego w Wielkim księstwie Litewskim (XV—XIX ww.). Warszawa, 1946. S. 6. N 53.

[100] Petrus J. T. Kierunki malarstwa portretowego... S. 67.

[101] Muzeum Narodowe w Krakowie. Zbiory Czartoryskich. Warszawa, 1978. S. 150—151. Іл. 16.

[102] Gumowski, M. Trzy serie portretów Jagiellońskich // Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne. XIX. Kraków, 1938. S. 48—56, 60—61.

Быццам бы небагатая колеравая гама, што складаецца ў асноўным з белага, чорнага, жоўтага з чырвонымі і зялёнымі акцэнтамі колераў, уражвае чысцінёй і празрыстасцю. Своеасаблівы эфект дае аліўкава-зялёны фон меднай дошкі. Некаторая скрупулёзнасць у перадачы дэталей касцюмаў, імкненне да дэкаратыўнасці жывапіснай паверхні, графічнасць контураў, уласцівая партрэту нямецкага Адраджэння, былі цалкам перададзены ананімным майстрам. Гэтыя асаблівасці аказаліся ў далейшым блізкімі і беларускім мастакам: не апошнюю ролю ў партрэце XVII—XVIII стст. іграюць дэкаратыўнасць шляхецкіх строяў, выразнасць дэталей і адначасова схільнасць да буйных колеравых акцэнтаў, што прымушае згадваць аб шматвяковай традыцыі беларускага іканапісу і своеасаблівай інтэрпрэтацыі яго прыёмаў у новых жанрах жывапісу.

У групе мініяцюрных партрэтаў трэба вылучыць два вобразы жонак Жыгімонта II Аўгуста — Елізаветы Аўстрыйскай (1525—1545), дачкі імператара Фердынанда I, і Барбары Радзівіл (1520—1551). Першы заслугоўвае ўвагі з прычыны выкарыстання мастаком у якасці ўзору шлюбнага партрэта Елізаветы пэндзля Я. Зэйзенегера, прыдворнага жывапісца Габсбургаў [103]. Гэта спрыяла знаёмству віленскага мастацкага асяроддзя з творамі інтэрнацыянальнай жывапіснай школы імператарскіх двароў, насычанымі адметным духам элітарызму, халаднаватым адчуваннем дыстанцыі паміж гледачом і мадэллю, якога не было ў рэнесансавым партрэце Італіі і Германіі. Другі цікавіць нас як адзін са шматлікіх вобразаў Барбары, што ўпрыгожвалі многія радзівілаўскія зборы (у Нясвіжы, Белай, Маньковічах), нагадваючы аб сувязях роду з дынастыяй Ягелонаў. Мілавідны твар Барбары з крыху манернымі рысамі выглядвае з-пад усеянага каштоўнымі камянямі каптура, пакрытага цёмным аксамітным барэтам; на шыі каралевы — залатое калье і залаты ланцуг з медальёнам; расшытая залатымі ніткамі сукенка з шырокім дэкальтэ і сабранымі ў складкі рукавамі скрозь аздоблена буйнымі рубінамі і смарагдамі; у руках пальчаткі. Другі варыянт партрэта Барбары (прыватны збор у Варшаве, апошняя чвэрць XVI ст.), блізкая копія з якога знаходзілася ў Нясвіжы (зараз — Неборув, музей, канец XVII ст.), таксама вызначаецца выключнай мерай дэкаратыўнасці, відавочнай блізкасцю да партрэтнага жывапісу школы Кранахаў. Ва ўсіх партрэтах Барбара адлюстравана, па словах польскага даследчыка Г. Дабравольскага, як нейкае ўсходняе бажаства, ва ўсіх адчуваецца блізкае да іканапісу разуменне прыгажосці [104].

У сярэдзіне XVI ст. акрамя немцаў у Вільні з'яўляюцца італьянскія мастакі Канстанціна Італа (1553) і Джавані дэль Монтэ. Апошні працаваў пры дварах Габсбургаў у Празе і Вене.

---

[103] Ruszczycówna J. Nieznane portrety ostatnich Jagillonów // Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie. XX. Warszawa, 1976.

[104] Dobrowolski T. Polskie malarstwo portretowe... S. 69.

З яго творчасцю звязваюць партрэт Паўла Гальшанскага (Вільнюс, былая карцінная галерэя, другая палавіна XVI ст.) [105]. Гэта паясны партрэт, на якім таямнічае святло выхоплівае фігуру са змроку цёмнага фону, адрозніваецца падкрэсленай псіхалагічнасцю, нервовай напружанасцю вобраза, перададзенай засяроджаным позіркам глыбокіх вачэй, стрыманай мімікай выразнага твару. Жывапіснае яго вырашэнне зусім іншае, чым у партрэтах Барбары Радзівіл. Яно пазбаўлена ўсялякай графічнасці, характарызуецца вельмі мяккім мазком, далікатнай градацыяй таноў. Гэта адзін з найлепшых партрэтных вобразаў XVI ст., прывабны і таямнічы, не такі замкнёна-недаступны, як большасць прыдворных партрэтаў, але ўжо і не рэнесансава-празрысты, а з нейкай унутранай ускладнёнасцю.

Творчасць прыезджых мастакоў стварае ў Вільні некалькі мазаічную карціну мастацкіх уплываў, сярод якіх вылучаецца ўздзеянне школы Кранахаў і прыдворных школ Габсбургаў, бо нават італьянец дэль Монтэ, напэўна, не быў ужо носьбітам чыстай італьянскай рэнесансавай жывапіснай традыцыі. Сярод мясцовых майстроў-літвінаў, што маглі пераймаць мастацкі вопыт еўрапейцаў, у Вільні былі вядомымі Мікіта (1543), Францішак (1562), Ян Літвін (памёр у 1593 г., у Вільні да 1568 г.), Хр. Грахоўскі (1578), дамініканец Гжэгаж (у Вільні да 1596 г.), аднак ніводнага з іх нельга ўпэўнена назваць партрэтыстам, акрамя Яна Мачульскага [106], адзначанага ў рахунках Радзівілаў пад 1620 г. Ананімнай, на жаль, застаецца і творчасць жывапісцаў у іншых «партрэтных» цэнтрах Беларусі XVI ст. — Слуцку, Нясвіжы, Віцебску, Супраслі і г. д.

У другой палавіне XVI ст. працягвае развівацца мецэнацтва, з’ява, якая спрыяла дзейнасці ў Беларусі мастакоў-партрэтыстаў. Звычайная для вышэйшых колаў феадальнага грамадства цікаўнасць да свецкага мастацтва заставалася незразумелай для большасці ваенна-службовага саслоўя. Так, Сігізмунд III Ваза высмейваўся за заняткі, годныя «дармаеда» і «венецыянца»; караля заклікалі «любіць сыноў дваранскіх», а не «якіх-небудзь італьянцаў» [107]. Тым не менш крытыка не спыняе мецэнатаў і калекцыянераў, чыя дзейнасць выразна звязана не толькі з рэалізацыяй ідэй рэпрэзентатыўнай глярыфікацыі ўласнага роду, але вызначаецца і эстэтычнымі запатрабаваннямі. Арыентацыя на мастацкую спадчыну італьянскага Адраджэння ў апошняй чвэрці XVI ст. часткова тлумачыцца ўзмацненнем у Вялікім княстве Літоўскім каталіцкай царквы, пераходам у гэта веравызнанне многіх уплывовых феадалаў, былых удзельнікаў рэфармацыйнага руху, пашырэннем сувязей з Рымам. Другім ас-

---

[105] Matušakaite M. Portretas XVI—XVIII A. Lietuvoje. Vilnius, 1984. S. 70. Іл. XIX.

[106] Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV—XVIII стст. Каталог / Аўтар-складальнік Н. Ф. Высоцкая. Мн., 1986. С. 193.

[107] Tomkiewicz Wł. Z dziejów polskiego mecenatu artystycznego... S. 12.

пектам, які падтрымліваў цікаўнасць да заходняга мастацтва, але не толькі італьянскага, заставалася традыцыя выезду моладзі на вучобу за межы Княства. У другой палавіне XVI ст. у сувязі з паступовым заняпадам Кракаўскага універсітэта шляхі паездак усё часцей вялі ў гарады Італіі, Галандыі, Германіі. Там сыны магнатаў і заможнай шляхты авалодваюць ведамі, вывучаюць мовы, атрымліваюць свецкае выхаванне пры еўрапейскіх дварах, знаёмяцца з чужаземнымі звычаямі. Вядома, што частка заняткаў прысвячалася вывучэнню архітэктуры, наведванню музеяў, галерэй, цэркваў. Праграма вывучэння помнікаў мастацтва выкладалася ў спецыяльных выданнях, якімі карысталіся падарожнікі. Асабліва папулярнай у канцы XVI ст. была кніга галандскага гуманіста Юстуса Ліпсія (1588), у якой рэкамендавалася знаёміцца ў Італіі з творамі старажытнага і сучаснага мастацтва.

Даследчыкі В. Тамкевіч, Я. Тазбір, А. Сайкоўскі, І. Вайшвілайтэ звярталі ўвагу на тое, як на працягу канца XVI — пачатку XVII стст. эстэтычнае выхаванне падарожнікаў з Рэчы Паспалітай за мяжой станавілася больш сістэматычным, пашыралася сфера іх канкрэтных ведаў у галіне мастацтваў [108]. У сваіх дзённіках М. Рывоцкі (1584—1586), А. Радзівіл, С. Пац (1624—1625) прыводзяць цікавыя ацэнкі эстэтычных уражанняў, занатоўваюць імёны мастакоў (Дзюрэра, Брэйгеля, Гверчына, Гвіда Рэні, Рубенса). Пэўна ў выніку такіх падарожжаў Радзівілаў у Нясвіжскім і Любчанскім замках з'яўляюцца творы Л. Кранаха, Дзюрэра, а таксама, магчыма, Л. Лота і Ф. дэ Шампаня (партрэт кардынала Рышэлье) [109], карціны міфалагічнага зместу.

Выключна цікавы матэрыял даюць нататкі аб падарожжы 1582—1584 гг. Мікалая Хрыстафора Радзівіла Сіроткі ў Іерусалім, у якіх значнае месца адводзіцца дакладнаму і ўважліваму апісанню старажытнай архітэктуры, у тым ліку іерусалімскіх храмаў і егіпецкіх пірамід. Адначасова Радзівіл збірае экспанаты для свайго музея, прытым не толькі экзатычныя прадметы (напрыклад, егіпецкія муміі), але і творы антычнага мастацтва. Як і Сігізмунд III, Радзівіл выкарыстоўвае ў Італіі пасрэднікаў, адзін з якіх — Георгі з Тычына — паведамляў у лісце да «ягамосці пана», што закупленыя «антыкі» будуць дасланы «пры першай магчымасці» [110].

Звесткі аб развіцці мецэнацтва, дзейнасці ў Княстве замеж-

[108] Вайшвилайте И. В. Характер художественного меценатства в Литве XVII в. // Общество и государство в древности и в средние века. М., 1983. С. 161—171; Tomkiewicz Wł. Z dziejów...; Pelc J., Tomkiewicz Wł. Rola mecenatu artystycznego w Polsce XVII w. // Problemy literatury staropolskiej. Wrocław, 1973. T. 2; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybieńki. W kręgu mecenatu Radziwiłłowskiego. Poznań, 1965; i інш.

[109] Sulerzyska T. Galerie obrazów i «gabinety sztuki» Radziwiłłów w XVII w. // Biuletyn Historii Sztuki. 1961. N 2. S. 93.

[110] Georgii Ticinii ad Principes Radziwił Epistulae (a 1567—1585). Wratislawiae, 1980. S. 39. N 23.

ных і мясцовых мастакоў даюць магчымасць больш дакладна ацаніць мастацкія якасці партрэта Юрыя Радзівіла (1480—1541) з Нясвіжскага замка (БДМ, другая палавіна XVI ст.), які адносіцца да тыпу рыцарскага партрэта. Ідэал рыцара — абаронцы радзімы быў трывала засвоены ваенна-феадальным саслоўем, адным з галоўных прывілеяў якога з'яўляўся абавязак насіць зброю і ваяваць. Тым больш блізка ўспрымалі яго Радзівілы, бо шлях наверх па лесвіцы феадальнай іерархіі іх продак гродзенскі стараста Мікалай пачынаў яшчэ ў войску пад Грунвальдам.

Вобраз рыцара займаў адметнае месца і ў вершаваных хроніках, панегірыках, што Радзівілы заказвалі лепшым паэтам свайго часу. «Калі шлях каму адчынены ў неба, гэта таму, хто дбайна служыць айчыне», — так Ян Каханоўскі, гуманіст і літаратар, характарызаваў глыбінную сутнасць рыцарскай паэзіі, яркай з'явы Рэнесансу і барока ў Беларусі. У 1570—1580 гг. некалькі аўтараў адначасова (сярод іх Я. Каханоўскі, паэма «Паход на Маскву», 1583) прысвяцілі свае творы ваеннай кампаніі 1579 г., у якой вайсковымі заслугамі вылучыўся Хрыстафор Радзівіл (1547—1603) [111]. Воін, герой паэмы, асэнсоўваўся паэтамі не аднапланава — ён не толькі пераможца, трыумфатар, але і чалавек, які мужна пераадольвае цяжкасці вайны. У «Дэкетэрасе» А. Рымшы (1585) перадаецца атмасфера хуткіх сутычак, пад'ёмаў на світанні, доўгіх пераходаў, трывожнага чакання бітвы. Як пазней у З. Морштына, гэта — не «парадная» вайна, ёй спадарожнічаюць холад, голад, нягоды. Адзначым асаблівасць паэтычных прыёмаў Рымшы, якім знаходзяцца блізкія паралелі ў мастацкай сістэме рыцарскіх партрэтаў канца XVI ст.: ён жыва перадае індывідуальныя рысы чалавека, робіць выразныя натурныя замалёўкі, але гларыфікацыя героя ажыццяўляецца уніфікаваным мастацкім прыёмам, праз зварот да міфалагічных вобразаў:

Ход свой скорее ночной сможет луна изменить,
Чем знаменитая Марса труба умолчала б о славе,
Дарят её, Радзивилл, боги с Олимпа тебе. [112]

Разглядаючы партрэт Ю. Радзівіла, неабходна дакладна ўяўляць, якая літаратурная і мастацкая традыцыя фарміравала яго вобразную структуру, і тут нельга не ўлічваць узаемадзеяння мастацкіх форм партрэта і скульптурнага надмагілля [113]. Менавіта ў надмагіллях, выкананых у капліцы Жыгімонтаў у Вавелі італьянскімі скульптарамі на чале з Б. Берэчы (1519—1531), быў упершыню ўвасоблены ідэал рыцара. У канцы XVI—

---

[111] Sajkowski A. Od Sierotki do Rybieńki... S. 9—24.
[112] Порецкий Я. И. Соломон Рысинский. Мн., 1983. С. 38.
[113] Тананаева Л. И. Сарматский портрет. Из истории польского портрета эпохи барокко. М., 1979.

пачатку XVII ст. фігуры вояў у латах на саркафагах сустракаліся шмат у якіх касцёлах Рэчы Паспалітай [114]. Форма, знойдзеная ў скульптуры, пераходзіла ў жывапіс. У сваю чаргу тып рыцарскага партрэта, як і надмагілля, прыйшоў у беларускае мастацтва доўгім шляхам перайманняў. Ён быў звязаны як з жывапісам Італіі, дзе сваіх «вояў» пісалі П. Веранезе, Я. Цінтарэта, так і з мастацтвам краін «габсбургскага кола» (халаднавата-арыстакратычныя партрэты Я. Зэйзенегера, А. Санчэса Каэльа, Х. Пантохі дэ ла Круса). Творы прыдворных мастакоў Габсбургаў рэпрадукаваліся на гравюрах, і сярод аркушаў антверпенскага майстра I. Кока (1510—1570) мы можам знайсці вельмі блізкія да нясвіжскага партрэта вобразы. Але апошні, хоця ён узыходзіць да формулы еўрапейскага познерэнесансавага рыцарскага партрэта, нельга разглядаць толькі як з'яву мастацкага запазычання. Распаўсюджанасць менавіта такога тыпу вобразаў у нясвіжскай галерэі пацвярджаюць гравюры з альбома 1758 г. Х. Ляйбовіча, дзе пад № 20, 26, 30, 32, 66 адлюстраваны падобныя да Юрыя рыцары ў латах. Той жа тып партрэтаў, дасланых Радзівіламі цірольскаму герцагу Фердынанду разам з вайсковым рыштункам з нагоды ўтварэння імі «маўзалея славы» ў замку Амбрас, быў рэпрадукаваны ў гравюрах Д. Кустаса ў выданні інсбрукскай друкарні Агрыколы (1601) [115].

Жаночы партрэт XVI ст. у Беларусі ў адрозненне ад «рыцарскага» больш выразна адлюстроўвае ўплывы паўночнаеўрапейскага мастацтва. У гравюрах Х. Ляйбовіча сустракаецца цэлая галерэя вобразаў жанчын у модных нямецкіх, іспанскіх строях са шматлікімі ювелірнымі ўпрыгожваннямі — гэта Ганна Елізавета Радзівіл-Гальшанская (№ 28), Сафія Радзівіл (№ 36), Елізавета Сафія Астрожская (№ 49), Елізавета Шыдлавецкая (№ 67). У той жа час у некаторых творах XVI ст. адчуваецца адыход ад непасрэднага пераймання ўзораў еўрапейскага жывапісу ў бок стварэння своеасаблівага беларускага партрэта. Гравюра з партрэта Елізаветы Насілоўскай (памерла ў 1547 г., Х. Ляйбовіч, № 13) дазваляе гаварыць аб творчым выкарыстанні партрэтыстамі прыёмаў іканапісу, што добра відаць пры параўнанні гравюры з абразам «Параскева» са Слуцкага раёна (сярэдзіна XVI ст., ДММ БССР) [116]. Франтальнасць кампазіцыі, абагульненасць дэталей, дэкаратывізм асобных элементаў — упрыгожаная жэмчугам і каштоўнасцямі дыадэма і карсаж, статычнасць вобраза — блізкія да іконнай манеры пісьма. У такім выпадку можна гаварыць аб функцыянальным падабенстве з еўрапейскім маньерыстычным партрэтам, які рэалізаваў ідэю стварэння жывапіснага помніка, калі ўлічваць, што гэта ідэя

---

[114] Kozakiewiczowa H. Rzeźba XVI wieku w Polsce. Warszawa, 1984.

[115] Jakubowski J. Z dziejów ks. Sierotki Geograf polski T. Makowski // Odgłosy. Moskwa, 1916. S. 69—77.

[116] Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст. / Склад. Н. Высоцкая, Т. Карповіч. Мн., 1980. Іл. 26.

ўвасабляецца беларускім майстрам у прынцыпова іншай ны яўленчай сістэме.

Развіццё самастойнай лініі беларускага свецкага жывапісу працягваюць партрэты Ганны Кетлер-Радзівіл (канец XVI ст., Нацыянальны музей у Варшаве)[117] і Кацярыны Тэньчынскай-Слуцкай (каля 1580. Там жа)[118]. Абодва вызначаюцца большай маляўнічасцю, чым папярэдні твор, лепшым разуменнем аб'ёму, мяккім каларытам і адчуваннем фактурнасці матэрыялаў. Статычнасць фігур, дакладнае адлюстраванне дэкаратыўных дэталей характэрныя для рэпрэзентатыўнага партрэта канца XVI ст. У той жа час у створаным у Слуцку партрэце Кацярыны Тэньчынскай тонкае адлюстраванне псіхічнага стану мадэлі і рафінаванасць жывапіснага вырашэння ўказваюць на знаёмства яго аўтара з творчасцю кракаўскай мастацкай школы, у першую чаргу з творамі братоў М. і В. Кобераў і часова прысутнага там пражскага мастака Й. Гейнтцэ Старэйшага.

Партрэт Кацярыны Тэньчынскай быў не адзіны ў спадчыне слуцкіх жывапісцаў XVI ст. Да Вялікай Айчыннай вайны ў БДМ знаходзіліся палотны з партрэтамі князёў Алелькавічаў з царквы слуцкага Трайчанскага манастыра. На адным з палотнаў былі аб'яднаны ў кампазіцыю вакол герба Слуцкіх чатыры вобразы князёў Аляксандра (памёр у 1454 г.), Яна Сімяона (памёр у 1597 г.), Аляксандра (памёр у 1591 г.) і Юрыя (памёр у 1586 г.), на асобным палатне быў партрэт Юрыя II Юр'евіча Алелькавіча[119]. Наколькі мы можам меркаваць па гравюрах, зробленых з партрэтаў у XIX ст., іх мастацкае выкананне мала чым адрознівалася ад партрэта Кацярыны Тэньчынскай[120].

Размяшчэнне групы партрэтных вобразаў у царкоўным інтэр'еры прымушае прыгадаць аб традыцыі стварэння мемарыяльных капліц пры храмах, якая генетычна ўзыходзіць зноў-такі да капліцы Жыгімонтаў на Вавелі з яе распрацаваным семантычным комплексам, з той розніцай, што скульптурныя помнікі замяняюцца жывапіснымі творамі. У капліцы, пабудаванай пры касцёле святой Ганны ў Кодні (1631—1644), знаходзілася цэлая галерэя з 75 вобразаў прадстаўнікоў роду Сапегаў[121]. Блізкая па функцыях галерэя «кцітараў» знаходзілася ў палатах архімандрыта Супрасльскага манастыра.

Найбольш старажытныя помнікі з Супрасля — партрэты А. І. Хадкевіча (памёр у 1549 г.) і мітрапаліта кіеўскага У. Солтана, заснавальнікаў манастыра айцоў-базыліянаў (XVI ст., не

---

[117] Ruszczycówna J. Nieznany portret ks. Anny Radziwiłłowej // Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie. XIX. Warszawa, 1975.

[118] Грицкевич А. П. Древний город на Случи. Мн., 1985. С. 116—118.

[119] Chrościcki J. A. Pompa funebris. Z dziejów kultury staropolskiej. Warszawa, 1974. S. 77.

[120] Батюшков П. М. Белоруссия и Литва. Спб., 1830. С. 213, 272. № 21.

[121] Łoski J. Genealogia portretowa Sapiehów // Biblioteka Warszawska. Warszawa, 1856. T. II.

захаваліся) разам з партрэтамі Ю. В. Тышкевіча (канец XVI ст., Варшава, Нацыянальны музей)[122] і цвярскога князя Міхаіла Барысавіча (ДММ БССР) утвараюць вельмі цікавую групу, якая азначае стадыю канчатковага выспявання самастойнага, своеасаблівага беларускага партрэта і стылістычна знаходзіцца ўжо на мяжы эпохі барока.

Апошні цвярскі князь быў вымушаны ўцякаць на Літву ў выніку ваеннай экспансіі маскоўскага князя Івана Васільевіча, 12 верасня 1486 г., потым быў прыняты Казімірам, атрымаў ад вялікага князя мястэчкі Ласосну ў Слонімскім і Печы ў Луцкім паветах. Паколькі ў першым шлюбе князь Міхаіл быў жанаты на дачцы князя Сямёна Алелькавіча Соф'і, здаецца магчымым звязваць партрэт з галерэяй Алелькавічаў у Слуцку, рэшткі якой павінны былі перайсці Радзівілам разам са спадчынай апошняй слуцкай князёўны ў 1600 г. Не выключана, што партрэт Міхаіла быў заказаны ўжо пасля 1600 г. Янушам Радзівілам як напамін аб сувязі яго роду з Рурыкавічамі праз сваю маладую жонку.

Разам з вобразамі Р. Сангушкі (пачатак XVII ст., Тарнув), Стэфана Баторыя работы В. Стэфаноўскага (1578) партрэт Міхаіла Барысавіча тыпалагічна адносіцца да «ранняй стадыі сармацкага партрэта» ў Рэчы Паспалітай[123]. На рубяжы XVI—XVII стст. з выкарыстаннем у жывапісе дэкаратыўных дэталей нацыянальнага касцюма, з творчай перапрацоўкай эстэтычных прынцыпаў беларускага іканапісу, і, верагодна, не без уплываў традыцый мастацкага шытва[124] мастакі-партрэтысты ствараюць новы тып параднага партрэта. Яго каларыстычны яркі стыль, аздобнасць дэталей, эстэтыка плоскіх плям фарбы і адначасова імкненне да трапнай, дэталёва дакладнай характарыстыкі твару зрабіліся асновай як беларускага, так і польскага партрэта сармацкага тыпу ў XVII і XVIII стст.

## СКУЛЬПТУРА

У канцы XV—першай палавіне XVI ст. скульптура дасягае значнага развіцця, што праяўляецца і ў разнастайнасці яе відаў і жанраў і ў майстэрстве выканання пластычных твораў. У гэты перыяд атрымліваюць развіццё ўсе разнавіднасці скульптуры — манументальная і мемарыяльная скульптура, асабліва дробная пластыка, якая шмат у чым вызначае характар скульптуры гэтага перыяду. Яна мае непасрэдную сувязь з мастацкімі традыцыямі Старажытнай Русі, працягвае і развівае іх. Выраблёная з металу, косці, каменя, дрэва, дробная пластыка з'яўля-

[122] Долматов Н. Супрасльский Благовещенский монастырь. Спб., 1892. С. 63, 73; Иодковский И. Благовещенская церковь в Супрасльском монастыре // Древности. Т. VI. М., 1915. С. 269.

[123] Тананаева Л. И. Сарматский портрет. Из истории польского портрета эпохи барокко. С. 110.

[124] Тананаева Л. И. Портретные формы Польши и России в XVII в. // Сов. искусствоведение. М., 1977.

еццa сведчаннем высокага ўзроўню рамесніцкай вытворчасці ў гарадах Беларусі.

Пры археалагічных раскопках знойдзена вялікая колькасць літых абразкоў і крыжоў, якімі ў гэты час карысталіся даволі шырока.

Бронзавы літы абразок (XVI ст.), знойдзены ў Магілёве, спалучае «антычныя традыцыі змеевіка з хрысціянскімі выявамі змеяборца Фёдара» [1]. На яго правым баку — Маці боская з дзіцем, на адваротным — змеявік у крузе, а пад ім Фёдар Цірон. Менавіта такія абразкі пасля прыняцця хрысціянства прыйшлі на змену змеевікам, якія павінны былі ахоўваць чалавека ад няшчасцяў і хвароб.

У старажытнабеларускай пластыцы XV—XVI стст. знаходзяць адлюстраванне ідэі абароны радзімы, воінскага подзвігу, якія ўвасабляліся ў вобразах святых воінаў Барыса, Глеба, Георгія Перамаганосца. Так, на бронзавым абразку са Слаўгарада Магілёўскай вобл. паказан Юрый на кані з дзідай у руцэ [2].

На крыжах і абразках часта сустракаюцца шматфігурныя кампазіцыі на розныя евангельскія тэмы. На нагрудным крыжы з Друцка (канец XV—пачатак XVI ст.) у цэнтры — рэльефная выява ўкрыжаванага Хрыста, зверху «Тройца», злева «Стрэчанне», справа «Сашэсце ў пекла», пад «Укрыжаваннем» — «Праабражэнне», ніжэй «Сашэсце св. духа на апосталаў» [3]. Выявы святых на гэтых і іншых абразках і крыжах дрэнна захаваліся і таму недастаткова выразныя, але тым не менш яны даюць уяўленне аб тэхніцы старажытнабеларускага рамяства, аб звычаях і густах тагачаснага насельніцтва.

Да нашага часу дайшлі таксама і нешматлікія творы дробнай пластыкі з каменя, косці, дрэва.

Цікавы двухрадны рэльефны абразок XV—XVI стст. з косці знойдзены пры археалагічных раскопках у Тураве [4]. Ён мае прамавугольную форму з даволі шырокай рэльефнай рамкай. У верхнім радзе «Спас Нерукатворны» з двума святымі, у аднаго з іх адсутнічае німб; у ніжнім — Нікан і Мікола. Выявы дадзены ў даволі плоскім рэльефе, які мякка пераходзіць да фону. Складкі адзення пазначаны прамымі паралельнымі лініямі. Твары святых шыракаскулыя з пляскатымі насамі нагадваюць сялянскія тыпы. Гэты абразок, відаць, незакончаная работа мясцовага майстра.

Да XV ст. адносіцца рэдкі ўзор разьбы па каменю — рэльефны абразок Жыровіцкай Маці боскай з яшмы, знойдзены, як

---

[1] Рыбаков Б. А. Ремесло Древней Руси. М., 1948. С. 617.

[2] Алексеев Л. В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель // Сов. археол. 1974. № 3. С. 216.

[3] Алексеев Л. В. Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель // Сов. археол. 1974. № 3. С. 201.

[4] Высоцкая Н. Ф. Пластыка Беларусі XII—XVIII стагоддзяў: Альбом. Мн., 1983. Іл. 20.

аб тым сведчыць легенда, у Жыровіцкім лесе на грушы. Гэта легенда з'явілася падставай для пабудовы Жыровіцкага манастыра, дзе абразок знаходзіцца і зараз. На абразку выява Маці боскай з дзіцем на правай руцэ. Фігура яе паказана ў развароце ўлева, што дало майстру магчымасць падкрэсліць аб'ём і стварыць пэўную прасторавую глыбіню. Майстар умела ўпісвае выявы ў абразок, падкрэсліваючы акруглыя сілуэты фігур, якія сваім контурам быццам паўтараюць лініі яго авала. Фігуры пададзены ў невысокім рэльефе, але разьбе ўласціва пластычнасць, якая дасягаецца плаўнымі контурамі фігур, акруглымі абрысамі твараў, мякка прапрацаванымі складкамі адзення. У трактоўцы вобразаў праяўляецца імкненне да аб'ёмна-пластычнага вырашэння форм, лаканізму і дакладнасці.

Калі ўсе названыя вышэй творы ананімныя, то два разьбяныя абразкі, выразаныя на пальмавай дошцы, падпісаны і належаць пінскаму майстру Ананію, своеасаблівая і значная творчасць якога даволі яркая з'ява ў сярэдневяковай культуры Беларусі. Першы яго твор «Прамудрасць, ствары сабе храм» быў знойдзены Ш. Кае і А. Марцінам у французскай калекцыі Бланжы ў 1849 г.[5] Зусім нядаўна ў навуковы ўжытак уведзены яшчэ два яго новыя творы, што знаходзяцца ў Рускім музеі ў Ленінградзе. Адзін з іх — «Прамудрасць, ствары сабе храм» — сюжэт, ідэнтычны таму, які быў адлюстраваны на абразку з французскай калекцыі, другі абразок «Святы». Абразкі былі, відаць, створкамі мініяцюрнага дарожнага складня. Выразаны яны з цёмнай цвёрдай драўніны, на іх тэксты гістарычнага зместу: «Дана бысть княземь Федором Ивановичемъ Ярославичам Федороу Ивановичу Щепиноу. Робил поп АнаниѦ». А на абразку з французскай калекцыі па верхнім правым бардзюры дадатковы тэкст: «Софеи Премудрость бжіа зроблена повелениемь благоверна княз Федора Ивановича Іарославча». Унізе справа надпіс мастака-творцы: «Поп Ананіа» з піктаграмай у выглядзе крыжа. Характэрна наяўнасць у тэкстах тыпова беларускіх слоў, што сведчыць аб беларускім паходжанні майстра, які, відаць, быў не простым рамеснікам, а меў духоўную адукацыю і пры двары пінскага князя Фёдара Яраславіча карыстаўся асаблівымі правамі[6]. Даты княжання Фёдара Яраславіча прыпадаюць на 1499—1522 гг. Таму і названыя творы можна аднесці да першай чвэрці XVI ст. Цікава адзначыць, што менавіта ў гэты перыяд Францыскам Скарынам была перакладзена на славянскую мову і надрукавана кніга «Прытчы Саламона», на тэму якой створаны абразкі «Прамудрасць...»[7] З'яўленне такіх абразкоў было абумоўлена і самой гістарычнай рэчаіснасцю. Ва ўмовах наступ-

---

[5] Плешанова И. И. Два резных деревянных образка в Собрании Русского музея // Памятники культуры: Новые открытия. Л., 1979. С. 216.

[6] Мар'янкоў В. Рабіў майстар Ананія // Літ. і мастацтва. 1983. 5 жн.

[7] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. С. 39.

лення каталіцызму, які меў істотныя разыходжанні ў вытлумачэнні хрысціянскіх догматаў, барацьба за праваслаўе, за «чысціню веры» была вельмі актуальнай.

Нельга не адзначыць, што мастацтва сярэдневякоўя знаходзілася ў непасрэднай залежнасці ад літаратуры. За агульным зместам і асобнымі вобразамі фрэсак, абразоў, мініяцюр стаяць літаратурныя, выяўленыя ў слове, сюжэты, ідэі, вобразы. Сувязь гэта можа быць непасрэднай, калі твор выяўленчага мастацтва проста ілюструе апавяданне, але можа быць і вельмі складанай, звязанай з рознымі літаратурнымі крыніцамі. Усю разнастайнасць такіх варыянтаў дае іканаграфія на тэму першых вершаў 9-й прытчы цара Саламона. Але трэба сказаць, што іканаграфія Сафіі-прамудрасці абапіраецца не толькі на гэты тэкст. Тут і вершы цара Давыда, Іаана Дамаскіна, дзе Хрыстос называецца Сафіяй, і пропаведзі Іаана Златавуста. Усё гэта ў поўнай меры стасуецца і да абразка Ананіі.

Кампазіцыя яго шматфігурная і насычана мноствам дэталей, якія дапамагаюць раскрыць больш поўна сімвалічны змест сюжэта. У левай частцы абразка на прастоле сядзіць Сафія, прамудрасць боская, правай рукой яна баслаўляе, у левай трымае скрутак; над ёй узнёсся фантастычны храм, з прыбудоў якога схіліўся цар Саламон. Насустрач яму разгарнуў свой скрутак Іаан Дамаскін — адзін з айцоў усходняй царквы і паэт, аўтар канонаў і іншых песнапенняў. У цэнтры кампазіцыі, у дыскуззянні на прастоле Маці боская з дзіцем. Іаан Дамаскін паказвае на яе як на зямное ўвасабленне прамудрасці. Справа, у верхняй частцы абразка, сем пагрудных выяў анёлаў. Яны ўвасабляюць сем усяленскіх сабораў. Унізе — сцэна ахвярапрынашэння і далучэння да гэтага веруючых. Служыцелі культу заколваюць ахвярных цялят, віначэрп ставіць віно на стол і раздае яго знясіленым ад смагі. У кампазіцыі абразка вельмі яскрава вызначаны два моманты: Маці боская з дзіцем у дыску-ззянні, які падтрымліваюць скруткі біблейскага прарока Саламона і абаронцы праваслаўных догматаў Іаана Дамаскіна, і Прамудрасць у ззянні, якая баслаўляе. Такім чынам, на параўнальна невялікай паверхні абразка змешчаны выявы, якія знаходзяцца паміж сабой у складаных сэнсавых адносінах. Сама кампазіцыя, як слушна адзначаюць даследчыкі, спалучае старажытнае прароцтва і яго новазапаветнае ўвасабленне [8].

На абразку «Святы», які складаецца з чатырох частак, адлюстраваны не ўсе, як прынята, двунадзесятыя святы, а толькі чатыры з іх: «Каляды», «Праабражэнне», «Ушэсце», «Успенне Маці боскай».

---

[8] Покровский Н. В. Церковно-археологический музей Санкт-Петербургской духовной академии. Спб., 1909. С. 133—137; Уваров А. С. «Премудрость созда себе дом», принадлежащая пинскому князю Федору Ивановичу Ярославичу (1499—1522) // Сб. мелких тр. А. С. Уварова. М., 1910. 1. С. 147—149; Плешанова И. И. Два резных деревянных образка... С. 209—210.

У цэнтры кампазіцыі «Каляды» выява Маці боскай з дзіцем, да якога схіліліся асёл і вол, у ніжняй частцы — Іосіф і Саламея, што трымае дзіця, на небе — віфлеемская зорка, на схілах гары — анёлы.

Другая кампазіцыя «Праабражэнне» паказвае Хрыста, што стаіць на вяршыні гары, абапал яго пракрокі Ілля і Майсей, уражаныя боскім гласам пападалі вобзем Пётр і Якаў, спалохана адвярнуўся Іаан, які ляжыць на зямлі.

Ва «Ушэсці» Хрыстос блаславўляе, анёлы падтрымліваюць яго круглае ззянне. У ніжняй частцы рэльефу сярод апосталаў узвышаецца фігура Маці боскай.

У апошняй кампазіцыі «Успенне» паказана Маці боская, якая ляжыць на ложку ў акружэнні апосталаў і свяціцеляў, побач з імі Хрыстос з душой Марыі, па баках анёлы.

Цікава адзначыць, што гэтыя кампазіцыі ілюструюць важнейшыя этапы зямнога шляху ўвасобленай Прамудрасці. Яны дапаўняюць змест абразка «Прамудрасць, ствары сабе храм» і знаходзяцца з ім у арганічнай сувязі.

Рэльеф абразкоў шматпланавы і даволі складаны. Фігуры размешчаны на паглыбленым фоне, які з'яўляецца кантрастам асветленай паверхні. Яны некалькі спрошчаны, але лепка форм і аб'ёмаў даволі мяккая і сакавітая. Каржакаватыя, буйнагаловыя фігуры па-зямному матэрыяльныя, у іх адчуваецца адыход ад аскетызму, абстрактнай суровасці вобразаў візантыйскага мастацтва. Постаці і жэсты падкрэсліваюць душэўны стан персанажаў, выяўляюць пачуццё смутку, тугі, суперажывання і маюць не толькі абрадавую, але і псіхалагічную матывіроўку. Кампазіцыя вызначаецца дэкаратыўнасцю, якая арганічна ўласціва самой структуры твораў і пазначана абагульненай і мяккай прапрацоўкай фігур і атрыбутаў, іх рытмічнай сувяззю, шматлікімі подпісамі, якія вырашаны арнаментальна і натуральна ўкампанаваны ў кампазіцыю. Такім чынам, у творах Ананіі адчуваецца ўжо подых рэнесансавых павеваў. Яны ўяўляюць значную цікавасць як пераходная з'ява ад сярэдневякоўя да Рэнесансу. «Адзначаныя індывідуальнасцю стылю і пластыкі работы пінскага разьбяра Ананіі заслужана стаяць у адным радзе з лепшымі творамі ... разной мініяцюры XV—XVI стст.» [9],— так падкрэсліваюць даследчыкі непаўторную прывабнасць і самабытнасць твораў Ананіі.

У канцы XIV—XV ст. у беларускай скульптуры ўзмацняецца ўплыў заходнееўрапейскага мастацтва, што было выклікана складанай унутранай і знешняй палітыкай Вялікага княства Літоўскага, шматлікімі войнамі, пранікненнем каталіцызму, якое стала адчувацца пасля заключэння уній з Польшчай. Гэты саюз унёс карэнныя змены ў палітыку абедзвюх дзяржаў, і ўся гісторыя не толькі Беларусі і Польшчы, але Украіны і Літвы зна-

---

[9] Плешанова И. И. Два резных деревянных образка... С. 215.

ходзілася пад яго ўздзеяннем. Гэты саюз быў выгадны абедзвюм дзяржавам і ўсім народам Усходняй Еўропы, бо дазваляў аб'яднаць сілы для сумеснага адбіцця нямецкай агрэсіі, а таксама для развіцця вытворчых сіл, для ўстанаўлення трывалых гандлёвых сувязей. Крэўская, а асабліва Віленска-Радамская уніі былі зыходным момантам у арганізацыі і аб'яднанні сіл усходнееўрапейскіх народаў у іх барацьбе з крыжакамі. Выдатная перамога беларускага, украінскага, рускага, літоўскага і польскага народаў (вядома, што ў гэтай бітве ўдзельнічалі Полацкія, Смаленскія, Віцебскія і іншыя харугві) над крыжакамі пад Грунвальдам садзейнічала павышэнню міжнароднага аўтарытэту Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, а таксама ўздыму нацыянальнай самасвядомасці гэтых народаў, актывізацыі іх барацьбы за сваё вызваленне, стварыла спрыяльныя ўмовы для эканамічнага развіцця і міжнародных сувязей. Адмоўныя вынікі уніі заключаліся ў тым, што ўзмацніліся прыгнёт і эксплуатацыя працоўных, пачалося прымусовае насаджэнне каталіцызму на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Украіны[10]. І хаця ажыццяўленне уніі зацягнулася на доўгі час, ды і наогул адбывалася не ў той форме, як таго хацелася польскім феадалам, тым не менш на беларускіх землях пачынае пашырацца каталіцкае землеўладанне, будуюцца касцёлы і манастыры. Так, у 1387 г. Ягайла заснаваў касцёл і плябанію ў Гайне, каля 1390 г. былі заснаваны касцёлы ў Мінску і Брэсце, у 1406 г. пабудаваны касцёлы ў Браславе, у 1424 г.— у Ашмянах, у 1452 г.— у Свіры, у 1481 г.— у Відзах, у 1498 г.— бернардзінскі касцёл у Полацку. На жаль, многія гэтыя пабудовы да нашага часу не захаваліся, а тыя, што засталіся, поўнасцю пазбаўлены аўтэнтычнага ўнутранага ўбранства. Аб тым, што яно сабой уяўляла, можна меркаваць па аналогіі з інтэр'ерамі тагачасных храмаў суседніх краін.

Скульптура, якая з'яўляецца ў гэты час на Беларусі, змяшчалася ў інтэр'ерах храмаў. Яна драўляная або каменная, вылучаецца паліхромнай расфарбоўкай і характарызуецца цеснай узаемасувяззю з архітэктурай, яе мастацкімі стылямі.

Змяшчаецца скульптура ў алтарах — цэнтрах літургічнага дзеяння. Гатычны алтар уяўляў сабою трыпціх, які складаўся з кораба і адной або дзвюх рухомых створак. Скульптура знаходзілася ў корабе, створкі размалёўваліся або ўпрыгожваліся рэльефнымі выявамі. На жаль, на сённяшні дзень у беларускіх храмах не захавалася гатычных алтароў. Да нас дайшлі толькі асобныя выявы, якія паходзяць з розных храмаў, з розных алтарных кампазіцый.

Сярод найбольш распаўсюджаных вобразаў гатычнай скульптуры — юная Марыя з дзіцем на руках. Невыпадкова, што ў гэтых вобразах знайшоў сваё адлюстраванне т. зв. мяккі стыль.

---

[10] Юхо І. Крэўская унія // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985. № 4. С. 22—24.

У вобразным змесце гэтых твораў пераважае сентыментальная мяккасць, замілаванне прыгажосцю Марыі і Хрыста, якая выяўляецца ў плаўным выгібе фігур, іх легкаважкасці, у пышных, мякка ніспадаючых складках адзення. Юныя прыгожыя мадонны «мяккага стылю» з'яўляюцца ўвасабленнем шчаслівага мацярынства. Так, Марыя (в. Рось Гродзенскай вобл.) трымае на адной руцэ дзіця, у другой — яблык. Поза губляе матывіроўку, але набывае дынаміку. Кампазіцыя ажыўляецца шляхам кантрапосту. Павернутаму ўбок торсу Марыі супрацьпастаўляецца павернутая ў другі бок фігура дзіцяці. У Марыі юны акруглы твар, высокі пукаты лоб, прыгожы малюнак вачэй. На вуснах лёгкая ўсмешка. Прапорцыі фігуры крыху падоўжаны. Скульптурная паверхня апрацавана тонка і дэталёва і ўзбагачана складкамі рознай велічыні, у тым ліку рёльефнымі дэкаратыўнымі матывамі спіралі па баках. На паверхні скульптуры яны ствараюць мноства паглыбленняў, што значна ўзбагачае яе, робіць больш пластычнай, падкрэслівае святлоценявыя кантрасты. Скульптура трактавана плоскасна, заднік выдзеўбаны, што дазваляе прасачыць яе яўную сувязь з архітэктурай. Гэта падкрэсліваецца і позай Марыі і Хрыста, бакавымі зігзагападобнымі складкамі адзення. Але ламаны малюнак складак вопраткі сведчыць ужо аб уплыве познегатычнага «ламанага стылю», які пашыраўся ў Цэнтральнай Еўропе з сярэдзіны XV ст. Бытаванне падобных выяў у беларускіх храмах сведчыць аб тым, што развіццё беларускай пластыкі ішло ў агульным рэчышчы еўрапейскай мастацкай культуры.

Захаваўся таксама рад познегатычных скульптур, якія калісьці ўваходзілі ў шматфігурныя сюжэтныя кампазіцыі. Менавіта ў такіх кампазіцыях фігуры стаялі без усялякай сувязі адна з адной, па-за ўсялякім дзеяннем. Таму вялікая ўвага надавалася жэсту, які эмацыянальна раскрываў сэнс сюжэта, экспрэсіі рухаў. Фігуры паказваюцца ў імклівым руху, парывістых паваротах, жэстыкуляцыі, у наўмысна напружанай позе. Складкі вопраткі падкрэсліваюць душэўны стан фігур, парывы, незатухаючую ўнутраную барацьбу. Эмацыянальная рэакцыя кожнага з дзеючых асоб пераўтвараецца ў водгук менавіта на гэтыя канкрэтныя, а не нейкія сімвалічныя абставіны. Таму фігуры насычаны актыўным рухам, дынамікай, але гэта не столькі фізічны рух, колькі ўвасабленне спірытуальнай энергіі, перамогі эмоцый над целам, перадача «духоўнай індывідуальнасці вобраза» [11]. Не воля выяўляе выгібы і спіралі скульптуры, а пачуццё. Цела — толькі вынік перажыванняў, носьбіт духу, яго ўвасабленне. Фігуры імкнуцца «пазбавіцца матэрыяльнасці, ураўнаважанасці, яснай і спакойнай гарманічнасці, пераўтвараць усё матэрыяльнае ў духоўную бязважкасць» [12].

---

[11] Дворжак М. Очерки по искусству средневековья. М., 1934. С. 28.
[12] Лосев А. Ф. Эстетика Возрождения. М., 1982. С. 513.

Характэрная ў гэтых адносінах скульптура Марыі і Іаана Багаслова — персанажаў кампазіцыі «Укрыжаванне з прадстаячымі» (в. Мсцібава Гродзенскай вобл., музей старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР).

Фігуры святых у доўгіх хітонах, паверх іх плашчы-гімацііі. Адзенне прыгожа спадае і драпіруецца глыбокімі ломкімі складкамі, якія падкрэсліваюць выразныя абрысы фігур. Ідэя руху, укладзеная ў самы характар пластычнай формы, выяўляецца прыёмамі фактуры, рытмам ліній, кантрастамі святла і ценю. Наўмысная напружанасць пастаў, павышаная экспрэсія, некалькі выцягнутыя прапорцыі фігур, што нагадваюць рэльеф і лепш за ўсё ўспрымаюцца франтальна, лінеарнасць складак вопраткі збліжаюць мсцібаўскія скульптуры з работамі познегатычных майстроў.

Асобныя скульптуры, выкананыя пад уплывам раманска-гатычнага стылю, захаваліся і за межамі Беларусі. Яркі прыклад таму — скульптуры Міколы Мажайскага і Параскевы Пятніцы, якія былі прынесены старцамі — «пераходцамі з іныя землі» ў Пскоў у 1540 г. Даследчыкі сцвярджаюць, што гэта былі выхадцы з Беларусі, відаць, праваслаўныя манахі, якія апынуліся тут у выніку войн, што праходзілі адна за адной на працягу першай палавіны XVI ст. [13] Скульптуры не прызначаны для профільнага агляду і амаль пазбаўлены пукатасці, уласцівай пластычным формам цела. У Міколы рукі распасцёрты, у адной пяціглавы храм, у другой меч. Плоска трактаваная фелонь за яго спіной утварае фон, на якім фігура выступае невысокім рэльефам. Паколькі драўляныя скульптуры былі мала вядомы ў царкоўным ужытку, яны выклікалі ў жыхароў сумненні. Толькі пасля таго, як быў зроблены запыт ноўгарадскаму епіскапу Макарыю, які быў знаёмы з царкоўнымі скульптурамі, іх прызналі прадметам свяшчэннага культу, як і абразы.

Скульптура Міколы Мажайскага — гэта твор, непасрэдна звязаны з праваслаўным культам. Мікола паказаны ў візантыйскім епіскапскім аблачэнні — фелоні, амафоры з крыжамі і без галаўнога ўбору. У пластычнай трактоўцы вобразы адзначаюцца раманска-гатычнымі рысамі. Такім чынам, захоўваючы строгі канон праваслаўнай схемы, скульптура нясе рысы заходніх уплываў, што сведчыць аб яе паходжанні з Вялікага княства Літоўскага, мастацкая культура якога была звязана з традыцыямі сярэдневяковага мастацтва ўсходніх славян і Заходняй Еўропы.

Параскева паказана ў позе аранты, у левай руцэ яе скрутак, у правай крыж. Супастаўленне яе з вядомай іканапіснай выявай Параскевы (другая палавіна XVI ст.) дазваляе адзначыць у іх трактоўцы шмат агульных рыс, што сведчыць аб тым, што ў пра-

---

[13] Некрасов А. И. Древнерусское изобразительное искусство. М., 1937. С. 204; Марьянков В. К вопросу о связи русской и белорусской деревянной скульптуры 15—16 вв. // Вопросы культуры и искусства Белоруссии. Мн., 1982. С. 79—84.

васлаўнай іканаграфіі быў выпрацаваны пэўны тып статуарна-пластычных вобразаў.

XVI стагоддзе ў Беларусі было паваротным этапам, які наклаў свой адбітак на жыццё беларускага народа, развіццё яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Вынікам гэтага працэсу была актывізацыя грамадска-палітычнай думкі, узмацненне класавай і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, стварэнне свецкай мастацкай культуры. У Вялікім княстве Літоўскім панавала феадальная грамадская сістэма, што стрымлівала пераход ад сярэдневякоўя да новага часу. І таму, калі ў Заходняй Еўропе і асабліва ў Італіі рэнесансавая хваля была вельмі магутнай і ўсеахопнай, то «ў Беларусі, Літве і Польшчы ідэалогія ранняга Рэнесансу аказалася незавершанай, кампраміснай, амаль на паўстагоддзя запозненай» [14]. І тым не менш у Беларусі, хаця з некаторым спазненнем у параўнанні з Заходняй Еўропай, «пачаўся свой уласны, але цесна звязаны з Заходняй Еўропай Рэнесанс. Ахапіўшы ўсе галіны культурнага развіцця, ён, натуральна, не мог абысці і мастацтва» [15]. Узнікае цікавасць да праблем зямнога чалавечага жыцця, раскрыцця ўнутранага свету чалавека. Эпоха Рэнесансу ўносіць у традыцыйныя вобразы новы змест, далёкі ад аскетычнага спірытуалізму сярэдневякоўя. Гэта можна заўважыць у выбары тыпажу, у імкненні выявіць формы чалавечай фігуры, у пільнай увазе да бытавых рэалій.

Характэрная ў гэтых адносінах скульптура «Св. Гжэгаж» (пачатак XVI ст., г. Кінешма, філіял Іванаўскага абласнога музея). Некаторыя даследчыкі выказваюць слушную думку аб аўтарстве гэтай скульптуры, звязваючы яе з работамі Антона Пільграма, які паходзіў з Маравіі, а працаваў пераважна ў Паўднёвай Германіі і Аўстрыі [16]. Яго разцу належыць шмат работ, стылістычная блізкасць якіх са скульптурай «Св. Гжэгаж» відавочная. Уражвае вельмі блізкі тыпаж (буйныя мясістыя насы, цяжкія падбародкі, выразныя абрысы даволі поўных вуснаў), амаль аднолькавыя прыёмы мадэліроўкі пластычнай формы.

Паказаны немалады мужчына, які ў задуменні сядзіць на крэсле трона. На ім шырокае адзенне, якое хавае абрысы фігуры, на галаве скуф'я. Гэта, напэўна, Грыгорый Вялікі, які лічыўся айцом царквы як у католікаў, так і ў праваслаўных. Майстар яўна натхняўся канкрэтнай мадэллю, падкрэсліў складанасць і неадназначнасць чалавечага характару і стварыў вобраз, выразнасць якога набліжаецца да партрэтнай характарыстыкі. Фігура каржакаватая, але прапорцыі дакладныя, пластыка абагульненая. Нязначная колькасць дэкаратыўных элементаў —

---

[14] Конон В. М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978. С. 15.

[15] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. С 169.

[16] Мар'янкоў В. Гжэгаж // Мастацтва Беларусі. 1986. № 1. С. 30—32.

буйныя гузікі на плашчы, навершша крэсла — не парушае цэласнасці вобраза, яго манументальнай значнасці. З позняй готыкай гэты твор збліжаюць толькі некаторыя рысы — ломкія складкі вопраткі, франтальная пастава, якая нагадвае рэльеф і лепш за ўсё ўспрымаецца з аднаго пункту гледжання.

Гэтыя ж рысы ўласцівыя і скульптурам Ганны і Якіма (в. Здзітава Брэсцкай вобл., ДММ БССР). З арсенала гатычнага стылю крыху падоўжаныя прапорцыі фігур, жорсткія, быццам накрухмаленыя, складкі вопраткі, дробная прапрацоўка завіткоў валасоў і барады Якіма. Галоўную ўвагу скульптар надае тварам. Яны вельмі характэрныя — шыракаскулыя, з буйнымі насамі, блізка пасаджанымі вачыма, вялікімі пукатымі лбамі — і адлюстроўваюць, відаць, мясцовы тыпаж. Рукі буйныя, напрацаваныя. Вобразы сур'ёзныя і значныя, унутрана засяроджаныя, позы свабодныя. У адпаведнасці з рэнесансавымі канцэпцыямі, аўтар імкнецца падкрэсліць велічнасць, духоўную сілу вобразаў.

Традыцыі Адраджэння аказваюць значны ўплыў і на развіццё надмагільнай скульптуры. Імкненне захаваць свой вобраз для будучых пакаленняў, зацвердзіць прэстыж свайго роду, ушанаваць памяць памерлых адпавядала духу новага гуманістычнага светаўспрымання, духу новага часу.

Культ і культуру надмагільнай пластыкі прынеслі італьянскія майстры. Сувязі з Італіяй працягваліся дзесяткі гадоў і былі пастаяннымі і разнастайнымі. У 1520 г. Жыгімонт I спецыяльна запрасіў італьянскіх майстроў для пабудовы капліцы-маўзалея. Пасля заканчэння работ некаторыя з іх не вярнуліся на радзіму. Сярод іх быў архітэктар і скульптар Бернардзін Занобія дэ Джыяноці (канец XV ст.— 1541), Джавані Цыні з Сіены (памёр у 1565 г.), а таксама скульптар і майстар медальернай справы Ян Марыя Моска (названы Падавана), які на пачатку 70-х гадоў XVI ст. жыў і працаваў у Кракаве, дзе атрымаў званне каралеўскага скульптара і прозвішча Падавана. Акрамя каралеўскіх заказаў ён выконваў работы і для Вільні. Работы Падавана, асабліва надмагіллі, належаць да найбольш паслядоўных і яскравых твораў Рэнесансу.

Сын Жыгімонта I Жыгімонт II Аўгуст і мясцовыя магнаты падтрымлівалі мастакоў рэнесансавай арыентацыі. Па заказу Жыгімонта Падавана сумесна з Цыні стварыў помнік яго першай жонцы Альжбеце. Яму таксама было даручана стварэнне надмагільнага помніка і другой жонцы Жыгімонта Аўгуста — Барбары Радзівіл. Да гэтага помніка быў ужо завезены ў Вільню мармур, але само надмагілле засталося, відаць, незакончаным.

На тэрыторыі Беларусі амаль не захаваліся надмагільныя помнікі XVI ст. Прычына таму — частыя войны, пажары, знішчэнні. У сувязі з перабудовай храмаў некаторыя помнікі неаднаразова перарабляліся, пераносіліся з месца на месца, губляючы свой першапачатковы выгляд. Параўнальна больш за-

хавалася іх у Вільні, якая «на працягу 400 гадоў з'яўлялася сталіцай не толькі для літоўцаў, але і для беларусаў»[17].

У Віленскім кафедральным саборы захаваўся рэльеф, які ўяўляў сабой верхнюю частку надмагільнага помніка канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда, выкананага скульптарам Бернардзінам Занобія дэ Джыяноцісам паміж 1539 і 1541 гг. Ад гэтага надмагілля ўцалеў толькі асноўны рэльеф з выявай нябожчыка. У яго магутная, закаваная ў латы фігура, упэўнена акрэсленыя рысы твару сведчаць аб валявым характары гэтага чалавека. У адной руцэ Гаштольда меч, у другой сцяг, палотнішча якога ўецца вакол дрэўка. Вузкая палоска расліннага арнаменту па краях пліты, дрэўка сцяга і меч ствараюць замкнутую прастору. Абагульненасць трактоўкі фігуры, яе плаўныя абрысы надаюць ёй манументальнасць і веліч, а палоскі на латах ствараюць святлоценявыя пераходы, якія падкрэсліваюць дэкаратыўную выразнасць рэльефу. У мастацкім вырашэнні гэтага помніка, як адзначаюць даследчыкі, спалучаюцца розныя канцэпцыі. З аднаго боку, ён набліжаецца да італьянскіх надмагілляў з выявай памерлага, які ляжыць на смяротным ложку, з другога — да паўднёвагерманскіх рэльефаў, дзе паказваюцца закаваныя ў латы памерлыя са сцягам у руках[18]. Спалучэнне гэтых канцэпцый надае помніку стылявую супярэчлівасць — застылая поза нябожчыка, безжыццёва апушчаная левая рука ўяўна не пасуе да паставы ног, якія цвёрда абапіраюцца аб край пліты, упэўненага руху правай рукі, што трымае цяжкі сцяг.

Ідэі Адраджэння знаходзяць сваё ўвасабленне і ў медальерным мастацтве, развіццю якога спрыяла дзейнасць віленскага манетнага двара. Акрамя вырабу металічных грошай тут у XVI ст. была наладжана і медальерная справа. У першыя гады функцыяніравання манетнага двара сустракаюцца прозвішчы Мельхіёра, Валента Франка, Марціна Вартэнсбергера. З-пад іх рук выйшлі манеты Жыгімонта Аўгуста, яны з'яўляліся таксама аўтарамі шматлікіх казначэйскіх жэтонаў. Але стварэнне сапраўдных твораў медальернага мастацтва звязана з імем Яна Марыі Падавана, які выканаў рад медалёў з партрэтамі каралеўскай сям'і (1532). Другім, менш вядомым майстрам быў Даменік Венетус, аўтар медаля з партрэтам Жыгімонта II Аўгуста (1548), трэцім — разьбяр гем і камей Ян Якуб Караглiё з Вероны, які яшчэ да 1539 г. стварыў медаль Аляксандра Пезэнцыя, прыдворнага каралевы Боны і віленскага каноніка, а пасля 1552 г. працяглы час жыў і працаваў у Вільні.

Прыезджыя майстры мелі мясцовых вучняў і з ахвотай перадавалі ім свой вопыт. Вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць.

[17] Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 10.

[18] Матушакайте М. Литовская надгробная скульптура эпохи Ренессанса и раннего барокко // Искусство Прибалтики. Таллинн, 1981. С. 62.

У другой палавіне XVI ст. у Вільні з'яўляюцца першыя медалі мясцовай вытворчасці. Спачатку гэта сціплыя экземпляры, якія мелі манетны рэльеф і тэхніку, аднак з цягам часу ўсё больш і больш праяўляюцца своеасаблівасць і арыгінальнасць віленскіх мастакоў, сярод якіх з'яўляюцца вядомыя імёны ў гэтай галіне.

Такім чынам, мясцовыя майстры ва ўсіх галінах скульптурнага майстэрства творча засвойваюць дасягненні еўрапейскага мастацтва, трансфарміруюць яго ў адпаведнасці з гістарычнымі ўмовамі і эстэтычнымі канцэпцыямі свайго часу. Ва ўзаемадзеянні разнастайных мастацкіх тэндэнцый адбываецца фарміраванне мясцовай школы разьбы, дзе інтэнсіўна развіваецца рэалістычны напрамак.

## ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА

Значнага развіцця на Беларусі ў эпоху Скарыны дасягнула дэкаратыўна-прыкладное мастацтва [1]. Найбольшыя поспехі назіраюцца ў галіне керамікі. Буйнымі цэнтрамі па вырабу керамічнага посуду і кафляў былі гарады Гродна, Полацк, Віцебск, Мінск, Брэст, Орша, Копысь, Шклоў, Мсціслаў [2]. Першыя кафельныя печы, абліцаваныя гаршковымі кафлямі, аздаблялі інтэр'еры феадальных замкаў і дамоў заможных мяшчан з XIV ст. у Гродне, Полацку, Віцебску, Крэве, Міры і інш. [3]

У XV ст. распаўсюдзілася т. зв. міскавая кафля (Навагрудак, Ліда, Копысь, Рагачоў, Магілёў і інш.) [4]. З пачатку XVI ст. з'яўляецца паўцыліндрычная і кратападобная кафля, а пазней — каробчатая з прамавугольнай румпай і вонкавай пласцінай, упрыгожанай нізкарэльефным дэкорам [5]. Беларускія кафлі XIV—XVI стст. паводле тэхналогіі, якасці выканання і формы адпавядалі заходнееўрапейскаму ўзроўню развіцця гэтай вытворчасці [6]. Іх выраблялі тэракотавымі, паліванымі і размаляванымі. У дэкорах вонкавых пласцін кафляў XVI ст. знайшлі адлюстраванне мастацкія стылі готыкі і Рэнесансу, што праявілася ў пэўнай кампаноўцы і трактоўцы расліннага і геаметрычнага нізкарэльефнага арнаменту віцебскіх, полацкіх, навагрудскіх, лагойскіх і мазырскіх кафляў, імкненні да ўраўнаважанасці па-

---

[1] Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў (Альбом) / Склад. Н. Ф. Высоцкая. Мн., 1983.

[2] Паничева Л. Г. Белорусские изразцы XIV—XVII вв. как исторический источник: Автореф. дис. ... канд. искусствоведения. Л., 1980. С. 6.

[3] Паничева Л. Г. Изразцы и изразцовые печи позднесредневекового Полоцка // Сов. археол. 1981. № 3. С. 279; Левко О. Н. Витебские изразцы XIV—XVIII вв. Мн., 1981. С. 11; Трусаў А. А. Археалагічныя даследаванні // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 2. С. 39; Яго ж. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка // Там жа. 1980. № 4. С. 35.

[4] Левко О. Н. Витебские изразцы XIV—XVIII вв. С. 13.

[5] Паничева Л. Г. Белорусские изразцы XIV—XVII вв. С. 8.

[6] Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Маст. Беларусі. 1988. № 6. С. 59.

будоў кампазіцый фларальных, зааморфных, гербавых, партрэтных, фігуратыўных з выявамі скамарохаў, ганчароў, флейтыстаў, жанрава-бытавых і батальных.

Рэнесансавыя рысы больш выразна праявіліся ў кафлях з партрэтнымі выявамі, якія ўзніклі пад уплывам італьянскага Рэнесансу[7]. Паводле стылістыкі і кампазіцыйнай будовы высокага рэльефу яны часам набліжаюцца да графічнага партрэта Ф. Скарыны, надрукаванага ў Бібліі 1517 г. Кафлі з партрэтнымі выявамі выраблялі паліўнымі, тэракотавымі, а з расліннымі, гербавымі і арнаментальнымі кампазіцыямі — паліхромнымі. Фоны большасці кафляў былі белымі, блакітнымі або сінімі, а размалёўка па рэльефу — жоўтая, зялёная і карычневая, часам яны мяняліся месцамі.

Вялікай разнастайнасцю форм у XVI ст. вылучаецца керамічны сталовы і кухонны посуд. Вытанчаныя сілуэтныя лініі мелі збаны, кухлі, глякі, прывабныя формы былі ў талерак і місак, кубачкаў. У першай палавіне XVI ст. іх аздаблялі зялёнай палівай, у канцы стагоддзя пачалі размалёўваць ражком па сырому чарапку, а потым пакрываць палівай, чым дасягнулі высокіх мастацкіх вынікаў. Такая тэхналогія аздаблення наблізіла посуд да маёлікі. Размалёўка рабілася з тонкадысперснай гліны, змешанай са здробненымі вокісламі металаў, якія прыдавалі малюнкам зялёна-карычневы, сіне-блакітны, жоўты або белы колер[8]. На чырвона-вохрыстых фонах донцаў і борціках талерак і місак, плечыках і тулавах збаноў, кухляў і кубачкаў кантрастна вылучаліся белыя і сінія кветкі, часам з зялёнымі і карычневымі галінкамі, такога ж колеру хвалістыя і касыя лініі, якія ўтваралі арнаментальныя пасачкі. Аздоблены такой размалёўкай посуд, асабліва талеркі, якія былі з адтулінамі для падвешвання на сцяне, меў пераважна дэкаратыўнае прызначэнне і выстаўляўся на паліцах, развешаных па сценах. Разам з жывапісна-пластычнымі дэкорамі кафельных печаў такі посуд надаваў стылістычную цэльнасць жылому інтэр'еру жыхароў, што жылі ў межах феадальна-ўласніцкіх замкаў Ліды, Міра, Крэва, Гальшан, а таксама ў святліцах заможных мяшчан Гродна, Магілёва, Мсціслава, Друі, Віцебска.

З сярэдзіны XVI ст. беларускія ганчары пачалі вырабляць (пасля пэўнага перапынку) маёлікавы посуд і паліхромныя кафлі, аздобленыя паверх нізкарэль'ефнага рысунка жоўтай, белай ці зялёнай эмаллю, не ражком, як гэта рабілі ў XII—XV стст., а пэндзлем непасрэдна па чарапку і сырой зямлі.

У гэты час быў пашыраны такі від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як размалёўка па дрэве. У інвентарах сядзіб і маён-

---

[7] Паничева Л. Г. Полоцкая архитектурно-декоративная керамика XIV—XVII вв. // Краткие сообщения Института археологии АН СССР. 1980. № 160. С. 55.

[8] Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу. С. 60.

ткаў XVI ст. часта ўпамінаюцца маляваныя ліштвы, мэбля і столь. У Гродзенскім касцёле езуітаў можна і сёння ўбачыць размаляваную свецкімі і рэлігійнымі сюжэтамі, змешчанымі ў клеймах, сталю (лаву культавага прызначэння) пачатку XVII ст. У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі і Музеі беларускага народнага мастацтва (у Раўбічах) захаваліся маляваныя карціны XVI ст., аздобленыя фігуратыўнымі выявамі, што было характэрна для рэнесансавых твораў.

Развівалася і мастацкая апрацоўка косці. Выраблялі тронкі нажоў, накладкі калчанаў, аклады кніг, мініяцюрныя паходныя абразкі, грабяні, шахматныя фігуркі. Сярод іх вылучаецца пластычнай выразнасцю касцяная накладка XVI—XVII стст. з выявай галавы мужчыны, знойдзеная археолагамі пры раскопах Мсціслава.

Мэблю ў XVI ст. выраблялі тыя ж цесляры і разьбяры, якія ставілі ў храмах іканастасы і алтары. Уяўленне аб канструкцыі і стылістыцы мэблі гэтага часу даюць крэслы з высокімі стромкімі спінкамі (прыкмета ўплыву стылю позняй готыкі), што захаваліся ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі і Пінскім францысканскім касцёле. Іх спінкі, ножкі і праножкі аздоблены арнаментальна-раслiннай разьбой — скразной у гродзенскага крэсла і барэльефна-фігуратыўнай у пінскіх, што сведчыць аб праявах стылю рэнесансу.

Менш даследаваны арганізацыйныя формы вытворчасці на Беларусі мастацкіх тканін у XVI ст. Часткова захаваліся асобныя імёны вышывальшчыц толькі XVII ст. Залаташвейніцы ўпамінаюцца сярод прафесій, якія ўваходзілі ў склад рамесніцкага цэху Міра ў 1695 г. [9] Аб існаванні цэнтраў ткацтва ў XVII ст. сведчаць рамесніцкія цэхі Слоніма (1605—1697), Мінска (1686), Слуцка (1664—1705) і інш. [10]

Залаташвейнікі ў канцы XVI—першай палавіне XVII ст. часта ўваходзілі ў аб'яднаныя цэхі з ткачамі, сярэбранікамі, рэзчыкамі па дрэву, як, напрыклад, у Слуцку [11]. У XVI ст. шмат тканін завозілі з Італіі і Іспаніі. Аб засваенні беларускімі залаташвейніцамі тэхнічных, сюжэтных і арнаментальных традыцый заходнееўрапейскай рэнесансавай вышыўкі і спалучэнні яе з мясцовымі старажытнарускімі традыцыйнымі тэхнікамі сведчаць фрагменты «пеляны» з Полацка і калона арната з Пінскага францысканскага касцёла. Асаблівай мастацкай дасканаласцю вылучаецца вышытая тэхнікай «у прыкрэп» калона пінскага арната. Карыстаючыся прадзенымі залацістымі і каляровымі шаўковымі і льнянымі ніткамі, залаташвейніца стварыла выразны жывапісны вобраз святога, які стаіць на вядомых нам па археалагічных

[9] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. С. 88—89.
[10] Там жа. С. 84—85.
[11] Там жа. С. 109.

раскопках жоўта-зялёных маёлікавых плітках. У XVI—XVII стст. былі закладзены асновы ўзорнага мастацкага ткацтва і дывановай вытворчасці на мануфактурах пазнейшых часоў.

**Шкларобства.** На тэрыторыі Беларусі ў XV—XVI стст. развівалася шкларобства, высокі ўзровень якога захаваўся яшчэ ад часоў Кіеўскай Русі. Абапіраючыся на традыцыі старажытнарускага шкларобства, беларускія гутнікі назапасілі значны вопыт, які стаў важнай асновай для далейшага развіцця шкларобства ўсходніх славян у XVII—XVIII стст. Гутнікі Беларусі таксама ўнеслі значны ўклад у развіццё шкларобства паўночна-ўсходняй Украіны (Чарнігаўская губ.) і Маскоўскай дзяржавы, што пацвярджаецца архіўнымі матэрыяламі [12].

Першыя звесткі аб шкляных гутах на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага адносяцца да 1498 г. Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў XVI ст. шкляныя рэчы выраблялі ў 15 гарадах і мястэчках Беларусі [13]. Захаваліся імёны розных рамеснікаў XVI ст., якія ўдзельнічалі ў працэсе падрыхтоўкі сыравіны для варкі шкла і выдзімання з яго вырабаў. Так, у 1534 г. «Мікалай Ровбов службою склярскою служить» у былым м. Ганушышкі; «Якубели Сташкович скларскою службою служить» у Аршанскім замку. Шкляр Сцяпан у 1524 г. атрымаў ад караля пустуючыя землі каля Гродна ў мясцовасцях Пірутаўшчына і Цількаўшчына. У інвентары маёмасці Брэста за 1566 г. упамінаецца «Стась шкляр», які пражываў на вуліцы Прэорскай, і Іван Буднік (прозвішча паходзіць ад прафесіі загатоўшчыка попелу, які выраблялі ў павеці пад назвай «буда»), які жыў за гарадскім валам [14].

У XVI ст. на базе рамеснага шкларобства пачынаюць узнікаць вотчынныя шкляныя мануфактуры [15]. У 1524 г. у ваколіцах Гродна мануфактуру арганізаваў гродзенскі шклароб Сцяпан па загаду вялікага князя Жыгімонта I, у 1599 г. у Гродне па загаду Сігізмунда III — пісар княства Валовіч, у канцы стагоддзя — Радзівіл у вотчынным мястэчку Шыдлавец (цяпер Шылавічы). Асноўная прыкмета вотчыннай мануфактуры — падзел працы па аперацыях — у шкларобстве праявілася вельмі рана. Выраб шкла, як сыравіны, з якой выдзімаюцца шкляныя рэчы, заўсёды патрабаваў падзелу працы паміж кваліфікаванымі спецыялістамі (складанне шыхты і нагляд за яе варкай, прыгатаванне попелу, дроў, выраб донніц, выдзіманне рэчаў і іх аздабленне і г. д.).

---

[12] Русско-белорусские связи: Сб. документов. Мн., 1963. С. 76, 213, 219, 282, 309, 404. Л. 153; Мн., 1972. С. 91, 130, 137, 165, 166, 169, 170, 179, 190, 197, 198, 208, 221, 259, 261, 266.

[13] Яніцкая М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977. С. 11.

[14] Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. 1. С. 70, 72, 205, 215; Jodkowski J. Huta szklana w Grodnie za Zygmunta III // Museum w Grodnie (Rocznik). Grodno, 1925. C. 39.

[15] Яніцкая М. М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). С. 6, 10, 11.

Акрамя таго, сам працэс выдзімання самай простай рэчы патрабуе не менш двух-трох спецыялістаў: «баначніка», які набірае на выдзімальную трубку кроплю шкла (баначку) з донніцы, і выдзімальшчыка, які выдзімае і фармуе рэч, аддзельшчыка, які яе аздабляе і г. д.

Для гэтых мануфактур было характэрна спалучэнне сялянскай натуральнай гаспадаркі з развітой рамесніцкай працай на вотчыннай мануфактуры. Дзеля гэтага, напрыклад, на мануфактуры Валовіча ў Гродне вялікі князь Сігізмунд III абавязаў выдзеліць зямлю для гутнікаў, каб рассяліць іх вакол будынкаў мануфактуры. Магнаты запрашалі на працу не толькі вотчынных і магістрацкіх рамеснікаў, але і больш кваліфікаваных іншаземных майстроў з Кракава, як гэта было на мануфактуры ў вёсцы Рыбакі пад Вільняй. Акрамя таго, вырабы прызначаліся не толькі для патрэб магната і яго двара, але і для вольнага продажу [16].

Шклаupdated робствам займаліся ў гэты ж перыяд яшчэ шмат гарадскіх рамеснікаў. Прастата будаўніцтва драўляных памяшканняў з гутнай печчу, нескладанасць абсталявання, наяўнасць рамесных традыцый у вырабе шкла, танная і даступная кожнаму рамесніку мясцовая сыравіна (пясок, драўляны і раслінны попел і паташ, крэйда, вапна, гліна, вада), таннае драўлянае паліва спрыялі развіццю ўсіх відаў шклаupdated робства — раменага ў гарадах, мануфактурнага і сялянскага шклянога промыслу. Спаліўшы лес у адным месцы, гуту ці майстэрню пераносілі хутка ў другое лясістае месца, бліжэй да паліва. На чале рамеснай майстэрні стаяў гутны майстар, які ведаў рэцэптурны склад шкла, тэхналогію яго выплаўкі, умеў выдзімаць і аздабляць шкло, быў кіраўніком вытворчасці. Акрамя яго ў майстэрні працавалі выдзімальшчык, падавальшчык (баначнік), аздобнік (наносіў пячаткі, прылепы, ніці на выдзьмутую форму), аддзельшчык адбіваў рэчы ад понціі, зарабляў (апрацоўваў) вусце посуду, апальшчык (паліў печ дровамі), ганчар (рабіў з гліны донніцы), сталяр (рабіў з дрэва формы, у якія выдзімалі шкло пры фармаванні), каваль (вырабляў інструменты і жалезныя формы для выдзімання ў іх пэўных форм шкляных вырабаў).

Шкляным промыслам займаліся і вандроўныя шкларобы, якія звычайна ставілі лясныя гуты на правах арэнды зямлі ў памешчыкаў. Выканаўшы заказы ў бліжэйшай акрузе, яны параязджалі ў другое месца. Вандроўныя шкларобы-прамыславікі часта ўяўлялі сабой сямейны шклярскі калектыў, у якім галава сям'і быў гутным майстрам, а сыны, нявесткі і жонка выконвалі іншыя абавязкі. Увогуле шкларобы вандравалі групамі і так

---

[16] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 85, 151, 169, 212; Жаврид М. Ф. Белорусское стекло. Мн., 1969. С. 32, 33; Wołczacka H. Rzemesło szklarskie w Wilnie do końca XVIII w. // Księga pomiątkowa Koła historyków słuchaczy Uniwiersitetu St. Batorego. Wilno, 1933. С. 55.

падбіралі яе склад, што маглі хутка наладзіць вытворчасць шкла на новым месцы.

Яны выраблялі аконнае шкло, бутэлькі і посуд штодзённага ўжытку з «ляснога шкла» (неасветленага, натуральнага зялёнага колеру). Лясныя гуты задавальнялі патрэбу ў шкле мясцовага сялянскага, дробнашляхецкага і местачковага люду. Традыцыя гэта захавалася на Беларусі да канца XIX — пачатку XX ст.

Пачынаючы з XIV ст. посуд значна павялічваецца ў памерах і асабліва вялікіх аб'ёмаў дасягае ў XVII ст., калі шырока ўжываліся такія напіткі, як брага, медавуха, піва.

У XIV—XV стст. у Гродне па-ранейшаму выраблялі канічнай формы кілішкі з петлепадобнымі ў сячэнні стопамі, шкляніцы з хваліста ўкладзенымі паддонамі, колбападобныя слязніцы з сіняга, зялёнага і бясколернага шкла, гаршкападобныя таўстасценныя пасудзіны, аздобленыя каляровымі ніцямі, кварты прамавугольныя і квадратныя ў плане, цыліндрычныя таўстасценныя шкляніцы двух відаў — з заліўным у форму дном і кольцавым паддонам; цыліндрычныя танкасценныя шкляніцы на кольцавых паддонах.

Такія ж цыліндрычныя формы былі ў стромкіх танкасценных шкляніц на высокіх цыліндрычных, т. зв. рабрыстых паддонах, край якіх зарабляўся петлепадобна, і ў высокіх вузкіх флетаў [17].

У XV ст. упершыню з'яўляюцца канічнай формы кубкі на такіх жа канічных пустацелых паддонах, якія вельмі пашырыліся ў XVIII ст. і атрымалі мясцовую назву «дубальтовыя». Шклянымі жгутамі, круглымі ў сячэнні, пачалі аздабляць не толькі паддоны, але і сценкі посуду. Посуд выраблялі адвольным фармаваннем і выдзіманнем у нерухомыя формы, на сценкі і донцы якіх наносілі пэўны дэкор т. зв. метадам ціхага выдзімання, які ўжываюць і сучасныя выдзімальшчыкі шклозавода «Нёман».

Шклаapprobы карысталіся мясцовымі пяскамі. У саставе некаторых з іх быў значны працэнт жалеза. Пры ўжыванні апошніх пасля аднаразовай прамыўкі і асвятлення шкламасы марганцам вырабы з такога шкла мелі блакітнаватае, зеленаватае, жаўтаватае ці ружаватае адценне. Пасля двайной прамыўкі такія пяскі давалі чыста асветленую шкламасу. Адначасовы выраб посуду з добра асветленага, афарбаванага і слабаасветленага шкла наглядаецца на працягу XI—XIX стст. Афарбаванае каляровае шкло — жоўтае, зялёнае і глушонае блакітнае, сіняе і малочнабелае выраблялі з XVI ст.

У гэты час пераважна выдзімалі шкляніцы і флеты цыліндрычныя больш стромкіх прапорцый на такіх жа, як і раней, высокіх цыліндрычных рабрыстых, хваліста ўкладзеных і кольцавых паддонах. Папулярнасць набылі невялікія гладкасценныя чаркі з масіўнымі заліўнымі донцамі і чаркі з рэльефна-жалаб-

---

[17] Яніцкая М. М. Вытокі шклаpробства Беларусі. Мн., 1980. С. 108, 111—121.

ковымі сценкамі, якія выдзімаліся ў формы; стромкіх прапорцый цыліндрычныя аптэчныя флаконы з глыбока ўціснутымі ўсярэдзіну донцамі і высокімі цыліндрычнымі шыйкамі, вялізныя бутлі з шарападобнымі тулавамі і высокімі гарлавінкамі; канічнай формы кубкі і бакалы на складанапрафіляваных ножках. Гаршкападобныя шкляныя таўстасценныя пасудзіны набываюць буйнейшыя формы і назву «чара». У такіх памерах яны ўжо нагадваюць формы металічных брацін. Сярод дэкаратыўных элементаў акрамя шкляных жгутоў, стужак і ніцей, укладзеных адвольна і хваліста, пачынаюць ужываць пячаткі з выявамі гярбоў уладара гуты ці мануфактуры і ўласнымі клеймамі шклаpoбаў. Клеймы-пячаткі і клеймы-гярбы пераважна размяшчаліся на шарападобным тулаве чар і бутляў, у выніку чаго пячаткі набывалі выгляд медальёнаў.

Значнай крыніцай для ўзнаўлення форм сярэдневяковага шклянога посуду з'яўляецца Радзівілаўскі летапіс XV ст. На яго мініяцюрах адлюстравана 25 відаў розных шкляных пасудзін. Вельмі важна, што выяўленыя на мініяцюрах шкляныя пасудзіны маюць аналагі сярод шклянога посуду, знойдзенага ў час раскопак археолагамі сярэдневяковых гарадоў Полацка, Навагрудка, Турава, Ліды, Мінска, Мазыра, Мсціслава, Віцебска. Згодна з мініяцюрамі, на Беларусі доўгі час, аж да XV ст., выкарыстоўвалі конусападобныя вузкія бакалы з няўстойлівымі донцамі і шклянкападобныя пасудзіны, якія былі рэканструяваны сярод гродзенскага і навагрудскага посуду XII ст.

Мініяцюры пацвярджаюць, што ў часы сярэдневякоўя ўжывалі на Беларусі 5 відаў келіхаў на канічных полых паддонах; першы від меў высокія цюльпанападобныя чашы, якія злучаліся з паддонам «яблыкам»; другі від — чашы паўсферычнай формы, размешчаныя на трох буйных «яблыках», якія ўзвышаліся над высокім полым паддонам канічнай формы. Трэці від келіхаў меў чашы паўсферычныя, размешчаныя непасрэдна на невысокіх канічных паддонах рознай канфігурацыі.

**Ювелірныя вырабы.** Выраб мастацкіх рэчаў з каштоўных і іншых каляровых металаў на тэрыторыі Беларусі вядомы з сярэдзіны I тысячагоддзя да н. э. Першымі такімі рэчамі былі бронзавыя ўпрыгожанні [18]. У пачатку I тысячагоддзя н. э. пачалі вырабляць бронзавыя ўпрыгожанні, якія аздабляліся каляровай эмаллю [19]. Выраб посуду з каляровых і каштоўных металаў вядомы з часоў ранняга сярэдневякоўя. У гэты перыяд ужо дзейнічалі і пэўныя карпаратыўныя аб'яднанні (цэхі) майстроў

[18] Мельниковская О. Н. Племена южной Белорусии в раннем железном веке. М., 1967. С. 78.

[19] Поболь Л. Д., Наумов Д. В. О некоторых предметах материальной культуры селища Абидня: Докл. к XI конф. молод. уч. Белорусской ССР. Мн., 1967.

залатых, сярэбраных і медных спраў у Навагрудку, Полацку і Віцебску [20].

Спачатку вырабам металічных упрыгожанняў і посуду займаліся бронзаліцейшчыкі, а потым кавалі па медзі. Паступова сярэдневяковыя бронзаліцейшчыкі ператварыліся ў злотакавалёў і з XII ст. пачалі выкарыстоўваць халодную апрацоўку золата і серабра [21].

Вывады аб існаванні ў беларускіх сярэдневяковых гарадах цэхавых аб'яднанняў рамеснікаў у XII ст. зроблены на падставе археалагічных матэрыялаў. Адсутнасць зафіксаваных пісьмовых крыніц аб цэхавых аб'яднаннях рамеснікаў Беларусі гэтага часу не павінна бянтэжыць даследчыкаў, таму што падобныя дакументальныя звесткі не захаваліся нават у заходнееўрапейскіх гарадах з іх ранніммі формамі класічных цэхавых аб'яднанняў. На Беларусі ўвогуле часткова захаваліся архіўныя звесткі аб асобных падзеях не раней XV ст. Так, высокі карпаратыўны характар рамеснікаў Мінска, асабліва апрацоўшчыкаў металу, сярод якіх згадваюцца і ювеліры, упамінаецца ў грамаце 1499 г., якой гораду надавалася магдэбургскае права [22].

Паколькі каштоўныя матэрыялы на працягу многіх стагоддзяў адыгрывалі вялікую эканамічную ролю ў дзяржавах, то ўрады ўсіх краін Заходняй Еўропы з другой палавіны XIII ст. увялі абавязковае кляйменне вырабаў з каштоўных металаў і патрабавалі выкарыстаць высокую пробу (на ўзроўні пробы манет), каб мець магчымасць у любы момант гэтыя вырабы пераплавіць у манеты. Пробу металу, ужытага для выканання рэчы, пацвярджаў асабістым кляймом прабірны майстар, які нёс адказнасць за адпаведнасць выбітай пробы (звычайна двухзначныя лічбы) фактычнай наяўнасці каштоўнага металу ў дадзеным сплаве.

На тэрыторыі Беларусі, як і на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага, у склад якога яна ўваходзіла, абавязковае кляйменне вырабаў з каштоўных металаў было ўведзена ў 1495 г. [23] Але існавалі майстры пад назвай «партачы», якія не ўваходзілі ў склад пэўнага гарадскога цэха [24]. Не ўсе рамеснікі мелі сродкі, каб заплаціць за частаванне членаў цэха, якое спраўляў той, ад каго рамесніцкая рада прымала экзамен «на рабенне штукі», г. зн. экзаменацыйнага твора мастацтва, свайго роду «дыпломную работу». Частка рэчаў выраблялася і без кляймення княжацкімі, ці т. зв. вотчыннымі, рамеснікамі. Увядзенне дзяржавай абавязковага кляймення рэчаў з каштоўнага

[20] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. Л., 1981. С. 133—135.

[21] Краснянскі Г. Музейныя помнікі старадаўніх рамесніцкіх арганізацый // Віцебшчына. Віцебск, 1925. С. 40.

[22] Гісторыя Мінска. Мн., 1967. С. 22, 686.

[23] Золотое и серебряное дело XV—XX вв. М., 1983. С. 119.

[24] Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею. Вильно, 1879. Т. X. С. 37.

металу сведчыла аб значным развіцці гэтага віду рамяства і вялікай колькасці рэчаў, што вырабляліся з такіх металаў. Майстры, якія займаліся вырабамі мастацкіх рэчаў з каляровых і каштоўных металаў, у залежнасці ад матэрыялу і тэхнікі іх апрацоўкі называліся злотнікамі, срэбранікамі, меднікамі, залацільшчыкамі, злота- і срэбракавалямі, людвісарамі (ліцейшчыкамі) і г. д. Пазней, з XVI ст., назва «срэбраных спраў майстар» аб'ядноўвала рад гэтых прафесій.

Архіўныя крыніцы данеслі да нас імёны ці прозвішчы асобных майстроў ювелірнай справы, якія працавалі ў гарадах Беларусі ў пачатку XVI ст. Залацільшчыкі працавалі ў Ваўкавыску — Ганна Юр'ева (1517), Навагрудку — Іван Івоніч (1517), Мядзелі — Павел Майхеравіч (1538), Брэсце — Піятроўскі (1529), Б. Н. Дамінік (1539) і інш.[25]

Акрамя злотнікаў упамінаюцца і збройнікі, якія ўжывалі каштоўныя металы і мінералы для аздобы зброі, асабліва той, што выраблялі па загаду караля, вялікага князя, магнатаў і звычайнай шляхты. Так, на працягу 1506—1526 гг. у Гродне працавалі збройнікі Марцін, Шчэнсны, Б. І. Фрыдрых.

Уцалеўшыя архіўныя крыніцы ўтрымліваюць частковыя звесткі і аб цэхавых карпарацыях металістаў і ювеліраў з пачатку XVI ст.: Брэсцкі цэх злотнікаў згадваецца ў 1529 г., калі цэхавым старшынёй быў Станіслаў Радванскі, Пінскі цэх — у 1522 г. (старшыня І. Перхвяновіч), Мінскі — у 1429—1591 гг., Гродзенскі — у 1596 г., Магілёўскі — у 1561 г. У XV—XVI стст. на Беларусі працавала 105 майстроў ювелірнай справы[26]. Яны выраблялі пераважна культавыя рэчы: паціры-келіхі, крыжы — рэлікварыі, напрастольныя і алтарныя, абклады евангелляў і абразоў, а таксама мастацкі посуд, у якіх праявілася высокае майстэрства пластычна-канструктыўнага формаўтварэння посуду, чаканкі, гравіроўкі, коўкі, дакладнай мадэліроўкі фігуратыўных і раслінных выяў дэкаратыўных кампазіцый.

Упамінанне ў архіўных крыніцах хоць і нязначнай колькасці імён і прозвішч асобных злотнікаў і цэхаў XVI ст. некаторых гарадоў, а таксама ўвядзенне кляймення рэчаў з 1495 г. усё ж сведчаць, што ў канцы XV ст. злотніцтва і ювелірная справа былі вельмі пашыраны і развіты ў беларускіх гарадах.

Узнавіць формы і аздобы металічнага посуду XIII—XV стст., які ўжываўся і, магчыма, вырабляўся мясцовымі майстрамі срэбраных спраў, дазваляюць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, які, як мяркуюць даследчыкі, быў перапісаны ў XV ст. з больш ранняга летапісу XIII ст. Згодна з мініяцюрамі летапісу, у час княжацкага застолля ўжываўся металічны посуд для падачы на стол значнай колькасці стравы, які меў выгляд высокіх ваз на

---

[25] Prace i materiały sprawozdawcze sekcij Historyków Sztuki Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilna, 1938—1939. T. 3. C. 2—16.

[26] Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. С. 229.

ўстойлівых канічных паддонах з шырока раскрытымі вусцямі цыліндрычных чаш. Асаблівую ўрачыстасць і прыгажосць вазам надавалі складаныя канструктыўныя пабудовы ножак, што злучалі іх чашы і стопы. Донца чашы і стапа чаканіліся вертыкальнымі лініямі, якія веерам разыходзіліся ад вузейшых частак донцаў і стоп да перыметраў, утвараючы святлоценевыя рытмы з канічных нізкарэльефных аб'ёмаў. Акрамя такіх буйных форм посуду, які ўзвышаўся на стале ў адзінкавым экземпляры, карысталіся драбнейшымі вазамі такой жа канструктыўнай пабудовы, але з чашамі канічнай формы, буйной шарападобнай формы чашай без паддона і цыліндрычнай формы пасудзінай з адагнутым вонкі венчыкам, паддон якой меў выгляд трох шарападобных ножак. Акрамя таго, на княжацкіх сталах мы бачым некалькі кубкаў без паддонаў, цыліндрычных форм з шырока адагнутымі вонкі венчыкамі (кубкі прызначаліся для асабістага карыстання), а таксама плоскія талеркі і нажы.

У якасці дароў служкі падносяць князю посуд у форме вузкагорлай амфары, пацір з шарападобнай чашай, якая ўзвышаецца на нязвыкла высокай цыліндрычнай ножцы і канічнай круглай стапе.

Наяўнасць у Брэсце ў пачатку XVI ст. цэха злотнікаў, сярод якіх былі і гравёры, спрыяла стварэнню ў сярэдзіне XVI ст. Мікалаем Радзівілам Чорным мясцовай друкарні, дзе была выдадзена ў 1563 г. багата ілюстраваная Біблія, якую называюць Брэсцкай, або Радзівілаўскай. Біблія была разлічана на густ багатага магната. Невыпадкова на гравюрах Брэсцкай біблії маецца шмат выяў металічнага посуду, аздобленага чаканкай. Арнаментальныя застаўкі Біблії і гравюры з выявамі асобных відаў металічнага кованага і чаканенага посуду, які ўжываўся беларускімі магнатамі ў сярэдзіне XVI ст. і быў вядомы аўтару ілюстрацый, сталі ўзорамі для сучасных яму злотнікаў, кавалёў, срэбранікаў і меднікаў, а таксама для майстроў наступных стагоддзяў. На гравюрах пададзена выява нязвыклай формы талеркі (старажытныя назвы «чаша», «талер», «таца») з нізкімі цыліндрычнымі сценкамі і дзвюма ручкамі ў выглядзе звісаючых са сценак кольцаў. Такую талерку можна было замацаваць на цвік, забіты ў сцяну. Акрамя таго, дакладна пададзены формы трох пасудзін з ручкамі і ўсе на паддонах у выглядзе стоп, якія ўяўляюць вельмі вольную перапрацоўку формы старажытнага грэчаскага посуду: амфары, кратэра, але з трыма (замест дзвюх) ручкамі, і вельмі своеасаблівага кантараса, але з цыліндрычнай (замест канічнай) формай чашы і нізка размешчанымі ручкамі замест высока ўзнятых ручак над чашай у грэчаскіх прататыпаў. Форма ўсіх пасудзін падкрэслена цыліндрычная, што рэзка адрознівае іх ад грэчаскіх і сведчыць аб уплыве эстэтычных канцэпцый гатычнага стылю, якім кіраваўся майстар пры стварэнні посуду. Такім чынам, стылістыка посуду, адлюстраванага ў гравюрах Біблії, сведчыць, што такі посуд бытаваў тут на працягу

эпохі готыкі (XIV—XV стст.) і нават да сярэдзіны XVI ст. Як вядома, прафесія злота- і срэбракавалёў на працягу многіх стагоддзяў перадавалася ад бацькі да сына [27], што спрыяла наследаванню не толькі тэхналагічных прыёмаў, але і форм наступнымі пакаленнямі майстроў.

Побач са сталовым посудам ужываўся і вырабляўся літургічны металічны посуд, у якім найбольш поўна праявіліся мастацкія здольнасці майстроў сярэбранай справы.

Шматлікія ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі на працягу XV—XX стст. і розныя сацыяльна-палітычныя падзеі прывялі да знішчэння ці вывазу большасці помнікаў мастацтва і асабліва твораў з каштоўных металаў, якія не толькі рабаваліся захопнікамі, але і пераплаўляліся на манеты ў час пагаршэння эканамічнага стану ў выніку ваенных сутычак. У музеях Беларусі амаль не захавалася твораў мясцовых злотакавалёў і срэбных спраў майстроў XV—XVI стст. Адзін келіх XVI ст. захоўваецца ў ДМ БССР, другі ў ДММ БССР. Больш поўныя ўяўленні аб майстэрстве беларускіх злотнікаў могуць даць толькі рэчы, выяўленыя ў час археалагічных раскопак гарадскіх пластоў гэтага часу ці знаходкі асобных металічных рэчаў у час экспедыцый па ўцалелых культавых збудаваннях, дзе яшчэ маглі захавацца асобныя мастацкія творы XV—XVI стст. культавага прызначэння. Вядома, што ў тую эпоху самыя значныя мастацкія рэчы з металаў вырабляліся па заказах манастыроў, кляштараў, храмаў, асобных магнатаў, якія фундавалі іх для храмаў. Асабліва пашыраны быў выраб паціраў у выглядзе вядомага нам келіха, які ўжываўся ў час адпраўлення пэўнай літургічнай службы (прычашчэння). Увогуле ў вырабе келіхаў праявілася майстэрства гравіроўкі, чаканкі, коўкі, пластычна-канструктыўнага формаўтварэння посуду, архітэктанічнай пабудовы аб'ёмаў, мадэліроўкі выяў асобных фігур, размеркавання на крывалінейных плоскасцях посуду складаных фігуратыўных кампазіцый.

Вялікую каштоўнасць для гісторыі беларускага мастацтва ўяўляе келіх, знойдзены ў Ружанах, які цяпер захоўваецца ў Музеі беларускага народнага мастацтва (в. Раўбічы). Келіх срэбраны, пазалочаны, аздоблены гравіроўкай, сіняй эмаллю, коўкай, зярненнем. Ён мае невысокую шырока раскрытую па вусцю чашу, дно якой аздоблена гравіроўкай расліннага характару замест накладнога літога «кошычка». Майстар такім чынам імітаваў кошычак, і яго завяршэнне падкрэсліў сканай «вяровачкай». Раслінныя контуры рухомыя, але сухавата-завостраныя і геаметрычна трактаваныя. Ножка і стапа келіха маюць шасцічасткавы вертыкальны падзел. Высокая ножка складана мадэліраваная, утворана з двух шасцібаковых стаянаў, якія злучаны шарападобным нодусам, аздобленым шасцю ромбападобнымі

[27] Kameńska Z. Manufaktura szklana w Urzeczu (1737—1846). Warszawa, 1964. S. 95.

кабюшонамі. Апошнія дэкараваны сіняй аконнай эмаллю, на фоне якой вылучаюцца залацістыя рэльефна выступаючыя пяціпялёсткавыя зоркі-кветкі. Ніжняя частка ножкі аздоблена васьмю кованымі перагародкамі, якія ўтвараюць своеасаблівыя каплічкі, характэрныя для стылю готыкі. Стапа выканана ў гатычным стылі — шасціпялёсткавая, з высока ўзнятай купалападобнай верхняй часткай. Яна гравіравана ўверсе раслінным арнаментам і выявамі мальтыйскага крыжа на ніжніх плоскіх частках. Па цаколіку пракаваны скразны арнамент, які нагадвае рад калон. Келіх вылучаецца манументальна-велічнымі прапорцыямі за кошт вельмі высокай ножкі і высока ўзнятай стапы. Усе стылістычныя прыкметы (выцягнутасць прапорцый уверх, геаметрызаваная трактоўка раслінных форм, нодус з кабюшонамі, ножка, аздобленая каплічкамі, шматпялёсткавая стапа, авальная форма невысокай чашы з шырока раскрытым вусцем) вымагаюць аднесці гэты келіх да эпохі готыкі. Трэба адзначыць, што майстар ружанскага келіха карыстаўся пры яго стварэнні канонамі мастацтва каталіцкага веравызнання. Між тым келіх не мае дакладных аналогій у польскім мастацтве гатычнага стылю. Аднак ёсць частковая аналогія, асабліва ў форме і аздобе ножкі і нодуса, з навагрудскім келіхам пачатку XVI ст., які захоўваецца ў ДМ БССР [28]. Ружанскі келіх не мае кляйма майстра. Ён мог быць выкананы т. зв. партачом ці майстрам, які працаваў пры двары магната і не ўваходзіў у лік цэхавых рамеснікаў. Каб высветліць пытанне аб даце і месцы стварэння келіха, неабходна мець на ўвазе, што Ружаны вядомы з пачатку XVI ст. як прыватнае мястэчка графаў Тышкевічаў, якое з 1598 г. належала князям Сапегам. Такім чынам, срэбраны келіх мог быць створаны ў Ружанах мясцовым злотнікам (срэбных спраў майстрам) не раней пачатку XVI ст. па заказу графа Тышкевіча. Вельмі стрыманая і простая форма чашы, сціплы непыхлівы дэкор келіха, не зусім дакладная гравіроўка расліннага арнаменту на «кошычку», адсутнасць дакладных аналогій з падобнымі заходнееўрапейскімі келіхамі не дае падставы для залічэння келіха ў лік імпартных рэчаў ці вырабу яго замежнымі майстрамі непасрэдна ў Ружанах. Нягледзячы на тое што ружанскі келіх мае ўсе рысы гатычнага стылю XIV—XV стст., ён можа паходзіць з пазнейшага часу, таму што злотніцтва на Беларусі было вельмі традыцыйным мастацтвам, асабліва пры культавым прызначэнні. Вядома, што асобныя рысы готыкі можна сустрэць нават у эпоху ранняга барока ў першай палавіне XVII ст.

---

[28] Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік. Мн., 1983. Іл. 48.

## МАСТАЦТВА БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ XV — СЯРЭДЗІНЫ XVI ст.

Агромністае значэнне кнігі ў гісторыі культуры кожнага народа добра вядома. «Вынаходніцтва друкарства — падзея, што адкрывае другую частку сусветнай гісторыі і гісторыі мастацтва, якая цалкам розніцца ад першай» [1],— пісаў Гётэ. Тут маецца на ўвазе друкаваная кніга, «чорнае мастацтва», якое на Беларусі (а таксама ва Усходняй Еўропе ў цэлым) заснаваў Францыск Скарына. Але, як вядома, не меншую ролю адыграла рукапісная кніга і яе мініяцюра, якая разам з гравюрай стäрадрукаў складае значны раздзел складанай гісторыі беларускага мастацтва, выяўленчай культуры часоў Скарыны [2].

Трэба адзначыць, што публікацый пра тагачаснае мастацтва беларускай кнігі практычна не існуе [3]. Праўда, у апошнія гады з'явілася некалькі грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў пра беларускія старадрукі, у якіх занатаваны і выяўленчы матэрыял [4]. Значна менш вывучаны беларускія рукапісы і іх мініяцюры (не існуе дагэтуль нават іх прыблізнага спіса).

Лёс беларускай кнігі надзвычай складаны, яе гісторыя напісана крывёю, азорана пажарамі войнаў. Кнігі (рукапісныя і друкаваныя) гінулі ў час стыхійных бедстваў і вострай рэлігійнай барацьбы. Вось чаму да нашага часу захавалася адносна мала помнікаў. Але і тыя, што ўцалелі (пераважная іх колькасць), сёння знаходзяцца за межамі Беларусі. Як сведчаць згаданыя каталогі старадрукаў, большасць іх зараз захоўваецца ў кнігасховішчах Масквы, Ленінграда, Вільні, Кіева і іншых гарадоў.

Ужо ў працах дарэвалюцыйных рускіх аўтараў сустракаюцца досыць цікавыя згадкі, якія праліваюць святло на лёс беларускай кнігі. У 1830 г. прафесар Маскоўскага універсітэта І. Снегіроў (ён, дарэчы, першы выявіў славуты гравюрны партрэт Скарыны), апісваючы кнігі маскоўскага купца і калекцыянера Царскага, адзначыў, што Біблія Скарыны «прывезена ў Маскву

---

[1] Цыт. па кн.: Gepriesenes Andenken von Erbindung Buchdruckerkunst. Leipzig; Reclam, 1968. S. 5.

[2] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1987. С. 86—97, 229—263.

[3] Даследчыкі (М. Шчакаціхін, М. Кацар, М. Нікалаеў, С. Акуліч і інш.) часам разглядалі толькі пытанні мастацкай аздобы рукапіснай або друкаванай кнігі асобна. Напісаны аўтарам невялікі артыкул «Мастацтва кнігі на Беларусі ў 15—16 стст.» (Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988), як і публікацыі ў 1-м і 2-м тамах «Гісторыі беларускага мастацтва», не вычэрпваюць досыць шырокай тэмы.

[4] Лукьяненко В. И. Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1 (1523—1600). Л., 1973; Вып. 2. (1601—1654). Л., 1975; Неміроўскі Я. Л. Выданні Францыска Скарыны: Зводны каталог і апісанне // Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988. С. 207—309; Галенчанка Г. Я. Старадрукаваныя кірылічныя кнігі 16—18 стст. // Кніга Беларусі. Мн., 1986. С. 23—199.

сярод здабычы ваеннага паходу цара Аляксея Міхайлавіча на Літву» [5].

Не менш цікавыя звесткі яшчэ раней, у 1776 г., падае пецярбургскі гісторык і лінгвіст І. Бакмейстар, які ў Расіі першы згадаў «Пяцікніжжа» Скарыны: «Полученное библиотекою в 1772 г. другое приобщение, о котором никак умолчать не можно, превосходит все прежде упомянутое. Многочисленное собрание, хранимое по то время в Несвиже, что в Литовском княжестве, приобщено к нашему. Дивно, что война наукам, везде зловредная, в России им полезна» [6].

Снегіроў і Бакмейстар гавораць пра беларускія старадрукі. Але дагэтуль нават прыблізна невядома колькі было «приобщено» беларускіх рукапісаў, у асобных з якіх таксама сустракаюцца запісы аб іх лёсе. Так, у «Шасціднеўцы» XVI ст., ініцыялы і застаўкі якога разам з іншымі мініяцюрамі рэпрадуцыраваў У. Стасаў, сказана: «Сия книга взята за саблею в стольном граде Вильно» [7]. Вывезены з Беларусі «за саблею» і многія іншыя помнікі, якія сёння захоўваюцца ў шматлікіх сховішчах СССР і замежных краін [8]. Усё гэта, натуральна, стварае значныя цяжкасці для вывучэння мастацтва беларускай кнігі. Сёння ў музеях рэспублікі мініяцюра і гравюра практычна адсутнічаюць. Вось чаму ў дадзеным артыкуле мы спынімся толькі на найбольш значных помніках рукапіснай і друкаванай кнігі XV—XVI стст., якія ў пераважнай большасці вывучаліся намі de visu.

**Мініяцюра рукапісаў.** Добра вядома, што з'яўленню кнігадрукавання ў Беларусі, як і ў іншых краінах, папярэднічалі шматвяковыя традыцыі рукапіснай кнігавытворчасці. У рукапісах, яшчэ задоўга да з'яўлення друкарства, сфарміраваўся той складаны і цэльны сінтэз усіх мастацкіх кампанентаў (арнаментальных аздоб, заставак, ініцыялаў, фігурных мініяцюр і г. д.), які мы называем «мастацтвам кнігі».

Сувязь мініяцюры і гравюры ўжо адзначалася беларускімі вучонымі. «Як кнігадрукаванне з'яўляецца прамым прадаўжальнікам мастацтва стварэння рукапісных кніг, так і гравюрнае мастацтва з'яўляецца непасрэдным працягам мастацтва ўпрыгожвання кніг мініяцюрамі (тэматычнымі выявамі, застаўкамі,

---

[5] Снегирев И. М. Дополнение к статье IX // ТОДРЛ. 1830. Ч. 5, кн. 1. С. 308—309

[6] Цыт. па перакладу: Бакмейстер И. Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной Санкт-Петербургской имп. Академии наук. Спб., 1779. С. 43.

[7] Стасов В. В. Славянский и восточный орнамент по рукописям древнего и нового времени. Спб., 1887 (156 листов рисунков с объяснениями к ним). Л ХСП.

[8] Значную цікавасць для даследчыкаў беларускіх рукапісаў уяўляе кніга Ф. Дабранскага «Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских» (Вільня, 1882). Пераважная большасць апісаных Дабранскім рукапісаў, якія разглядаюцца ніжэй, дайшлі да нашых дзён і зараз знаходзяцца ў рукапісным аддзеле БАН Літоўскай ССР у Вільнюсе (фонды аддзелу рукапісаў: F-19, F-21, F-22, F-29, F-32).

канцоўкамі і загалоўнымі літарамі)» [9],— піша М. Кацар. У свой час гэту думку падзяляў і аўтар гэтых радкоў: «У пачатку 16 ст. рукапісная кніга на Беларусі выцеснілася друкаванай і на змену мініяцюры прыйшла гравюра» [10]. Аднак сёння мы ведаем, што і пасля Гутэнберга друкаваная кніга не выцесніла рукапісны спосаб кнігавытворчасці. Наадварот, рукапісная кніга працягвала развівацца аж да XIX ст.— не толькі ў народаў, якія з прычыны знешнепалітычных фактараў (нацыянальны прыгнёт) пэўны час некалькі адставалі ў культурным развіцці, але і ў краінах з развітымі традыцыямі кнігадрукавання (Германія, Італія, Францыя, Англія і інш.). Аналагічная з'ява назіраецца і на Беларусі, дзе ў часы Скарыны і пазней (амаль да канца XIX ст.) працягвала развівацца беларуская рукапісная кніга, прычым яе змястоўны рэпертуар і мастацкае афармленне досыць часта не саступалі старадрукам.

У гады, калі вялікі беларускі асветнік-гуманіст звярнуўся да кнігавыдавецкай дзейнасці, аздоба беларускіх рукапісаў развівалася на грунце традыцый рукапіснай кнігавытворчасці папярэдніх перыядаў. З часоў Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага і Аўрамія Смаленскага (ёсць звесткі, што асобныя з культурна-рэлігійных дзеячаў займаліся перапіскай і, магчыма, аздобай кніг) рукапісная кніга цанілася не толькі як найважнейшая крыніца ведаў, але і як помнік мастацтва. Максім Багдановіч у вершы «Перапісчык» з вялікай мастацкай выразнасцю намаляваў вобраз мастака беларускай кнігі, які «разнаколернымі галоўкамі звяроў і птах нявіданых, спляценнем завіткоў» аздабляў рукапісы [11]. У эпоху Скарыны з'явіліся першыя апісанні рукапісных кніг. Найбольш раннім з'яўляецца вопіс маёмасці Слуцкага Траецкага манастыра, зроблены ў 1495 г.

Значным цэнтрам усходнеславянскага пісьменства быў Супрасльскі манастыр на Гродзеншчыне, заснаваны ў канцы XV ст. маршалкам Вялікага княства Літоўскага Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам. Тут захоўваліся каштоўныя помнікі агульнаславянскай культуры, такія, як Супрасльскі рукапіс X—XI стст., Кіеўскі і Ноўгарадскі летапісы, Супрасльскі спіс беларуска-літоўскага летапісу (1519 г.) і інш. Пры манастыры існавала майстэрня для перапіскі і аздобы рукапісаў, пераплётная і бібліятэка. Вопіс бібліятэкі Супрасльскага манастыра, складзены ў 1557 г., фіксуе 209 рукапісных кніг, у 1645 г. налічвалася ўжо 600 — лічба па тым часе значная.

Каштоўныя рукапісы захоўваліся таксама ў Жыровіцкім і віцебскім Маркавым манастырах. Сярод цэнтраў рукапіснай кнігавытворчасці былі таксама Гродна, Брэст, Навагрудак, Ту-

---

[9] Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 54.

[10] Шматаў В. Ф. Мініяцюра // Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Мн., 1981. Т. 4. С. 362.

[11] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2-х т. Т. 1. Мн., 1968. С. 67.

раў, Мінск, Пінск, Полацк, Магілёў і іншыя гарады і мястэчкі [12].

Змястоўны рэпертуар беларускіх рукапісаў даследаваны М. В. Нікалаевым, які вылучыў тры катэгорыі: 1. кнігу богаслужэбную; 2. кнігу часткова рэлігійнага і свецкага зместу; 3. кнігу прыкладнога значэння (юрыдычная, розныя вопісы, інвентары) [13]. Афармленне кожнай з адзначаных катэгорый рукапісаў мела пэўныя асаблівасці. Найбольш адметна, з густам аздабляліся кнігі з музычнымі творамі (ірмалогіі, мінеі, трыёдзі, актоіхі).

Да палавіны XIV ст. рукапісы на Беларусі пісаліся на пергаменце, які дзякуючы блізкасці і ўплывам Захаду адзначаўся высокімі якасцямі. Пазней, у XV ст., сюды пранікае папера, што, мяркуючы па філігранях, паходзіць з Германіі, Галандыі, Францыі, Італіі, а з XVI ст.— з Польшчы [14].

На мініяцюру і знешні выгляд рукапісаў, безумоўна, уздзейнічала агульная эвалюцыя тагачаснага беларускага мастацтва, якое ў дадзены перыяд развівалася пад уплывам готыкі і Рэнесансу. Гэта прыкметна ўжо па пераплётах: у XV ст. яны пераважна гатычныя, а ў наступным — рэнесансавыя. У іх выкананні ўдзельнічалі прафесійныя ювеліры, якія выконвалі цісненне і металічныя часткі (гравіраваныя выявы, навугольнікі, планкецікі і г. д.). У каштоўных рукапісах ювеліры рабілі таксама аклады: пасярэдзіне вокладкі часцей за ўсё змяшчалася гравіраваная на метале выява ўкрыжавання, а на навугольніках — евангелісты, вобраз Марыі, Магдаліны і інш. (Мсціжскае евангелле, Евангелле 1520 г. з Піншчыны, два евангеллі XVI ст.) [15]. Рукапісы часцей за ўсё «апраналіся» ў вокладкі з цісёнай скуры. Большасць рукапісаў XV—XVI стст. пісаны паўуставам, вылучаюцца выдатнай каліграфіяй. Пазней у асобных помніках з'явіўся скорапіс.

У той час як у беларускім іканапісу, скульптуры (а з XVI ст.— у гравюры) ужо ў ранніх помніках заўважаецца ўплыў заходнееўрапейскіх мастацкіх стыляў, у мініяцюры рукапісаў дамінавала візантыйская мастацкая традыцыя. Нельга забываць, што побач з мініяцюрамі знаходзіўся славянскі кірыліцкі тэкст. Галоўным перадатчыкам візантыйскага стылю ў рукапісы Беларусі былі, відаць, Балгарыя і Сербія. У канцы XIV ст., ратуючыся ад туркаў, у Вялікае княства Літоўскае перасяліліся некаторыя балгарскія і сербскія ілюмінатары кніг, якія знайшлі прытулак у беларускіх манастырах, дзе, можна меркаваць, у іх былі і вучні з асяроддзя мясцовага насельніцтва [16].

---

[12] Добрянский Ф. Описание... С. XXIV—XXXIX.

[13] Николаев Н. В. Славянская рукописная книга на белорусских землях в XIV—XVIII веках: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Л., 1988. С. 16.

[14] Миловидов А. Судьба русской книги в Северо-Западном крае в связи с его культурной историей. Спб., 1903. С. 2—3.

[15] Добрянский Ф. Описание... С. 6. № 2; С. 47. № 35; С. 49. № 37; С. 50. № 50.

[16] Adomonis T. Lietuvos XIV—XVI miniatiūra // Menotura. Vilnius, 1967. N 1. S. 210—211.

Разам з тым у Вялікім княстве Літоўскім працавалі і заходнееўрапейскія майстры. Пасля ўвядзення хрысціянства ў Літве пры Ягайле (1387) у манастырах побач з праваслаўнымі пачалі з'яўляцца і каталіцкія рукапісы. У другой палавіне XV ст. у бібліятэкі беларускіх і літоўскіх магнатаў сталі паступаць заходнееўрапейскія інкунабулы з гравюрамі. Усё гэта, безумоўна, уплывала на тагачасную мініяцюру, развіццё якой у XV—XVI стст. не ўкладваецца ў рэчышча толькі візантыйскай або заходняй традыцыі. Уздзейнічала на яе (асабліва ў арнаментыцы) і беларускае народнае мастацтва, што садзейнічала фарміраванню ўласнага самабытнага стылю.

Фігурныя мініяцюры ў рукапісах XV—XVI стст. сустракаюцца толькі зрэдку, у іх афармленні дамінуе арнаментыка. Як класіфікацыя распрацавана В. М. Шчэпкіным, а ў наш час — Л. У. Чарапнінымᅠ[17]. У цэлым яна характэрна і для рукапісаў Беларусі. У канцы XIV — пачатку XV ст. тэраталогію змяняе балканскі стыль з характэрнымі для яго кругамі ў некалькі ярусаў, рознымі кратамі, «васьмёркамі» і складанымі перапляценнямі геаметрычных форм — квадратаў, прамавугольнікаў, ромбаў і г. д. Час найвышэйшага развіцця балканскага стылю — канец XV — пачатак XVI ст. Амаль адначасова з ім развіваўся так званы новавізантыйскі арнамент, які як бы адраджаў схему класічнай візантыйскай застаўкі (панавала ў грэчаскіх рукапісах IX—X стст., а ў рускіх і беларускіх — у XI—XII стст.), але меў больш дробнае і складанае чляненне застаўкі і іншую колерную гаму. У XVI ст. пад уплывам старадрукаў у рукапісах з'яўляецца старадрукарскі арнамент, які складваўся пад уздзеяннем матываў Адраджэння, італьянскай і нямецкай графікі, арнаменту друкаваных выданняў («Вялікага прапіснога алфавіта» Ізраэля ван Мекенэма і г. д.). Гэты арнамент характэрны і для рукапісаў XVII ст.

Тыповым, характэрным узорам балканскага стылю з'яўляюцца застаўкі Тураўскага евангелля XV ст. Рукапіс знойдзены ў 1865 г. у Тураве разам са славутым Тураўскім евангеллем XI ст. Ён пісаны паўуставам на 282 аркушах. Тэкст на асобных старонках Тураўскага евангелля XV ст. (л. 12, 132б, 210 і інш.) закампанаваны ў выглядзе трохвугольніка.

У 1737 г. рукапіс быў пакладзены ў тураўскі храм св. Міколы, аб чым ёсць запіс на л. 13—14. На думку Ф. Дабранскага, гэта Тураўскае евангелле спісана з «арыгінала вельмі старажытнага, прытым беларускага»[18]. Застаўкі балканскага стылю змешчаны на л. 13, 86, 131, 213 і інш. Яны малююцца з геаметрычных кругоў у адзін рад і адзін ярус, мадэліраваны зялёнай, чырвонай і сіняй фарбамі.

[17] Щепкин В. Н. Русская палеография. М., 1967; Черепнин Л. В. Русская палеография. М., 1956.

[18] Добрянский Ф. Описание... С. 38—29. № 29.

М. С. Кацар у кнізе «Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду» (Мн., 1969. С. 17) рэпрадуцыруе адну з заставак і памылкова піша, што яна належыць Тураўскаму евангеллю XI ст. (захоўваецца ў БАН ЛітССР). Аднак гэта тыповая застаўка балканскага стылю ўзята з Тураўскага евангелля XV ст. Яна мае агульныя рысы з аздобамі рускага Устава царкоўнага 1438 г. [19]

Багата і своеасабліва афармлена Ваўковіцкае евангелле XV ст. [20], спісанае з вельмі старажытнага арыгінала. Пачынаючы з 247 ліста, у ім ёсць запіс, што яно ў 1751 г. пакладзена ў Ваўковіцкую царкву. Рукапіс пісаны на 324 аркушах уставам XV ст., карычневай і чырвонай фарбамі. Яго мастацкае аздабленне складаецца са шматлікіх ініцыялаў, заставак і арнаменту на палях, выкананым у стылі заходнееўрапейскіх бардзюраў. Ініцыялы трох тыпаў: балканскія (л. 6—7, 9б, 29б, 30б, 32б, 39, 41, 42, 50, 53, 58, 61, 75), тэраталагічныя (л. 67б, 72, 76б) і «простыя» г. зн. без пляцення (л. 19б, 57, 59 і інш.).

Застаўкі таксама змешаныя: адны нагадваюць балканскую пляцёнку (л. 2б, 48б, 96, 158), другія, больш адмысловыя, маюць характар палявога арнаменту, які вынаходліва кампануецца на палях рукапісу па ўзору бардзюраў заходнееўрапейскіх кніг (л. 17б, 28, 30б, 32б, 50, 54б, 58б, 64). Апошні арнамент прыкметна адыходзіць ад традыцыйнага, візантыйскага. Ён мае адмысловы малюнак, мадэліраваны зялёнай, карычневай і жоўтай фарбамі. Тэкст на асобных старонках Ваўковіцкага евангелля закампанаваны трохвугольнікам (л. 93, 95б, 157 і інш.).

Тут няма неабходнасці разглядаць усе вядомыя рукапісы з аздобамі балканскага і новавізантыйскага стыляў. Частку іх апісаў Ф. Дабранскі, які часам адзначае застаўкі [21]. Дванаццаць рукапісаў балканскага стылю аналізуе М. Нікалаеў [22].

У асобных рукапісах XV ст. сустракаюцца застаўкі з выявамі новазапаветных сюжэтаў. Так у Апостале XV ст., які ў XVIII ст. належаў Жыровіцкаму манастыру [23], звяртае на сябе ўвагу застаўка на л. 1 са сцэнай укрыжавання сярод расліннага арнаменту (такія сюжэтныя застаўкі з новазапаветнымі сцэнамі з'явіліся ў старадруках XVII ст.).

Прозвішчы перапісчыкаў, а тым больш мініяцюрыстаў сустракаюцца ў кнігах рэдка. У рукапісах «Фонду Дабранскага» пакінулі свае імёны «старац Хвоенскі» (у 1520 г. перапісаў Евангелле), «дзякан Іякімец» (у 1512 г. перапісваў Пралог), Макарый Янавіч, «з Гальшан родам» (у 1530 г. перапісваў Пралог).

---

[19] Древнерусское искусство. Рукописная книга. М., 1974. С. 246.

[20] Добрянский Ф. Описание... С. 36. № 28.

[21] Там жа. С. 89. № 69; С. 159. № 86; С. 422. № 257; С. 288. № 163; С. 281. № 141; С. 285. № 154.

[22] Николаев Н. В. Славянская рукописная книга... С. 15.

[23] Добрянский Ф. Описание... С. 33. № 22.

У 1582 г. у Слуцку «власною рукою» «княжа Алелька» перапісаў Евангелле.

Вялікую цікавасць для нашай тэмы ўяўляюць ілюстраваныя рукапісы. Іх захавалася не шмат. Відавочна, іменна гэтым тлумачыцца той факт, што і ў беларускіх старадруках ілюстрацыя была абмежаванай у колькасных адносінах; пераважную большасць фігурных дрэварытаў Скарына ў сваіх выданнях выносіць на першы ліст, надаючы ім фактычна функцыі тытула. Пазнейшыя беларускія друкары таксама аддаюць перавагу не ілюстрацыі, а франтыспісу, афармленню кніг у цэлым.

Найбольш папулярнымі мініяцюрамі рукапісаў Беларусі былі вобразы евангелістаў, якія даваліся звычайна перад пачаткам кожнага Чацвёраевангелля. Гэтыя вобразы, генеалогія якіх узыходзіць, відавочна, да познегатычнай практыкі змяшчаць у рукапісах умоўны партрэт паэта з музай, бачым у Аршанскім (XIII ст.), Лаўрышаўскім (XIV ст.), Шарашоўскім (XVI ст.), Жыровіцкім, Мелішаўскім і Жухавіцкім (усе XVI ст.) евангеллях.

Існуе меркаванне, што вобразы «святых пісьменнікаў» у kананічных кнігах як бы ўслаўляюць інтэлектуальную працу (гэтай ідэі нярэдка падпарадкавана і навакольная архітэктура: арка, брама і г. д.).

Выдатным рукапісным помнікам з'яўляецца Жыровіцкае евангелле (або Евангелле Сапегі), якое датуецца XV—XVI стст. У Жыровічы рукапіс трапіў з Брэста. Евангелле напісана на 404 аркушах уставам XV ст. На 376—377 л. ёсць фундушавы запіс Льва Сапегі, у якім гаворыцца, што ён даруе жыровіцкай Успенскай царкве «шмат зямлі»[24]. У рукапісу змешчаны мініяцюры з выявамі евангелістаў Мацвея (л. 10 б), Марка (л. 114 б), Лукі (л. 185 б), Іаана (л. 297 б). Евангелісты змешчаны ў простых рамках без узораў (толькі Мацвей пададзены ў арнаментаванай рамцы). Усе яны сядзяць за невысокім столікам і пішуць. Зверху — іх сімвалы: анёл з кнігай над Мацвеем, бык над Лукой, арол над Маркам, леў над Іаанам. Мініяцюры зроблены ў візантыйскім стылі, але ў дэкоры, што на рамцы з выявай Мацвея, бачым арнамент заходняга тыпу. У выяве архітэктуры на заднім плане даследчыкі адзначаюць рысы готыкі[25].

Усе мініяцюры вытрыманы ў цёплых танах, выдатна згарманізаваны між сабой насычаныя колеры адзення «святых пісьменнікаў».

Застаўкі Жыровіцкага евангелля (л. 11, 115, 186, 298) зроблены ў балканскім і новавізантыйскім стылі. Як і евангелісты, яны мадэліраваны блакітнай, аранжавай, зялёнай і чырвонай

---

[24] Добрянский Ф. Описание... С. 41. № 32.
[25] Червоная С., Богданас К. Искусство Литвы. Л., 1972. С. 27.

фарбамі на залатым фоне. У такім жа стылі выкананы маляўнічыя ініцыялы (л. 1, 2, 6, 111 б, 183, 291 б і інш.) [26].

Калі мініяцюры Жыровіцкага евангелля паводле стылю ўзыходзяць да палеалогаўскага рэнесансу, то аналагічныя выявы Шарашоўскага евангелля XVI ст. (зберагаецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР) выкананы ў традыцыях, сугучных народнаму прымітыву. Рукапіс доўгі час быў напрастольным у царкве Нараджэння Маці боскай у Шарашове, пазней быў упісаны ў інвентар прыходскай царквы сяла Пагост-Гарадзец, а ў канцы XIX ст. захоўваўся ў Віцебскім краязнаўчым музеі [27]. Шарашоўскае евангелле пісана на польскай і нямецкай паперы XVI ст., аб чым сведчаць філіграні (дзік, карона, кола і інш.). Выявы евангелістаў Мацвея, Іаана, Марка і Лукі — самыя наіўныя ў кніжным жывапісе Беларусі. Умоўныя прапорцыі, імкненне да плоскаснай трактоўкі і лаканізму пісьма, пабудаванага на шырокіх, сакавітых і дэкаратыўных спалучэннях чырвоных, ружовых і залацістых фарбаў, спрошчаны малюнак нагадваюць зробленыя ў такім жа наіўным стылі мініяцюры ўкраінскіх рукапісаў XVI ст. [28] Мініяцюры вабяць спалучэннем прастаты і рэдкай шчырасці выканання.

Вельмі мажорнае, дэкаратыўнае і афармленне старонак Шарашоўскага евангелля. Шырокія (амаль на трэць старонкі) застаўкі, буйныя плеценыя ініцыялы, выкананае карычневай фарбай шчыльнае ўстаўнае пісьмо гавораць пра добрае адчуванне мастаком кампазіцыі. Застаўкі, змешчаныя ў пачатку евангелля, як бы дэманструюць усе характэрныя асаблівасці і багацце балканскага стылю: чоткія геаметрычныя кругі ў тры ярусы, жгуты, што ўтвараюць складанае пляценне, адгалінаванні ў выглядзе візантыйскага «крына». Усё гэта часам нагадвае дыван, карункавасць якога ўзмацняюць залацістыя бледна-зеленаватыя і бледныя ружовыя фарбы. Перад намі стыль тыповага балканскага арнаменту, характэрны для рукапісаў XV ст.

Заслугоўваюць таксама ўвагі мініяцюры Жухавіцкага евангелля, якое датуецца XV—XVI стст. (рукапісны аддзел БАН ЛітССР, F21, № 805). Рукапіс, паводле запісу на л. 1, у 1733 г. быў падараваны Жухавіцкай царкве на Наваградчыне (адсюль назва). У ім 347 аркушаў. Пазней рукапіс захоўваўся ў Беларускім музеі ў Вільні, адкуль трапіў у БАН ЛітССР [29]. Як і ў Шарашоўскім евангеллі, у рукапісу бачым застаўкі (перад пачаткам

---

[26] Шматаў В. Ф. Жыровіцкае евангелле // ЭЛіМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 463.

[27] Высоцкая Н. Ф. Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1980. Іл. 23—25.

[28] Логвин Г. Н. З глибінь. Давня книжкова мініатюра XI—XVIII століть. Київ, 1974. С. 102, 112, 116.

[29] Такі ж лёс напаткаў іншыя рукапісныя кнігі: Мелішаўскае евангелле (F21, № 809), Аглашэнні Фёдара Студзіта XV ст., Слуцкі памяннік XIV ст., Трэбнік 1545 г. (F21, № 2306) і інш.

кожнага евангелля) і вобразы чатырох евангелістаў, якія паводле свайго «наіўнага стылю» набліжаюцца да Шарашоўскага евангелля. Мініяцюры вабяць жыццёвай трактоўкай твараў евангелістаў, гарманічным спалучэннем цёплых і халодных фарбаў.

Тэндэнцыя да пераадолення візантыйскага стылю найбольш яскрава выявілася ў мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, які датуецца XV ст., але быў перапісаны з больш старажытных (магчыма, XI—XIII стст.) арыгіналаў [30].

У рукапісу 618 мініяцюр, у якіх паказаны многія бакі жыцця Старажытнай Русі — палітычнага, ваеннага, гандлёвага, эканамічнага. Сюжэтнае багацце мініяцюр Радзівілаўскага летапісу робіць яго сапраўдным мастацкім летапісам сярэднявякоўя. У адрозненне ад іншых тагачасных мініяцюр малюнкі ў гэтым рукапісу заключаны не ў традыцыйныя рамкі, а размешчаны непасрэдна сярод тэксту. Як адзначаюць даследчыкі, у многіх мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу адзенне персанажаў, архітэктура, мэбля, а таксама характар кампазіцыі і нават манера выканання малюнка маюць заходні характар, прычым, як пісаў А. Някрасаў, гэта «не выпадковае перайманне з Захаду, а асобная культура, іншае светаўспрыманне, поўныя ідэі пачуццёвай жывапіснай прасторы. Тут ляжыць прынцыповы разрыў з візантыйскай традыцыяй» [31].

Сярод помнікаў XVI ст. заслугоўвае ўвагі Слуцкае евангелле, перапісанае ў 1582 г. слуцкім князем Юрыем Алелькам. У ім ёсць прыпіска, што «Юры Юр'евіч Алелька ў Слуцку року божага 1582 сам сваёю рукой уласнаю перапісаў, што пачынае золатам, а далей простым чарнілам». Гэта рэдкі выпадак, калі перапісчык адзначыў матэрыял (золата, чарніла). Застаўкі Слуцкага евангелля выкананы ў новавізантыйскім стылі, з шырокім ужываннем пазалоты.

Выразныя мініяцюры Служэбніка XVI ст. (ДГМ). Ён пісаны на паперы з вадзяным знакам «вепр», але мініяцюры выкананы на пергаменце і ўклеены ў рукапіс. На адвароце л. 180 над тэкстам змешчаны надпіс: «Мазал Андрейчина многогрешны». Магчыма, гэта прозвішча мастака, які выконваў мініяцюры (слова «мазал» ужывалася ў беларускай і ўкраінскай мовах у значэнні «маляваў», «пісаў»). Паходжанне Служэбніка не высветлена. Па характару афармлення рукапіс хутчэй за ўсё стварaўся ў Беларусі. Арнаментыка вакол выявы Георгія Дваяслова блізкая да Жыровіцкага евангелля. Палявы арнамент на асобных старонках прыкметна набліжаецца да Ваўковіцкага евангелля. Цікава, што ў Служэбніку змешчаны рэдкі ў рукапісах прамаву-

---

[30] Аб рукапісу існуе значная літаратура, якая разгледжана В. Падабедавай у кнізе «Миниатюры русских исторических рукописей» (М., 1965).

[31] Некрасов В. И. Древнерусское изобразительное искусство. М., 1937. С. 191.

гольны ініцыял з выявай касулі (загалоўныя літары, пачынаючы ад кніг Скарыны, шырока ўжываліся ў беларускіх старадруках).

Высокім узроўнем выканання вылучаюцца і мініяцюры Мелішаўскага евангелля (XVI ст.) з Брэстчыны. Апрача шматлікіх аздоб у рукапісу змешчаны чатыры выявы евангелістаў — магчыма, самыя жыццёвыя. Выцягнутыя, але гарманічныя, дакладныя прапорцыі, жывы і выразны тыпаж, аб'ёмнае вырашэнне інтэр'ера, майстэрская мадэліроўка формы — усё сведчыць пра адмысловы талент выканаўцы з Мелішава. Вабіць і гарманічная колеравая гама: залацісты фон, умела згарманізаваныя карычневыя таны будынкаў з вэлюмам на другім плане. У вертыкальна выцягнутых вокнах намечаны вітражы, характэрныя для гатычных збудаванняў. Ад готыкі ідзе і свядомая выцягнутасць фігур. Пашыраюцца кантакты з заходнееўрапейскім мастацтвам, аб чым сведчаць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу.

Мастацкае ўбранне рукапісаў Беларусі, якое склалася да пачатку друкарства, у абагульненым выглядзе ўяўляецца такім. Тытульнага ліста яны не мелі (да XVII ст.). Франтыспісам часцей за ўсё з'яўлялася «партрэтная» мініяцюра з выявай евангеліста. Першая старонка зверху ўпрыгожана застаўкай, тэкст пачынаўся з вялікага маляўнічага ініцыялу, якому нярэдка папярэднічала назва главы, напісаная кінаварнай вяззю.

Якая сувязь гэтага афармлення з першадрукамі Скарыны? Факты сведчаць, што Скарына рашуча парваў з царкоўнаславянскай рукапіснай традыцыяй; імкнучыся дасягнуць лепшых узораў «чорнага мастацтва», ён смела звярнуўся да традыцый заходнееўрапейскай друкаванай кнігі. Кірыліцкі шрыфт яго Бібліі, што сваім вертыкалізмам нагадвае ўстаў (і нават глаголіцу) — далёкі ад рукапіснага. Яшчэ далей ад рукапісаў прамавугольныя ініцыялы Скарыны з выявай пуці, чарапоў, аголеных жанчын, раслін, сонца і месяца — такіх малюнкаў рукапісы не ведаюць. Вязь Скарына ўжыў толькі аднойчы, ды і то не ў тэксце, а на сваім партрэце. Ігнараваў ён і характэрную для рукапісаў кінавар — пражскія выданні (за выключэннем кнігі «Песня песняў», 1518) надрукаваны адной чорнай фарбай.

Пераадоленне Скарынам таго «комплексу непаўнацэннасці» перад шматвяковай красой рукапісаў, які, пачынаючы з Гутэнберга, адчувалі амаль усе раннія друкары (асабліва кірылічныя — Фіёль, Макарый), найбольш выяўляецца ў ілюстрацыях. Аўтару гэтых радкоў невядомы ніводзін беларускі рукапіс са старазапаветнай тэматыкай мініяцюр. У 1507 г. беларускі перапісчык Мацей Дзесяты «в монастыри пречистые Благовещания, нарицаемом Супрасле, в державе благоверного і христолюбивого вельможи Александра Ходкевича» стварыў рукапісную Біблію (захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы АН СССР) [32]. Вядомы

[32] Аб ёй гл.: Свирин А. Н. Искусство книги Древней Руси XI—XVII вв. М., 1974; Нікалаеў М. Мацей Дзесяты і «Дзесяціглаў» // Беларусь. 1987. С. 22—23.

таксама асобныя рукапісныя біблейскія кнігі (у тым ліку стара запаветныя) [33]. Ілюстрацый у іх няма. Скарына, такім чынам, не мог абаперціся на традыцыі ілюмінаваных рукапісаў, дзе дамінавалі выявы адных евангелістаў (магчыма, «святыя пісьменнікі» навялі яго толькі на думку змясціць у Бібліі ўласны партрэт). І ён смела звярнуўся да заходнееўрапейскай (пераважна нямецкай) гравюры. Меў рацыю А. А. Сідараў, які пісаў, што «выданні Скарыны больш блізкія да заходнееўрапейскіх, чым нават выкананыя ў Венецыі славянскія кнігі» [34]. У гэтым пераконвае і аналіз кніг асветніка.

**Ад Швайпольта Фіёля да Францыска Скарыны.** Напісаная каля 60 гадоў таму назад, таленавітая праца М. Шчакаціхіна аб гравюрах Скарыны не страціла навуковай вартасці і сёння [35]. Тым не менш асобныя праблемы афармлення Скарынавых першадрукаў у ёй фактычна толькі пастаўлены і патрабуюць далейшага, больш паглыбленага вывучэння. Да іх, у прыватнасці, належыць закранутая вышэй праблема сувязі графікі асветніка з мініяцюрай славянскіх рукапісаў, а таксама з выданнямі кірыліцкіх папярэднікаў Скарыны і заходнееўрапейскай мастацкай традыцыяй. Асобныя пытанні мастацтва кніг Скарыны (тыпаграфіка, дызайн, тэхніка друку, двухколернасць, асаблівасці шрыфту, паперы і інш.) Шчакаціхін, як і пазнейшыя аўтары, не закранаў наогул.

Як адзначалася, у XVI ст. і пазней на Беларусі па-ранейшаму ствараліся рукапісы, якія аздабляліся шматфарбнымі мініяцюрамі. І тым не менш у гэты час мініяцюра, што дасягнула свайго найвышэйшага ўзроўню, была цудоўнай, але ўжо затухаючай галіной мастацкай вытворчасці. Многія рукапісы па-ранейшаму перапісваліся ў манастырах і былі даступныя невялікай колькасці чытачоў. Уплыў на ўсходнеславянскія землі рэнесансавай культуры, шырокі рэфармацыйны рух у Беларусі і Літве патрабавалі мастацтва больш дэмакратычнага і аператыўнага, звернутага да шырокай аўдыторыі. Гэтыя функцыі лепш і больш паспяхова магла выканаць шматтыражная гравюра старадрукаў. Яна не проста замяніла мініяцюру, але стала важным дасягненнем кніжнага мастацтва. Яна стварыла сваю спецыфічную графічную мову — простую, дакладную, выразную і лаканічную, якая лепш адпавядала часу. Кніжны дрэварыт цудоўна звязваўся з наборнай паласой, шрыфтам, чорна-белым друкам. Яркая шматколернасць мініяцюр у друкаваных кнігах была рашуча заменена чорна-белай асновай, маляўніча-танальная мадэліроўка ўступіла месца скупому аскетызму контураў, ліній, лакані-

---

[33] Добрянский Ф. Описание... С. XIII—XIV.

[34] Сидоров А. А. Художественно-технические особенности славянского первопечатания // У истоков русского книгопечатания. М., 1959. С. 66.

[35] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 180—227.

най штрыхоўцы, якая асабліва выразная ў ранняй абразной гравюры на дрэве.

Аднак новая друкарская эстэтыка ўсталявалася ў інкунабулах не адразу. На раннім этапе развіцця друкарства агульным у Гутэнберга і яго кірыліцкіх паслядоўнікаў было імкненне друкаваным спосабам узнавіць знешнасць кніг рукапісных. Але была і істотная розніца. На Захадзе друкары (Гутэнберг, Менцэлін і нават Мануцый) доўгі час учэпіста трымаліся за працу ілюмінатараў, даючы ім магчымасць ад рукі заканчваць фарбамі працу друкароў (дзеля гэтага ў наборы нярэдка спецыяльна пакідаліся пустыя квадраты для ініцыялаў). У кірыліцкай кнізе, якая з'явілася пазней, такія выпадкі невядомыя — яна адразу стала на шлях друкарскага аздаблення, выкарыстоўваючы для гэтага гравюру на дрэве. Аднак, як і ў заходніх інкунабулах, друкарская эстэтыка сцвярджалася ў кірыліцкай кнізе паступова, шляхам пераадолення ўплыву рукапісных традыцый, вельмі прыкметных у выданнях першых еўрапейскіх друкароў. Тут неабходна адзначыць галоўныя этапы гэтай эвалюцыі, якая прывяла ў выданнях Скарыны да перамогі чыста друкарскіх прынцыпаў аздаблення над рукапісным.

Першы «рукапісны» этап ярка дэманструюць выданні Швайпольта Фіёля, выпушчаныя ў 1490-я гады ў Кракаве (Актоіх, Часаслоў, «Трыёдзь каляровая» і інш.). Кірыліцкі шрыфт для яго (10 радкоў — 78 мм) згодна з дакументацыяй выканаў Рудольф Барсдорф з Браўншвейга. Часаслоў выпушчаны «ў чацвёрку», астатнія кнігі — у 1/2 долю аркуша. У мастацка-тэхнічных адносінах кнігі Фіёля далёкія ад дасканаласці: набор няўмелы, выключка радкоў благая, словы ў радках месцамі зліваюцца ў суцэльную стужку (прабельным матэрыялам, шпацыямі майстры Фіёля карысталіся няўмела), месцамі прапушчаны асобныя літары [36]. У Актоіху адна заставка (яна, дарэчы, адціснута і ў іншых кнігах), адзін ініцыял, франтыспіс з гравюрнай выявай «Укрыжавання», зробленага ў традыцыях нямецкай школы гравюры, і геральдычны відарыс з гербам горада Кракава на шчыце.

Найбольш мастацкім старадрукам Фіёля з'яўляецца «Трыёдзь каляровая», у адным з экземпляраў якой паўторна адціснута згаданае «Укрыжаванне» і новы друкарскі знак (у выглядзе стужкі з подпісам) і значная колькасць ініцыялаў — 63 адбіткі (з 13 дошак). У іх малюнку дамінуе распаўсюджаны ва ўсходнеславянскіх рукапісах балканскі арнамент [37].

Амаль адначасова з дзейнасцю Фіёля кірыліцкае друкарства ўзнікла на тэрыторыі паўднёвых славян, дзе яго заснавальнікам

---

[36] Сидоров А. А. Художественно-технические особенности славянского первопечатания // У истоков русского книгопечатания... С. 54—55.

[37] Немировский Е. Л. Описание изданий кирилловского шрифта. Вып. 1. Описание изданий типографии Швайпольта Фиоля. М., 1979. С. 6.

стаў Макарый, які выдаў у Цэтыні некалькі кніг (Актоіх 1494 г., Псалтыр 1495 г. і інш.). У сэнсе мастацкай аздобы яго выданні былі новым крокам у параўнанні з кніжкамі Фіёля. Прыгожы буйны шрыфт Макарыя вылучаецца мастацкай дасканаласцю, у кнігах шмат кінавары, якая выдатна спалучаецца з чорнай фарбай, надаючы старонкам мажорнае, дэкаратыўнае гучанне. Аздобы паўднёваславянскага друкара, як і ініцыялы Фіёля, імітуюць балканскую «пляцёнку».

У 1508 г. кірыліцкае друкарства пачалося ў Румыніі (Служэбнік 1508 г., Асьмагласнік 1510 г., Чацвёраевангелле 1512 г.). Кнігі ўпрыгожаны застаўкамі і ініцыяламі балканскага стылю, якія ўзыходзіць да арнаментыкі рукапісаў.

Праз 9 гадоў пасля пачатку кнігадрукавання ў Румыніі ў чэшскай Празе разгарнулася шмат у чым загадкавая дзейнасць вялікага беларускага асветніка-гуманіста Францыска Скарыны. У вырашэнні рада мастацкіх праблем Скарына выступае сапраўдным наватарам. Дагэтуль даследчыкамі не ацэнены той факт, што з яго імем звязаны не толькі пачатак друкарства на ўсходнеславянскіх землях, але і з'яўленне тут новага віду мастацтва — гравюры. У кнігах Скарыны ўпершыню ў сусветным кірыліцкім друкарстве досыць поўна прадстаўлены амаль усе кампаненты кніжнай графікі: тытульны ліст (Фіёль і Макарый яго не ведалі), франтыспіс, ілюстрацыя (пастаронкавая і тэкставая), партрэт, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы, наборны арнамент. Прычым яны дадзены ў Бібліі не як «разрозненая экспазіцыя», але як цэльнае і непарушнае адзінства, прыгожы ансамбль, сінтэз, які пракладаў шлях да тыпаграфікі (у гэтым Скарына таксама быў наватарам) і кніжнага дызайну.

Высокі мастацкі ўзровень кніг Скарыны агульнапрызнаны. Паводле Уладзімірава, «кнігі Скарыны ў друкарскіх адносінах далёка пераўзыходзяць не толькі папярэднія царкоўнаславянскія выданні, але нават і сучасныя Скарыну венецыянскія»[38]. Іншыя даследчыкі (Шчакаціхін, Някрасаў, Сідараў, Кацар і інш.) таксама адзінадушна прызнаюць, што скарынаўскія выданні адзначаны не рысамі наіўнага вучнёўства, а смелага і дасканалага друкарска-мастацкага майстэрства.

Наватарскі падыход Скарыны да праблем кніжнага мастацтва нельга зразумець без уліку асаблівасцей яго кнігавыдавецкай праграмы. Фіёль у Кракаве і Макарый на Балканах у асноўным выпускалі кнігі для патрэб царквы (актоіхі, трыёдзі, трэбнікі, чацвёраевангеллі і інш.). Недаацэньваць іх, вядома, нельга, бо, як даказана гісторыкамі, распаўсюджанне праз друк нават богаслужэбных кніг было сродкам нацыянальнай і сацыяльнай кансалідацыі працоўных мас. Але пра асветніцкае, грамадскае прызначэнне кнігадрукавання ў славянскім свеце першым загаварыў Скарына. Загаварыў адкрыта, прама, часам дзёрзка,

[38] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... С. 201.

амаль што з выклікам. Свае выданні ён выпускаў з мэтай «познати мудрость и науку», «абы научившися мудрости добре жили на свете» [39]. Невыпадкова сваю друкарскую дзейнасць асветнік пачаў з Псалтыра, які ў тыя часы выконваў і ролю падручніка. Па вобразнаму выказванню Л. Уладзімірава, Біблія была для Скарыны «своеасаблівай энцыклапедыяй і літаратурнай хрэстаматыяй» [40]. «В сей книзе,— піша асветнік у сваёй прадмове да Бібліі,— всее прироженое мудрости зачало и конец... В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, пописаны суть... Ту навчение философии добронравное...» І далей асветнік працягвае: «Хочеши ли умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее» [41].

Гэтыя і іншыя выказванні беларускага гуманіста пацвярджаюць меркаванне А. А. Сідарава, які назваў Скарыну «першым славянскім дзеячам кнігі, які свядома аднёсся да кнігі як да зброі асветы, ідэйнага ўзбагачэння чалавека, а не для дапамогі богаслужэнню» [42].

Асветніцкая накіраванасць кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны, што ярка выступае на фоне ранняга кірыліцкага друкарства, прыкметна адбілася на мастацтве яго выданняў. Кніга патрабавала далейшай дэмакратызацыі: змяншэння фармату, лепшай чытэльнасці (а значыць, і рэформы) шрыфту, новай прасторава-дэкаратыўнай арганізацыі старонак, падыходу да ілюстрацый як сродку раскрыцця ў мастацкіх вобразах зместу кнігі. Паставіўшы задачу даць суайчыннікам кнігу не для богаслужэння, а для «размножения мудрости и науки», Скарына першы ўказаў на грамадскі сэнс і прызначэнне для шырокага чытача не толькі фігурных гравюр, але таксама мастацка-дэкаратыўных элементаў, аздобы, якія прызначаліся «для лепшага разумення». Ідэйна-сэнсавае, а не толькі дэкаратыўнае, эмацыянальнае значэнне мае ў яго кнігах і кінавар, ужытая, як адзначалася, досыць абмежавана, але патрэбная «ко знойдению скоро всякой речи».

Адным з асноўных дасягненняў Скарыны было рашучае пераадоленне рукапіснай традыцыі, за якую моцна трымаліся папярэднія славянскія друкары, сцверджанне ў кнізе новай друкарскай эстэтыкі. Без перабольшання можна сказаць, што беларускі асветнік-гуманіст стаў першым кнігавыдаўцом, які ўзняў кірыліцкае друкарства на ўзровень найвышэйшых дасягненняў заходнееўрапейскай кнігі, і невыпадкова У. Стасаў называў яго выданні «славянскімі Эльзевірамі». Яшчэ ў 1872 г. А. Гатцук

[39] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 20.
[40] Владимиров Л. И. Издания и переводы Библии в Великом княжестве Литовском // Федоровские чтения. 1981. М., 1985. С. 36.
[41] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 62.
[42] Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. С. 23.

пісаў, што ў «Скарынавых выданнях першы раз друкарскае мастацтва ў адносінах друкавання кніг кірыліцкай азбукай з'яўляецца ўжо зусім свабодным ад вузкіх рамак і сродкаў першабытнага друкарства, а таксама і ад рабскага пераймання рукапісаў: гэта ў друкарскіх адносінах па тым часе і зусім арыгінальныя выданні» [43].

Прыгадаем іх асноўныя асаблівасці. Усе пражскія выданні выпушчаны аднолькава малым фарматам, «у чацвёрку». Акрамя эканамічных меркаванняў (змяншэнне фармату рабіла выданне больш танным) «кішэнны» фармат садзейнічаў дэмакратызацыі Бібліі, рабіў яе больш зручнай у карыстанні. Двойчы (у Псалтыру і кнізе «Левіт») Скарына называе свае выданні «малымі кнігамі». Асабліва ярка гучаць яго словы ў апошнім выданні: «Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им» [44].

У Вільні Скарына зрабіў далейшы крок на шляху дэмакратызацыі сваіх выданняў: «Малая падарожная кніжка» (1522) і Апостал (1525) выпушчаны ім «у васьмёрку». У многіх адносінах віленскія выданні з'явіліся новым друкарска-мастацкім дасягненнем, рашучым крокам наперад ад сярэдневяковых рукапісных традыцый да сучаснага мастацтва кнігі.

Пра якасць паперы выданняў Скарыны думкі даследчыкаў разыходзяцца. І. Штрытэр у 1783 г. сцвярджаў: «Папера такая добрая, што лепшай быць не можа» [45]. Аднак А. Я. Мацюк у наш час піша, што «ва ўсіх прагледжаных намі кнігах Бібліі выяўлена тоўстая папера са слабапрыкметнай сеткай дна формы, на якой яна адлівалася. Гэта магла быць упаковачная папера або папера, прызначаная для ўстаўкі ў вокны» [46]. Мы праглядзелі паперу пражскіх выданняў Скарыны ў зборы Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе, дзе кнігі асветніка прадстаўлены даволі добра. Высветлілася, што фірменная папера з філігранямі ўжыта ў першым пражскім выданні — Псалтыру. Філіграні такія: галава быка (л. 7, 9, 21, 26—27, 35, 40—41, 44, 66, 69), карона без дыядэмы (л. 133—149), крыж (л. 132, 136). Малюнак філіграней (асабліва «галава быка») блізкі да вадзяных знакаў нямецкага паходжання. У гэтай сувязі варта прыгадаць П. Уладзімірава, які пісаў, што Скарына набыў паперу ў аўгсбургскага друкара і ўладальніка паперы Шоншпергера.

Усе астатнія пражскія выданні надрукаваны на паперы нізкіх

---

[43] Гатцук А. Очерк истории книгопечатного дела в России // Рус. вестник. 1872. Т. 99, кн. 5. С. 323.

[44] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 82.

[45] Штриттер И. Г. Описание первого издания в печать и перевода на российский язык священной Библии в 1517—1519 годах // Опыт трудов Вольного российского собрания при имп. Московском ун-те. 1783. Ч. 6. С. 180.

[46] Мацюк О. Я. Заметки о бумаге пражских изданий Ф. Скорины // Белорусский просветитель Ф. Скорина... С. 189—190.

гатункаў без філіграней. На думку Мацюка, Скарына мог выкарыстаць танную чэшскую паперу, якая з 1499 г. выраблялася ў Празе і Збраславе.

Паперу віленскіх выданняў даследаваў М. Шчакаціхін. У «Малой падарожнай кніжцы» і Апостале ён выявіў філіграні, што маюць аналогіі ў нямецкай і італьянскай (радзей) паперы [47].

Вывучаючы паперу Скарыны, нельга не заўважыць такіх момантаў: 1) папера, на якой у Празе друкаваліся біблейскія кнігі, у віленскіх выданнях не сустракаецца; 2) папера «Кніжкі» і Апостала — розная; 3) асобныя філіграні Апостала падобныя на філіграні пражскага Псалтыра толькі па тыпу («галава быка», «кабан»), але не паводле памераў і малюнка.

Напрошваюцца наступныя высновы. Нізкаякасная танная папера была выкарыстана пры друкаванні Бібліі. Таму, ад'язджаючы з Прагі, Скарына здабыў новую паперу, якую ўжыў у віленскай «Кніжцы». У Апостале выкарыстана папера з новымі філігранямі — сведчанне таго, што асветнік купляў паперу па частках. Большасць філіграней гавораць пра яе нямецкае паходжанне.

Дзевятнаццаць біблейскіх кніг Скарыны (з 20) надрукаваны адной чорнай фарбай. У мастацка-эстэтычным плане гэта быў, з аднаго боку, рашучы адыход ад рукапісных традыцый, за якія ўчэпіста трымаліся папярэднікі Скарыны, а з другога — адчуванне ім прыгажосці чыста друкарскай эстэтыкі, пабудаванай на лаканічных эфектах кантрасту белай паперы з чорным шрыфтам і чорнаштрыхавой абразной гравюрай. Аднаколерны друк і набор былі выгадныя і з вытворча-эканамічнага боку: яны значна прасцей і танней.

Разам з тым Скарына ў Празе двойчы звярнуўся да кінавары: у кнізе «Песня песняў» і на агульным тытуле Бібліі. Мы лічым, што двухколерны друк Скарыны быў двухпрагонным з дзвюх форм. У гэтым пераконвае накладка чорных элементаў набору (літар, цэлых радкоў тэксту, аздобы) на чырвоныя — сведчанне таго, што «чырвонае» ў кнігах Скарыны друкавалася раней за «чорнае». У тыя часы ў Еўропе такі спосаб друку лічыўся найбольш прагрэсіўным [48].

Асобнага вывучэння заслугоўвае шрыфт Скарыны, які з'яўляецца выдатным помнікам славянскага друку. Я. Нёміроўскі паказаў, што ў склад пражскай гарнітуры ўваходзяць шэсць асноўных тыпамераў: вялікі, сярэдні, малы прапісны шрыфт, радковы з падрадковымі знакамі і лігатурны шрыфт. Вышыня

[47] Шчакаціхін М. М. Да пытання аб храналогіі Малое Падарожнае кніжыцы Скарыны // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 3. Працы класа гісторыі. Т. 2. Мн., 1928. С. 435—450.

[48] Больш падрабязна пра гэта гл.: Шматов В. Ф. Художественно-технические особенности виленских изданий Скорины // Федоровские чтения. 1982. М., 1986. С. 49—69.

10 радкоў — 75 мм. Адзначана і своеасаблівае напісанне асобных літар, якія нярэдка існуюць у розных малюнках.

У склад віленскай гарнітуры ўваходзяць чатыры тыпамеры: прапісны, радковы з падрадковымі знакамі, лігатурны шрыфт. Для загалоўкаў, калонтытулаў віленскіх выданняў быў выкарыстаны малы прапісны шрыфт Бібліі [49], які разам з ініцыяламі і сцішыцамі (выкарыстаны ў «Малой падарожнай кніжцы») Скарына перавёз з Прагі ў Вільню. Вышыня 10 радкоў віленскай гарнітуры шрыфту — 52—53 мм.

«Белых плям» у вывучэнні Скарынавага шрыфту застаецца яшчэ нямала. Трэба адзначыць, што ў кірыліцкім друкарстве шрыфт Скарыны, па сутнасці, не мае аналогій (толькі С. Будны і В. Цяпінскі карысталіся падобным шрыфтам, зробленым пад бясспрэчным уплывам Скарыны). Ён прыкметна розніцца ад шрыфту Фіёля, Макарыя, Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. Выразны вертыкалізм літар Бібліі нагадвае ўстаў. Больш таго, паводле назіранняў А. А. Сідарава, асобныя літары (радковыя «В», «У» і інш.) прымушаюць успомніць глаголіцу. Але, як паказаў Я. Ф. Карскі, большасць Скарынавых літар узыходзяць да паўуставўнага пісьма.

Даследчыкі неаднаразова спрабавалі высветліць паходжанне шрыфту Бібліі. П. Уладзіміраў лічыў, што ён узыходзіць да царкоўнаславянскіх помнікаў, некаторых грамат на пергаменце XV ст., у прыватнасці Літоўскай метрыкі. Паводле В. Пуцко, асобныя літары нагадваюць літары полацкага крыжа-рэлікварыя. Даброўскі пісаў, што Скарына наведваў Венецыю, дзе «мог здабыць славянскія наборныя знакі, і ўжытыя ім літары сапраўды нагадваюць не руска-славянскі друк, а хутчэй тыя, якімі друкавалі ў Венецыі свае кнігі сербы ў XVI ст.» [50]

Гэтыя цікавыя назіранні не даюць усё ж адказу на пытанне: якія канкрэтна помнікі з'явіліся крыніцамі Скарынавага шрыфту? Магчыма, такіх помнікаў не існуе наогул — гэты шрыфт не капіраваўся, а быў мадыфікаваны адпаведна з законамі друкарскага мастацтва. Імкнучыся да лепшай чытэльнасці, майстры Скарыны свядома адыходзілі ад рукапіснага паўустава, зрабіўшы менавіта *друкарскі* шрыфт. Нельга не адзначыць характэрную рысу шрыфту пражскіх і віленскіх кніг — ён вельмі «азаходнены», што звязана з уплывам на яго лацінскай антыквы. Апошняе лёгка зразумець: шрыфт Скарыны ствараўся на Захадзе, дзе ў XV—пачатку XVI ст. ажыццяўляліся самыя значныя рэформы ў развіцці шрыфту, звязаныя з імёнамі Мікалая Іенсана (1420—

[49] Неміроўскі Я. Л. Шрыфт // Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988. С. 553—554.

[50] Владимиров П. А. Доктор Франциск Скорина... С. 70; Пуцко В. Славянская надпись на кресте-реликварии из Полоцка // Slovo 30. Časopis staroslavenso zavoda. Zagreb, 1980. S. 118; Dobrovsky J. Literarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommen Reise nach Schweden und Rußland. Prag, 1796. S. 105—108.

1480), вучня Леанарда да Вінчы Пачолі (1445/50—1514), Дзюрэра (1471—1528), Жафруа Торы (1480—1533) і інш. На наш погляд, шрыфт Скарыны зазнаў уплыў шрыфту Іенсана.

У цэлым у распрацоўку друкаванага кірыліцкага шрыфту асветнік унёс нямала новага. Ён першы чотка адрозніў форму загалоўных літар ад радковых. Імкнучыся да дасягнення лепшай чытэльнасці, майстры скарынаўскага шрыфту звялі да мінімуму надрадковыя знакі (цітлы), так характэрныя для Фіёля, Макарыя. Зручнасці чытання садзейнічае і адсутнасць лігатур, шырока распаўсюджаных у царкоўнаславянскіх рукапісах і інкунабулах (у тым ліку заходніх).

Даследчыкі (Уладзіміраў, Карскі і інш.) выказвалі меркаванне, што ў стварэнні шрыфту, дакладней, яго малюнка, прымаў удзел сам Скарына[51]. Гіпотэзу пацвярджае той факт, што шрыфт віленскіх кніг ( ён, відаць, стварауся ў Вільні, інакш майстры Бібліі хоць аднойчы б выкарысталі яго ў Празе, напрыклад у подпісах да гравюр) паводле малюнка ўзыходзіць да пражскага.

Цікава, што так званыя амстэрдамскія шрыфты, якія папярэднічалі рускай грамадзянскай азбуцы, ствараліся «з выкарыстаннем малюнкаў шрыфтоў Скарыны»[52]. Такім чынам, шрыфт беларускага асветніка прычыніўся да стварэння грамадзянскага шрыфту Пятра І.

Паколькі большасць скарынаўскіх кніг выходзілі з друку асобнымі выпускамі, асветнік вялікае значэнне надаваў тытульным лістам. На тытулах пражскіх выданняў звычайна давалася ілюстрацыя (яна займала 2/3 аркуша) з надпісам. Пад ёй з вялікага гравіраванага ініцыяла пачынаўся тэкст, у якім давалася назва кнігі, звесткі пра перакладчыка і выдаўца. Выхадныя даныя (час і месца выдання) прыводзіліся ў калафоне. Такія тытулы бачым у кнігах «Ісус Сірахаў», «Эклезіяст», «Песня песняў», «Ісус Навін», «Руф» і інш.

Дасканалая форма Скарынавых тытульных лістоў знайшлася не адразу. У першых біблейскіх кнігах («Іоў», «Прытчы Саламона», «Эсфір») адна і тая ж тэматычная ілюстрацыя давалася двойчы: на тытуле і ў пачатку кнігі (пасля прадмовы). Пазней Скарына адмовіўся ад гэтага яўна няўдалага прынцыпу паліграфічнай арганізацыі тэксту: паўторны адбітак ілюстрацыі перад пачаткам тэксту кнігі ўжо ў кнізе «Ісус Сірахаў» саступіў месца вялікай застаўцы.

У віленскіх выданнях пераважаюць арнаментальныя тытулы, складзеныя з заставак і він'етак, паміж якімі даваўся тэкст (часам кінавар'ю). У «Эпісталах апостала Паўла» з Апостала (1525) з арнаментальных гравюр набрана рамка, як і ў агульным тытуле «Бібліі рускай». У «Акафісце Іаану Прадцечы» зверху

---

[51] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина...; Карский Е. Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1. М., 1955. С. 73.

[52] Шицгал А. Г. Русский гражданский шрифт. М., 1959. С. 89—90.

тытула дадзена застаўка, а тэкст набраны «касынкай». У акафістах Багародзіцы, Ісусу, а таксама канонах Ісусу і Іаану Хрысціцелю тытульныя лісты ілюстрацыйныя, што набліжае іх да тытулаў пражскіх выданняў.

Набор пражскіх і віленскіх выданняў бездакорны — радкі роўныя, выключка адмысловая. Надрукаваныя ўчасткі і прабелы між радкамі, а таксама словамі, сказамі знаходзяцца ў раўнавазе, што спрыяе срабрыстай лёгкасці люстры набору. Часцей за ўсё майстры Скарыны карысталіся адкрытай вёрсткай, калі відарыс (гравюра) знаходзіўся паміж верхнімі і ніжнімі радкамі тэксту. Была ім вядома і закрытая вёрстка, калі гравюра акружалася тэкстам з трох бакоў (Псалтыр. Л. 5) [53].

У біблейскіх кнігах пасля тытульнага ліста змяшчалася прадмова, загаловак да якой набіраўся вялікімі літарамі («Предсловие в Притчи премудраго Саломона...», «Предословие доктора Франциска Скорины с Полоцька в книгу Песнь песням...»). У асобных выданнях загаловак, як і назва кнігі на тытуле, набіраўся вялікім ініцыялам («Царствы», «Суддзі»). Прадмова заканчвалася словамі «конец предсловию», размешчанымі строга пасярэдзіне.

Высокім майстэрствам паліграфічнай арганізацыі тэксту і мастацкай аздобы вылучаюцца пачатковыя старонкі біблейскіх кніг. Зверху тут звычайна падаецца вялікая застаўка з выявай пуці, рагоў багацця або фаўнаў. Пад застаўкай вялікімі літарамі нярэдка набіралася анатацыя да кнігі («Починаються книги, еже словуть Песнь песням премудраго Саломона, сына Давыдова, он же был царем Израилем в Ерусалиме, и имають в себе глав осмь»). Далей указваўся парадкавы нумар раздзела і набіраўся тэкст самой кнігі. У пастаронкавым афармленні Скарына, за рэдкім выключэннем (кнігі «Царствы», «Выхад», «Левіт»), адмаўляўся ад ілюстрацый (яны скрозь выносіліся на тытульны ліст). Адзіным сродкам аздобы тут, па сутнасці, былі арнаментаваныя ініцыялы.

У віленскіх выданнях рубрыкацыя дасягаецца застаўкамі і віньеткамі. У Псалтыры з «Малой падарожнай кніжкі»» амаль кожнай кафізме папярэднічае застаўка. Пад ёй набіраецца назва кафізмы і яе парадкавы нумар. Псалмы ў кафізмах адмяжоўваюцца адзін ад аднаго віньеткамі. Я. Неміроўскі называе Скарыну «яркім майстрам тыпаграфікі». Ён лічыць, што пражскім і віленскім выданням уласцівы аднолькавыя прыёмы вёрсткі і набору, а «гэта ўскосна сведчыць пра тое, што беларускі асветнік сам фарміраваў мастацкае аблічча сваіх кніг» [54].

Скарына пакінуў першыя ў кірылаўскім друкарстве выказ-

---

[53] Неміроўскі Я. Л. Тыпаграфіка скарынінскіх выданняў // Мастацтва Беларусі. 1987. № 11. С. 59—62; Яго ж: Вёрстка // Францыск Скарына і яго час. С. 280.

[54] Неміроўскі Я. Л. Тыпаграфіка скарынінскіх выданняў // Мастацтва Беларусі. 1987. № 11. С. 59.

ванні аб прызначэнні ілюстрацый у сваіх кнігах. У прадмове да кнігі «Царствы» ён піша: «Положил есми в сих книгах образци храму господьня и сосудов его и дому царева, еже ставил ест Саломон-царь, а то для того, абы братия моя русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети»[55]. Гэтую ж думку ён выказвае ў тлумачэнні пасля прадмовы да кнігі «Выхад»: «Кто бы пак межи простыми людми братии моей хотел яснее разумети, яковым обычаем был храм уделан, кивот, стол, светилник, требник и ризы жреческии,— тое все вымалеваное нижей знойдеть»[56].

М. Шчакаціхін меркаваў, што гэтыя словы адносяцца толькі да так званых тлумачальных гравюр з кніг «Царствы» і «Выхад», а «да ўсіх іншых гравюр увагі гэтыя не маюць ніякіх адносін»[57]. Аднак аналіз пераконвае нас у тым, што асветніцкае разуменне ілюстрацый Скарына распаўсюджваў на большасць гравюр біблейскага цыкла, якія таксама прызначаліся «для лепшага разумення».

Біблейскі цыкл Скарыны — першы ў кніжнай гравюры Усходняй Еўропы, несумненна, наватарскі. Праўда, мастацкі ўзровень гравюр розны, але пераважная большасць твораў цікава задумана і вылучаецца добрай гравіроўкай. Як слушна заўважыў А. А. Сідараў, «часам у гравіраваных ілюстрацыях, прыкладзеных да пражскіх біблейскіх кніг, праступаюць рысы наіўнага, але сапраўднага дэкаратыўнага рэалізму»[58].

Факты пераканаўча сведчаць, што ў стварэнні гравюр майстры Скарыны арыентаваліся не на рукапісы, а на мастацтва позняй готыкі і паўночнага Рэнесансу. Дагэтуль не ацэнены той факт, што адной з крыніц біблейскага цыкла Скарыны быў славуты «Апакаліпсіс» (1498) Дзюрэра: ніжняя частка гравюры «Тройца» («Быццё») зроблена пад уплывам аднаго з лепшых лістоў гэтага найвялікшага ў сусветным мастацтве цыкла — «Бітва архангела Міхаіла з д'ябламі», а «Бласлаўленне» («Прамудрасць») гравіравалася з аглядкай на ліст «Сем свяцільнікаў». Відаць, да Дзюрэра ўзыходзіць і славуты герб Скарыны (выява сонца і месяца). Яго малюнак выявай гратэскна ачалавечаных твараў і штрыхоўкай прамянёў вельмі падобны на аналагічны сімвал у «Сусветнай хроніцы» (1493) Г. Шэдэля, які, паводле меркавання некаторых даследчыкаў, зрабіў малады Дзюрэр.

Вялікая роля дзюрэраўскага «Апакаліпсіса» ў гісторыі еўрапейскай гравюры агульнавядомая, ён меў шмат копій і пераробак. У 1502 г. ён капіруецца Еранімам Грэфам у Страсбургу, у 1515—1516 гг. паменшаныя копіі зрабіў Аляксандра Паганіні ў Венецыі, у 1522 г. Марцін Лютар уключае копіі «Апакаліпсіса»

---

[55] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 47.
[56] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 210.
[57] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 184.
[58] Сидоров А. А. Узловые проблемы... С. 25.

ў першае выданне сваёй Бібліі, якая выпушчана ў Вітэнбергу, у 1523 г. у Базелі з'явілася выданне Томаса Вольфа з копіямі Ганса Гальбейна Малодшага і ў Аўгсбургу — з гравюрамі Ганса Шойфелайна і Ганса Буркмайера; у 1526 г. у Нюрнбергу «Апакаліпсіс» Дзюрэра капіруе Зебальд Бехам. Прыклады копій лёгка памножыць — «Апакаліпсіс» быў вялікай школай для самых значных майстроў гравюры [59]. Сёння мы ведаем, што сярод гэтых майстроў быў вялікі беларускі асветнік. Калі паставіць яго Біблію ў прыгаданы храналагічны спіс, то яна займае трэцяе месца (пасля страсбургскага і венецыянскага выданняў), а гэта значыць, што Скарына адзін з першых у Еўропе ўсвядоміў неўміручую каштоўнасць дзюрэраўскага «Апакаліпсіса». Хутчэй за ўсё ён пазнаёміўся з ім непасрэдна (відаць, у Нюрнбергу), а не па копіях ці пераробках.

Аднак варта падкрэсліць, што зварот беларускага асветніка да буйнейшага прадстаўніка паўночнага Рэнесансу быў не механічным, а творчым; майстры Скарыны істотна перапрацавалі дзюрэраўскія першакрыніцы. Прыкметна зменена кампазіцыя абедзвюх прац. У «Тройцы» выявы д'яблаў пададзены чорнай фарбай, якая выступае тут сродкам характарыстыкі адмоўнага. Скарынава «Тройца» ўспрымаецца сімвалічным адлюстраваннем барацьбы дабра і зла, што звязана, магчыма, з надыходзячай Рэфармацыяй,— нельга забываць, што да выпуску «Бібліі рускай» Скарына прыступіў у той самы год, калі Марцін Лютар у Вінтэнбергу выступіў з тэзісамі супраць папскага Рыма. У цэлым у Скарынавых пераробках дзюрэраўскіх першакрыніц (шмат у чым яшчэ познегатычных) адчуваецца прыкметны адыход ад эстэтыкі сярэдневякоўя і набліжэнне да рэнесансавага рэалізму.

У нашы дні зроблена і яшчэ адно важнае адкрыццё — устаноўлена тоеснасць дзвюх гравюр віленскай «Малой падарожнай кніжкі» («Хрыстос у храме» і «Вадохрышча») з ілюстрацыямі нюрнбергскай «Сусветнай хронікі» (1493) Гартмана Шэдэля. Параўнаўчы аналіз, а таксама стан ксілаграфічных дошак сведчаць, што Скарынавы гравюры не копіі, а творы, надрукаваныя з сапраўдных дошак згаданага выдання [60].

У калафоне «Хронікі» сказана, што яе ілюстрацыі зрабілі настаўнік Дзюрэра Міхаэль Вольгемут (1434—1519) і яго пасынак Вільгельм Пляйдэнвульф (каля 1462—1494). Стыль і манера выканання дрэварытаў «Хрыстос у храме» і «Вадохрышча» (акцэнтаванасць псіхалагічнай характарыстыкі, драматызацыя выявы, мадэліроўка формы без разліку гравюры на пазнейшую

---

[59] Чиллингиров А. Влияние Дюрера и современной ему немецкой гравюры на иконографию поствизантийского искусства // Древнерусское искусство. Зарубежные связи. М., 1975. С. 325—341.

[60] Шматов В. Ф. Гравюры «Малой подорожной книжицы» Скорины и их источники // Памятники культуры. Новые открытия. 1985. М., 1987. С. 188—197.

афарбоўку ад рукі) паказваюць, што абодва творы належаць настаўніку Дзюрэра. Клішэ дзвюх згаданых гравюр Скарына набыў, відаць, у Кабергераў, або, магчыма, у самога Вольгемута (бо якраз у яго майстэрні выконваліся ілюстрацыі да «Хронікі» Г. Шэдэля), наведаўшы Нюрнберг перад сваім пераездам у Прагу.

Выкарыстанне Скарынам у «Малой падарожнай кніжцы» дзвюх сапраўдных дошак Вольгемута (як, дарэчы, і копія ініцыяла Ізраэля ван Мекенэма на л. 183 таго ж выдання) не зменшыла самабытнасці аздобы першага друкаванага выдання на тэрыторыі СССР, бо на яго старонках адціснута каля 600 выяў (разам з застаўкамі і ініцыяламі) і толькі тры з іх аказаліся запазычанымі.

Мы павінны адказаць тут на пытанне: чаму менавіта да «Хронікі» Шэдэля звярнуўся Скарына? Манументальная праца нямецкага гуманіста Гартмана Шэдэля (1440—1514), які таксама быў медыкам, скончыў Падуанскі універсітэт, пасля Бібліі Гутэнберга лічыцца самым знакамітым выданнем інкунабульнага перыяду еўрапейскага друкарства. Вялізны ілюстраваны фаліянт выпусціў у Нюрнбергу Антон Кабергер (1445—1513) — хрышчоны бацька Дзюрэра, які пасля Альда Мануцыя быў найбольш вядомым друкаром у Еўропе. «Хроніка» з'яўляецца таленавітай кампіляцыяй вядомых у тыя часы ведаў пра сусвет. Яна пачынаецца з біблейскай легенды аб выгнанні з раю Адама і Евы і заканчваецца рэальнымі падзеямі найноўшай гісторыі (цікава, што ў канцы кнігі Шэдэль пакінуў для чытачоў некалькі чыстых лістоў для запісу будучых падзей).

Па колькасці ілюстрацый (1809 адбіткаў з 645 клішэ) «Хроніка» не мае сабе роўных у XV ст. Гэта карты, віды гарадоў, партрэты, рэальныя і ўмоўныя сцэны, генеалагічныя табліцы. Многія выявы тут яшчэ імперсанальныя: для партрэтаў 224 каралёў хапіла 44 дошак — з аднаго і таго ж клішэ часам даваўся адбітак біблейскага персанажа, нямецкага рыцара, гамераўскага героя або ўсходняга ўрача. Віды гарадоў, у тым ліку тых, дзе пабываў Скарына (Кракава, Падуі, Венецыі, Нюрнберга) нярэдка таксама ўмоўныя (мяркуюць, што з іх толькі 23 рабіліся з натуры). Мастацкі ўзровень ілюстрацый неаднолькавы, але ў цэлым «Хроніка» Шэдэля, бясспрэчна, з'яўляецца сапраўдным шэдэўрам еўрапейскага кніжнага мастацтва.

Былі і іншыя прычыны, якія падштурхнулі Скарыну звярнуцца менавіта да гэтай кнігі. Ён ведаў яе з часоў навучання ў Кракаўскім універсітэце (у ёй, дарэчы, дадзена найбольш ранняе апісанне гэтага універсітэта), бо яна, несумненна, была ва універсітэцкай бібліятэцы[61]. Больш таго, беларускі гуманіст

[61] А. Кабергер меў у Кракаве сваё гандлёвае агенства. «Хроніку» прадаваў тут яго гандлёвы агент Мікалай Сальман, за якім у 1509 г. лічылася 15 экземпляраў // Wilson A. The Making of the Nuremberger Chronicle. Amsterdam, 1976. С. 232.

хутчэй за ўсё меў гэту кнігу ва ўласнай бібліятэцы, якая адлюстравана на яго партрэце. Да таго ж у «Хроніцы» (на л. CCXXVIII) гаворыцца пра «вендыйскую» (г. зн. славянскую) мову Вялікага княства Літоўскага. Да яе прыкладзена карта Літвы і часткі Беларусі. Вось чаму гэта была, відаць, адна з любімых кніг Скарыны. Імкнучыся каб яго Біблія паводле мастацкага афармлення не саступала лепшым заходнееўрапейскім узорам, асветнік звярнуўся да найбольш славутага выдання, якое ілюстраваў Вольгемут, вялікі рэфарматар еўрапейскай гравюры, настаўнік Дзюрэра. Таму менавіта з «Хронікі» запазычыў Скарына дзве гравюры для «Малой падарожнай кніжкі».

Пра аўтараў (рэзчыкаў) большасці гравюр Скарыны нічога невядома. Іх стыль розны, а гэта пацвярджае меркаванне Стасава аб тым, што яны «роблены яўна рукамі некалькіх майстроў». Адзін з іх на партрэце Скарыны пакінуў сваю манаграму — МЗ (або, магчыма, МТЗ). Спроба Д. Равінскага прыпісаць яе Цагелю поспеху не мела, як і меркаванне Баразны аб тым, што літары МЗ разам з подпісам на партрэце «Доктор Франциско Скорина» трэба чытаць: «маляванне здзелал Доктор Франциско Скорина». Сёння пасля грунтоўных прац Ленца і Мойзера можна сцвярджаць, што Цагель, Цазінгер, Цынк і іншыя нямецкія майстры, якія падпісваліся літарамі MZ, да партрэта Скарыны не маюць ніякіх адносін і што ў гісторыі еўрапейскай гравюры манаграміста з такім, як у Скарыны, напісаннем літар не існуе [62]. Да таго ж застаецца пытанне: ці не кірыліцкая гэта манаграма? Невыпадкова астатнія подпісы на партрэце (дата 1517, вязь «Доктор Франциско Скорина») кірыліцкія.

Стасаў і Шчакаціхін спрабавалі звязаць дрэварыты Скарыны з чэшскай гравёрнай школай. Аднак да прыезду беларускага асветніка ў Прагу асновы чэшскай школы яшчэ толькі закладваліся, яна знаходзілася ў залежнасці ад нямецкай гравюры і рабіла першыя крокі на шляху свайго самавызначэння. Майстроў такога, як у Скарыны, узроўню ў Чэхіі ў тыя часы проста не было. Як паказаў С. Х. Александровіч, «не чэшскія друкары вучылі Францыска Скарыну, а самі вучыліся ў яго майстэрству афармлення кнігі» [63]. Паказаўшы залежнасць чэшскай гравюры (асабліва ў выданнях пражскага друкара Паўла Севярына) ад Бібліі Скарыны, даследчык прыйшоў да высновы, што Скарына прыехаў у Прагу, відаць, з нейкімі дасканалымі майстрамі-мастакамі і разбярамі, якія мелі практычны вопыт і добры густ.

Гэта назіранне можна ўдакладніць. Скарына не быў такім

---

[62] Lenz A., Der Meister MZ ein Münchener Kupferstecher der früher Dürerzeit // Inaugural-Dissertation. Ludwig-Maxsimilian Universität in München. Giesen, 1972; Mojzer M. Um Meister MZ // Acta Historiae Artium. 1975. T. 21. S. 371—428.

[63] Александровіч С. Х. Слова — багацце. Мн., 1981. С. 62. Пра сувязь гравюр Скарыны з чэшскай традыцыяй гл.: Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў.

багатым, каб вазіць за сабой цэлы штат малявальшчыкаў і рэзчыкаў (не павёз жа ён іх з Прагі ў Вільню, дзе яны былі асабліва патрэбныя; у ілюстрацыях віленскіх кніг бачым рукі іншых рэзчыкаў). Хутчэй за ўсё большасць гравюр былі зроблены яшчэ да яго прыезду ў Прагу. Многія факты — выдадзены Кабергерам «Апакаліпсіс» Дзюрэра, гравюры «Хронікі» Шэдэля, ініцыял Мекенэма (дакладней, яго пераграніроўка на дрэве ў выданнях Петэра Вагнера, Нюрнберг, 90-я гады XV ст.) нямецкая папера ўказваюць на Нюрнберг, дзе, відаць, і рабіліся ілюстрацыі. Як вядома з біяграфіі Скарыны, «белай плямай» застаюцца 1512—1516 гг. Не выключана, што ў гэты час Скарына рыхтаваў сябе да друкарскай дзейнасці ў Нюрнбергу [64].

Пра стылістычную сувязь асобных ілюстрацый Скарыны з нямецкай гравюрай пісалі П. Уладзіміраў, М. Вішнеўскі, А. Някрасаў, М. Шчакаціхін, Я. Кацпржак і іншыя аўтары. Варта адзначыць і тое, што тагачасныя чэшскія выданні нярэдка ілюстравалі нямецкія, у тым ліку нюрнбергскія, мастакі. Так, у Новым запавеце (Прага, 1497—1498) змешчаны копіі гравюр Вольгемута і Пляйдэнвульфа. У Бібліі 1489 г. (Кутная Гара) змешчаны копіі ілюстрацый Бібліі Квентэля. У Бібліі, надрукаванай у 1540 г. у Нюрнбергу,— гравюры вучня Дзюрэра Э. Шона [65].

Нельга, аднак, пагадзіцца з В. Пуцко, які спрабуе давесці, быццам бы гравюры Скарыны ўвогуле прызначаліся для нейкіх іншых нямецкіх выданняў, але былі набыты Скарынам і прыстасаваны ім да сваёй Бібліі. Толькі некалькі ілюстрацый першых выданняў («Іоў і д'ябал», «Генеалагічнае дрэва Ісуса», «Цар Давід», «Суд Саламона») паводле памераў не адпавядаюць люстры набору, што можа падтрымліваць згаданае вышэй меркаванне. Але пераважная большасць гравюр біблейскага цыклу спецыяльна рабілася для кніг Скарыны, у чым пераконвае іх арганічная сувязь з наборам. Старонкавыя гравюры («Партрэт Скарыны», «Тройца», «Шэсць дзён тварэння») па вышыні маюць памер каля 160 мм, што адпавядае вышыні набoрнай паласы. Шырыня пераважнай большасці астатніх гравюр (105 мм) дакладна адпавядае шырыні набору — 105 або 107 мм. Гэта датычыцца і аздоб (за выключэннем ініцыяла Мекенэма) віленскіх выданняў, памеры якіх адпавядаюць люстры набору. Да таго ж многія гравюры пазначаны ўласным гербам Скарыны — сведчаннем іх прыналежнасці заказчыку.

Факты гавораць, што асветнік не быў пасіўным назіральнікам творчага працэсу, бо існуе цесная залежнасць паміж яго прадмо-

[64] Зыходзячы з таго факта, што амаль не існуе звестак аб знаходжанні Скарыны ў Празе (акрамя прыпісак у калафонах яго кніг), А. Флароўскі пісаў, што гэта «можа, канечне, жывіць і меркаванне пра фіктыўнасць яго (Скарыны.— *В. Ш.*) указанняў на выданне ім кніг у Празе замест сапраўднага друкавання ім у Нюрнбергу // Флоровский А. В. Чешская библия в истории русской культуры и письменности.

[65] Encyklopedia wiedzy o książce. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1971.

вамі да тых або іншых кніг («Юдзіф», «Эсфір» і інш.) і ілюстрацыямі, якія змешчаны ў гэтых кнігах. Апошняе даказвае, што Скарына кансультаваў мастакоў, быў натхняльнікам і арганізатарам, ініцыятарам усіх работ па афармленню Бібліі. Парадак выканання гравюр, на нашу думку, быў такі. Задума таго ці іншага дрэварыта належала Скарыну, які ў асобных выпадках мог падказаць мастаку і кампазіцыю будучай працы (або нават накідаць эскіз). Затым гравёр рэалізоўваў задуму ў матэрыяле. Усе подпісы да гравюр зноў-такі рабіў Скарына, які ўважліва сачыў за ходам усіх работ. Такім чынам, большасць ілюстрацый — вынік творчага супрацоўніцтва Скарыны з гравёрамі-выканаўцамі. У гэтым супрацоўніцтве ўсходнеславянскаму першадрукару належала вядучая роля. Сваю ўласную ініцыятыву ў ілюстраванні кніг Скарына падкрэслівае і ў выказваннях аб гравюрах: «Положил есми в сих книгах образцы...»

Пасля Скарыны, з другой палавіны XVI ст., друкарні ўзнікаюць у Брэсце (1553—1554, 1558—1561, 1562—1568), Нясвіжы (1562—1571), Заблудаве (1568—1570), Цяпіне (1575), Лоску (1574—1589), Вільні (1574), Слуцку (1580), Любчы (1612— каля 1656) і іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Каля дзесяці друкарань дзейнічала ў сталіцы Вялікага княства Літоўскага Вільні, якая ў тыя часы займала першае месца сярод іншых цэнтраў кнігадрукавання Усходняй Еўропы.

Як адзначыў Ю. А. Лабынцаў, «шматмоўная друкаваная літаратура Беларусі ў гэты перыяд стала вядучай сярод друкаваных літаратур народаў нашай краіны. У колькасных адносінах яна, напрыклад, у некалькі разоў пераўзыходзіць падобную шматмоўную ўкраінскую друкаваную літаратуру. Нават колькасць кніг, выдадзеных беларусамі толькі кірыліцкім шрыфтам, у два разы перавышае колькасць усіх кніг, што ўбачылі свет на Украіне да канца XV ст. уключна» [66].

Многія тагачасныя выданні аформлены з вялікім густам. У практыку друкароў увайшлі тытульны ліст, франтыспіс, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы, наборныя ўпрыгожанні. Асноўным сродкам афармлення кірылічных старадрукаў па-ранейшаму быў абразны падоўжны дрэварыт (у польска-лацінскіх з канца XV ст. — металагравюра). Мастакі кнігі, друкары нярэдка звярталіся да вопыту Скарыны. Паслядоўна працягвалі яго традыцыі відныя дзеячы беларускай культуры Сымон Будны (1530—1593) і Васіль Цяпінскі (каля 1540—1604). Першы каля 1562 г. надрукаваў у Нясвіжы «Катэхізіс». Уплыў Скарыны на Буднага найбольш прыкметны ў малюнку шрыфтоў, якімі надрукаваны «Катэхізіс». Падабенства шрыфтоў абодвух асветнікаў такое блізкае, што некаторыя

---

[66] Лабынцев Ю. А Книга Белоруссии эпохи Возрождения: европейский контекст // Шестая Всесоюз. научн. конф. по проблемам книговедения. Секция истории книги. Тез. докл. М., 1988. С. 9.

даследчыкі лічылі, што ў «Катэхізісе» выкарыстаны шрыфт Скарынавай Бібліі. Дакладнасць копіі сведчыць, несумненна, пра майстэрства мастакоў кнігі.

Апрача Буднага традыцыі Скарыны паслядоўна развіваліся яго сучаснікам і аднадумцам Васілём Цяпінскім. Славутае Евангелле Цяпінскага, надрукаванае ў 70-я гады XVI ст., мае фармат «у аркуш». На асобных старонках шрыфтавая па характару кампазіцыя, загаловак набраны з ініцыялаў, закампанаваных, як і ў Скарыны, у роўныя прамавугольнікі. На кожнай старонцы зверху наборная арнаментыка. Яе просты па малюнку матыў дубовых лістоў той жа, што і ў «Катэхізісе» Буднага.

Ініцыялы двух тыпаў — вялікія і малыя. Вялікія (дзве літары «К» рознага малюнка) змешчаны толькі на тытуле. У абодвух тыпах прамавугольных ініцыялаў малюнак літар і іх аздоба — раслінная арнаментыка трактуюцца, як у Скарыны, белым штрыхом. Як і «Катэхізіс» Буднага, Евангелле Цяпінскага пры ўсёй сціпласці афармлення з'яўляецца унікальным помнікам нацыянальнай культуры беларускага народа.

Разгляд больш позніх помнікаў кніжнага мастацтва не ўваходзіць у нашу задачу. У 90-я гады XVI ст. скарынаўскія традыцыі працягвалі друкары віленскага Святадухаўскага брацтва[67]. Дзякуючы глыбокаму следу, пракладзенаму па цаліку вялікім першадрукаром «слаўнага града Полацка», развіццё беларускай кніжнай гравюры пайшло самастойным шляхам, прычым на яго далейшую эвалюцыю прыкметны ўплыў аказала «школа Мсціслаўца», а ў XVII ст. — украінская кніжная графіка, якая дагэтуль фарміравалася не без уздзеяння беларускай (Іван Фёдараў з Заблудава ў Львоў перавёз не толькі рад ксілаграфічных клішэ, з якіх адціснуты першыя ўкраінскія дрэварыты, але і майстроў кнігі, у прыватнасці Грыня Івановіча).

У цэлым кніжнае мастацтва Беларусі XV — першай палавіны XVI ст. — важкі здабытак гісторыі выяўленчай творчасці, нацыянальнай культурнай спадчыны беларускага народа. Цесна звязаная сваім паходжаннем і найвышэйшым узлётам з дзейнасцю вучонага і асветніка-гуманіста, усходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны, узнікшая на аснове шматвяковых традыцый ілюмінаваных рукапісаў, беларуская кніжная гравюра таго часу дала бліскучыя ўзоры мастацкай творчасці, якія захаплялі сучаснікаў і сёння чаруюць нас глыбокай адухоўленасцю вобразаў, рэалізмам і чалавечнасцю, адмысловым разуменнем кампазіцыі і малюнка, філіграннай, часам сапраўды ювелірнай тонкасцю, высокім майстэрствам выканання, што дае падставы бачыць у іх непаўторную і першакласную з'яву еўрапейскай мастацкай культуры.

---

[67] Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 257—258. Братчыкі карысталіся сапраўднымі клішэ віленскіх кніг Скарыны.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

На мяжы XV — XVI стст. мастацкая культура Беларусі ўяўляла надзвычай шматколерную, мазаічную карціну, дзе злучалася стылістыка традыцыйных мастацкіх каштоўнасцей, заснаваных на візантыйска-старажытнарускай спадчыне, з навацыямі заходнееўрапейскай культуры. Пэўная культурная пераарыентацыя краіны ў бок Захаду, якая пачалася з канца XIV ст. і была абумоўлена радам сацыяльна-эканамічных, грамадска-палітычных, ідэалагічных акалічнасцей, прыўнесла ў мастацкае жыццё Беларусі ўзоры новых жанраў, стварыла ўмовы для знаёмства з іншымі падыходамі да аб'екта мастацкага ўвасаблення, з іншымі канцэпцыямі мастацкага мыслення. Гэта абумовіла праблему выбару: да навацый можна было аднесціся індыферэнтна, развіваючы ўласныя ўстойлівыя стэрэатыпы, якія мелі якасці высокіх мастацкіх узораў; быў не выключаны шлях адмаўлення ўласнага вопыту, капіравання заходняй культурнай мадэлі; нарэшце, найбольш натуральным у культуралагічным плане быў шлях сінтэзу, выбарачнага засваення навацый.

Арыгінальнасць мастацкай культуры Беларусі, як і культуры ўсяго рэгіёна Вялікага княства Літоўскага, у тым, што на працягу XV і асабліва XVI ст. яна развівалася паводле трох напрамкаў.

Поствізантыйская лінія дамінавала ў тых відах і жанрах, дзе старажытнарускія і візантыйскія традыцыі былі найбольш моцнымі і ўстойлівымі: манументальным жывапісу, іканапісу, ілюмінацыі рукапісаў, дробнай пластыцы. У XV ст. гэта лінія была, безумоўна, галоўнай. У XVI ст. яна вельмі выразна прасочваецца, напрыклад, у супрасльскіх фрэсках, мініяцюрных рэльефных абразках пінскага разбяра Ананіі — сучасніка Ф. Скарыны.

Найбольш значна поствізантыйская спадчына развівалася ў іканапісу, дзе беларускія майстры на аснове традыцыйнай іканаграфіі распрацоўвалі новую, адпаведную народнаму густу колеравую гаму абразоў і новы гераічна-суровы іканапісны вобраз. Адначасова ў беларускім іканапісу XVI ст. усё большае значэнне надавалася адаптацыі і актуалізацыі тэхнічных і фармальных запазычванняў з іканапісу Германіі і Польшчы XV ст.

Другая лінія, супрацьлеглая поствізантыйскай, — лінія пераймання заходнееўрапейскіх узораў, спасціжэнне новых каштоўнасцей.

Пашыраючы і змяняючы сувязі з краінамі Заходняй Еўропы, што ажыццяўляліся праз такія значныя цэнтры еўрапейскай культурнай інтэграцыі, як Прага, Кракаў, Данцыг, Каралевец (Кёнігсберг), Рыга, Львоў і ў пэўнай ступені Вільня, беларуская мастацкая культура імкнулася ў сціслы тэрмін засвоіць здабыткі розных эпох і стыляў. На беларускіх землях з'яў-

ляюцца познегатычныя, рэнесансавыя помнікі, прычым канфесійная мазаічнасць Беларусі стымулявала багацце стылістычнага развіцця мастацтва. Гэтыя адзінкавыя помнікі створаны на аснове тых стылявых напрамкаў, якія існавалі ў канцы XV — пачатку XVI ст. у Польшчы, Чэхіі, Італіі і Германіі. Гэта лінія пераймання бачна ў XVI ст. у гатычным абліччы Віленскага касцёла св. Ганны, у рэнесансавай стылістыцы абраза з Дрысвят «Пакланенне трох каралёў» і рэнесансавым тытульным дрэварыце Брэсцкай біблііі. Майстры, часам іншаземцы, развівалі новыя для Беларусі віды мастацкай дзейнасці і жанры, дзе пераважала новая свецкая тэма: партрэт, скульптурнае надмагілле, кніжная гравюра, партрэтная кафля, скульптурныя алтарныя кампазіцыі і алтарная карціна. У рэчышчы гэтай лініі пераймання ствараліся арыгінальныя творы, узровень якіх адпавядаў еўрапейскаму і быў адэкватны заходнееўрапейскаму культурна-гістарычнаму кантэксту.

Да гэтага тыпу мастацкіх твораў належыць і большасць гравюр пражскіх скарынаўскіх выданняў 1517—1518 гг., у тым ліку партрэт Скарыны. Аднак ў пражскіх выданнях Скарыны, асабліва 1519 г., выразна праглядваецца і іншая лінія адносін да заходнееўрапейскай мастацкай сістэмы — імкненне дапасаваць заходнія формы да традыцыйнага ў Беларусі ладу мыслення, да тагачасных ідэйна-мастацкіх прынцыпаў яе культуры.

Гэта трэцяя лінія ў развіцці беларускай культуры канца XV — XVI стст., якую можна назваць лініяй асіміляцыі і сінтэзу, добра заўважана ў скарынаўскім дрэварыце «Тройца», дзе запазычаная вядомая кампазіцыя Дзюрэра пераведзена ў іншы ідэйна-тэматычны план, апакаліптычны змест дзюрэраўскай гравюры перапрацаваны такім чынам, каб не толькі ў вобразе Саваофа, але і ў вобразе трох анёлаў увасобіць ідэю Тройцы: скарынаўскі мастак перарабляе заходнееўрапейскі ўзор у бок адпаведнасці яго з усходнеславянскімі ідэйна-мастацкімі традыцыямі.

Нельга не адзначыць і пэўную варварызацыю густаў, што з'явілася ва ўмовах раскіданасці арыенціраў і колькаснай перавагі ў асяроддзі спажыўцоў мастацкіх каштоўнасцей простанароднага элемента, які на працягу XVI ст. пачынае паступова выконваць місію галоўнага рэцыпіента мастацтва. Гэтым абумоўлены дэмакратызм вобразаў, што назіраецца ў іканапісе ў канцы XVI ст., іх значная гуманістычная напоўненасць. Але адначасова ў рэчышчы гэтай лініі назіраецца і іншая тэндэнцыя — спрашчэнне мастацкага вобраза, ператварэнне яго ў сімвал. Так, яшчэ ў XVI ст. пачынаюцца якасныя змены ў жанры партрэта ад узораў, адпаведных заходнееўрапейскаму, да зазнаўшага ўздзеянне іканапіснай традыцыі мясцовага рэгіянальнага тыпу партрэта.

Гэта лінія была, бадай, найбольш плённай і перспектыўнай. У яе рэчышчы ішла адаптацыя жанру скульптурнага надмагіл-

ля, пачала фарміравацца ўласная школа гравюры. У межах лініі асіміляцыі і сінтэзу адбывалася крышталізацыя своеасаблівай беларускай архітэктурнай готыкі. З набору класічных прыкмет готыкі і Рэнесансу беларускімі дойлідамі былі выбраны і пераасэнсаваны толькі тыя прыкметы, якія найбольш выразна сумяшчалі рацыянальнасць і дэкаратыўнасць, напрыклад нервюрныя і цыліндрычныя скляпенні, контрфорсы.

Захоўваючы ў цэлым абарончы характар, манументальнае (замкавае і культавае) дойлідства Беларусі эпохі Скарыны творча выкарыстоўвала традыцыі старажытнаруска-візантыйскага, заходнееўрапейскага і мясцовага будаўніцтва, што спрыяла стварэнню самабытных аб'ёмна-пpасторавых кампазіцый і іх арыгінальнаму канструкцыйна-дэкаратыўнаму вырашэнню.

Значэнне лініі асіміляцыі і сінтэзу ў мастацкай культуры Беларусі XV—XVI стст. паступова ўзмацнялася, усё больш фарміруючы аблічча нацыянальнага мастацтва, дзе спляталіся ў адно арганічнае цэлае гатычныя і маньерыстычныя ўплывы, рэнесансавая арнаментыка і візантыйская іканаграфія, заходнееўрапейская сюжэтная схема і мастацкі рацыяналізм, заснаваны на народным успрыняцці прыгажосці.

Такім чынам, адначасовае існаванне поствізантыйскай лініі, лініі пераймання заходнееўрапейскіх узораў і лініі асіміляцыі і сінтэзу, якія знаходзіліся паміж сабой у творчай дыялектычнай узаемасувязі, фарміравала арыгінальнае аблічча беларускага мастацтва XV — XVI стст.





## ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# INDEX



Замак у Міры. Агульны выгляд

Царква-крэпасць у в. Мураванка. Агульны выгляд

Зоркавыя скляпенні ў царкве-крэпасці ў в. Сынкавічы



Касцёл езуітаў у Нясвіжы. Галоўны фасад

Кальвінскі збор у в. Дзераўная. Выгляд з боку алтарнай апсіды

Барысаглебская царква ў Навагрудку. Фрагмент бакавога фасада



Ратуша і крамы ў Нясвіжы. Агульны выгляд

Кальвінскі збор у Смаргоні. Агульны выгляд

Роспіс у капліцы св. Тройцы. Люблін. Агульны выгляд, 1418



«Маленне аб чашы» і «Тайная вячэра». Роспіс алтара капліцы св. Тройцы. Люблін, 1418

Роспіс у капліцы св. Тройцы. Люблін. Фрагмент, 1418



«Св. Данііл з ільвамі». Роспіс заходняй сцяны капліцы св. Тройцы. Люблін, 1418



«Святіцелі і пакутнікі». Фрагмент роспісу Благавешчанскай царквы ў Супраслі, 1557



«Свяціцелі Агест і Піліп». Фрэска Благавешчанскай царквы ў Супраслі, 1557. Ікона

«Успенне» з Мінска. Першая чвэрць XV ст. ДТГ. Масква



«Маці боская Елеўса» з Маларыты. Канец XIV — пачатак XV ст. МСБК ІМЭФ АН БССР

Фрагмент «Успення» з Мінска. Першая чвэрць XV ст. ДТГ. Масква



«Маці боская Перыўлепта» з Пінска. Другая палавіна XV ст.



«Маці боская Замілаванне» з Чарнян, 1644. МСБК ІМЭФ АН БССР



«Маці боская Адзігітрыя» з Дубінца. Першая палавіна XVI ст. ДММ БССР



«Нараджэнне Маці боскай» з Ляхаўцаў. Першая палавіна XVII ст. ДММ БССР



«Успенне» з Паніквы. Першая палавіна XVII ст.



Невядомы мастак. «Юрый III Радзівіл», 1590-я гады. ДММ БССР




Невядомы мастак. «Кіпрыян Жахоўскі», 1680. ДММ БССР

Невядомы мастак, «Юрый Радзівіл». Другая палавіна XVI ст. ДММ БССР



Невядомы мастак. «Міхаіл Барысавіч». Каля 1600 г. ДММ БССР

Невядомы мастак «Кацярына Тэньчынская-Слуцкая». Каля 1580 г. НМ Варшава



Ананія. «Прамудрасць, ствары сабе храм». 1499—1525. Дрэва, разьба. Рускі музей. Ленінград



Ананія. «Святы». 1499—1525. Дрэва, разьба. Рускі музей. Ленінград



«Гжэгаж». Пачатак XVI ст. Дрэва, разьба, паліхромія, пазалота. Кінешма, філіял абласнога мастацкага музея



Фрагмент «Надмагілля». Канец XVI — пачатак XVII ст. Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей



Кафля. XVI ст. Лагойск. Гліна, цісненне, паліва. Беларускі Дзяржаўны музей



Фрагмент кафлі. Другая чвэрць XVI ст. Мазыр. Гліна чырвоная, цісненне, тэракота. Мазырскі краязнаўчы музей



Келіх. XVI ст. Навагрудак. Серабро, ліццё, чаканка, прасечка, гравіроўка. Беларускі Дзяржаўны музей

Кварта. XVI ст. Беларусь (цэнтр не вызначаны). Шкло, роспіс фарбамі і золатам. Дзяржаўны эрмітаж



Келіх. Канец XV — пачатак XVI ст. Ружаны Брэсцкай вобл. Серабро, ліццё, чаканка, эмаль, прасечка, гравіроўка, залачэнне. ДММ БССР

Кубак. Канец XVI — пачатак XVII ст. Мясцовая вытворчасць (?). Серабро, ліццё, чаканка, гравіроўка, залачэнне. Брэсцкі абласны краязнаўчы музей



Фрагмент арната. Канец XV — пачатак XVI ст. Мясцовая вытворчасць (?). Шоўк, лён, вышыўка гладдзю і «ў прыкрэп» шаўковымі, залатымі і сярэбранымі ніцямі. Мінск, Францысканскі касцёл. Сакрысце

Ваўковіцкае евангелле XV ст. Старонка









Другое Тураўскае евангелле XV ст. Старонка
Евангелле XVI ст. з Полаччыны. Старонка
«Евангеліст Марк». Жыровіцкае евангелле XVI ст.
«Евангеліст Мацвей». Шарашоўскае евангелле XVI ст.



Майстар Андрэйчына. «Грыгорый Дваяслоў». Служэбнік XVI ст.









«Евангеліст Мацвей». Жухавіцкае евангелле XVI ст.

«Евангеліст Іаан». Мелішаўскае евангелле XVI ст.

Евангелле XVI ст. з Полацка

Евангелле XV ст. беларускага паходжання



СТѢИШЕГОИБЛАЖЕННА
ИЖЕВЪСТЫѠЦАНАШЕГО
ПАТРІАРХАКОСТАНЦИНАГРА
НОВАРИМА . КИР . ФИЛО
ФЕА . ОУСТАВЪ БЖТВЪ
НЫА СЛОУЖБЫ . ВЪНЕН
ЖЕНДІАКОНЬСТВА
ѠТМІЕРЕНЬБЖТВЬ
НОЕСЪВРЪШИТИТА
НЕСТВО . ДАЪЖЕН

1856

Служэбнік XVI ст. Старонка

Гдь нашъ Ісъ Хсъ вохраме научаетъ
законоучителеи Іудейскіи



«Хрыстос у храме». «Малая падарожная кніжка». Вільня, 1522. Друк Ф. Скарыны

Пачатковая старонка з кнігі «Быццё». Прага, 1519. Друк Ф. Скарыны



Починаютьсѧ первыи книги Моисеовы рекомый ѿ евреи Брешисъ погречески же и по латине Генезеосъ а по руский Бытиѧ. И замыкають всобѣ главъ н҃ :~

Глава а҃ :~

О сотворении неба и земли и иныхъ всехъ речей еже в шести днехъ учинилъ г҃дь богъ и на конци созъдалъ человѣка по образу своему и далъ всем бл҃вние :~



Начале сотвори бг҃ъ небо и землю. Землѧ же бѣ неплодна и неукрашенна. И тмы были поверху бездны. И духъ божий ношаше сѧ поверху водъ. И рече богъ да будеть светъ и бысть светъ. И виде богъ светъ

ПОХВАЛА

Стихъ пе(р)вый



О высо
ты незе
млю бла
го изво
ли снии
ти сын
и слово
божие,
и со чело

веки пожие, волею распятие, и смерть
наряди приимъ, и во гробе яко мертвецъ по
ложися безъсмертный, и тридне..ю яко
богъ воскресе · темже вси верний яко бла
дяще и богу поемъ аллилуія

Стихъ вторый

Воскресение твое хрте славим, и жнео

Старонка з «Малой падарожнай кніжкі». Вільня, 1522

ПОЧИНАЕТСѦ ВТО
РАѦ ЧАСТЬ КАТИХИСІ О ВѢРЕ.

ПЫТАНЬЕ.

Побеседовалъ есь на початку сее розмовы,
ѧко чотыри суть части наоуки Хртіан
ской, и сказалъ есь ѧко першая чя есть де
сятеро божіе приказанье, другая, вы
знанье вѣры, третяя, молитва гднѧ, че
твертая часть, наоука о таинѣх хвых.
Иле сѧ дотычеть первое части, уже вѣда
ю ѧко сѧ книжное приказанье розумѣеть,
и ѧко оны богъ караеть которіи непослу
шни, ѧко тѣже милуеть послушныхъ, и
иншие таковые речи паметую. Тепер про

рѕ

Старонка з Катэхізіса С. Буднага. Нясвіж, 1562




Герб Ф. Хадкевіча. Вучыцельскае евангелле. Заблудаў, 1569



# ЗМЕСТ




Научное издание

**СКОРИНА И ЕГО ЭПОХА**

**Минск. Издательство «Навука і тэхніка»**

***На белорусском языке***

Навуковае выданне

**СКАРЫНА І ЯГО ЭПОХА**

Загадчык рэдакцыі *У. М. Ківатыцкі*
Рэдактар *Н. М. Тарасевіч*
Мастак *Вік. В. Саўчанка*
Мастацкі рэдактар *В. В. Саўчанка*
Тэхнічны рэдактар *В. А. Віценка*
Карэктар *Л. А. Верабей*

ІБ № 3600

Друкуецца на пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 13.02.90. Падпісана ў друк 14.08.90. Фармат 60×90¹/₁₆. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 30,0+3,0 укл. на мел. паперы. Ум. фарб.-адб. 34,63. Ул.-выд. арк. 35,81. Тыраж 1900 экз. Зак. № 390. Цана 5 р. 50 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600 Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка», 220600, Мінск, Жодзінская, 18.